Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Рамана Заслонава:
на 1-й стар.: «Пераезд майстэрні. Зіма»;
на 4-й стар.: «Дзве марыянеткі».



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 20.10.2016 г. Падпісана да друку 22.11.2016 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№6 (85)
/лістапад-снежань/ 2016

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

паэзія

Уладзімер Арлоў



...зорнае неба
заснавалі балгары...

# Алека

***Балканская балада***

***1***

Nulla dies sine linea[1]
адзін дзень sine linea
другі дзень sine linea
трэці дзень sine linea
за вакном вальеры
(так завецца твой кабінет)
маўчыць сарока Соня
мокрая
без парасона
без навінаў
глабальнае пацяпленне не лічыцца
трэці год запар
у Менску дождж на Каляды

табе сніцца млын
вадзяны лясны замшэлы
малоў яшчэ каліноўцам
усё як мае быць
жорны
прывіды
сам*ы* пад колам
вадзянік з русалкай
чуюць халера віры свая

падымаешся на досвітку
ідзеш на млын
будзіш вадзяніка
русалка не хоча прачынацца
яны сустракаюцца
у сэнсе блізка сябруюць
п'яце каву
неўзаметку кранешся русалчынай рукі
яна цёплая
лепей пра гэта маўчаць:
вадзянік утопіць русалку
а заадно і цябе

у млыне бела рыпліва завозна
касінеры ідуць без чаргі
на дваіх тры рукі
як там было пад Мілавідамі[2]?

чацвёрты дзень sine linea
затое са снегам
выходзіш з млына
пішаш на снезе дрэннае слова
табе падабаецца
яшчэ два дрэнныя словы
вось і першы радок

у млына зімовыя вакацыі
сам*ы* накрыліся хвастамі
прывіды не любяць холаду
вадзянік з русалкаю грэюцца пад лёдам
хутаюцца ў русалчыны косы
чаму ты не вадзянік?

сарока Соня чытае твой радок на снезе
ухвальна ківае
чысціць сухія пёркі
ціха ўсюды глуха ўсюды
нешта будзе нешта будзе

***2***

муза прылятае ў вальеру
у сутонні
у бруснічнай сукенцы
у бруснічных панчошках
у празрыстых карункавых майточках
майточкі ляцяць на кампутар
сукенка не замінае

вядзеш музу да пісьмовага стала
там усё зазвычай і адбываецца
музе даспадобы што адбывецца
што ты шэпчаш ёй у вушка дрэнныя словы
што ты пішаш дрэнныя словы на снезе
што ты пішаш на паперы асадкай
муза кажа: як у часы Троі
ставіш ёй на пісьмовым стале
незалік па гісторыі

у вальеры застаюцца
тонкі водар спермы
некранутая кава
кранутая пляшка чырвонага
павучок на томе Борхеса
закладка на *Мужчыне з Ружовай кавярні*[3]
майточкі на маніторы
праз майточкі свіцяцца навіны
прыходзяць лісты
ці мае Борхес e-mail?

сарока Соня сакоча
быццам уставілі ў адно месца
завадны ключык
ліст з Сафіі
табе прысудзілі прэмію *Алека*
Алека гэта балгарскі класік
ты ніколі не чуў
ставіш сабе незалік па балгарскай літаратуры

***3***

Алека Канстанцінаў
нарадзіўся ў год бітвы пад Мілавідамі
у Свіштаве на Дунаі
вандроўнік
паўтузіна псеўданімаў
найлепшы – Башыбузук
куля ў трыццаць чатыры

засада на горнай дарозе
астатняе ў Гугле

сярод лаўрэатаў
Генрых Бёль
Уільям Сараян
Марці Ларні
Васіль Аксёнаў
з метафізічных прычын ніхто не пад'едзе
нават Марыс Друон

калі верыць у памяць продкаў
Друону павінна сніцца Вільня
павінна ж там нешта сніцца
успамінацца
чытацца
выпівацца
яшчэ колькі дзеясловаў на *цца*

ёсць шанец запытацца
пажадана не вельмі хутка
але не надта позна
раптам забудзеш што хацеў запытацца
Альцгеймер дрэнны падказчык
нават у чыстцы
або вышэй ці ніжэй
кажуць ніжэй цікавейшая кампанія

*Люфтганза* страйкуе
лайнеры канкурэнтаў
штодня знікаюць з радараў
адвозяць пасажыраў да Бёля
да продкаў Друона
проста да продкаў
або да нашчадкаў у пятым калене
даруйце але табе спачатку
трэба атрымаць прэмію *Алека*

бярэш квіток на цягнік
купэ на аднаго
два дні і дзве ночы
краявіды
музы
начныя сатурналіі
засады на горных дарогах
так ездзіў Алека

**4**

ты адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма у цэлым цягніку
(так і мусяць ездзіць лаўрэаты)
плюс два маскоўскія праваднікі
Саша спіць як мядзведзь у мярлозе
Гена чытае *Востраў Крым*[4]
ты чытаеш айчынныя газеты за тыдзень

смеццевы кантэйнер працуе бездакорна
электроннае табло таксама не падводзіць
за бортам нязменна мінус 51
на борце плюс 70
час 12.40
магчыма час правільны

у цягніках час ідзе іначай
разганяецца на перагонах
спатыкаецца на станцыях
хаваецца за валізкамі
паварочвае назад
прывозіць успаміны як у дзяцінстве
ты безразважна гуляўся з часам
загадваў спыніцца
бегчы ў адваротны бок
лавіў час у прыгаршчы
мыў часам твар
рызыкаваў што час пакрыўдзіцца
дзесяцігоддзі прамільгнуць днямі
быў хлопчыкам а ўжо дзядуля
або наогул надмагільны помнік
час шкадаваў цябе
яшчэ толькі 12.40

час пазвоньвае лыжачкай у пустой шклянцы
няўжо час памятае мелодыю *Eight Days a Week*[5]*?*
яны ж так рэдка гралі яе
Ленану чамусьці не падабалася
называў яе вашывай
вядома глупства
калі Ленан граў апошні раз
табе было дваццаць сем
маці спытала чаму ты плачаш
маці не хацела каб ты стаў пісьменнікам
але гэта іншая гісторыя

ідзеш да Гены па кіпень
на століку ў Гены твае газеты са сметніцы
Гена: *я потрясён!*
*я думал вы против батьки*
*а вы против России и Путина*
ты: *теперь не дадите мне кипятка?*
Гена: *кипятка дам!*

***5***

Ва Ўкраіне вайна
маскоўскі цягнік блытае сляды
ідзе на Варшаву
Брацілаву
Будапешт
Бялград
можна сустрэць самога сябе
або выйсці ў брацілаўскім музеі гадзіннікаў
некалі табе заманулася ў гэтым музеі
стаць гадзіннікам
ісці
спазняцца
спяшацца
рамантавацца
ісці пакуль не скончыцца гарантыйны квіток
стаць дасканалай часткай пясочнага гадзінніка
з суседняй вітрыны
куды толькі не завядзе мензурка
тваёй цыганскай крыві

засынаеш на сербскай мяжы
табе сняцца горы і зоркі
што вышэй?
напэўна анёлы й анёліцы
цікава якія ў іх стасункі паміж сабой
а таксама з русалкамі

зімовая ноч доўгая
асабліва на Балканах
табе сняцца сны пра дзіцячыя сны
тады сны ўваходзілі ў спальню на высокіх мяккіх лапах
схіляліся над ложкам
цалавалі цябе ў лоб
у дрыготкія павекі
у вузкія прыцэўкі
у пальчыкі на нагах што выткнуліся з-пад коўдры
калі памрэш
ты хацеў бы стаць
дзіцячым сном

цябе будзіць стрэл
за ім аўтаматная чарга
горы ўмеюць расстрэльваць сны

хто гэта сказаў пра час:
мы тут былі і адбыліся?
маўляў мілы прытулак
пяшчотны і эфемерны
твой варыянт пазбаўлены лірыкі:
былі і не адбыліся
развеяліся ў экзістэнцыйным тумане
у мірным пяшчотным прытулку
дзе над ложкамі схіляюцца
пачвары і дэманы

зноў стрэлы
добра было б загінуць у цягніку
асабліва калі ты адзін у купэ
адзін у вагоне
асабліва калі ты лаўрэат прэміі *Алека*
будзеш ехаць ехаць ехаць
*туды*
а потым назад дадому
але заўважце – таксама *туды*
калі балгары людзі без забабонаў
ты мог бы вярнуцца з прэміяй
капэрта ў кішэні
медаль на штрыфелі пінжака
у цырымоніі ўдзельнічалі Бёль і Друон

раніцой яшчэ Сербія
мерцвякі разам з могілкамі
урачыста ўзыходзяць на горы
селевыя плыні смецця
спускаюцца ад вёсак па смарагдавых схілах
у гарадах і мястэчках павольна канае кірыліца
калі ты астатні раз бачыў вакзалы з фанеркамі ў вокнах?
відаць у чорна-белых фільмах пра нашых і немцаў

***6***

у цэнтры Сафіі
помнік балгарскім лётчыкам
ваявалі на баку немцаў
баранілі Стары горад
ад англійскай ды амерыканскай авіяцыі
не абаранілі
2000 бомбаў за адзін ціхі вясновы вечар

чырвоныя ружы
ля помніка капітану *Люфтвафэ*
Герхарду Венгелю
вечная памяць героям!

у тваім Полацку
немцы не абаранілі Стары горад
ад авіяцыі савецкай
потым цябе вучылі ў школе
што фашысцкія захопнікі
знішчылі гістарычны цэнтр горада
каму ставіць помнікі?

Буюк-мячэць ператвораная ў археалагічны музей
калі-небудзь для новай экспазіцыі
археолагі прапануюць лэптоп
*Reader*
смартфон з базай дадзеных
твой спадарожнік Румен:
праз трыццаць гадоў тут зноў будзе мячэць
адзінае суцяшэнне – ён не пабачыць
чаму?
цяпер яму шэсцьдзясят шэсць
адказ вычарпальны

у мастацкай галерэі выстава Пікаса
белы абрус з плямамі
кольцы ад шклянак з чырвоным
тлушч
сляды губной памады
нешта малочна-белае густой кансістэнцыі
*Полудзень мастака*
дата і подпіс *Picasso(?)*

вы з Руменам можаце не горш
выбіраеце кавярню з белымі абрусамі
акрапляеце абрус знаёмым вінам
вы пазнаёміліся ўчора ўвечары
пазнаёміліся вельмі блізка
можна сказаць інтымна
шчасліва заснулі і прачнуліся разам
у сэнсе не з Руменам а з вінам *Мезек*
кроплі на абрусе
ну проста журавіны на снезе
вакол твайго млына

у вашай палітры
аліўкавы алей

папрыка
соус песта
агністы кетчуп
свае барвы дадаюць талеркі з *агнешкай*

афіцыянт: адміністратара ці адразу паліцыю?
Румен: мы хочам купіць гэты абрус!
яшчэ адзін *Мезек*
ты: а як наконт губной памады
і нечага белага густой кансістэнцыі?
Румен: творчы акт у працэсе

***7***

тваю перакладчыцу завуць Пенка
распавядзеш ёй як любіў пенку ў дзяцінстве
мама ў белым хвартушку варыла сочыва
варыла ў сінім эмаляваным тазе
ты разам з залацістымі восамі
прагна чакаў пенку пенку пенку
ружовую пухнатую паветраную пенку
ад трускалак суніц вішняў чорных парэчак
асабліва ад маліны
мама казала там зварыліся чарвячкі
ты радасна згаджаўся
аблізваў лыжку
заплюшчваў вочы ад асалоды

Пенка пераклала *Лаліту*
*Чорны замак Альшанскі*
твой *Ордэн Белай Мышы*
колькі ёй гадоў?
не Белай Мышы а загадкавай Пенцы
ты скажаш: з дзяцінства любіў пенку
салодкую гарачую пенку
скажаш лёгка і ўпэўнена
у Пенкі будуць цёплыя рукі
у цябе салодкія ад пенкі вусны

у Пенкі цёплыя рукі
арэхавыя вочы
пачуццёвыя вусны
зграбныя кійкі-мыліцы
а ты думаў яна Лаліта?

Пенка таксама п’е чырвонае
таксама гістарычны факультэт
выкладала

мела праблемы з уладай
цяпер выкладае табе
тэма *Тры расейскія акупацыі*
першая змяніла турэцкую
другая пасля Другой сусветнай
трэцяя цяпер
скупілі ўсё ўзбярэжжа
Расея як мядзведзь ля плоту цывілізацыі
самая трагічная памылка балгараў
іхняе русафільства

з Пенкай час інакшы
выразна балгарскі
македонцы гэта балгары
Кіеў заснавалі балгары
магіла хана Аспаруха[6] каля Запарожжа

для вас у студзені плюс пятнаццаць
зорнае неба таксама заснавалі балгары
прынамсі над Балканамі
вуснамі валадарыць
пенка ад малінавага сочыва

***8***

там за пераваламі Свіштаў
*Алека*
засады на горных дарогах
пасля бяссоннае ночы
маеш поўнае права
на нездаровы неспакойны сон

вальера ператвораная ў млын
жорны мелюць пустыя пляшкі з-пад *Мезеку*
муза ў аблічы русалкі
русалка ў аблічы Пенкі
нясіце прэч медыкаменты
разам з кійкамі і мыліцамі!
наёмныя забойцы
заснулі ў абдымках арэядаў і напеяў

на яве рэстарацыя *Калгары*
пяць дзён лаўрэат балюе за кошт мэрыі
найлепшыя стравы
калекцыйныя віны
застоліцы ў стылі Пане Каханку
*Nulla dies sine ampulla*[7]
адміністратарка: уявіце што перамог камунізм

сафійскі рэдактар тройчы жагнаецца
ты ўзгадваеш камунізм свайго дзяцінства
у сталоўках дармавыя гарчыца і хлеб
вясёлыя дзядзькі прыходзяць з пляшкамі
разліваюць намазваюць гарчыцу на хлеб
чаркаюцца:
ты малец будзеш жыць пры камунізме
калі там не будзе гарэлкі нах...я нам такі камунізм!

ты: чаму *Калгары?*
гаспадар быў на той алімпіядзе
бабслей балгары спартыўная нацыя
сафійскі рэдактар меланхалічна:
балгары занялі апошняе месца

назаўтра вядома *Калгары*
ты адзін за столікам
адзін у цэлай рэстарацыі
(так і мусяць вячэраць лаўрэаты)
плюс дзесяцігадовы *Маўруд*

другая пляшка ўключае *Eight Days a Week*
запускае архіўную хроніку
з экрана сыходзяць чамусьці не бітлы
трое калегаў з іншасвету
падсаджваюцца просяць наліць
адзін нібыта прасіў выбіць
на надмагільным помніку вершык
*ён кінуў піць бо – спіць*
выбілі зусім іншае пра Радзіму
таму і не кінуў
з якога свету прыйшоў мужчына з Ружовай кавярні?

замаўляеш усім дунайскую рыбу
сом судак стронга селядзец
русалка кажа пароль
*чуюць віры свая*
русалка без вадзяніка
гэта абнадзейвае

на даляглядзе новы персанаж
адно з двух: бандзюган або целаахоўнік
застоліца разбягаецца
застаюцца
мужчына з Ружовай кавярні
русалка з келіхам у недрыготкай руцэ
ты з тупым нажом і відэльцам
бандыт або целаахоўнік:

я – гаспадар!
ты сам сабе: зараз адбярэ *Маврудд*
гаспадар: злы чалавек сказаў табе
балгары занялі апошняе месца
запомні:
балгары занялі 25-е месца!

гаспадар ляпае цябе па плячы
мужчына з Ружовай кавярні
ляпае па плячы гаспадара
русалка пытаецца
колькі ў Калгары было бабслейных камандаў
гаспадар замаўляе *Мавруд* у двух экземплярах

***9***

там за Дунаем Румынія
ніякая не Румынія кажа балгарскі калега
там такія самыя балгары
проста ім забаранілі гаварыць па-балгарску
цяпер ужо не ўмеюць
але маўчаць – павер
яшчэ па-балгарску

на стромым беразе помнікі
белы мармур
зялёны мох
залатыя літары
*поручикъ Петровичъ*
*прапорщикъ Здань*
тут расейская армія пераправілася цераз Дунай
балгарскі калега: *фамилии какие-то нерусские*

цяпер ты разумееш хто стаяў ля вакна
у закінутым доме насупроць гатэля
стаяў глядзеў на цябе
танклявы тонкія светлыя вусікі
маўчаў па-беларуску

паручнік Пятровіч прыходзіць у наступную ноч
ведае што ў гатэлі ты адзін
(так і належыць лаўрэату)
адчыняе вакно
падхорцісты голены
глядзіць з табой на поўню
курыць пускаючы срэбныя кольцы
не хоча раставаць у месяцовым святле

***10***

у музейнай вітрыне шкляны цыліндр
у цыліндры спірт
у спірце прабітае куляй сэрца
білася ў грудзях балгарскага класіка Алека Канстанцінава
у цябе нецвярозая думка:
ці цвярозае гэта сэрца?

выходзіш з дома-музея
у небе над Дунаем плывуць сэрцы пісьменнікаў
Алесь Дудар
Міхась Чарот
Платон Галавач
Міхась Зарэцкі
Тодар Кляшторны
Мойшэ Кульбак
сталі аблачынкамі за адну кастрычніцкую ноч

выпіваеш у гатэлі пляшку віна
выганяеш русалку
накрываешся з галавой коўдрай
прыходзіць выратавальны сон
піраміда з бясконцых цыліндраў
са спіртам
з прабітымі сэрцамі
(раней ты думаў іх стралялі ў патыліцу)
сэрцы жывыя
адбіваюць свае рытмы
шукаюць рыфмы
найбліжэйшы Алесь Дудар
пачынаеш чуць радкі
*о дух наш вольны дзе ты дзе ты?*
*ім мураўёўскі б гальштук ўздзець*
*нашчадкам мураўёўскім гэтым*

на цыліндрах з сэрцамі імёны
шукаеш сваё
шукаеш са страхам
са спадзевам
з астатняй надзеяй
не знаходзіш
прачынаешся з думкаю: *не заслужыў*

***11***

калі ў чалавека няма пачуцця гумару
у яго мусіць быць пачуццё
што ў яго гэтага пачуцця няма

у цябе ёсць пачуццё
што ў цябе гэтае пачуццё ёсць
таму так светла і радасна жыць
у прыватнасці на банкеце ў гонар лаўрэата

за столікамі
выключна літаратары і літаратуразнаўцы
у літарататараў вакол мэра
злева ўнізе дудурацца пінжакі
вядома там кнігі ды рукапісы

табе здаецца
правадыр тутэйшых туркаў
галоўнейшы за мэра
цікава ці чытаў ён Архана Памука
напрыклад *Стамбул*
двое ў пінжаках падымаюцца насустрач
гатовыя адказаць на любыя пытанні
ці чыталі яны *Стамбул?*
адказ: Стамбул сталіца Турцыі
ты не спрачаешся

пакуль маўчала сарока Соня
туркі прывялі да ўлады новага мэра
былога мэра запрасілі на банкет
за столікам ён адзін
махае табе
выходзіць з залы
ты выходзіш следам
на ганку курыць паручнік Пятровіч
прапаршчык Здань сочыць зоры
правая рука на тальмаху

былы мэр віншуе на англійскай
якая не гучала з тваіх вуснаў
нават у самых светлых снах
пасля заняткаў з рэпетытаркамі
тады снілася зусім іншае
часам сны збываліся
англійская не рабілася ад гэтага лепшай
ты: *half the banquet money me would be enough for a year's happy living*[8]
гучыць не надта ветліва
*according to Somerset Maugham...*[9] пачынае былы мэр
ты ўжо гатовы адказаць
Маэм не быў лаўрэатам прэміі *Алека*
сітуацыю ратуе турак
якраз з ім ты размаўляў пра творчасць Архана Памука

(таксама не быў лаўрэатам прэміі *Алека*
але яшчэ мае шанец)
турак выходзіць на ганак
паказвае былому мэру на таксоўку:
таксісту заплочана!
паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань
уладкоўваюцца на заднім сядзенні

***12***

ты зноў адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма ў цэлым цягніку
плюс два маскоўскія праваднікі
Калян п'е і спіць як мядзведзь
Ваван п'е і – на варце
*а мы о тебе уважаемый наслышаны*
*Гена всё рассказал*
за бортам не пацяплела
мінус 51
на борце плюс 70
час 12.40 паводле сярэднегалактычнага

Ваван: *значит не хочешь объединяться с Россией?*
ты маўчыш
Ваван ківае за вакно
*Ельцин был тряпка*
*Путя ввёл бы войска*
*всё бы здесь процветало*
ты: *как например Донбасс*
Ваван: *ты знаешь что такое русский характер?*
ты маўчыш
Ваван бязгучна варушыць вуснамі
зрэшты усё зразумела

за Бялградам прачынаецца Калян
*будешь бл...дь стрелять в русских?*
ты: *не буду*
Калян: *умница зачем лишние жертвы*
*надо как в Крыму*
ты: *буду бросать гранаты*

у цягніку два вагоны
твой апошні
за дзвярыма тамбура сталёвыя лініі лёсу
выбару ўсё адно няма

на даляглядзе які ўцякае
дзве раўналежныя лініі
сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12.40
на даляглядзе які набліжаецца
дзве раўналежныя лініі
сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12.40
значыць выбар ёсць

цягнік ляціць як Лятучы Галандзец
параўнанне зацяганае
мусіш тэрмінова знайсці лепшае
Балканскі экспрэс рыфмуецца з Усходнім
яшчэ адзін *Усходні экспрэс* на менскім вакзале
рэстаран з купэ
купэ не зачыняюцца
некаторым зусім не замінае
запытайце ў афіцыянтак
напрыклад пра купэ *Мінск-Прага*

куды ты ляціш?
адказ мае Калян
*выкинем тебя нах...й*
*скажем пил по-черному*
*вышел на ходу подышать свежим воздухом*
12.40
час пульсуе ў скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці
*кто тебя будет искать бл...дь кроме волков?*
*получат белоруса на ужин*
ты маўчыш
*шутка дарагой*
чамусьці з каўказскім акцэнтам кажа Калян
прыязна ўсміхаецца
б'е цябе ў сонечны суплёт

***13***

час вяртацца да цямы надыходзіць за Будапештам
час звоніць лыжачкай у пустой шклянцы
вядома *Eight Days a Week*
хто глядзіць на цябе з-за вакна
вачыма чародкі казуляў?
ты ведаеш але нікому не скажаш

у дзвярах Ваван-русский характер
*уважаемый ты не мог бы написать нам благодарность*

*нам за них премию дают а пассажиров них...я нет*
*подумай хорошенько*
ты думаеш да Варшавы

Варшава поўніць вагон
маскоўскімі гінеколагамі
валізамі падобнымі да маладых кітоў
хвалямі тэлефоннага захаплення
*мы думали поляки ненавидят русских*
*а они так принимали так принимали*
*фуршет просто фантастический*
*Степановича несли к поезду на руках*

паўз цябе праносяць Сцяпанавіча
галава Сцяпанавіча знячэўку падымаецца:
*гинеколог?*
ты: *пісьменнік*
галава: *почему трезвый?*
галава падае

табе сніцца: трэба нараджацца на свет
нараджацца страшэнна не хочацца
відаць гэта маскоўская радзільня
маскоўскія гінеколагі
*главврач* Сцяпанавіч

урэшце нараджаешся
разам з табой нараджаюцца
Палессе
мост цераз Ясельду
завея
гадзіннік на якім 12.40
калідор з прыбіральняй
Сцяпанавіч з півам

Сцяпанавіч: *хороша ты русская земля!*
ты маўчыш
Сцяпанавіч: *ты что молчишь сука?*
*ты не согласен? нам Колян всё рассказал*
ты маўчыш
*здесь на твоей недоношенной мове*
*никто уже не говорит*
*и не заговорит никогда*
*я знаю что говорю*
*я здесь вырос*
ты маўчыш
12.40
час пульсуе у скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці

### *14*

Сцяпанавіч: *жалею что не сделал твоей мамаше*
*элегантный маленький абортик*
ты маўчыш
Сцяпанавіч на падлозе
Калян: *русских бьют!*

ты адступаеш у купэ
там лёгкі дымок
гэта паручнік Пятровіч
галава ў бінтах з цёмнымі плямамі
хочаш зачыніць дзверы
прапаршчык Здань: не!
мыліцы Пенкі таксама дарэчы

пяты – Алека
шосты – мужчына з Ружовай кавярні
дзе ты мая русалка?
дзе ты сарока Соня?

там
за фіранкай завеі
Мілавіды

---

[1] Ні дня без радка *(лац.)*
[2] Найбольшая бітва беларускіх інсургентаў з расейскімі карнікамі ў паўстанні 1863 г.
[3] Навела Хорхе Луіса Борхеса.
[4] Раман Васіля Аксёнава.
[5] *Восем дзён на тыдні.* Песня групы "*The Beatles*".
[6] Заснавальнік першай балгарскай дзяржавы на Дунаі.
[7] Ні дня без пляшкі *(лац.)*
[8] Паловы грошай на банкет хапіла б мне на год шчаслівага жыцця
*(не зусім правільная англійская)*
[9] Як казаў Сомерсэт Моэм *(англ.)*

Віктар Казько



...як жа цяжка, амаль невыносна
ў наш тэхналагічны і адукаваны атамны век
яшчэ заставацца чалавекам...

# На кручку

***Нізка апавяданняў***

### *I. Спадарожнае*

#### 1. "OUT THE BODY"

Гэта было пасля таго, як ужо ўсё было. Хаця, што гэта было? Што значыць усё? Ніхто з пэўнасцю не ведаў. Але адчувалі ўсе – нешта было. Адчувалі вельмі спякотную і сухую вясну. Непадобную да вёснаў мінулых. Асабліва той першы дзень ці ноч на Вербніцу, калі гэта і здарылася. З чаго і пачаўся новы хісткі адлік часу. Часу ўжо страчанага для таксама страчанай тут зямлі і гэтакіх жа, страчаных ужо, людзей. Хаця Зямля яшчэ рухалася ў сусвеце і тут, а час, згодна найноўшых даследаванняў навукі, заставаўся нязменна нерухомым, адзіна вечным. На першы погляд – усё як не напрыканцы, а напачатку: як нічога яшчэ не было – і ўсё ўжо і яшчэ было.

*Працяг.
Пачатак
у №№75-77.*

Па маўленні векапомнага творцы бравага салдата Швейка Яраслава Гашака: “Ніколі не было, каб аніяк не было. Заўсёды так было, каб якнебудзь ды было”. Трапна, слушна. Толькі вось птушкі спынілі спевы, хаця і працягвалі аказваць сябе. Лінейкава крэслілі неба, давалі нырца з-пад усмешкі сонца ў дольнае ўлонне і ў скрадлівасць хмызоў. Вілі патаемныя гнёзды дзеля свайго працягу. Але ўжо ціхенька і нябачна пачынаўся іх сыход адсюль. У першую чаргу з падстрэшшаў вясковых хатаў. Нібы тыя нечым правініліся перад імі ці нечакана апаганіліся. І сялянскія хаты, як адчулі сваю правіну, без птушынай адвечнай гаманы неўпрыкмет пачалі нямець, паляпваючы, ды і то няголасна, толькі клямкамі дзвярэй і сціплым рыпам веснічак.

Стаіліся на сваіх падворках і людзі. Зрэдку толькі праз плот перагукваліся сусед з суседам. Жанчыны ўжо не надта затрымліваліся з вёдрамі каля студняў, нібыта заклапочаныя адной толькі вадой. І ў вераб'ёў паменела імпэту задзірліва купацца ў вулічным пяску-прысаку. Іх увогуле ўвачавідку паменела. Тых самых вераб'ёў, ад якіх раней і заўсёды адбою не было, чаму іх паблажліва і набліжана да сябе называлі канаплянікамі, а іншым разам і жыдкамі.

Каноплі ж тут звялі даўно. І звання не пакінулі, калі ў вёскі за імі пацягнулася гарадская набрыдзь. Яшчэ да перабудовачнага, абвешчанага мечаным Міхаілам часу. З жыдкамі ж адбылося больш складана і, як заведзена ўжо ў нашым жыцці, вельмі і вельмі блытана. Так што сапраўды – без паўлітры не разабрацца. З маючымі пер'я і крылы вырашылася проста: ім памянялі імя. Пастанавілі звацца толькі канаплянікамі. Але ж тут, як ужо згадвалася, і з каноплямі ўзнікла “невырашонка”. Ды каб толькі, трасца яго бяры, з зеллем. Людзі пачалі пабойвацца і Жыткавічы называць Жыдкавічамі. Спрабавалі перайсці на Яўрэйкавічы. Так з ужытку было выкінутае тут не толькі птушынае, але і нацыянальнае імя.

І што дзіўна, гэтыя дзве падзеі неяк містычна, ці, як сёння кажуць, сакральна, звязаліся між сабой. Адзін сыход супаў з другім. І ўсё, хаця знешне крута памянялася, але ж таксама крута вярнулася на кругі свая. Вяскоўцы ці то з суму, ці насуперак і наўздагон нацыянальнаму сыходу вярнулі гістарычнае імя гэтаму птаству, што ў нашай гісторыі адбывалася ўжо неаднойчы. Клята, цяпер ужо з выклікам, нараклі вераб'інае племя жыдкамі.

Клята, але нязлосна. З жалем і спачуваннем. Зжыліся з імі. Але, як заўсёды, харошая мысля прыходзіць апасля. Яна апасля і прыйшла, напрыканцы брэжнеўскага застою, калі ўжо было позна: усе пагалоўна, з кім стагоддзі і стагоддзі бедавалі разам, бедаваць тут адмовіліся. Памкнулі да сваёй зямлі абяцанай. І адразу ж як стала пуста на ўсёй зямлі. Абурыліся. Нібыта жонка на мужа на схоне жыцця ў разводзе. Як наперад прадчувалі запознены падзел маёмасці, якой ні з таго, ні з другога боку не мелася. Патомныя жабракі, але ж багатыя на духоўнасць і памяць: мы прынялі вас гнаных і абражаных, як сапраўды пабраліся. Пацясніліся, далі прытулак і занятак, справу. А цяпер вы пакідаеце нас, бяжыце прэч.

Ці не падобна таму знакаваму сыходу людзей той жа аглавушанай і прыгаломшанай вясной пачаўся сыход і ўсяго іншага Божага свету. А найперш птушыны: журавоў, часткова качак і ластавак, а больш прыкметна – вераб'ёў. Плоць ад плоці адвечна вясковай, сялянскай, таму, згодна іх разуменню, і нарачоных канаплянікамі ды жыдкамі. Следам за імі пасы-

палася і шмат чаго і каго з іншых. У тым ліку і саміх, і пераважна саміх людзей. Повязь са светам усё ж двух-, а то і шматбаковая.

Толькі ж – “свята месца пуста не бывае”. Пачалося вялікае замяшчэнне і перасяленне, больш падобнае да новага сатварэння свету. Як эмігранты трэціх краінаў на Еўропу і Амерыку – Лонданы, Берліны, Парыжы і Нью-Ёркі – да прагорклых водаў, пясчаных палеткаў, на векавыя клады, на якіх і крыжы пайшлі ўжо ў апраметную, абрынуліся цьмы і цьмы заморскія. Нянаскіх чаек, хіжая лясная набрыдзь шэрых і чорных драздоў, зладзейкаватых шызаваронкаў і соек, што дагэтуль перасцярагаліся паказвацца на вочы жывому чалавеку. А цяпер раскашавалі на яго градах, у яго прысадах і садах. Ды не проста раскашавалі і рабавалі, а яшчэ і пакрыквалі на чалавека: час дзяліцца, наш час жэрці, рабаваць і красці. Уладарыць светам, які ты нарок Божым.

Свет перакуліўся. Амаль хатнія, свойскія буслы ўнадзіліся паляваць, красці з вясковых падворкаў куранят. Сарокі і крумкачы падманьваць і выцягваць са шпакоўняў, жэрці жыўцом з пухам і кроўю шпачанят. Мухі і тыя кусаліся не толькі пасля мядовага ці яблычнага Спасу, а як толькі крылы іх пачыналі насіць.

Усчаліся і пасыпаліся адзін за другім цыганскія пустыя дажджы – пры сонцы, без грому і маланак. Хаця часам і даволі спорыя. Надаралася і залеўныя. Залевы былі цёплыя, грыбныя. Толькі грыбы пасля іх не надта спяшаліся расці. Зямля хуценька ўсмоктвала, прыбірала лужы. Пазначала іх нядаўнюю прысутнасць як ванітамі ці падвоччам вельмі хворага чалавека на ўвесь адразу шлунак – жоўцю, казённа-турэмным спалучэннем зялёнага, рудаватага і блакітнага адцення. Нібыта прахам, тленам нейкага невядомага зямлі прыхадня, што дачасна і брыдка сканаў на чужыне. І чужы вецер нішчыў яго парэшткі, пахі, фарбы.

Нішчыў не толькі на палескіх пясках, каляінах і ўзбочынах дарог. Але і на буграх, гідуючых нячыстым, чужым пракаветных, асвянцоных вечнасцю курганах, верасова запаветных палянах, сфагнавых верхавых балацінах, на ўзлобках сівога моху баравіковых галаў. Дзе толькі сустракаў, там і прыбіраў. Незваротна і пякельна жорстка. Сапраўды, каб не ўстала век яно. Датла.

Нібы хтосьці з неба, з горніх высяў наводзіў той сухавейны бязлітасны вецер тае таксама бязлітаснай вясны. Наводзіў і даваў загад на знішчэнне. І ўграваўся смяртэльнымі пакутамі бласлаўлёнай, але ж і прыгаворанай ужо, невядома толькі дзе, за што, чаму і кім, Зямлі. Які Архангел нікому нячутна пратрубіў над ёй ужо тройчы ў свае нябачныя нябесныя трубы. Пратрубіў, і яна ўнурылася, пагадзілася на самагубства ўсяго з такой любасцю і замілаваннем створанага ёю ж.

І самі па сабе ўспыхвалі і загараліся лясы. Хаця хадзіць у іх нельга было. Усе дарогі, сцежкі і нават звярыныя лазы пад кантролем і на ўліку. Схопленыя, перакрытыя – мыш не праточыцца. Пагражальна зачынены распасцертымі накшталт ляжачых сёння на дарозе “міліцыянтаў” ляжачымі пажарнікамі – бел-чырвона-белымі шлагбаўмамі. А дзе-нідзе і закутыя калючым, ваеннага часу, дротам.

А лясы як гарэлі, так і працягвалі гарэць. Нагляд і людскі клопат не ратавалі іх. Найбольш прыдатныя агню, не падсочаныя, хваёвыя смалістыя бары займаліся агнём і гарэлі спраўна, як па раскладзе ад раніцы да ночы з дня ўдзень. І што дзіўна, там, дзе іх найбольш пільна і шчытна ахоўвалі,

выстаўлялі дзённыя і начныя варты і пікеты ляснікоў, агонь усчынаўся адразу з чатырох бакоў, нібыта па камандзе, па нейкая д'ябальскай замове. Наракалі на знешняга ворага, зламыснікаў падпальшчыкаў тубыльцаў. І патаемных новых Праметэяў ці антыпраметэяў. Ладзілі выкрыццё, ловы іх пешшу, конна, матарызавана, на матацыклах, мапедах, і з верталётаў, з прыцягненнем сакрытай мясцовай агентуры. Вынік – нулявы.

Тады, ва ўсе часы разумнае і дасціпнае начальства, па здаўна ўжо адпрацаванай схеме: хто ў нас вінаваты – Пушкін, сіяністы і надвор'е... Не выключана, і з боязі, што далейшы разбор палётаў можа давесці і да праўды. Вінаватае ў лясных пажарах сонца. Не толькі свеціць, але ж і смаліць. А да ўсяго – п'е народ. Ды гэта яшчэ не бяда. Не толькі п'е, але з бутэлек і на прыродзе. Забруджвае прыроду. Сонца прыпякае ў донцы пустых пляшак. А яны, нібы павялічальнае ўжо шкло твораць агонь. Слушна. І такіх разумнікаў навокал было ўжо – хоць плот гарадзі. І кату не ўшчаміцца праз іх вынаходлівую думку.

Ціха вар'яцелі не толькі людзі, але і навакольныя звяры, з якіх на планетарным вогнішчы ацалелай яшчэ прыгажосці прыроды жыўцом ладзілі шашлыкі пад аздобай і гарнірам таксама не адмерлых яшчэ тут векавых грыбніц. І калі асобным са звяроў не шанцавала, падобна птушцы Фенікс, аднавіцца пасля агню ці выслізнуць з яго, яны гублялі розум, страчвалі звярынае. Абярэжную памяркоўнасць і дараваную Усявышнім і прыродай патаемнасць. Ішлі да людзей, неслі ім папярод сябе на сваіх лапах і пысах, перадавалі людзям і сваім жа суродзічам тое, што да гэтага часу было больш уласціва брату іх старэйшаму, разумнаму і двухногаму – новасатворанае аб'яднанае звярынае і людское вар'яцтва. Як СНІД ці ліхаманку Эбола дваццатага і ўжо дваццаць першага стагоддзя.

Па сакрытых ад чужога вока тупіках, запасных рэйках пареслых палынам занядбаных раз'ездаў і станцый раўлі эвакуяваныя, прымусова гнаныя ў бежанства пародныя і беспародныя – доля адна – каровы. Чамусьці адны толькі дойныя каровы, нібыта ўдовы. Куды падзеліся быкі і цяляты, маладняк, ведалі, падобна, толькі паўсталыя тут нядаўна мясакамбінаты. Ды, пэўна, тундра, вечная мерзлата за палярным кругам, Калымой і Магаданам, дзе з мінуласці нічога яшчэ не было разбурана, і цяпер як і заўжды гатова прыняць новае паступленне тавару, хай сабе і мёртвага: быдла ёсць быдла. А што мёртвае, то яшчэ лепей. Тыя, што атабарыліся тут першымі, пацесняцца, месца хопіць усім на стагоддзі. Мерцвячынку ў створанай самой прыродай лядоўні можна захоўваць бясконца. Пакуль з яе не выхварэе жах, пах, водар і нават намёк на вялікую ласку былога бацькі і правадыра ўсіх народаў свету, абяцанне сусветнага шчасця ад яго пераемніка – мірнага атаму напрыканцы другога тысячагоддзя ад Раства Хрыстова.

І тады гэтую нежыць, быдлячую і чалавечую, параднёна ўжо зляжалую, знітаваную, зноў можна будзе зхарчыць спадкаемцам. Ужываць і карыстацца, як сёння яны карыстаюцца Днепрагэсамі, Беламора-Балтыйскімі, Волга-Данскімі каналамі ды іншымі сакральнымі, знакавымі метамі гераічнага часу, гераізму якога нам ужо ніколі не збыць, да якога мы ўсе смяротна асуджаныя.

Мо таму, як на хаўтурах па ім, раскулачаныя зноў калектыўна – на калгасных фермах буйной рагатай жывёлы – амаль праз паўстагоддзе пасля вялікага пералому і раўлі каровы ў металёва-шкілетных, адмыслова

створаных і прыстасаваных для іх перавозу чыгуначных вагонах, па-сталыпінску закратаваных. Раўлі, высалопвалі языкі, абвешваліся слінай і раўчукамі слёз. Развітальна галасілі і плакалі, углядаючыся засмужанымі сумам вільготна гаротнымі вачыма ў туманова дымную далеч пратаптаных імі ж прасёлкаў, сіне зашклёныя паўзмрокам, так падобныя да іхніх жа вачэй вясковых хат, у балбатліва расчыненыя брамы і веснічкі падворкаў, на якіх ужо паўнамоцна гаспадарылі і ўладарылі смутак запусцення і жальба схону.

Людзей амаль не відаць, хаця яны недзе ўсё ж меліся. Жанчын, дзяцей, бабуль і дзядоў звозілі гасцінцамі на машынах, як і кароў, – у бежанства, вельмі падобнае да таго, колішняга, ліхалетнае, калі звозілі адсюль яўрэеў, а потым свае і чужыя таксама ж прыбралі цыганоў.

Жанчыны галасілі і плакалі не горш за кароў. Дзеці прыгаломшана маўчалі, прытуліўшыся да спадніц маці. А тыя, што ўладкаваліся асобна ад іх, – больш каля бартоў машынаў, смяяліся і не без задавальнення і радасці развітальна махалі рукамі родным хатам, не цямячы, што развітанне – як пахаванне.

Мужчынаў было мала. Амаль не было. Адных з іх, маладзейшых і больш дужых, мабілізавалі на ўкладку асфальту на апусцелай вясковай вуліцы, па якой і каты ўжо хадзілі дробным крокам і з перасцярогай, грэбліва абтрасаючы лапы. Другіх жа паставілі на дэзінфекцыю іх жа ўласных хатаў, гонтавых і саламяных, чаратовых і шыферных дахаў. Навошта гэта рабілася менавіта цяпер, калі жыць тут было ўжо некаму, ніхто не ведаў: начальства загадала, а яму відней.

Спёка стаяла неймаверная. Мужчыны рабілі да пояса голымі. Некаторыя з іх ужо добра прыгарэлі і карычнева ільсніліся бруднымі пацёкамі поту, прысыпанага вулічным пылам і пацярухай стрэхаў, што прыпадалі да іх па-сялянску паджарых целаў без намёку на тлушч. Прыпякала не толькі з неба, паліла і з сярэдзіны, у большасці з іх ужо каторы дзень гарэлі трубы. Толькі той нутраны агонь цяпер не шчасціла патушыць. Улада, дзяржава, як здзекваліся, абвясцілі сухі закон.

Недзе надоечы чытаў, што, па запавеце продкаў і святым пісанні, чалавеку дазволена вытрымаць толькі тры спакусы, пасля чаго – страта жыццёвай кропкі і арыентацыі. Веры. Веры ў Боскае і чалавечае наканаванне. Пераўтварэнне ў пачвару і нелюдзя – замбаванне і манкурцтва. Усе тры спакусы і расчараванні былі відавочнымі і бясспрэчнымі: расстанне і адлучэнне ад зямлі, хаты, сям'і і дзяцей, пазбаўленне вечнасці і будучыні, і, што, безумоўна, ўтрымлівала, іх у рэчаіснасці, – адарванне ад немінучай тут сваёй магілы, магілаў і могілак іх продкаў, бацькоў і дзядоў, дзякуючы якім, яны ўсцешваліся хай і тупым, марным, прывідным, але ўсё-ткі жыццём. А ў дадатак да ўсяго, мяркуйце самі, важна гэта ці не – здзек і выпрабаванне сухім законам.

Як жа цяжка, амаль невыносна ў наш тэхналагічны і адукаваны атамны век яшчэ заставацца чалавекам. Мо якраз таму, па сведчаннях псіхолагаў, на тысячу з нас сапраўдным чалавекам можна лічыць толькі аднаго. Думаю, што і гэта занадта аптымістычна. Чалавек даўно ўжо паплыў – падобна, у нябыт – пацёк, распыліўся. Нездарма ў апраўданне гэтаму прыдумалі яму амбівалентнаць. Кожную хвіліну на сваім шляху мы мяняем сваю валентнасць – погляды, твар, полавую прыналежнасць.

Некалі пачыналі з паганства. Да таго ж паганства і вяртаемся. Толькі

колішняе паганства было наіўным і чыстым, цэльным. Сёння ж яно да жудасці вытанчанае, крыважэрна-зламыснае, толькі на сябе і сваю аднадзённую карысць скіраванае. Бо, няхай і падсвядома, у кожным з нас больш не людскага, зямнога, а вынаходліва д'ябальскага, тагасветнага. Падкоркавага, неспазнанага нават самімі намі. Зусім не зялёны чалавечак, прыхадзень з далёкага космасу, у кожным з нас, як гэта даводзяць нам сёння, а хтосьці вельмі блізкі і нават родны, аб якога мы спатыкаемся на кожным сваім зямным кроку. Спатыкаемся і пакланяемся. Ён правіць баль і вядзе невідушчых аднаму толькі яму вядома куды. А мо і яму невядома.

Усё настолькі перакручана сёння на гэтым даўно ўжо не белым свеце, што ў час яшчэ адной рэвалюцыйнай перабудовы і спадарожнага ёй сухога закону пра сэнс свайго руху, існавання і знаходжання нечага і мазгі вярэдзіць. Я пазбаўлены ведання сваёй дарогі, нават разумення і ўсведамлення сябе. Не хачу, не жадаю, нарэшце, баюся. Пэўна, менавіта таму, што трошачкі, трошачкі яшчэ веру – прагну веры. Хаця не ведаю, да каго і ў што. Хутчэй да таго і ў тое, што па-за маім розумам. У што верыць аніяк не трэба цяпер: сумленне, гонар, справядлівасць і крыху ў другога, адзіна блізкага мне чалавека – усё якраз тое, чаму ў першую чаргу сёння верыць нельга: якраз жа тут зараз тояцца самыя разбуральныя і жорсткія падманы.

І ўсё ж, усё ж, надзея – маці дурных. Канчаткова я не страціў яшчэ веры. Пакуль жывем – самападманваемся. Ёсць спакон веку і назаўжды невядома кім закладзены, удыхнуты ў нас агеньчык, свечачка нязгасная. Мігціць, хістаецца ў нашай скручанай чорна-белай падсвядомасці. Але спроба давесці яе да агню спараджае толькі невыносную адзіноту, што гнюсіць і спальвае мяне і ад якога нідзе на ўсёй Зямлі няма паратунку. Навошта ж, чаму і каму трэба маё я.

Вярніце, вярніце мяне да любага ўжо мне вар'яцтва. Я гатовы плаціць за гэта дараванымі мне трыццацю трыма срэбранікамі, рэшткамі зведзенымі да чыстага аркуша паперы розуму – вечным ужо вар'яцтвам.

Але ці то яно сёння ў большай цане, ці то я такі купец, бізнесовец, што нядольны за ўвесь свой наяўны капітал прыдбаць хоць каліва нечага. Ні купіць, ні прадаць. Змяніліся патрэбы, змяніліся людзі. Змяніліся грошы. Адно толькі розум застаўся танным. Шэрае рэчыва было, ёсць і будзе шэрым.

Дзякуй Богу, што я і на яго не багаты: жывы будзем – не памром. Паразімуем, параб'емся. А кончымся – дык усе і адразу, не абцяжараныя ні запатрабаванасцю, ні гісторыяй, ні часам, ні дзяржавай. Чаго не існуе – на тое няма чаго і наракаць. Сёння ў пашане зусім іншае: "нал", наяўнасць. Можна крэдытнай карткай, а больш прывабна і годна рахункам і пажадана ў замежным банку, зялёнымі, каб пасля нас і трава заставалася таксама вечна зялёнай.

Вось толькі пытанне. Нават не пытанне, а пытаннечка часоў нябожчыка цяпер Янкі Брыля: а колькі сёння будзе ў перакладзе на цяперашнія грошы трыццаць срэбранікаў. Ці можна на іх цяпер укупіць два метры дзяржаўнай мяжы. З мяжой падобна, пытанне адпала само, разам з кіруючай роляй камуністычнай партыі. Пры наяўнасці "нала" і замежнага рахунку шэнген даступны ў любы час. Толькі як быць нам, прыгавораным да тубыльства. Хто і як будзе стрыгчы і збіраць з нас воўну за тое, што мы ў сваёй яшчэ скуры. Рухаемся, соваемся, кратаемся. Хто і што будзе мець з гэтага, хто

будзе ціснуць з нас масла... Але так, каб і малако не збегла, і поўсць нанава адрастала. Прымаць плату – грошыкі, рублікі, далярыкі і срэбранікі – да прыкладу, з таго, што мы яшчэ рухаемся, ходзім па зямлі, ездзім па цяпер ужо прыватных дарогах, якіх штохвілінна ўсё большае і большае.

Хутка, пэўна, стане, што за так і ступіць будзе некуды. І тады сапраўды, не хочаш, а мусіш зрабіць тое, што акадэмік, навуковы кіраўнік інстытута мозгу Н. Бехцерава наракла "Out the body" – выйсцем з уласнага цела. І гэтае выйсце, пазбаўленне ўласнага цела пачалося зусім не сёння. Працэс пайшоў, па сярджэнні чалавека вельмі ж дасціпнага, даўно і з тае пары паспяхова працягваецца кожную хвіліну не адзін дзень і нават год. Безупынна.

"Out the body" – гэта тое, што са мной адбываецца цяпер. І каб толькі са мной. Нас безліч сёння, абесцялешаных, абалонкавых на гэтай юдолі, святой, па словах У. Караткевіча, калодніцы зямлі. Па прасёлках, дарогах, гасцінцах, а больш на раздарожжы. Яшчэ ж больш стаілася па хатах, якія даўно ўжо нават не нашыя. Божыя і божавільныя. Людзям у сваёй хаце ўжо няма і прытулку. Гоняць і гоняць іх у белы свет, што таксама даўно ўжо не белы.

Яны высяліліся з сваіх хатаў, высяліліся з сябе. І дзе дзенуцца, куды пойдуць і кім будуць – непрадказальна. Ці магчыма вяртанне ў сябе, у сваё ўласнае цела, калі ты пакінуў яго. Калі ты толькі прывідная абалонка чалавека. А сам ён выгарэў, выпаліўся. І толькі попел, попел курыцца па ўсіх расстанях, абвязаных рушнікамі крыжоў, распнутых прыпарогаў колішняга твайго жытла. Толькі знакаў яго.

Мы чапляемся за гэтую знакавасць, як за вечнасць. На самой жа справе гэта ці не кручок, на які мо тая ж вечнасць падлавіла і злавіла нас, які мы па сваёй ахвоце заглынулі ці не тады яшчэ, калі займелі толькі жабры. Падсеклі, пацягнулі і выцягнулі з кволага нядаўна набытага цела. Самі пажадалі выцягнуцца: котку згубіла цікаўнасць і дапытлівасць. Пажадалі, здаецца, дзеля сваёй жа карысці – дзеля свайго ж працягу.

Ці не таму праклятыя і праклінаем сябе, не маючы ні здольнасці, ні магчымасці вярнуцца да таго, што раньш было. Хоць крыху ды што-небудзь перамяніць у мораку сваёй зданевай сутнасці. Хутчэй таму, што звыкліся. Не проста ж так кажуць: чалавек – такая скаціна, што да ўсяго прывыкае. І мы ўжо падабаемся самі сабе. Нам даўно ўжо ўтульна, цёпла і звыкла ў непрытомнасці дараванага нам нябыту.

Гэта я зведаў на сваёй скуры. Мой пачатак, як, пэўна, у шмат і шмат іншых, – летаргічная, побытавая і паўсядзённая замглёнасць свядомасці. Своеасаблівая клінічная смерць без супраціву жыццю і рэчаіснасці. Толькі ў адных такое доўжыцца без просыпу да канчатковага сыходу. Гэта шчаслівыя людзі ад нараджэння злучаныя і пазначаная вечнасцю. Ёсць парода людзей і зусім іншага кшталту. Зачынаецца таксама з пракаветнай клінічнай смерці, але ўвесь свой век змагаецца і супернічае з ёй. Бедакі, якім на лёсе напісаны толькі паўсядзённыя пакуты, старцаванне. І ніякага намёку на долю і раяванне на гэтым свеце. Як, дарэчы і на тым. Сорак саракоў, сорак грахоў гоняцца за імі.

Паміж гэтымі двума пародамі небарак пралягае і размежаванне, сярэдзіна. Якраз на гэтай без канца і краю сярэдзінцы месцяцца і шматлікія трэція, здольныя далучацца да адных ці другіх, якія змагаюцца за іх, любяць іх, як воўк кабылу, у якой яму недаспадобы толькі хвост ды грыва. Гэта і ёсць тыя трэція, якіх дзяруць, што лыка, збіваюць на горкі яблык з двух

бакоў. Б'юць, калі аб'ядноўваюцца абодва крайнія, да якіх яны горнуцца з міралюбствам. Дае кухталяў цішком кожны паасобку з іх пры замірэнні. На ўсякі выпадак: бі сваіх, каб чужыя баяліся.

Такая ўжо спрадвеку ў нас завядзёнка. Вышукваць і зводзіць непадобных, лепшых, бо жаба душыць, з зайздрасці, пустазельнай невынішчальнасці. Нашай славутай памяркоўнасці, ад якой так свярбяць рукі. Даўно і трывала ўкаранёна: быў бы чалавек, за што забіць яго – заўсёды знойдзецца. Варта толькі пачаць, а потым з дубінкай і пад д у б і н у ш к у само пойдзе. Асабліва пасля першай кроплі крыві, хрышчэння kроўю і страхам. Страхам незваротнасці сябе, азвярэння. Прагі да крывавых чорцікаў уваччу болю і страху. Болю і страху іншых, чужых. Бо толькі адзіна гэтаму сёння пакланяюцца і ў гэта адзіна вераць.

Таму ж, каго зводзяць, нішчаць, няма калі баяцца, аддавацца сваім страхам і болю. Такое ўжо іх наканаванне. *Out the body.* Клінічная смерць са спрадвечным выйсцем, пазбаўленнем уласнага цела. Бо таго, пра што не ведаеш, – няма. Гэта мо толькі недзе, дзе і нас няма. Няма і не можа быць таго, што заўсёды з табой і пры табе. Усё існае, лепшае – толькі ў чужых руках і на чужыне.

А вось страхі мае і мой боль... Дзіўна, вельмі дзіўна – цела няма, сам я мо ад нараджэння ў стане клінічнай смерці, а страхі і боль жывыя і непадробныя. І па ўсім целе. Страхі паўзуць па мне, па маёй скуры, як шматногі аглаед вусень па свежым лісце бярозы, які абраў на спажыву сабе.

Я адчуваю брыдоту і погань яго паступальна ўпэўненага руху. Скаланаюся, спрабуючы страсці. Але ў нашым узросце вусені ўжо не страсаюцца. У іх валасатыя і ўчэпістыя ногі, напрыканцы якіх кручкі. Кручкі, якімі ўшчамлёна ўсё мае цела, нададзенае дваццатым, спрэс тэхналагічным стагоддзем, не заўсёды паслухмяным і падпарадкаваным мне. Таму я час ад часу губляю яго, выходжу з уласнага цела. З яго рошчынна-дрожджавага цывілізаванага сучаснага змесціва – спалучэння быцця і небыцця, розуму і вар'яцтва, тагасветнасці і свету зямнога. З чаго якраз і створаны, зляпаны я зараз. Створаны падманна, гвалтоўна і штучна нададзенай мне энергіяй сілы і магутнасці. Энергіяй страху.

Страхаў, што ажылі пасля таго, як усё ўжо было, ачуліся і акрыялі. Абрынуліся, праліліся на мяне і зямлю запечана-ссінелымі злоснымі дажджамі і залевамі. Жоўцю прыпалі да вясковых і незаасфальтаваных гарадскіх вуліц, дзе зямля яшчэ здольна дыхаць, аказваць сябе. Зашугала чаромхавым полымем, неахопнымі і палкімі шашлычнымі вогнішчамі пад баравую і дуброўную дзічыну, якраз на святы тыдзень з памінальным жалобным днём, усё палескае наваколле. Заплакала роспачным галашэннем кароў, непаразуменнем і немым дакорам пакутніц звекавалых ужо тут удоў былой гітлераўскай і сталінскай навалы. Апякло сухім халодным жарам неспатолена высмяглых вуснаў пераможцаў, што нястомна, нават на хаўтурах, сцвярджалі: «жызнь хараша і жыць харашо», не зважаючы на тое, што жыць няма ўжо каму і няма дзе.

Ці не як вынік гэтага, маны і бяды, з сусветнай планетарнай прасторы, мірыядна касмічнага часу і пракінуўся, выпнуўся паперадзе мяне бясконца крывавы язык. Даводзілася толькі дзівіцца, калі і як ён з'явіўся, з якой такой глоткі, пашчы, зяпы вылузаўся. Спачатку, здаецца, нават не без гожасці і прыцягальнасці кінуўся пад колы майго легкавіка. Выхапіўся з аціхлага змардаванага Гомеля, падобны да звычайнага айчыннага колеру і

кшталту, у ямах і калдобінах з растаптана хвалістымі, пральна спатыкачнымі звівамі і чаканымі нечаканкамі брудна-чорнага асфальту. Але ён, звыклы і любы воку ці не ад скокаў па ім да ўзрушання мазгоў, незаўважна пачаў пляміцца і чужэць. Такая ж адчужанасць ад дарогі і самога сябе неўпрыкмет апанавала і мною. Свядомасць зрабілася крохкай і пачала слаіцца, драбніцца. У мяне нібыта ўводзілі іншую рэчаіснаць і праграму паводзін. Надавалі новае, незразумелае і чужое, бязважнае існаванне.

Я апярэджваў вокам і свядомасцю дарогу, як гэта бывае ў дзяцінстве, калі гуляеш у даганялкі, дзе ўсё вырашае хуткасць, і ты аддааны ёй, нічога не бачыш ні збоку, ні пад нагамі – толькі нейкую кропку наперадзе, што ўвасобіла ўвесь белы свет і цябе. І ты спачатку бегам, а потым і лётам ужо зніцаваны кожнай дрогкай у табе жылкай неадрыўнасцю, нязрушанасцю нават павек з той кропкай. Засяроджаны на ёй так, што аж прымушаеш рухацца, імкнуць насустрач табе. Кіруеш і адухаўляеш неадухаўлёнае і нерухомае.

Але на жаль, сёння гэта застылае і неадухаўлёнае, ачужанае і абыякавае да цябе, назаўсёды адмерлае кіруе, міфічна ўладарыць. Ці не ўсе мы ад нараджэння яшчэ аблытаныя гэтай міфічнай павуцінай, прывабнасцю метастазаў перастворанага мінулага, асталыплена заарыштаванага будучага. Здаўна, падобна чарнобыльскім каровам, у клетцы на відавоку не толькі ўсяму існаму тут, на Зямлі, але і космасу, перад якімі мы безгалосыя, як і яны перад намі. Хто нам наканаваў безгалоссе – пытанне не да мяне.

Але мне ўзамен голасу, як напамін ці намёк на яго, пакінуў цяпер ужо не плямісты, а спрэс чырвоны язык дарогі, выперты, выцягнуты ў напрамку майго руху. Не выключана, што і мой. Невядома толькі – колішні, сённяшні, будучы. На здзек і вырак, пакаранне ці літасць. Падобна, толькі-толькі па жывому выдзерты і вузенька ў аздобе зеляніны абочных хмызоў і лесу сатвораны, як нейкі знак мне, – майго яшчэ існавання ці ўжо небыцця.

Свежасатвораны ці не з найноўшых ужо міфаў і падманаў мо ў прадбачанні майго тут з'яўлення. Ён яшчэ парна і асвежавана-чырвона крывавіць, чаго пазбаўлены ўляжалы асфальт. Курыцца зрэджаным рудаватым туманком пакутных выпарэнняў, спробай пачатага і перарванага выдыху. Падманам перарабленага мінулага, нязбытых сапраўднага і будучага, пахаваных на скрыжаваннях, адвечных могілак вякоў і эпох, напакаваных нежыццю зданяў. Зданяў, у якіх нас прымусілі верыць, што назаўжды ўвайшлі ў нашую кроў, у крывавую чырвань нашай скручанай гісторыі. Вялікія і нікчэмныя цені нязбытага і неіснага.

Адпаведна, неіснавальнасць, небыццё і самога мяне. Я даўно спатыкаўся на неіснуючым сабе. Здагадваўся пра гэта са сноў. Мо адзінай, не папраўленай і непрыхарошанай праўды на гэтым свеце. Існай праўды пра нас у прасторы, часе і сусвеце. Здагадваўся, падсвядома ведаў і зацята адвяргаў веданне. Па сваёй жа ахвоце і пад прымусам. Як тая старая, што на схоне жыцця атруцілася грыбамі. Ведала, што яны атрутныя, супраціўлялася. Але ела, ела, жавала пянёчкамі астатніх старэчых зубоў. Бо хто ў яе пытаўся, хоча яна есці тыя грыбы ці не, – кармілі гвалтам.

Так і я, хоць і заслеплена, але згодна спажываю ўсё, што мне даюць, у тым ліку і самога сябе, ужо атручанага. Бо і ў мяне ніхто не пытаецца, ці даспадобы гэта мне. Усе мы на гэтым свеце карытнікі. Апроч мо толькі жменькі абраных, якія ведаюць і распараджаюцца тымі ж грыбамі. Але яны атруціліся імі раней за нас.

У дакор, а мо і наадварот, у апраўданне, павінен адзначыць, што я, як ці не кожны з нас, хоць і абураюся, наракаю, але ціхенька, у кулак, і кулак той з кукішам, трымаю ў кішэні, бо да сырой зямлі замоўлены з белым светам, прыкуты і да дарогі, што выпала мне зараз. Я ў змове з ёй – вечная маўклівая змова і пагадненне ката і ахвяры. Самастойнае паасобку існаванне іх немагчыма. Яны ў повязі, як хатнія кот з сабакам. Хата іх адзіны гаспадар, як мне дарога, а я – дарозе. На яе языку, што ці не дамагаеццца мяне паспытаць, з якога-небудзь боку, а то праглынуць. Я ж хуткасна адбіваюся, не даюся. І зусім не таму, што ваяўнічы і непакорлівы, буйны – узрос жа на хлусні, ад яе і з ёй пайшоў на людзі і ў людзі ды ніяк не вярнуся з іх. Далёка, далёка зайшоў па падманных сцежках і дарогах удаванага паразумення з усім існым. Вадой, небам, зямлёй. Згодай з тым, што ад мяне патрабуюць, пакорай да таго, што ёсць, будзе і застанецца.

Спачатку нават не сцяміўшы гэтага, якраз на тую хвіліну, калі мне яно цюкала ў галаву ці нехта нагаворваў, я і згубіў, страціў адчуванне свету. Мы з ім адначасова ў той ці іншай ступені, што завецца *out the body* – выйшлі з уласнага цела. Зямля пазбавілася яго. Тое ж адбылося і са мной. Мне гэта, спадзяюся, мо і даравальна. Я ж толькі пясчынка, бляклая кропелька ранішней расы ці крыві ў стваральнай гліне, торфе задумлівага і не ачулага яшчэ Палесся, у якім на імгненне праблісну і таксама імгнення знікну, патухну. А Зямля – несмяротнае ўлонне незнішчальнай жарсці апладнення сусветна карыснай, хаця часам і непатрэбна гідотнай існасці.

Чаму ж яна са мной так? Хаця ў мяне цяпер і недахоп клёпак, але і рэшткамі іх я няздольны прымірыцца са стратай розуму Зямлі, што высалапіла і кінула мне пад колы гэты доўгі і ўсцяж чырвоны дарожны язык, падобна нобелеўскаму лаўрэату Эйнштэйну. Таямніча ўслед і насустрач мне выродліва, здзекліва, грэбліва пасміхаецца з мяне, як і з усяго чалавецтва, векавой неразгаданасцю ўсмешкі Джаконды.

Дарэчы, той геній пісаў у сярэднявеччы неразгаданыя і пасёння вусны сваёй Джаконды дванаццаць гадоў. А я – напрыканцы дваццатага стагоддзя, мне край трэба ехаць, хоць і нікуды. І зусім не па дарозе з геніямі. У іх свой клопат – дванаццаць гадоў маляваць жаночыя вусны і некага пацвельваць языком – у мяне свой. Каля іх і з імі мне не горача і не холадна. Бо за імі змрок, змрок. Той жа, хто пішчом лезе да іх, стаць з імі на адну нагу, ужо не з намі, страчаны ўжо. А за мной толькі гоніцца страх прыгаворанасці, мноства аб'яднаных страхаў, што ажылі ўчора і толькі апладніліся розумам сёння ці рыхтуюцца яшчэ ім апладніцца заўтра. І ўсе яны адначасова смяротныя і вечныя. Такое ўжо наканаванне нашых дарог і сцежак – стаптаных, парослых травой небыцця і яшчэ не пракладзеных.

І я ў сваім лёсавым падарожніцтве знакава злоўлены, падвешаны ці ўкрыжаваны – распяты на расстрэльна прамой дарозе часу і няўчасся, на гэтую хвіліну – шашы Гомель-Навазыбкаў, што, здаецца, ціхамірна, міралюбна стаілася пад блакітам нябёсаў і ў той жа час збалела сукравічна ахоплівае мяне чырванню крывавячых абдымкаў. Я няздольны выбавіцца з іх. Я тапелец у рацэ лёсу і часу, змушана і прыкута схаваны ў гэтай вымарачнай плыні немачы і немасці дарожнага языка. Дарогі, па ўсім, пракладзенай не так даўно і мо толькі мне, сатворанай невядома кім –жывымі ці мёртвымі – са спакусліва вытанчаным, скажона перакручаным густам, хутчэй нават незямным. Прыцягальнасць неспазнанасці і ў той жа час непрыймальная брыдкасць найбольш узрушваюць, трывожаць і пужаюць мяне.

Я ў палоне зямлі і сусвету, часу і прасторы з-за немагчымасці і нежадання збочыць, спыніцца, адвярнуць з бальшака направа ці налева. Хаця гэта і вельмі проста. Прасцяг языковай, гасцінцавай дарогі, як праваслаўны крыж у атожылках прасёлкаў. Толькі перад кожным з іх пагрозліва папяраджальны вокрык: “ Съезд на обочину и остановка строго воспрещены.” А над воклічам не менш пужаючы трылiснік рамонка, пэўна, гадальна ўжо выкарыстанай некім на любіць не любіць, бо на ёй толькі тры пялёсткі з прадказаннем: к чорту пашле. Даваражыўся нейкі нябога- варажбіт.

Але мне гадаць не мае сэнсу. І так ведаю: “У 1986 годзе Навазыбкаўскі раён быў забруджаны радыёактыўнымі ападкамі, прынесенымі з места аварыі Чарнобыльскай АЭС. У першы год пасля аварыі сярэдняя эфектыўная доза апраменьвання па дадзеных міжнароднай экспертнай групы склала 10,0 мЗв /1,0 бэр/. Магутнасць дозы гама-апраменьвання ў маі на тэрыторыі горада дасягнула 5000 мкр/г...”

Для мяне гэтыя лічбы – пусты гук. Нас даўно ўжо імі дурацъ, суцяшаюць, тлумяць галаву так, што нам навуковая і ўладная балбатня да лямпачкі. Ільіча, вядома, да тае пары, калі і адкуль у нас пачалі расці ногі. Страх жа ў іншым: у супакойным сцвярджэнні, што гэта ніколькі не страшна і не балюча. Накшталт звычайнага рэнтгену зуба. Ці не так загаворваюць тыя ж зубы трусам, лякуюць іх нільскія кракадзілы. Нашыя мясцовыя кракадзілы ніколькі не саступаюць ім, а ў нечым нават і пераўзыходзяць – у навешванні локшын на вушы згаладаламу па праўдзе люду. Забароннасць супынку і з’езду на збочыну – крок налева, крок направа ў атамнай, як і ў лагернай зоне, прыраўнены да ўцёкаў – гоняць і гоняць мяне наперад. Гоняць яшчэ і таму, што там, наперадзе, нешта, падобна, праблісквае, языкова крывавы шлях, здаецца, звужаецца і заканчваецца, сыходзіць на нішто. Адвечны падман зроку – дасягальнасці даляглядаў, перспектывы, накшталт хуткай пабудовы камунізму. На самой жа справе нашае светлае будучае, перспектыва яго нам, такая ж, як і ў вавёркі ў коле: што ўжо займелі, што ўжо ёсць і было – тое застанецца і будзе.

А радыяцыйнага страху няма. Усё да жудасці, пагарды і грэблівасці да самога ж сябе вытлумачальна, вызначальна і проста, як два пальцы аб асфальт: я беларус. Двойчы нават беларус – паляшук. Таму да жаху памяркоўны і законапаслухмяны. Нас сам Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя, Зімянін успамінаў, не здолеў зразумець: “Что за народ беларусы? Другие бы уже ревмя ревели, а эти молчат, терпят.” За гэта, пэўна, нас увесь свет, асабліва старэйшы брат, любіць і шануе. Таму ж, пэўна, у кожнай яго бойцы мы страчваем трацiну, палову, а то і дзве трацiны саміх сябе. Цяпер жа з яго ласкі маем шанец і ўвогуле знікнуць.

Але мы спакойныя. Зноў жа, пэўна, таму, што л*ю*быя ўсяму свету беларусы, звыклыя да быцця, напаўбыцця і небыцця. Столькі і ў такой колькасці неўсвядомлена каналі, падалі долу ў стагоддзях, што адным разам болей, адным меней – можна і не зважаць. Дый увогуле наш беларускі страх нешта вельмі айчынна-адметнае, мо праз гэта з цягам часу і прывабнае нават. Не заўсёды мы пасняваем і ачомацца, ачуцца і спужацца.

Аднойчы я вёз свайго аднавяскоўца з Палесся ў сталічную бальніцу на аперацыю. І на паўдарозе мяне падрэзала на абгоне спадарожная машына. Справа была зімой, шаша слізкая. Я на тармажэнні юзам пайшоў у кювет, выратаваў сумёт згорнутага на абочыну снега.

– Спужаліся? – спытаўся я ў свайго дзядка-пасажыра.

– А ты ведаеш, нiколькi не спужаўся. Не паспеў.

У ягоным адказе была невядомасць, расклад на два бакi: што лiтасцiвей – сканаць iмгненна на дарозе цi пакутаваць пад нажом сталiчнага хiрурга, якi да ўсяго непрыгожа i брыдка парушыць яго цела, якому ляжаць у труне навiдавоку аднавяскоўцаў. Выбар быў невялiкi, але адвечнага палящуцкага розуму хапiла: тут ужо што на родзе напiсана. Смерць – гэта тое, што непазбежна, па за табой i без пытанняў. З ёй загадзя не згаворышся. Нiякiх абставiнаў яна ў разлiк не прымае i хабару не бярэ. I мы прымаем яе, як прымаюць як нованароджанае дзiця, жонку ў хату i саму сваю хату.

Вось такiя мы, беларусы. Вечныя i iмгненныя. Гэта я без пахвальбы i наракання: уродзiцца цялятка з лысiнкай – з лысiнкай i на той свет пойдзе. Сваю беларускасць я на ўласнай скуры i ўласным сэрцам зведаў. Страх сыходу i нябыту – удаваны, надумлiвы. За iм толькi iмгненны пробліск журбы i смутку. Але калi ўжо па-сапраўднаму, незваротна i назаўсёды прыгарнулася да цябе мацi-зямля – спакой i натхненне вечнага спачыну. Са мной так было незлiчона разоў. I каб толькi са мной. Дзецi вайны – а гэтае пакаленне ў пэўны час уся Беларусь – памiралi i ў саму вайну, i па яе заканчэннi зацягнута i цi не штодзень.

З усiх сваiх памiранняў нiколi не забуду два. Я ўжо цалкам быў там. Тунэлю, пра якi сведчаць вымушаныя тагасветнiкi, не зведаў, неадчувальна i бязважка працяў святло i цемру. Усплыў у тумановай шэранi, дзе мяне, падобна, ужо чакалi мае крэўныя нябожчыкi. Мацi, сястра, бабуля, бацька. Чакалi, але сустрэлi, папёрлi назад з шэранi ў святло, з святла – у цемру, а з яе зноў у святло. Такое ж, якiм я яго i пакiнуў. Гнуткiм i доўгiм, зусiм не тагасветным дубцом папёр па маўклiвым загадзе: мацi – вачыма i кiваннем галавы – бацька.

– Рана табе яшчэ сюды. Рана...

Былi, былi гэтыя словы. Менавiта гэтыя, прамоўленыя без зямнога дакору, абрыўна i без працягу. Назаўжды ўпiсаныя, уплясканыя ў мяне. Так гаварыць, прыгаворваць можа, пэўна, толькi вечнасць i тагасветнасць, рай цi пекла.

Я мо б i заўпарцiўся, занатурыўся на пустым месцы, як гэта не аднойчы адбывалася са мной у дзяцiнстве. Але надта ж здзiвiла тое, што i на тым, невядомым мне свеце мае крэўныя нябожчыкi былi ў той жа беднай апратцы, што i на гэтым – старцам i рай не ў рай, нiчога не кажучы ўжо пра пекла. У чым спасцiгла iх дачасная ваенная смерць, на што зарабiлi на грэшнай зямлi, у тым небаракi хадзiлi i там. I пацёгся я, бегам пабег з таго свету, абражаны i пакрыўджаны.

Зусiм па-iншаму было, калi мяне на насiлках укiнулi з iнфарктам у рэанiмабiль. Там я раскашаваў да нежадання нават зварухнуцца. Упершыню заплюшчанымi вачыма, спавiтым як у дзiцячай калысцы нерухомым камяком цела, убачыў i адчуў прыгажосць i пяшчоту ласкавых зорак, нiбыта дзявочыя вочы азiяцкiх прыгажунь з iх своеасаблiвай, умыўна абвалакальнай прыгажосцю, адкрытых мне для праходу ў нябыт. I цяпер я не прэч быў вярнуцца ў той лютаўскай сiбернай пары рэанiмабiль.

Але гэта мроi i лiрыка таго, колiшняга жыцця. Калi ўжо ўсё было i адбылося. З сутыкнення тагасветнага i зямнога выiскрылася новая сапраўднасць. Энергiя страху i бясстрашнасцi, розуму i вар'яцтва жывых i памерлых. I была мёртвая дарога з высалапленым у пакутнай агонii барвовым языком, крыжова сукравiчным атожылкамi па абодва бакi, угару – у неба

і ўніз, у зямлю, ў яе глыб. І ніхто па той дарозе не ехаў і не хадзіў, апроч мяне. На ёй панаваў страх. Далеч і блізкасць, дзень, час і прастора агані-завалі страхамі і вінаватасцю. Бальшак, гасцінец, пракладзены ў нікуды, не дзеля наступнага дня, што мае быць ужо заўтра, праз адну толькі ноч, а ў неіснасць, вечны змрок і цемру.

І ў тым змроку, у той цемры, злеплены з іх непрагляднасці і адмаўлення ўсяго існага, я. Тварэнне невядомага сусвету, чорная дзірка космасу, а хутчэй – нашай жа тагасветнасці. Выхадзень, а мо і выпаўзак са свайго ж уласнага цела, невядома кім і за што пакаранага і праклятага. Out the body.

На барвовым языку дарогі я прыглядаюся да гэтага выхадня, прыхадня, выпаўзка з няведамых светаў. Да самога сябе. Прыглядаюся з цікавасцю і, прабачце, не без прыязнасці. Але як ні стараюся, не пазнаю ў ім сябе, хаця, не выключана, адмаўляюся прызнаць: на самой справе на ўсім белым свеце страшней за самога сябе, праўды пра сябе – нікога і нічога няма.

Не і не, не ўгаворвайце – гэта не я. Я зусім, зусім інакшы. Згодны, не лепшы падарунак жанчыне на восьмае сакавіка ў дзень яе свята. Але ж, калі не знешне, то ў душы цалкам людскі і ў мяккіх і светлых кудзерках. А гэны, што агарак чорны, вылюдак. І хістаецца, як п'яны ці снулы. А я і па-за сваім целам яшчэ жывы, жвавы і дзейны. І толькі праз гэта – жывы і дзейны – я пачынаю ўсведамляць недарэчнасць сваёй жывасці, несапраўднасці.

На гэтай апраметна-пякельнай дарозе я адзіны, як крыж на голых грудзях верніка. Адзін ва ўсім белым свеце. Нікога ні насустрач, ні наўздагон, ні пешшу, ні конна. Аніводнай хаты, вёсачкі, чалавека –анікагусенькі, хто б падаў мне знак, што я сапраўды жывы, ёсць. Сведчанне і знак, без якіх чалавек – неіснавальны, бесцялесны і несапраўдны. Здань, нябожчык, не-людзь. Каб атаесамліваца на белым свеце, ці не ўсе мы цалкам складзены з пабочных, чужых пазначэнняў нас людзьмі і наваколлем. Толькі праз іх мы спазнаем, што жывем і ёсць. У пустаце ж – пуста. Мы да зрэнак вока ўбіраем у сябе таксама ўсё знакавае, існае – імгненнае і вечнае, нават змены пары года. Снег, дождж, звера, камара і муху. І таму ў хаце і па-за яе парогам я вітаю ўсё, усіх і кожнага: чалавека, жабу, птушку. Вітаю, прызнаю і пазнаю самога сябе на гэтым свеце. Цяпер жа мне няма каго вітаць, як і мяне некаму вітаць. Нават плюнуць мне ў вочы ці плечы няма каму. Нікога і нічога жывога паміж маім вокам і вачыма наваколля на мне. Ні душы, ні вока.

А як жа раней было хораша і люба. На шашы Гомель-Брэст мяне перастрэў зубр. Я спыніў машыну і подбегам кінуўся да яго, трымаючы на распасцертай насустрач абранніку вякоў восеньскі крамяны яблык: сведчанне прыязнасці і міралюбства, як мо падносіла і трымала яго перад Адамам толькі Ева. І зубр, як Адам, прыняў мой дар. Акуратным маленькім роцікам злізнуў яго з маёй рукі. Захрумкаў ім, не выраніўшы ні соку, ні сліны на зайздрасць беларускім дзядкам, сапраўдным, а не міфічным пакутнікам і ахвярнікам Сусаніным, партызанам з атраду Каржа. Чым не тайная *вячэра* праз стагоддзі на росстанях палескіх дарог.

А некалі я таксама быў у дарозе на рыбалку ці грыбалку і ў перадчаканні любага мне занятку імчэў з хуткасцю значна большай за сто кіламетраў. На такой шалёнай хуткасці і выйшла паперадзе мяне ласіха з цяляткам, прышнураваным да хвосціка маці. Збочыць было некуды – толькі ў хвою, – тармазіць позна. Я адно паспеў скоса кінуць вокам па баках, ухапіць

у бясхмарным небе крышачку яго роўнядзі і блакіту і прыгаворана прыпаяўся пальцамі да стырна, яскрава і бессаромна цікуючы за абыякавай бязлітаснасцю набягаючага на мяне журботна чорнага афальту, аціхлай хвойнай сцяной збочыны, выразна ці не смяротна пахка ўжо дыхаючай мне жывіцай. Слыхам ловячы тое, чаго за пошумам рухавіка машыны, а мо ўжо і вечнасці, мне не мажліва было чуць. Але я чуў. Арагавела капытны цокат маці-ласіхі і не заўсёды патрапляючы ў лад яму, дробненькі і ў падбор цюк-пацюк цяляці.

Я ўжо насоўваўся на гэтую салодкую парачку, што аніяк не зважала на мяне, занятая толькі сабой, толькі тым, каб перайсці шашу. А там хоць трава не расці, хоць неба перакуліцца: гары яны гарам. Мы будзем ужо на другім баку, сярод свайго лесу. А вы заставайцеся са сваім глупствам на сваіх вар'яцкіх дарогах і не замінайце нам – дабром не кончыцца. Мы ніколі не саступім з векавых сваіх сцежак. Хадзілі па іх да вас, ходзім пры вас. Будзем хадзіць і без вас.

Пэўна, ні мяне, ні ласёў на тую хвіліну ўжо не было на гэтым свеце. Але я яшчэ паспеў звярнуцца сам не ведаю, да каго – паўсюднага, заўсёднага, што над усім і ўсімі. Умольна, але адначасова і з папрокам прасіў свайго і ласінага ўладара прадухіліць тры заўчасныя памiранні. Аддаць і надаць зверу звярынае, а мне людскае: пракаветную перасцярогу і абачлівасць ласю, а мне літасць, міласэрнасць боскага запавету – не забі. Таму што толькі так мы сёння і надалей узаемна ўратаваныя будзем.

Не ведаю, ці нехта пачуў і прыслухаўся да мяне, але час як запаволіўся, наогул спыніўся. І прастора перайначылася. Адхлынула адлегласць, што амаль усытыч наблізіла мяне да ласяняці, вымушаючы смяротна пратэстава скручвацца і віхурыцца на яго падхвосці ворс. Цяпер жа ён аблепна супакоіўся. Усё навокал – ласіха з ласяняткам, рух маёй машыны, бег шашы пад яе колы, наплыў хвойнай збочыны, суцэльна зялёны ручаёвы цёк травы там жа перапыніліся. Помнікава застылі, нібыта ўжо ў вечнасці, як на маўклівым камені застывае на вякі немы адбітак колішняга жыцця – след звера, пялёстка даўно спрахлай кветкі, сама кветка, мураш у бурштыне. Пасланне часу аб тлене і нятленнасці Божага свету.

Вечнасць і яе нябыт ахуталі мяне. Але ў іх меліся фарбы, колеры і нават пачуцці. І я, таксама пачуццёва, успрымаў іх: маці ласіху ў хвастовай повязі са сваім дзіцем, асцюковую шэрань з сівізной ільсняна прырослай да іх скуры жывой поўсці. Маці, пагардліва ўзняўшы галаву з такой жа, уласцівай толькі розуму пагардай, паварушвала ссінелымі, як ад хімічнага алоўка, губамі, дажоўвала нешта лясное ці абочыннае. Як сёння на вуліцах моладзь бяздумна жуе гумку. Ноль увагі на мой легкавік, яго механічную пагрозу, на стоены ў яго сярэдзіне мой жах. Ніякага хвалявання за нашчадка, якому сама ж дала жыццё. Лярва, заведзена абыякава перабірала мадэлёва схуднелымі сцёгнамі, выпетранамі, пэўна, усё ж нашчадкам.

Няўвага, не стоеная абыякавасць да матчынага, свайго, а ў тым ліку і да майго лёсу, былі і ў цялятку. Гадзік, не адарваў нават галавы ад матчынага хвосціка, унюханы ў яго і цалкам яму даверaны. Дзіця ёсць дзіця, хоць і звярынае, жыццё і розум на пачатку матчын.

Як мы размінуліся, бажуся, не ведаю. Нехта развёў нас. Не ласёў і не мой то быў лёс – сутыкнуцца і нарабіць адно аднаму шкоды. І што дзіўна, я нібыта ведаў пра гэта загадзя, як знак на жыццё. І мо таму, калі я ўжо апынуўся на абочыне, плазам упаў у траву – ні кропелькі страху,

які, па сведчанні нашых бацькоў, нарадзіўся раней за нас, які апярэджвае і папярэджвае нас, калі мы ступаем ці пераступаем нейкую нябачную рысу. Мяжу, за якой ужо няма вяртання да сябе, да чалавека ў сабе. Страх – наш анёл і ахоўнік у спалучэнні з вінай.

Не ведаю чаму, але мной валодала адна толькі вінаватасць. Глухая, цяжкая і невыносная. Пэўна, нават не мая. Адвечная нашая вінаватасць без віны. Адметнасць беларуса, у якога нехта нячутна ці не спакон веку пытаецца: Каін, дзе брат твой Авель. А ён жа зусім не Каін. І ў яго ніколі не было брата Авеля, бо Авель – гэта сам ён, няздольны адначасова быць забойцам і забітым. Але атрымліваецца – можа, можа. Так яму наканавана. Недарма каторы ўжо па ліку з нашых прарокаў пытаецца і адначасова сцвярджае: Беларусь мая магіла.

Я неадчэпна на кручку гэтых пытанняў і сцвярджэнняў, згоды і адмаўлення. У спрадвечным палоне вінаватасці, страхаў і па дзіцячы зацятага непрызнання іх. Боязна і стоена, сарамліва жыву, дыхаю насуперак усім і ўсяму, больш і найперш – сабе, непамыснаму былому, мінуламу і няспраўджанаму сённяшняму, мройнаму і зыбкаму будучаму.

Адсюль, пэўна, і Навазыбкаў, і мая ці не лёсавая, пакутная да яго дарога: крывавы выскал часу і няўчасся, забаронна перасцярагальныя шыльды: «Остановка и съезд на обочину строго запрещены!» Каляровы трохліснік рамонка, на якім ужо нехта пагадаў – да чорта пашле. А ад мяне ні знаку. На ёсць, быў, буду – і намёку няма. Нават усхліпна віхурнага следу ўскуранага за мной паветра, пылу.

А ў мяне нязбытнае адчуванне, што я ўжо праходзіў праз гэта, такім жа крывавым гасцінцам. Толькі было гэта, калі мала яшчэ чаго было з таго, што на жаль ці шчасце будзе потым, сёння, цяпер, зараз. Але людзям на бяду ўжо ўсякай немачы хапала.

Горад, спавіты вечна зялёным кедрачом, люляўся паміж нябёсамі і долам, як перліна ў ракаўцы. Асабліва гожа, казачна выглядаў зімой, уначы. З долу падсветлены электрычнасцю пасярэдзіне, а па баках – у бялюткім сабаліным манто глыбокага сібірскага снегу. Увогуле снег толькі выдаваў на бель, як і футра собаля. Снег быў белы з блакітам, але калі свежы, калі ён нават яшчэ падаў. А клаўся на зямлю ўжо іскрыста падсабоненым, чарнявым з сівізной, як і большасць мясцовых людзей. Горад быў шахцёрскі, і чарнявым у яго было не толькі ўскраіннае падвочча, але і вейкі амаль у кожнага з мужчынаў. У некаторых жанчын – іх тады яшчэ не вывялі з шахтаў – яны таксама былі такога ж колеру, без навядзення тушшу ці алоўкам. Жанчыны, як і ў вайну, рабілі пад зямлёй нароўні з мужчынамі. Адзінае паслабленне пасляваеннага часу – не ў забоі і не на праходцы. Колер усім і ўсяму чорны.

У тым горадзе зімой і летам цяклі чорныя рэчкі. У іх упадалі такія ж чорныя ручаі. Не замярзалі, бо з вугаляабагачальных фабрык ішла цёплая вада. У той вадзе вадзіліся і рыбы, таксама чорныя і без лускі. Іх так і звалі – гальяны. Каты імі грэбавалі, таму такой рыбы было багата. Да таго яшчэ і сляпой – цемры вочы непатрэбныя.

А яшчэ горад быў адметны тым, што ў ім час ад часу правальваліся, як у апраметную, знікалі дамы. Адны павольна паглыбляліся ў зямлю, іншыя праараблялі гэта хуценька. Стаяла, стаяла шахцёрская хатка, лыпала вокнамі на белы свет, і раптам тымі ж вокнамі лыпае ўжо амаль што з-пад зямлі: ці не з забою, у якім робіць яе гаспадар. Тагасветная правальнасць

наглядалася больш на тэрыторыі старых, ужо адпрацаваных і закінутых шахтаў. І таму насельніцтва пабудовамі ціснулася да ўскраінаў гораду.

Так каля тэрыкону адной адносна маладой шахты ўзнікла два новыя пасёлкі. Зразумела, самабуд. Адпаведна гэтаму назва аднаго Цап-царап, процілеглага – Царап-хап: не выключана, зямелі нашыя іх так, амаль пабеларуску, наракли. А на самой справе – ці не егіпецкія пірамідьі. Іх долавае жыццё пад вярчэнне і скрып сталёвых канатаў і кола, што падавалі на гару пустую шахтавую пароду, хоць і ішло адасоблена ад цывілізаванага цэнтру, было звычайным і звыклым працоўнаму чалавеку тае пары. Хапам і цапам ладзілі сабе кут, спраўлялі ўлазіны, вяселлі, нараджалі дзяцей, адзначалі хрэсьбіны, адбывалі хаўтуры.

У той дзень спраўлялі вяселле. Народу сабралася больш за сотню. А калі дакладна – сто пяць чалавек. Было сонечна. Але недзе ўжо пад трэцюю ці чацвёртую чарку нахмарыла. Пачалася навальніца, якой узрадаваліся: добрая для маладых прыкмета, а прысутным – лацвей п’ецца.

Першы ж гром, што ляснуў над пасёлкам, маланкай патрапіў у тэрыконнік, які і без таго няспынна, нярвова і задышна курэў, захлынаўся дымам, нібыта хтосьці каторы ўжо год распальваў там вялізную піпку, пасмоктваў яе ў сібірскім высокім і чыстым паднябессі, мружыў вочы, пыхаў падземным антрацытавым гарам у чорныя вусы. Як бласлаўляў, падаваў знак тым, хто ўнізе, пад ім, што ён не дрэмле і зверху бачыць усё.

Але агню вонкі не пускаў. Агонь дагэтуль, да ўдару маланкі, быў нябачны, нутраны. І такі, што папяліў не толькі рэшткі вугалю, які патрапіў у тэрыкон, але і негаручую пустую пароду, камень у помесі з гранітам і калчаданам. Выпальваў да попелу, праху, вохранай распаднай і пылаваразлётнай чырвані.

Маланка цмокам, казачным гадам асядлала дынамітна выбуховую гару, азарыла пахмурны дзень апякальна-зыркай чырванню, як кроўю яго спавіла. Вокамгненна святы нядзельны дзень заняўся і спрах у пякельным агні. Курны тэрыконнік выбухнуў спапялёным каменем, як запечанымі слязьмі апраметнай, яе шматпакутных грэшнікаў.

Ад вяселля, ад сто пяці чалавек на ім і аднаго царапнага пасёлка не засталося і следу. Больш за тое, ужо ў самым горадзе ў пакоі на другім ці трэцім паверсе перад адчыненым акном сядзела жанчына, карміла дзіця. Дзіця і жанчыну, голую да пояса, каля вакна спаліла, аплавіла, нібы свечку. Як сведчылі потым людзі і кампетэнтныя органы, тэмпература ад выбуху тэрыконніку перавышала дзве тысячы градусаў.

Але жахі таго дня на гэтым не закончыліся. Парэшткі згарэлага каменю разам з попелам пачалі вывозіць за горад і выбрукоўваць ім дарогі. А паколькі гара была вохрана, кінаварна чырвоная, то ў тых, хто па гэтых дарогах ездзіў і хадзіў, адразу перафарбоўваліўся, рдзянелі і барвовелі да чырвані абутак, апратка, твар.

Акрываўленыя людзі пайшлі па акрываўленых бальшаках і гасцінцах. Пярлінава-жамчужны, антрацытава-іскраны горад пераўтварыўся ў крывава-чырвоны. І рэчкі, і ручаі пацяклі па ім ужо не чорныя, а пазначаныя кроўю, што было і з травой, і з дажджом, і са снегам. Крывёю мітаточыла і неба.

Не выпадае, грэшна кожны раз азірацца, шукаць параўнанні, але значна пазней падсвядома неяк гэта звязалася ў мяне з нечаканым прыходам і падзеннем на мой ужо родны кут зоркі Палын, пасля якога ўсе воды адразу

робяцца горкімі. Гаркавасці з-за сваёй усяеднасці мы не адчулі, бяду ж атрутную, горкую займелі на тысячагоддзі. Ці не з той горкай бяды сёння мне і выпала гэта дарога з крывава высалапленым у стагоддзі языком.

Каюся цяпер, каюся. А тады, едучы па ёй, не думаў, што гэта не чыйсьці, а толькі мой пракаветны язык. Не, зусім невыпадкова і проста я распасцёрся, выйшаў на ім з уласнага цела. Мяне няйнакш навялі на яго далёкія і не пражытыя мной стагоддзі, ганебна патрачаная і збытая мінуўшчына. І зноў жа – нязбытая будучыня. Так неасэнсавана, рашуча і бязглузда я кінуўся ў прывіднасць свайго дзяцінства, не здагадваючыся, што, як кажуць кітайцы, марна шукаць у цёмным пакоі котку, калі яе там няма. Час не адкруціш і не павернеш назад. Тым больш, калі ён заўсёды нязменны, вечны, адзін і той жа. Мы ж па сваёй прыродзе, вечнай незадаволенасці, прагнем умяшацца ў яго. Авалодаць ім, перакруціць, збыць ці паўтарыць. Да чаго ж усё гэта марна і тлумна перад вечнасцю: што было – тое ўжо было. Іншае і інакшае мы надумалі ці сніснілі. Як я надумаў сабе і прысніў вяртанне ў маленства, што недзе заблукала ў прасторы і часе ды чакае мяне на ростанях дарог. Недзе, мо і на гэтым бальшаку да старажытнага Навазыбкава, да якога сёння я так марачна пнуся па гэтай збалелай дарозе невядома чыёй памяці. Да колішніх беспрытульнікаў – сябе і майго сябра па лёсе і казённым доме, дзетпрыёмніку Колькі Кацапа. Не выключана, прыдуманага мной ці саснёнага, як я, пэўна, сасніў і самога сябе. Таму што мне прыдумалі, нагадалі і жыццё, як ці не кожнаму з майго пакалення, і я няздольны адбіцца ад яго. Гэта немагчыма, няварта і нават непрыстойна. Гэта толькі там, тады.

А Колька Кацап з яго і маім Навазыбкавам усё ж быў. Мы з ім браты. Па часе, па лёсе, па веры – па зыбкасці існавання. Вечнасці і параднёнасці, якую нам замовіла нашая геаграфія і гісторыя: Зып – Зыпкаў – Навазыпкаў і нарэшце Навазыбкаў – крывінка, пясчынка былога нашага Вялікага Княства Літоўскага.

Мая памяць па страце сябе, выйсцю з уласнага цела бунтоўна вызвалілася ад майго ж беспамяцтва. Скрушліва і жалобна прымусіла, хоць і запознена, падсвядома ачуцца згадкам былога і нязбытага. Вярнуцца і паспрабаваць усё ж адказаць цяпер на такое складанае пытанне, дурылку маленства: “что делали греки в пятом веке. Почему они, наши греки, ходили пятками назад».

## ВЯРТАННЕ Ў ПАДМАН

Семдзесят шэсць кіламетраў крывавага быцця і небыцця. І нічога не зробіш. Я сам абраў гэтую дарогу. З пахмелля не прыдумаць. Толькі я быў цвярозы. За рулём усё ж. У машыне я ды жонка. Мо таму так марачна і пралёг мой шлях, падкінуў горшую з дарог. Толькі ўзнёсся я ці не на сёмае неба ад хуткасці руху, як адразу і абзямлячыўся.

Колішняя дарога майго сірочага беспрытульнага дзяцінства задушліва прыпала да мяне быльняковай спеласцю прадвосеньскага ўжо сіваватага дзядоўніка пры абочыне і каля платоў хат, ашчаперыла памяць россыпам і дробным рудаватым друзам таксама каля плотавых і абочынных ваўчкоў, якія ў маленстве за ўчэпістасць да калашын штаноў і нават намер кручкова прыпасці да голага цела мы звалі сабачкамі. Напамін пра іх узрушыў, скалануў мяне да салодкіх слёз.

Я ўсё ж дамогся, ступіў у незваротнасць. На сцежкі даўно ўжо забытага часу. Так даўно, што цяпер і сам пачаў сумнявацца, а ці быў той час, а ці былі тыя сцежкі, на якіх я сёння спраўджваюся, выцярэбліваюся пустазеллем. Я спазніўся ў свой былы ды і сённяшні свет. Хтосьці апярэдзіў мяне. Забег наперад і ўсё сапсаваў, падкінуў чужое як маё. Недзе, невядома калі, я пракалоўся ў сваіх, здавалася, так глыбока захаваных і прытоеных жаданнях. Ёсць, ёсць на свеце нядобрае, падглядное вока і пранікальна-пранізлівая злая воля, што зводзяць нас да нічога, да пустаты. Тлумяць малады розум абяцаннем крылаў.

Не будзе іх, не будзе, хоць і маглі быць у задумцы. Нехта разгадаў гэтую задумку. І таму абяцаныя крылы пераўтвораныя ў нішто іншае, як звычайныя дзіцячыя болькі, струпы, накшталт падлеткавых прышчоў. Хмельны дымок вогнішчаў маленства, у прысаку якіх пякліся пячонікі, а на дубчыках, ражнах пражылася сала, кропельні пыхалі на сіні жар, паджыўлялі агонь. І не заўсёды хапала спрыту злавіць тлушч на скарынку хлеба. Ад смакаты заставаўся толькі закурэлы прыгаркавы камячок. Але надта ж салодкі, хоць і неспажыўны.

Мне ў падпаскавым маім маленстве толькі зрэдку выпадала такая слодыч. А па праўдзе – амаль ніколі. Я спазнаў гэта напоўніцу толькі ў сталасці, праз калектыўныя паездкі ў грыбы, што не абыходзіліся без вогнішчаў, пячонікаў, пражанага сала на ражне, а потым на лустачцы замурзанага чорнага хлеба.

Вось такая спакуслівая і ў нечым панадная нашая дзіцячая памяць. Менавіта дзіцячая, бо пазней – гэта ўжо звыклае нам балота, у якім паўсядзённа боўтаецца нашая свядомасць. Да схону ўжо дрыгва, топкі зыб, у лепшым выпадку ўкрыты выклікальна тлустай і зялёнай раскай, учэпістым донным жаберам, па-простаму мударэзам – людзі ведаюць сапраўднае імя ўсяму і ўсіх.

У дарослага чалавека, увогуле ў цвяроза-адубелай сталасці, зусім іншы, чым сырадойны і пенна-рухавы дзіцячы розум – туга збіты да карысна прыдатных яму вяршкоў, падпераваны, пасаджаны ў брыль з касцяным казырком ці шапку-аблавушку, каб нічога лішняга, недазволенага не выхапілася на волю.

Так ужо некім заведзена і закладзена. Такая розніца і адлегласць паміж намерамі і здзяйсненнем, пачаткам жыцця і яго завяршэннем – ці не ўсім жывым дыісным на белым свеце. Як нехта ці не ў роспачы ў свой час мовіў: чым бы мы, дарослыя, ні займаліся, што б не вынаходзілі і не выраблялі – усё роўна атрымаецца аўтамат Калашнікава. Я дадаў бы: альбо самагонны апарат. Па Паўлаву і Фрэйду моўлена на вялікай і магутнай расейскай мове, з веданнем сябе і свайго народа.

А малеча, па асноўным і вечным занятку бацькоў, любіць гуляць у вайну. Але ў іх чарапушцы з яшчэ не зацягнутым цеменем – адтулінкай у космас – укладзена і спеліцца непрадказальнасць. Пакуль яшчэ любасць да гэтага свету, цікаўнасць і дапытлівасць, з чаго ён складаецца, навошта створаны. Навошта створаныя яны самі. І нарэшце, але пакуль яшчэ, толькі пакуль: даверлівасць і давер – у нязменнасць, патрэбнасць і бессмяротнасць усяго, на чым толькі ні спыняецца іх не замыленае яшчэ будзённасцю быцця вока.

Год ці больш я сябраваў з жарабём. Пазнаёміўся з ім нечакана. Адным ранкам яно само падышло да мяне і сырадойна пахка дыхнула мне спачатку

ў шыю, а потым і ў твар. Гэта было так нечакана і любасна шчыра, што я на нейкае імгненне разгубіўся і ці не страціў адчуванне сябе: што гэта, дзе я і з кім. З боку жарабя гэта было зусім не жывёльнае, як і з майго боку. А калі і жывёльнае – то з абодвух бакоў: прыгаломшанага сталага веку чалавека і, хаця яшчэ і няцямнага, але спадзеўнага на яго, малочнага жарэбчыка, якога толькі-толькі, ці не ўчора, пачалі трымаць ногі.

Да гэтага часу я не надта зважаў і прыкмячаў яго, як і кожны былы вясковец, што назаўсёды засвоіў: конь, карова, парася – гэта не любасць і не пейзанская выява карцінкі на фоне самога сябе, а работа. Не прыкмячаў, не зважаў, але лашчыў вока, як ён стрымгалоў бурыць і рушыць спакой высокай, ніца самлелай травы, цыбата разбэрсваючы яе зялёнымі, блакітным і нават залатымі пырскамі па напаўснулым полудні. Вока, зноў жа колішняга вяскоўца, няўважна і звыкла ўбірала ў сябе няспынны ў руху стан навакольнага жыцця, падсвядома запамінала на ўсякі выпадак і запасіла, як і ўсё іншае ў гаспадарцы сялянскага побыту. Запасіла мо нават не мне, а некаму іншаму, хто ўступіць у такі ж дзень следам за мной. Ступіць, нешта цішком прыгадае, зірне маім колішнім поглядам і ўсміхнецца, падзяляючы маё былое замілаванне тым, што яму сёння толькі прывідна мроіцца.

У мяне і ў галаве не было, што стрыгунок штукарыць, прыняволены ў полі за агарожай каля маці пасля цяжкой яе працы, бегу і хады ў туга сцягнутым ці ўжо не вечнасцю хамуце. Вылузваецца са скуры прыцягнуць маю ўвагу, каб хоць на хвілінку спатыкнуўся ў сваёй абыякавасці на яго існаванні. Ды чалавека, вылепленага вёскай, цяжка збіць з нагі.

І жарабя як адчула і зразумела гэта. Ціхенька крадком наблізілася да мяне, паклала мне на плячо сваю лёгкую яшчэ безхамутную і незацугляную галаву і ўздыхнула полем. А мо гэта я ўздыхнуў, хапіўшы водару яго малечай вольніцы, аблуднага цыганова шапатлівага ветру.

Я павярнуўся і мы з жарабём сталі твар у твар. Тут я сапраўды не ўстрымаўся і наяве ўздыхнуў. Глыбока, наколькі хапіла трохі гаркавага палявога паветра. Але адкуль узяўся, з чаго ў мяне ўзнік гэты жалобны ўздых, я не ведаў, як не ведаю і цяпер, прыгадваючы той далёкі дзень. Падстаў для жальбы і суму не было. Наадварот – безважкая ўзрушанасць ад дакранання да нечага добрага, хаця і невядомага, нязведанага дагэтуль. Не выключана, што гэта было ўзаемнае нашае вяртанне з далёкага-далёкага мінулага. І мы былі адно перад адным як неіснуючыя яшчэ ў нашым стагоддзі, у гэтым летнім ранку. Хаця ўсё астатняе ўжо было, мелася, пагудвала, лётала, поўзала і пасвілася. Акрылена скакалі конікі па полі. Адны з пералётам ці недалётам падалі ў траву. Другія, больш спрытныя ці гультаяватыя, паспявалі зачапіцца за русявыя і пахілыя галоўкі паспелага ўжо метлюжка і дзятліка. Гойдаліся, як на арэлях, падкінутыя імі ўгару, сярпаста скакалі далей і змоўна гаманілі. І нешта яшчэ спрэс наскае кружляла пад званковым блакітам нябёс і стоеным доле, варухліва сыцілася і дыхала парным водарам аголенай, скапычанай жарабём і маімі цяжкімі чаравікамі зямлі.

Нібы падпарадкоўваючыся гэтаму пракаветнаму калавароту руху, гону, лёту, жарабя і само памкнулася далучыцца да яго, падміргнула яму молада яшчэ набрынялым чарнільным вокам. І я міргнуў яму ў адказ цяжарам пражытых гадоў і тлумам адукацыі. Гаворка паміж намі пачалася. Жарабя зразумела і сцвярджальна стрыганула вушамі. Я паспрабаваў зрабіць тое ж

самае. Не атрымалася. Пэўна, вушы мае былі малыя і не спрактыкаваныя: не хапіла ў маім жыцці камароў ды мошак для іх навучання.

Але, не зважаючы на рознавухасць, мы ўжо схаўрусаваліся. З тае пары, чым бы жарабя ні займалася, варта яму было ўбачыць ці адчуць мяне недзе паблізу, яно кідала пад ногі сабе поле, сенажаць, дарогу, рыссю і галопам ляцела да мяне, не саступаючы ў інахадзі самаму пароднаму каўказскаму іпадромнаму ахалцекінцу. Так шоўкава і спеўна струменіла яго грыва, як спадобліваецца толькі палавець і люляцца васільковае жыта ў полі, калі пачынае красаваць. І я заўсёды на такі выпадак меў пры сабе і нёс яму акраец прысоленага чорнага хлеба ці драбок цукру.

Наш хаўрус і заляцанні доўжыліся, пакуль мы не разышліся на доўгую адчужальную зіму. Але і ўвесну жарабя пазнала і прызнала мяне. Відавочна пасталела і падрасло, але было яшчэ вольнае каля сціснутых аглоблямі спатнела цёмных бакоў маці, з якой ужо лёсава разышліся ці пачыналі разыходзіцца і адначасова, таксама лёсава наканавана павінны былі сысціся.

А мы з жарабём яшчэ захавалі памяць мінулагодняй таварыскасці і прыязнасці. Толькі я спадзяваўся, што яно зноў разляжацца ў бегу да мяне, як гэта адбывалася ў мінулым леце. А жарабя, конік ужо, пахітваючы ацяжэлай галавой з пацырульніцку падстрыжанай грывай, наблізілася да мяне разважлівай ступой, спакваля пацюкваючы падрослымі і абрагавелымі капытамі. Агарнула мяне водарам і цяплом угрэтых на сонцы траў, набытым за год пахам родавай прыналежнасці і сталасці. Але сталасці яшчэ нязбыта-дзіцячай, бо адразу ж пацягнулася да адтапыранай кішэні курткі, што захоўвала і выкрывала былое – ладны акраец пасыпанага буйной соллю жытняга хлеба. Хлеба і мне з дзяцінства гасцінкавага, так звана зайчыкавага, бясконца смачнага ў колішняй ненаедзе. Хаця не толькі. Той хлеб быў не свойскі, з хатняга стала, а здалёку. Ён захоўваў і нёс у сабе прастору і нязведанасць, папраўдзе зайцову. Праз яго адбывалася спасціжэнне і спазнанне бязмежжа свету, боскае далучэнне да яго.

Такім чынам, ці не праз гэты, зайчыкаў акраец хлеба на маёй далоні мы паядналіся раней і працягвалі сяброўства. Сяброўства і еднасць чалавека і коніка. Цяпер ужо відавочна коніка. Мая з ім наступная сустрэча была – калі ён хадзіў ужо ў табуне. Я здалёку вылучыў і прыкмеціў яго на выгараджаным жэрдкамі конскім выгане за вясковай аселіцай. У першую хвіліну ён, як і раней, памкнуў мне насустрач. Мы сышліся з ім пад касыя позіркі яго сутаварышаў. Пры гэтым ні адзін з іх не адарваўся ад пашы. На хаду, збіўна тармозячы і азіраючыся, наравіў скубануць траву і мой конік. Саромеецца, не крыўдуючы падумаў я, падыходзячы ўшчыльную да яго. Крануўся шыі, запусціў пальцы ў цёплую, угрэтую сонцам грыву. Конік, дажоўваючы траву, ускінуў галаву, сцепануўся ўсім тулавам, нібы адганяючы надакучлівую дзённую заядзь, дзеля пэўнасці прайшоўся па крыжу і баках хвастом.

Той надакучлівай заяддзю відавочна меўся быць і я. Мой ласкавы і прыязны конік не прызнаваў, больш за тое – цураўся мяне. Нібыта паміж намі ніколі не было радасці сваяцтва. Я зазірнуў яму ў такога ж, як колісь, чарнільнага колеру дзяцінства вока. Колер захаваўся, толькі мяне ў ім ужо не было. Я быў выкінуты з яго люстэркавага адбітку вачэй, з галавы, пэўна, ужо ахамучанай і зацуглянай. З яго цяперашняга жыцця, з зусім іншым, дарослым клопатам, дзе не было месца быламу братэрству і сяброўству.

Конік нават масцю змяніўся. Быў ён буланы з высокароднй прорыссю сівізны, а цяпер адно толькі будзённа і беспародна буланы. Час і жыццё перамуштравалі, пераналадзілі яго. Замест даверлівых, светлых і шчырых дзіцячых пачуццяў надалі конскую моц, цягавітасць і абыякавасць да нашых былых жывёльна-чалавечых стасункаў.

Конік ты мой конік. Навошта толькі цябе адамашнілі. Стварылі вартае жалю падабенства чалавека – працавітую і безадмоўную скаціну, быдла. Парупілася чалавецтва, колішнія, страчаныя, і ці не горка і маўкліва праклятыя ў стагоддзях усімі нашымі хатнімі жывёламі, знакамітыя і выбітныя прыручальнікі і дрэсіроўшчыкі, ад якіх сёння ні звання, ні знаку.

А ў коніку ўсё ж нешта ацалела, хаця і на імгненне, калі і пакуль на дзіцячых вейках, і не толькі жывёльных, дрыжыць яшчэ сляза. Таму мне няўтульна і прыкра на белым свеце. І больш за коніка, маё жарабя. Але прыкрасць гэтая – гарадская, ад галавы. Невымернага і непрыхаванага нашага спакон веку жадання ўладарыць, звыш усяго і над усім. Адначасова жалю і разумення – не дадзена, не дазволена нават пытацца – кім.

Я звыкся з конікам, жарабём, палюбіў яго даверлівую дзіцячую сутнасць. А конік мой аказаўся з конікамі. Як гэта адбываецца з кожным існым, даў у хамут. Пераўтварыўся ў некага ці нешта іншае, а мо і ў самога сябе, што ўвогуле мне было знаёма па дзецях чалавечых. У трапяткосці маленства мы з усім божым светам не разлі вада. Але варта хаця б аднойчы на нечым спатыкнуцца і набіць першы гузак, як мы астуджана замазольваемся, абрастаем дзікім мясам.

Я спазнаў гэта на сваёй скуры жывучы сярод людзей і дзяцей. Час гуляе і штукарыць не толькі з нашым аблічам, але і сутнасцю, каб не заносіліся, не бралі лішняга ў галаву.

Коні, як амаль усе нашы браты меншыя, хоць і пад нашым прымусам, змірыліся са сваім лёсам. Не выключана, за плату, мо і непамерную чалавеку – выйсця ім са свайго ўласнага цела, страты сябе, а гэта значыць вар'яцтва. Кошт такога замірэння з боку тых, каго мы прыручылі і працягваем прыручаць, той жа самы, што і чалавеку. Out the bodu. Хаця трапляюцца і нязгодныя, непакорлівыя і няскораныя. Што дзіўна, не асілкі і волаты, а самая што ні на ёсць драбяза.

Так, славуты дрэсіроўшчык Дураў неяк прыкмеціў, што вераб'і ходзяць няправільна, не пярэступам, а скокам. Патраціў два месяцы, каб навучыць іх правільнай хадзе. Вераб'і наадрэз адмовілі яго навуцы. Як скакалі, так і скачуць, ды яшчэ пацвельваюцца. Вось такія, як палескія вераб'і, зацятыя нашыя людзі, памятлівыя на свае карані. Такую невынішчальную памятлівасць мае, пэўна, нават і смерць. Яна ці не адзіная, хто ніколі і ні пра што, ні пра нікога не забываецца. У нашай падсвядомасці, падсвядомасці ўсяго існага, як у скрыні з мноствам патаемных замкоў, захоўваецца нешта не падуладнае яшчэ сёння нашаму спажывецка-практычнаму розуму, які так часта пакідае і цураецца нас. Нам застаецца толькі чакаць і спадзявацца.

Запазычыў чалавек самому сабе, таму ж коніку – яго і свайму будучаму. Абанкруціўся і цяпер нараві́ць збегчы ад банкруцтва ў бесцялеснасць. Беспамятнасць і вар'яцтва – out the body. Таксама, як гэта адбудзецца і са мной на высалапленым языку крывавага майго шляху.

А пакуль мы з конікам сярод пякельна-спякотнага лета моўчкі стаім на абскубаным калгаснымі коньмі выгане. Травы на ім небагата. Дый тая, што ёсць, пад корань спажыта і вытаптана. Коні, не маючы да яе інтарэ-

су, адышлі ад нас. Нам чутныя толькі ўсхліпы і галаслівы вынішчальны пошчак рэшткаў ацалелых на полі раслінаў. Ды гуд, гуд, гуд гэтага дня і вечнасці. Акрылены шал і баль пачварнасці. Аваднёў, слепакоў і мух, што аж заходзяцца ад жывёльнай і жывой, халяўнай спажывы крыві. У высокім небе, звонкай прахалодзе яго блакіту купаюцца клапатлівыя ластаўкі. Узнімаюцца, наколькі здольныя, увысь і на імгненне, чорна, па-манастырску абцяўшы сябе крыламі, удавана-бязгрэшна, напаказ, пэўна, некаму, даюць нырца нібы ў прорву ў пазалочана прамянёвы і празрысты вадаспад нябёс. Імгненна выныраюць з таго вадаспаду, іскрыстай намаразі вякоў ужо ўмытыя, задаволеныя, распасцёршы белыя крылы абяцання дабра – добрага настрою і надвор'я зараз, заўтра і пазазаўтра, вечнасці коням, што пасвяцца пад імі на выгане, самому выгану і, зразумела, чалавеку.

Мы абодва, я і конік, як нечага чакаем. І ў коніку, падобна, чакання больш. Яно больш выразнае і пэўнае. Яго тулава час ад часу працінаюць мурашкавымі хвалямі і наплывамі нецярплівыя, нібыта сігнальныя, дрыжыкі, накшталт бягучага радка на экране тэлескрыні, спрабуючы нешта давесці да мяне, а мо і да ўсяго свету. Але адзіныя, апроч мяне, жывыя прымальнікі паведамлення – палудзенная, прагнучая крыві хіжая заядзь, ад якой конік сам бароніцца, раз пораз сціраючы са свайго крыжа крывыя і віллявыя пісьмёны. Але майму воку ўсё ж нешта ўдаецца ўхапіць, нешта мройна прыгадваецца з таго, што, цьмяна і задушліва хаваецца і ўва мне.

Карцела, як гэта было з колішнім маім жарабём, абняць сённяшняга, чужога мне буланчыка, прыпасці да яго, насычанай звесткамі і памяццю мінулага, грывы. Ці ж не да гэтага заклікаў і ён мяне, звіліста сігналячы дрыжыкамі. Мы абодва на самой справе сумавалі, прагнулі еднасці і ласкі. Але, па ўсім, паміж намі паўстала ўжо адвечна разводнае і разлучальнае, што на той час атаесамлівалася невыяўна ў мяне, а ў коніку выглядвала з нема разяўленага роту з пагрозліва выпнутымі буйнымі нікацінава пажаўцелымі зубамі.

Затое ў незасмужаным, толькі разбаўленым ужо абыякавасцю, яго чарнільным воку было нешта яшчэ і зусім іншае і ніколькі не пагрознае. Пахмурнае, так, але і прыязнае. Памяць вока ўваскрасіла ў ім нешта даўняе, нязгаслае да канца і цяпер. Нязгаслае, але ўжо амаль непрытомнае ў попеле быцця, што зрэдку толькі мігцела іскрынкай праз стагоддзі і далеч майго некалі пячорнага існавання. А ў коніку па ўсім, спрабавала аднавіцца воля прасцягам яшчэ не спазнаўшых касы сакавіта зялёных бясконцых зямных абшараў. Ці не гэта сакрушальная памятлівасць у беспамяцтве перашкодзіла нам у той дзень прыпасці адно да аднаго, а прыкра і горка развяла ўжо назаўсёды.

Конік кануў у сваё конскае, а я... Тут я не ўпэўнены, што ў чалавечае, людскае, наканаванае мне. З так і не патрачаных вочных чарніл коніка нечакана выкацілася сляза, на дзіва празрыстая і буйная. Выкацілася і не раздрабнёна застыла на краечку яго арашочаных выгараджанымі жорсткімі павекамі вачэй. Дрогка пахіталася і таксама нездрабнёна, пругкім шарыкам упала на капыт коніку і ці не закіпела на яго касцянай і абыякавай шэрані.

Да сённяшняга дня не магу прыкласці галавы, што выклікала тую яго слязу. Сонечны прамень паштукарыў, пралётныя авадзень ці камар пажадалі ў ім спатоліць сваю смагу, ці яго проста запарушыў, крануў і ззасціў лёгка прабеглы ветрык, у неадчувальнасці якога стаілася з адрынутага мінулага, альбо няспраўджанага будучага ўжо выспеленае нябачнае насенне нейкай

неіснавальнай зёлкі, шукала прыдатнай хованкі і прытулку на зямлі. І зусім, пэўна, свядома прыняло, палічыла за яе жывое вока. І было яно ці не прарочым. Не мела ніякага дачынення да нашага адчувальнага на слых, зрок і навобмацак свету. І таму тая сляза была хоць і непрывідная, але цалкам невытлумачальная, тагасветная. Сусветная, пра якую яшчэ ў пазамінулым стагоддзі было моўлена – слязінка дзіцяці, яго неадбытасці. Крывавая сляза жалю душы, аглохлай памяці, маці¬-жанчыны і бацькі-мужчыны.

Конік і чалавек паныла і ўнурана стаялі адзін перад адным. Чалавек завіваў вяровачкай штосьці, бо толькі вяровачкай яго падсвядомае можна і завіць. А там і тады, дзе і калі ён імкнецца асэнсаваць гэта шэрым рэчывам, нададзеным яму розумам, зноў і зноў атрымліваецца і мроіцца аўтамат Калашнікава ці самагонны апарат, адчуванне, што свет непрыхільны да яго, няправільны, але ён няздольны нічога ў ім без таго ж аўтамата і апарата змяніць.

Прыкра, горка, толькі такія мы ўсе яшчэ сёння на планеце і ў сусвеце на Млечным наканаванні нашага зямнога шляху. Мо якраз таму ўсе на ім і па-за ім цураюцца нас. Толькі ўздумалі сатварыць так званы калайдэр, каб спазнаць нешта пэўнае пра сябе і сусвет, як адразу ўзнікла небяспека і пагроза ўсёй зямлі, жыццю. Такое ўжо нашае крывавае спазнанне. Такія ўжо мы ёсць, бясконца хіжыя і бездаможныя, а каля нас і ўсё іншае. Нават нашыя бяскрыўдныя верабейчыкі рухаюцца толькі скокам, падскокам і пераскокам. Усе мы сёння толькі так, такім вось, як кажуць, макарам. Усе мы сёння на адзін капыл – бязродныя ў свеце і сусвеце Макары.

І я зусім не выключэнне з іх. Нават з нашых скоклівых верабейчыкаў. Ці не ўсе малыя паляшукі з іх пароды – канаплянікаў і жыдкоў. Як і я, у незлічоных каленях толькі паляшук. Ці не тое ж самае, што недзе ў Амерыках індзеец. Таму я вылучаю, пільна і з павагаю прыглядаюся да іх. Да іх і яўрэяў, семітаў. Што, пэўна, невытлумачальна: “Откуда у хлопца испанская грусть?” Пры ўсёй рознасці ў кожным з нас ёсць нешта агульнае. У лёсе, духу, успрыманні і адчуванні свету, а як мне здаецца, нават у паглядзе, у якім больш адсутнасці, чым присутнасці. Так мы заглыблены на саміх сабе, адначасова і на ўсім сутнасным, бо непадзельныя з ім і ў ім. Жывыя носьбіты плётак і міфаў, паданняў і блазнаватых анекдотаў пра сябе. Накшталт Шцірліца і Чапаева.

У нашай паляшуцкай каструбаватасці і карчакаватасці пры ўсёй закарэлай памяркоўнасці, што ўжо набіла акскоміну, крыецца нешта неспазнанае і не разгаданае нікім яшчэ, пэўна, і самімі паляшукамі: нечаканая, выбуховая бунтоўнасць і згода ісці, не азіраючыся, да самага краю цясніны, у агонь і на шыбеніцу. І невядома, каго яны на тую хвіліну слухаюцца, каму падпарадкаваны – анёлу ці д’яблу. Нездарма кажуць, у ціхім балоце чэрці водзяцца. Анёлы – таксама. Толькі ці не спрэс з абкарнанымі крыламі.

Ці не ў гэтым мой сённяшні, дарэчы, як і заўсёдны, раздрай і разлад з самім сабой, конікам, часам і прасцягам. Таму, пэўна, я цяпер на гэтай крыжова-распнутай дарозе. У нашай вечнай пагоні за тым, што было, чаго не было і ніколі ўжо не будзе. Значна раней я стварыў гэта ў сабе. Стварыў, увасобіў і паверыў. Паклаў і замкнуў у памяці і свядомасці з таемнай надзеяй некалі ўсё ж вярнуцца да гэтага і нанова на свежую і сталую галаву прайсціся па пражытому. Уваскрэсіць яго без болю і жальбы, на злом галавы кінуцца ў мінулае, у перапыненыя і недагледжаныя сны дзяцінства, іх хараство, глупства і чысціню.

Там меўся і горад, з не вельмі добразычлівых абдымкаў якога я толькі што выдзерся. Ён ува мне здаўна і ўсё ж больш добры. Напачатку мы былі аднолькавыя з ім, аднаго паходжання, аднаго лёсу. Хваравітыя, пашкамутаныя адным няшчасцем, адной злыбедай. Я прыехаў у гэты прыгаломшаны абласны горад лячыцца ад нераспазнанай у раённай палескай глушы хваробы. А вялікі, на мой погляд, найвялікшы ў свеце горад, сам быў нядужны. Высіўся ўчарнелымі каменнымі косткамі руінаў на шпітальным ложку, спавіты гаючымі водамі ракі Сож.

Яго лекавалі тыя ж, хто і наслаў на яго хваробу. Палонныя немцы, ад чаго мне было непамысна і прыкра. Мая хвароба была таксама ад іх. Толькі я гэтага тады не цяміў. Жаліўся то на жывот, то на галаву, апроч якіх на той час у мяне, здаецца, нічога і не мелася. Не мог я сабе, галодны, зняможаны і картовы, дазволіць яшчэ што-небудзь іншае мець. Але ж займеў выяву вялікага разбэрсанага і разбуранага гораду ў шкілетных рыштаваннях. Паныла-сцятых людзей у войлакава-шэрых апратках. Адчуванне, што ўся зямля спрэс адно толькі вось такая, унураная знявечаная і знямелая. Мо яшчэ і таму, што немцы папраўляюць ёй і гораду здароўе.

Пазней былі яшчэ сустрэчы з гэтым горадам, куды болей прыемныя. Я ўпадабаў, ацаніў яго шматаблічнасць і някідкую прыгажосць. Нешта было ў ім аднačасова ад самога мяне, маіх сяброў, ад паджарага майстравітага люду, сярод якога я жыў і рос. Люд той быў ніколькі не падобны на сённяшні. Яшчэ лёгкі на нагу, не такі атлусцелы і пацяжэлы, як цяпер. Заняты зусім не тым, як пахудзець, а што б з’есці самому і прынесці хаця б у дзюбе сваім дзецям. Гонкі, рухавы, накшталт сённяшніх, мадэльнатрэскавых дзевак, далёка паперад сябе паляўніча-выстраленымі, аголенымі ўсімі сваімі гарбузамі, памідорамі, а часцей квасолінамі. Бясконца любы мне чалавек, што ўжо сканаў, спрах у сівой даўніне часу. Ён мроіцца мне, я прагну бачыць яго.

Адчуванне параднёнасці з ім і горадам з асаблівай сілай прарасло і ўзышло ўва мне, калі прыспеў час развітання, як я лічыў назаўсёды, з’язджаючы ў белы свет, што ў капеечку, у самоту і беспрытульніцтва. Горад, нягледзячы на рупнасць працавітых палонных немцаў, заставаўся ў большасці прыватна драўляным, аднапавярховым, закураным, як ці не ўсе на той час вялікія і малыя вузлавыя нашыя чугуначныя станцыі, астматычна-задыханым.

Успрыманнем і разуменнем свету, звычкамі мы, я і горад, як дзве чыгуначныя крэазотныя шпалы падобныя адно да аднаго: з аднаго пілавання лесу, з аднаго бервяна, з-пад адной сакеры чосу, з адной купелі прамочвання. Ён мяне сатварыў, ён жа мяне ў прызначаны мне час і прыбярэ. Мо нават прыхопіць недзе і пад плотам з недапітаю пляшкай “чарнілаў” і недакуранай цыгарэтай каля роту, што адбудзецца з большасцю маіх равеснікаў і хаўруснікаў. Такое ўжо наканаванне ў шмат каго з пасляваенных безбацькавічаў калячыгуначнага прыстанцыйна напаўбандыцкага і напаўзладзейскага пакалення, што не вытрымлівала хуткасці і спакусаў прыстойнага жыцця і паравознага руху.

Чыгунка ў свой час спарадзіла яго. Спарадзіла пры балацінах, на спустошана голых пясках, вывела ў людзі – новую супольнасць і новую тут пароду людзей – пралетарыяў. Выпхнула з пракаветнасці вёсак у новы век, кінула на рэйкі, што сталёвай роўнасцю і бліскучасцю ўцягвалі і абяцалі надзейную будучыню. І нованароджанае пакаленне паравозамі

"ІС" – Іосіф Сталін, "ФЭД" – Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі, сакрушальна магутнымі і мажнымі, па-сялянску непаглstriднымі, але працавітымі, маняўровымі "Овамі"¬¬– авечкамі і "ШЧ" – шчупакамі безаглядна і хуценька пабегла ў небыццё, пераўтварыўшыся з аратаяў у стрэлачнікаў, змазчыкаў, сцэпшчыкаў, абходчыкаў і качагараў, нязменна патрэбнымі таму і гэтаму свету. Тое было наканавана і мне.

Але выпала іншая доля. Яна дала мне добрага падсрачніка. Выпхнула нявартага па здароўю несці і працягваць тут эстафету бацькоў. Блаславіла на адзіноту, адчужанасць і пошук. Невыносныя на пачатак жыцця жалобу, горыч і сум. Я тады і думаць не думаў, колькі за ўсім гэтым непадробнай сапраўднасці, так патрэбнай у пошуку самога сябе.

Яднанне, да страты сябе і часу – хаця па першым часе і змушанае – з рухам, хуткасцю, дарогай, зліццё з даляглядамі, прасцягам, шчымлівае чаканне наперадзе непрадказальнасці таго, што хаваецца і віхурыць у спружыннай шчытнасці абуджанага табой, нерухома зляжалага да цябе паветра, у чым усяго патроху, а найперш пякучая сляза, што дрыжыць на падсушаных сустрэчным ветрам павеках. Сляза і смутак па пакінутаму, па самім сабе, недзе ўжо згубленым у незваротнай мінуўшчыне плыткага часу. Дрогка і хістка, як колішняя няспраўджанасць, растае ў тумановасці новых акаёмаў, рвецца повязь з усім, што толькі ўчора здавалася непарыўным, знітаваным з табой, жывым і пруткім, у склянь набрынялым табой, тваімі пахамі, дыханнем, крывёю.

Так было. Да таго, калі яшчэ шмат і шмат чаго не было. І гэта так было, згуляла са мной у адвечную нашую гульню. Гульню ў нявер'е, альбо: веру кожнаму зверу, толькі не самому сабе. І жаданнем усё ж хоць адзін разок паверыць ці хаця б праверыць. Прайсціся, прабегчы, прарвацца нырцом у сваю несупакоена хваравітую і пасёння нібыта чужую недаверлівую памяць.

Я цьмяна ўяўляю, што мяне ў яе змрочных вірах чакае, які звер там тоіцца. Але ж, відавочна, у ёй нешта засталося. Застаўся сам я з нечым шчымліва любым і мілым мне, абяцальна-пазначаным. Але толькі пазначаным, і на ўсё жыццё прывідным і атрутна-падманным, як тое смяротнае ці перадсмяротнае святло ў канцы жыццёвага тунэлю, магчымае ды абмінулае мяне.

Няспраўджанае і непражытае, хоць і спасланае мне, але няўбачанае, украдзенае з маіх вачэй. А як здаўна вядома, няз'едзены ці недаедзены кавалак хлеба самы смачны. І я, сыты сёння, але ўсёроўна жабрак, па дзяцінстве. Бо варта толькі хаця б адзіны раз набыць якую б ні было скуру, як яна ўжо назаўсёды прырасла да цябе. І я бягу, ганюся з жабрацкай, адбалелай, хаця ўсё яшчэ сукравічнай памяццю, за жаданай сваёй скурай, дзяцінствам, зайчыкавым акрайцам свайго няспраўджанага лёсу: не даганю, дык хоць сагрэюся.

Але недзе ў падсвядомасці пры ўсёй гульні ў "веру не веру" светла і блаславлёна, зыбка і мройна капошыцца: а раптам, а калі. Надзея – хросная маці дурняў і геніяў. Наперад, наперад – без супынку і з'езду на абочыну. Па свежай і даўней крывава-зыбкай памяці былога бягучага і будучага.

## ЗЫП – ЗЫПКАЎ – НАВАЗЫБКАЎ

Што вырабляе са мной дарога, пайменаваная такімі знакавымі прозвішчамі. Як бяжыць насустрач і наўздагон ім памяць. Я раскашую сярод

іх абранасці стагоддзямі, векавой вызначанасці. Ці не менавіта таму з першага свайго кроку па зямлі зачапіўся і назаўсёды палюбіў казку. І жыву ў ёй з першага пробліску асэнсаванага свядомасцю святла і цемры – сваёй існасці.

Жыць у казцы не толькі ўтульна, але і прыгожа, чыста. Так я ахоўваю і захоўваю сябе. Шкада толькі, што з цягам часу казка і казачнасць губляюцца, выціскаюцца з нас. А казку прыдумалі шчаслівыя людзі. Увогуле, на маю думку, каб спазнаць іх, спазнаць былое, варта звярнуцца і зазірнуць у казку, каб убачыць сябе, наш век і нашых людзей – у першы ж вар'яцкі дом, так званы дурдом. У казках таксама ёсць дурні. Але якія – цары і каралевічы, волаты і багатыры, сэрца шчыміць і заходзіцца. Ёсць і жабы, але прыгажуні, царэўны. А ў дурдоме нават колішніх велічных вар'ятаў – Напалеонаў, Неронаў і іншых з кагорты несмяротных змянілі маленькія зялёныя чалавечкі, прусакі, якія дрыжаць ад жаху, каб іх птушкі не склявалі, фота- і топ-мадэлі, у лепшым выпадку – Пугачова з Кіркоравым. І гэта адбітак стану нашай сённяшняй рэчаіснасці, нашага грамадства. Шлях яго ад казачнасці да таго, калі тая казка стала пылам, пяском на зубах, шасцяронках сучаснасці.

Ці не падсвядомае адчуванне гэтага выправіла мяне калісь у беспрытульніцтва, а цяпер у дарогу – люстэрка і пуцяводную нітку мне і свету. Некалі на самым пачатку сябе я пакляўся на вернасць дарозе: больш году на адным месцы не заседжавацца. Але, як кажуць, не хочаш ды мусіш. Жыццё засмактала і прыгаварыла сіднем сядзець, нікуды не вылазячы, некалькі гадоў запар.

Казачнасць свету паблякла і прытухла, хаця я гвалтам прымушаў сябе быць вартым і верным дзяцінству, чаго прытрымліваюся і цяпер, не зважаючы на няпэўнасць, прывідную зыбкасць сённяшняга і наступнага дня, які ўпёрся, што рогам, закапыліў губу і ківае: пойдзеш налева... пойдзеш направа... Толькі ж мы, паляшукі, таксама не без рог і губ – упёртыя, зацятыя, закапыленыя на жыццё. Спрэс адны толькі цмокі, лешакі, белуны-Дамавікі.

Мяне не збіў з тропу не надта ўдалы пачатак майго шляху туды, дзе я быў і не быў, але жадаў быць – паўтарыцца і адначасова займець новае. Старое новае, што было невядома калі пасеяна ўва мне любасцю адвечнага нашага сейбіта, хаця часам і на хуткую руку. Пасеяна і закладзена паравознай дымавой хмарнасцю чужога і роднага мне горада.

Горад уражваў непадобнасцю на самога себе, на тое, якім ён быў учора. Нібыта ён сапраўды ноччу, калі ўсе спалі, шукаў сябе ў мінулым ці будучым, мо нават і не на гэтай зямлі. Шукаў і знаходзіў, перастараўся. Куляўся ні то ў аданаўленне, ні то ў старызну. І гэта яго кулянне часам засмучала, а часам радавала мяне. Але, каб не блытацца ў яго абліччах, я стварыў сабе свой горад. Варты і любы той зямлі, на якой ён нарадзіўся і вырас з крынічнай плыні водаў старажытнай ракі, сышоў долу з блакіту бясхмарных нябёс, паўстаў на ўзгорках успамінаў пра былыя горы ці абяцанняў гор будучых. Заякарана і высока залюляў, запакалыхаўся на стромых берагах сярэднявеччам адначасова цяжкіх і лёгкіх мураваных палацаў і замкаў, агарожаных абароннымі крэпаснымі валамі і равамі з колішняй яшчэ загусласцю вады ў прошвах зялёных водарасцяў і раскі, з сівой даўніны ацалелымі над тымі непераступальнымі ровамі мосцікамі – ходнікамі з мінулага ў сёння. І падобна, на маіх вачах і маёй памяці па

тых ходніках хтосьці прайшоўся. Саслізнуў у прагальныя, не зарослыя зеллем і не захінутыя раскай, вочы старой вады, якую цяпер праломваюць, палошчуць – беляць і чэрняць белыя і чорныя лебедзі. Перасцярагальна, а мо і падахвочвальна ім пнецца на голас каля стрэлкі непадалёку замурзаны маняўровы паравозік – “авечка” – сырадойна сыходзіць парай і пырскамі на шпалы і рэйкі, а ў неба гоніць сіплаваты гудок, што спелай гарошынай завісае на кудлах невялічкай хмары, скача на ёй, як у дзіцячай свістульцы.

Усё гэта сапраўдна, трывала, грунтоўна і непарыўна з мінулым і відавочным памкненнем у заўтра. Таму зазыўна калыскава, паветрана бязважка. Зыпка ці зыбка, як гэта бывае толькі ў дзіцячых сненнях, што стоўплена напаўзаюць з заплюшчаных вачэй на чуйна чакальныя вейкі, нямоўленым, але добрым словам кранаюць вусны, ловяць штоноч у ложку гасцявую казку, на якую на яве і ў снах я палюю. І яна заўсёды паблізу мяне, побач, але ў рукі, як жар-птушка, не даецца. І гэта добра, бо неспазнавальна. Як неспазнавальны, кожны раз у новым аблічча мой горад.

Апошні раз ён здаўся мне падобным да залатой рыбкі ў атачэнні рыбак простых і такіх жа простых іншых, падводных і наземных стварэнняў, нават пачварных. Зіхотка праблісну́ў залатой рыбкай, якую, нягледзячы на маю рыбацкую жарсць займець, датыкнуцца да дзіва, мне так і не давялося злавіць. Але яна так яскрава бачылася мне, калі я быў на беразе з вудай пры вадзе, што я верыў у яе існаванне і ў тое, што яна была ў мяне. Трапяткая, калясровая, як вясновая квецень нашых садоў у хуткіх, як агеньчык на жадлівым вугельчыку, ужо без полымя, пералівах на сонцы пялёсткаў, знямелых ад белай зацяжаранасці цветам яблыняў, сліў, груш. А найперш – галавастых, вохрыста-жоўтых і фіялетава-блакітных палескіх падснежнікаў, раскошы ў састарэлай і адбеглай боязі снегу дывановай сінечы і белі падснежнікаў. І дзе тут залатая рыбка, хто тут рыбка, альбо жар-птушка.

Гэта я сёння так кажу, трызню, бо ўжо адгарэў, збыў з вачэй і памяці былое. Хаця і пры памяці гэта, зразумела, бачыў, але ні ў галаве, ні ў вачах не трымаў. Горад дый горад. Як некалі казаў ці не хахол з майго Палесся: сало ёсць сало, што на яго глядзець. Яго есці трэба. Гэта вам не Швейцарыі з Альпамі і не Парыж з Эйфелевай вежай. Усё нечага вартае – гэта недзе там. А ў нас – неба, ельнік ды пясок. І мы міма іх толькі пад крыж і пад крыж. А калі незнарок і ўсхліпнем, то толькі пад чарку ці нават у нябыцце ўжо. У незваротнасці сябе і таго, што мелі.

Ці не такім чынам я спакваля неўпрыкмет і страціў свой горад. І на той дзень, калі спадарожна-прымусова наведаў яго, ён здаўся мне зусім не залатой рыбкай. Больш памерлай, дохлай русалкай. Сонечны пагодны дзень толькі падкрэсліў яго нежыць. Яна прасочвалася з бёрнаў прыватных драўляных дамкоў, з якіх цэглавыя і панэльныя гмахі даўно ўжо выціснулі і праглынулі жыватворную бурштынавую жывіцу. Не на карысць усё ж, пэўна, сабе, таму што ўражвалі непагляднасцю. Бамжаватасцю. Ні даць, ні ўзяць – негрыцянскі Гарлем у Нью-Ёрку, якім час ад часу пужала нас айчыннае тэлебачанне. Перакошаныя, расхлябленыя дзверы, аблупленыя казарменных фарбаў сцены і балконы, цьмяныя правалы, як на той свет, вокнаў. Далібог, у пячорны час жытло выглядала весялей.

Але гэта выпадзенне з часу, гісторыі і нават геаграфіі – нам жа ўпарта ўводзілі ў вушы, што недзе тут цэнтр, пуп Еўропы – яшчэ можна было вытрываць. Збівалі з панталыку адвалы, рукатворныя горы і пагоркі на ўскраінах, уездзе і выездзе з горада. Нешта падобнае на яго візітоўку.

Была яна гулліва срэбнага колеру, вясёленькая пры ўмытым блакітам небе. Але з жалобнай аблямцоўкай карэннай глебай, унізе, зпадыспаду святочнага срэбра.

І само тое срэбра, варта было толькі спахмурнець небу, адразу ж цьмянела. І ўголас абвяшчала сябе нежыць, гібельнасць русалкавага рыбнага роду. Нібыта з усяго гэтага роду жыўцом садралі луску і вывезлі на сметнік. Скінулі ў кучу, як нейкае начынне, збрую касмічных, мо і рыбападобных прыхадняў, целы, нутро якіх даўно ўжо спрахлі на галактычных дарогах, а мо хто і з'еў. Парэшткі ж срэбным тлом парахнелі ў краі, дзе толькі неба, ельнік ды пясок. А цяпер вось і гэта, зямному пазначэнню чаго не хапала толькі гругана на шчыку.

Добра яшчэ, што не смярдзела. Хаця з пэўнасцю і пра гэта нельга было сказаць. Тэрыконавыя, касмічныя парэшткі, здавалася мне, на машынным ходзе, курадымілі, нібыта нейкі пякельны чорт паліў там падземную цыгарку, а мо і адабраў у грэшнага паляшука піпку. Абкурваў мяне дымам і пахам колішняга дзедавага тытуню, пэўна, намякаў на хуткую сустрэчу з ім. Выпрабоўваў на трываласць зямных і падземных дымоў, пахаў родных і чужынцаў. І паху свайго.

Гэтае ўражанне ўзмацнілася, калі я выкаціўся на трасу ўсімі чатырма коламі. Прыліп да знядужана высалапленага языка. Губляюся ў адчуванні подыху, павеву напаўнаркатычнага дыму, тлену, амаль няўлоўнага паху, ні з чаго ўзніклага смутку і журбы, што застаецца пасля пранікнення ў нязнанае. І праз нязнанасць – кранальнае, чаго ты пазбягаеш і прагнеш.

Я быў адначасова ў склянь перапоўнены перасцярагальнай абярэжнасцю і неадольным жаданнем пераступіць праз яе. Плюнуць на ўсе знакі, што падкідваў мне пачатак майго падарожжа. Перакінуцца туды, куды я не адно дзесяцігодзе да рэзі ў вачах і галаўнога болю ўглядаўся памяццю. Верыў і не верыў у здзяйсненне і існаванне зноў жа нечага накшталт жар-птушкі ці залатой рыбкі – апошняй дык літаральна – калі не злавіць, то хаця б паглядзець, а паталаніць – датыкнуцца, патрымаць у руках.

Ува мне нас было двое. Адзін дзённы і будзённы, што надае нам нашае распарадкаванае, амаль па-вайсковаму казарменнае жыццё: ад пад'ёму да адбою. Ад асэнсавання несвабоды – дзіцячага садка, школы, арміі, дабраахвотна прымусовай пазней вучобы і працы – да магілы. Уцёкаў у вызваленне. Па словах рускага філосафа А. Ф. Лосева, «усё жыццё, усякае жыццё ад пачатку да канца, ад першага да апошняга ўздыху, на кожным кроку і ў кожнае імгненне, жыццё з яго радасцямі і горам, з яго шчасцем і яго катастрофамі ёсць ахвяра, ахвяра і ахвяра». Я ведаў і прымаў гэта і без філосафа. Праўда, ён пафасна падсцілаў пад такую ахвярнасць саломкі – «дзеля радзімы». Я ж і радзіма былі надта далёкія адно аднаму. А ахвяраваў я сваім жыццём паблізу і далёка ад яе і кожнае імгненне – змушанай неабходнасці жыць і быць, часу, краіне, народу, сям'і працы. І нават нейкаму невядомаму мне Федзю, пра якога тады трындзелі: трэба, Федзя, трэба. Хаця мне самому гэта было зусім не трэба. Але так ужо я і маё пакаленне былі пажыццёва запраграмаваны. І я быў паслухмяны гэтай запраграмаванасці. Удзень.

Уначы ж верх браў другі. Нязнаны нікім. У тым ліку і мной. Таму што ў снах і сненнях уцёкамі, збаўленнем ад дзённай прыгаворанасці, неспыннага кружэння, як, дарэчы, і сама нашая планета, уначы, у ложку пад коўдрай гартавалася асмяленне да новай рэчаіснасці, якую сам вышукваў і ствараў.

Усе мы творцы: уначы, у ложку і пад коўдрай. І тое часцей усяго з такой творчасці атрымліваюцца толькі дзеці – нашыя копіі.

І гэта зусім не здзек з абодвух з нас ці з некага іншага. А калі трохі і ёсць, то толькі трохі. Мы насамрэч вольныя і самасныя толькі ў сне і ў вар'яцтве. І то, калі яно сапраўды буйнае, і мы перастаем захоўвацца. У начным жа трызненні мы ўсё ж больш уцекачы з няспраўджанымі творчымі задаткамі, з дзённай нашай жабай, што пасоўвае нас да задушанага ж намі – да прыймальна-пажаданага і любага нам свету, новага, іншага лёсу. Без Федзі. Лёсу і свету, у якіх толькі і водзяцца жар-птушкі і залатыя рыбкі, даверлівыя і ласкавыя конікі, багата сонца, зялёнага і блакітнага. Столькі, што аж вочы ў іх патаналі, заплюшчваліся ад асалоды і прыцягвалі сонечныя сны. Асабліва ў маленстве, калі іх без боязі можна пагладзіць і прылашчыць. І пажадаць, каб яны не адыходзілі ад цябе. Адпачывалі разам з табой на краёчку тваіх вуснаў і ў куточках вачэй.

У гэтым падвоенным суіснаванні, як сёння паліткарэктна гавораць, мелася больш прымусу да міру, у якім надараліся збоі. Прывідная зыбкасць дня і ночы ўгіналіся, ствараючы чорныя дзіркі, праломы ў прасторы і часе, а найчасцей – у маёй памяці. Час гарэзіў і пракудзіў і на яве аказаўся растваральнікам і разбуральнікам таго, што захоўвала ў сабе свядомасць. Таксама тонкая штучка са сваімі прыхамацямі, пачынала бунтоўна абурацца і дурыцца. Падсоўвала і ажыўляла жаданае і нязбытае. Якраз тады двое ўва мне ядналіся, зліваліся ў адзінага. І я быў гатовы кінуць-рынуць усё на свеце, у тым ліку і сябе, і сам свет, уплюшчыцца ў святло ці цемру, нікога не бачыць і каб мяне ніхто не бачыў, але ж хоць трошачкі ды ўзгадваў ды сумаваў па мне. І я сам бы сябе ўспамінаў.

Разумеў, што гэта немагчыма, і ад бяссілля, абмежаванасці дазволенага нам – хоць ты ўкусі самога сябе – сціскаліся кулакі ды расло і мацнела адчуванне крыўды. Відавочна ж, беспрычыннай і таму, з-за няпэўнасці – неабсяжнай і адначасова куцай памяці, яе самоты і маёй адзіноты, непатрэбнасці нідзе і нікому. Хаця вакол былі блізкія і нават кроўныя мне людзі. Але мы нідзе і ні ў чым не сутыкаліся, толькі слізгацелі адно перад адным, як белыя матылькі пасярод лета па-над зялёнымі качанамі капусты. Усё як тады, калі я ўпершыню без прынукі, здавалася мне, зусім малому, пакінуў родны кут, бацькаву хату і пачаў шукаць сябе ў белым, далёкім і блізкім свеце. Абраў сабе ў долю беспрытульнасць.

Тады, як і цяпер і, пэўна, ужо да скону, недарэмна ж кажуць: нарадзілася цяля з лысінкай – з лысінкай і памрэ. Аднае толькі розніцы, цяпер былі не ўцёкі, а вяртанне ў нешта бясконца любае і мілае мне і такое ж непрыхільнае і балючае, праз што я ўжо аднойчы прайшоў, жыўцом здзершы з сябе скуру.

Той былы крывавы боль сёння мне салодкі і гаючы. Я ці не ўсё жыццё баяўся і хацеў яго паўтарыць. І вось нарэшце, нарэшце...

Не, я не блазную, хаця мы ўсе з пароды блажэнных. Але я, пры ўсёй сваёй недапечанасці, засвоіў: у гэтым зыбкім свеце пры вузкіх кладках трэба ступаць не на адну, а адразу на некалькі з іх: адно гаварыць, другое моўчкі рабіць. А трэцяе – мець сабе наўме. І пакуль гэта трэцяе, што заспакойвае, прымірае мяне з самім сабой і нават дарує асалоду, надае вартасці: хоць у нечым ды заставацца без здрады і страты сябе. Быць чалавекам у сённяшнім такім крохкім і ненадзейным свеце. І гэта – рыбалка, яднанне з вадой і рыбай, а праз іх з усім белым светам. Прывіднасць самастойнасці,

волі і ў нейкім родзе нават творчасці. Сатварэнне сябе сярод прыроды, хаця і абыякавай да цябе.

Нашыя бацькі калісь на чуж-чужаніне шукалі так званае ў былыя часы Беламор'е. Вось і я гойсаю па белым свеце свайго казачнага Беламор'я пры беразе – рэкаў і азярынаў, не кранутых яшчэ нашым рукатворным зоркападам, дзе мне пашчасціць убачыць і адчуць, як пацягваецца і пазяхае ўсцяж плыні пухкімі тумановымі касмылямі каля берагоў вада, насцярожана прыглядаецца да мяне спрасоння смуглявым глыбам віроў. Трохі пазней ад яе падазронасці не застанецца і знаку. Народзіца ўзаемнае пазнаванне, што пацвердзіць вёрткая верхаводка, скасуе, парве ранішнюю замковую сашчэпленасць вады. Падасць мне знак: водзіцца тут рыба, дробненькая пакуль. Але далей паглядзім. Выкінецца царкоўнай свечкай мо і язёк, каб асвяціць і блаславіць мяне. Набяжыць драпежна хіжы пракуднік акунец.

І ўсё навокал адразу ажыве. Скалануцца травы і лозы, страсуць з сябе дурманліва прыпаркавую ў цемры ночы расу. Птушкі голасна папросяць у світанння цішыні. Паграбуцца і адкрыюцца ў норах каля маіх ног невялічкія, зглададала перацятыя ў поясе чорныя і чырвоныя прырэчныя мурашкі. І ўсе гэтыя рухі, гукі і нават ранішняе здранцвенне і зняменне ў першую чаргу будуць маімі. Самім мной. Таму што я столькі часу запасіў і насіў гэта ў сабе, баючыся спатыкнуцца і расплескацца, засцерагаючыся, каб ніхто мяне не падслухаў.

Апантанасць і панаванне адзіноты і цішыні сярод гоману і напружанай вірлівасці шматфарбавага, шматгалосага, але ніколькі не скрушна тлумнага свету – гэта маё нязбыўнае замілаванне, усведамленне сваёй існасці, непадробнай далучанасці да ўсяго іншага ў гэтай нашай грэшнай юдолі.

Такое ж адчуванне сваёй прысутнасці, мо некаму і патрэбнасці, надае мне і дарога, нават гэтая, забаронная і небяспечная чалавеку і зверу. У дарозе і на дарозе я ніколі не адчуваю суму, ужо на першым кроку прыкуты да яе. Лучнасць з ёй у мяне з маленства. Упэўнены, не толькі ў мяне. Чалавек народжаны, пастаўлены на ногі, каб хадзіць, спазнаваць свет і зямлю, тое, што яна круглая і хісткая, найперш нагамі.

Няўцямна, яшчэ не разумеючы сябе, я пратоптваў свае першыя сцежкі з болем, слязьмі і небяспекай, надаралася, і смяротнай. Тапіўся, апякаўся, абмарожваўся, канаў ад голаду, трапляў пад цягнікі і машыны. Падаў з дрэў і стрэх, быў біты коньмі і людзьмі. Свет выпрабоўваў мяне на зуб, скрут і трываласць костак. Як мяне неаднойчы папярэджвалі ці не ўсе, сярод каго я рос: кручонае калясо галаву сабе само скруціць.

Не скруціў. Толькі яна да гэтага часу кружыцца ад прагі спазнання навіны руху па прасёлку, сцежцы, гасцінцы, знаёмым мне, як пяць маіх пальцаў. Таму да гэтага часу спадзяюся і чакаю. Што і чаго, каб я ведаў. Чаканне ўва мне накшталт веры. І не толькі рэлігійнай. Жывёльнай веры, што я жыву і буду жыць. Пакуль не падвядуць ногі. Пакуль бачаць белы свет вочы.

А вочы свае я прывучыў не толькі глядзець, але і ахопліваць імі кожны раз усё новае і па новым, незлічона адкрываць нанава ўжо бачанае. Дасведчвацца, што бачанае толькі ўчора, сёння зусім інакшае. Зусім інакшым яно паўстане перада мной і заўтра, і паслязаўтра. І гэта бясконца, хаця і не заўсёды асэнсавана. Але калі я пачну дабівацца сэнсу, адчую і зразумею, што яго няма. Увогуле няма, не існуе, што шчыра ўсцешвае і задавальняе – і я на нешта ўсё ж здатны, маю такія-сякія клёпкі ў галаве. Цяміць яна яшчэ, цяміць: не балі, не балі галава, прыдзе субота – паправім.

У сваіх падарожжах я не расходую сябе на чытанне і сон. Не дазваляе сама дарога. Я неадрыўны ад яе не толькі позіркам. Я сам кінуты сабе пад ногі прасёлкамі, гасцінцамі, асфальтам і бетонам. Вужынай сцежкай тачуся, пракolваю і прашываю прасцяг палёў, лясоў, гарадоў і вёсак. Часцей, калі не пешкам, то аўтобусам. Ён дазваляе адчуваць сябе не толькі пасажырам, але і саўдзельнікам руху. Месца па магчымасці выбіраю каля акна, добра вымытага і ні ў якім разе не таніраванага, каб я без затрымкі не толькі вокам, але і ўвесь адразу і цалкам выкідваўся, катапультаваў з прыкутай, згодна квітка, абмяжаванасці крэсла ў прасцяг шляху.

І ўсё ж, з-за аўтобуснай упакаванасці, аддаю перавагу руху пешаму, давяраюся нагам. Асабліва, калі няма куды спяшацца, і ніхто мяне, апроч ягады ды грыба, нідзе наперадзе не чакае. Імкну ў мясціны няходжаныя, хаця такіх сёння няма, але ж пнуся, як мне здаецца і як таго патрабуе душа, у невядомае мне. Невядомасць і нязведанасць, што сабачка на шворцы, цягне, вядзе мяне ад дрэва да дрэва, клубком пагоркавага баравога моху шэра-сцішана, але і крохка заводзіць мяне не толькі ў патаемны баравіковы ці сунічны россып, зводзіць да такой жа выдыганасці, каляровай неўпарадкаванасці шчымлівых жаданняў і мройна салодкіх думак і парыванняў.

Але пра гэта гаворка асобная, не на хаду. Не хапатлівая і на самоце, вечная гаворка з самім сабой, калі ёсць што самому сабе сказаць, каб не спудзіць ні грыба, ні ягаду. Ёсць запаветнае слова, якое адвеку мелі ў сабе нашыя бацькі. Вечнае, як вечныя з глыбіні часоў і прасцягаў сцежкі, па якіх яны хадзілі, якія сёння прымаюць нас, скіроўваюць нашыя ногі да колішніх грыбніц і ягаднікаў.

А пакуль жа – машынны лёт па закілзаным асфальце напрыканцы другога тысячагоддзя. Канечне, не параўнальны з пешай хадой – ні ног пад сабой, ні зямлі пад нагамі. Але ўсё ж не шалёнае паглынанне аўтобусамі і цягнікамі ўсяго існага і сутнага, калі наваколле зліваецца і вымiргваецца, як прачынальны, ранішні сон. Не ўдаваная запаволенасць самалётнага слізгу над снегава-сумётнай збітасцю маўклівых аблокаў без адзінай зачэпкі на іх белі. З акна ж міжвясковага рабацягі-аўтобусіка, а я выбіраю на недалёкую дарогу іменна такія, яшчэ можна ўшчаміцца вокам у сапраўднасць, нешта пабачыць, адчуць, што міжволі адкладзецца ў памяці і надоўга ў ёй застанецца, пакуль нехта не загадае маўклівай хавальніцы скарбаў, тваёй жа памяці, адкрыцца.

Па-першае, як гэта нам і нарачона, адчуць пэўным месцам, што дарога вой ды вой. А па-другое, гэта ў аўтобусе жыццё снулае, а звонку гаманкое і галаснае. Вунь сабака раз'юшана гоніцца за аўтобусам ды яшчэ і голас падае, гаўкае. А за ваколіцай здымаецца з поплава, ідзе наперарэз аўтобусу, жагнае неба бласлаўляльным крыжам бел-чырвона-белы бусел. Задуменна і па-старэчы прароча кружляе і кружляе ў сцішана блакітным небе коршак. Прыкідваецца прарокам, а на самой справе проста галодны. З пракамі такое надараецца – жэрці хоча, шукае ахвяру.

А вось за аселіцай, на лобным капішчы вясковых стагоддзяў, у ценевай прахалодзе дубоў на самым шчыку прамога, як штык, крыжа скасабочанай капліцы прынайтаваўся арол-сцярвятнік – гэта ўжо сур'ёзна. Мне пра яго і за яго думаць і думаць трэба. Арол – птушка не наская. Няўжо прыхадзень, асоба каўказскай нацыянальнасці. Дык тут не базар, гандляваць няма чым, а калі ён з тэрарыстаў, вахабітаў, ісламістаў, то таксама – няма каго забіваць і рэзаць. Яшчэ пры цару Гароху было моўлена: «Барин, кровать

расстелена – пожалуйте угнетать». З тае пары ўсё і прыгнечана, і прырэзана, і прададзена. Арол толькі напамінак, персцярагальны перст былога, калі нясвойскі нейкі злыдзень, што калісь выпруціўся тут, а цяпер вылез з магілы, каб плюнуць у плечы будучаму, якое не па ім. Але ж сапраўднае, бягучае – літаральна – і стоенае яшчэ будучае не замінае і не запарушвае маё дарожнае вока.

Сабака, бусел, коршак, могілкі, арол. І ўсё гэта маё. За што мне такі шчодры падарунак. Я ўбіраю, п'ю і п'ю набгом з далоняў зямлі, краду вокам, запашуся дараваным мне. Насычаюся і не магу насыціцца. Да чаго ж я прагны, ненаедны, як голае неаперанае яшчэ птушаня, што пазнае свет толькі шырока разяўленым ротам.

Якая ж ты, дарога, пад кожны мой настрой розная. Гэта ж колькі па табе прайшло да мяне: стапталі, змясілі і згвалцілі нагамі свае і чужынцы. Праведныя, няправедныя, святыя і грэшныя. А ты ўсё такая ж нязменна прыязная да ўсіх і кожнага. У тым ліку і да мяне. Вядучая ў сёння і заўтра, чалавеку і зверу пад ногу і па назе, ад роднага парога – і ў даляглядны. І далёка за іх, куды сягае адна толькі памяць.

Такія мае дарогі, сцежкі і сцежачкі, кладкі і кладачкі з мінулага ў нявідама куды. Ад зямнога ў падземнае і касмічнае. Хаця я неперабарлівы і непатрабавальны. Мне ў ціхую радасць рыбка на кручку. Замілаванне і ўцеха. На той жа кручок падчапілі і зачапілі і мяне. Ужо даўно, сам не ведаю, калі. А то мо б і не даўся. Хаця, куды б я падзеўся. Што ўжо нарачона, тое і будзе, ад сябе і на тым свеце не схаваешся. А жыццё адно, кароткае, дый кажуць, яшчэ і чарвівае.

Багата нас прайшло такіх, што скаліліся на вечнасць. Толькі дзе ўсе яны сёння. Хаця век чалавека падоўжыўся, розум – пакарацеў. Цяжэе чалавек цялесна і ўсыхае ў першую чаргу мозгам – так сведчаць сёння вучоныя – заплывае тлушчам, спальвае сябе неахопнасцю і хіжасцю розума. Звяліся ўжо Тургеневы з яго самым вялікім у свой час мозгам. І ці не Леніны прыйшлі яму на змену: чакалі, што ў ім мозг вялікі, а ён, мякка кажучы, аказаўся сярэднім, ды яшчэ сіфілістычным і закаркаваным вапнай.

Такія вось, як калісь казалі, пірагі, а сёння – загагуліны. Губляем мы сябе. Свой розум, рэчыва, і без таго пакрыўджанае, названае шэрым, на якое мы за апошнія гады бяспрэчна збяднелі, на што ўжо звяртаюць увагу вучоныя. А гэта шэрае рэчыва ці не адзіная сцежачка, кладачка з нашай бескарэннасці ва ўкаранёнае і стоенае ў памяці мінулае. Такім чынам, нам застаецца толькі куцае, кастрыраванае *сёння, зараз і цяпер*. А я адмаўляюся быць манкуртам, прагну ўсё сваё мець, насіць з сабой і пры сабе.

Хто ведае, што мне спатрэбіцца заўтра, дзе быць, што рабіць. Мой лёс, а я ўпэўнены, не толькі ён, але і мінулае ў повязі з будучым прымушаюць мяне да неспадзеўнага і непрадказальнага, на што б я па сваёй волі і не наважыўся. Так я павінен праехаць ці прайсці, апынуцца ў загаданы дзень і час на гэтай лёсавай мне дарозе. Я сніў яе, трызніў ёй. А на яве яна аказалася такой, што лепш бы мне ў зародку знішчыць маіх нябачных падбухторшчыкаў, вытруціць прывідную і падманную слодыч майго вольнага начнога быцця. Але гэта – знішчыць самога сябе. А свае падманы мы толькі памнажаем і пестуем.

Што ж прымусіла мяне выбрацца ў дарогу? На першы погляд –прыхамаць, шал ад жарсці і гультайства. Але гэта так проста на першы погляд. Мае сябры і сам я колькі гадоў бавіўся рыбалкай у нізоўях Волгі, пад

Астраханню: нешта неверагоднае. Рыба люта нахабная і падкая да кручка, як дзеўкі да артыстаў і замежнікаў. І столькі яе, рыбы, больш, чым войска было ў Мамая і Чынгісхана разам узятых. Бярэцца нават на голы кручок. У добры час па-людску выбрацца на ловы і жор гэтай лютай рыбы не выпала. А ў няўчассе – калі ласка.

Так ужо сышлося, што якраз у няўчассе я пагнаўся за самім сабой. След у след ступіў на тую дарогу, па якой колісь ужо замурзана і нядужна прайшоў. Прайшоў і нібыта сабака, што пазначае сваю тэрыторыю, на кожным кіламетровым дарожным слупе пакінуў свой знак. Як памяць маіх пакутаў, холаду ды голаду, знямення і набыцця голасу – крыку і ляманту ад злыбеды да літасцівай аберагальнасці мяне небам, зямлёй. І, пэўна, нікольні не сляпым лёсам, што надаў мне сілы не цурацца бяды, прымаць і трываць гора. Назаўжды парадніцца, палюбіць дарогу, сябе на ёй і кожнага стрэчнага і спадарожнага.

А першы сярод іх – мой колішні сябра па Сухініцкім дзетрыёмніку Колька. На жаль, толькі імя. Бо на тым нашым шляху – у каго да дзіцячай калоніі, у каго і ў турму, а ў кагосьці і на той свет – мы, безбацькавічы, прозвішчаў не мелі. Як не мелі на гэтым свеце і прывязкі да хаты, месцажыхарства – папярэднікі сённяшніх бамжоў, а тады проста сіраты, абнесеныя ў роднай хаце на лыжку супу, скарынку хлеба. Агрызкі, недабіткі і недаедкі толькі што скончанай вайны.

Па сваёй волі і розуму абралі мы, каб захавацца, утрымацца ў прасторы і часе, нешта сярэдняе паміж калоніяй і турмой, бо былі мы яшчэ непаўналетнімі. Даспявалі да калоніі і турмы па дзетпрыёмніках. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, я іншым разам пытаюся ў сябе: чаго мне сёння не хапае. І, як ні дзіўна, адказваю – беспрытульнасці. Чаму? Думаю, трэба звярнуцца да афганцаў ці іншых нашых воінаў-інтэрнацыяналістаў, таму што тут, відавочна, адзін і той жа надлом ці злом псіхічна скалечанага пакалення.

Зграя ці саранча для ўладаў і бяльмо на воку нашых бацькоў, пераможцаў і вызваліцеляў Еўропы, нязздольных нас пракарміць. І мы карміліся самі старцаваннем, крадзяжом ці па сметніках вельмі няроўнага і тады часу, хто да чаго меў схільнасць, спрыт і здатнасць.

Колька ж ні пад адну з названых сірочых прафесій не падыходзіў, не ўкладваўся. Ён быў народжаны працаўніком, рабацягам. Аратым, сейбітам, майстрам, рамеснікам. Продкамі, патомна яму было забаронена жабраваць, красці і гвалціць. У дзесяць з нечым гадоў целам ён быў ужо як адліты і прыдатны для сапраўднай працы. Толькі тая праца і прага яе нязздольныя былі пракарміць яго. І такіх, як Колька, на той час было незлічона.

Таму ці не кожны з іх звыкла, з няцямнасці яшчэ маленства спазнаў навуку – як жа гэта ўсім ім адрыгнецца – дурыць дзяржаву і людзей, якія адмовілі ім у хлебе надзённым. Лета, часткова і восень, да белых мух, яны рабілі на той хлеб разам з бацькам, а часцей з адной толькі маці, прыпісанай да гаротных салдацкіх удоў: “я и лошадь, я и бык, я и баба, и мужик». Аралі, сеялі, касілі. Потым, як заведзена, жалі, капалі, звозілі ці зносілі. Паспявалі ўпраўляцца і ўпарадкоўвацца на сваіх сотках і на калгасных гонях.

Калгас разлічваўся іх парабкаваннем з дзяржавай, а яны атрымлівалі руб-коп і нешта ў лоб. З першым снегам і маразамі заканчвалася іх малечае калгаснае прыгонніцтва. Апраналіся ў рыззё, ішлі да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ці паўстанку. Таварнякамі, прабеглымі рабочымі паяздкамі, а

каму таланіла, і пасажырскімі гуляшчымі цягнікамі ад’язджалі, збягалі з бацькоўскага кубла ў чуж-чужаніну, дзе іх не маглі пазнаць. Дзе мелася ўдосталь не толькі хлеба, але і міліцыі, што ўжо чакала і ладзіла на іх ловы.

У большасці гэта былі вялікія абласныя гарады ці вузлавыя чыгуначныя станцыі, якія яны загадзя сабе абіралі, як рыба абірае прыдатныя ёй для зімоўкі і нерасту ямы. У сваім малалетнім нерасце ім патрэбна было не ўпусціць момант, патрапіць на вока лінейнаму міліцыянту. Ды не абы якому, каб меў ён крыху сялянскага розуму, бацькоўскую спагаду. Калі будзе ладзіць абавязковыя прачуханцы ці карміць “макаронамі”: зацiскаць главу паміж ног і біць даланёй па карку, то каб больш дзеля прыліку – каб самога не ўзялі на цугундзер і не папёрлі за спачуванне малалеткам, ловы якіх вяліся на дзяржаўным узроўні і былі пастаўленыя “на паток”.

Малалетак бралі каля сталовак, чайных, на вакзалах, збівалі ў гурт і раскідвалі па бліжэйшых дзіцячых прыёмніках. А іх у той час было нямала і ніводзін не пуставаў: колькі палегла па ўсёй Еўропе бацькоў, настолькі ж прырасло ў нас беспрытульнікаў-безбацькавічаў. Дзеля зручнасці ўтрымання іх дзетпрыёмнікі звычайна месціліся побач з турмой, каб калі што – перасадка без марокі. Апроч гэтага – ахова каля падплечча ці падбрушша старэйшага і сур’ёзнага брата абыходзілася больш танна. Часцяком у размяшчэнні дзетпрыёмнікаў мелася яшчэ адно дзіўнае і ці не сакральнае супадзенне, растлумачыць якое і тады, і цяпер па-за маім абмежаваным розумам.

Дзіцячыя прыёмнікі і турма ішлі ў адной звязцы з царквой, калі ёй пашанцавала захавацца ў горадзе ці пасёлку. Гэта было нешта з даўніны прырослае да нашага зыбкага існавання: турма – адвечны падмурак дзяржавы і яе апірышча. Тое ж можна сказаць і пра царкву. Найноўшы час дадаў да іх дзетпрыёмнік – сапраўды Бог любіць тройцу. Не хапала толькі могілак. Але іх у другой палове дваццатага стагоддзя адлучылі ад катаргі і так званых на еўрапейскі лад пенітэнцыярных устаноў. Цывілізаваліся, а мо адчулі і зразумелі: авёс, як гаворыцца, цяпер у цане – зямля і ў правінцыі падаражэла.

Але вось наш працаўнік калгасных ніў, сенажацяў і лясоў, ці больш адпаведнае яму прозвішча – падснежнік на адпачынку – ужо на казённым утрыманні за дзяржаўны кошт. Дзіравае і вашывае рыззё з яго здзёрлі, прагналі скрозь пражарку. Самога пад Катоўскага абстрыглі і прамылі ў лазні. Апранулі ў чыстае, хаця і не новае, але ў якім не сорамна і людзям паказацца, каб яго далі назаўсёды.

Ён пануе і раскашуе, як вусень на дзяржаўным, сакавіта зялёным яму і пры снезе, дрэве краіны. Ён задаволены і шчаслівы кароткім шчасцем падзёнкі. Яго аж тры разы на дзень кормяць, і нават цукерку даюць, якая часцей з мукі, але ён пра тое не ведае. Пазнае, Божухна ты мой, смак і колер апельсіна. А той апельсін не толькі пахкі і салодкі, але і пыхае агнём, калі не з’есці яго шалупінне, а сціснуць у пальцах і хуценька паднесці запалку – полымя, як тады, калі добра пернеш. Апроч усяго, спаць кладуць не на голых палацях каля печы пад дзяружкай, а на ложак з панцырнай сеткай, на прасціны і пад коўдру, што, зразумела, ужо занадта: гарадская распешчанасць і распуста.

Але чаму хоць трошкі, крышачку такой распусты не дазваляе яму родная хата? Чаму ён вымушаны дабівацца і спазнаваць гэта богвед дзе і за кратамі?

Не, ён ні на каго не наракае, мой Колька, мой сябра і брат мой па лёсе. Ён напоўнены цярпеннем, веданнем, што такая ўжо яго планіда, як, дарэчы, і ў мяне: гуляць з дзяржавай і лёсам у азартныя гульні сабе даражэй. А мне так карціць пагуляць. У Колькі ж такога жадання няма і, пэўна, ніколі не было. Таму ён толькі дзівіцца з мяне, з майго падарожнага глупства: абдурыць Маскву, прарвацца праз яе міліцэйскія кардоны і – на Далёкі Усход. А адтуль ужо ці то на караблі па вадзе, ці то дачакацца, калі вада замерзне і па лёдзе – на Аляску. Вычытаў, яе аддалі амерыканцам пры цару яшчэ ў арэнду на дзевяноста гадоў, і тэрмін арэнды хутка павінен скончыцца. На Алясцы я перазімую, пярасяджу пэўны час, прыдуць зноў нашыя, а я ім: дзень добры вам, мае вы родненькія, дзякуй за клопат, але я ўжо тут.

Хараша прыдумаў. Толькі дарога доўгая і небяспечная. Колька ж нічога не прыдумляў і не прыдумляе. Абраў сабе берлаг, дабраўся да яго і замёр, залёг у ім, як мядзведзь у спячку, на ўсю доўгую і панылую зіму. Спіць і пахропвае, чакае. Чаканне яго стоенае, адвечнае.

Ён прыглядаецца да напаўкрымінальнага асяроддзя дзетпрыёмніка – больш усё ж галоднага, чымсьці блатнога. Пазбягае, пабойваецца змяшацца з ім. Трошкі нешта пачытвае, бо да чытачоў тут адносяцца з павагай. Кніжак у дзетпрыёмніку шмат – поўная на дзве створкі дубовая магазінная шафа. Вучыцца іграць на гітары і мандаліне. Балалайку ўжо засвоіў: “Светит месяц, светит ясный, светит белая заря...” Здольны да музыкі і струннага інструменту – рукі, пальцы дазваляюць. У мяне ад струн пальцы мазоляцца і аблазяць. У Колькі ж яны, што з дроту.

Шэры, зняволена закуты хмарамі сярэднерасійскі дзень. Я з Колькам стаю каля закратаванага металёвымі прэнтамі акна – прыёмнік-размяркавальнік дзіцячы-то дзіцячы, але тут з намі не ў лялькі гуляюць. Начальнік пры пагонах, лейтэнант дзяржбяспекі. За дзвярыма, таксама закратаванымі, зусім не алавяны салдацік – суворы стары вайсковец са стрэльбай, хаця і ўзору 1891-га году, але напагатоў. Туліцца паныла паніклымі плячыма ад ветру да чырвонай цэглы, накшталт крамлёўскай, невядома калі, кім ці чым востра пашчапанай і кругленька выбойна пасечанай турэмнай сцяны. Але мы не звяртаем увагі ні на сцяну, ні на чалавека з ружжом. Звыклі, як да малюнка ў кніжцы ці фатаздымка ў газеце.

А вось тое, што адбываецца за нашым акном на вуліцы, прыцягвае нас, як кіно, у якое мы трапілі нахабна, без білета. Скрозь прыадчыненую фрамугу на нас дзьме салодкім пахам падталага снегу – гэта дурманнасць волі. Сувойны абрус зімовага снегу і прыгладжаная санямі і падэшвамі прахожых дарожная наледзь на бруку ўжо ўчарнелі, набрынялі і гатовы порстка пырснуць як першачком бярозавіка, яшчэ бурага ад кары дрэва, але скорага. А тут, на вуліцы, толькі прадказанне хуткаплыннасці, але больш каляровасці, хаця мо і не вельмі пагляднай – расквашаных і замешаных на вясну жаўклявых конскіх яблык, растрапанага і сцертага да водарнай млоснасці мурожнага сена. І духу, радасці і суму тых людзей, што прайшлі тут пешшу, праехалі конна, пакінулі сябе і свой след у надыходзячую ўжо вясну.

Але не толькі няўлоўнасць гэтага следу забірае і разбірае нас. На вуліцы круцяцца сабакі з патлатай зімова-камяковай поўсцю – местачковыя патомныя дваране, мо нечым падобныя і да мяне з Колькам, а больш да тых, каму прыналежаць, хто іх корміць ці, наадварот, трымае надгаладзь.

Паджарыя, прагоністыя, як загадзя адмыслова падрыхтаваныя і годныя да той працы, якая звяла іх, збіла ў адну юрлівую гайню. І вольныя, вольныя ў сваёй местачковай пераможнай і ўсёдазваляльнай заляцанасці дужасці і спрыце працягваць сябе.

Вяселле, хоць і сабачае, але ўсёроўна і безумоўна вяселле, свята роду, прыроды і натуры. Назіранне за ім нават праз краты, а пэўна найперш таму, што праз краты, і мне, і Кольку больш, чым забава і відовішча. Мы зайздросцім сабачай волі. Нам бы яе, мы б гэтых сабачак перабегалі, перагаўкалі і перакусалі – навучылі свабоду любіць. Толькі нам свабода, нават сабачая, доўга яшчэ не свеціць.

– У нашым мястэчку, – здаецца, зусім не да месца гаворыць Колька, – ваўкі ўсіх сабак паелі.

– А ў нас не, – адказваю я яму, – з усімі яшчэ не справіліся.

– Тады вашыя ваўкі нездары і гультаі.

– Ага, гультаі і нездары. Проста ўсе нашыя сабакі зубатыя і дужыя.

– Супраць ваўка, нават самага апошняга, сабака нічога няварты, – як не з свайго розуму адказвае Колька. І гэта мяне злуе.

– Ага, нявартыя. Гэта вашыя нявартыя. А нашыя... Нашыя сабакі не нашыя. Яны з нямецкіх аўчарак. І нашыя ваўкі з тых аўчарак.

– Гэта як?

– А вось так. Немцы адцураліся іх і пакінулі. А мы прынялі і прыручылі. А каторыя засталіся ў лесе, тыя здзічэлі і выжылі толькі ваўчыцы. Сукі. Таму яны і лютуюць... – Наглядаючы за вулічнай гайнёй, мяне панесла. Я разумею гэта, разумее і Колька, бо з закратаванага акна мы бачым адно і тое ж, што вымушае нас да пярэчання адно аднаму і спрэчкі.

– Хлусіш ты ўсё. Хлусіш, – кажа мне Колька.

– А ў морду не хочаш? – кідаю я яму ў адказ.

У прыняволенні ў чатырох глухіх сценах мы надта ж паддаемся на крыўду, чуйныя і далікатныя да таго, што выдае замахам на наш гонар: каб адстаяць сябе і выжыць тут трэба тыя ж воўчыя ці сабачыя клыкі.

– Морда ёсць і ў цябе, – не папускаецца і Колька.

Я адчуваю, як рошчынна, нібыта цеста ў дзяжы, сцягнутай, абкручанай з усіх бакоў сухімі абручамі, перарывіста пыхкае пухірамі ліхаманкавае жаданне прыкласціся кулаком да твару яшчэ толькі хвіліну таму майго лепшага сябра. Азмрочанне свядомасці з ніадкуль і з нічога, са звычайнага стаяння каля акна. Як нечага нацягнула, надзьмула з прыадчыненай на вуліцу фрамугі, з якой абяцальна дыхае прадвесне і гучыць узбуджаны сабачы брэх. Пад яго бласлаўляльныя гукі мы ўжо гатовыя сашчапіцца. Ратуе нас рух выхавацелькі, што ўзнялася і поўным ростам навісла над сваім наглядчыцкім сталом. У якім бы шале сярод чатырох казённых сценаў ні знаходзіліся беспрытульнікі, яны ніколі не павінны губляць і не губляюць хіжага звярынага адчування небяспекі. Таму што кожны ведае: у дзіцячым прыёмніку-размеркавальніку, апроч пакоя для гульняў, маецца і карцэр. Мы праходзім міма яго абабітых ліставым жалезам дзвярэй тройчы на дзень, калі нас выводзяць строем “на апраўку”.

І гэта куртатае і картавае чужынскае слова карцэр, пэўна, адначасова з вольным брэхам сабак за акном гучыць увушшу абодвум нам. Нам больш нічога не трэба ні каля акна, ні за акном. Мы з Колькам зноў сябры з недаспеленасцю непаўналетняга шчымліва гаркавага аскомнага суму, з неакрэсленым яшчэ, але пранізлівым пытаннем: а чаму мы тут, а каму

гэта трэба, а за якія гэта нашыя малалеткавыя грахі нехта насалоджваецца нашай слязой. З падсвядомым веданнем і адчуваннем, што гэта не толькі нашыя тут пытанні. У свой час яны сарвуць нам і некаму яшчэ дзяржаўнае вечка. Адальюцца кошцы мышчыны слёзы. На адным і тым жа кручку, паўнавартасна выкаваным, усе мы тут і паўсюль. Прыдзе, прыдзе час – і кожнага, кожнага за гэта за вушка ды на сонейка.

Час гэты ўжо прыйшоў. Толькі не туды і не да нас. Пэўна, ўвогуле нашаму дзяржаўнаму гадзініку на сямнаццаці, дваццаці аднаму і дваццаці чатырох каменях, як пахваляліся і жартавалі калісь, усёроўна двух камянёў не хапала – аднаго знізу, другога зверху. Пасля шматабяцальнай сабакам, катам, і трошкі нам, малалеткам, адлігі на пачатку вясны, міжнароднага жаночага свята, зноў цісканулі маразы. І свята ўсёй краіне плаўна перайшло ў жалобу. Тая жалоба пацягнула нас не толькі на сум, але і на глупствы.

Мы пачалі вініцца і, пераходзячы на феню, калоцца. Першым не вытрымаў я. Як на споведзі, прызнаўся выхавацельцы, а потым і начальніку дзетпрыёмніка і пра Далёкі Усход, і пра Аляску – хто я ёсць, якой крыві і адкуль родам. Хаця, тоячыся, плакаў у прадбачанні наступстваў за праўду і шчырасць, вяртання ў родныя пенаты, дзе мяне ніхто не чакаў.

Плакаў насуха, без слёз, што куды больш пякуча, чым са слязьмі. Колька без слоў, моўчкі, толькі тварам і вачыма спачуваў мне. Дастаў, паказаў і даў патрымаць у руках самой дарагое, што мелася на той час у яго на зайздрасць усяму дзетпрыёмніку. “Атлас железных дорог СССР.” Трохі памуляўшыся, паабяцаў падарыць яго мне, толькі крыху пазней. Усёроўна яму ўжо час кідаць вывучаць шляхі чыгуначных зносін адной шостай сушы, бо могуць пасяліць і насупраць яго сённяшняга жытла: за сцяну з чырвонай цэглы, пасечанай пад рост не надта высокага чалавека, з-за якой ні стуку, ні груку, толькі адзіная самотная бярозка ў трэшчыне на вільчыку смуглявай страхі. Таксама смуглявая, голая і крыху рдзяная цяпер.

– Тваім будзе, табе яшчэ спатрэбіцца, – сказаў Колька, хаваючы за пазуху свой скарб. – Скора ўжо, скора.

Тое “скора” прыспела з сапраўднай вясной. Не ведаю, з якой ласкі мяне з Колькам на пару дзён амніставалі, выпусцілі на волю. Прынамсі, з Колькам больш менш зразумела і вытлумачальна, так бы мовіць: сваяк сваяка бачыць здалёку. Палеткі збылі снег, суха абветрылі паніклае мінулагодняе пустазелле. Надышоў час ворыва і сяўбы. Дзетпрыёмнікаўскі конюх дзед Мартын спрактыкаваным сялянскім вокам прыкмеціў сярод нас такога ж, як і сам, аратая і сейбіта.

Гэта, зразумела, быў Колька. І сёння я дзіўлюся беспамылковасці выбару дзетпрыёмнікаўскага конюха, нейкай амаль містычнай звярынай відушчасці колішніх вясковых людзей. Нашыя выхавацелі і ахоўнікі амаль усе мелі вышэйшую педагагічную ці ваенную адукацыю і толькі ўладна і прымусова ўтрымлівалі нас – на грунце і падставах падпарадкавання і пакарання згодна дзяржаўных, крымінальных законаў, карацей – страхам і пад страхам. А тут нейкі зачуханы вясковы дзядок, путам падпаясаны, акінуў вокам нашую шайку¬¬-лейку і адразу ўнюхаў, хто чым і як жыве, хто не баіцца і кія, а каму даволі і ківа. Ці не з парога абраў сабе ў памагатыя майго сябра Кольку.

Дазволіў быць вольным каля яго і мне. Хаця ў той час я падумваў ужо даць лататы на сустрэчу з маёй Аляскай. Таму што нічога добрага

наперадзе мне не праблісквала. Толькі прымусовае прыканвойнае вяртанне туды, адкуль я ўцёк, ад чаго выракся: і крыж на пузе, зуб даю – век волі не відаць.

Некалі я меў нахабства сказаць: у нашых палескіх вёсках, што ні стары ці старая – то Фрэйд ці Юнг з іх геніяльным псіхааналізам. Зараз жа, хоць і скрозь зубы, гатовы паўтарыць гэта. Сялянскае жыццё ў яго знітаванасці з вечнасцю, натуральнасцю і штодзённай навіной кожнага імгнення, каб прынаравіцца да іх і ўстояць у дрыгвяной ды багнавай зыбкасці, здольна спарадзіць і вымудрыць не толькі еўрапеізаваны псіхааналіз, а штосьці яшчэ край патрэбнае ці ніколькі непатрэбнае свету.

І спарадзіла ж. Спарадзіла нас з вамі.

Колька плуг трымаў, вёў разору, як сёння звышгукавы самалёт арэ неба. Толькі не птушына-кропкава і бялеса-хмарна, а чарназёмна, сталёвым з'ядам упрасаванага ў плуг нарогу, сківі́чнай сыспаду яго зацятасцю працістаяння зляжалай за доўгую зіму зямлі, па якой Колька крочыў босым.

Так яму, пэўна, пасля ўтрымання пад наглядам і замком пажадалася хадзіць, абмацваць вольнымі нагамі поле. Пажадалася пасля аднаго ці двух запускаў плуга ў глебу скінуць і сарочку. І што дзіўна, распрануты ён вельмі пасаваў неўзаранаму яшчэ полю, як пасуе яму ранняя і позняя курапатка. Поле было ўжо шэра і рудзенька пазначана сонцам, такую ж сонечную пазнаку з мінулага года, нягледзячы на пакаёвае існаванне, захоўвала ў сабе і Колькава цела, смуглае і жылаватае, як з канапляных вяровачак яшчэ не туга заплеценых, рухомых і рухавых. Таксама рухава ківаўся перад ім схіленай галавой і напятым крыжом буланы конік, па вясноваму вызвалена пускаў ветры. Прыпаяны да неабцёрханых, яшчэ зімовых ручак плуга, падобна, не ішоў, а з асалодай плыў, як купаўся сярод поля ў мройным прыпары разняволенай зямлі малалетні араты. А наводдаль за ім паважна крочылі негроідна закураныя гракі, выдзёўбваючы халяўную, крутлівую ў скібах зямлі спажыву.

Я таксама паспрабаваў стаць за плуг. Але ён ніяк не слухаўся мяне, п'яна крывуліў, выхопліваўся вонкі з разоры, пісягова віхляў па каўтунова-збуцвелай за зіму траве. І мяне дасціпна папрасілі пасвіць згаладалых гракоў – занятак, якім я прабавіў той вясновы сельскагаспадарчы дзень, хаця душа парывалася зрабіць нешта больш карыснае для айчыны і сваёй бяспрытульнай будучыні, каб дзень усё ж быў пражыты не дарма. Я ўпершыню адчуў зямлю, як і Колька, басанож ступіўшы ў разору. Зямля была ўжо цёплая, як ачахлы, нядаўна спечаны бохан хлеба пад укрывам хатніх рушнікоў. Але ж адкусіць, паспытаць таго хлеба, мне не дазволілі.

А Колька спажываў яго напоўніцу. Нібыта толькі за гэтым і быў аднекуль ніспасланы на Зямлю. Маленькая, смуглявая, як адлітая з нейкага адмысловага рэчыва, пчолка за плугам у разоры Млечнага шляху. У казённай апратцы, занятая пераўтварэннем ці тварэннем сябе. На нарогавым кручку яго плуга завісла сама блакітная кропелька сусвету. Араты быў улоўлены ім і лаўцом яго.

Працяг і заканчэнне таго дня: Колька запрасіўся да начальніка дзіцячага прыёмніка. Ён, падобна мне, таксама саспеў да волі і раскалоўся. Прызнаўся, адкуль ён, дзе жывуць яго маці і яшчэ трое братоў. Туды ж прасіў адаслаць як мага хутчэй і яго. Але начальнік сказаў, што гэта будзе тады, калі адсеюцца тут. Колька пагадзіўся: за дабро трэба дзячыць і няволі, і д'яблу. Колька агораў яшчэ адну пару года, сытна перазімаваў на казённых

харчах у той час, як яго голыя і босыя браты, яшчэ не гатовыя з-за сваіх малых гадоў рушыць за ім па дзіцячых прёмніках-размеркавальніках, пухлі з голаду каля роднай маці ў роднай хаце.

Яму ж, Кольку, прыспеў час па-калгаснаму ўжо запрагацца ў плуг. Па-даросламу араць, сеяць, касіць. Дзяржава аказала ласку, зіму паіла, карміла, нават у гарадское апранала. Цяпер жа, па цяплу, пасля казённага ўтрымання час дбаць і самому. Карміць маці, братоў, калі яны яшчэ не перамерлі за зіму, цягнуць на сваім гарбу і калгас.

Дзетпрыёмнікаўскія эвакуатаркі павезлі мяне з Колькам у адзін дзень, толькі ў розных накірунках і ў розным настроі ды стане. Мяне, як нябожчыка, на пахаванне – такім здавалася мне вяртанне ў родную чужую хату. Кольку – як на вяселле: сустрэчу з братамі і маці і на адкрыццё чарговага сезону парабкавання на роднай зямлі, з якой ён быў да схону ўжо заручаны і калгасам прыгавораны. У мястэчка Навазыбкаў. Славутае гуркамі – узбуджана дакладаў усяму дзетпрыёмніку Колька, чамусьці асцярагаючыся падысці да мяне. Мне ж выхваляцца не было чым, дый зусім не з рукі.

“Атлас железных дорог СССР” ён заціснуў. Нават і блізка больш не паказаў мне. Мо адчуваў яго патрэбу ў сваім яшчэ няпэўным будучым ці захоўваў для малодшых сваіх братоў. А мо такая ўжо кулацкая, хутарская была яго натура, бо хадзіў ён у дзетпрыёмніку адразу пад дзвюма ўзаемавыключальнымі мянушкамі: кацап і хахол. Абедзве абразлівыя, прыналежалі балоту – ніжэйшай касце беспрытульнікаў, так званых мякіншчыкаў, больш схільных да старцавання, чым крадзяжу. У нейкім родзе я і сам быў бліжэй да апошніх. Мог, быў здольны і здатны ўкрасці, цягнулася, цягнулася рука. І крала, але саромелася, не прызвычаеная і не абуджаная яшчэ да зладзейкаватасці і зладзейства.

Лёс мог распарадзіцца мной і так і сяк. Інакш мне б не выжыць. Звераватасць беспрытульніцтва ўжо зрушыла маё вока, і руку ўжо павяло, яна ўжо была падрыхтавана, каб пацягнуцца да таго, што пагана ляжыць. І толькі няпісаная ці наадварот стагоддзямі ўкаранёнае: не тваё – хай лепей спрахне, не крані – баранілі мяне на чысціню і прасветленасць.

Колька быў абаронены ад спакушэння на чужое, як наогул на ўсё благое, падобна, некім зверху. Абаронены і даўнінай, і сённяшнім днём непадступна з усіх бакоў, хаця ўжо і прымусова жабрацтвам беспрытульнасці крыху надкусаны. Толькі то была не яго дзіцячая яшчэ надкусанасць душы і цела. Ілжыва надкусанымі стальнымі фіксамі стагоддзя былі ўсе.

А я падсвядома, бо сам быў пазначаны тымі зубамі, прагнуў набліжэння і далучанасці да ў склянь налітага паўсюдна людажэрства ці агульнай падрыхтаванасці да яго. Прагнуў еднасці і параднення з ім. І хай мне нехта скажа, што ў яго было інакш – не паверу. Хаця мо і інакш, толькі ён тады ўжо не чалавек. Я ж шукаў сярод самапаглынальнага людства чалавека. Сябе, свайго месца, сваёй долі, бо верыў – недзе ўсё гэта ёсць, павінна быць. І чым больш верыў, тым тым глыбей падманваўся і заблытваўся павуціннем таго ж падману і жывёльнай веры. Бегаў, сноўдаў, бадзяжыў. І ці не за гэтым зацята, сапраўды па-паляшуцку ганюся і цяпер, зведаўшы: няма і не можа быць нічога больш жахлівага і горкага за сляпую веру і такое ж нявер'е, за сустрэчу з сабой колішнім. Гэта тое ж, што спрабаваць укусіць сябе, як Жучка сабаку – за балючае месца, за ср...ку.

Між тым за Колькам, узгадваючы той час, ні тады, ні цяпер прагі жу-

раўля ў небе я не адчуваў. Наадварот, мо нават у нейкай ступені друіднай здранцвеласцю паставы, простасцю жаданняў і сціпласцю думак і паводзін ён сцвярджаў адну, але найвышэйшую праўду неабходнасці і бясспрэчнасці сённяшняга дня. Сцвярджаў непахісна, хаця і бязгучна, ціха і цвёрда, не вытыркаючыся, з-за чаго іх усе і паўсюдна лічаць за шэрых і апошніх. Ён быў з такіх непрыкметных, на якіх нідзе і ніколі не азіраюцца, такімі яны ўжо нарадзіліся, такімі задуманыя і так апраўдваюць сваё званне. З тых, пра каго сказана: і стануць апошнія – першымі.

І насамрэч, чыста па-жыццёваму, апошні – гэта з якога боку яшчэ паглядзець. Хто, дзе, куды і на што першы і апошні. Дастаткова ўзгадаць паслясмяротны лёс кожнага з некалі першых катаў і людажэрцаў краіны. Нават на абед у сталоўку Колька прымудраўся, хаця і ішоў першым, трапляць апошнім. А вось на працу, напрыклад, дровы калоць для дзетпрыёмнікаўскіх печаў, ніхто няздольны быў яго апярэдзіць. Не было такога, каб на дрывотні ён заставаўся без сякеры. Вузенькая, вельмі вузенькая ў нас кладачка паміж першымі і апошнімі сёння і калісь, бачная толькі здалёку.

І гэтая збвужанасць, адчуванне няпэўнасці і няправільнасць прасцягу гоняць і гоняць мяне яшчэ раз прабегчыся па сціснутых травой і кустамі сцежках, на якіх я ў дзяцінстве да крыві пазбіваў ногі. Пакланіцца і падзякаваць за навуку хадзіць і бачыць. Паглядзець у вочы збытаму і нязбытаму, мігатліва мройнаму і прывіднаму, па якіх так соладка шчыміць і плача на самоце сэрца. Разумею, не сустрэць – адчуць бы толькі таго ж колішняга Кольку, а гэта значыць і сябе, тое, хаця і горычнае, але ж лепшае, што было некалі невядома кім спадкаемна даравана і мне. Што дорага мне, як можа быць дорага толькі незваротнае, неразгледжанае і згубленае. Як губляецца сярод дня ў тумане белага адцення зброддлівы бычок з меднай бразготкай на шыі. І толькі ва ўсе бакі цененькі звон па роснаму выпасу пагона.

За даўно ўжо расталым у таксама зніклым у прасторы і часе пагонам падсвядома я ганяюся ўсё маё жыццё. Заняты гэтым, пэўна, і зараз. Але ж той звон, ад якога калісь закладала вушы і слёзна асляпляла вочы, я выплакаў. Аглух на яго яшчэ тады, калі дзетпрыёмнікаўская эвакуатарка павезла мяне ў жыццё, якому я напрэч адмовіў. А майго сябра другая эвакуатарка – у запаведанасць яго бацькоў, на працяг іх роду: на вясеннюю пасяўную. У старажытную і шматпакутную слабаду-пасад, мястэчка ЗыПкае-ЗыПкаў-Навазыбкаў. Па геаграфіі – пасяленні на Усходне-Еўрапейскай раўніне на памежжы Украіны, Расіі і Беларусі, што адбылося і паўстала з зыбкасці амаль нашай дрыгвы і багны. Чаму, не выключана, я і прывязаўся да Колькі і яго бацькаўшчыны.

У гэтай прыязнасці да невядомай і, здаецца, чужой мне зямлі было і заставалася нешта невытлумачальнае, амаль містычнае, што, пэўна, на шчасце нам не дадзена разгадаць, ведаць наперад. Як кладачка, пракінуцца тое ці іншае слова, прозвішча, гук, усхліп, уздых ці вокліч і адгукнуцца ў прасцягу, часе і ў нас. Крануць, зачэпяць ці пуста згубяцца і сатлеюць у абыякавасці вякоў, як гэта часта здараецца нават з лёсавым і крэўным: ходзім, кружым вакол сябе і не зважаем на сваю ж самасць, адметнасць і самабытнасць. А чужое – мілуем, ледзь не молімся яму. І толькі калі ўжо нічога немагчыма перамяніць, калі ўжо нас пачынае выпростваць і адукаваць магіла – горка каемся. Ёсць, невідушча блукае па свеце і вакол нас нешта больш моцнае ўжо за нашую слепату і прыніжанасць, за ўбітую

і прапісаную нам навукова крывавую, нібыта нашую, а на самой справе і не начаваўшую паблізу нас гісторыю з геаграфіей. Не начаваўшую, а за начлег аплочаную трыццаццю сярэбранікамі.

Хто ведае, ці не з такога невытлумачальнага мая эвакуатарка яшчэ па дарозе да цягніка задобрыла мяне трыма рублямі, каб я не кінуўся следам за сваім сябрам у зыбкую хісткасць расейскай Усходне-Еўрапейскай раўніны. Паабяцала яшчэ дзесяць, калі давязе да хаты і здасць міліцыі. Такім чынам, я атрымаў першыя свае трыццаць сярэбрэнікаў – за дабраахвотную здачу ў палон сваёй душы. Толькі мне на той час было ні да чаго. Нават уласная дурнота бегаў і самагубства пакінулі мяне, спапялёныя краўдай.

Гэта засталося ўва мне назаўсёды і з новай сілай выбухнула і ажыло на крывава высалапленым языку цяперашняй маёй дарогі. На крыку роспачы сваёй памяці я і ўехаў у цяпер мой, толькі мой Зып-Зыпкаў-Навазыбкаў.

Што ж у ім мелася майго, апроч памяці ды Колькі? Ці варта было мне столькі гадоў агарод гарадзіць? Аказваецца, варта ды яшчэ як варта, хаця б таму, у якія непрадказальныя гульні гуляе нашая памяць, якія конікі выкідвае. Зыб мой быў зусім не галаўны, а старажытна гістарычны, як і геаграфія, якую я вывучаў і пазнаваў праз голад і холад беспрытульніцтва. Мо таму так непрыкаяна і балюча шчыміць забітая ўва мне – свая, забітая ўва мне гісторыя і геаграфія.

Навазыбкаў геаграфічна прыналежаў Бранскай вобласці РСФСР. Невядома з чаго і чаму ў дзетпрыёмніку я выдаў сябе за жыхара – блытаў сляды вышуку? – суседняга з Навазыбкавам раёна, Клінцоў. Нешта сваяцкае мелася ў назве гэтага горада з маімі роднымі Каленкавічамі, а непадалёку ад яго – мястэчкам Клінск, дзе я на Пцічы, на затоцы, наступіў на нейкую вельмі вялікую, пэўна ж, рыбіну. Яна страпянулася і пакаціла мяне. Я ўпаў і, бачыць Бог, больш не падняўся. Кінуўся ў пошукі яе і як чалавек стаў прапашчым свету. Апроч таго, усе чыгуначныя станцыі такія, як сам Бранск, Злынка, Почап, колка ўпіліся ў маю беспрытульную і вельмі чуйную на спазнанне і адкрыццё свету памяць, стрэмкамі захраслі ў ёй, як гэта адбываецца з асколкам снарада ці куляй у параненага на фронце салдата.

На Браншчыне я спазнаў, як гэта быць дзічынай, што такое сапраўднае міліцэйскае паляванне. Гоны, пагоні ці не больш жорсткія і лютыя, чым на звера. Таму што – чалавек за чалавекам, двухбакова распаленыя і вынаходлівыя. Недзе там, на бранскіх станцыях, мяне без дай-прычыны, проста з-за цікаўнасці і жадання не абмінуць ляжачага і паўзучага, каб не наступіць на яго, па-даросламу гнялі і білі. І я таксама некага гнюсіў і біў, згодна прымаўкі: голы голага гняце і крычыць – сарочку не парві. Некага рабаваў ці сарамліва быў ужо падрыхтаваны да рабавання.

Такім чынам, зразумела, ні для чаго і каго смарката-прыязнага ці летуценна-ўзнёслага ў маёй тады атручанай і перакручанай памяці месца не магло быць. А ўсё ж было, было. Невядомае нават мне сховішча, скрытня, дзе нехта ўпотай, каб я не згубіў сябе, абярэжна нешта адкладаў. І гэта нешта незагойнай болькай, трэцім вокам, ціхім свербам, як ад старой раны, неіснуючай рукі ці нагі, час ад часу аказвала сябе і тады.

Ці ж варты быў гэты сверб той явы, у якой апынуўся я, калі ён выкрыў сябе напоўніцу і агаліўся. Кожная голая ява – хутчэй расчаравальная, чым чаравальная, як і ўсё здзейсненае і атрыманае, пра што прыгожа і светла марылася. Хаця не без падабенства і замаху на надзвычайнасць і выбітнасць.

З замахам на заходняе, французістае – шчыт у пасярэбраным атачэнні якога крыжападобна складзены зялёны сноп канопляў і залаты жэзл Меркурыя – герб горада Навазыбкава пры ўездзе ў яго. Адразу ж вось такі выразны славянскі валяпук, намёк на тоўстыя айчынныя абставіны – бясспрэчную славутасць таго, што тут культывуецца і вырабляецца: каноплі і пекныя пяньковыя вяроўкі і канаты. А ў дадатак да іх – канапляныя алеі, скуры, хамуты, дугі. Ведай, чужынец, нашых.

І праз гэта, праз задаўненую тумановасць часу, мне прыбачыўся мой былы сябра Колька. Праз напамін пра вяроўкі. Прароча мінулым і будучым, кручана вяроўкавымі былі яго яшчэ недаспелыя дзіцячыя рукі, такім жа ці не спрадзеным з канапляна-звітых вяровачак быў і сам ён, яго тулава. А галоўнае, прыроджаная натуральнасць прыстасаванасці і прагі да сялянскай працы, яго вартасць, годнасць нават у беспрытульнасці жабрацтва. Разуменне і адчуванне сябе і свайго вольнага, нікім не занятага месца ў паднявольным свеце і ў працы. Месца, здабытага стагоддзямі, таму што заснавальнікамі стражытнага пасаду Зып-Зыбкае – па-нашым, дык балота, багна, дрыгва – былі стараверы, бунтаўшчыкі супраць афіцыйнага праваслаўя. Яны ж – гераічныя абаронцы гэтай зямлі ад нашэсця шведаў, за што пасад быў перададзены спецыяльна створанай канторы раскольнікаў і такім чынам пазбег прыгонніцтва.

Але ж самае найвялікшае адкрыццё было не ў гэтым. Навазыбкаў, як і ўсе спадарожныя яму Клінцы, Почапы, Злынкі, ў свой час уваходзілі ў Вялікае Княства Літоўскае. Вось, пэўна, чаму мяне так гарнула да іх. Да сваёй прарадзімы, колішняй бацькаўшчыны. Дзе, не выключана, застаўся маленькі лапік зямлі, якую не зведала мая нага. След маіх продкаў. Зямля поўнілася і дыхала іх перарваным подыхам. Дыхала, смяялася і плакала, стагнала іх векавым прахам.

Так адукаваўся і падкаваўся я значна пазней. Пасля майго падарожжа праз тры краіны і адно былое ханства. Нешта накшталт падарожжа Радзішчава з Пецярбурга ў Маскву – са сталіцы ў сталіцу. А мне амаль праз два стагоддзі выпала адна толькі шэрая сярмяжная правінцыя, хаця і цалкам скіраваная ў светлую будучыню.

Сам жа горад Навазыбкаў шчодра і дабразычліва пазначаны мірным атамам, не надта ўразіў мяне. Я і не вельмі хацеў яго глыбінна бачыць. Нішто так не разбурае нас, як сустрэча і збытасць летуценнай мары дзяцінства. Несупадзенне і расчараванне поўнае, як з цягам часу страта тых жа страшылак, што месціліся ў нас з пужлівага і даверлівага дзяцінства. І таму я не дазволіў гораду ні авалодаць мной, ні адрынуць мяне. Праслізнуў скрозь яго, як жук-плывунец, альбо водны камар-слізгун, што атабарыліся на невялікіх і не вельмі плыткіх рачулках, каля якіх я так люблю бавіць час і цікаваць за тым, хто там водзіцца.

Слізгуны, падобна мне і дапытлівым разявакам у невялікіх гарадках, з'яўляюцца ў вадзе пад стромым берагам ракі нечакана і нябачна, як імгненна сатвораныя з задуменнай пахмурнасці ўдаванай глыбіні тарфянага дна, адбойнай пакручастасці плыні. Прыпыняюцца ў яе завіхрэннях, нейкі час слухаюць рэчку, нібыта асэнсоўваюць сваё тварэнне і вышукваюць творцу і сябе ў тым жа вадзяным люстэрку. Падобна недаверліваму кацяняці, каторае перад тым, як каўтануць малака ў сподачку, абавязкова паспытае яго голай лапай.

Падобна таму недаверліваму кацяняці, паводзіць сябе і слізгун пад

берагам. Асядлаўшы струмень, скача на ім, раз-пораз няўлоўна і нябачна перабіраючы цыбатымі мыліцамі пераломна-сустаўных нікчэмнасцяў ног, худых і ломкіх.

І толькі пасля пэўнай дамоўленасці і зліцця з вадой, яе жыццёвай пругкай напятасцю, імкліва, што канькабежац, скалануты дазваляльным стартавым стрэлам пісталету, адштурхоўваецца і нібыта стракозна лунае над вадой. У два-тры рухі – вока не паспявае міргнуць – праскоквае рачулку ад аднаго да другога краю, з некранутай, па ўсім, ад здзіўлення нахабнасцю парушынкі, без адзінай зморшчынкі і намёка на ўвагнутасць паверхні зацуглянай ім вады.

Зухавата спыняецца ў цяньку пад навіссю прыбярэжных пахіленых траў і лозаў, усталёўваючы і сцвярджаючы вечны спакой вады, каб штохвілінна адчуваць і ведаць, што ўсё гэта зыбка і падманна, пакуль ён аб'язджае ваду. Вечнасць жа і ціша, і непарушны спакой – толькі ў ім, у яго да імгнення скарочаным існаванні. А паміж яго быццём і небыццём толькі вада, неба і зямля – нябачнае пераджоўванне імі і пераварванне яго існасці.

Таму ён стоена лічыць адпушчаныя і дараваныя яму імгненні. Слухае мінулыя стагоддзі і цяперашні свет, што паціху сыходзіць з капылоў, губляючы апошнія клёпкі, змяняе градусы, паралелі, мерыдыяны і зямныя восі. Выразна бачыць, за ім прадказальна цікуе малюпасенькі пячкурык, што толькі ўчора з нечага слюдзяна вылупіўся, а ўжо некага хоча праглынуць. Агаладала сіні, палыпвае ў яго, камарыка-слізгуна, бок не па росту яму і званню вялікім і лупатым вокам, зявіць яшчэ толькі плеўкавы намёк на рот. А слізгун і ў галаве не трымае ўцякчы ад яго, патомна, нашчадкава згодны з нарачоным яму.

Такая ж згода пры ўсіх расчараваннях і ў некай ступені бунтоўнасці месціцца і ўва мне. І я, хаваючы яе і сам хаваючыся за ёй, цішком праслізнуў горад Навазыбкаў, як пракраўся па падманна зыбкай памяці. Памяці, якая адышла ад мяне, падмененая і паменяная, мо толькі на адну хвіліну, на ўсё ж нязбытую і не патрачаную на пустату – памяць векавую. Канечне ж, не маю, а тую, што набыў, адчуў у сабе падчас няўдалай рыбалкі на заціснутым сярод пракаветнай дубровы безыменным лясным возеры.

Пасля абуральнага бясклёўя мне захацелася прайсці па надзіва пахмурнаму дубняку каля возера. Дубы, што дзікі, укаранёна каржакаватыя і прыгорблена пукатыя пры каранях. Але пад імі ніякага падросту – ні кусціка, ні дрэўца іншай пароды. І зямля амаль без травінкі. Нібыта сапраўды тут жыравалі дзікі, а мо падпольна пасвіліся з далечы вякоў ацалелыя ў палескіх начах сланы, хутчэй усё ж, маманты. Да мяккаты спустошылі зямлю. Ногі грузлі ў недапрэлай лістоце і пухкім, нарыхтаваным стагоддзямі падзоле, нібыта я ступаў на нешта жывое, зыбка жывое. І толькі ў адным месцейцы сярод гэтага варухлівага жывога і змрочнага, паміж рассунутых дубоў, мелася маленькая, накшталт вока нябёс, задумлівая пелька вады, з зыркім водбліскам дасягальнага да яе сонца.

Вада не падпусціла мяне да сябе. Падсвядома я адчуў, што калі і наканавана нешта мне ў ёй, то толькі ўтапіцца, нехта ці не загадзя падрыхтаваў мне тут пельку. Наконт ловаў рыбы – спраўдзілася: ані хвосціка, ані лусачкі. Пасля такой поўнага рыбацкага "фіяска" я ўбачыў, што ў пелькавым вочку азярка адбываецца нешта нядобрае. Вада пачала там бурліць і пляскацца, як кіпень на агні. Тое ж самае адбывалася і з зямной цвёрдзю, калі я ступіў пад маўкліва навіслую да таго засень пракаветных дубоў. Яны

страпянуліся і загулі гудам царкоўных званоў, пастуховых рагоў і плачам жалейкі. Падобна, я ішоў не па аголеным беразе, а прарыўна выпнутай і здзірванелай памяці ажыўленага мінулага. Па багне і дрыгве стагоддзяў, прапісаных у воднай калысцы ляснога азярка вужакаватым спляценнем дубовых каранёў.

Пэўна, гэта і ёсць сапраўдная знакавая памяць існасці, нябёс, зямлі – усяго жывога, што пропісямі, запаветам сусвету, космасу і нашага Млечнага шляху, – алфавітам іх – спрабуе скласціся ў слова, сказ. Сказ у казань і летапіс – запавет. Менавіта тады, ад гэтых панылых дубоў, спустошанай і спляжанай пад імі зямлі, узбуранага ляснога азярка я кінуўся ў спазнанне прадвызначанага мне і толькі мне тэксту-запавету – паслання майго святога пісання.

У пагоню за ўсё ж існуючай, але невядома, калі, дзе і кім скарочанай памяці. Пакуль яшчэ не зусім згаслі, не пабраліся прыскам і попелам гарачыя літаркі, маючы намер ужо адліцца словам. Не патухлі ў чаканні мяне і не пайшлі па ветры невядома куды, каму і да каго белыя аркушы былога ці будучага летапісу, якога, калі мне і не дадзена прачытаць цалкам, то мо дазволена ўхапіць вокам адну, другую літарку. Але я прагны, як сам цяперашні век, я дабіваюся ўсяго адразу і зараз. Усе мы адзінай, ненаеднай і хцівай пароды. Агаладалі за вякі вадамеры, камарыкі-слізгуны на ўмытым крывёю, спярэшчаным бойкамі твары вечнасці, якая, калі вока ў вока, здольная толькі прыхарошвацца ды выракацца самой жа сябе.

*(Працяг будзе)*



## Анатоль Зэкаў



...той не баіцца вышыні,
хто не баіцца долу ўпасці...

# Белае і чорнае

### *30 КАСТРЫЧНІКА 1988 ГОДА*

*Віктару Манаеву*

Зноў тыя Дзяды прыгадаю
і тое, як ты бюракратам
тлумачыш штось, Віктар Манаеў,
з жарсцю акцёрскай і гартам
пра Сцяг і Пагоню.
А варта
тлумачыць ім нешта, Манаеў?
У іх жа – інакшая праўда.
Ім праўда твая замінае.
Бо што ім наш Сцяг і Пагоня!
Адно ім патрэбна на свеце:
іх сытае ўласнае сёння
і сытае заўтра іх дзецям.
Цябе ж яны, Віктар Манаеў,
гатовы хоць сёння за краты,
бо ім твой значок замінае,
ён рэжа ім вочы, як праўда.

...На сцэну ты вечарам выйдзеш,
не зняўшы значок той,
сыграеш
для тых,
хто цябе ненавідзіць,
для тых,
каму ты замінаеш.

## РАЗВІТАННЕ СА СЦЯГАМ

*Згадка з 1995 года*

Бывай, наш бел-чырвона-белы –
спрадвечнай волі нашай Сцяг.
Даруй, што памяць абмялела
ад цемрашальскага жыцця.

Бывай, наш Сцяг, і не крыўдуй ты
на свой народ, сляпы, як крот.
Ў любой дзяржаве ёсць манкурты,
а тут манкурт – увесь народ.

Бывай, наш Сцяг.
Наўрад ці варта
табе за тое чырванець,
што хтось тасуе лоўка карты,
каб пры пасадзе ацалець.

Бывай, наш Сцяг, і не самотней,
бо, хоць і цяжка на душы,
не стане наш народ гаротны
пад Сцягам новым лепей жыць.

Бывай, наш Сцяг абрабаваны.
Няхай цябе Бог зберажэ
і ад хлуслівых гарлапанаў,
і ад пасадных пратэжэ.

Бывай, наш Сцяг.
Я пэўна знаю,
што пройдзе час – час забыцця,
і над дзяржавай залунае
зноў бел-чырвона-белы Сцяг!

## ПАЎЛЮК ТРУС

Ён жыў у Гомелі маім,
быў земляком маім тымчас

і да мяне яшчэ па ім
хадзіў.
Напэўна, што не раз
і паркам любаваўся ён,
на Сож мой родны пазіраў,
які, вірунючы, здавён
бяжыць у Лоеў да Дняпра.
Магчыма, там, каля ракі,
па парку даўшы кругаля,
і нараджаліся радкі,
каб стаць класічнымі пасля.

## *САМОТНЫ Я…*

*Іранічнае*

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

**Максім Багдановіч**

Самотны я, хоць быццам маю
і не адзін дзясятак кніг.
Ды толькі сам сябе пытаю:
а ці чытаюць сёння іх?

Кампутар авалодаў светам,
падлеткаў цягне ў інтэрнэт.
Што ім Рамэо і Джульета
і нейкі дацкі прынц Гамлет!

Што Лабановіч і Ядвіся!
Ці зацікавіць іх хоць чым?
Няўжо зусім перавяліся
у нашым краі чытачы?

Самотны я, хоць кнігі маю,
ды, як прагрэс тут ні тлумач,
сам іх пішу і сам чытаю.
Няўжо адзіны я чытач?

## *БЕРАЗВЕЧЧА*

*Памяці Віталя Гарановіча*

Імгненне падчас – быццам вечнасць,
а вечнасць – нібыта імгненне.
Ды раптам дыхне з Беразвечча,
напоўніўшы сэрца, натхненне.

Хай вёсны буяюць ці зімы
завейна закружаць навокал,
натхняецца сэрца Радзімай,
а значыць – ты не адзінокі.

Ты – з ім, са сваім Беразвечам,
якое душу звек бароніць,
сышоўшы аднойчы у вечнасць,
заўсёды, Віталь Гарановіч.

### *ТОЛІК СЫС*

З акна ты выйшаў на карніз
і, стаўшы на яго, смяешся.
Усё блазнуеш, Толік Сыс?
Ой, не блазнуй,
а то сарвешся!

Глядзіш на нас ты зверху ўніз
і там, высока, на карнізе,
ты адчуваеш, Толік Сыс,
што нам нашмат страшней унізе.

Аднак не трэба нас вініць,
што зразумець твой жэст не шчасціць:
той не баіцца вышыні,
хто не баіцца долу ўпасці.

### *РАЗМОВА З КАНЁМ*

Што ты тужыш, мой буланы,
што клянеш свой, конік, лёс,
рана вельмі, вельмі рана
некім спісаны ў абоз?

Не крыўдуй, мой конік мілы,
калі п’еш ваду ўзахлёб,
што не ўсе патраціў сілы,
вецер гонячы ўгалоп.

Што ты, мой буланы, тужыш,
што клянеш свой горкі лёс?
Ты яшчэ сваё саслужыш,
некім спісаны ў абоз...

* * *

Я адчуваю: недзе судзяць
мяне палеткі і лясы,
што з імі я губляю сувязь
у гуле вуліц гарадскіх
і ўжо з гадамі забываю
на гоман ніў, на шолах траў.

...Усё радзей я там бываю,
дзе калісь кожны дзень бываў,
і ўсё часцей грызе сумненне
і роздум хіліць на тугу:
а што, калі згублю карэнне?
Як жыць змагу?
І ці змагу?

## *СУДНЫ ДЗЕНЬ*

І будуць дні, і будуць ночы,
і праляцяць стралой гады,
ды ўсё не так, як часам хочаш
і як пражыць мяркуеш ты,

бо лёс зямны свой не абыдзеш
і не аб'едзеш на кані.
З'ядае час, нібыта злыдзень,
і ночы нашы ўсе, і дні.

Жыццё ўсё ў Судны дзень згадаеш,
і дойдзе да цябе, аднак:
душа да Бога адлятае,
а ты пражыў свой век не так.

* * *

Якім бы ні быў хто з нас смелы,
ды ўсё-ткі – ці рана, ці позна –
зямля, забіраючы цела,
душу адпускае нябёсам.

Таму і на свеце жыць трэба,
каб ты сваім кожным імгненнем
мог дбаць і пра хлеб, і да хлеба,
але й пра душу дбаць не меней.

* * *

Жыццёвы век нядоўгі,
мільгне і адвіруе.
Пара ісці да Бога.
А што яму скажу я?

Дзе быў,
што чуў,
што бачыў
і што зрабіў на свеце,
ці ўсім за ўсё аддзячыў,
ці кожнага прывеціў?

Трываў або змагаўся,
каб зло наўкол агораць,
ці перад ім здаваўся,
узняўшы рукі ўгору?

Бог запытае строга
ля брамы ў паднябессі.
А што сказаць мне Богу,
калі ў грахах увесь я?

* * *

Неўпрыкметку дні мінаюць,
бы збягаюць за край свету,
і ў жыцці не пакідаюць
нат маленечкага следу.

Крыўдаваць на іх не варта,
што на свеце так жыву я.
Дні ні ў чым не вінаваты –
гэта сам я іх марную.

### *САФОКЛ*

Чаму, Сафокл,
ты раптам змоўк,
чаму зусім не да паэзіі,
нібы табе на рот замок
цары сучасныя павесілі?

Калі цары, то незнарок
яны цябе, відаць, затузалі?
На жаль, маўчыць,
маўчыць Сафокл –
і толькі Муза побач румзае.

* * *

Заўсёды шукаючы выйсця
з таго, што душу ўжо не лекуе,
сыходзім аднекуль кудысьці,
кагосьці мяняем на некага.

І ўсё памяняем, – здаецца,
прасвет у тунелі ўжо бачыцца,
дзе нешта благое сатрэцца
і нешта ў жыцці перайначыцца.

Надзеяй сябе асвятліўшы,
сыходзім ад звыклага нечага,
хоць помніць пра тое нялішне:
чагось не хапаць будзе вечна нам, –

чагось і кагосьці, магчыма,
бо ў горшым было ўсё ж і лепшае.
Сыходзім, а там, за дзвярыма,
і тое, што некалі цешыла.

Ды толькі ці варта залішне
высновы рабіць нам паспешліва.
Сыходзім, бо верым, між іншым,
што нешта ў жыцці ўсё ж палепшыцца.

* * *

Цягнікі бягуць праз Буда-Кашалёва.
Рэйкі і ўначы, і ўдзень гудуць.
Рэха гулка адгукаецца з дубровы –
ні звярам, ні птушкам не заснуць.

Думаў я так на патапаўскім паўстанку,
а звяры і птушкі – хоць бы хны:
грукат колаў, ён для іх – як калыханка,
пад яго і бачаць сны яны.

Я і сам, было, звяраў гадзіннік
па гудках, што слалі цягнікі...

Мне й цяпер, як засумую па радзіме,
сняцца тыя родныя гудкі.

* * *

Ці, можа, што не малады
і наступае час агледзін,
часцей я згадваю гады,
што засталіся ззаду недзе.

Свае пражытыя гады
я ўспамінаю без аскомы.
У іх былі і халады,
і цеплыня была, вядома.

Спазнаў я здраду і любоў,
хаця з былым даўно ўжо квіты.
Я на гады не ў крыўдзе, бо,
што б ні было, яны пражыты.

І што б пра іх не думаў ты
і як бы не судзіў іх строга,
ды добра ведаюць гады,
што не пачаць наноў нічога.

* * *

Хочаш – вер, а хочаш – не,
я зусім не заклікаю.
Кажуць, ісціна ў віне.
Можа, й так,
аднак – ці тая?

І віно нібы ў цане,
і ахвотнікаў хапае,
толькі ісціну ў віне
я, прабачце, не шукаю,

Бо віно і ёсць віно –
хоць і смак бывае розны.
А вось ісціна адно
адкрываецца цвярозым.

### БЕЛАЕ І ЧОРНАЕ

Снег растварыўся спехам,
а ўночы зноў – адкуль і ўзяўся? –
раллю накрыла снегам –
і стала белаю ралля ўся.

Ды ўдзень засвеціць сонца,
заскача промнямі ў разорах
і белую бясконцасць
у чорную спрэс пераўтворыць.

* * *

Разумею з кожным годам болей я:
толькі побач з любаю жанчынай
і адолець можна неадольнае,
і зрабіць магчымым немагчымае.

* * *

У лістапад ці ў снегапад,
лячу кудысьці ці іду, –
не запавольваю хаду,
не азіраюся назад.

На ўсе наступныя гады
засвоіў, колькі б ні ісці:
цябе мне ззаду не знайсці,
бо ты наперадзе заўжды.

* * *

Калі ты да мяне ідзеш,
каб чым мяне суцешыць,
тады і самы змрочны дзень
становіцца святлейшым.

Калі ты ад мяне ідзеш,
тады нішто мяне не цешыць,
і нават самы светлы дзень
становіцца цямнейшым.

* * *

Маё апошняе каханне,
хоць і балюча тое ведаць,
наўрад калі шчаслівым стане,
не стаўшы ўжо такім дагэтуль.

Што за мяжа ляжыць між намі,
бо, калі ёсць абмежаванні,
павінны зразумець і самі,
што гэта ўжо не ёсць каханне.

А мы не хочам прызнавацца
у тым, што добра ўсведамляем,
і хоць не можам сустракацца,
ды й развітацца не жадаем.

* * *

Ты для мяне – як забароненая зона,
куды мне не ўвайсці ні ўдзень, ні ўночы.
Ты ў зоне гэтай так трымаеш абарону,
што й мыш наўрад ці праз яе праскочыць.

Аднак якой бы моцнаю ўсё ж абарона
у зоне не была, ды я штосілы
жыву са спадзевам прарвацца ў тую зону,
куды ўваход ты мне забараніла.

* * *

Без цябе я залею,
нат сустрэўшы вясну.
Падары мне надзею
хоць адну,
хоць адну.

Ды абрэж ты хоць разам
і яе назаўжды,
не забуду і з часам,
што ёсць ты,
што ёсць ты.

* * *

“Каханую зменіць каханка,
якую затым пакахаеш...”
Ці праўду сказала цыганка,
варожачы мне, я не знаю.

Ды я і не веру цыганкам,
хоць думка раз-пораз мільгае:
а можа, завесці каханку,
якую затым пакахаю?

### ***ЖЫЦЦЁ***

А жыццё, нібы лесвіца ўгору,
падымаецца аж да аблок.

Я самога сябе аб’ягорыў,
я свой слых аб’ягорыў і зрок.

Я спяшаўся, напэўна, дарэмна,
да вяршыні да лесвічнай лез,
бо ўсё роўна вышэйшыя дрэвы
за мяне,
і вышэйшы ўвесь лес.

І з гадамі сутуляцца плечы –
да апошняй прыступкі б паспець!
Хоць хваліцца няма чым, дарэчы –
пакрысе пачынаю старэць.

А гады – іх хіба аб’ягорыш
ці сатрэш хоць на год іх сляды?
То ж не я падымаюся ўгору –
падымаюцца ўгору гады.

Падымаюцца ўгору прыступкі
да апошняй, што дзесь ля аблок,
і ўжо бачу, што крокам наступным
адмяраю апошні свой крок.

Адмяраю, а што пакідаю
для людзей, для наступных вякоў?
...Пажаўцелае лісце спадае,
а ўзляцець не хапае ветроў.

Не хапае вятроў і дыхання.
І ўжо крок мой цішэе не ў лад.
І няма больш назад мне вяртання.
Я наперад іду – як назад.

А ў жыцця ёсць свае ўсё ж законы,
не змяніць іх ужо, не спыніць.
Нада мной асыпаюцца клёны
і лістота ў душы шамаціць.

Я іду па прыступках рыпучых.
Вось, здаецца, мой фініш мільгне.
О як цяжка ступаць,
як балюча
на прыступку апошнюю мне!

* * *

Калі жадаеш жыць даўжэй,
Вяртайся ў край,
з якога выйшаў,
бо там ніколі ты не лішні
і там радзіма беражэ.

Ты для радзімы – родны сын.
Яна цябе не дасць пакрыўдзіць,
ну а калі ў магілу сыдзеш,
жальбой атуліць твой спачын.

## ЛІЦВІНЫ-БЕЛАРУСЫ

***1.***

Ў Вялікім Княстве мы Літоўскім
выходзілі на ўласны вольны шлях,
сваю дзяржаву мелі й войска,
свой герб "Пагоня" і свой сцяг.

Ішлі на нас вайной палякі,
і рвалі на кавалкі маскалі,
каб нат не засталося й знаку,
што мы здаўна дзяржаваю былі.

З-пад гнёту выйшлі, з-пад прымусу,
каб нашай стала родная зямля.
Ліцвіны мы, не беларусы.
Мы сталі беларусамі пасля.

***2.***

Для ўсіх я мушу паўтарыць,
каб памяталі ўсе і ведалі,
што мы – адвеку ваяры,
хоць не з захопніцкімі мэтамі.

Пад Оршай маскалёў гнялі,
змагаліся з ардой татарскаю,
і немцам насаліць змаглі,
краінай стаўшы партызанскаю.

Заўсёды на сваёй зямлі
і з крыжакамі, і са шведамі
мы пераможцамі былі...
Калі забыўся хто –
хай ведае.



Валерый Казакоў



...Хто застанецца пераможцам
у гэтай вар'яцкай вайне?
Каго нашыя праўнукі будуць лічыць героямі,
а каго праклінаць?..

# «Чорны кот»

***Раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №84.*

## 17

3 верасня 1956 года ў 4 гадзіны 20 хвілін у кватэры начальніка раённага аддзялення МГБ БССР капітана Рыгора Арцёмавіча Хацько настойліва зазваніў тэлефон, які ў тыя часы заўсёды на ноч ставілі ля галавы гаспадара, як некалі ікону.

– Слухаю, – глуха, стараючыся не разбудзіць жонку, адказаў капітан.

– Паўгадзіны таму Джыхар прыйшоў да Сацэвіч. Што будзем рабіць? – далажыла трубка голасам дзяжурнага па аддзяленні.

– Будзем браць, – павесялелым голасам адказаў капітан, – ён нічога не пачуў?

– Здаецца, не, нашых паблізу нікога. Сігнал падала неразлучная сяброўка Сацэвіч, яна ў доме насупраць жыве. Ціха ўсё.

– Падымай людзей без тлумачэнняў. Скажы, мой загад. Па мяне пралётку прышлі, ніякіх машын і матацыклаў, толькі коні. Чую, ён ваўчара страляны, не адзін прыпёрся, пару-тройку сябрукоў на страхоўку расставіў. Усё правер.

Капітан апрануўся, пакуль схадзіў на двор, жонка ўжо кіпяціла чай і збірала на стол, не ўключаючы святла.

– Разбудзіў цябе... Спала б ты, на службе чаю папіў бы, – капітан гаварыў з заходне-ўкраінскім акцэнтам. Жонку ён любіў, з-за яе два гады таму і папрасіў пераводу ў больш спакойную Беларусь з роднай ім Цярнопальшчыны.

– Ды нічога. Хто там табе што прыгатуе. Шчось здарылось?

– Нічога, ясенька, – пад вокнамі загрукаталі капыты, – лягай спаты, всэ будэ добрэ. Як повэрнусь, чаю попьемо, – цмокнуўшы жонку ў лоб, ён выскачыў з хаты.

Яўген Джыхар быў легендарнай і сумна папулярнай фігурай не толькі ў Налібоках, але і ва ўсім рэспубліканскім упраўленні. Яго фотапартрэты красаваліся на ўсіх шчытах "Іх шукае міліцыя", пра яго ведалі ўсе супрацоўнікі і таемныя памочнікі органаў. Яго ўсюды бачылі, усюды ён тварыў сваю чорную справу: паліў сельсаветы, катаваў і забіваў актывістаў, рабаваў сельмагі і ашчадныя касы. Пастаяннага лагера не меў, нарабаванае раздаваў сялянам лясных вёсак, а галоўнае – вёў, сволач, буржуазна-нацыяналістычную прапаганду. Яго ўлёткі распавядалі цёмным сялянам аб хуткай вайне ўсяго Заходняга свету і Амерыкі з Саветамі. І што прыкра – несвядомы элемент верыў гэтым варожым паклёпам.

Усё гэта ўспомніў Рыгор Арцем'евіч па дарозе да аддзела. «Вось табе і ціхае месца! З агню ды ў полымя. Хоць ва Украіне было страшней, там амаль усе былі за Бандэру і ў новае жыццё не верылі, там такіх Джыхараў па тры на кожную вёску было. Можа, сёння і зловім, хоць на які ляд яго лавіць, застрэліць – і ўсё».

«Вось вылавіш гэтага звера – і будзеш жыць спакойна», – інструктаваў яго паўгода таму начальнік аблупраўлення. – Ты толькі ўлічы: гэта вучоная поскудзь. Ён прайшоў падрыхтоўку ў школе фашысцкіх дыверсантаў "Дальвіц", кажуць, сам улюбёнец Гітлера Скарцэні іх навучаў. Па рэспубліцы такіх вылюдкаў з гэтага "Дальвіца" ў вышуку пяцьдзясят шэсць чалавек лічыцца. А вось толькі адзін у нас у вобласці лютуе, астатнія заціхарыліся, як мышы, а можа, куды і з'ехалі, Саюз жа вялікі. Гэтая ж сволач усё не супакоіцца, за ім рака крыві чалавечай. У цябе, Рыгор, вопыт па такіх пярэваратнях, так што і карты табе ў рукі. Знішчыш Джыхара – перавяду ў Гродна і пакой дам».

«Але не надта мне гэты горад і патрэбны. Нам з Марычкай і тут, на зямлі, добра. І хата свая, і агародзік, і вунь жывёлай абзаводзіцца пачалі. А знішчыць гэтага ворага трэба, і як мага хутчэй».

У аддзеле ўжо ўсе сабраліся, паўсонныя і незадаволеныя. Дзяжурны далажыў, што з Мінска позна ўвечары, ужо амаль ноччу, прыбыў нейкі капітан, яго пасялілі ў вольным кабінеце, які ўжо з год выкарыстоўвалі пад часовае жыллё.

– Не да часу госці. Хоць давай, і яго будзі.

– А што мяне будзіць? – нечакана абазваўся госць. – Капітан Салевіч, прыбыў з рэспубліканскага міністэрства для правядзення вучобы аператыўнага складу.

– Ну і добра, зараз на практыцы і будэмо навчатыся. У мяне тых операў аж двое. Пайшлі пакуль у кабінет, пагаворым. Як цябе завуць? – спытаў Хацько, сядаючы за свой стол. Начальніку было гадоў пад сорак, невысокі, каржакаваты, з вялікімі рукамі, ваенная форма на ім сядзела ладна, хаця было відаць, што з усіх сваіх сялянскіх продкаў ён, хутчэй за ўсё, быў першым, хто апрануў ваенную форму з афіцэрскімі пагонамі.

– Ягорам, Ягорам Кузьмічом, – адазваўся прыезджы, прысаджваючыся на рыпучае крэсла ля прыстаўнога століка, – я з галоўнага аператыўнага ўпраўлення, да вас прыбыў з мэтай наладжвання асабістых кантактаў з кіраўніцтвам аддзялення і вашымі операмі па вельмі складаных і далікатных пытаннях. Па звестках нашай рэзідэнтуры за мяжой, у бліжэйшы час рыхтуюцца масавыя закіды шпіёнска-дыверсійных груп на тэрыторыю БССР, дзейнічаць яны будуць, хутчэй за ўсё, пад выглядам беларускіх нацыяналістаў...

– Пачакай, Ягор, са сваімі пропаведзямі. У нас тут аблава рыхтуецца на аднаго крымінальніка. Джыхар, мабыць, чуў пра гэтага злыдня? Да сваёй палюбоўніцы прыйшоў. Браць будзем. Вось ты нам і дапамажы, а пра гэтых парашутыстаў начальства ўжо галаву затлуміла. Гэта ўсё потым абмяркуем, зараз іншыя замарочкі. Мяне больш хвалюе, як да яго, чарцяка, непрыкметна падпаўзці. Хата той жанчыны хоць і наводшыбе стаіць, а людзі ж вакол. Гэта ж сяло, хата на хаце, ды і сабакі амаль у кожным двары. Яны такі брэх падымуць, што і нябожчыкі з магіл паўстаюць. Вось якая ў нас з табой задача на дадзены момант: узяць гада, сваіх хлопцаў не згубіць і не дапусціць, каб хто з мірных грамадзян пацярпеў.

– А дарога з той вуліцы куды вядзе? – спытаў Салевіч.

– Праз лес да возера, а далей у Шаплеўку.

– Давай паперу, будзем маляваць план дома і наваколля...

– А навошта? Ён ужо даўно намаляваны, вось глядзі, – з гэтымі словамі начальнік устаў, падышоў да шафы і дастаў ліст ватмана, разаслаў яго на стале перад сталічным капітанам, – вось тут усё і ёсць.

План падворка Сацэвіч і прылеглых дамоў і пабудоў быў намаляваны амаль прафесійна, усе пазначаныя будынкі падпісаныя, нават вышыня платоў паказаная.

– Добры план, начальнік. Хто гэта ў цябе так выдатна чэрціць?

– Дружына мая! А памеры прадставіў наш мясцовы каморнік, яму больш зручна і пытанняў менш. Ну...

– Колькі ў нас людзей?

– З табою і ястрабкамі чалавек дзесяць.

– А іх?

– Та біс яго знае... Можа, адзін, а можа – і трое. Гэтыя га́ды па адзіночцы не ходзяць. Засады там няма. Суседка ейная ў нас на прыхваце, яна і падала знак, што нехта прыйшоў.

– Давай паспрабуем так: я на падводзе паеду з лесу, мяне тут ніхто не ведае, паеду не хаваючыся, нібыта заблукаў. Хата, кажаш, з краю, дык я пастукаю спачатку да суседзяў, пакрычу, а затым і да гэтай бабы. Ты частку людзей да лесу пашлі, частку – на вуліцу і ў суседскія агароды. Кулямёты ёсць?

– Ёсць адзін, там, на гарышчы ў суседкі стаіць. Я таксама ўсё так планаваў, толькі не ведаў, каго паслаць. Тут жа кожнага не толькі ў твар, але і па голасе, і па хадзе пазнаюць. А з падводай гэта ты добра прыдумаў.

Давай так і зробім, толькі за тваёй калымагай я ўсё ж пару сваіх хлопцаў пашлю. У лесе могуць застацца яго бандзюкі. Хай цябе падстрахуюць. Галоўнае, ты ўвесь час трымай у галаве думку, што гэта нелюдзі, сапраўдныя вылюдкі.

– Гэта я, Рыгор, ведаю не менш за цябе, і ў мяне да гэтага гада ёсць асабістыя рахункі.

– Ну тады ведаеш, у якую пашчу галаву суеш. Добра, як казалі нашыя маласвядомыя дзяды, з Богам! Пішлы!

Аперацыя, хоць і не зусім па плане, прайшла паспяхова. Падстрахоўку Джыхара бязгучна скруцілі чэкісты, якія ішлі метраў за пяцьдзясят ад падводы Ягора. Сам ён, як і дамовіліся, з шумам заехаў з ваколіцы, пачаў стукаць ва ўсе вароты і не зусім цвярозым голасам патрабаваць растлумачыць яму, куды гэта яго занесла нячыстая сіла.

У дыхтоўныя вароты Сацэвіч ён грукатаў з асаблівым азвярэннем, калі ж гаспадыня, накінуўшы на споднее нейкую жакетку, выйшла, пацягваючыся і пачэсваючыся, нібыта спрасонння, Ягор асцярожна дастаў пісталет.

– Што грыміш, чорт непуцёвы? – пазяхаючы, спытала маладая і прыгожая жанчына, на хаду даплятаючы касу.

– Гаспадыня, што тут у вас за мёртвае царства, ні да каго не дастукацца, што гэта за вёска?

– Якая гэта табе вёска, гэта ж Налібокі, – скідваючы завалу, прыадчыніла дзверы і вызірнула на вуліцу жанчына.

– Вось ужо павадзілі мяне сёння чэрці! І як я сюды прыпёрся? Я ад кума, вось табе крыж, з Вуглоў дадому ў Байкі ехаў, а прыехаў да цябе, салодкая мая! – Ягор паспрабаваў абняць гаспадыню.

– Рукі прыбяры, кабяліна, куды ехаў – туды і едзь! Не па табе ягада! – жанчына нечакана наструнілася, пільна ўзіраючыся ў далёкі выгін вуліцы за спінай нечаканага госця.

– Ціха, прыгажуня, – ткнуўшы ёй у грудзі пісталет, прашаптаў капітан, – Джыхар адзін?

Яна кіўнула – ці ад сполаху, ці ад нечаканасці. Капітан ведаў, што праз некалькі секунд яна зразумее, што адбылося, і пачне крычаць. Штурхнуўшы жанчыну ў двор, Салевіч, выставіўшы перад сабой пісталет, кінуўся да ўваходных дзвярэй. Па вокнах дома ўдарыла чарга з кулямёта, пасыпаліся аскепкі шкла.

– Глядзі, бісаў сын, мінчука мне там не падстрэль, – дзесьці побач крыкнуў кулямётчыку Хацько. – Джыхар, падымай рукі да гары і выходзь!

За адрынай каля лесу таксама пачуліся стрэлы. Пасля стрэлаў ранішняя цішыня здавалася асабліва звонкай, фіранкі ў вокнах мірна гайдаў лёгкі, перадсвітальны ветрык, які ледзь чутна выскачыў з цёмнага лесу. Ля брамкі нягучна плакала Сацэвічыха. Ягор ужо сабраўся штурхнуць уваходныя дзверы, як унутры дома глуха ляснуў пісталетны стрэл. Жанчына заплакала гучней, у двор, прыгінаючыся, уваходзілі таварышы.

Джыхара знайшлі ў другім пакоі, які служыў гаспадыні спальняй. Ён стаяў на каленях, упёршыся лбом у падваконнік расчыненага акна. Застрэліўся бандыт вельмі дзіўным спосабам, пусціўшы сабе кулю ў патыліцу. Твар быў цалкам знявечаны, цэлай засталася толькі размаляваная крывёю і пароcлая сівым шчаціннем ніжняя сківіца.

– Вось табе на! Хто такі, што за птушка – разбярыся цяпер... – раз-

глядаючы цела, разгублена прамовіў начальнік аддзела, – а галоўнае, што пісаць начальству ў Гродна?

– Таварыш капітан, пры ім дакументы маюцца, – дастаючы з унутраных кішэняў забітага нейкія паперы, вымавіў высокі і худы, падобны на жэрдку, старшына. – Вось, глядзіце, па гэтым пашпарце ён Мікітовіч Фёдар Карпавіч, а па-іншым – Іванец Мікіта Адамавіч, а вось па гэтай паперцы ён галоўны прадстаўнік Цэнтральнай Беларускай Рады ў Народнай Рэспубліцы Беларусь Джыхар Яўген. Тут яшчэ і загадана ўсім грамадзянам у абавязковым парадку аказваць прад'яўніку гэтага мандата ўсялякае садзейнічанне. І яшчэ гэты самы Джыхар валодае паўнамоцтвамі па аднаўленні народнай улады на ўсёй тэрыторыі рэспублікі ў межах, вызначаных у 1918 годзе. Вось якога мы звера завалілі, таварыш капітан!

– Кажаш, напісана ў межах 1918 года? Добра, што хоць не ў межах часоў князя Вітаўта, – сказаў з'едліва Салевіч.

– Давай вядзі сюды яго каханку, апазнаваць будзем, – загадаў Хацько.

Жанчына перастала ўжо плакаць і праклінала чэкістаў за тое, што пашкодзілі яе ўдовін дом. На пытанне, хто гэты забіты ў яе спальні чалавек і кім ён ёй даводзіцца, адказала:

– А я ведаю? Прыпёрся пад раніцу, сказаў, што ўпаўнаважаны па нарыхтоўках, папрасіўся пераначаваць. Вунь гарэлкі прынёс. Я жанчына адзінокая, гарэлкі сербанула, ці шмат мне з нязвычкі трэба?! Ну і кульнуў ён мяне. Заплакаць не паспела, як ваш, вось гэты, ля варот таксама лапы распускаць пачаў. А хто мне, удаве, шкло ўставіць, хто рамы паправіць? А сорам хто на нашым канцы вуліцы суцішыць?! Ірады вы акаянныя!

– Ну, усё сказала, сірата казанская? Ты мазгі каму іншаму сушыць будзеш! – заходзячы ў пакой, вымавіў зарослы густой барадой мужчына з вінтоўкай за спінай. – Таварышы капітаны, гэтая паненка падчас вайны з нашых Налібокаў з'ехала й аціралася з немцамі ў Віцебску, з гэтым Джыхарам жыла, з ім і ў Нямеччыну падалася. Ды вось, відаць, не даехалі. Рознае пра яе гаварылі, калі назад вярнулася. Муж у яе да вайны быў, з нашых, настаўнічаў, усё за незалежную Беларусь агітаваў, дык палякі яго пасадзілі, а ў трыццаць дзявятым ужо нашы органы забралі, тыя ўжо з канцамі. Бацька яе кулак. З маёй вёскі на яго амаль усе гарбелі. Словам, яшчэ тая сука! Аб тым, што да яе з лесу ходзяць, народ ужо даўно шэпчацца.

– Ах ты, погань нямытая! – упёршы рукі ў бокі, ступіла наперад Сацэвічыха, – гэта ты мяне, халуй паліцэйскі, сумленню вучыць будзеш? Нямецкім кавалкам папракаць?! Не, вы паслухайце, людзі добрыя, – звярнулася яна да астатніх, – тут вунь чалавек астывае, чужы і мне, і вам, і я не ведаю яго зусім, а гэты хрыч пад шумок вырашыў з беднай удавой паквітацца. Гэта не мой Рыгорка пшэкам прыслужваў і на патрыётаў "двуйцы" стукаў, а ён! – яна штурхнула мужыка ў грудзі. – А немцы прыйшлі – ён да іх пад бачок. Ён не дурань, у паліцаі не падаўся, ён у прыслугу пайшоў. І пры ўладзе, і пры цяпле. Мяне вунь у Германію сілком пагналі, а ён дабро, кінутае вайной, да сябе ў хату цягнуў. А зуб у яго яшчэ на бацьку майго нябожчыка, якому грошай вінен застаўся. Ну, што маўчыце? Вяжыце мяне, валачыце ў свае засценкі! Спаскудзілі хату, як у ёй далей жыць?

– Ты, гэта, грамадзянка Сацэвіч, мітынгі заканчвай. Іш ты якая! Вы, хлопцы, выносце яго, ды і яе да аддзела вядзіце, там разбярэмся, што то

за птушка і якога яна палёту. Во бісавага баба! А тут, у гадзюшніку гэтым, усё перапарыце, шукайце, можа, што і знойдзеце яшчэ. Дзякуй, хлопцы, асабліва табе, Ягор Кузьміч. Пайшлі. Мы з капітанам ва ўпраўленне. Калі што – ганца прышліце.

Пакуль ішлі, Салевіча ўсё не пакідала дзіўная, не да часу разыграная ў хаце сцэна. Нешта тут не так, вось толькі зразумей, што?

– Паслухай, а што гэта за мужык барадаты, з якім баба счапілася? – спытаў Ягор начальніка.

– Дык то ястрабок з раёна, быў у нас у райцэнтры ў радні, вось мае хлопцы яго і прыцягнулі. Добра, што стральбы не пачалі і нікога не паранілі. Таго барадача я, як і ты, упершыню бачыў. Ён мне самому не спадабаўся. Слізкі нейкі. Але і баба тая, хачу сказаць, сцярвозіна яшчэ тая! Без дрыжыкаў на нябожчыка глядзець не магла, а трымалася, і выгляду не падае, што знаёмая з забітым. Дай ёй аўтамат – перабіла б нас і вокам не міргнула. Я на такіх кабетак у нас на Букавіне наглядзеўся. За свайго каханага нікога не пашкадуе. Ну нічога, вось цяпер начальству дакладзем, усю гэтую кампанію справодзім і выдыхнем спакойна.

Начальства пахваліла за ліквідацыю ворага і паабяцала ўсіх удзельнікаў заахвоціць. Праз паўгадзіны патэлефанаваў Мінск з віншаваннямі. У абед з Гродна прыйшла машына па труп і па бандыта, якога скруцілі ў лесе, ды і скандальную кабетку забралі. Прыехаў на сваім “Опелі” і начальнік абласнога ўпраўлення са сваім намеснікам. Усе былі задаволеныя і ў прыўзнятым настроі. Амаль кожныя паўгадзіны тэлефанавалі са сталіцы і патрабавалі ўсё новых падрабязнасцяў. І падрабязнасці адразу з’яўляліся, асабліва пасля прыбыцця абласнога начальства.

Да шаснаццаці гадзін карціна знішчэння бандгрупы Яўгена Джыхара, капітана вермахта і маёра беларускай вызваленчай арміі, выглядала наступным чынам: райаддзелам, узмоцненым дасведчаным аператыўнікам з Мінска, пад кіраўніцтвам начальніка абласнога ўпраўлення падпалкоўніка Тарасевіча была спланаваная і праведзена аперацыя, у ходзе якой на меркаванай яўцы бандыта была засада. Бандыты блакаваныя. Падчас боесутыкнення два затрыманыя, Джыхар у перастрэлцы забіты, з нашага боку стратаў няма, адзін супрацоўнік лёгка паранены.

У параненыя запісалі малодшага лейтэнанта Пышку, які з мітусні глыбока разадраў бок, зачапіўшыся ў нейкім хляве за цвік.

Як і належыць у такіх выпадках, абмыўшы паспяховую справу, выйшлі праводзіць начальства ўжо ў паўзмроку.

– Яшчэ раз дзякуй табе, Рыгор Арцем’евіч! – моцна паціскаў руку начальнік упраўлення. – Малайчына! Я ж сваё абяцанне не забыўся. За тыдзень падбяру табе замену – і ўсё, давай у Гродна! Рады?

– Таварыш палкоўнік, а можа, не трэба мяне, ну таго, у горад... Нам з жынкай і тут добра. Ды і сельскія мы людзі, каго-небудзь сюды гарадскога паставіце, дык ён жа пакутаваць будзе, якая тут яму работа? Мне б маёрскую зорку на пагон і прэмію, каб хатку падрамантаваць, і ўсё.

– Ох і хітры вы народ, хахлы! Лычку сваю не ўпусціце! Ну, на тым і дамовіліся, – з відавочнай палёгкай вымавіў начальнік. – Будзе табе, капітан, і маёр, і прэмія. Вы сёння асабліва не піце, як бы з лесу не прыйшлі паквітацца за гэтага падонка.

Начальства з’ехала, сядзець за сталом асабліва не хацелася, ды і стаміліся ўсе за гэты такі доўгі і цяжкі дзень, так што, выпіўшы па пары чарак, сталі

разыходзіцца. Ад прапановы Рыгора ісці начаваць да яго Ягор катэгарычна адмовіўся. Выпіўшы яшчэ з дзяжурным чаю, ён пайшоў спаць у свой пакойчык. Ледзь галава кранулася цвёрдай, як камень, падушкі, капітан праваліўся ў бяздонны сон, які гадзіны праз дзве выштурхнуў яго назад у душную рэчаіснасць пакоя. Сэрца калацілася ад нейкага незразумелага страху, ліпкі, агідны пот каціўся па лбе, шчоках, шыі, падушка была вільготнай ад яго. Перавярнуўшы набіты ватай прастакутнік, запраўлены ў казённую з чорнымі штампамі навалачку, ён сеў на ложак, выцерся ручніком і пачаў услухоўвацца ў цішыню ночы. Не, усё нібыта спакойна, дзяжурны не спіць, толькі што прайшоў па калідоры, загрымеў імбрыкам.

“Пайду і я гарбаты глытну, а то мешаніна з гарэлкі, начальніцкага каньяку і мясцовай самагонкі на мае мазгі зусім дрэнна дзейнічае”.

Гадзіннік у дзяжурцы паказваў палову на трэцюю.

– О, таварыш капітан, самы сон, а вы на нагах, – падсоўваючы вайсковую эмаляваную кружку, узрадавана прамовіў старшы лейтэнант. – Чай добры, грузінскі, у сельпо завезлі, так што мы ўсе ім атаварыліся.

– Не спіцца нешта, напэўна, старэю... За чай дзякуй. Усё ціха?

– Ды, здэцца, цішыня, толькі вось з паўгадзіны назад сабакі разбрахаліся там, дзе гэтага нацыяналіста застрэлілі. Я нават на ганак выйшаў. Нічога, пастаяў, паслухаў, ды скора і сабакі брахаць перасталі. Вартавы сказаў, што гэта яны ўжо другі раз там залівающца.

– А вартавы адкуль узяўся?

– Дык мы ж праз плот з міліцыяй размешчаны, а ў іх пры ўзмацненні заўсёды вартавыя стаяць. Яшчэ адзін пост ля райкама партыі і райвыканкама, і адзін на выездзе з горада.

– Сапраўды добры чай, дзякуй, аж аджыў. Ты ведаеш, пайду я прайдуся на той канец, дзе сабакі брахалі. Мяне нейкія кепскія прадчуванні яшчэ з учарашняга дня грызуць.

– Цур мяне! Таварыш капітан, не трэба вам нікуды хадзіць, ды яшчэ аднаму. Пра гэтага Джыхара ў нас рознае распавядаюць, байкі, вядома, але ўжо вельмі страшныя. Я і сам бачыў, што ён з людзьмі рабіў, на такое чалавек няздольны! Кажуць, ён нікога не шкадаваў, ні сваіх, ні нашых. Аднаму паліцаю яшчэ пры немцах уласнаручна язык адрэзаў, за тое, што ён па-руску з ім загаварыў. Простых сялян ніколі не чапаў, усё, што нарабаваў, раздаваў людзям. Многія яго ў нас заступнікам лічылі. Песні народныя любіў і сам нядрэнна спяваў. Не хадзіце вы нікуды, капітан, вунь лепш яшчэ чайк*у* – і на бакавую. Ведаеце, – лейтэнант нават панізіў голас, – у нас старыя бабы кажуць – пярэварацень ён, гэты Джыхар, і проста так забіць яго немагчыма.

– Старлей, колькі табе гадоў?

– Хутка дваццаць чатыры...

– Ты камуніст?

– Не, пакуль толькі кандыдат, а што? У лістападзе тэрмін кандыдацкі канчаецца...

– Тады якія пярэваратні? Гэта ніяк не ўкладаецца ў матэрыялістычную тэорыю свету. Ты гэта кінь, містыку ў нас у канторы ой як не любяць.

– Ды якая тут містыка! – дзяжурны ўстаў і нават зашпіліў каўнер гімнасцёркі. Яго злёгку рабацініст твар пачырванеў. – Ды я сам сведка. Мы яго на адным хутары падпільнавалі. Двух ягоных хлопцаў забілі і ў яго куль пяць дакладна ўсадзілі, нас жа восем чалавек было. Бачылі, ён упаў ля

хлява. Мы туды бягом, крывішча на траве, а Джыхара няма. Усё абшукалі – няма, як скрозь зямлю праваліўся. Мы той хлеў са злосці нават спалілі. Вось, а вы – містыка, містыка. У мяне, між іншым, па марксісцка-ленінскай філасофіі пяцёрка. А гэты гад, пярэварацень ён ці не пярэварацень, недзе праз месяц прыйшоў у дом да старшыні сельсавета, які тады нам шапнуў пра той хутар, і перабіў усю яго сям'ю! Усю, разумееце? Пасек і старых і малых, ногі адсёк і як кумпякі вэндзіць павесіў у вяндлярні за хатай, а галовы на частакол насадзіў. Вось вам і ўвесь матэрыялізм.

– Прабач, старшы лейтэнант. Дзіўны ён нейкі атрымліваецца чалавек, гэты бандыт: то людзям дабро раздае, песні спявае народныя, а то горш за лютага звера, так ці не?

– А я вам што кажу! Яго разоў шэсць ужо забівалі, з учарашнім будзе сем, і разы чатыры хавалі, і магілы былі, і надпісы на крыжы. Ды пустыя там дамавіны закапаныя, мы правяралі, хоць людзі бажыліся, што з нябожчыкам іх зямлёй засыпалі.

– І ўсё ж прайдуся я. Ты не бойся, мяне таксама не ўсякая куля бярэ, кажуць – загавораны.

– Таварыш капітан, а як жа матэрыялізм? – усміхнуўся дзяжурны. – Вось вам на ўсялякі выпадак аўтамат нямецкі, ён нічыйны, хтосьці з год таму ў дзяцей адабраў, так у дзяжурцы і валяецца. Магазін там поўны, сам сёння, на ўсялякі выпадак, зарадзіў.

– Спадзяюся, срэбнымі кулямі?

– Вы гэта на пярэваратняў намякаеце, так? Дык я ж і рады быў бы, толькі вось пры Гітлеры такіх боепрыпасаў не выпускалі. Вы там, праўда, асцярожней.

– Добра.

Капітан выйшаў на вуліцу. Восеньская цемра яшчэ не цалкам адолела наваколле, і начную цемру ўжо паступова раз'ядала перадсвітальная шэрасць. Лямпачка над ганкам свяціла цьмяна, такім жа нязыркім здавалася і святло ліхтара на міліцэйскай палове. Вартавога не ўбачыў. Дзяжурны спрытна яго абагнаў і адамкнуў замок на брамцы.

– У вас ліхтар ёсць? – ціха спытаў ён.

– Ёсць.

– Вы і мой вазьміце на ўсялякі выпадак.

На вуліцы было яшчэ святлей. Зручней павесіўшы аўтамат, Ягор падняў з абочыны палку, каб было чым пры выпадку адагнаць сабак, і, не спяшаючыся, пайшоў да ўскраіны горада. Мінуўшы чатыры скрыжаванні, ён на пятым павярнуў налева. Тут вуліца забірала дугой управа і падымалася на невялікі пагорак, напрыканцы яна пашыралася ў невялікі лужок, які служыў жыхарам выганам.

Крайні злева дом і быў месцам учарашняй бітвы, калі верыць прыдуманым начальствам данясенням. Шэры, самотны, ён стаяў неяк асірацела.

"Калі ўжо гэта ўсё скончыцца? – сядаючы на вялікую калоду з процілеглага боку вуліцы, падумаў Ягор, – усё страляем, страляем, льём кроў, а дзеля чаго? Дзеля якой свабоды, якой такой праўды і вышэйшай справядлівасці? Хто застанецца пераможцам у гэтай вар'яцкай вайне? Каго нашыя праўнукі будуць лічыць героямі, а каго праклінаць? Чаму, чаму Бог, калі ён ёсць, даў свету гэтулькі шмат розных праўдаў, чаму падзяліў нас на рускіх, беларусаў, украінцаў, яўрэяў, немцаў? Чаму тых жа беларусаў падзяліў на праваслаўных, каталікоў, баптыстаў, камуністаў, нацыяналістаў і зрабіў нашыя душы глухімі

адна да адной? Хто яны, гэтыя нацыяналісты, чаму ніяк не ўгамоняцца, што ім трэба? Бо іншай Беларусі, іншай краіны ўсё роўна ўжо не будзе. Ёсць тое, што ёсць. Лесавікі – гэта спадчына вайны, яе спараджэнне, яны прыліплі да Гітлера, замазаліся і перад светам, і перад сваім народам. Калі так, то які тады к чорту нацыяналізм, які клопат пра чалавека простага? Недарэчна атрымліваецца: у іх свой нацыяналізм, у нас свой – савецкі, а ў людзей з аддаленых вёсак, выходзіць, – свой! Галаву можна звярнуць. – Ягор паспрабаваў пазбавіцца дурных думак і прыслухацца да начы, але незразумелая, няведаная дагэтуль злосць закіпела ўнутры. Злосць на сябе самога. – А хто табе сказаў, што ты маеш рацыю? Яны прыліплі да Гітлера, ты прыліп да Сталіна! Ці Цанава з Панамарэнкам пра твой народ дбалі, лепшай яму долі жадалі? Дай ім волю, яны б тваімі рукамі яшчэ і не столькі людзей на той свет і ў Сібір адправілі б. Ты ўжо хоць перад самім сабой душой не крыві. Памаўчы ўжо лепш. Невядома яшчэ, дзе б ты быў, калі б партыя накіравала бацьку ў Маскву, спачатку вучыцца, а потым і працаваць. Не толькі твой, але і бацькаў лёс невядома як склаўся б. Ды і які ты беларус? Вунь песню народную першы раз ад Алены пачуў. Напэўна, і Джыхару гэтая песня прыйшлася б даспадобы. Калі Джыхара гэтага ўзяць – хто ён? Бандыт? Так, бандыт пры любых раскладах! Немцам служыў? Служыў! У тыл да нас закідвалі? Закідвалі! Калі верыць павешанаму ў Мінску ў сорак восьмым Усеваладу Рэдзьку, закідвалі тры разы, і крыж ад фашыстаў меў, і медаль. А хто ён быў у душы, пра што думаў сам-насам? Ад чаго такім зверам стаў, што яго да фашыстаў падштурхнула? Так, дзіўныя думкі апанавалі табой, Ягор Кузьміч, зусім не чэкісцкія, ды і не да месца яны. Ты ж цяпер сваёй нікчэмнасці апраўданне спрабуеш знайсці. Але і бандыт – ён жа таксама шукае апраўданне сваім зверствам. І як ні круці, і ён знойдзе яго, і ты знойдзеш. Вайна была, і кожны свой зрабіў выбар. Вайна – гэта вадападзел...

– Каго пільнуеш, сынок? – прагучаў за спінай ціхі старэчы голас, прымусіўшы здрыгануцца.

Ягор уключыў ліхтарык і павярнуўся. Каля калоды стаяла маленькая бабулька ў зрэбнай доўгай спадніцы і такой жа блузе, на якую была апранутая ватняя безрукаўка, з-пад шэрай шчыльнай хусты выглядваў домік белай хусткі. Засланіўшыся рукой ад святла, старая пераступала босымі нагамі.

– Бабуля, ты мяне напалохала, – выключыўшы ліхтарык, прызнаўся капітан.

– Відаць, моцна задумаўся, вось слых і адняло. Толькі дарэмна ты тут пільнуеш, сышоў ён ужо, гадзіны дзве як сыйшоў!

– Хто сышоў?

– Ды салдацік. Выйшаў з Сацэвіцкай хаты, пастаяў, пастаяў, паслухаў. Сабакі забрахалі, ён і пайшоў агародамі да лесу. Я думала, можа, ваш.

– Дакладна салдацік, бабуля? – Ягора закалаціла.

– Ды ці ж я сляпая? Салдацік, у пілотцы, з мяшком за спінай, невысокі такі, шырокі.

– Не павінна было там быць ніякага салдаціка. Той, які быў, той у нямецкім фрэнчы і ў салдацкай кепцы, яго раніцай забілі...

– А да суседкі нашай двое ўчора ноччу зайшлі, як браты – падобныя і ростам, і адзеннем...

– Вось табе і пярэваратні ленінскага матэрыялізму, – праз зубы працадзіў капітан.

– Чаго гэта ты, сынок, такое казаць пачаў. Крый цябе Божа, нельга пра іх да світання і слова мовіць! Нават калі шэптам пра гэтую погань скажаш – яны ўжо тут як тут. Так што лепей памаўчы, а я, як старыя людзі калісьці вучылі, ціхенька памалюся.

## 18

Да Нясвіжа даехалі хутка. Равіч не выпускаў з рук старадаўніх папер і гатовы быў зубамі загрызці любога, хто не тое каб працягнуў да іх руку, а нават падумаў бы пра такое блюзнерства.

Паляк маўчаў, толькі на паваротах і выбоінах злёгку стагнаў, прыкрываючы рукой забінтаваную рану.

“Яго б па-добраму ў бальніцу трэба, усё прамыць, зашыць, уколы зрабіць, а то, глядзі яшчэ, памрэ”, – Скарга падумаў, а ўслых дадаў:

– Слухай, Міхал, Раіса твая сёння раптам не дзяжурыць у сваім прыёмным пакоі?

– Век жыві, браце! Не паверыш, я пра гэта цяпер падумаў. Зараз даведаюся, камандзір.

Раіса была таемным гонарам Равіча і легендай для ўсяго вакольнага люду. Па-першае, яна называла сябе Раіса́, з націскам на апошнім складзе, па-другое, лічыла сябе прадстаўніцай княжага роду наваградскіх татараў, якія прыйшлі служыць Вітаўту Вялікаму, па-трэцяе, з рэўнасці, як распавядае мясцовая паспалітая пагалоска, яна парэзала адну прыхільніцу Равіча, якую сама ж потым і зашыла. А яшчэ, з усё той жа рэўнасці, паласнула нажом мясцовую прыгажуню, ды яшчэ ў дадатак парэзала і мужа гэтай няшчаснай, між іншым, чэмпіёнкі раёна па культурызму. І, як ні дзіўна, пасля такіх подзвігаў яе нават не пасадзілі, нават справы не завялі.

Раіса іх сустрэла дзелавіта, агледзела параненага, пахітала галавой і зрабіла ўколы.

– Во красата: што рэжа, што шые – любата! – шапнуў Міхаіл. – Агонь, ва ўсіх сэнсах гэтага старажытнага слова. Але адгаворвацца за тваю straляніну давядзецца мне аднаму.

– Дык табе ж не прывыкаць, ды і ў ахвоту, – выкруціўшыся ад сяброўскага ляшча, Вячаслаў выскачыў на вуліцу.

Да дома ксяндза пад’ехалі ўжо спелай раніцай. Сабакі за высокім плотам не падавалі прыкметаў жыцця, стаяла ідэальная правінцыйная цішыня.

Сваякі пры сустрэчы шчыра ўзрадаваліся адзін аднаму і залапаталі пасвойму так хутка, што Скарга, як ні стараўся, не мог зразумець ніводнага слова. І яму неўзабаве надакучыла гэтая траскатня.

– Давайце так, святы айцец, сямейныя разборкі пакіньце на потым, а пакуль дамовімся пра дзень сённяшні. Прапаноў дзве. Першая: мы цяпер едзем у міліцыю і заводзім крымінальную справу супраць вас і вашага сваячка-крымінальніка. Другая: вы разам з ім пішаце падпіску аб супрацоўніцтве з органамі бяспекі – і мы забываем пра існаванне адзін аднаго. Падпіска ваша застаецца ў мяне як запарука нашай узаемнай павагі, ходу я ёй не дам, а гады праз два і зусім гэтыя паперкі вам аддам.

– Згода, – за сябе і за ксяндза адказаў Станіслаў, – напішам. Дыктуйце, пан афіцэр.

Уладзіўшы ўсе фармальнасці і “пасябраваўшы”, выпілі кавы.

– Ну і апошняе, – устаючы і пляскаючы сябе па каленях (“Зусім як

дзед", – падумаў Скарга), ён прамовіў: – Сваяк ваш абяцаў кампенсаваць забітага ім сабаку лепшым шчанюком з вашага гадавальніка. Так, Станіслаў?

– Так, Марэк, так! – бачачы незадаволеныя жэсты ксяндза, раздражнёна вымавіў сваяк. – Я пакіну пенёнзы за шчаняку.

– Айцец, усё будзе добра, – нечакана ўмяшаўся ў іх размову Равіч, – можа так стацца, што ў касцёл будуць у хуткім часе ахвяраваныя вельмі каштоўныя дары, якія некалі вашаму ж касцёлу і належалі. У вачах парафіянаў і біскупа гэта будзе выглядаць вельмі значна і, я думаю, пакрые ўсе шчанюковыя выдаткі. Падумайце.

– А што то могуць быць за дары?

– Калі мы будзем менш сварыцца, то, магчыма, вечарам я іх вам і пакажу, святы айцец, – адказаў, перапоўнены пачуццём уласнай годнасці, дырэктар музея.

Выбралі сімпатычнага ратвейлера, які на гучныя воплескі і звон ключоў не хаваўся за мамку, а з цікаўным выразам на мілай пысачцы ішоў на гук, ды яшчэ і рыкаць спрабаваў. Пасадзіўшы шчанюка ў кошык, усе развіталіся і разышліся.

Равіч накіраваўся ў свой замак, а потым, хутчэй за ўсё, да Раісы, якая ўжо колькі разоў яму тэлефанавала. Ксёндз з бедалагам Станіславам паехалі ў Польшчу. Скарга – да Казіміра на хутар.

Хутар прачынаецца рана, і калі а палове на восьмую Вячаслаў, стомлены і сонны, пад'ехаў да знаёмай брамкі, яны імгненна расчыніліся – і радасны, не зусім цвярозы сваяк з перавязанай галавой ухапіў яго ў мядзведжыя абдымкі. Ля варот сабралася і ўся яго сям'я. Стэфанія выйшла босай, з падаткнутым спераду прыполам саматканай спадніцы, у доўгіх, запэцканых зямлёй сініх гумовых пальчатках. Твар яе выпраменьваў радасць і задаволенасць жыццём.

Свята сустрэчы было перапынена патрабавальным скавытаннем шчанюка. Разбуджаны агульнай радасцю, ён, абапёршыся пярэднімі лапкамі на дзверцы машыны, высунуў галаву і настойліва патрабаваў забраць яго з гэтай задушнай жалязякі ды тэрмінова далучыць да ўсеагульнага разгулу весялосці.

Усё! Неба звалілася на зямлю! Анёлы жыцця затрубілі над светам, дарослыя ператварыліся ў дзяцей, і ўсе гатовыя былі заціскаць несамавітага Шарыка, які кідаўся ўсіх лізнуць і весела матляў сваім хвосцікам. Пакуль усе заміloўваліся і раіліся, як яго назваць, Скарга падаўся да ганка, сеў на прыступкі ды імгненна заснуў. Як яго пераносілі ў пакой, як распраналі і клалі на сяннік, як яго цалавала Стэфа, ён ужо не помніў. Сон, які ўваскрашае сілы стомленых цела і розуму, блакаваў слых, зрок, нюх, ахінуў мозг у першародную цішыню, у якой бязважка лунаді душы продкаў і ўсе таямніцы светабудовы, дзе не было нікога, нават Бога, таму, што там было Усё – Пачатак і Канец гэтага Свету.

Пад абед Вячаслава разбудзілі, падсунуўшы яму шчанюка. Убачыўшы неаблізаную прастору заспанага твару, Крабік, як яго пасля доўгіх дэбатаў было вырашана назваць, з радасцю прыступіў да сваіх шчанюковых абавязкаў.

– Стэфік, не трэба, я не памыўся, – спрабаваў праз сон ухіліцца Скарга.

Дружны рогат садзьмуў з яго рэшткі сну.

– Ну ты і гад, Скарга! – смяяўся разам з усёй раднёй яго любімы чалавек.– Хоць буду ведаць, як цябе будзіць.

– Ды ну вас! – шчаслівы і бадзёры, саскочыў з ложка малады чалавек. – Дзе ў вас тут памыцца можна?

– Пакуль што маладзіца з вядра калодзежнай вадзіцай абалье, а вечарам у лазню пойдзем, – прабасіў швагер і сунуў у рукі шклянку з бурштынавым напоем.

Толькі селі за стол, як ля варотаў засігналіла машына: прыехаў Равіч, задаволены, як кот, які сцягнуў суседскую каўбасу.

Паелі – і ўсе разам пайшлі да схрона. Старэйшы Казімір ледзь не плакаў, так яму было цяжка расставацца з таямніцай хутара. Але рабіць было няма чаго, хаваць далей невядома што было небяспечна, як паказалі апошнія падзеі. Падагналі трактар з прычэпам, завялі дызель-генератар, і падзем'е, асляплае ад лішку святла, страціла сваю таямнічасць ды імгненна ператварылася ў звычайны склеп з задушлівым, сапрэлым паветрам. Дзецям дазволілі зайсці яшчэ пры лямпе і паходнях, для мацнейшага ўражання. Прыціхлым і насцярожаным, ім прапанавалі пад пільным кантролем Міхаіла Сяргеевіча выбраць сабе па якой упадабалай штучцы і гужам выбрацца наверх – пагуляць, строга забараніўшы лазіць у старыя доты, дзе маглі быць змеі.

Паперы з акаўскіх скрынь вырашылі разбіраць, не спяшаючыся, дома. Вынеслі зброю, начынне, панцыры і ўсё астатняе, што траплялася пад рукі. Равіч аглядаў кожны прадмет, Стэфанія іх фатаграфавала, Паліна прыклейвала да маркіраваных пісталетаў біркі і пісала на іх нумары. Міхаіл запісваў усё ў тоўсты агульны сшытак. Скаргу і двух Казіміраў выкарыстоўвалі выключна ў якасці бясплатнай працоўнай сілы. Здаралася, Казімір старэйшы, раскапаўшы, як яму здавалася, цікавую рэч, падыходзіў па кансультацыю да эксперта, які прамяніўся задаволенасцю, тады ўся праца спынялася, усе гуртаваліся вакол Равіча і слухалі яго грунтоўныя каментары.

– Гэта не манеты, гэта памятныя медалі, – вучоны ўзброіўся магутнай лупай, – хутчэй за ўсё срэбныя, арыгіналы. Вось гэтая адлітая ў 1547годзе пры каралі Жыгімонце Старым, у гонар князёўны Альжбеты Радзівіл. Гэты – у гонар узяцця Смаленска канцлерам Вялікага Княства Літоўскага і вялікім гетманам Рэчы Паспалітай Сапегам і паланення ім ваяводы маскоўскага Васілія Шуйскага ў 1557 годзе. А гэты... – твар Міхаіла зрабіўся сур'ёзным, – гэта наогул унікальная адліўка пачатку нашай эры, думаю – рымскі. Так, рымскі часоў імператара Ціта, прысвечаны ўціхамірванню Юдэі і руйнаванню Вялікага храма Саламона. Вось табе на! Вось гэта знаходка! Дзе ты іх знайшоў?!

– Ды там, у кутку, на падлозе валяліся, у нейкім спарахнелым капшуку.

– А капшук, дакладней, кашэль – дзе?

– Там і застаўся, ён жа гніляк, што там цікавага?

– Як гэта што? Нясі яго сюды, і яшчэ там памацайце, можа, што выкацілася... Ты хоць ведаеш, што адзін гэты медаль можа на аўкцыёне быць ацэненым у некалькі сотняў тысяч даляраў?

– Ого! Бягу, прафесар!

Медалёў больш не знайшлося, кашэль ніякай маркіроўкі ды іншых пазнак, якія вызначалі б яго гаспадара, не меў, і праца зноў пайшла ў звыклым рытме.

Пад вечар цікавы артэфакт раскапаў Скарга. Чорны дыск памерам з вялікую патэльню, з адтулінай пасярод, разбіты на сектары, спярэшчаныя

нейкімі загадкавымі знакамі. Знакі былі з абодвух бакоў. Равіч доўга круціў яго ў руках, хітаў галавой, спрабаваў біць па ім малатком. Малаток слядоў на паверхні не пакідаў, гук удараў быў глухім, як быццам білі не па металу, а па каменю ці нейкаму невядомаму сплаву. Яшчэ гэтая рэч ураждвала сваёй лёгкасцю і прыгажосцю. Усе фігуркі і пазначкі былі выразаныя ці адлітыя настолькі па-майстэрску, што імі нельга было налюбавацца.

– Нейкі нябесны дыск! – захоплена крыкнула Стэфанія. – Вось дык вось! Я ўжо, праўда, не дзіця, але яшчэ моладзь, і таму мне таксама належыць які-небудзь падарунак. Праўда, Казімір?

– Пра што гаворка! Мы з Палінкай дорым вам гэтую цацку, а я, як старэйшы, яшчэ і дабраслаўляю з сённяшняй начы спаць са Скаргам у адным пакоі і ў адным ложку. Амэн!

– Паслухай, і бацюшка, і ксёнз, і патрыярх сямейства ў адным флаконе! Чуе маё сэрца, што вы там, у пячоры гэтай, алей твой ужо да дна ўгаварылі, – жартаўліва пагражаючы мужу пальцам, сказала Паліна. – А патэльню гэтую нябесную забірайце, можа, калі на бліны пазавяце ці ў адведкі.

Заўважыўшы незадаволены твар дырэктара музея, заступіўся за жонку гаспадар:

– Міхась, ты не крывіся, мы ж не скарб нічыйны, схаваны ў зямлі ці ў іншым месцы, разбіраем. Мы вопіс маёй спадчыны складаем. І працуеш ты тут не бескарысна, грошай, вядома, у мяне, акрамя тых сапрэлых баксаў, няма. Я, як чалавек прыстойны, і паколькі ты сябар майго родзіча, ды і мне асабіста прыемны, цябе не пакрыўджу. Мы з табой абавязаны быць карыснымі адзін аднаму. Згодны?

– Згодзен, – з відавочным сумам у голасе вымавіў Равіч.

Неўзабаве Паліна з дзецьмі і Стэфаніяй пайшла даглядаць скаціну і гататаваць вячэру.

Мужыкі загрузілі спадчыну на трактар і ў дзве ходкі перавезлі ўсё ў стары прасторны свіран, які служыў новаму гаспадару майстэрняй і музеем вясковага побыту. Чаго толькі тут не было! Косы, сярпы, сячкарні, калаўроты, кросны, цапы, драўляныя пранікі, ступы, куфры, дзежкі, бочкі, карыты, жорны ды іншае, іншае, іншае.

– Казімір, няўжо гэта ўсё жыло на гэтым хутары? – шчыра здзівіўся Скарга.

– Ну, не ўсё, але большая частка мая, – не без гонару адказаў гаспадар. – Тут ёсць рэчы, яшчэ маім прапрадзедам зробленыя. Вось гэта мне да душы, а гэтыя панскія цацкі... – ён кіўнуў галавой на прычэп, – ну аніякага трымцення ў мяне не выклікаюць. А тут, у свіране, і маё, і чужое. Што людзі прынеслі, што сам забраў з хутароў... – ён цяжка ўздыхнуў. – Улада ж наша якая – ёй план выконваць трэба. План, а там хоць жыта не расці! А як без догляду ды без любові да зямлі ад яе, беднай, ураджаю дамагчыся? Ну, хімію сыпаць па дурному, на касое вока адмерыў – і давай, атручвай усё жывое. Вунь на вакольных палях жаўрукі жыць перасталі, на маіх малых надзелах жывуць, а там – не. А жаўрук – птах божы, ён сонца і неба хваліць. А хіміі ды іншай атруты начальству і раённаму, і абласному, ды і мінскаму здалося мала. Вось і вырашылі нішчыць хутары. Стаіць сабе падворак, з пабудовамі, садам, калодзежам, праўда, даўно ніхто там не жыве, пазарастала ўсё... Старыя памерлі, моладзь з'ехала. Цяжка зямлёй зарабляць, у горадзе, як-ніяк перабіцца можна, асабліва не надрываючыся. Але замест заклікаў і

стымулаў вяртацца назад хутары гэтыя проста спальваюць. Прыязджаюць малойцы, салярачкі плюхнуць – і запалкай чыркнуць, гадзіны праз два ўжо нічога няма, папялішча. Хтосьці датэлефануецца да радні, тыя прыкоцяць – ды позна. Адказ адзін: стаяла кінутае, нехта спаліў, аднаўляць будзеце? Не? Падпішыце адмову. І ўсё. А можа, праз нейкі час унукі б падраслі, можа, разумнейшыя за бацькоў сталі б ды да дзедаўскага кута і вярнуліся б? А няма ўжо нічога. Сад неўзабаве спілавалі, папалілі, карчы ў яму разам з галавешкамі скінулі, зраўнялі – і ўсё: землі пайшлі ў севазварот. А ўлічваць іх не спяшаюцца. Вось табе і ўраджайнасць уверх паперла. Вось табе і стужкі, і прэміі, і ваза крыштальная. Вось табе і перадавікі, маць іх! Імгненная выгада, а шкода на стагоддзі, жыццё на зямлі зводзяць! Вы вунь гляньце вакол: воку зачапіцца няма за што, усё папалілі, пакарчавалі, адны палеткі. Не Беларусь спрадвечная, калыска славянства, а стэп нейкі цалінны. Мала ім хутароў, дык за гасцінцы, за дарогі ўзяліся. Дзяды яшчэ тыя елкі, ліпы, клёны ды сосны з бярозамі саджалі. Шлях як шлях быў. Дрэвы і тыя таксама знішчылі, папалілі, пянькоў і тых не знойдзеш. Дні і ночы тэхніка, як на вайне, вые, колькі грошай спалілі, а ўсё з-за прырэзкі прыдарожнай паласы да гэтага, будзь ён пракляты, севазвароту. Вунь па Еўропе едзеш – дарогі ў сельскай мясцовасці ўсе паабсаджаныя, дагледжаныя. Старое дрэва збутлее – яго спілуюць і новае пасадзяць. Сядзібы вакол маляўнічыя, вока цешаць, і, галоўнае, ні калгасаў, ні СПКа няма, а гаспадар ёсць, і ежы заваліся. Вось вам і ўвесь парадак. Вы мне прабачце, ужо вельмі балючая для мяне гэтая тэма. Вось так: на дзяцей і ўнукаў адна надзея... Ну, здаецца, усё на месцы, – правёўшы гаспадарскім поглядам расстаўленае па стэлажах багацце, падсумаваў Казімір. – Хадзем, хлопцы, у лазню, а чысценькімі – да агню, мяска смажыць. Мяса і брага – не бабская справа, так у нас спакон веку было. А дзеўкі тым часам хай парацца. Згода?

## 19

На наступную раніцу ўсе прачнуліся па-хутарански рана. Якое ж было здзіўленне Казіміра, калі ён застаў Равіча а палове шостай з калуном ля цяжкіх асінавых калодаў.

– Вось гэта начальнік музея, вось гэта па-нашаму. Ну, малайчына, Сяргеевіч, давай дапамагу паскладваць паленні, іх спярша трэба трохі прасушыць. Мы такія кастры і складваем, а праз тыдзень, калі без дожджычка, дык і пад дах можна заносіць. Не пасушыш – зімой сапрэюць, грыбком возьмуцца.

– А я думаў, гэта дзеці гуляюцца...

– Вось мы і пагуляем. Скаргі яшчэ спяць, у іх жа першая сумесная ночка, атрымліваецца. І дай Божа, на дабро і насалоду. Будзіць не будзем, а мы з табой, чалавеча, пайшлі да свірана, разбяромся, што з таго табе трэба, а што можна пакуль у мяне пакінуць. Пакуль вы спалі, я тое-сёе на аўкцыёны выставіў, люд пісаць пачаў, цікавіцца...

– Казімір, ты мне проста ў душу музейшчыка плюнуў! Вось так, без мяне, без парады – і адразу ў інтэрнэт!

– Не злуйся, я толькі дзве рэчы і паказаў: цітаўскі медаль і латы ў пазалоце...

– Ну і што пішуць? – з крыўдай і цікаўнасцю ў голасе спытаў Равіч. – Ты якія кошты выставіў?

– Дык патрабуецца экспертнае заключэнне, а потым ужо таргі.

– Правільна, а ты што думаў – увомірг да цябе ўвесь свет кінецца? Ты, спадзяюся, не са сваёй пошты хоць выстаўляў усё гэта?

– Са сваёй, а што?

– Хутаранін ты хутаранін, у добрым сэнсе гэтага слова! – дакорліва паківаў галавой Міхаіл. – Табе і сям'і тваёй паляка мала?! Аматары нажывы калі ўбачаць такія цуды на пошце нейкага селяніна, праз пару дзён твой маёнтак з усіх бакоў абкладуць, носа не высунеце. І нашыя мілыя ўлады прыпруцца высвятляць, што і дзе ўзяў.

– Ды што ты... А я і не падумаў пра гэта. Хацелася, каб хутчэй грошыкі ў гаспадарку запусціць. Можа, ты жартуеш?

– Не да жартаў. Пайшлі. Не дабро дзяліць, а да твайго кампа, сітуацыю выпраўляць будзем.

У хутаранца аказалася добра абсталяваная кампутарная кропка, з двума экранамі, магутным блокам, друкаркамі, сканерам, ксераксам і яшчэ нейкім прычындаллем, прызначэнне якога нават вучоны муж не ведаў.

– Сціплы куток убогага ліцвіна! Ты, Казімір, часам – не хакер?

– Не. Я ў гэтым не вельмі петру. Сын Казік тут пануе. Ён і фоткі ўчора выстаўляў, і перапісваўся сёння з антыкварамі. Казік! – кудысьці ў нікуды пракрычаў бацька, прыслухаўся. – Казімір, а ну давай сюды! – ужо ў поўную сілу лёгкіх раўнуў гаспадар.

– Іду-іду, тата! – адазваўся недзе за вакном хлапчук.

Ён увайшоў, папстрыкаў нейкімі тумблерамі – і ўся тэхніка са змяіным шыпеннем ажыла і пачала гудзець і міргаць.

– Сыну, мы ўчора з маёй пошты з тымі аб'явамі выходзілі? – вінавата спытаў бацька.

– Тат, я што – ку-ку? Я так усё правёў, што нават прэзідэнцкае аналітычнае бюро хрэн разбярэцца, не тое, што твае лахі пакупнікі. Галоўнае – ты ім нічога не адказваў сам? – падазрона прыжмурыўшы вочы, спытаў малы.

– Ну дзякуй Богу! – з палёгкай выдыхнуў Равіч. – А што там пішуць аматары нажывы?

– Зараз глянем. Я, дзядзька Міша, праз адзін хітры рэсурс з такімі рэчамі заходжу, недзе на востраве Мэн зарэгістраваны.

– Дзе? – навастрыў вушы бацька.

– Гэта, бацька, далёка, дзесьці аж пад Смаленскам, – хітра ўсміхаючыся, хутаранін спрытна плюшчыў клавіятуру, – вы ідзіце, чаго нада мной віснуць? Я вам усё раздрукую і прынясу.

Выйшлі на двор, на ганку, саромеючыся адзін аднаго і ўсяго свету, стаялі, узяўшыся за рукі, Вячаслаў са Стэфаніяй.

– О, радня! Добрай вам раніцы! Вы толькі не забудзьцеся пасля ўсіх вянчанняў і вяселляў, чыя хата вас параднiла, – весела пляскаючы іх па плячах, прамовіў гаспадар. – Малайцы, раненька прачнуліся. Вячка, пайшлі з намі, дзеўкі тут самі разбяруцца.

З хутара раз'ехаліся пасля абеду. Яшчэ раз перабралі нажытак з падзямелля, частку жалязяк Равіч адразу адабраў для музея, пра што падпісалі дамову: грошы на хутар павінны будуць прыйсці на працягу трох банкаўскіх дзён. Больш каштоўныя артэфакты вылучылі ў адмысловы спіс, дазвол на іх продаж павінна даць Міністэрства культуры ці нават урад.

Скарга патэлефанаваў знаёмым, і тыя парэкамендавалі мясцовага на-

тарыуса, які дапаможа правільна аформіць пераход калекцыі ад бацькі да сына, пасля смерці першага.

Равіч паехаў у Нясвіж, а закаханая пара, усё працягваючы трымацца за рукі, як быццам іх нехта збіраўся разлучыць, захапіўшы вялікую частку польскіх папер, падалася ў Мінск.

Заехаўшы ў інтэрнат інстытута замежных моў і пакінуўшы Стэфу збіраць рэчы, – яна пагадзілася пераехаць да яго, – Скарга ламануў да Ягора Кузьміча. Чатыры разы ён, загружаны запаветнымі паперамі, падымаўся да яго на шосты паверх.

– Вось, Слава, у маладосці думай пра старасць і ніколі не згаджайся на кватэру першага і вышэй трэцяга паверха. Уяві, а калі б ліфт не працаваў? Давай, давай сюды ўсё гэтае багацце, на канапу грузі, каб ракам па падлозе не поўзаць. Ну вось, добра. Цяпер давай сюды прысунем вунь той доўгі столік, і цягні з кухні дзве табурэткі, ну і чайнік там пастаў.

– Вось, глядзіце, Ягор Кузьміч, у гэтых грунтоўных, у каленкоры, сшытках перапісаныя агентурныя данясенні, тэксты радыёграм у Варшаву і Лондан, адказы на іх. У гэтых шэрых – дзённікі баявых дзеянняў, страты праціўніка, свае страты, трафеі. Наогул, дзіўна, што канцылярыю яны вялі спраўна. Я бачыў нават дапаўненні і ўдакладненні па нейкіх пунктах.

– Так, родны Славік, і павінна быць, што на фронце, што ў партызанах. Вайна выйграецца на палях баёў, а пішацца па данясеннях, пры тым кожны з ваюючых бакоў піша яе па-свойму. Калі б не Лаўрэнцій Цанава, у нас была б вельмі пацешная гісторыя партызанскага супраціву. Па выніках тых данясенняў, што слалі амаль усе камандзіры ў Цэнтральны штаб партызанскі да Панамарэнкі, вымалёўвалася грандыёзная карціна. Народныя мсціўцы на нашых бедных суглінках столькі паклалі салдат супастата, падбілі танкаў і нейкім невядомым чынам назбівалі самалётаў, што, калі ўсё склалі і падлічылі – заплакалі. Я ўжо не кажу пра пушчаныя пад адхон варожыя саставы, іх безліч! Лаўрэнцій Фаміч, які любіў, трэба сказаць, пусціць пыл у вочы начальству, і той абурыўся гэтай ліпе. Пасля знакамітага партызанскага парада ён сабраў камандзіраў, раздаў сшыткі і прымусіў напісаць усё наноў ды падагнаць пад навуковым шляхам выведзеныя кантрольныя лічбы. Потым, каб б усё гэта замацаваць, выдаў пад сваім рэдактарствам фундаментальную двухтомную працу. Вунь яны там у мяне на паліцы стаіць, ты як-небудзь пачытай.

– Ужо праштудзіраваў, я ж думаў, па наіўнасці, што там пра “Котку” нешта будзе.

– Пра “Ката”, Слава, пра “Ката”. “Чорная котка” – гэта ў братоў Вайнераў. У старажытнасці прыгожая чорная котка была сімвалам закаханасці, можа, табе пара жаніцца, а?

– Дык ужо сабраўся, можа, сёння ці заўтра нявесту да мамы павязу знаёміць. Толькі вы мяне з панталыку не збівайце. Мне вось гэтыя паперы не зразумелыя. Па-першае, яны на нямецкай, а з дойчам у мяне яшчэ горш, чым з польскай, не кажучы пра французскую. Па-другое, мне здаецца, паперы гэтыя зашыфраваныя, занадта шмат лічбаў, скарачэнняў і знакаў. І, трэцяе, мне б да раніцы вызначыцца, што аддаць ва ўпраўленне як баявы трафей, апраўдаўшы сваю паездку, а галоўнае – падоўжыць камандзіроўку яшчэ на тыдзень.

– Тады давай расказвай усё па парадку, што там у вас адбылося. Па-

перы можна спакойна аддаваць, куды хочаш: і дзённікі баявых дзеянняў, і ўзнагародныя прадстаўленні. А самі ўзнагароды ёсць?

– Ёсць, скрынка ў машыне засталася, там яшчэ грошы нямецкія, нашыя і тысяча даляраў, усё з часоў вайны.

– Вось іх і цягні, ды і журналы агентурных данясенняў можна аддаць, іх усё роўна ніхто чытаць не будзе, сакрэціць таксама наўрад ці стануць, спусцяць у адкрыты архіў, а з архіва ты іх у любы час можаш запытаць. Ну, давай, расказвай, а я пакуль у паўвока над гэтымі нямецкімі дзівацтвамі павараджу.

Вячаслаў зноў здзівіўся здольнасцям свайго настаўніка. Здавалася, ён яго і не слухае: устае, дастае з паліц нейкія даведнікі, слоўнікі, кнігі, нешта піша, крэсліць, а потым нечакана пачынае задаваць пытанні пра зброю паляка, ці знайшлі яе? А яе не знайшлі, ды, прызнацца, у той мітусні ніхто і не шукаў. Больш пытанняў, на здзіўленне, было ў старога чэкіста па старадаўніх чарцяжах замка і здагадках Равіча.

– Гэта, мабыць, галоўная твая знаходка, Славік! Яе трэба зубамі трымаць, навука навукай, музеі музеямі, а пад замкам можа быць нешта больш значнае...

– Залатыя апосталы?

– Ну, апосталы – гэта ўсяго толькі вучні свайго настаўніка, прытым вельмі баязлівыя і слабаверныя. Іх статуі, калі яны існуюць, усяго толькі кавалкі золата, зберажэнні на чорны дзень. У тыя часы таксама падаткі належыла плаціць, а тут адліў апосталаў залатых – і гвалт па ўсёй Рэчы Паспалітай да самага Рыма, і гонар, і хвала! Паставіў статуі прылюдна ў касцёле, заўваж, у сваім касцёле, а праз нейкі там час, цёмнай ноччу, замяніў іх пазалочанай бронзай, а жоўты метал падалей схаваў. Словам, яшчэ ў тыя старыя часы гэтая справа лічылася цёмнай, а ўжо цяпер... – стары ўздыхнуў. – Колькі сябе памятаю, усе гэтых апастолаў шукаюць, і нашы, і экстрасэнсы, а цяпер яшчэ і засумавалы сенатар падключыўся. Свечкі ім у рукі, хай шукаюць. Я пра іншае скажу. Ты чуў, што Нясвіжскі замак пабудаваны на руінах старажытнага замчышча? А да таго замка там было нейкае старажытнае гарадзішча, а на яго месцы яшчэ больш старажытнае свяцілішча? Ты калі-небудзь чуў тэорыю пра беларускае паходжанне славян і арыйцаў?

– Так, у агульных рысах... Пра старажытны замак нешта чытаў, а пра астатняе ўпершыню чую.

– Добра, давай расказвай далей, стралок хрэнавы. Добра, што хоць сваю дупу дадумаўся паперай прыкрыць. Ты іх, палякаў гэтых, у спіс сваіх давераных асобаў абавязкова занясі, без расшыфроўкі і афармлення агентурных адносін. Нашай канторы, па вялікім рахунку, глыбока пляваць на твае асабістыя кантакты роўна да таго часу, пакуль крыніцы не трэба плаціць узнагароджанне за працу. Добра, прабач старому за бурчанне. Ну, што там далей?

Далейшы аповед Вячаслава быў выслуханы ўважліва і без дадатковых пытанняў.

– Такім чынам, у нас у сухім астатку атрымліваецца: паляк у Польшчы, пра стральбу ніхто не ведае і не павінен даведацца, архіў Арміі Краёвай знайшоў сам. Дзе?

– Мы з Міхаілам вырашылі, што ў адной паўразбуранай капліцы ў Завушшы. Там быў маёнтак графаў Путкамераў, ён згарэў у Першую сусветную вайну, дакладней, немцы спалілі, яны ў сядзібе клуб зрабілі салдацкі,

нехта недакурак не патушыў ці запалку кінуў – і няма добрага маёнтка. Гэта ўладанні Радзівілаў, і капліца іх. У гэтай капліцы застаўся адзін неразабраны склеп, не змаглі яго выявіць, хоць нават падрываць спрабавалі, а Равіч неяк здагадаўся аб паваротным механізме і зрушыў масіўную базальтавую накрыўку. Думаю, сёння ноччу яны туды пару скрынь перацягнуць са швагерам, ну і накідаюць рознай драбязы.

– Добра, але не адзін жа ты ўсё гэта адшукаў і вывалак на свет божы?

– Па-першае, на схованку навёў Станіслаў, я за ім сачыў, там яго і застукаў. Правёў адпаведную работу, дазволіў узяць Біблію, фоткі, узнагароды родзіча, атрымаў падпіску аб супрацоўніцтве і выправадзіў дадому.

– Добра, толькі ж яго могуць праверыць па месцы жыхарства і распытаць, што ды як там было.

– Могуць, вядома, але з яго слоў, пацверджаных ксяндзом, сваю кватэру ў Лодзі ён прадаў месяцы з тры таму. Ад нас ён адразу паедзе ў Англію да састарэлага сваяка. Там, прыглядваючы за старым, Стасік плануе асесці і чакаць спадчыны. Так-то ён, нібыта, і нядрэнны малец, кажа, дахоўшчыкам можа працаваць.

– Вось няхай і працуе! – трохі падумаўшы, стары дадаў: – Толькі ты, Слава, сшыткі данясенняў пакінь пакуль у мяне, іх праз тыдзень давязеш, каб камандзіроўку канчаткова апраўдаць.

Стары праслізнуў у суседні пакой і неўзабаве вярнуўся з пустой вялікай тэчкай. Белыя завязкі пацешна целяпаліся, нібы падвязкі старых салдацкіх споднікаў. Ягор Кузьміч падышоў да канапы і акуратна паклаў руку на стос адабраных ім папер.

– Тут вельмі важныя дакументы, каштоўнасць іх з гадамі, я адчуваю, не выпарылася. Ты маеш рацыю, мой дапытлівы сябар, тэксты зашыфраваныя, мяркуючы па алоўкавых пазнаках, палякі іх спрабавалі расшыфроўваць, але ў іх нічога не атрымалася. Паспрабую сам павазіцца. Так, – ён дэманстратыўна змоўк, нібы даючы зразумець, што далейшая гутарка ўжо вялікага значэння для іх не мае, – не змагу сам, – дадаў стары, акуратна ўкладваючы паперы ў прынесеную тэчку, – далучу яшчэ аднаго старога пердуна, закручанага на галаваломках. Ты гэта, Слава, збірай усе свае знаходкі і дуй у кантору, тыдзень адпісвацца будзеш. Галоўнае – запэўнівай: аперацыя яшчэ не завершана, ты адчуваеш, што нешта яшчэ там засталося. Зразумеў?

Скарга адказаць не паспеў – настойліва зазваніў мабільнік. Стэфка, упершыню назваўшы яго мілым, нібы просячы прабачэння, паведаміла, што яе дзяўчаткі вырашылі сёння зладзіць развітальны дзявішнік і што яна будзе разумніцай і паводзіць сябе будзе, як належыць хутаранкам, калі заседзяцца – застанецца начаваць у інтэрнаце, а калі не позна затрымаюцца – то пакліча яго і ўцячэ.

Ягор Кузьміч з радасцю цішком назіраў за сваім маладым сябрам. “Сыходзіць табе, Слаўка, з нашай сістэмы трэба, – уздыхнуўшы, падумаў стары чэкіст, – і кантора ўжо не тая, і ты не для яе створаны”.

## 20

Равіч замкнуўся ў сваім кабінеце, адключыў усе тэлефоны і катэгарычна забараніў каму б там ні было яго турбаваць, уключаючы верную і адданую Сівілу, якая ўжо наразала кругі каля дырэктарскага кабінета.

Прывезеныя ўчора чарцяжы былі акуратна раскладзеныя на падлозе.

Паміж лістамі пакінутыя шырокія прасветы, каб можна было прапаўзці, ад чаго тоўсты дыван уяўляў сабой складаную і зменлівую мазаіку.

Равіч злаваўся. З'яўленне новых планаў амаль разбурыла яго здагадку аб існаванні пад асноўнай вежай невядомага раней падземнага ходу. Затое выразна абазначыліся хады ў сценах, нейкія лазы ў міжпаверхавых перакрыццях, прыступкі з малельні княгіняў, якія невядома куды вялі. З боку Слуцкай брамы да возера ішла сапраўдная падземная дарога. Сама Слуцкая брама ўяўляла сабой складанае збудаванне, тунэлі і лазы якой хітра перапляталіся на розных узроўнях і аблытвалі вялікі каземат, які, мяркуючы па знаках, служыў алхімічнай залай.

Пад плошчай замка таксама рабілася няведама што. На чарцяжы для нагляднасці быў прадстаўлены зрэз, які складаецца з трох гарызонтаў. Да верхняга вёў ход з замкавага калодзежа. Цяпер – ён гэта дакладна ведаў – ніякага ходу там не было, пры рэстаўрацыі яго не знайшлі, ды і, наогул, калодзеж быў бутафорскім, хоць і вельмі глыбокім. Але на чортавым плане быў і ход, і шырокая скляпеністая зала, у цэнтры якой – дзве лесвіцы на другі ўзровень у памяшканне правільнай кубічнай формы. З гэтага кубіка вялі чатыры гарызантальныя хады, тры з іх неўзабаве абрываліся, хутчэй за ўсё, былі заваленыя, чацвёрты даволі стромка ішоў уніз, упіраўся ў перашкоду, па ўсім, дзверы ў вялікае памяшканне з каланадай. Перад дзвярыма быў надпіс на лаціне. Равіч скапіяваў яго, але, мяркуючы па выразна чытэльным у тэксце імені Ісуса, гэта была, хутчэй за ўсё, нейкая малітва.

“Абсалютная бязглуздзіца, – дзівіўся навуковец, – якія тут могуць быць гарызонты?” Ён падняўся з каленяў, падышоў да стала, прыкінуў вышыню скляпення. Атрымалася, што да падлогі памяшкання з каланадай амаль дваццаць восем, а то і трыццаць метраў! Каму гэта трэба было капаць так глыбока? На аркушы са зрэзам быў яшчэ і план усіх трох узроўняў. Трэці і другі былі пазначаныя толькі адзінкавымі памяшканнямі, а на першым –пункцірам нанесеныя нейкія казематы з пераходамі. Пункцірныя лініі маглі абазначаць мяркуемыя, але не даследаваныя збудаванні, ці, можа, накрэсленыя з нечых слоў.

“Цікава, што гэта за надпіс?” – Міхаіл дастаў з кніжнай шафы свой стары слоўнік, набыты яшчэ ў неспакойныя гады студэнцкай маладосці на адным з Кракаўскіх кніжных развалаў і выдадзены Львоўскім калегіумам езуітаў у 1703 годзе. Павядзьмарыўшы над фразай, выпісваючы ў слупок словы і насупраць іх пераклады, ён свіснуў, склаўшы прыблізную фразу, і апусціўся на крэсла. Пераклад надпісу абвяшчаў: “Кожны хрысціянін, заклінаю цябе імем Бога нашага Ісуса Хрыста, не адкрывай дзверы гэтыя і не ўваходзь у пакоі святла Зараніцы”.

“Кожную хвілю не лягчэй! – талерантны да ўсіх рэлігій і забабонаў Міхаіл перахрысціўся. – Мне толькі Адрынутага Анёла пад замкам не хапае! Дзе гэты чортаў... – спатыкнуўшыся на гэтым важкім слове, ён забабонна сплюнуў. – Дайшоў, дайшоў, Равіч! Дзе гэты Скарга? Абяцаў вярнуцца хутка. Яго цяпер ад гэтай Стэфкі і трактарам не адцягнеш. Можа, і мне пад бок Сівілы нырнуць ці Раісе патэлефанаваць? Трэба ж стрэс зняць”.

Марудна згарнуў аркушы, перакладаючы іх папяроснай паперай, сочачы, каб яны, не дай Бог, не скамячыліся. Рулон абгарнуў мяккай фланелевай анучай, паклаў яго на стол, падняў тубу, на ўсялякі выпадак перавярнуў, нібы туды магла запаўзці мыш, і моцна страсянуў. Якое было яго здзіўленне, калі на дыван спланіраваў невялікі кавалак старадаўняй паперы. Гэта,

хутчэй за ўсё, была частка чарцяжа ці дадатак да аднаго са згорнутых ім лістоў. Больш уважліва разгледзець выпадковую знаходку Міхаілу не даў настойлівы стук у дзверы яго прыёмнай. Няспешна схаваўшы паперы ў тубу, замкнуў іх у сейфе. Раздражнёна адчыніў дзверы ў прыёмную, а затым і ў калідор. З паўзмроку на яго ва ўпор глядзеў кароткі раструб аўтаматнага ствала. Ён інстынктыўна падаўся назад у памяшканне, а з паўзмроку, следам за ім, рушыла габарытная фігура ў міліцэйскай форме.

– Грамадзянін, што вы робіце на ахоўным аб'екце і якім чынам на яго трапілі?

“Дэбілаў мне толькі сёння не хапала!” – падумаў Міхаіл.

– Я дырэктар Нясвіжскага запаведніка, – сказаў ён услых, – а вы хто?

– Гэта я хто? Конь у драпавым паліто! Я цэлы маёр міліцыі, ці вы, таварыш, не бачыце? Дырэктар ён запаведніка! Ну і якія такія звяры ў вашым запаведніку водзяцца? А я яшчэ раз задаю вам пытанне на пакуль зразумелай мове: што вы робіце ў гэтым музеі?

– Я што раблю? – перапытаў Міхаіл. – Я, кажу, дырэктар гэтага музея...

– Стаяць, грамадзянін, – маёр пагрозліва павёў ствалом аўтамата. – Вы вызначцеся, грамадзянін, вы дырэктар запаведніка ці дырэктар музея, а можа, ты элементарны злодзей? Вы давайце вызначайцеся, а я пакуль трывожную групу выклічу.

– “Цэнтральны”, я “Бабёр-2”... Несанкцыянаванае пранікненне на ахоўны аб'ект. Прашу падмогі, грамадзянін не падпарадкоўваецца асобе пры выкананні... – рацыя заверашчала, зашыпела і выдала ледзь разборліваe: – “Едзем”.

– Маёр, ты што – здурнеў? Якое не падпарадкоўваецца?! Я што – вам грошы плачу за тое, каб вы з мяне здзекваліся? Прэч з майго кабінета!

– Вы, гэта, спакойна, і голас на мяне не падымайце. Вось зараз дастaвім у аддзяленне, там і разбярэмся, што ў вас за запаведнік і каго вы там разводзіце. Вы, гэта, смірна стойце, нібыта бацька вас у кут паставіў. Бо я, паколькі пры выкананні... Вось і падмога падаспела! У нас, як бачыце, не забалуеш. Давайце, бярыце яго і ў машыну, – скамандаваў маёр задыханым сяржантам.

– Маёр, ты ку-ку? – пакруціў ля скроні адзін з іх. – Гэта ж дырэктар музея Равіч Міхал Сяргеевіч. І што вы, таварыш маёр, у памяшканні робіце? Мы ж вам казалі: наша справа – перыметр, а ўнутр без прадстаўнікоў адміністрацыі ахове ўваходзіць нельга. Вы ўвайшлі, сігналізацыя спрацавала, вось мы прыбеглі, недалёка былі. А праз пару хвілінаў яшчэ хлопцы з райаддзела пад'едуць.

– Ты, гэта, давай не тут, – расхваляваўся маёр. – Гэты грамадзянін не можа вызначыцца, дзе ён працуе: у запаведніку ці ў музеі. Так што бяром яго – і да высвятлення...

– Міхаіл Сяргеевіч, вы зайдзіце да сябе ў кабінет, мы тут начальству растлумачым розніцу паміж пазаведамаснай аховай і ДАІ, адкуль, дарэчы, і перавялі да нас таварыша маёра.

– Так, перавялі, для ўмацавання, між іншым...

– Не ўжо, я дадому пайду, а вы тут разбірайцеся. Дурдом нейкі, гэтага я так не пакіну, – выпхнуўшы няпрошаных гасцей у калідор, абурaўся Равіч, замыкаючы дзверы. Для выхаду з дырэктарскага кабінета быў прыстасаваны старадаўні калідор, які меў асобныя дзверы і свой чып сігналізацыі.

Ступіўшы на няроўную брукаванку замкавага двара, Міхаіл адчуў нейкае ўнутранае трапятанне: “Сапраўды, многія веды нараджаюць многія смуткі! Вось жыву я чацвёрты дзясятак, чатыры гады ўжо гэтую брукаванку тапчу – і ніякіх душэўных усхліпаў не адчуваў. А тут раптам раскрылася бездань – і пад табой, аказваецца, схаваная нейкая страшная таямніца! Галівуд дый толькі! Галівуд Галівудам, а з усім гэтым трэба нешта рабіць. Вось дык нарваўся ты, браце, на праблему. І самому не з’есці, і з іншымі не падзяліцца. Дзе гэты бравы лейтэнант падзеўся, іціць яго маць?! Упэўнены, ён адразу з рыдлёўкай туды ламанецца. Хаця чаго ты, Міхась, запанікаваў? Хіба ты адзін? Уся хутарская група з табой, ды і яшчэ з паўдзясятка талковых хлопцаў набярэцца. Галоўнае – сесці і ўсё распланаваць. Нашыя пошукі пачаць пад выглядам рэстаўрацыйных работ ці задумаць прафілактычны рамонт таго ж калодзежа, а ўжо ў часе работ і пачнуцца нейкія неспадзяваныя адкрыцці. Гэта, мабыць, лепшы сцэнар. Другім складнікам плана павінна стаць прапрацоўка гісторыі гэтых чарцяжоў. Як яны з’явіліся ў акаўцаў, дзе да гэтага маглі захоўвацца, як яны на схоў змаглі выйсці, хто падказаў? Словам, суцэльныя пытанні? Але гэта хаця б у агульных рысах трэба выявіць, каб пазбегнуць нечаканасцяў у будучым”.

Міхаіл, задумаўшыся, незаўважна для сябе хуткім крокам дайшоў да свайго дома. У рэальнасць з заблытанага лабірынта таямніцаў падземных хадоў і містычных паданняў яго вярнуў гучны брэх Рады, каўказскай аўчаркі, якая, не зважаючы на прыроджаную злосць, любіла свайго гаспадара і невядома як здолела падлізацца да Сівілы.

Вокны дома свяціліся цёплым святлом, што абяцала вячэру і ўтульны ложак.

Равіч, паляпаў сабаку па карку і, ці то з радасцю, ці то з жалем уздыхнуў. Невядомыя шляхі адзіноты, якую кожны з нас носіць, нібы нажытыя за доўгія гады мазалі.

## 21

Скарга на здзіўленне хутка адпісаўся і даклаў свайму кіраўніцтву. У кабінет да яго начальніка, здавалася, сабралася ўсё кіраўніцтва, усе са здзіўленнем разглядвалі паперы, узнагароды, пячаткі, грашовыя знакі. Начальнік ад шчодрасці дазволіў сябрам узяць па купюры старых грошай на памяць пра эфектыўную працу яго аддзела.

– Дык вы запэўніваеце, лейтэнант, што там могуць быць і нейкія дакументы? – пытаў намеснік начальніка ўпраўлення палкоўнік Сіваконь.

– Мне здаецца, павінны. Калі дазволіце, я там яшчэ з тыдзень папрацую. Павінна яшчэ нешта быць. Толькі я б вас вельмі папрасіў даць загад мясцовым, каб яны пакуль не залазілі ў гэтую справу. Не, я супраць калегаў нічога не маю і заўсёды з імі на сувязі. Але мястэчка нашае, я ж у ім правёў амаль усё сваё дзяцінства, вельмі патрыярхальнае і спецыфічнае. Бывае, і падумаць пра што-небудзь толкам не паспееш, а пра гэта ўжо ўсе шэпчуцца. У мясцовых ад мясцовых сакрэтаў няма.

– Добра, давай, лейтэнант, мацуйся, хоць трэба было б цябе ададраць за тое, што паляка, не прад’явіўшы начальству, адпусціў. Ты перастань сваволіць. Анатолій Вітальевіч, – звярнуўся ён да непасрэднага начальніка Скаргі, – хай сабе ездзе, калі не пярэчыш. Раённых таварышаў папярэдзь, маўляў, лейтэнант выконвае асаблівае заданне кіраўніцтва, хай не пworld-

юць з пытаннямі, а дапамогу, калі спатрэбіцца, акажуць. Усё, лейтэнант, поспеху, толькі не зарывайся. Поспех – ён наравісты.

З будынка ўпраўлення, больш вядомага ў Мінску як "жоўты дом", Скарга выйшаў з настроем імяніннніка. Аказваецца, начальніцкая пахвала – прыемная штука.

"А ці не рвануць мне, пакуль маўчыць мая нечаканая радасць, да Ягора Кузьміча? Ад непасрэднай блізкасці да начальства паўсталі ў маёй бесталковай галаве некалькі нечаканых пытанняў".

Трубку доўга не падымалі.

– Алё.

– Ягор Кузьміч, а можна, я да вас літаральна на хвілінку зазірну, узнікла пару пытанняў. Патрэбны вашыя мудрыя парады.

– Наконт парадаў, думаю, не да мяне, а так, вядома, зазірні, як "сонца ў наша ваконца", – і слухаўка, злосна і нібыта пакрыўдзіўшыся, замоўкла.

Ягор Кузьміч быў не адзін.

– Вось, Славік, пазнаёмся – мой старадаўні прыяцель і верны памочнік Андрэй Іларыёнавіч Горзбіч, самы вялікі спецыяліст, як я табе ўжо казаў, па разгадванні зашыфраваных сакрэтаў. За свабодалюбства...

– І складанне нявернападданых вершаў, – перапыніў гаспадара кватэры зморшчаны часам гарбаты дзядок у дзіўным цяпер пенснэ на тонкім залатым ланцужку, апрануты з нейкай нетутэйшай вытанчанасцю, у добрым касцюме-тройцы. Накрухмалены каўнер кашулі, здавалася, рыпеў, а манжэты паблісквалі нятаннымі запінкамі. – Вельмі прыемна пазнаёміцца, вельмі шмат чуў, – ён працягнуў вузкую далонь з доўгімі, нібы ў піяніста, пальцамі. – Горб мой старарэжымны ніяк не мог спалучацца з савецкімі эпалетамі і мог кінуць цень на ўсю сістэму.

– Сістэма не шкадавала, затое дзяўчаты дзівіліся! – дадаў, як яму здавалася, значны штрых да партрэта сябра Ягор Кузьміч.

– Што ж гэта вы, бацька, у мінулым часе мяне нахвальваеце. Гэта мы раней былі маладымі і прыгожымі, а цяпер мы проста прыгожыя. Ну, будзем знаёмыя, тым больш што я вельмі сябрую з вашым дзядзькам. Унікальны чалавек.

– Калі зазірнуў, давай свае пытанні і, калі ёсць час, далучайся да нас варажыць над тваімі паперамі, – ён паказаў рукой на раскладзеныя на канапе пажоўклыя ад часу аркушы з тэчкі са шнуркамі ад падштанікаў.

– Пытанні мае могуць і пачакаць, а пра паперы можаце ўжо нешта сказаць? – спытаў малады чалавек.

– Сказаць можна толькі адно: паперы, безумоўна, каштоўныя, але зашыфраваныя яны пакуль невядомым мне шыфрам, – злёгку расцягваючы словы, прамовіў Андрэй Іларыёнавіч. – Там, у гэтых скрынях, выпадкова ніякай кнігі не было? Любой.

– Акрамя Бібліі, ніякай.

– А дзе яна? На яе можна зірнуць?

– Дык я ж яе аддаў Станіславу, ён яшчэ і браць не хацеў, казаў, цяжкая, маўляў, навошта мне з ёй цягацца, ды і занадта мудрагелістым шрыфтам надрукаваная. Чытаць цяжка.

– А ў гэтага Стасіка можна яе на пэўны час пазычыць? – грэбліва прыжмурыўшы левае вока, спытаў Горзбіч.

– Цяжка будзе, думаю, ён ужо ў Англіі, – вінаватым голасам адказаў Скарга.

– Шкада, вельмі шкада, малады чалавек. Гэта, вядома, ускладніць нашую задачу, але, як гаворыцца, пытанне не смяротнае.

– Слава, давай усё ж свае пытанні, а паперы пакінь нам, – перапыніў іх гаворку Ягор Кузьміч.

– Можа, вы самі хацелі б зірнуць на ўсё, што мы выцягнулі з падзямелля? Там ёсць, на мой погляд, вельмі цікавыя, а часам і дзіўныя рэчы, вобласць прымянення якіх не змог растлумачыць нават такі паліглот, як Равіч. А другое, хутчэй, не пытанне, а нейкае маё разважанне, якое патрабуе вашай парады. Сіваконь зацікавіўся маімі пошукамі і без размоў адпусціў капаць далей. Яго цікавяць спісы польскага атрада і пэўная інфармацыя, каму харунжы пакінуў на захоўванне архіў. Я пра званне акаўскага камандзіра нічога яму не казаў, ды і не ведаў я сам таго звання. Думаю, ён запытаў з нашых засекаў інфармацыю. Вось толькі навошта яна яму, амаль семдзесят гадоў прайшло?

– Ведаеш што, Славік, – падумаўшы, пачаў Ягор Кузьміч, – ты па сваім палкоўніку засечку ў памяці зрабіў – і ідзі сабе далей. Шлях усе тонкасці праясніць. І мы тут з калегам рэшткі масла ў галовах сваіх пазбіваем, можа, які толк і будзе. За запрашэнне на экскурсію дзякуй, але цяпер з'ехаць з горада не магу. Можа, дзянькоў праз пяць і напрашуся да вас у пасажыры, заадно павучу цябе па лесе хадзіць. Ну-ну, давай без крыўдаў... – заўважыўшы, як Скарга набычыўся, успомніўшы іх старыя спрэчкі, спыніў яго дзед. – І яшчэ – мая табе парада: ты мясцовым калегам усё ж у агульных рысах раскажы пра свае прыгоды, каго-небудзь на месца схову звадзі, у той склеп, хай ён сам што-небудзь там знойдзе. Нават кот не адважыцца днём у чужым доме мышэй лавіць. Пра ксяндза маўчы. Служыцелі культу ў нашым ведамстве ва ўсе часы былі і застаюцца на ганаровым месцы па вярбоўцы і распрацоўках. Пры выпадку ты яму, не чакаючы абяцанага табой года, яго распіску вернеш. Копію здымі, а арыгінал аддай. Убачыш, які гэта дасць эфект.

Стары змоўк і па-змоўніцку пераглянуўся з таварышам. Скарга развітаўся і спусціўся да машыны.

Вечар паступова аддаваў стырно свайго кіравання начы. Вуліцы запалілі ліхтары, слепаватыя ад яшчэ не згаслага заходу вокны дамоў пачыналі поўніцца цёплым святлом чалавечага жытла. Вячаслаў сядзеў у машыне і павольна пераварваў інфармацыю нядаўняй сустрэчы. Стэфанія не тэлефанавала, самому патэлефанаваць, вядома, хацелася, але збоку здавалася, што ён спрабуе яе кантраляваць і наогул не асабліва і давярае. «Дзіўная рэч... Вось яшчэ пару тыдняў таму ты яе не ведаў і спаў сабе спакойна, ніякіх табе трывог, ніякіх дурных думак. Нейкім нявеплым і складаным аказваецца гэтае пачуццё з банальнай назвай «каханне». І радасць, і шчасце, і трывогі, і жарсць, і лухта ўсялякая ў галаве! Такое ніколі сам не выдумаеш. А вось з'явіцца гэтае маленькае, непрыкметнае – і заскрэбла, заварушылася, і ўжо такое пачынае чыніць! Круціць і табой, і светам тваім, і справамі, і думкамі. Чаго няма і не было – ужо здаецца рэальнасцю, а сама рэальнасць размываецца да нейкіх яе складнікаў-атамаў. Цяпер зразумела, чаму людзі ад гэтага самага кахання вар'яцеюць. Хоць што табе зразумела? «Чорная котка ў старажытных была сімвалам вар'яцтва ад кахання... Да чаго гэта Кузьміч сказаў?» Чым больш ён думаў на гэтую тэму, тым мацней хваляваўся, тым лягчэй падсвядомасць нараджала нечакана-вар'яцкія вобразы і прапаноўвала самыя нерэальныя думкі.

Ён правёў рукамі па твары, скідваючы немаведама адкуль узніклае насланнё.

“Трэба заехаць да маці, – прыйшла ў галаву выратавальная думка, – чаю папіць, выраўняць рытм свайго шалапутнага сэрца па матчыным рытме”.

Ён ужо даўно, яшчэ са старэйшых класаў школы, заўважыў, што варта прыйсці да мамы зусім разбітым і размяклым, пасядзець побач, прытуліцца да яе рук, якія заўсёды пахнуць дзяцінствам, – і любая трывога праходзіць сама сабой. І ты зноў поўны энергіі, гатовы біцца, адстойваць свае перакананні і смялець у сваіх уяўных палётах.

“Ды і да дзядзькі не перашкаджала б зазірнуць, – паварочваючы ключ запальвання, падумаў Вячаслаў, – распытаць яго пра Беларусь – прарадзіму славян. Дзіўна, чаму я пра гэта нічога не чуў, нідзе не чытаў? Хоць гэта больш на трызненне падобна і з радні старажытным украм, якія пабудавалі егіпецкія піраміды, – ён усміхнуўся, – але прасвяціцца і ў гэтым пытанні не будзе лішнім”.

Скаргу пашанцавала: мама ў гэты час якраз была ў гасцях у цёткі з дзядзькам, балазе жылі яны ў адным доме, толькі ў розных пад’ездах.

– Вось і малайчына, што аб’явіўся, – амаль у адзін голас абвясцілі ля дзвярэй і цётка, і маці. Дзядзька, выйшаўшы ў пярэдні пакой, чаго раней ніколі не рабіў, агледзеў пільна пляменніка і, трохі павагаўшыся, узважваючы ўсе за і супраць, прыняў рашэнне і спытаў:

– А ты што ж адзін завітаў? Яны тут ледзь не банкет сабралі, самі вунь, глянь, як прыбраліся, – дзядзька шчыра махнуў рукой і кінуў праз плячо: – Пацалаваўся з паненкамі – і прашу да мяне ў кабінет.

– Мама, што за навіны? – здзівіўся, чырванеючы, Скарга, – якія банкеты?

– Як быццам ты не ведаеш свайго любімага дзядзьку, – заштурхоўваючы пляменніка ў залу, хутка загаварыла цётка, – вечна ён усё гіпербалізуе і калёсы наперадзе каня наравіць паставіць. Ты галодны?

– Як воўк, ласкавая цётачка! Есці хачу, але разумець вас адмаўляюся.

– Ды што там, сынок, – гладзячы яго па галаве, спакойна сказала маці, – гэта бабуля падняла паніку, распавёўшы аб тваім візіце з нейкай вельмі сімпатычнай асобай. Ужо ад тваёй бабкі пачуць хвалу не ў адрас любімага ўнука ці яе незабыўнага старога Скаргі, супакой, Матка Боска, яго душу, – гэта нонсэнс. Адсюль і перапалох, і малы сямейны савет...

– Які там савет! А мяне што ж вы на гэты савет не паклікалі?

– Ты, пляменнічак, не трубі, як слон, – уносячы ў пакой самавар, перапыніла яго цётка, – ты давай знаём радню з паненкай. Скаргі хоць і гуляшчыя, пры тым усе без выключэння, але толькі да шлюбу. Думаю, ты традыцыю не парушыш. Як хоць яе завуць, скажы, калі пасаромеўся прывесці...

– Ды не саромеюся я зусім! Дзяўчыну завуць Стэфанія. А вы вечна прыспешваеце падзеі, даражэнькія сваякі, – узяўшы сябе ў рукі, цвёрда вымавіў Вячаслаў, – усяму свой час. Але абяцаю: з агледзінамі зацягваць не буду. Мяне на тыдзень адправілі ў камандзіроўку ў Нясвіж...

– Спадзяюся, не аднаго, – дзелавым голасам вымавіў за яго спінай дзядзька. – Гэлечка, будзь ласкавай – налі мне крыху гарбаты ў мой нямыты кубак.

– Ідзі, ідзі, усё табе прынясу! – замахала рукамі Ангеліна Альфрэдаўна, – вось, як заўсёды, на самым цікавым ты са сваім носам улез. Ну, ідзі,

ідзі ж. Стэфанія? – перапытала яна маладога чалавека, пакалыхваючы заварны імбрык, – яна каталічка?

– Апантаная!

– Хвала Матцы Найсветлай! – ухвальна і радасна перахрысціліся абедзве жанчыны.

– У нашым палку прыбыло, – амаль шэптам дадала маці.

Зазваніў мабільнік, Скарга, імкнучыся ўсё рабіць павольна, дастаў тэлефон, глытаючы разам са слінай хваляванне, паднёс да вуха.

– Скарга, мне тут жудасна сумна, ды і не дзявочнік ім патрэбны, а нагода выпіць. Забяры мяне хутчэй, а рэчы і ўсё іншае потым.

– Добра, буду праз пяць хвілінаў, я тут побач, на гары за Свіслаччу.

– Вось толькі паспрабуй яе паўз наш дом правезці – пазбаўлю прысмакаў да трыццацігоддзя! – ужо ў спіну крыкнула цётка.

– Мы чакаем, сынок, – дадала мама з такой пяшчотай, што ад замілавання зашчымела сэрца.

На здзіўленне, Стэфа не манернічала і пакорна пагадзілася ехаць знаёміцца. Адзінае, што яе хвалявала, – ці не занадта яна проста апранутая для такога высокага выпадку і ці будзе прыстойна ехаць да яго сваякоў пасля двух келіхаў віна.

– Тваю выпіўку бяру на сябе, скажу – угаварыў выпіць для смеласці...

– Не-а, міленькі, ужо як-небудзь сама пагавару, – высмельвалася да самых дзвярэй дзяўчына, але толькі адчынілі дзверы – і яна, як маленькая, шмыгнула за шырокую спіну нарачонага.

Размова за сталом не складвалася, старэйшыя блытана пыталіся, моладзь гэтак жа недарэчна адказвала. Сітуацыю выратаваў дзядзька.

– А ці не накапаць нам па лафітніку асаблівай настоечкі нашай ветлівай Ангеліны Альфрэдаўны, а то ж на сухія мазгі ды ў такой сітуацыі – і язык цяжэй жорнаў робіцца.

Пасля дзвюх чарак размова пайшла жывей.

– Вось і выдатна, паважаныя да́мы, вы тут пляткарце, нам костачкі перамыйце, а мы з гэтым юным следапытам сыйдзем да мяне.

Прыхапіўшы свае чаркі, яны пайшлі ў кабінет. Перад тым, як шчыльна прычыніць дзверы, гаспадар вызірнуў у пакой і, выпраменьваючы дабрыню, папрасіў: – Гэля, пры раздачы пышнага пірага, спечанага Марыяй Аляксандраўнай, будзь добрай, не забудзься пра нашае існаванне.

Дзядзька быў у прыўзнятым настроі. Сеўшы за свой манументальны стол, ён упёрся ў яго шырока расстаўленымі рукамі.

– Ну-с, шаноўны Вячаслаў, я ўхваляю твой выбар. Бліскучай будзеце парай, і, ведаеш, братка, са шлюбам не цягні. Вядома, пэўныя тэрміны трэба вытрымаць, але не больш. Мне здаецца, я ведаю яе бацькоў, а па матчынай лініі і дзядоў. Калі гэта яны, то дзяўчына з вельмі прыстойнай сям'і, сям'і з добрай рэпутацыяй і гісторыяй.

Ад пытанняў радаводных і агульных знаёмых неяк вельмі хутка перайшлі на тэму гісторыі, яе куртатасці ў афіцыйнай трактоўцы цяперашнім навуковым светам.

– У гісторыі, як і ў баі, трэба мужнасць, без гэтага праўдзівага аповеду не будзе, ды што не будзе – яго і няма! Ёсць чарговае вывяржэнне часовай каламуты ў мазгі нашых суграмадзян. Нашая акадэмія кідаецца з боку ў бок, хапаецца і за тое, і за гэта, а на самай справе топчацца на адным месцы. Доўга гэта працягвацца не можа.

– Дзядзька, вы ўжо мне, бесталковаму, прабачце. Мяне не вельмі хвалюе як гістарычная навука ў цэлым, так і таптанне Акадэміі ў сваім акопе. Мне, наогул, здаецца, што нашыя гуманітарыі спрэс абаронцы, яны генетычна не ў стане наступаць. Але пакуль ёсць такія падзвіжнікі, як вы, як Андрэй Карпавіч, як Мокаш і Лазалюк, – справа не прапала, за вамі ідзе таленавітая моладзь. Калі б вы ведалі, як вас любяць і абагаўляюць студэнты...

– Ліслівец і падхалім, – весела перапыніў яго дзядзька, – нешта табе трэба, хітруган-пляменнічак, аднак алей на счарсцвелую душу ўсё ж працягвай ліць. Ліслівасць, калі не з лішкам, вельмі карысная.

– Дык я ж не надта і крыўлю душой: усё, што сказаў, праўда. Мне не верыце – спытаеце Стэфанію, яна сама некалькі разоў да вас на лекцыі ў БДУ ездзіла, а ў яе групе ёсць дзяўчаты, дык тыя і зусім вашыя фанаткі, ніводнага занятка не прапускаюць. А вы кажаце – падхалім. Падлізацца да вас я хачу матэрыяльным чынам... – Скарга прыўстаў, з кішэні джынсаў дастаў і паклаў на стол медаль, які быў адліты ў памяць аб паўстанні Тадэвуша Касцюшкі ў 1796 годзе ў Парыжы. Ён ведаў: такіх адлівак на ўсходніх землях былой Рэчы Паспалітай засталіся адзінкі. Медаль ён выменяў яшчэ паўгода таму на салдацкі Георгіеўскі Крыж чацвёртай ступені на таўкучцы ля Палаца мастацтваў. Бронзавы кругляш валяўся ў бардачку машыны і быў шчасліва забыты – і вось сёння вельмі дарэчы патрапіў пад руку, калі ён шукаў закрутку ад польскай узнагароды, прызначаную таксама дзядзьку. З перадачай польскага ордэна ён вырашыў пачакаць.

Станіслаў Францавіч падарунак ацаніў па вартасці. Выйшаў з-за стала, абняў сваяка і пацалаваў у лоб.

– Слава, ты нават не ведаеш, якая мне дарогая гэтая, здавалася б, цацка. Цяпер у мяне амаль поўны камплект памятных адлівак, прысвечаных Касцюшку і яго змаганню. Не хапала толькі тры адзінкі, але з тваёй шчодрасцю іх засталося ўжо дзве. Дзве! Гэта самая поўная калекцыя і ў нас, і ў Расіі. Такая ж ёсць толькі ў аднаго паляка ў Іспаніі. Вось гэта падлізаўся дык падлізаўся! Слухаю цябе! – вочы калекцыянера ззялі, нібы сіняе вуголле.

– Дзядзька, раскажыце коратка пра гіпотэзу беларускага паходжання славян.

– Але гэта не зусім навуковая здагадка, затое самая рамантычная і амбіцыйная, якую мне даводзілася калі-небудзь чуць. Наш сучаснік прафесар Валашэвіч доўгія гады сур'ёзна займаўся генетычным вывучэннем як сучаснікаў, так і парэшткаў продкаў, якія жылі на тэрыторыі нашай рэспублікі. Аналізуючы сабраныя матэрыялы, а пробаў тых у яго набралася дзясяткі тысяч, ён і прыйшоў да вельмі парадаксальнай высновы: народ наш існуе тут нязменна больш за тры з паловай тысячы гадоў!

– Колькі? – міжволі вырвалася ў Скаргі.

– Трыццаць пяць стагоддзяў! А можа, і больш. Усе іншыя народы Еўропы, што аселі ў межах цяперашніх дзяржаў, жывуць там значна менш. Так што мы з табой, пляменнік, аўтахтоны. Вось на гэтай базе і ўзнікла здагадка, што пры перасяленні арыяў ці індаеўрапейцаў на захад яны на доўгі час затрымаліся на нашых, на той час вельмі ўрадлівых, землях, аселі на берагах так званага Герадотавага мора, існаванне гэтага вадаёма ў старажытныя часы сёння ў цэлым даказана. Акрамя дастатку ў ежы, перасяленцы знайшлі паверхневыя выхады розных руд, а як з руды плавіць метал – яны ўжо

ведалі і ўмелі. Прыйшоў час бронзавых сякер і больш дасканалых прыладаў апрацоўкі зямлі. Ёсць дастатак – жанчыны больш нараджаюць дзяцей. Гэта няхітрая практыка захавалася і да сёння: у краіне стабільна, у мужоў ёсць грошы – усе прылеглыя да дамоў скверы забітыя дзіцячымі калясками. А калі ж заняпад і безграшоўе – колькі не надрывалася б тэлескрыня для аднаклетачных, нараджальнасць будзе каціцца ўніз. Народу стала шмат, можа, нават занадта шмат, і вось найбольш пасіянарныя, як кажа Леў Гумілёў, пайшлі далей на Захад у дзікую тады Еўропу і паступова яе засялілі. Працэсы гэтыя ішлі павольна, і атрымалася тое, што ёсць на сённяшні дзень. Як гэта ні па-дурному гучыць, але продкі цяперашніх беларусаў паслужылі базавым матэрыялам для стварэння амаль усіх еўрапейскіх народаў, не толькі славянскіх. Вось такія выйшлі крамбамбулі.

Абмяняцца ўражаннямі, пазадаваць пытанні вучоныя мужы не паспелі, бо былі ласкава запрошаны ў сталовую да салодкага стала.

На жаночай палове панавала поўнае паразуменне і аднадушнасць. Стэфанія на роўных дапамагала клапаціцца над сталом, а потым на правах малодшай, калі ўсе расселіся, Ангеліна Альфрэдаўна даверыла ёй разнесці ўсім чай, толькі што наліты з самавара. Балазе дом быў старадаўнім і яшчэ ў шасцідзясятыя гады пры капітальным рамонце дзядзька дамогся, усімі праўдамі і няпраўдамі, аднаўлення на кухні спецыяльнага коміна для самавара. Чым да сёння невымоўна ганарыўся, нібыта адным са сваіх навуковых дасягненняў.

## 22

Канец траўня 1947 года выдаўся ў Наваградку неймаверна гарачым. Духмень дзённых выпарэнняў ноччу быў больш агідным, ліпкі пот пакрываў твары спячых, сцякаючы буйнымі кроплямі на засціраныя навалкі. У пакоі настаўніцкага інтэрната, што размяшчаўся ў рэштках старой, яшчэ польскіх часоў, казармы, паветра было настолькі тугое і нерухомае, што здавалася нейкай жывой істотай, якая часам ажывала і пачынала нябачнымі шчупальцамі кашмарных сноў душыць неспакойных хлопцаў.

Такія ночы, з нерухомым, амаль слюдзяным паветрам, усталёўваліся ў тутэйшых месцах, як правіла, у сярэдзіне ліпеня, але прырода здатная на розныя выкрунтасы, спрачацца ж з ёй пасля з'яўлення хрысціянства ні ў кога жадання не ўзнікала, ды і лічылася справай бескарыснай, а то і богазнеimportant.

Дзмітрый Пожыч прачнуўся нечакана, нібы ад штуршка. Сэрца дробна дрыжала, як заечы хвост, а ў скронях цяжка стукала загусцелая ад смагі кроў. Вялікі ацынкаваны бачок з прымкнёным да ручкі ланцугом, на якім вісеў сіні эмаляваны кубак, стаяў у калідоры, на засланым цыратай стале. Каб дабрацца да выратавальнай, хай і цёплай вільгаці, трэба было вылезці з карыта праціснутага інтэрнацкага ложка і, спатыкаючыся аб самыя нечаканыя прадметы, якія валяюцца на падлозе студэнцкага інтэрната, уключна з разамлелымі ад сну целамі будучых настаўнікаў, дабрацца да гэтага выратоўнага бака.

Крыху паляжаўшы без руху, прыслухоўваючыся да сябе і навакольнага свету, будучы сельскі настаўнік набраў поўныя грудзі паветра і рэзкім рыўком выбраўся са свайго на дзіва не рыпучага лежбішча. Дошкі не-

фарбаванай падлогі здаліся прыемна прахалоднымі. Малады чалавек да хрусту ў суставах пацягнуўся, зірнуў у вакно – і аслупянеў...

За нешырокім агародчыкам на вуліцы стаяла казённая брычка, запрэжаная двойкай стройных коней, воддаль – яшчэ пару вазоў. Кіроўцаў не было, коні гучна скублі высокую, яшчэ невыгаралую траву. Імкнучыся ступаць па адной маснічыне, Дзмітрый падышоў да акна і, не высоўваючы галавы, прыслухаўся. Злева, дзе быў уваход у іх палац, напаўголаса размаўлялі людзі. Прыціснуўшыся да сцяны, ён нават у цемры пазнаў іх фігуры ў фуражках: на нябачным яму ганку ваенныя спрабавалі чымсьці жалезным адсунуць засаўку, якая замыкала ўваходныя дзверы знутры.

Фуражкі нічога добрага абяцаць ні яму, ні мірна пасопваючым таварышам не маглі. Ён жа чакаў гэтага начнога візіту, нават спрабаваў сабе яго ўявіць, але гэта занадта хутка здарылася. Дзмітрый адскочыў ад сцяны, штурхнуў бліжэйшы да сябе ложак Юсюкевіча. Той як быццам толькі гэтага і чакаў: ускочыў на ногі і пачаў нацягваць штаны, якія ляжалі на табурэтцы, папярэдне моцна піхнуўшы спінку ложка Піменчука. У поцемках яны не бачылі твараў адзін аднаго, рухаліся моўчкі, нібы дзясяткі разоў да гэтага трэніраваліся хутка пакідаць пакой у выпадку небяспекі. Усе ўжо стаялі каля акна, гатовыя выскачыць, калі эмгэбісты адкрыюць уваходныя дзверы і ўвойдуць у калідор інтэрната.

Нечакана з бліжэйшага вазка ўспыхнуў яркі ліхтар і асвяціў пакой і іх саміх.

– Нават не ўздумайце! – гучна і ўладна сказаў нябачны чалавек. – Скочыце – пакрышу ўсіх! – Гэй, акуратысты ср...ныя, хутчэй да акна! – гаркнуў ён супрацоўнікам.

Праз хвіліну ў іх пакоі было поўна людзей у форме. Усіх траіх абшукалі, для парадку адвесіўшы кожнаму па пары добрых кухталёў, паставілі тварам да сцяны, на якой вісела велізарная геаграфічная карта свету. Дзмітрый стаяў справа, упіраючыся носам у Японію. Страху не было, толькі ўсё цела зрабілася ватным, а навакольны свет абыякавым і сумным. У галаве ледзь пульсавала адзіная думка: «Навошта ты ва ўсё гэта ўлез? Улез, улез, улез...» – аддавалася ва ўсім яго вялікім і моцным целе, у кожнай клетачцы, у кожным валаску, у кожнай кроплі здрадніцкага поту, які сцякаў між лапатак па хрыбетніку.

Дакументы іх падпольнай арганізацыі знайшлі хутка. Ды і што іх было шукаць, калі паперы ляжалі ў чамадане Піменчука. Там было ўсё: і праграма «Саюза вызвалення Беларусі», і статут, і пратаколы пасяджэнняў кіруючага органа, і тэксты ўлётак. Добра, хоць пасля доўгіх спрэчак у пратаколах было вырашана пісаць не прозвішчы прысутных і выступоўцаў, а іх канспіратыўныя псеўданімы. Да поўнага камплекта не хапала толькі членскіх спісаў.

Дзмітрыю здавалася: усё, што адбываецца, не мае да яго ніякага дачынення, уся яго ўвага чамусьці засяродзілася на тоненькім струменьчыку поту, які павольна поўз уніз па хрыбетніку.

«Ідыятызм нейкі! – у галаве неахвотна мільганула млявая і недарэчная думка. – Трэба было дажыць да гэтай начы, каб на сваёй скуры спасцігнуць сапраўдны сэнс ходкай фразы: “Дупа ў мыле!”».

Нечакана апатыя і млявасць зніклі, як быццам іх ніколі і не было. Мозг распачаў дзіўную і звыклую для яго працу, аднекуль з яго глыбінь узнікалі самыя неверагодныя пытанні – і яму даводзілася на іх так жа

імкліва адказваць. «Неадказанае» пытанне праз некаторы час вярталася і цягнула за сабой злёгку размытыя вобразы мінулых падзей.

Вось ён капае бульбу, дакладней – перакопвае ўжо двойчы перакапанае поле ў пошуках хоць бы яшчэ дзясятка бульбін, каб зварыць іх сёння на вячэру. Асноўны ўраджай выкапалі яшчэ раней, перабралі, высушылі і вёдраў дваццаць паспелі засыпаць у высланую саломай яму схаванага ад чужых вачэй сенніка. Гэты галоўны запас на зіму бераглі як зрэнку вока. Пра таемную я́му ведалі толькі ён і маці. Частку несхаванай бульбы забралі немцы па дзяржнарыхтоўцы, а паўтара мяшкі панеслі людзі з лесу па «партызанскай прадразвёрстцы», як весела хіхікнуў-патлумачыў іх старшы. Маці зноў была цяжарнай, за вайну ўжо чацвёрты раз. Адно дзіцятка нарадзілася нежывым, а два хлопчыкі ўжо плёхалі босымі ножкамі па земляной падлозе хаты. Маці пасля чарговага візіту ці паліцаяў, ці партызан нават спрабавала на сябе рукі накласці, ды Бог адвёў.

У той дзень у вёску прыехалі на двух машынах агітатары зазываць маладняк у «Саюз беларускай моладзі», тым, хто падпісаў прашэнне, адразу выдавалі прыгожую шэрую форму, з нашыўкамі, кепку з доўгім, як у нямецкіх салдат, брылём, а галоўнае – падкаваныя новенькія чаравікі. Машыны ўжо з’язджалі, калі Дзмітрый выйшаў на дарогу і падняў руку. Паперу падпісаў проста на пыльным капоце, абмундзіраванне скруціў у цяжкі вузел і падаўся дадому. Наўздагон яму крыкнулі, каб падагнаў форму і ў наступную нядзелю прыбыў у райцэнтр для прыняцця ўрачыстай прысягі.

У райцэнтры моладзевай дружынай кіраваў яго далёкі сваяк, які адправіў Дзмітрыя ў старадаўні маёнтак Альбярцін на курсы.

Дзіўная гэта была вучоба. Вакол ішла вайна, людзі забівалі адзін аднаго ні за што, проста стралялі – хто па п’янцы, хто з перапуду, а хто па ахвоце. Стралялі, а потым ужо думалі, навошта яны гэта зрабілі. За смерць ні з каго не пыталі. А ў былым панскім маёнтку панаваў нейкі іншы свет. Іх добра кармілі, прымушалі займацца фізкультурай, муштравалі на пляцы, развучвалі песні і доўгімі гадзінамі распавядалі, як будзе добра жыць у вольнай Беларусі, калі Гітлер са сваімі саюзнікамі разаб’е ненавісныя Саветы. Часта навучальныя дні заканчваліся вогнішчамі над старадаўняй сажалкай, печанай бульбай і гарачымі спрэчкамі пра любоў да свайго народа, яго гісторыі, культуры і песняў. У лагер вярталіся строем са звонкай песняй вольных і незалежных сокалаў.

Да канца вучобы ён, як і яго таварышы, свята верыў у веліч Беларусі, ашуканай і зняважанай спачатку расейцамі, затым палякамі і зноў расейцамі. З гэтага часу ён, добра ведаўшы польскую мову, выплюнуў яе, нібы гнілы арэх, і стаў размаўляць толькі на беларускай ці нямецкай мовах. Следам за любоўю да свайго, роднага, непрыкметна ў душы пасяліўся спачатку недавер, а затым і непрыязнасць да ўсяго чужога. І ўспомніў, што маці першым згвалціў яшчэ ў самым пачатку вайны нейкі хахол, паліцай з суседняй вёскі. А начамі да іх у дом грукалі і завальваліся зарослыя і нямытыя мужыкі, якія гаварылі між сабой па-беларуску ці па-польску...

Дзмітрый з цяжкасцю вырваўся са сваіх успамінаў, зірнуў на гадзіннік. Прайшло ўсяго хвілін сем, як іх паставілі да сцяны.

– Нас жа не расстраляюць? – як здалося Дзмітрыю, спалохана спытаў Бронік Піменчук.

– Вам, фашысцкія выкармышы, пашанцавала! – прагрымеў за спінай

той жа голас, што пагражаў з воза пакрышыць іх на кавалкі, – чатыры дні назад у Савецкім Саюзе адменена смяротнае пакаранне. Адно застаецца: застрэліць вас пры спробе ўцёкаў. Так што шанец адправіцца на спатканне да свайго Гітлера ў вас ёсць.

– Пры чым тут Гітлер? – злосна буркнуў Пожыч, – яго ўжо даўно закапалі. За што вы нас арыштоўваеце, а галоўнае – на якой падставе?

– Таварыш маёр, дазвольце я яму прыкладам растлумачу падставы? – спытаў чэкіст, прыстаўлены іх ахоўваць.

– Не, Міханевіч, мы людзі гуманныя і біць нікога не збіраемся. Ты павярні да мяне тварам гэтага разумніка.

Чужая рука не паспела нават дакрануцца да яго пляча, як Зміцер рэзка павярнуўся тварам да святла.

– Прымі ад мяне свае граблі, – працадзіў скрозь зубы хлопец. – Я гэта спытаў. Вайна ўжо чатыры гады як скончылася, а вы ўсё па начах да людзей урываецеся, як немцы. Дзе ордэр наператрус? За што білі перад тым, як паставіць да сцяны?

– Колькі пытанняў? Як тваё фамілiё, законнік хрэнаў? – пагойдваючыся на абцасах, свідраваў Дзмітрыя калючым позіркам сярэдняга росту чалавек, у тонкіх залацістых акулярах-веласіпедзіках, з гладка зачасанымі на патыліцу пасівелымі ўжо валасамі.

– Гэта, мяркуючы па дакументах, нехта Дзмітрый Пожыч, – паслужліва паведаміў ахоўнік, – па дакументах – ваяваў...

– Напэўна, у батальёне СД ці ў іх грэбанай краёвай самаахове.

– Ды не, таварыш маёр, па дакументах... пасля вызвалення Беларусі быў прызваны і ваяваў у Чырвонай Арміі, паранены і нават узнагароджаны медалямі «За баявыя заслугі» і «За перамогу над фашысцкай Германіяй».

– Гэта яшчэ горш: франтавік, а з нацыяналістамі і антысаветчыкамі звязаўся! Мала таго, што гад, дык яшчэ і здраднік. Так, Пожыч?

– Я не разумею, пра што вы кажаце, маёр. Я ваяваў, а ты што ў гэты час ра...?

Удар прыкладам аўтамата не даў яму скончыць.

– Адставіць, Міханевіч! Старшына, пакараю! Гэта яны ў нас з-за кута страляюць і гранаты кідаюць у вокны кватэр, дзе нашы жонкі і дзеці спяць. Давайце закругляцца тут – і ўсіх у аддзел. А з табой, франтавік, у нас яшчэ шмат часу наперадзе для размоў. Хачу, каб ты, варажына, ведаў: я на фронце са студзеня сорак трэцяга. Вядзіце іх.

Падышла машына з фургонам без вокнаў. Іх заштурхалі ўнутр, скрыпнулі завесы клеткі, двое з аўтаматамі селі каля кратаў, папярэдзіўшы: кожны рэзкі рух, спроба ўстаць, перасесці на іншае месца будзе расцэньвацца як напад на канвой. Ехалі моўчкі, ды і казаць не было пра што. На выпадак правалу ў іх была агульная дамоўленасць: ні ў чым не прызнавацца, адмаўляцца ад блізкага знаёмства, маўляў, ніякіх шчырых гутарак не вялі, вучыліся, пілі гарэлку, хадзілі па дзеўках і збіраліся вучыць дзяцей.

На допыт Дзмітрыя выклікалі толькі праз тры дні. Ён ужо галаву зламаў ад усялякіх шкодных думак. Пападумаў і паўспамінаў усё, што толькі можна было. Як ні круціў, атрымлівалася, што ім нехта здрадзіў. Выснова, вядома, добрая і правільная, заставалася толькі высветліць – хто?

Следчы, ужо немалады, цельпукаваты, у карычневай кашулі з зацёртым гальштукам, з маленькімі, амаль дзіцячымі пухленькімі ручкамі. Вочы

блізка пасаджаныя, невялікія і зусім бясколерныя. Мешкаваты чалавек валодаў на рэдкасць прыемным, злёгку ліслівым голасам.

– Ну што ж вы, франтавік, які кроў праліваў за савецкую ўладу, уляпаліся ў такую непрыемную гісторыю. З паказанняў вашых змоўшчыкаў і нашых аператыўных звестак мне зусім незразумелая ваша роля ў антысавецкай моладзевай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Я нават напачатку думаў, што выйшла прыкрая памылка ці выпадковы нагавор, прызнаюся, нават падумваў вас вызваліць з-пад варты. Але я памыляўся. Адкрыліся шматлікія эпізоды з вашай ваеннай маладосці, факты супрацоўніцтва з акупантамі, сяброўства ў антысавецкім «Саюзе беларускай моладзі» ды многае іншае, – следчы прайшоўся па кабінеце, спыніўся перад закратаваным акном, тэатральна ўздыхнуў. – Я вам прапаную два варыянты паводзінаў. Першы: вы бераце чыстыя аркушы паперы і пішаце мне чыстасардэчнае прызнанне. Другое: вы сядаеце вось да гэтага падваконніка і ўважліва чытаеце надрукаваны мною для палягчэння вашай долі тэкст. Калі заўважыце недакладнасці ці відавочныя ляпы, не саромеючыся выпраўляеце, падпісваеце і да суда тупаеце ў сваю камеру.

– А трэцяга варыянту не будзе? – зірнуўшы спадылба, спытаў Пожыч.

– Чаму ж... – ажывіўся следчы, вяртаючыся да стала. – Могуць быць і трэці, і чацвёрты, і нават пяты варыянты нашай сумеснай працы. Пяты, праўда, не пажаданы, пасля пятага мала хто дажывае да суда, але і ён усё ж магчымы.

– Давайце вашы пісанні...

– Правільны падыход, грамадзянін Пожыч. Вас зараз адвядуць у пакой для допытаў, там вы ўсё прачытаеце, падумаеце і вернецеся да мяне. Добра?

– Добрага ў гэтым мала. Я афіцыйна заяўляю: ні ў чым не вінаваты, ні ў якіх нелегальных арганізацыях не знаходзіўся. У Саюзе моладзі быў, дык гэта я сваймі асабісту яшчэ перад адпраўкай на фронт распавёў. Пацаном жа зусім пайшоў, з галадухі, ад таго, што апрануць не было чаго, а зіма на носе і ў хаце малых поўна...

– Следства падобныя факты менш за ўсё цікавяць. Нам больш цікава, як вы збіраліся будаваць новую Беларусь, як захопліваць уладу планавалі. Многае зразумела з вашых статутных дакументаў, якія, між іншым, выявілі ў вашым чамадане.

– У мяне ў інтэрнаце не было чамадана, аддаю перавагу пажыткі насісць у салдацкім рэчмяшку...

– Дык, значыць, у чамадане вашага сябра, – ужо з раздражненнем павысіў голас следчы.

– Зноў вы памыляецеся, у мяне няма сяброў, не такі я багаты, каб іх мець.

– Пожыч, ты ў мяне з такімі размовамі і да пятага варыянту даскочашся.

Следчы прамаўляў свае маналогі неяк вяла, без асаблівага жадання, як бы даючы зразумець, што лёс затрыманых ужо даўно вырашаны і яму ўсё абсалютна да ліхтара, будзе Дзмітрый адказваць на пытанні ці не.

– Добра, разумнік, давай да падваконніка і чытай, зраблю ласку: не павядуць цябе ў затхлыя падвалы, – працягнуў яму стос машынапісных аркушаў.

Чым больш Пожыч учытваўся ў следчую пісаніну, тым мацней калацілася сэрца. Усё ў паперы было праўдай: і тройкі, і паролі для сувязі, і явачныя кватэры, і планаваныя базы на хутарах, і нават напрамкі будучай

прапагандысцкай працы ў сельскіх школах, толькі вось пра збор зброі і падрыхтоўку тэрактаў – нейкая бязглуздзіца. Пра гэта, наколькі ён ведаў, размоў наогул не вялося. «Але адкуль усё ім вядома? Быць не можа, каб за тры дні ўсе так распусцілі языкі. Хаця... Хаця ўсё можа быць, у камеры, як і ў адзіночным акопе, кожны сам за сябе. Не, штосьці тут не так. Не так з самага пачатку: і следчы млявы, і эмгебэшнік гуманны? Дзесьці тут крыецца падвох, дзе? Ох і дарэмна ты ў гэтую байду ўлез, цяпер разграбай не разграбай, а сухім не выкараскаешся.

Ён успомніў першы сход, на які яго прывёў Мікола Самасей, праз хвілін дваццаць ён ужо быў свой сярод сваіх, здавалася, зноў трапіў у Альбярцін, не хапала толькі вогнішча, печанай бульбы і хвацкай песні маладых нацыяналістаў. Потым, абдумваючы гэты крок, ён прыходзіў да адной і той жа высновы: спрацавала нейкая схаваная глыбока ўнутры спружына, эмоцыі перасталі падпарадкоўвацца розуму, далёкая нязбытная мара здабыла канкрэтныя абрысы рэальнасці. Прынятая калісьці дзіцячым сэрцам залатая казка пра вольную і сытую дзяржаву ўваскрэсла ў ім патрэбай да дзеяння. І колькі ён не спрабаваў сябе адгаварыць ад гэтага, выходзіла ўсё наадварот: словы і думкі зацягвалі ўсё мацней у беспрасветны вір пагібелі. Ды яму і хацелася загінуць, загінуць за будучыню сваёй краіны, загінуць за сваю мару.

І вось яна, яго пагібель, недарэчная і тоўстая, стаіць каля акна, сапе, соўгаецца па кабінеце і чакае яго адказу. Аднак ён не чакаў такога канца. Вось так будзённа загінуць, нават не зрабіўшы нічога выбітнага і гераічнага...

– Ну што, я бачу, вы ўразіліся? – перапыніў яго роздум бясколерны голас эмгэбэшніка, – падпісвай – і справе канец.

– Таварыш следчы...

– Ужо грамадзянін следчы, у лагеры за такую агаворку будуць выбіваць зубы. Давай падпісвай, сам жа бачыш: мне ўсё вядома. Гадзіну таму на гэтым самым месцы сядзеў ваш верхавод Казлак і ў раскаянні расціраў кулакамі слёзы па твары.

– Грамадзянін следчы, усё мяне неяк агаломшыла. У галаве поўны вэрхал, тут падумаць трэба. Калі падпішу – прызнаю сябе вінаватым, а я ж і на самой справе нічога пра гэта не ведаў. Казлак, ён жа настаўнік, які верхавод?

– Ну добра, кожны сам каваль свайго шчасця! Не хочаш дабром, выб'ем дуб'ём, – націснуў на кнопку ўмантаванага ў стол званка. – У допытную, – няспешна паварочваючыся да акна, кінуў ён салдату.

## 23

Агледзінамі засталіся задаволеныя ўсе. Скарга вёў машыну па пустой начной трасе і радаваўся як дзіця, што ўсё гэта так нечакана і складна атрымалася. У тым, што мама ўслед за бабуляй ухваліць яго выбар, ён, у прынцыпе, не сумняваўся. Але ж ад цёткі Гэлі і пераборлівага дзядзькі падобнай аднадушнасці не чакаў. Усё склалася. Напэўна, гэта і называецца шчасцем, калі твае справы, пачуцці і ўчынкі сугучныя блізкім табе людзям. Стэфка, па-дзіцячы скруціўшыся абаранкам, спала на заднім сядзенні. Ёй то добра, яна ўжо абвыклася, – з трывогай падумалася яму, – а мяне ўсё гэта яшчэ чакае. А калі я не прыглянуся яе радні, ці мая радня яе сваякам прыйдзецца недаспадобы. Бо і з яе ж боку, хутчэй

за ўсё, наравістыя дзядзькі і цёткі маюцца. Не каханне, а кастынг нейкі. Ажаніцца – і праўда: як на вайну ісці, усе жылкі трасуцца, таго і глядзі, на роўным месцы баязліўца ўключыш. Бацькі яе працуюць за мяжой і пакуль ехаць у Гродна не збіраюцца, ну, па такой справе, хутчэй за ўсё, выберуцца. Так што не тлумі галаву, усё будзе добра. Глядзі на дарогу і не празявай паварот на Нясвіж, хоць які там Нясвіж – не хапала ў дзве гадзіны начы ў бабусіным доме пярэпалах зрабіць. Паеду я на хутар да новага сваяка, будзем спадзявацца, не адмовіць у прытулку. Раніцай пазваню Равічу – і ўсё вырашым.

Ранкам замкавы дырэктар патэлефанаваў сам і папрасіў не спяшацца і не мітусіцца, бо ён мусіць быць у міністэрстве ў тэрміновым парадку. Нарада. А пры нарадах заўсёды патрэбна спешка, як пры лоўлі ўсім вядомых насякомых. Вернецца са сталіцы на працоўнае месца толькі пад вечар. І наогул, – развіваў думку вучоны, – кіраўнік, які не ўмее і не хоча працаваць, хавае гэта пад маскай частых і працяглых нарад, ад якіх няма карысці, а толькі скаланаецца паветра. Святы абавязак чыноўніка – заўсёды і ўсюды скаланаць паветра, ператвараючы жывую прастору ў пустэчу. – Прыслухаўшыся да паўсоннага маўчання сябра і, па ўсёй бачнасці, застаўшыся задаволеным сваім маналогам, Равіч паклаў слухаўку.

«Ну, гэта ўжо нейкі вясковы дэспатызм, – ледзь не з болем падумаў Скарга і пашкадаваў аб учорашнім глупстве праігнараваць бабуліну гасціннасць і прыехаць да гэтага ўзурпатара. Такую раніцу! Такія планы пачалі выкрышталізоўвацца ў галаве – і вось на табе!» – начапіўшы на твар усмешку, ён павітаўся.

– Вячак, ты прабач, – бянтэжачыся і пацiскаючы руку, прагудзеў сваяк, – можа, у цябе ёсць нейкія свае планы, але вельмі моцна патрэбна твая дапамога, адзін з хлопцам не здужаю. Дапамажы салому ў павець прыбраць. Гэта ад сілы гадзіны дзве без перакураў, а?

– Можна падумаць, у мяне ёсць выбар? Добраахвотна не пайду – радню падключыце, і ўсё роўна араць прымусіце. Адно толькі суцяшае: ад маёй працы карысці будзе мала, я паняцця не маю, што такое павець і як туды засоўваць салому.

– Гэта мы цябе навучым ураз. Вядома, кожнаму гарадскому з вышэйшай адукацыяй простая работа будзе давацца нашмат цяжэй. Галава надта разумная, яна заўсёды рукам перашкаджацьме. Але ты хлопак шустры, абвыкнешся хутка.

З працай управіліся толькі пад абед. Цяганне цяжкіх цюкоў спрасаванай саломы не толькі не стаміла Скаргу, а, хутчэй, наадварот – узбадзёрыла. Мышцы, што засумавалі па фізічных нагрузках, хутка прынялі рэльефныя формы і прыемна занылі. Здавалася, ён можа без стомы шпурляць гэтыя рудыя, важкія цюкі, абы ніколі не згасалі захопленыя вочы каханай дзяўчыны, якая на пару з Палінай віламі піхала салому ў дапатопны механічны прэс, што грукатаў рухавіком і смярдзеў саляркай.

Пасля абеду, калі ўся жывая істота, разамлеўшы ад багатай ежы і паўдзённай спёкі, няўхільна імкнулася ў ціхі прахалодны куток, каб там абрынуцца на жаданае ложа і растварыцца ў душным марыве, насланым паўдзённым нячысцікам, а можа, і анёлам Божым, параеўшым амброзіі. Але, на жаль, сон не заладзіўся.

Вячаслаў толькі і паспеў узяць Стэфанію за руку, як усюдыісны швагер папераджальна выставіў наперад руку.

– А цяпер вам ад мяне сюрпрыз! Не бойся, ужо намыліўся зашыцца ў спальніцу ды пускаць сонныя бурбалкі? Не, тое нікуды не варта! Пайшлі са мной.

За брамай хутара стаяла самая сапраўдная брычка, запрэжаная прыгожым танканогім конікам. Кіраваў ім сухенькі мужчына, старамодна і ахайна апрануты, у шырокім фетравым капелюшы, з-пад якога да плячэй звісалі расчасаныя сівыя валасы, твар з арліным носам дапаўнялі сівыя доўгія вусы. Не хапала толькі цёмнага банта і пенснэ на тонкім ланцужку...

– Вось, знаёмцеся, наш мясцовы краязнаўца, загадчык школьнага музея і завуч гэтай жа школы Браніслаў Іванавіч Бардзілоўскі, – прадставіў старамоднага фурмана Казімір. – Між іншым, – з непадробным гонарам у голасе дадаў ён, – доктар гістарычных навук, прафесар, вучыўся Сарбоне, выкладаў у Берліне і Маскве, а потым кінуў усё і вярнуўся дадому. Купіў тут недалёка хутар, кветкі разводзіць. Я з цяжкасцю ўгаварыў Браніслава Іванавіча паказаць вам нашыя краявіды і расказаць, што тут і дзе. Пару разоў спрабаваў і сам экскурсаводзіць, але ў мяне неяк усё не атрымліваецца, відаць, язык не тымі ніткамі прышыты. Вы пакуль пакатайцеся, а я пайду са сваімі дажну лета.

– Што ты дажнеш? – перапытаў яго Скарга, дапамагаючы Стэфы забрацца ў рыпучы і хісткі старадаўні экіпаж на рысорах.

– Гэта ў нас так даўней казалі: «Бабы лета дажалі», – замест Казіміра адказаў іх экскурсавод, – гэта значыць: зжалі апошні сноп і ўвесь хлеб звезлі з поля. Сноп гэты лічыўся ў нашых продкаў святым і актыўна ўдзельнічаў у народнай магіі, яму адводзілася ганаровае месца ў чырвоным куце, і яго бераглі да новай пасяўной. Пасеялі хлеб – лета нарадзілі, зжалі хлеб – з ім і лета дажалі. Дык вось, – кранаючыся, шматзначна пачаў Браніслаў Іванавіч, – месцы нашыя былінныя і вельмі старажытныя. Тут кожны пагорак, кожнае азярцо, кожны куток захоўваюць свае таямніцы, у кожнага свае легенды і паданні. Яшчэ гадоў пяцьдзясят таму ўсё навокал выглядала па-іншаму. Хутароў было больш, пералескаў і балацявінак... Але, на жаль...

– Ды пра трагедыю з сялібамі і старымі дрэвамі ўздоўж дарог нам Казімір Казіміравіч распавядаў, – перапыніў настаўніка Скарга, – прабачце, гавораць, тут дзесьці недалёка знаходзіцца Філарэтаў камень?

– Мы да яго абавязкова пад'едзем. Правільна ён называецца «Камень філарэтаў». Вы толькі, маладыя людзі, будзьце цярплівымі. Дык вось, усё гэта і ёсць летапісная Літва, – ён дэманстратыўна абвёў вакол сябе рукамі, – менавіта адсюль пайшла і назва, і мова, і чыноўнікі, і ратнікі вялікага княства. Але я вам раскажу пра іншую гісторыю гэтай зямлі, раскажу пра людзей, якія жылі ў гэтых месцах у васямнаццатым і дзевятнаццатым стагоддзях... <...>

– Браніслаў Іванавіч, мяне вельмі цікавяць не так сівыя стагоддзі нашай зямлі, – здалёк пачаў Скарга, – колькі падзеі апошняй вайны і, галоўнае, праўда пра іх. Бо ў гэтых месцах з фашыстамі, пазней і з Саветамі ваявалі байцы Арміі Краёвай?

– Ваявалі, многія з іх яшчэ і сёння, глыбокімі старымі і бабулямі, адседзеўшы ў сталінскіх лагерах, дажываюць свае дні па вакольных вёсках. Многія даследчыкі сыходзяцца ў меркаванні, што да трыццаці адсоткаў партызан АК былі этнічнымі беларусамі. Навакольныя землі ўваходзілі ў Наваградскую акругу, у канцы вайны ёй камандаваў падпалкоўнік Адам

Шыдлоўскі, скінуты ў 1944 на парашуце. Мясцовым атрадам камандаваў паручнік Антоній Буржынскі, але пасля вайны вывеў рэшткі свайго атрада ў Польшчу, а адтуль далей на Захад...

– Прабачце, як, як яго звалі? – схамянуўся Вячаслаў.

– Антоній...

– Не, якая ў гэтага паручніка была мянушка?

– Псеўданім ці падпольнае імя, па-польску падземнае, у пана Антонія было «Вільк», «Воўк» па-нашаму. Мянушкі, малады чалавек, бываюць толькі ў жывёл і зэкаў.

– Скарга, а ў цябе добрая памяць, – паўшэптам здзівілася Стэфанія, – відаць, менавіта гэтаму камандзіру і пісалі свае данясенні ўсе тыя «Светлячкі» і «Вароны».

– Ціха ты! – цыкнуў на яе хлопец, – прабачце за бестактоўнасць, вядома ж, пазыўныя ды імёны прыкрыцця, – сказаў ён. – А вы, выпадкова, не ведаеце, ці застаўся хто жывым з атрада пана Буржынскага ў нашых краях? Тэма ёсць адна цікавая, хацелася б пагаварыць.

– Так, наўскідку, і не памятаю, – прыкідваючы нешта ў галаве, адказаў прафесар, – трэба падумаць, можа, дома зазірнуць у свае запісы. А што за тэма, калі не сакрэт?

– Ды які там сакрэт... Тут, пад Нясвіжам, знаёмыя хлопцы на акаўскія паперы натыкнуліся ў адным склепе. Цікава было б пагаварыць з відавочцам, хто каму і пра што пісаў. А там жа суцэльныя псеўданімы, умоўныя абазначэнні, словам, сам чорт нагу зломіць.

– Так, цікава. Давайце дамовімся: я са свайго боку перагледжу свае кандуіты ў пошуках сведак, а вы, калі будзе не ў ляноту, захопіце ў наступны раз тыя дакументы на хутар. Пад'еду, разам паспрабуем разабрацца. – Браніслаў Іванавіч нечакана цяжка ўздыхнуў, памаўчаў і дадаў: – Сёння, на жаль, самая складаная і запушчаная тэма, што ў нас, што за мяжой, – гэта тэма вайны. Увесь свет, хоць і без асаблівай ахвоты, але ўжо рассакрэціў большасць сваіх ваенных архіваў, а мы ўслед за Расіяй усё на месцы топчамся. Дрэнна гэта. Час сыходзіць, старыя, якія бачылі ўсе гэтыя страхі, паміраюць. Праўда знікае, а галоўнае – пройдзе яшчэ гадоў сорак, і праўда гэтая нікому, акрамя навукоўцаў-дзівакоў накшталт мяне, не будзе патрэбна. Праўда аб простых, непрыкметных людзях вайны. Будуць пісаць пра крывавых маршалаў, геніяльных правадыраў і дыктатараў, пра палітыкаў і аферыстаў, якія нажылі мільярды на смерці і слёзах немаўлятаў, але нікому не прыйдзе ў галаву напісаць аб простым чалавеку, які трапіў у пекла вайны. Як ён бачыў гэтую вайну, за што ваяваў і чаму гатовы быў ісці на смерць, на подзвіг, а часам і на ганьбу? Такая праўда патрэбна сёння, пакуль яшчэ жывыя блізкія, сыны, унукі і праўнукі тых салдат і не салдат. Пакуль новая, яшчэ больш страшная вайна не засланіла ад нас тыя цяжкія і складаныя гады.

– Божа, што вы такое, Браніслаў Іванавіч, кажаце! – пляснула рукамі дзяўчына, – якая вайна? Свет ніколі на новую бойню не пойдзе. Нам вунь з Вячаславам дзяцей раджаць і гадаваць трэба!

– Усё, усё! Здаюся! Прабачце маё глупства! Правільна, паненка, трэба думаць пра жыццё, дыхаць жыццём і як мага радзей зваць у свой дом вайну і бяду. Прабачце старому дурню!

– У Сарбоне на дурняў не вучаць, – вырашыў палагодзіць абстаноўку Скарга, тузануўшы непрыкметна Стэфанію за рукаў, – я цалкам з вамі згодны і абяцаю ў бліжэйшы час што-небудзь з гэтага архіва да вас прывезці.

– Вось за гэта дзякуй. А Сарбона – гэтая старая гісторыя, ды і там таксама, як і ў іншых падобных установах, розныя людзі вучацца, нямала там і дурняў.

Колы ў металічных абручах загрукаталі па асфальце. Праехаўшы чарговую вёсачку, ля апошняй хаты яны павярнулі налева і па касагорыне падняліся да лесу.

– Вунь, бачыце, там, здалёк справа, бачная алея старых італьянскіх таполяў, яны амаль усе ўжо выгаралі ад маланак. Гэта дарога ў Тугановічы, маёнтак Верашчакаў, дзе жыла ў юнацтве Марыля са сваёй маці і братам Міхаілам, да іх з Вільні і прывёз Тамаш Зан пагасціць свайго сябра, яшчэ мала каму вядомага паэта Адама Міцкевіча. Прывёз да пакутлівай і вечнай любові. Васямнаццацігадовая дзяўчына ўжо была засватаная за суседа графа Пудкамера, чыёй жонкай пасля і стала. Па легендзе, у Марылі і Адама нарадзілася дачка Эльвіра, якую было прынята лічыць пляменніцай Зана, выхоўвалася ў сям'і Верашчакаў. Дзяўчынка, праўда, памерла яшчэ дзіцем. Вось такая невясёлая гісторыя.

Ад некалі шматлюднага і патрыярхальнага маёнтка засталіся толькі выгарэлыя дрэвы ды рэдкія камяні з разбітых падмуркаў. Асноўнай славутасцю парэшткаў парка была група старых дубоў, якія фактычна растуць з аднаго кораня. Можа, яны адны і памятаюць усю праўду аб тым рамантычным каханні?

Тугановічы, з новымі страхотнымі пабудовамі кароўніка ды скрыўленай вадакачкай, зніклі за імі. Вазок услед за лясной дарогай нырнуў у густую зеляніну яра. Конь ступаў уважліва, насцярожана раздзімаючы ноздры і гучна фыркаючы.

– Напэўна, нейкі звер прабег нядаўна, а можа, дзе побач і залёг, – не паварочваючыся, растлумачыў вучоны. – Ну-у, родны, ужо амаль даехалі, – і ён прыспешыў ляйчынай марудлівага каня.

## 24

Алена доўга сустракалася з Ягорам употай не толькі ад бацькоў, але і ад сяброваk, ды і сустрэчы гэтыя былі нячастымі. Хлопец, які скраў яе сэрца, кідаў усё і ледзь не сярод ночы ад'язджаў у камандзіроўкі. Але тыдзень за тыднем, месяц за месяцам непрыкметна ператварыліся ў год, а потым і яшчэ ў адзін. Тайнае жыццё яе сям'і паціху сышло на нішто. Патрэба ў кур'ерскіх паездках адпала, дадому да іх перасталі заяўляцца начамі незнаёмыя людзі, бацька ўсе свае сілы аддаваў працы, яна яму падабалася і давала канкрэтныя бачныя вынікі. Рэспубліка выбіралася з руін, асабліва гэта было заўважна ў сталіцы.

Алена, як тысячы пераросткаў, адкінутых вайной на чатыры гады назад, вучылася ва ўніверсітэце на беларускай філалогіі. Вучоба яе захапіла цалкам, дзяўчына з галавой акунулася ў народны фальклор, з задавальненнем ездзіла ў этнаграфічныя экспедыцыі, з любоўю займалася старадаўнімі песнямі і рэканструкцыяй нацыянальных святочных строяў.

З гэтага мірнага дня, напоўненага шумам універсітэцкіх аўдыторый, жарам юнацкіх спрэчак, а галоўнае – марамі аб будучым мірным і спакойным жыцці, з гэтага сённяшняга дня ўжо зусім па-іншаму бачылася недалёкае мінулае. Былыя героі і паплечнікі ўсё часцей ператвараліся ў плоскія шэрыя цені з размытымі плямамі твараў. Дзяўчыне часам здава-

лася: вось каб сустрэлася яна з кімсьці з былых лесавікоў або падпольшчыкаў – ці пазнаюць яны адзін аднаго? А калі даведаюцца, якой будзе іх рэакцыя на сустрэчу?

Здаралася, калі яна спяшалася куды-небудзь, Алене пачынала здавацца, што хтосьці ўважліва глядзіць ёй у спіну, і тады яна асцярожна, як яе калісьці вучылі ветлівыя нямецкія настаўнікі, запавольвала крок, прыпынялася ля вітрыны крамы або пыталася ў каго-небудзь пра час, пры гэтым асцярожна паварочвалася і правярала, ці няма за ёй «хваста». Нікога. Толькі спяшаюцца па сваіх справах незнаёмыя ёй людзі. Сэрца трапятала птушкай, якая трапіла ў сіло, галава гула ад сотняў розных, як правіла, узаемавыключальных думак. Аднойчы яна не вытрымала сваіх страхаў і напрасілася на шпацыр з бацькам. Турмы, пабоі, канцлагеры падкасілі яго здароўе. З-за маларухомага ладу працы лекары настойліва рэкамендавалі яму абавязковыя штодзённыя прагулкі пешшу, хоць і хадзіць яму ўжо было нялёгка. Шпацыравалі яны на пару з маці, і Антаніна Віктараўна ставілася да гэтага праменаду як да штодзённай дадзенасці, падобна як і да абавязковага гатавання ежы, уборкі і штодзённай змены насоўкі ў бакавой кішэні мужавага пінжака. Вельмі рэдка яна прасіла Алену падмяніць яе на гэтым важным участку іх сямейнага жыцця.

– Мам, а давай я сёння з татам пагуляю, – вярнуўшыся з заняткаў і здымаючы чаравікі, спыталася Алена, – а ты адпачні, можа, што пачытаеш, я вунь учора дзве вязанкі кніг прынесла, яшчэ толкам і разабраць не паспела. Старыя кніжкі, між іншым, яшчэ дарэвалюцыйныя...

– Ох і лісяня ты, маё лісяня, – прыціскаючы яе да грудзей, сказала Антаніна Віктараўна. – Добра, пачытаю, а кніжкі я ўжо разабрала, між іншым. Добрыя кнігі, дзе ты іх умудрылася здабыць?

– Дык нас жа ўсё яшчэ адпраўляюць на разборку руін, а там, ведаеш: цэлыя цагліны ў адзін бок, смецце ў іншы, драўніну і мэблю ў трэці, паперы і кнігі ў вогнішча. У нас кнігі ў вогнішча кідаць не атрымліваецца, вось мы і цягаем па хатах. Брыгадзіры спачатку лаяліся, маўляў, яшчэ невядома, што там у гэтых кнігах напісана, але мы іх хутка супакоілі, паказаўшы працы заснавальнікаў марксізму-ленінізму. Мы і ва ўніверсітэцкую бібліятэку шмат чаго панасілі. А якія табе кніжкі спадабаліся?

– Вось вернецеся з прагулкі, разам і разбярэмся, ды і бацьку будзе цікава, я думаю. Ты ідзі, перакусі і спускайся да пад'езда. Ён тэлефанаваў і папярэдзіў, што падымацца не будзе, а адразу пойдзе «на сцежку здароўя». Ён будзе рады, што ты з ім пагуляеш, а то мы неяк у апошні час усё больш па сваіх каморках як суслікі сядзім. Добра хоць яшчэ разам снедаем. А ўжо калі разам вячэралі – я і не памятаю.

Апошнюю фразу Алена ўспрыняла як папрок. Сапраўды, калі ў яе жыцці з'явіўся Ягор, яна вечарамі амаль перастала бываць дома, а часам і не начавала. Спачатку прыдумвала нейкія адгаворкі, сяброўак, познія вячоркі, а пасля адной размовы з маці, калі амаль усё ёй распавяла, патрэба ў хлусні адпала, але і прывесці свайго кавалера дадому яна ўсё ніяк не вырашалася.

Бацька шчыра ўзрадаваўся. Бачачы гэта, яна вырашыла не псаваць яму настрой сваімі дурнымі страхамі ды і наогул спалохалася, як бы той у яе жаданні пагуляць з ім не западозрыў дробную карыслівасць і эгаізм.

– Вось і добра, што ты вырашыла пахадзіць гадзінку са старым, даўнютка мы з табой ужо вось так спакойна, не спяшаючыся, не хадзілі, а

галоўнае, не размаўлялі. Я са сваёй працай усё закінуў, ды і ты, недзе ўвесь час прападаеш. Маці, напэўна, ведае ці здагадваецца, але мяне ў вашы сакрэты не пасвячае. Ну і як там беларуская моладзь ацэньвае свае будучыя перспектывы?

– Ты ж у мяне самы разумны і мудры, ты сам усё разумееш і ведаеш лепш за мяне. Ну праўда, так ужо атрымалася: і заняткі, і праца, і нагрузкі...

– І каханне, – скарыстаўшыся невялікай паўзай, мякка дадаў Яўген Леанідавіч.

– А ты кажаш, мама «не пасвячае»... Не ведаю, тат, каханне гэта ці яшчэ што, але не бачыцца з ім вельмі цяжка. Вось як-небудзь рашуся і прывяду знаёміцца, толькі ён зусім не наш, горш за тое... – дзяўчына набрала поўныя лёгкія паветра і выдыхнула, як ёй здавалася, самае цяжкае прызнанне: – Ён, ён чэкіст...

Слёзы самі па сабе хлынулі з вачэй, з грудзей вырваўся ледзь чутны стогн стомленай адчаем душы. Яна ўткнулася ў бацькавыя грудзі, і яго вялікія моцныя рукі пяшчотна гладзілі яе галаву.

– Ну вось, – працягваючы ўсхліпваць, выціраючы слёзы, вымавіла дзяўчына. І столькі ў гэтых кароткіх словах было горычы, сораму, раскаяння і пяшчоты, што не толькі бацькоўскі слых, але і Усёвідушчае Вока нябеснае не магло застацца абыякавым да таго, хто іх выпакутаваў, вынасіў у сабе і вымавіў як споведзь, як апраўданне нечаму вышэйшаму, непадуладнаму чалавечай існасці.

– Ведаеш, да мяне сёння прыйшоў даўні прыяцель, – павольна крануўшыся па алеі старога, цудам не зрэзанага парку здалёк пачаў бацька. – Мы з ім у розныя часы, у розных месцах рабілі адну і тую ж справу. І перасякаліся рэдка, але адзін аднаго заўсёды падтрымлівалі, нават часам не ведаючы, хто кім у той час быў. І падтрымка гэтая, ты ведаеш, не раз нас выручала. Дык вось, ён знайшоў нагоду і прыехаў у Мінск з Масквы толькі з адной мэтай: каб за агульным абедзенным сталом перакінуцца са мной дзясяткам нічога не вартых фраз ды ў калідоры хвілін пяць пашаптацца. Сёння ўжо ні ў Саўміне, ні ў самім ЦК ніхто яго не ведае і не памятае, ды ён і прозвішча жонкі ўзяў у свой час. Дык вось, таварыш «Яцэк», так яго звалі ў заходне-беларускім падполлі, папярэдзіў аб тым, што Панамарэнка з Цанавам рыхтуюць чарговы пагром беларускай кіраўнічай і культурніцкай інтэлігенцыі, нібыта пакінутай у рэспубліцы немцамі для антысавецкай дзейнасці. Узмоцнена шукаюць кандыдатуры на кіруючыя пасады галоўных антысаветчыкаў. Дык вось, адным з такіх кандыдатаў буду я. Ніякіх негатыўных дадзеных пра мяне ў іх няма, але некалькі чалавек пішуць мне новую біяграфію.

– Тата, ты лічыш, што Ягор адзін з іх? – спыніўшыся і баючыся ўзняць вочы, спытала дзяўчына.

– Ды пры чым тут твой залётнік? «Яцэк» наш, ён якраз таксама чэкіст, генерал-лейтэнант цэлы. Так што чэкіст чэкісту – вялікая розніца. І я, і ён, і яшчэ многія, многія як стаялі, так і стаім за камунізм. Мы былі і памром камуністамі, толькі заходне-беларускімі камуністамі, і партыя наша называлася «Камуністычная партыя бальшавікоў Заходняй Беларусі», і Статут, і Праграма ў нас свае былі, і будучыню сваёй Беларусі мы зусім па-іншаму бачылі, у адрозненне ад рэнегатаў з Крамлёўскага гета. Вось такія, дачушка, Сінедрыёны. Яны вырашылі!.. – і бацька камусьці нябачна і злосна пагразіў кулаком у цемру. – Гэта мы яшчэ паглядзім, хто што вырашыў і хто каго!

– Як жа я цябе даўно такім баявым не бачыла, татачка! – дачка зусім па-дзіцячы цмокнула яго ў шчаку, ужо калючую ад дзённага шчаціння. –Толькі гэтым разам я не хачу служыць паштовым голубам, а таксама буду салдатам, як ты і твае сябры. Мне, праўда, цяжка разабрацца ва ўсіх гэтых палітычных хітрасцях: дзе камуністы добрыя, а дзе дрэнныя і чым маскоўскія адрозніваюцца ад заходніх. Нам пра гэта ніхто не распавядае, так, мімаходзь на адной лекцыі згадалі, што была такая КПЗБ, але з-за апартунізму кіраўніцтва было распушчана і члены яе ўліліся ў шчыльныя шэрагі кампартыі Беларусі.

– Дык вось, дзіця, гэта доўгая гісторыя здрады ідэалам працоўнага чалавека вярхушкай крамлёўскіх кіраўнікоў, як паказала гісторыя – ва ўгоду вузканацыянальным інтарэсам пэўнай групы. Доўгая гісторыя, і расказваць яе трэба доўга. Вось народзіш нам з маці ўнука, я і займуся яго палітасветай, заадно і ты паслухаеш. А пакуль паспрабую растлумачыць табе адрозненне адных камуністаў ад іншых. Абодва рухі можна груба параўнаць з адрозненнямі паміж праваслаўнымі і каталікамі. Назва адна – хрысціяне, Бог адзін – Хрыстос, канчатковая мэта адна – выратаванне чалавека, а ідэалогія, метады і светапогляд карэнным чынам адрозніваюцца, і гэтаму адрозненню амаль тысячагоддзе! І няма нічога больш страшнага ў гісторыі чалавецтва, чым ідэалагічнае або рэлігійнае супрацьстаянне, у канчатковым выніку менавіта гэтыя непрымірымасці ляжаць у аснове апраўдання ўсіх войнаў і канфліктаў. Словам, мы хацелі камунізму для свайго народа, для беларусаў. Бальшавікі хацелі праз камуністычны інтэрнацыяналізм шчасця і дастатку купцы абраных і сваіх – за кошт гора і галечы пераважнай большасці.

Вось так. Ты галоўку сваю не забівай гэтым хламам... А вайны, пра якую ты тут раскудахталася, не будзе. Да сакавіка многае зменіцца ва ўсёй велізарнай краіне. Табе скажу, ты і так больш майго ведаеш: да вясны, – бацька нешта прыкінуў у думках, – «вусатага» не стане. Нашы людзі ўжо побач з ім... А цяпер давай распавядай пра сваё. Дык, кажаш, абранніка Ягорам завуць? Хоць беларус?

– Пра абранніка потым, тата. А як жа з чысткай?

– Дык яе плануюць на пачатак лета наступнага, пяцьдзясят трэцяга года, а па нашых падліках да таго часу ім не да чыстак і не да Беларусі будзе. Давай, ціхоня, усё распавядай пра будучага сваяка.

– Хлопец як хлопец, беларус з Віцебшчыны, там нарадзіўся, але вырас у Маскве, бацька інжынер-гідрабудаўнік. У сорак чацвёртым, не давучыўшыся, Ягор добраахвотнікам пайшоў на фронт, паваяваў чатыры месяцы, пасля ранення накіравалі служыць у органы, капітан. Служыць ва ўпраўленні па барацьбе з нацыяналістычным падполлем і бандытызмам. Нашых ловіць, – здавалася, дзяўчына зноў гатовая заплакаць.

– Ну-ну, каб я гэтага больш не бачыў, панадзілася макрату разводзіць, – дастаючы на ўсялякі выпадак насоўку, строга вымавіў бацька, – і потым – не ўсякі лесавік нам «наш». Тут той жа прынцып: лесавік лесавіку розніца, па многіх з іх даўно пятля плача. Вунь шмат хто ўжо амерыканцам служаць, шлюць сюды сваіх сувязных, людзей тузаюць, заданні раздаюць, а хто адмаўляецца – таму нож у бок ці данос у МГБ. І хто тут наш? Нядаўна маладую жанчыну органам здалі, а ў яе ўжо двое малых дзетак, бацька інвалідам з Сібіры вярнуўся, муж настаўнік у школе. Людзі распавядалі, у нагах валялася, прасіла адпусціць, жыцця прасіла. Паабя-

цалі не чапаць, сышлі, а праз дзень яе агентурную справу як памагатую Абвера падкінулі на ганак райсавета. Прыехалі і ўсіх забралі, і інваліда-бацьку, і малых дзяцей. Так што забудзь гэтых «нашых» і, калі сустрэнеш, не ўздумай руку падаць. А хто цябе ўбачыць і не «пазнае», адвернецца, то ён лепшы за тых, хто з абдымкамі насустрач кінецца. Такіх цяпер па цягніках, аўтобусах і трамваях шмат катаецца, гэта іх праца ці, як яны самі горда кажуць, – служба. Усё, што было, бадыллём парасло. У вайну і пасля яе была адна сітуацыя, цяпер яна памянялася. Губіць рэшткі нацыі няма чаго. Кожнае з'яўленне падпольных груп і суполак – чыстай вады правакацыі МГБ для апраўдання сваёй дзейнасці і вылоўлівання самых заўзятых і незадаволеных, асабліва сярод моладзі. Сёння ні табе, ні мне нельга паддавацца ўнутраным эмоцыям і крыўдам, нічога добрага гэта не дасць, але і заставацца збоку мы таксама не можам, гэтым настроям трэба супрацьстаяць усімі спосабамі. Вось дзе твой фронт і тваё месца, месца байца за будучыню незалежнай Беларусі.

– Але ніякай незалежнасці пры бальшавіках не будзе, ты ж сам гэта ведаеш? – настырна, з металічнымі ноткамі ў голасе запярэчыла яму дачка.

– Ты глядзі на яе, а чый гэта метал у голасе? – ці з асуджэннем, ці з захапленнем вымавіў Яўген Леанідавіч.

– Бацькоўскі, – смела парыравала Алена, – дык ты што прапануеш – наогул нічога не рабіць? Стаіцца і чакаць?

– Так, па-першае: незалежнасці ў нас не было ні пры паляках, ні пры царах, ні пры бальшавіках, ні пры фашыстах, няма яе фактычна і сёння. Існавала ды існуе толькі барацьба за гэтую жаданую незалежнасць, і яна будзе існаваць нават пасля таго, як гэтая незалежнасць будзе намі здабытая. Шмат каму свабода здасца недастатковай, няпоўнай, і тады абавязкова знойдуцца людзі, якія кінуцца заклікаць іншых да сапраўднай незалежнасці, фактычна – да незалежнасці ад саміх сябе. Усё можа быць. І яшчэ запомні, дачка: большасці людзей ніякая незалежнасць не патрэбна, яны яе лічаць падманам, прыдуманым габрэямі, каб дурыць людзям галовы і рабіць свой гешэфт; магчыма, яны і маюць рацыю. Па-другое, незалежным можа быць толькі чалавек, але калі незалежныя людзі збіраюцца ў нейкае таварыства і ў ім застаюцца, яны добраахвотна губляюць частку сваёй незалежнасці, і гэта свядомы выбар. Дык вось, галоўная задача і твая, і мая, і ўсіх нашых аднадумцаў – выхоўваць, гадаваць духоўна незалежнага чалавека, а для гэтага патрэбен мір і толькі мір, патрэбна вера ў будучыню, барацьба за захаванне мовы, побыту, культуры, і яшчэ трэба тое, што яшчэ старажытныя называлі гуманізмам. Не трэба ні партый, ні падполля, ні баявых лозунгаў, бо вайна зноў прывядзе з сабой шаленцаў, гатовых сцерці паўсвету дзеля ажыццяўлення свайго вар'яцтва.

Прайшлі трохі моўчкі. Кожны маўчаў пра сваё, і, хутчэй за ўсё, гэтым маўчаннем не наканавана было скрыжавацца. Як не наканавана было кожнаму з іх ведаць сваю будучыню... Яўген Леанідавіч раптам сканае ад шырокага інфаркту за сваім рабочым сталом, не дажыўшы трох дзён да ганебнай смерці самага страшнага цемрашала стагоддзя – Іосіфа Сталіна... Алена восенню пяцьдзясят шостага, ужо цяжарная, вяртаючыся з этнаграфічнай экспедыцыі, неспадзявана зваліцца з высокага і самага доўгага ў рэспубліцы пешаходнага маста на станцыі Орша, пад якім па рэйках будзе праходзіць таварняк. Сведкаў гэтага няшчаснага выпадку не знойдуць. З Ягорам яны так і не паспеюць распісацца, хоць заяву ў ЗАГС пададуць...

## 25

Моладзь з нечаканай экскурсіі вярнулася прыціхлай і агаломшанай, нібы не рыпучая, дапатопная калымага вазіла іх, а нейкая нябачная машына перамясціла збянтэжаныя душы амаль на два стагоддзі назад – у закінуты свет іх любімай радзімы. Радзімы, якой тады яшчэ не было ні на картах, ні нават у галовах жыхароў, але якая, нібы вясновая рака, налівалася нябачнай сілай, спела і гатовая была ўзламаць тоўсты лёд забыцця, узламаць і вынесці здзіўленаму свету веліч свайго мінулага, накіраванага ў будучыню.

Стоячы там, каля Каменя філатэраў, і Вячаслаў, і Стэфанія думалі пра сваё, кожны сам-насам спрабаваў пераадолець супраціў тугой заслоны часу, прарвацца ў той далёкі свет, спасцігнуць намеры і памкненні такіх жа маладых, як і яны самі, людзей, якія стаялі даўным-даўно ля гэтага каменя і якія прымалі рашэнні, што змянілі сёння іх жыццё.

Адкуль ён узяўся тут, гэты камень, дакладней, адна палова вялізнага валуна – скалы, як ён тут апынуўся і колькі доўгіх тысячагоддзяў праляжаў? Якія таямнічыя знакі ажываюць на яго амаль ідэальна-роўнай паверхні, павернутай убок рова?

Падзякаваўшы ветліваму і вельмі незвычайнаму для вясковай школы завучу, Вячаслаў і Стэфанія, узяўшыся за рукі, павольна пакрочылі да хутара. Маўчанне іх аб’ядноўвала, радніла і не хацела вяртаць у свет рэальнасці, звычайных умоўнасцяў і патрэбаў. Першымі іх пачулі сабакі і паднялі вясёлы брэх, паведамляючы хутаранцам аб прыбыцці сваіх. Вароты адчыніў сын Казіміра Казімір і, цыкнуўшы на сабак, па-змоўніцку прыціснуўшы ўказальны палец да вуснаў, жэстамі запрасіў ісці за сабой да верхняга дома.

У двары стаяла незнаёмая машына з расійскімі нумарамі.

– Казя, што – у вас госці? – шэптам спытала Стэфанія.

– Ну, маміна сястра з яе мужам прыехалі аж з Масквы. Вы толькі ціха ідзіце, я вас з другога боку правяду, паслухаеце, пасмеяцеся, як бацька з масквічом праўду шукаюць, і кожны сваю.

Вячаслаў неўразумела зірнуў на Стэфу, тая ў адказ няпэўна пахітала галавой, і яны пакорліва падаліся за Казімірам-малодшым.

– Ды кінь ты фанабэрыцца немаведама чаго. Вы вунь прыехалі, хвасты тут у нас параспускалі, у казіно аблягчыліся, дурніц нашых палавілі – і назад у матухну-Расію, – грымеў на тэрасе голас Казіміра-старэйшага. – Толькі ў чым яно, тваё фанабэрства? Гляджу, ты ўжо і дзяржаўнікам становішся, ці даўно ў цябе такія думкі завяліся? Ты ж, як пагоны зняў – у дэмакраты падаўся, наколькі мне помніцца. Толькі ведаеш, нам тут не залівай, што яно ў вас лепш, чым у нас! А чым лепш? Можа, народ багацей жыве, можа, парадку больш? Можа, голас чыноўніка гучыць гучней і ў ім сілы і праўды больш? Ну хоць забі ты мяне, не разумею я, Мікалай, тваёй бравады! Вось слухаў я цябе, слухаў – і ні храна ў толк не вазьму: што, гэты газ, нафта гэтая, вугаль і руда, яны што – у вас народнымі ўжо сталі і вы імі на карысць свайго народанасельніцтва валодаеце?

– Стой, Казімір, стой! Дзе тая нафта, і дзе я! Ды і па казіно я, як ты кажаш, не соўгаюся, здаліся яны мне. А лайна вы яшчэ з тых казіно, асабліва з гульнявых аўтаматаў, адграбяце! Папомніш мае словы. Ты ведаеш, я даўно заўважыў тут у вас, у беларусаў, адну дзіўную рысу: ледзь што

супраць поўсці, адразу спускаць на суразмоўцу ўсіх сабак. Супакойся, сённяшнія справы ў Расіі мне гонару вялікароса не дадаюць. Аднак у апошні час справы пайшлі да лепшага. Правадыр наш мужнее. Аўтарытэт у яго зашкальвае, ужо і на вашынгтонскі абкам азірацца перастаў, можа, аднак, для выгляду, але ўсё ж. Сяброўства з вамі канкрэтнымі справамі ўмацоўвае, і я вось прыехаў з дабраслаўлення свайго алігархічнага начальства: носам павадзіць, прыкінуць, што і дзе ў вас можна прыдбаць для сумеснай, так бы мовіць, карысці. Можа, ты, гэта, па-сваяцку дапаможаш у гэтай справе?

– Добра, – ужо міралюбна адказаў Казімір, – ты не крыўдуй, можа, і я перагнуў палку. А падмагчы – гэта мы можам, бульбу вунь маю па сходнай цане прыстроіць па восені трэба, га? Толькі і ты, аднак, таксама добры! – прадоўжыў Казімір, – адразу пасля першай чаркі быка за рогі – і давай тут старэйшага брата з сябе надзімаць. Тут яшчэ трэба разабрацца, хто старэйшы, а хто малодшы...

– Ды з табой хоць не пі! Хто багацейшы, той і старэйшы, няўжо не зразумела?

– Не, Коля, старэйшы той, хто першым нарадзіўся!

– Уеў, давай налівай, а то сястрыцы прыйдуць і хуценька наш нацыянальны запал паменшаць. Спадобіў жа Гасподзь такога дзевера займець...

– Сваяка.

– Сваяка, сваяка! За сваяка і тост!

– Ну, тады і за дзевера! – устаючы, пагадзіўся Казімір з рускай назвай. Чокнуліся. Выпілі.

– Паслухай, Коля, усё ж такі па-сваяцку скажы: няўжо мы так убога выглядаем збоку. Крыўдна ж, мы ўкалваем, не ў параўнанне з вашымі. Вунь – са світання і як давядзецца... Ты давай на дранікі налягай, дзеўкі цяпер гарачанькага прынясуць. Павінны яшчэ родзічы падысці, я іх тут на экскурсію адправіў. Маладыя, толькі мілавацца пачалі, яшчэ і шлюб не бралі. Добрыя такія, сам убачыш.

– Дранікі ў вас класныя. Вунь мая згатуе, і ўсё роўна не такія смачныя, а галоўнае – не хрумсткія...

– Дык абмаскалілася за столькі гадкоў, нябось, не ўсё сама робіць, нешта прыслузе даручае.

– Трымай кішэню шырэй: яна ж толькі кіруе, а ўсё хатняя прыслужніца выконвае.

– Эх, Коля, Коля, такую дзеўку сапсаваў...

– Ды перастань – добрая баба, і з рукамі, і з галавой. А дранікі ў тваёй заўсёды лепш атрымліваліся, гэта і сама Тамарка кажа... На пытанне ж тваё аб убогасці адназначна і не адкажаш. Якраз збоку вы глядзіцеся вельмі прывабна, цалкам па-еўрапейску. Усё вунь дагледжана, усе працуюць, і работы ўсім хапае, і ўзбекаў завозіць не трэба. Не ва ўсёй Еўропе такі парадак і культура. Я вунь нядаўна на машыне праехаў амаль увесь былы сацлагер. Многія краіны і блізка не стаялі. Ды і ў Расіі не ўсе ў смятане купаюцца. Праўда, у нас губерня ад губерні часам моцна адрозніваюцца. У нас, фактычна, хутчэй губернскае, а не прэзідэнцкае кіраванне.

– Цудныя дзеі твае, Госпадзе! У вас жа прэзідэнт таксама губернатараў прызначае. У нас, дарэчы, працэдуру запазычыў, і не толькі гэтую. Правільна зрабіў. І вось ты мне заяўляеш: у Расіі губернская ўлада? Так і краіну разарваць можна, – і ён замоўк.

Стэфанія асцярожна кранула Вячаслава за плячо.

– Я, мабыць, пайду да жанчын, мне гэта не цікава, а ты, калі хочаш, заставайся ў засадзе.

– Не, і я таксама пайду да стала, а то яшчэ Казік заўважыць, пакрыўдзіцца.

Маладыя людзі вынырнулі з вечаровага прыцемку на тэрасу.

– О, вось і нашы экскурсанты! – крыху хістаючыся, устаў з-за стала і ступіў ім насустрач гаспадар. – Гэтая цудоўная паненка – мая стрыечная сястра Стэфанія, а гэта ўжо амаль мой швагер Вячка, па-вашаму, па-маскальску – Вячаслаў. І яшчэ, па-нашаму швагер – гэта муж сястры, хай нават і стрыечнай. А гэта мой сваяк Мікалай, маскоўская штучка, а так нядрэнны хлопец і таксама муж сястры, толькі ўжо маёй жонкі. Жанатыя мы, Вячка, на сёстрах, вось так. Значыць, і вы цяпер паміж сабой нейкія сваякі. Праўда, якія, пакуль не ведаю, але прыйдзе жонка, яна ў гэтым вялікі спец, яна ўсё і растлумачыць. Ну, давайце, давайце за стол, цяпер і свежанькіх дранікаў сястрыцы паднясуць. Як экскурсія? А экскурсавод?

– Усё было класна! Мы да гэтага часу ад усяго адысці не можам, дзякуй табе велізарнае. Аб уражаннях і астатнім потым распавядзем. Мы, здаецца, вашу гутарку незнарок перапынілі, – папрасіў прабачэння Вячаслаў.

– Ды кінь ты, якая гутарка, так, старая балбатня ні пра што. Дакладней, пра што. Вечная спрэчка братоў славян аб іх славянстве і вяршынстве ў гэтым пытанні. Адным словам, каму жывецца весела, прывольна на Русі? – Казімір шматзначна паківаў указальным пальцам і дадаў: – І ў нас на Беларусі. А то як жа. Давайце, сядайце.

– Казя, я лепш да кабет пайду, а вы ўжо тут мужчынскай кампаніяй і без мяне справіцеся, – актыўна запратэставала дзяўчына і, непрыкметна падміргнуўшы скіслаy хлопцу, мовіла гучна: – Вячка, мы сёння абавязкова павінны патрапіць у Мінск, я цётцы Ядвізе абяцала.

– Які Мінск? Ты гэта кінь, у мяне свята, сваяк аж з самой Масквы прыехаў, а ты мне швагра ў Мінск зводзіш. Ідзі, ідзі ўжо дзеўкам дапамагай. Не, ты толькі паглядзі: і гэтая ўжо камандаваць пачынае! Да касцёла яшчэ не дайшлі, а ўжо камандзірша! – абдымаючы за плечы і падсоўваючы да сябе Вячку, незласліва прагудзеў гаспадар. – Ты, гэта, браце, не паддавайся. Давай! Мы тут шмат за што выпілі, давай – з цябе тост.

– Прыемна пазнаёміцца, а тост, – прымаючы чарку, пачаў Вячаслаў, – тост традыцыйны: за знаёмства. Я згодны з Казімірам: чым большае сямейства, род, клан, тым прасцей і спакайней адольваць жыццёвыя нягоды.

Выпілі, памаўчалі. <...>

Жанчыны прынеслі новую порцыю пахкіх дранікаў і, на ўсялякі выпадак, забраўшы дзве пакуль непачатыя бутэлькі з бурштынавым хатнім напоем, хіхікаючы пра нешта сваё, сышлі.

– Вот вам і шурум-бурум пранёсся, – раскладваючы гасцям дранікі, спагадлівым голасам прамовіў гаспадар. – Сын бацьку вучыць, жонка дэманстратыўна бутэлькі перад сябрамі са стала зграбае – і ўсё па дабрыні маёй. Ну, прасплюся заўтра, зладжу разбор палётаў. Можна падумаць, працавіты мужык можа быць п’яным? Давайце налягайце, пакуль не астылі! А гарэлкі, гарэлкі вунь, – ён ткнуў відэльцам з дранікам у бок серванта, – жыўцом згарэць можна!

– Ды кінь ты іх, бабы яны і ёсць бабы! Іх хлебам не кармі, а дай паверхаводзіць. Ну, а лішняга зелля і нам таксама ўжо асабліва грузіць не варта, самі ўжо не хлопчыкі, а вось па чарачцы за ўсіх нас выпіць яшчэ можна, – прапанаваў масквіч.

– Ага... Ты вось усё ж мне яшчэ адкажы, чаго ўсім гэтым еўрасаюзам ад нас трэба, што ім не хапае, калі ў нас усё не горш, чым у іх?

– Антуражу вам не хапае, глянцу, мне так здаецца. Захаванне пэўных знешніх умоўнасцяў, ці што! Можа, нейкіх канстытуцыйных нормаў, якія абмяжоўваюць тэрміны прэзідэнцтва. Яшчэ варта аб адмене смяротнага пакарання падумаць, аб грамадзянскіх свабодах, партый якіх-небудзь дзясяткі два...

– Добра, давай усё ж вып'ем. Не ідзе дэбат па сухім. Я вось і на сваіх, і на вашых дэпутатаў гляджу і дзіву даюся: шпарацъ як пасля ладнай шклянкі, без сучка, без задзірынкі, вось дзе вышэйшы пілатаж. Ну, дык за што ўсё ж такі п'ем?

– Дык я ўжо тост прапанаваў, – прыпадняўся Мікалай, – давай за вечнае, за сем'і нашы, за дзетак! Вунь за твайго няўрымслівага сынка! – Ён натрэніравана перакуліў чарку ў рот. – Ух! І гарэлка ў вас добрая! Няўжо сапраўды палёнай зусім няма?

– Так, Коля, – накладваючы сабе рэшткі ўжо астыглай бульбы са скваркамі, неяк працягла пачаў Казімір, – трапляе і ў нас палёнка, але мала. Гэта ж адразу турма і таму, хто прывёз, і таму, хто прадаў. А п'ем мы свойскую, майго ўласнага вырабу. Падземную гарэлачку, па-вашанску падпольную, выгналі ў таямніцы – і ў таямніцы спажываем. Але гарэлка-гарэлкай, тост твой, ён асаблівы. Вось мы зараз выпілі за дзяцей, за род. А як ім, дзеткам, далей жыцца будзе? Якую мы ім спадчыну пакінем, не пра грошы я кажу, не пра грошы. Грошы – іх колькі ні пакінь, усё мала будзе. Я пра зямлю, пра душу яе кажу. Мала хто цяпер пра гэта думае...

– Не, дакладна ўсе беларусы язычнікі, – перапыніў яго сваяк, – Тамарка, тая таксама ледзь што: «Хлеб выкідваць у сметніцу нельга, у ім дух жыта», «дубка не ламай, ён святы, у ім душа». Ты вось аж пра душу зямлі загаварыў...

– Ну, а куды ж без душы. Наш паэт Барадулін кажа, што і ў камянёў – і ў тых душа ёсць! Ды вам, гарадскім, гэта зразумець цяжка. <...> Ты тут мне ў мінулы раз спрабаваў даказаць, што мы ўсе калгаснікі і на чале з калгаснікам калгасную дзяржаву будуем. Можа, яно так з вашага бугра і бачыцца. Калгас хоць народу растлумачыць можна, ён да гэтага звыклы. А як ты растлумачыш вашыя патугі пабудаваць развіты капіталізм пад пільным кіраўніцтвам вашага КДБ, ці як яно там у вас называецца? Ці вы ўслед за звар'яцелай ад усёдазволенасці Еўропай адкрыеце межы чорнай Афрыцы і фанатычнай Азіі? А ты ведаеш, навошта іх тысячамі, гэтых няшчасных, сюды да нас у Еўропу гоняць з родных месцаў? То-та ж! Мне вось са свайго сялянскага пагорка бачыцца такая карціна: камусьці ўжо вельмі спатрэбіліся ў тых краях зямлі і тое, што ў тых землях утоена. На хрэн ім на тых багаццях такі велізарны, непісьменны і бязмозглы статак? У Еўропу іх! А еўрапейскіх рабочых вахтай на асваенне цалінных абшараў апусцелых земляў. Пакуль Гансы, Полі, Себасьяны і Пэдры на рудніках і промыслах будуць гарбаціцца, іх бабы і дочкі чумазенькіх нараджаюць. Тыя гадоў за дзесяць-дваццаць школы і каледжы пазаканчваюць – і наперад у вахтавы ланцужок. – Казімір замоўк. Твар у яго зрабіўся нейкім сумным, здавалася, што ён сам здзівіўся сказанаму.

– Вось ты і заклаў тыраду! – шчыра захапіўся масквіч. – Са становішчам на Захадзе я з табой цалкам згодны, нам бы толькі з нашымі ўзбекамі і таджыкамі не наступіць на тыя ж граблі. Чаго замоўк? – Мікалай, мужчына

гадоў пяцідзесяці, з прыгожым, злёгку кранутым сівізной камсамольскім віхром, уважліва глядзеў на свайго суразмоўцу. Збоку ніхто не зразумеў, ухваляе або асуджае ён яго, але па лёгкай чырвані на твары можна было адчуць: ён, як азартны гулец, рыхтуецца да рашучага адпору.

– Ты верыш, Коля, у нас прасцей, – расправіўшы двума пальцамі звісаючыя сівыя вусы, перавёўшы дыханне, працягнуў Казімір. – У нас як у Амерыцы: ведаеш закон, не ведаеш... ведаеш мову, не ведаеш, а здзейсніў злачынства – у турму, а то і да сценкі. <...>

– Ну, блін, сваяк, ты і даеш! Не ведаў бы, што ты фермер, падумаў бы – фанатычны прапагандыст, вельмі ўжо складна ўсю гэтую мудрагелістую лухту вярзеш. Толькі вось цяжка разабраць: гэта сцёб ці ты на самой справе так думаеш?

– Сцёб! – абурыўся Казімір. – Ды ў нас і слова такога няма, я ведаю слова сцёбнуць, гэта значыць скрасці. А прапагандаваць у нас асабліва і няма чаго, а вось за дзяржаву сваю стаяць – дык гэта трэба, а то як жа. Са сваімі ўладамі мы самі як-небудзь разбярэмся, чужынцаў, хоць і брацкіх, зваць не будзем. Самі выбралі, самі і пакараем, калі супраць народа пойдуць. Для літвіна, то бок беларуса, бязгрэшных не было і няма. Мы тут у свой час і князёў, і біскупаў, калі ўжо занадта дзівачыць пачыналі, на кульгавую кабылу задам наперад саджалі і прэч за гарадскія вароты! Патрыётам быць не сорамна, халуйстваваць сорамна.

– Слухаю цябе, сваяк, і завідкі бяруць, а я ўжо так сваю ўладу абараняць не змагу, хоць яна мне, не ў крыўду табе будзе сказана, нашмат больш дабротаў дае, – госць пра нешта задумаўся, а потым са шкадаваннем, як здалося слухачам, дадаў: – І не толькі сама дае, але і браць дазваляе. У нас як кралі ўсе, так з найвышэйшага дазволу і працягваюць тое рабіць дагэтуль. Толькі давай не думай, што ты мяне пераканаў! І ведаеш, я вось падумаў: хто б там раней не нарадзіўся з братоў, а галоўны будзе той, у каго сіла. Сіла сёння ў нас, толькі наша сіла – яна ж і вашай з'яўляецца. Што імперыя, што Саюз, што цяпер Расія, гэта – сіла, і адмаўляць гэтага ніхто не стане. І потым, каб ты з такой патэтыкай не казаў, – уздыхнуў маскоўскі госць, – спадзяюся, не думаеш, што вы ў сябе ідэальнае грамадства пабудавалі? Рынку ў вас, лічы, няма. Многае заарганізавана так, што рукі апускаюцца. Мы ж з вамі справы маем толькі па пратаколе. А далей – ні-ні! Прыватны бізнес нейкі ўбогі, перапалоханы, ці што. Ды і карупцыя ў вас немалая, вядома, да нашай ёй далёка, аднак... Столькі розных кармушак вашыя начальнікі для сваіх дзяцей і блізкіх панаствaралі! Без гэтых адкатнікаў ні войкнуць, ні ўздыхнуць! Ва ўсім свеце, ды і ў нас гандлёвы дом – гэта, у першую чаргу, крама па абыходзе падаткаў і вывадзе прыбытку ў афшоры. А ў вас, на дзяржпрадпрыемствах, – гэта кармушкі для сваіх. Што творыць вашая моладзь, гэта ж поўны піпец! Ваш калгаснік, шаноўны Казімір Казіміравіч, вунь кавалак мяса ці вядро малака без дазволу зверху ў суседнюю вобласць прадаць не можа! Што гэта, па-твойму, ідэал? Я вунь неяк у аднаго вашага начальніка пытаўся, навошта яны вам, дылеры гэтыя? І ведаеш, што мне адказалі? А па заходніх аналагах! Вунь, і ў «Катэрпілеры», і «Фордзе», у «Ташыбе», ва ўсіх дылеры, а мы што, горш? Не горш. Тупей. Калі б гаспадар любога брэнду даведаўся, што на яго вырабе нехта чужы накручвае дваццаць-трыццаць, а то і семдзесят адсоткаў і гоніць гэта на рынак!.. Капіталіст павесіўся б!

– Ну, тэхніку-то нашу бяруць, і вы, і чужыя.

– Па-першае, прывыклі, што яе па-старому кувалдай і ломікам адрамантаваць можна, але пачакай, выйдзе Расія з чарговага сусветнага залупона – і ўсё па сваіх месцах стане. І браты братам руку дружбы пададуць. Вось тады вы запляшаце. Так, між іншым, нашы б і больш бралі вашых машын, калі б яны былі на тыя ж трыццаць адсоткаў танней. Усё, стоп, стоп, сваяк! Не дай бог, нас жонкі пачуюць, падумаюць, што мы ўжо зусім бухія, калі пра вытворчасць загаварылі, і бутэлькі запаветныя не толькі са стала, але і з усіх схованак канфіскуюць...

– Вось тут, сваяк, я з табой спрачацца не буду. А ты чаго, Вячаслаў, сядзіш як засватаны, што не лезеш разнімаць нас? Ну хоць налівай, каб і ад цябе за сталом толк які быў.

– А што вас разнімаць? «Адвечны спор славян», як казаў класік, але спрэчка спрэчкай, а вочы славяне адзін аднаму пастаянна выклёўвалі, ды па апошніх падзеях відаць – і працягваюць кляваць. А калі шчыра, Казімір, то я ўсё яшчэ пад уражаннем экскурсіі. Ты б вунь і сваяка нашага замежнага заўтра выправіў бы па гэтым маршруце. Мы самі таго, што побач з намі, не ведаем, а ўжо «старэйшыя» браты і пагатоў. Можа, я і трохі маладзей за вас, але калі паклікалі ў арбітры, рызыкну выказаць здагадку: абодва вы і маеце рацыю, абодва ж і не маеце. Праўда, як заўсёды, дзесьці пасярэдзіне...

## 26

Дамовіўшыся сустрэцца праз два дні, маладыя ледзь вырваліся з гарачых абдымкаў гасціннай хутаранскай радні і павольна імчалі ў сталіцу. Стэфка без стомы захаплялася экскурсіяй, і здавалася, што акрамя прачыненых дзверцаў у мінулае для яе цяпер нічога не існавала. Дзявочае захапленне міжволі перадалося і Вячаславу.

Госпадзі, адкуль толькі браліся яго доўгія маналогі пра мінулае навакольнага краю! Аказваецца, хатняя адукацыя – самае эфектыўнае і мудрае – не прайшла для яго бясследна.

– Нічога сабе, колькі ты ўсяго ведаеш! – захаплялася дзяўчына, – мяне вунь ажно завідкі бяруць! І галоўнае, да гэтага часу маўчаў, як партызан! Хоць і каханы, ды ўсё ж гад! – яна стукнула яго сваімі маленькімі кулачкамі ў бок.

– Гэй, паненка, я ж за рулём, і хуткасць пад сто пяцьдзясят, ты давай асцярожней са збіццём кіроўцы. А потым: калі мне было ўсё гэта распавядаць, мы з табой без году тыдзень як знаёмыя. Ведаеш, я і сам здзіўлены, здзіўлены, бо ўсё гэта ўва мне жыве. Я ж, шчыра, нічога падобнага спецыяльна не вучыў і не чытаў. Гэта, хутчэй за ўсё, ад дзеда, бабулі і дзядзькі. Яны нешта расказвалі, а дзіцячая памяць убірала і захоўвала. Куды едзем, сонейка маё?

– Я ж табе казала: да цёткі Ядвігі. Яна з мамай маёй сёння доўга размаўляла па тэлефоне, вось і трэба даведацца хоць што ды як? Яны, мне здаецца, ужо да вяселля пачынаюць рыхтавацца. Праз твайго знакамітага дзядзьку і цётку выйшлі на агульных знаёмых і ледзь не відэа-канферэнцыю збіраюцца праводзіць.

– Вось табе і на, усё неяк адно да аднаго. Хутка неяк, можа, яно і да лепшага. Цётка – гэта добра! Толькі, ведаеш, – уздыхнуў малады чалавек, – мне пакуль боязна ісці да яе, ды і, – ён зірнуў на гадзіннік, – і

пазнавата ўжо для афіцыйнага візіту: пакуль даедзем, будзе ўжо каля дванаццаці ночы.

– Табе якраз сёння і не варта туды ісці ні з якімі візітамі. Там нашы чыста бабскія гутаркі будуць. А позні час? Цётка ж паэтка, а паэзія – удзел паўночнікаў, баюся, там яшчэ і гасцей будзе поўная кухня. У Ядзі адна з самых знатных кухняў Мінска.

На кухні пахла не столькі ежай, колькі кавай, цыгарэтным дымам і свабодай...

Яшчэ засталіся ў нашым жыцці, праўда, ужо зусім мала, дзіўныя людзі з таго пакалення, якое і данесла да нашых дзён гэта невынішчальнае паняцце: «кухня творчага чалавека». Дзе і як яна нарадзілася, гэтая кухня, калі паспела пераняць і ўвабраць у сябе вальналюбны дух закінутых у лясах і палях небагатых маёнткаў і мястэчкаў? Як яна выстаяла і выжыла, праводзячы сваіх насельнікаў на катаргу і эшафот, на славу і на ганьбу? Але, на злосць начному тупанню каваных ботаў, насельнікі і спевакі яе вярталіся назад, вярталіся з нябыту, а тыя, хто не вярнуўся, станавіліся яе святынямі, яе іконамі, яе класікамі. Цудоўная і вечная кухня – прыстанак думаючага чалавека. Колькі пра цябе гаварылася, колькі яшчэ ўхвальных слоў цябе чакае наперадзе!

Заходні свет ніколі не меў такога прытулку духу і вальнадумства. Ды ён яму, дарэчы, і не патрэбны быў. Там вольнасці і крамола каваліся ў піўных, корчмах і кавярнях, універсітэцкіх кампусах, аддаленых сядзібах. У Савецкім Саюзе зонай свабодалюбства была абраная кухня, такой яна захавалася, бадай, толькі ў Беларусі. Недарэчны расійскі капіталізм прыдушыў і саму рускую інтэлігенцыю, і яе кухні, замяніўшы іх нейкімі неймавернымі сурагатамі. Толькі рэшткі вечных трацкістаў-дысідэнтаў яшчэ неяк соўгаюцца ў буйных расійскіх гарадах, на сваіх абшарпаных куханьках, даводзячы да страты свядомасці адзін аднаго вечнай барацьбой усіх і супраць усіх.

Стэфанія планавала забегчы на гадзінку-другую пасакатаць з цёткай, вядомай у краіне паэткай, даведацца навіны сямейнага фронту і падзяліцца сваімі, ды і заначаваць, як родзічка. Яе духоўны бацька строга забараніў да вянчання ў касцёле ўсякія вольнасці з каханым чалавекам.

– Цётка Ядзя, вось і я ўласнай персонай, прымеце? – з парога заявіла студэнтка.

– О, Стэфка! Ты давай праходзь, у мяне госці, каўкі з намі вып’еш.

– Ой, што вы, я ўся такая замурзаная! Я з паездкі, так стамілася... Я, можа, адразу ў ванную і спаткі, а вы, калі гасцей правядзеце, тады і пагаворым, ці, можа, іншым разам забягу...

– Давай распранайся і пайшлі, будзеш мне тут пярэчыць.

Калі дзяўчына, неяк зусім ужо па-дзіцячы хаваючыся за цётку, боязна ўвайшла ў прасторную кухню, высокі чалавек гаварыў і стаяў да іх спінай:

– Куды, на якія пратэсты і, галоўнае, хто нас кліча? У імя чаго? – раздражнёна выкрыкваў ён свае пытанні, час ад часу папраўляючы доўгія сівыя валасы. – Што можа даць нам і нашаму народу гэтае гарлапанства і пустабрэхства? Няўжо вы і напраўду верыце, што нехта і сапраўды іх, нашых бунтаўшчыкоў, сур’ёзна ўспрымае?

– А чаму б і не?! – запярэчыла яму паважных гадоў дама, некалі вядомая актрыса. – І сярод былых таксама светлыя галовы ёсць, а потым... некаторыя вельмі самавітыя вершы пішуць.

– Паслухайце, Кацярына, прычым тут вершы, падбухторванне моладзі і палітыка? – умяшалася ў размову цётка, падштурхнуўшы Стэфанію да невялікай канапы, схаванай ад гасцей высокай нешырокай паліцай, застаўленай посудам і рознымі фігуркамі. Прыклаўшы палец да вуснаў, яна ледзь чутна прашаптала: – Сядзі ціха, табе гэта будзе цікава, – зняўшы з пліты вялікую, старую, каваную медную турку, цётка падалася наперад павольна напаўняць маленькія кубкі пахкім напоем. – Ну, вось і я пішу вершы і друкуюся не менш за некаторых, але зваць людзей да сякеры, пры тым на роўным месцы, мне такога і ў галаву, па праўдзе, ніколі не прыходзіла. Ды і чаго натоўпам можна дамагчыся? Ды і які з яго кіраўнік – ён жа п'яніца.

– «Чалавек, які ідзе ўночы, надумвае кепскае», так, здаецца, гучыць адна з сур Карана, – прымаючы кубак, вымавіў поўны палыселы мужчына, знаўца роднай гісторыі і даўні змагар з рэжымам. – Але ў нашых умовах і днём, і ноччу мітынгамі і шэсцямі, да прыкладу, паходневымі, можна вырашыць многае, галоўнае, як усё арганізаваць. Да мяне па дапамогу ніхто з гэтых выскачак не звяртаўся, а ўжо самому набівацца неяк не з рукі, ды і, ведаеце, узрост ужо...

– Чакайце, калегі! – абурана ўскочыў са свайго месца доўгавалосы. – Што гэта вы ўсе супраць мяне настроіліся? Калі вам усё так да душы, ну дык і ідзіце, падстаўляйце свае бесталкоўкі і ду... – мастак на хвіліну запнуўся, праглынаючы не зусім прыстойнае слова, – свае мяккія месцы...

– Што ты заміндальнічаў, майстар, які не дапісаў мой партрэт? – з усмешкай спыніла яго актрыса, – вырашыў ужо сказаць «дупы», ну дык і кажы. Сарамлівы ты наш! Супакойся, ніхто на цябе не нападае. Шчыра сказаць, і я падзяляю тваё абурэнні. Надакучылі ўсе гэтыя хаджэнні са сцягамі... Глядзіш на некаторых правадыроў – і дзіву даешся: як былі пустабрэхамі дваццаць гадоў таму, такімі і сёння засталіся. Можа, пара прызнацца, што гэта мы самі сабе прыдумалі казку пра нейкую Сінявокую. Казка спадабалася, мы яе палюбілі і ўслед за рамантыкам Ластоўскім пасяліліся ў гэтай віртуальнай краіне былінных крывічоў-ліцвіноў-беларусаў. А пазней са змрочных туманаў нашых не зусім цвярозых мазгоў волатам мінулага выплыла летапісная Літва. ВКЛ! Цуд сярэднявечнай цывілізацыі! Якая ўвайшла ў гісторыю хіба тым, што з'яўлялася першапачаткова пастаяннай часткай Рэчы Паспалітай. Вялікае Княства! Дык тады амаль усе княствы, у тым ліку і схізматыкаў, зваліся вялікімі: і Цвярское, і Уладзімірскае, і Маскоўскае, і Цьмутараканскае, і князі ў іх княжылі ўсе суцэльна вялікія! Але нікім, хіба што толькі самімі, гэтыя вялікасці не прызнаваліся. Такая горкая праўда. Еўропа іх не ведала, а тэрыторыі гэтыя лічыла пустымі і беспрасветнымі. Каралеўскую карону Папа Рымскі толькі верным каталікам дарыў...

– Ты гэта да чаго хіліш, Кацярына? – перапыніў акторку, якая ўваходзіла ў ролю, гісторык. – Фактычна, Міндоўга каранавалі каралём...

– Каранавалі, ды не дакаранавалі. Карону ж запаветную на князеву бесталкоўку так і не ўсклалі, абраду сакральнага не правялі. Якая ж гэтая каранацыя?

– Вы толькі на яе паглядзіце: пры гэткай красе і такое веданне гісторыі! – з'едліва засмяяўся гісторык, – і даўно вы, шаноўная Кацярына Сігізмундаўна, тым пытаннем прасякнуліся?

– Угаманіся, усёведны! Не менш вашага штудзірую гэтую навуку. Балазе,

у бацькі яшчэ дзедавы і прадзедавы кніжкі засталіся, бо, у адрозненне ад халопаў, у нас у сям'і не было прынята паліць печы кнігамі.

– Ну вось, а то я ўжо неяк засумавала, – займаючы свой гаспадарскі фатэль, ухвальна прамовіла паэтэса. Жанчына гадоў пяцідзесяці, стройная, апранутая з нядбайнай вытанчанасцю так, каб і джынсы, і свабодная тонкая ваўняная блуза падкрэслівалі ўсе правільныя выгібы і выпукласці яе фігуры. – Адвечны спор варагуючых славян. Вяльможная Кацярына, на тое яна і Кацярына, зараз пачне пераконваць нас, што беларусы – больш палякі, чым беларусы, і я з ёй згодная. Алесь Паўлавіч з уласцівай навукоўцу аргументацыяй кінецца, як заўсёды, пярэчыць, настойваючы на ўнікальнасці і адметнасці беларускай народнасці. Шкада, сёння няма тут нашага нацыянальнага барда, які з дзіцячай наіўнасцю начытаўшыся Трашчанка, узбіўся на хісткія пазіцыі заходнерусізму і будзе стаяць на сваім з фанатычнай перакананасцю езуіта. Усё гэта так, так! Але іншы цяпер вецер дзьме. Мне здаецца, час спыняць гэтую балбатню і неяк вызначацца...

– У чым вызначацца, дарагая наша гаспадыня, і, галоўнае, каму варта вызначацца? – ляснуў далонямі доўгавалосы мастак, якога звалі для тутэйшых месцаў да прымітыву немудрагеліста – Іван Іванавіч Іваноў. Аднак пры ўяўнай прастаце прозвішча ды імя, Іван, сын Івана, быў таленавітым і вельмі вядомым і ў краіне, і далёка за яе межамі мастаком. Нейкім дзіўным чынам ён умудраўся ў сваіх карцінах сумясціць народны рэалізм з гіпербалай і непасціжнай абстракцыяй. – Вось я – беларускі нацыяналіст, і з гэтым я даўно вызначыўся. Ад таго я і пратэстую супраць бязмэтнага цягання па плошчах і вуліцах. Былі б гэта выбары ці нейкія іншыя прычыны, ні да чаго добрага гэтыя маршы не прывядуць, а чысціню нацыянальнай ідэі замуцяць.

– Ведаеце, мне вось цяпер у галаву абсалютна вар'яцкая думка прыйшла! – неяк разгублена сказала паэтэса. – Можа, гэтыя дзённыя шэсці і начныя маршы сапраўды маюць нейкі сакральны падтэкст?..

– Ого, дзяўчаты, вы мяне не перастаяце сёння здзіўляць! Гэта ж трэба, да якіх глыбінь дакапаліся? Ды кішка тонкая ў любога з іх стаць фюрэрам, ды і народ наш на немцаў не падобны, гэта я вам як гісторык заяўляю. Хоць без ідэі правадырства ні адзін лідэр сам рэалізавацца не можа.

Змоўклі. Адчувалася, што вобраз маршыруючых па начных вуліцах народных натоўпаў уразіў усіх.

– Вось ты, Алесь Паўлавіч, адкажы мне не як гісторык, а як адзін з родапачынальнікаў Беларускага Народнага Фронту: чаму інтэлігенцыя нашая свядомая неяк крывабока са стагоддзя ў стагоддзе стаіць на абочыне ўсіх тых бураў, што пралятаюць над нашым краем? – рашылася перапыніць зацягнутае маўчанне Кацярына Сігізмундаўна. – А калі ўліваецца, што называецца, у працэс, то ўсё неяк недарэчы. То Напалеона, то Аляксандра, то Вільгельма, то Сталіна, то Гітлера ў выратавальнікі ды ўваскрашальнікі Айчыны спяшаюцца запісаць – і ўсё міма касы. І дзіўная заўсёды выходзіць карціна: духоўныя правадыры бягуць слугаваць тыранам, а народ у партызаны. Чаму?

– Ведаеш, Каценька, неяк ужо вельмі ты пра ўсё абагулена судзіш. Агулам. Не ўсё так проста. Не ўсе і не заўсёды лідэры нашыя спяшаліся ў калабаранты. Не буду ў далёкія нетры ўдавацца, возьмем Другую сусветную...

– Давай лепш бяры наогул новы час, растлумач мне, неразумнай, што ў

нас у дзевяноста першым здарылася? Даўно хачу пачуць тваё меркаванне, – перапыніла яго актрыса, дастаючы з пачкі доўгую тонкую цыгарэту. – Не супраць, калі я дыману?

– Зрабі ласку, – ажывіўся мастак, – хоць забароненым паветрам падыхаю. Паганыя ўсё ж такі людзі, дактары, нават хай і сябры: «Нельга, нельга»!

– Дактароў, як і ксяндзоў, Ваня, трэба заўсёды слухаць, – зажмурыўшыся ад задавальнення, вымавіла Кацярына, выпускаючы шызаватыя воблачкі духмянага дыму. – Давай, Алесь, пра нашую першую і адзіную ў гісторыі незалежнасць патлумач, пра тую, якую мы з рук п'янага Ельцына ў Віскулях пакорліва прынялі.

– Якія ж усе акцёры язвы, і вы, матухна, не выключэнне. Дык вось, гісторыя нашай незалежнасці...

– Залежнасці, Алесь! Залежнасці. Мы заўсёды ад некага залежалі, ды і цяпер залежым. Добра, чорт цябе бяры! Не буду я тваю душу рамантыка раздзіраць, пішы сабе сваю казачную гісторыю, авось і яна калісьці спатрэбіцца. Скажы, а чаму ваш бэнээфаўскі лідэр збег з нашай незалежнай краіны і нейкую бязглуздзіцу нясе з еўрапейскіх кустоў? Пры ненавісным камуністычным рэжыме жыў, нават прафесарыў, а тут узяў і драпануў.

Гісторык набычыўся і глядзеў на тэатральную дзіву з відавочнай непрыязнасцю. Усе прыціхлі і, здавалася, падаліся наперад, каб не дай Бог не прапусціць ніводнага слова, ніводнай грымасы. Замес абяцаў быць крутым.

– А чаго ж ты, галубка, не спытала яго сама ў Вільні? Ты ж, калі мне памяць не здраджвае, была на яго лекцыі?

– Ты што гэта – крыўдзіцца на мяне ўздумаў?! Ну ты і дурань! Чаго мне блазна пытацца?! Ён жа збрэша і вокам не міргне. Мне праўда патрэбна, вось я цябе і катую. Ды не хочаш – не адказвай.

– Не, я адкажу, – ужо цяплей працягнуў гісторык. – Пасля таго, як ён не ўгаварыў Васіля Уладзіміравіча выстаўляць сваю кандыдатуру на выбарах прэзідэнта і не саступіў гэтае права яму, нашыя шляхі з «лабастым» разышліся. Фронт наш, дарэчы, таксама, па сутнасці, Быкаў арганізаваў. Без яго ён запаршывеў і прыйшоў у той стан, у якім цяпер і знаходзіцца. А нясе Скразняк сваё, бо іншага гаварыць не можа.

– Бачыш, Алесь, – усміхнулася Кацярына Сігізмундаўна. – супакойся, не буду я цябе, родненькі, больш мучыць пытаннямі, хоць на душы ўсё ж неяк моташна. Бо шкада і тых, і тых. Дзе яны яе, гэтую ўладу, знойдуць, на плошчы ці на праспекце? Ды яе і ў кабінетах днём з агнём ні халеры не адшукаеш... Ты, Ядзька, – хітра зірнуўшы на гаспадыню, рэзка змяніла тэму сяброўка, – каго там за перагародкай хаваеш? Мне ўжо даўно накапалі, што ў цябе новы маладзец з'явіўся, а ну, кажы!

Усе з цікавасцю падаліся да паліцы.

– Ціха вы, калекцыю маю разаб'еце, – спрабавала іх супакоіць паэтэса.

На канапцы, згарнуўшыся абаранкам і па-дзіцячы паклаўшы пад галаву малітоўна прыціснутыя адна да адной далонькі, спала бялявая прыгажуня.

## 27

Засумавалы Вячаслаў заехаў ва ўпраўленне, далажыў, што прыбыў з камандзіроўкі і, калі заўтра адаспіцца, прыбудзе на службу. Пасядзеўшы ў нейкай прастрацыі ў кабіне свайго «японца», ён раптам зразумеў, што яму ехаць нікуды не хочацца; цяжка ўздыхнуўшы, накіраваўся ў кругла-

суткавы гастраном. Амаль у адзіноце паблукаў між стэлажоў, чагосьці неабавязковага накідаў у тачку і ўжо накіраваўся да соннай касіркі, як яго невясёлы настрой перапыніў званок мабільніка.

– Славік, а ты часам не ў горадзе? – спытала слухаўка голасам Ягора Кузьміча.

– У Мінску, тут, недалёка ад вас. Хлебам надзённым затаварваюся і збіраюся да сябе на выселкі ехаць. А што, будуць нейкія ўказанні?

– Ну, загады хай табе начальства выдае, а вось просьба ў старога маецца: ты і мне батончык свежанькі захапі ды кефірчыку пакецік, ну і завязі старому, калі не цяжка.

– Будзе выканана, – узрадаваўся лейтэнант, які яшчэ не звыкся да барацьбы з любоўнай хандрой. – Можа, чаго паістотней прыкупіць?

– Не, шмат не набірай, я, ты ж ведаеш, не вялікі ядок.

Хандру як рукой зняло. Вячаслаў ехаў па сонным пустым горадзе. Ён яго любіў вось такім: няспешным, у аціхлым асвятленні. Хоць у цэнтры, не зважаючы на позні час, таўклася моладзь.

Якое ж было яго здзіўленне, калі ён убачыў свайго настаўніка на лаўцы ля пад’езда. Адзінокая згорбленая постаць падалася яму неймаверна тужлівай. Стары, пазнаўшы яго машыну, устаў і замахаў рукамі. Вячаслаў пад’ехаў бліжэй і адчыніў пасажырскую дзверцу.

– Куды ехаць будзем? – як мага спакайней спытаў хлопец, хаваючы хваляванне.

– Давай у бок Заслаўя, – будзённа, як быццам яны даўно згаварыліся аб гэтай паездцы, вымавіў Ягор Кузьміч, перакідваючы на задняе сядзенне даволі аб’ёмную спартыўную сумку, – у цябе машына, спадзяюся, як належыць экіпіяваная? Рыдлёўка, сякера, ліхтарык на месцы?

– Крыўдзіце, таварыш палкоўнік! Я ж з вобласці еду, там і палатка, і спальнік маюцца, і ўсё іншае.

– Вось і добра. Цяпер адключай свой мабільнік і давай яго сюды, – раскрыўшы старую бляшаную скрынку з-пад даваенных ледзянцоў, вымавіў стары чэкіст. У такой калісьці стары Скарга захоўваў свае самыя каштоўныя блешні.

– Зараз, толькі эсэмэску Стэфцы напішу, каб не хвалявалася, – пакорліва адказаў кіроўца і, паслаўшы паведамленне, аддаў трубку, – толькі і батарэю там трэба адключыць, ён усё роўна праз гэтую бляшанку будзе даступны, мы з хлопцамі спрабавалі...

– Гэта ў вас, можа, і будзе даступным, ды толькі мая скрыначка волавам луджаная, – усміхнуўшыся, адказаў стары, зачыняючы вечка і хаваючы бляшанку ў бардачок машыны. – Таксама мне оперы знайшліся... Давай не спяшаючыся, думаю, да раніцы і ўправімся, тут недалёка.

Доўга ехалі моўчкі.

– А куды мы, Ягор Кузьміч, едзем? – нарэшце праявіў цікаўнасць малады чалавек, калі яны ўжо мінулі і мінскую кальцавую, і развязку з паваротам на Заслаўе.

– Бач ты, цярплівы які, глядзі, колькі маўчаў... Ужо амаль прыехалі! Галоўнае, каб у цемры адшукаць тое месца. Я тут у свой час усё на ўласным пузе аблазіў. Але колькі гадоў прайшло! Усё змянілася. Цяпер больш павольна, вунь, бачыш, знак, вось за ім направа, на прасёлак.

Звярнуўшы з шашы, машына нырнула ў свет цьмяных ценяў і сілуэтаў, якія нечакана выбягалі на святло фараў і тут жа рэзка адскоквалі назад

у цемру, варта было аўтамабілю параўняцца з імі. Дарога з паўкіламетра была такой-сякой, як і належыць, з кюветамі, якія падсыпаюць жвірам, але далей пачыналіся звыклыя і мілыя сэрцу выбоіны, ямы, паваленыя ветрам дрэвы. Добра, што хоць гэты буралом быў кімсьці абрэзаны на шырыню машыны і дазваляў з вялікімі перасцярогамі пнуцца наперад.

– Нават пры немцах, не кажучы ўжо пры Саветах, такога не было, – незадаволена бурчаў упаўголаса стары, – бачыш, цяперашняе начальства больш, чым на няпоўны кіламетр, у лес ужо і носу не паказвае. Гэта пры тым, што ў лесе ні партызан, ні бандытаў пакуль няма. Каб нам з табой, голубе, не заблудзіцца... Ты таксама глядзі – тут скрыжаванне павінна быць на вялікай паляне. Хоць якія паляны? Усё ўжо даўным-даўно пазарастала.

Паляна аказалася на месцы, больш за тое, на далёкім яе краі няяснымі сілуэтамі віднеўся ланцужок новаўзведзеных хат.

– Напэўна, дачы, – выключаючы на ўсялякі выпадак фары, чамусьці шэптам вымавіў Скарга, – значыць, з таго боку і дарога новая павінна быць.

– Можа, і ёсць, толькі нам гэтай дарожкі трымацца трэба. Давай святло на паўхвіліны ўключы, каб паварот не праскочыць. Дачы – гэта для нашай справы дрэнна.

Фары міргнулі якраз своечасова, метры праз чатыры ўправа ўніз сыходзіў парослы нізкай травой прасёлак, без адзінага колавага следу. Праехаўшы з дзясятак метраў, Вячаслаў уключыў блізкае святло. Тут можна было не толькі аўтамабільныя ліхтары ўключаць, але вялікі аэрадромны пражэктар – іх бы ўсё роўна ніхто не ўбачыў. Здавалася, яны павольна рухаліся ў цесным зялёным калідоры высокага арэшніку, які змыкаўся ўверсе. Як ні дзіўна, дарога тут была раўней, толькі неглыбокія вымоіны дажджавых раўчукоў, садраўшы кволую расліннасць, кідалі пад колы мініяцюрныя, пясчаныя выдмы.

Яны ўжо ехалі па гэтай віхлястай сцежцы больш за паўгадзіны. Злева ад дарогі абмінулі неглыбокі равок, стары і зарослы лесам.

– Славік, давай тармазні і прыпаркуй машыну ў гэтай нізінцы. Так, каб яна не асабліва тырчала на дарозе і не кідалася ў вочы, калі за намі які-небудзь цікаўны дачнік увяжацца.

– Ды якая цяпер цікаўнасць? Пацікавішся лішнім – сабе ж больш балюча будзе.

Машыну грунтоўна замаскіравалі, забралі інструменты і ліхтары. Сумку старога, якую ён усё намагаўся несці сам, Слава ўпіхнуў у свой беспамерны натаўскі заплечнік, прыладзіў на шырокі, падобны на мантажны, пояс сякеру і сапёрную нямецкую рыдлёўку. На галаву па-над тонкай вязанай шапкай начапіў маленькі ліхтарык, такі ж прыладкаваў і на лоб Ягору Кузьмічу, паказаў, як ім карыстацца.

– Зручная свяцілка, як шахцёрская! Галоўнае, рукі вольныя, працуй сабе. Малайчына, экіпіраваны з веданнем справы. А нямецкая рыдлёўка ў цябе адкуль? Я вось сваю дзесьці пасеяў, даўно ўжо.

– Дык у каго вучуся? Гэта яшчэ дзедава спадчына. Куды ідзем?

Яны стаялі ў цемры, у нетрах жывога, напоўненага няяснымі гукамі і шолахамі свету. Цемра, адабраўшы зрок у першыя хвіліны пасля святла, паступова яго вяртала. Начны лес павольна ўцягваў іх у сябе, ператвараючы ў сваю неад'емную частку. Недзе далёка ўнізе ледзь чутна шумела вада.

– Пайшлі, без святла, вочы пачынаюць ужо бачыць, хутка і ўнутраны зрок адкрыецца. Ідзем да каменнага мастка праз ручай...

– Адкуль у гэтых зарасцях каменны мост?

– Сядзіба тут калісьці вельмі даўно была, а можа, і замак...

Да мастка, які сапраўды выгнуўся дугой над нешырокай рачулкай, дайшлі хутка. Дрэвы расхінуліся, стала лепш відаць, ды і вясновыя ночы хуткаплынныя, левы бок неба ўжо наліўся цяжарам будучага світання. Перад імі, на супрацьлеглым баку ручая, крута падымалася лугавіна, мяркуючы па ўсім, яе штогод абкошвалі. Пасярод гары пад двума велізарнымі дрэвамі цямнеў нейкі будынак. Па краі лугавіны, прыціскаючыся да лесу, выгіналася ўсё тая ж ледзь прыкметная сцяжынка.

– Ну, вось мы амаль і прыйшлі. Там пад ліпамі будан пчаляра, ён цяпер, хутчэй за ўсё, пусты. Але мы з табой рызыкаваць не будзем. Пяройдзем па мосце – і адразу ўніз да вады. Словам, давай за мной.

Дзве размытыя перадсвітальным паўзмрокам цені адна за адной прабеглі мост і шмыгнулі ўніз.

Над ручаём, абвітая каранямі, слалася-віхляла рыбацкая сцежка з рэдкімі здратаванымі да рачнога жвіру месцамі стабільнага клёва. Вячаслава курчыла ўнутры ад цікаўнасці: куды, а галоўнае навошта гэтая начная вылазка? Ён не так бачыў, колькі адчуваў, што яго настаўнік ужо даўно стаміўся: часцей спыняецца, і рухацца яму становіцца цяжэй і цяжэй.

– Усё, прыйшлі, дай дух перавесці, так, ужо не той я хадок. Зараз вось падымемся па гэтым схіле, там рэшткі старадаўніх могілак, вельмі старых. Магілы ўсе спустошаныя, збоку над абрывам рэшткі старой капліцы нейкай, вось у яе нам і трэба з табой...

– А там што?

– А я думаў, ты здагадаўся... Схованка там, мяркуючы па расшыфраваных запісах з тваіх польскіх сшыткаў. Толькі шыфр, як мы і меркавалі, не акаўскі, а, відаць, нямецкі. Польскі разведчык толькі яго скапіяваў і перадаў сваім. Што там – сказаць цяжка.

– А чаго спатрэбілася ўсё гэта рабіць ноччу? Ці не прасцей пад'ехаць днём на машыне на гэтыя могілкі, усё раскапаць, забраць, глянуць для цікаўнасці і перадаць у родную кантору? Я ж вам казаў: тыя знаходкі майму начальству вельмі спадабаліся.

– Пойдзем памаленьку. Дай я на цябе злёгку абапруся, стромка тут. Знаходка наша, можа, акажацца вельмі нязручнай, калі там тое, што мы з Горзбічам, Андрэем Іларыёнавічам, падумалі...

– А што вы маеце на ўвазе?

– Як нам бачыцца, тут можа быць поўная картатэка агентуры Абвера па Беларусі, а можа, і агульная з СД. Паглядзім... – Ягор Кузьміч, спыніўся. – Чаму ноччу, пытаеш? – пасля невялікай паўзы працягнуў, злёгку аддыхаўшыся, стары. – Так больш зручна. Лес усё роўна і вушы, і вочы мае. Калі мы знойдзем схоў, то скрынкі можна і днём забраць, а можа, і там пакуль пакінуць. Сам вырашыш – твая ж знаходка.

Нарэшце яны выпаўзлі з рова на адносна роўную пляцоўку, сапраўды перакапаную і прабітую мудрагелістымі камянямі ды абломкамі раўнабокіх крыжоў. Разваліны, зарослыя хмызняком, цямнелі злева над імі.

Пралаз у падвал знайшлі адразу, хутчэй за ўсё, ён быў калісьці акном. Першым, уключыўшы ліхтарык, спусціўся Вячаслаў, прыняў заплечнік і дапамог спусціцца старому. Прамяні ліхтароў заслізгалі па сценах, размаляваных усюдыіснымі графіці і аўтографамі ранейшых наведвальнікаў. Скляпеністае памяшканне было прасторным, з бакавымі нішамі і, мяр-

куючы па ўсім, служыла калісьці пахавальняй знакамітых гаспадароў тутэйшых мясцін.

– А чый тут замак быў, вы не ведаеце?

– Не, не ведаю, але, напэўна, каго-небудзь з мясцовых князёў, можа, Заслаўскіх.

– Дзядзька кажа, што нашае прозвішча таксама з гэтага роду.

– Усё можа быць. Гэта ў шляхты заўсёды па радаводах галава балела, а нам, прасталюдзінам, нашмат прасцей. Асабіста мне лягчэй: я са стоадсоткавых халопаў. Светані вунь туды, у правую крайнюю нішу. Калі не памыляюся, гэта тут. Давай расчышчай падлогу, вось тут, збоку, пад гэтым каменным выступам для свяцільні.

Ніша была даўгаватай, большую частку яе займаў пастамент пад даўно разрабаваныя і знішчаныя труны. Бітага каменю, тынкоўкі, зямлі ды іншага смецця аказалася наўздзіў няшмат. Хутка рыдлёўка вызваліла ад палону брыдоты выдатную мазаічная падлогу, якая цудам захавалася і складалася, на першы погляд, не з асобных плітаў, а з умураваных у маналіт living рознакаляровых камянёў і кафлі, большасць з якіх былі разбітыя, мабыць, пры спробах іх выкалупаць. Доўга шукалі хоць якую-небудзь прыкмету шчыліны каля сцяны. Выступаў для каганца ці свечкі было чатыры, па ўсіх кутах камеры. Давялося расчышчаць падлогу пад усімі, нарэшце злева ад уваходу знайшлі ледзь прыкметную шчыліну, толькі не ля сценкі, а пад нагамі, падобную на скол ці выбоіну ў падлозе.

...Толькі гадзіны праз паўтары, ужо губляючы цярпенне і паламаўшы лёзы двух нажоў, яны падчапілі пліту і ссунулі яе з месца. Лаз аказаўся невялікім, сантыметраў сорак у шырыню і ледзь больш за метр у даўжыню.

– Ну і як туды залезці? Тут да трусоў распрануцца давядзецца, і то не прашчэмішся, – разгублена прамовіў Вячаслаў. Сэрца грукатала, як малатарня.

– Асцярожна, давай пасвяці і рукі туды не сунь! Вялікім ліхтаром свяці, – загадаў Ягор Кузьміч.

Пад плітой была неглыбокая, выкладзеная такой жа старадаўняй цэглай камера, у ёй шчыльна адзін да аднаго стаялі тры вялікія, мяркуючы па ручках, чамаданы, абгорнутыя ў чорную непрамакальную тканіну і акуратна перахопленыя шырокімі брызентавымі рамянямі.

– Знайшлі, – узрушаны ад радасці і хвалявання, вымавіў Вячаслаў.

– Знайсці то знайшлі, цяпер бы іх адтуль выцягнуць...

– Ды што іх цягнуць, вунь узяў за ручку – і па адным, як рэпу, вырваў. На вока, на папа спакойна выйдуць.

– Не гарачыся, мой малады сябар, свяці, свяці, тут агледзецца трэба добра. Калі гэта пакінулі немцы, а, відаць, што менавіта яны, то трэба шукаць падвоху і гадкія сюрпрызы.

– Вы думаеце, міны?

– Не выключаю, зверху і па баках, здаецца, ніякіх правадоў і расцяжак няма, калі што і будзе, то знізу.

– Ды ну, як знізу? Тут як ні круцілі, а чамадан падымаць трэба. Паставіш на папа, пацягнеш уверх – і міна ўсё роўна спрацуе.

– Маеш рацыю, Славік, маеш рацыю! Але тут ёсць нейкі свалачызм. Памылішся – і ўсё, на нас людзі Гелена ніяк не разлічвалі, свае павінны былі забіраць, але нешта не зраслося.

– Паслухайце, Ягор Кузьміч, а можа, гэтыя чамаданы трэба цягнуць у

пэўнай паслядоўнасці? Адзін дастаў – і ўжо можна пад іншымі памацаць, калі гэтая міна ёсць. Немцы ў той час ужо выкарыстоўвалі для такіх мэтаў тры тыпы ўзрывальнікаў надзейнага, націскнога і, па-мойму, ужо і разгрузачнага дзеяння.

– Так-то яно так, але іх трэба ўмець абясшкодзіць. Не проста ведаць, як гэта зрабіць, а мець вопыт у такой справе. Мы нават у вайну па такія гасцінцы самі не саваліся, а сапёраў выклікалі.

– Але ў нас сапёраў няма. Магу збегаць да машыны, патэлефанаваць нашаму дзяжурнаму – і без усякай рызыкі ўсё з гэтай ямы выцягнем.

– Можа, ты і правільна кажаш, ды потым гэтая ж твая знаходка... – стары прысеў на ўзвышэнне былога пастамента для саркафагаў, – там, як мы мяркуем, не сам архіў, занадта шмат бы ён заняў месца, наўрад ці ва ўвесь гэты нябожчыцкі палац змясціўся, – ён абвёў рукой вакол, – там, хутчэй за ўсё, картатэка. Такія шэра-зялёныя кардонныя карткі з фатаграфіямі і поўнымі дадзенымі на агента: яго сапраўдныя прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас асноўнага і запаснога месца жыхарства, аператыўныя імёны, паролі, спецыялізацыя, заахвочванні, узнагароды, асаблівыя прыкметы, кім і калі завербаваны. Могуць карткі гэтыя захоўвацца ў алфавітным парадку ці разбітымі па абласцях, раёнах, буйных гарадах і выбудаваныя ў пэўную агентурна-баявую сетку, – стары змоўк, задумаўся і раптам нечакана задаў пытанне.

– Слава, вось ты, як старонні чалавек, які знайшоў гэты схоў, які б чамадан ты стаў бы выцягваць першым?

– Ну-ну-ну... – пацягнуў час, як на экзамене, лейтэнант, – калі не чакаць падвоху і не ведаць, што гэтую ямку мініравалі, пацягнуў бы самы зручны, сярэдні.

– Правільна, і я таксама разважыў бы. Думаю, любы на нашым месцы пацягнуў бы самы лёгкі на ўздым баул. На гэта, магчыма, разлічвалі і абвераўцы – і бомба, калі яна там ёсць, па ідэі, павінна быць устаноўлена пасярэдзіне...

Падумаўшы, вырашылі цягнуць злева направа, па ходзе крылаў свастыкі. З усімі перасцярогамі, вылезшы з каземата вонкі, доўгай вяроўкай паставілі цяжкі чамадан на папа, а потым, перакінуўшы вяроўку праз выступ, падвесілі яго і выцягнулі. Гэтак жа зрабілі і з правым. Доўга думалі, як цягнуць сярэдні, бо падлезці пад яго знізу не было ніякай магчымасці. Вырашылі: будзь што будзе. Усё абышлося, падлога тайніка была ідэальна роўнай, без старонніх прадметаў. Ужо збіраючыся апусціць люк на сваё месца, Вячаслаў з ліхтаром перагнуўся ў яму і стрымгалоў вынырнуў назад.

– Там міна, – як мага спакайней сказаў ён; ліхтарык у руках трапятаў, як толькі што злоўленая рыба. – Яна там збоку ўверсе камеры, злева над падлогай, але яна чамусьці не выбухнула, хоць і павінна была гахнуць, калі мы пацягнулі левы чамадан.

– Спакойна, хлопча, не спужні ўдачу. Ставім вечка на месца, а потым сапёраў нашлём.

Звонку было ўжо амаль светла, над палянай і ў яры слаўся празрысты, нібы вэлюм, туман. Усход ваўсю кіпеў чырванню ў прадчуванні нараджэння сонца. Чамаданы адцягнулі за парэшткі сцяны, што звісалі над ярам. Ягор Кузьміч застаўся з імі, Вячаслаў, не рызыкнуўшы вярнуцца па лузе, спусціўся да ручая і пабег да машыны.

Праз паўтары гадзіны яны ўжо зацягвалі сваю знаходку ў непрыкметны

дамок, што прытуліўся скрай садаводчага таварыства з нямоднай цяпер назвай «Дружба». Гаспадар дамка – Андрэй Іларыёнавіч – іх даўно ўжо чакаў. Насценны гадзіннік іржава трэнькнуў адзін раз, адбіваючы палову пятай. Дзень толькі пачынаўся.

Чамаданы адкрывалі таксама з усімі перасцярогамі. У іх у два ярусы стаялі доўгія кардонныя скрынкі з тысячамі невялікіх картак, памерам з бібліятэчныя.

– Ого! – усклікнуў Скарга. – Ды колькі ж іх тут?

– Скрынкі сфармаваныя, як я і меркаваў, па тэрытарыяльнай прыкмеце, прытым дзяленне нашае, савецкае: сельсавет, раён, вобласць. Асобна вялікія гарады. Пытаеш, колькі? На скрынках усё напісана. Вось, да прыкладу, у гэтым пенале карткі на восем раёнаў Гомельскай вобласці, у іх дзвесце семдзесят восем агентаў.

– Ну-у, лейтэнант, калі б знайшоў ты гэты «скарб» гадоў сорак таму – Героя Савецкага Саюза атрымаў бы, – далучыўся да іх размовы далікатна-мяккі Горзбіч. – Давайце мыць рукі – і да стала. Нікуды ўжо гэтае дзярмо ад вас не ўцячэ. Раскапалі на ўсе нашыя бесталковыя галовы, – ён з пагардай матнуў на расчыненыя чамаданы, якія стаялі на доўгім стале, нібы дзіцячыя дамавіны.

Ежа ў горла не лезла. Выпілі па добрай чарцы, пажавалі бутэрбродаў, узялі кубкі з хатняй гарбатай і вярнуліся ў пакой са сталом.

– Сур'ёзна, што вы з гэтым усім будзеце рабіць? Гэта ж тысячы людскіх лёсаў і жыццяў!.. – павольна, гучна сёрбаючы гарбату, спытаў Андрэй Іларыёнавіч.

– Ды тут, хутчэй за ўсё, палова ўжо і перамерла, – выказаў меркаванне Скарга. Яго гэтыя скрыні хвалявалі ўсё менш і менш. – Паглядзім, ды і звязем у кантору...

– Можна і адвезці, Героя дадуць наўрад ці, але ордэн дакладна павесяць. Уяўляеш, колькі ты працы свайму ведамству падкінеш? Гэта ж усё трэба праверыць: хто жывы – дапытаць, калі пацвердзіцца супрацоўніцтва – то і да суда прыцягнуць, – памацаўшы нейкую скрынку, нібы між іншым кінуў Ягор Кузьміч.

– Ды ладна – каму трэба ў гэтым корпацца? Я ж кажу: яны ўжо ўсе перад Богам адказваюць.

– Ну, адзін адказ другому не перашкода. Самі памерлі – дзеткі, унукі маюцца... Вось і зірнем, а ці далёка яблык ад яблынькі адкаціўся? А чым дыхаюць і якія пасады і пасты займаюць бліжэйшыя сваякі здраднікаў Радзімы? Ці правільна ў іх усё ў анкетах указана? Ну... – ён наўздагад выцягнуў картку, злёгку прыжмурыўся і працягнуў: – Дык, кажаце, грамадзянін Пузанчук, ваш спачылы бацька ветэран вайны, беларускі партызан? Герой?! А вось і не, шаноўны! Баця твой – Пузанчук Мільхей Багданавіч, рахункавод Бугноўскага райпо, з'яўляўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны агентам Абвера–Мінск-два, пазыўны «Язь», пароль для сувязі такі-та, ну і гэтак далей, гэтак далей. І панясецца круціцца кола. Ці вось глядзі: Фёдар Сапіца, я яго ведаў, ён ардэнаносец, камандзір партызанскага атрада, яго імем вуліца ў мястэчку, каля якога ён лютаваў, названая, вершы яму класікі савецкай літаратуры прысвячалі, а тут, значыцца – агент «Вяпрук». Тут, калі кожны з нас пакапаецца, то і знаёмых, а можа, і радню сваю адшукае...

– Ва ўсіх трох скрынях, па маіх падліках, – перапыніў яго стары

шыфравальшчык Горбіч, – трыццаць адна тысяча чатырыста сорак тры карткі. Асабняком вось гэтыя два пеналы стаялі. Ды і карткі тут ад іншых адрозніваюцца. Бачыце, – ён выцягнуў адзін аркуш-прастакутнік, – картка перакрэслена чырвонай лініяй, арлы іншыя, і пячаткі таксама...

– Дай зірнуць, – папрасіў Ягор Кузьміч, – такіх мне ніколі ў руках трымаць не даводзілася, толькі апісанне чытаў. Гэта карткі агентаў службы бяспекі рэйха. Гэта людзі СД, за гэтымі кроў і кроў. Гэта трэба ўважліва перагледзець і ўжо дакладна перадаць у тваю кантору. Гэтых не шкада, а то ж на воінскіх могілках могуць ляжаць, як героі. Побач з тымі, каго і здавалі. – Стары аддаў скрынку і вярнуўся да той, якую гартаў перад тым і якую так і не выпусціў з рук.

– Вы некага шукаеце, таварыш палкоўнік? – дачакаўшыся, калі гаспадар лецішча выйшаў на кухню выключыць засвісцеўшы чайнік, спытаў Скарга.

– Шукаю, Слава, шукаю адказ на адно вельмі важнае для мяне пытанне. Знайду – абавязкова раскажу. Не перашкаджай пакуль.

Вячаслаў сам сеў у зручны фатэль насупраць палаючага каміна і, не паспеўшы адчуць стомы, праваліўся ў зыбкі, як балота, сон.

Прачнуўся ён нібы ад штуршка – і расплюшчыў вочы. Яго за плячо груба трос нямецкі афіцэр і соваў у твар нейкую паперу.

– Шрайбен дізе папір! Ты ёсць вольны, табе я давайт жыццё, табе і тваёй фройлен...

Скарга з цяжкасцю павярнуў галаву ў той бок, куды паказваў немец. Крык адчаю міжволі вырваўся з яго глоткі: ля сцяны стаяла збітая, звязаная бруднымі вяроўкамі Стэфанія. Адзення на ёй амаль не было. Яна не крычала, толькі вялікія, велізарныя, амаль на ўвесь твар вочы пранізліва малілі яго аб выратаванні. Ён працягваў крычаць, вырываўся, а немец тыкаў яму ў твар паперу і працягваў сінюю шарыкавую ручку з абшарпаным шэрым каўпачком.

Разбітымі, распухлымі і амаль мёртвымі пальцамі ён узяў гэтую ручку і вывеў на лісце свой подпіс. Слёзы бяссілля і крыўды каціліся па яго твары. Павекі былі апушчаны, ён нікога не хацеў бачыць, і ў першую чаргу – самога сябе.

Усё вакол хісталася, круцілася і некуды ляцела. У нос рэзка стукнуў агідны пах нашатыру. Вячаслаў расплюшчыў вочы, цяжка глытаючы паветра шырока адкрытым ротам, паступова вярнуўся ў рэальнасць. Ягор Кузьміч разам з сябрам спалохана схіліліся над ім.

– Ну ты і перапалохаў старых!.. Давай вось валяр'яначкі глытні. Ператаміўся ты, пераўзбудзіўся. Усё на цябе навалілася: і любоў, і таямніцы, і мы цябе яшчэ ў сваю вайну ўцягнулі, у вайну, у якой і самі разабрацца за ўсё наша жыццё не можам. Давай пі, не саромся. Заснуў ты моцна і, відаць, кашмар табе прысніўся. Крычаў страшна, дабудзіцца не маглі, як не білі, вось толькі ад нашатыру ў сябе прыйшоў.

– Дзякуй, настаўнік, і праўда – вельмі страшны сон прысніўся пра вайну.

– Гэта ўсё чортавыя карткі, хай на іх ліха, з іх страх точыцца. Ну як – супакоіўся?

– Дзякуй, Ягор Кузьміч, усё прайшло. Нейкі вельмі рэальны сон быў. Стэфа не тэлефанавала?

– Дык рана, яшчэ і сямі няма. Спіць твая красуля. Ты давай пакуль тут пасядзі, можаш і задрамаць, а мы пойдзем гэтых карнікаў красна-

палосых пашарсцім. Там вельмі шмат цікавага накапалі. Давай: адпачні – і далучайся да нас.

– Добра, – неяк не зусім бадзёра адказаў Слава.

У галаве звінела, як можа звінець толькі абсалютная пустэча. Недзе там, глыбока, нервова перасмыкаўся страх. Ён больш за ўсё на свеце баяўся зноў заснуць і вярнуцца ў той нядаўні сон, абрыўкі якога ўсё яшчэ працягвалі прысутнічаць у гэтым пакоі. Лёгкія дрыжыкі прабеглі па ўсім целе. Ён падкінуў у камін некалькі сухіх бярозавых паленцаў і тупа глядзеў, як яны загараюцца.

Магічныя языкі нясмелага полымя поўзалі па белай кары. Выгінаючыся, абдымалі дровы, паступова набіралі сілу і ўжо з гулам рваліся ўверх, да нябачнага неба, да сонца, якія некалі нарадзілі гэтыя дрэвы.

Вячаслаў, нібы самнамбула, устаў, падышоў да чамаданаў, узяў дзве верхнія скрынкі і высыпаў карткі з іх у камін, у паглынальнае і ўсё ачышчальнае полымя.

Тонкія кардонкі выгіналіся ў агні, з палёгкай зірнуўшы на яго дзясяткамі фотаздымкаў незнаёмых людзей, якім ён дараваў...

*Канец першай часткі.*

*Масква–Мінск–Варонча–Бар.*
*15 траўня 2014 – 27 ліпеня 2016.*



Віктар Слінка



...руіны верша

адбудуй, як храм...

# Вымаўленае ўслых

***З новай кнігі “Элегія звароту”***

* * *

Вымавіш услых сваё імя –
І вось, ты ўжо інакшы чалавек.
Кроны ў скронях зашумяць, аднак
Свет напружыўся, пасля абмяк.
Гэты міг знікае без пазнак
Прывідам
вар’яцкіх картатэк.
Вымавіш услых сваё імя...

Гэтак проста – зубы і язык!
Паднябенне – і паверхня губ.
Слова ёсць нявыплата
пазык?
І – птушыны невяртальны зык?
Так падмурак робяць, ставяць зруб,
Каб пускаць свой дым з адрозных труб.
Гэтак проста – зубы і язык?

*13 жніўня 2014*

* * *

Дзень сягонняшні – наступны;
Зазіраючы наперад,
Попелам
Стаяла хата,
Прыскам
Зіхацелі дрэвы;
Гэта – вам, за тое, хто вы,
Гэта – вам, за тое, дзе вы,
За няведанне пачаткаў,
За адрынутасць мелодый,
За пасечаныя пальцы
Аднагодкаў вам – каштанаў.
Для чыіх практыкаванняў
Выгартоўваюцца шаблі?
Ды зацверджаныя спісам,
Як рыдлёўкі для магілы?
Бачыш, тут
Прысуд рыхтуюць
Перарывістай гаворцы,
Абкружаюць пашанотай
Самаўпэўненыя бздуры.
Толькі ўжо адным гучаннем,
Прагай сэнсавых вібрацый
Кліча нас – не забаронай! –
Перарывістасць
Гаворкі.

Як ні дзіўна, і –
Дагэтуль! –
Вас таксама,
Самаеды.

Праўда, глуха, бы ахвяры
У падводным чоўне мёртвым.

*2014*

* * *

Аб’ява на слупе,
Шыльда на рагу
Дома, дзе жыве,
Чыё імя – табу.

Люстэркавы
дракон,
Вязень
амальгам,

Не
  краніся той,
Чые сляды за грань.

Люстэркавы
          дракон,
Я
 цябе заб’ю,
Калі
   цалунак твой
Што Юдава “люблю”.

*Кастрычнік 2014*

* * *

Кардонны цвік, пляскаты і тупы,
Табою выразаны ён паводле сну, –
Бетонныя змацоўвае слупы
І агароджу – не яе адну,
Але і тое, што ўнутры пяе,
Якое нас з табой не пазнае.

Вось, так бы мовіць, рамачка, пейзаж,
Прыкметы заіржаўленых пячор,
Калі цябе мяркуе звадыяш
Завабіць у падманлівы атвор.
І ты сабе дыктуеш неўпрыцям,
Які дарунак выбераш гасцям.

Калі мы мусім быць як мае быць, –
Гнілая лодка нас
              перавязе?
Ці ты Гудзіні, каб жыццё адбыць,
Бы нумар у бяскорміцы падзей?
Найлепшаму – мо знойдзеш? – уручы
Ягоныя ж уласныя ключы.

*3 лістапада 2014*

* * *

“Не, не адпраўлены ліст я люблю, а znічку пакоры”, –
Так гаварылі яны: перастаўленых рэчаў пакой,
Фарбаваных парэнчаў змяя.
Вам кішэню адцягвае вадкасць
Набытай прасторы
І цьмянее ў аправе ліхтарняў
Адсутнасць паўтору;

Быццам грукат у дзверы, дзе я.
Плёскат хваль, чаек крык, – і напруга
Зусім як тутэйшая рэяў.
Што было да таго: незапраўлены картрыдж?
Душа? Дываном – светлякі?
Я не знічку пакоры, ці зніжку
Пакоры шукаў, – не старэю.
Непраходнае рэшата ў рукі вазьмі,
Сваё шчасце злаві, не пакінь.

Ліст кляновы – на кра́тах аконных:
Налепкай адзначыць кастрычнік,
Непагодлівым знакам, – датычыць
Цябе, альбо – больш не датычыць;
У залежнасці – як ты адкажаш,
Каго і куды
Паклічаш.

*2015*

## ЭЛЕГІЯ БЫЛОМУ

Ложа пустое, цёплае. Нітку зубамі ўхапіць паспееш
І, сківіцу каб не вывіхнуць, хутка намотваеш канат на кулак.
На парозе бетонным – сметніца, сіняя, традыцыйная.
Зірнеш на патрэсканы накаленнік –
стары выклікаеш на вуснах смак.
Зямлёю поўная сметніца; з гняздоўя – ліловая кветка
Узнялася, нарэшце ўстала і перад тым, як пайсці
Адсюль – і адтуль [адгэтуль], карэньчыкамі
прашаптала працяжна,
Неяк няўпэўнена: “Выплюнуў ка́пу сваю на прасціну

Ты, – дык не адрыгвай шчасця, як рыбіну пелікан”.

*4 ліпеня 2012*

* * *

Вінаград на паркане
Паспее
Кастрычніка напрыканцы.
Ровар
Годна ўзвышае стырно,
Хоць стаіць на спушчаных колах.
Гэтак
І ты, хто спеліць
Свой чын,
Чужы для астатніх,
Якія сягоння.

Але
Раптам
Нехта мае прыйсці,
Пабачыць
Адрознае
Ад указальніка з назвамі

Зніклых мястэчак,
Каб вымавіць вуснам:
Значыць, тутака
Нехта
Нешта хацеў,
Апроч
Угнаення зямлі?

*2014*

* * *

***1***

Як вылічыць
Дадатковую вартасць тваю,
Трэскат электразваркі?

***2***

Змаганне слова з тым, што яно значыць.
Гэта цяпер – і ў хвіліну наступную –
Галаснік,
Пакінуты адкрытым
У тупіку цагляным!..

***3***

Твая незалежнасць, твая свабода.
Выйсце інакшай пары ў сённяшні дзень?
Выйсце п*а*ры ў свісток?

***4***

Пахне рамонкам з-пад пахаў дзяўчат,
Змолатым паміж жорнаў далоняў;

Алебастравы пыл з-пад ног
Вучняў Хрыстовых
Асядае нам на падкорку.

***5***

Кожны – тут: арлан-белахвост
Над хвалямі трыснягу альбо пераспелага жыта

І чалавек
Унутры – ці

Над статкам свіней.

*28 красавіка 2015*

* * *

у кнігарні з’явілася за прадавачку
юная зусім
сталі часцей заходзіць туды
лысы філосаф (з памаўзліваю ўсмешкай)
паэты й празаікі featurea ўзросту
настолькі чуллівыя што дождж
адразу знаходзіць іх
як прыгоды іхнюю дупу
у абедзенны перапынак да сяброўкі прыходзіць
сяброўка
прыкладаюць адна адной вуха
да маленькіх грудзей
пытаюцца па чарзе:
як тваё сэрца стукае – як?
ці стукае?
тахкае бы цягнік што адвязе ў ейную краіну
каго захоча
венік ды шуфлік танчаць
у спрытных руках
пылінкі весела скачуць на хвалях паветра
сонечнае ззянне я зноў хачу быць з табой
сонечнае ззянне
не пацьмянеей
гэты светлы дзень у маім зроку
не абарвіся
тонкая нітачка прыязнасці ды пяшчоты
незнаёмых людзей кожнага да ўсіх
усіх да кожнага

зноўку хачу
быць мной

*3-4 снежня 2015*

* * *

*...Перараскладзенасць*
*Пачуццяў...*

**Ларыса Шчогалева**

Бляклаю
Сыроваткай святла
Ліхтар наліты.

Кроў чалавека дымнай лавай
Да мерзлых камякоў пяску і гліны
Прапякла снег жорсткі,
Амаль бязважкае кранула цельца,
Ды не збудзіла жамяру:

Анабіёз.

Ліхтарны выступ адмыкае мозг.
Перараскладзеных пачуццяў ажывіць
Нябачнае – і прывіднае мноства
Сняжынка падае ў расколіну, але
Распятага мастацтва
Уваскрашэнне

Чый клопат: будучых
Ці ненасталых дзён?

*2015*

* * *

А я люблю шаптацца з цішынёй
Аб нечым не сваім, а толькі ейным.
Яна мяне накрыла даланёй,
Сярод пакліканых назваўшы верным;
Што саладзей за боль і горыч ран,
Якія з горкім болем зарастаюць?
Руіны верша адбудуй, як храм;
Стань ворагам усім былым сябрам
Ці новым стань, – такім цябе не знаюць.

*2016*

* * *

Дык вось яно! Пусты бесчалавечы двор,
Асфальт, скаваны кратамі бардзюра,
Увесь у трэшчынах, карычнева-зялёным
Імхом парослы. Голы схіл зямны
Уздоўж дарогі ўніз, а насупроць –
Бок сонечны, зялёны, утравелы.
Далей, за лінію шашы
імклівай, чорнай,
Паклікаў лес сухі.

Знайшоў той камень я, закідваў што
наперад,

Каб мэту мецъ ісці;
Ударыўся аб іншы камень ён, ды згаслую
імгненна
Так высек іскру;
І – драпіну пакінуў на баку
Сваім
На будучыя дні; ужо стаў іншы – я.

Я кветку нёс, якая – не сланечнік,
Але насустрач сонцу твар трымала.
(Якая кветка не трымае твар?)
Я нёс яе з усёй Зямлёю разам
І я не знаў, што – не па сілах мне.

Я абдымаў цябе, "і ў нашых вуснах
Цвіла вясна"; ды попельныя строі
Згарэлы лес надзеў; ... я меркаваў,
Што згінуць іскры той наканавана; не.

*22 сакавіка 2016*

* * *

А некаму пашанцуе?..
У нетрах расці ён будзе,
Касою яго не скосяць,
Сярпом яго не сажнуць,
Як васілёк з пшаніцай, –
Бывае, стамілася жнейка,
Пот залівае вочы...
Камусь не шанцуе так.

Вось гэтага і жадаюць, –
Абы мы хаваліся, дружа.
Цвіком – па плешку ў драўніну,
Ды – з вачэй падалей.
Каб тут гаспадарыла набрыдзь,
Навалач – запанела.
Каб мы карчавалі ляда, –
Карабельны сасновы шум.
А дзесь на вольных мясцінах
Гарады не сваіх – чужынцаў...

Зямля ж – аб зямным пяе:
"Бяжы ты, мая кабылка,
Далей ты, далей ад цугляў.
Скачы ты, мой шэравокі
Зайчык, – ды пад абрыў.

Лашчылася – святая?
Цуды – былі для ўбогіх?
Я не кранаю шчасця,
Наканаванага ўсім".

*22 красавіка 2016*

* * *

...А мёртвыя – жывуць, не саступаюць
Чамусьці месца лепшага жывым,
Як быццам звыш на гэта права маюць
І наша ссуць жыццё – так можна ім?
Напэўна, не – не трэба ім працягу.
Ды юшку хтось адкрыў, паддаўшы цягу,
І голле нашых рук, і цела ствол – агнём
Нябыт абняў, які навокал ё.

Пакінь сябе, калі ты – Сузіранне.
Набудзь зусім інакшае трыванне.

*14 кастрычніка 2012*

* * *

сябе
пытаешся:
навошта кудысьці хадзіць
калі ты прыйшоў?

абломіш
сухую галінку і адарвеш
жывую
паглядзіш на сіні цагляны плот
усцяж якога
дрэвы карэннямі адваявалі
болей месца чым адведзена ім
людзьмі
вузлаватымі цяглiцамі
узрываючы асфальт
а побач – таполевы пух
і зялёныя зорачкі
дзьмухаўцу
але не суседзяць паміж сабой
стоены ўздых – і стрыманы крок
заўсёды нешта адно
бо інакш разарве напалам
цябе цішыня
адшчыкнутая расліна
аддае свой пах так хутка

што робіцца непамысным
учыненае табой
з-пад зямлі ўзнікае
незнікомае
каб схавацца ў нашых вачах
мы перавязем яго праз гэты час
жывыя паселішчы
незнаёмага сэнсу

але
асыпаецца насып пад крокам
ідзеш а з табою плывуць камяні

*5 чэрвеня 2016*

* * *

*Памяці У.К.*

Сузор’яў
Харал, – у жарало
Сусвету, – пяе і пяе.
Сцісні
Сціло, –
Прарві
Сіло.
Нічога ніколі адтуль назад,
Нічога ніколі адтуль назад,
А тут – над балотамі зарапад,
Маланка над дубам
Б’е.

Можна
Дзяўчо
Захінуць плашчом
І па плечы схаваць у стог;
З дошчак – будан.
Над прорвай
Мастом
Ты, – свой не выдаць
Стогн.
Я
Не хачу
Бачыць сябе
Такога, які слабы.
Толькі – за спінай
Поле
Журбы:

Вярблюджыя сніў
Гарбы.

Лепш
Увагнаць
Па тронкі лязо
І слухаць варожы хрып,
Чым перад кімсьці
Канаць
Слязой,
Стаяць, як чарвівы грыб.

Гэтак
Прад тым,
Як месца сваё
Заняць між створаных кніг,
Ты
Не праспі
Ўласны двабой,
Каб вартым зрабіцца іх.

*2016*



Анатоль Бутэвіч



...сэрца, нібыта патрывожаны вулкан,
грымела-бухала на ўсю залу....

# “Балбес”, або Закаханы Колік

***Апавяданне***

– Колік, ідзі за столік, – жартаўліва паклікала з кухні жонка Валя і дадала: – Тэлевізар не ўцячэ, а вячэра можа. Бо за сталом ужо Вера з Надзяй.

– Зараз, – адказаў муж і бацька, а сам не мог адарвацца ад экрана. Яго вельмі ж захапіў адзін эпізод увогуле нецікавага мыльнага серыяла, якіх зараз процьма на кожным тэлеканале. Захапіў і зачапіў нейкую струнку, пацягнуў тую нітку, якая павяла ажно ў юнацкія гады.

Калі ж тое было? Даўнавата. Тады яшчэ шорты не толькі не былі ў модзе ў дарослых, а ўвогуле пра іх мала хто ведаў.

Ды якая розніца калі. Важна, што было.

Колік хадзіў тады ў школу. Жыў у велікаватай па цяперашніх мерках вёсцы, а не ў сталічным горадзе, як цяпер. Акурат там і адбылося тое, што нечакана пасялілася ўнутры. Тачыла, трывожыла, бударажыла, хвалявала, не

давала спакою ні днём, ні ноччу. Прычынай, вядома ж, была яна – Валя. Раней ён не звяртаў асаблівай увагі на звычайную, нават непрыкметную сярод іншых аднакласніцу. А вось у сёмым класе нешта нечакана выстраліла. Даўгалыгая Валя стала для яго самай прывабнай, самай прыгожай. Ад аднаго погляду на яе сэрца млела і, здаецца, абрывалася. З Колікам адбывалася ўсё тое, што бывае з кожным падлеткам, калі ён пачынае заўважаць дзявочыя адметнасці.

Звычайная жыццёвая сітуацыя звычайных школьнікаў, уздыхне нехта. Нямала такіх, як сённяшніх серыялаў. А гэта як сказаць. Так, у вялікім жыцці сітуацыя мо і праўда звычайная. Але для кожнага чалавека, асабліва юнага, гэта і выпрабаванне, і жыццёва важная падзея. Часам нават трагедыя. Ды такая, што, здаецца, без яе вырашэння не патрэбна і само жыццё. Бо нашто яно, калі цябе не разумее, а мо, што яшчэ горш – не хоча разумець! – нехта іншы, неабыякавы для цябе чалавек.

Дык вось. Колік вачэй не спускаў з Валі. Праўда, рабіў гэта неўпрыкмет, таемна, каб не бачылі іншыя. Ды хіба ж такое шыла схаваеш у мяшку?

Валя сядзела на трэцяй парце, а ён на пятай. Таму ўвесь час бачыў яе спіну са скрыжаванымі паскамі школьнага фартуха ды ўкладзены на патыліцы вялікаваты вянок касы светлых валасоў. Калі Валя паварочвала галаву да сваёй суседкі па парце Ніны, Колік асабліва напружваў позірк. Тады яму бачылася Валіна гладзенькая і такая вабная шчака, кончык ганарыста задзёртага носіка.

Сэрца мілосна заходзілася, а па целе расплывалася прыемная цёплая хваля, скура ад якой ажно свярбела. Але дзіўна – хваля гэтая не абяссільвала яго, яна прыбаўляла сілы, прыпадымала з парты і проста штурхала на неабдуманы ўчынак. Яму карцела падскочыць да Валі і, нават не абдымаючы, пацалаваць у маленькае вушка, мочка якога была ўпрыгожана залатой завушніцай – такой не толькі ў іхнім сёмым класе, а мо і ва ўсёй школе ні ў кога не было. Толькі велізарным напружаннем волі Коліку ўдавалася ўседзець на парце.

І што дзіўна, колькі б разоў гэта ні паўтаралася, яго заўсёды працінала гэткае самае пачуццё.

Калі ж Валя зноў паварочвала галаву да дошкі, прыцягальнасць мочкі замянялася светлаватым вянком касы. А Колікава ўзбуджанасць яшчэ доўга трымала яго ў напружанні. Ахвота падскочыць да Валі астывала марудна, няспешна пераходзячы ў мройлівае і таму невыканальнае жаданне пацалаваць гэтую мочку, гэтае вуха. Жаданне трывала толькі да званка з урока. Пасля з'яўлялася іншае – менавіта на перапынку можна было зазірнуць у Валіны вочы, каб не адно нагадаць пра сябе, але нарэшце ўбачыць там такі жаданы і недасяжны агеньчык альбо няхай сабе іскрынку ўзаемнасці ці хоць бы паразумення, альбо спагады.

Спагады, якая дасць надзею на іхняе асобнае – толькі для дваіх – спатканне дзе-небудзь у таемным куточку, які, праўда, наўрад ці знойдзеш у школе, лепш за ўсё на вуліцы, дзе знарочыстасць такой сустрэчы не будзе выклікаць павышанай цікавасці. А сама сустрэча – гэта ўжо зарука, надзея, спадзеў, шанец на нешта большае, вялікае і значнае, чаканае і жаданае, такое салодкае, што ажно губы смягнуць. Тое, што не абавязкова вымаўляецца словамі, але беспамылкова чытаецца ў вачах.

Колік так доўга чакае гэткай сустрэчы-спаткання альбо хоць бы згоды на яе, што ўжо можна было б альбо перагарэць, альбо здзейсніць непрад-

казальны і таму неразумны ўчынак. Але хлопец стрымлівае сябе. З усёй сілы трымаецца. Каб не нашкодзіць, не зрабіць балюча Валі, якая хоць і ігнаруе яго, але ж, пэўна, не вечна будзе доўжыцца тое. Розумам Колік разумее, што ў гэткія моманты ім кіруе не сэрца, а галава, не пачуццё, а розум. Ці добра гэта, то ён яшчэ як след і не разабраўся.

А ўвесь прыкол, кажучы сучасным слэнгам, у тым, што ў Коліка ёсць хоць і не аб'яўлены, ды ўсё ж-такі сур'ёзны супернік. Коля. Так-так. У класе іх так і завуць: Коліка – Колікам, а ягонага цёзку Колем. Прызвычаіліся. Толькі вось за неспакойны характар, за такія ж паводзіны, за асаблівыя завадатарскія здольнасці, якія часта выліваліся ў нечаканыя, а то і неразумныя ўчынкі, за што на яго сварылася нават Валя, Колю празвалі Васёк Трубачоў.

Валя то паклала на Колю свае вочы, а вось ён на яе – нуль увагі. Не выяўляе да дзяўчыны ніякіх эмоцый. Ды не сляпыя аднакласнікі. Бачаць, як Валя пры любой нагодзе імкнецца зачапіць Колю, зазірнуць у вочы, быццам незнарок часта аказваецца побач з ім, пачынае гаворку. Гэта асабліва злуе Коліка.

Але дзіўна – злосць гэтая ўспыхвае не на Валю, а на Колю. Часам Колікава злаванне набывае такую моц, што ў яго проста свярбяць кулакі – так хочацца правучыць гэтага безуважнага задаваку Васька Трубачова. Хай бы хоць неяк адрэагаваў на Валіны паводзіны, а то ж маўчыць. Быццам не заўважае, як бы нічога не даходзіць.

Задавака і ёсць задавака.

Аднойчы Колік не стрымаўся. Зімой тое было. На катку. Калі ўсе навыперадкі ганялі на каньках, Колік знарок разагнаўся так моцна, што нібыта не ўстаяў на нагах і моцна штурхануў Васька Трубачова. Быццам бы падаючы, абапёрся на яго. Але абапёрся так, што той упаў і пакаціўся па лёдзе, пакідаючы за сабой чырвоны след – з носа пайшла кроў. Усё адбылося як бы само сабой, незнарок. Ва ўсякім разе так здавалася Коліку. А вось аднакласнікі ўбачылі больш за Колікава меркаванне. Адны пазіралі на яго, здзекліва ўсміхаючыся, іншыя – асуджальна.

Эмоцый дадала Валя. Яна падскочыла да Колі, які ўжо стаў на ногі, выхапіла са сваёй кішэні ў паліто белую-бялюткую насоўку і церанула пад Колевым носам. Ад нечаканасці той не зразумеў, што адбываецца, і механічна стукнуў па Валінай руцэ. Белая насоўка з чырвонай плямай упала на бліскучы і халодны лёд.

Нешта невядомае прымусіла Коліка сысці з катка. Нават не зняўшы канькоў, ён пакрочыў па глыбокім снезе. Наўздагон пачуў кінутае Валяй яму ў спіну:

– Балбес...

Колікавым вачам стала калюча, пасля волка, а затым вільготна.

Пра здарэнне на катку ніхто ў класе нічога не казаў. Але Колік адчуваў на сабе позіркі аднакласнікаў. Розныя. Цяпер ужо не толькі ён цікаваў за Валяй, а і іншыя назіралі за ім. Валя ж маўчала, не папікала яго, не выгаворвала. Проста маўчала. І гэта было мо самае балючае для Коліка пакаранне. Яно асабліва злавала хлопца. Але зноў дзіва – не на Валю была злосць, а на Колю.

А з Валяй нарэшце-такі ўдалося судакрануцца. Сталася так, што аднойчы вырашылі ўсім класам пайсці ў кіно. Якраз у клуб прывязлі новы фільм. Пайшлі ўсе, акрамя траіх – не маглі. Коля таксама не мог. Заплацілі па 5

капеек і зайшлі ў біткам набітую залу. Рассаджваліся дзе хто хацеў. Колік апынуўся побач з Валяй. Яна не адсунулася, не перасела. Выключылі святло. Засвяціўся экран. Ды Колік дрэнна разумеў, што адбываецца на тым экране. Ён увесь быў заняты Валяй.

"Вось ён, твой шчаслівы момант. Ад яго мо залежыць уся будучыня".

А сэрца тахкае так, што калі на экране сціхаюць кінагероі, Колік баіцца, каб гэтае буханне не пачулі суседзі, каб яно не дайшло да Валіных вушэй.

Колік ажно спацеў. А што зрабіць, не ведаў.

"Мо ціхенька нахіліцца і пацалаваць, калі ў зале цямнее?"

Мо?

"Але што будзе, калі цемра адступіць?"

Трывожнае вычэкванне доўжыцца, здаецца, бясконца.

"А мо ўсё ж рашыцца? Хто ўбачыць? Не паспеюць..."

Развагі-мроі пра пацалунак то мацнелі да поту, то імкліва слабелі да страху. У Коліка не хапала адвагі. А мо рашучасці? А мо такім слабым было тое пачуццё, якое ўвесь дагэтулешні час тачыла яго?

Колік выцягнуў сваю руку бліжэй да Валінай. І спыніўся. Пасля падсунуў крыху бліжэй. Ягоная рука спацела, чаго ніколі раней не было. Яшчэ, яшчэ крышку... І вось Колікава рука дакранулася да Валінай. Валя не прыняла сваю. Колік спацеў яшчэ больш, ажно буйныя кроплі, што выступілі на ілбе, пачалі збірацца ў ручайкі. Але ён нават не зварухнуўся, каб выцерці. Баяўся. Патрывожыць Валю баяўся.

Смеласці большала. І ён адважыўся. Рашуча, але асцярожна прыпадняў сваю руку над Валінай. Нейкае імгненне патрымаў так, а тады апусціў. Валя рукой не кранула, вачыма не варухнула – моўчкі пазірала на экран. Толькі ў вачах бліснула нейкая іскрынка, Колік заўважыў гэта. А мо проста водбліск яркага экрана, а не нешта большае?

Колік ціхенька і павольненька правёў па Валінай руцэ. Пагладзіў. Валіну руку пагладзіў! Адчуў цяпло яе пальцаў.

Сэрца, нібыта патрывожаны вулкан, грымела-бухала на ўсю залу. Вось-вось праб'е грудзіну. І тады...

Што будзе тады, Колік не паспеў дадумаць. Нечакана для яго ў зале ўспыхнула яркае святло. Фільм закончыўся. Гледачы заварушыліся, пачалі кіравацца да выхаду.

Валя ўстала са свайго месца, узяла ў руку партфель і рушыла да дзвярэй. Моўчкі, нават не зірнуўшы на Коліка.

Дні пабеглі сваім звыклым парадкам. Колікава спадзяванне на нешта большае і значнае не апраўдвалася. Валіны паводзіны і адносіны да Колі не змяніліся.

Каб неяк выйсці з гэтай сітуацыі, Колік адважыўся. Не, не на бойку з Колем, не на сустрэчу сам-насам з Валяй.

Аднойчы Колік застаўся ў школе даўжэй звычайнага. Пайшоў у гардэроб, але пасля, нібыта нешта забыўся, вярнуўся ў клас. Падышоў да дошкі. Узяў у рукі крэйду. Некалькі імгненняў пастаяў у роздуме. Пасля рэзка падняў руку і пачаў пісаць.

Ранкам тыя, хто прыйшоў у клас першымі, убачылі тое пісанне.

"Валя + ..... = любовь".

А вось з кім плюс, не было пазначана. Ды было б дзіўна, калі б нехта не зразумеў сэнсу напісанага.

Сапраўдная інтрыга атрымалася. Адны лічылі, што прапушчанае імя

гэта вядома ж Коля. Іншыя ні кропелькі не сумняваліся, што Колік. А вось хто гэта напісаў, пра тое маўчалі.

Вучняў у класе большала. Але ніхто не выціраў дошкі. Чыталі, паціскалі плячыма, загадкава ўсміхаліся, шукалі вачыма хто Валю, хто Колю, а хто Коліка. Коля ніякіх эмоцый не выявіў.

Так атрымалася, што Колік ішоў у клас адразу за Валяй. Вагаўся, ці заходзіць, але рашуча ступіў за парог. І адразу заўважыў, як Валя падыйшла да дошкі, узяла губку і рашуча махнула ёю па напісаным. Не паварочваючы галавы да Коліка, прамовіла:

– Ты балбес, га?

Яна пацерла рукамі, выціраючы з пальцаў крэйду, і пайшла да сваёй парты.

“О, прызнала-такі, зразумела! – крутнулася ўсцешная думка ў Колікавай галаве. – Убачыла, прызнала... А жыццё пакажа, каму шчасце выпадзе”.

– І праўда, балбес, – падаў голас Коля.

“Хай сабе!”, – падумаў Колік і сеў на сваю парту ў пятым радзе.

– Вось табе і маеш, – нечакана галасна прамовіў Колік (жонка дагэтуль так і заве яго), калі эпізод у фільме мінуўся.

– Што? – не зразумела Валя. – Ты ідзеш есці, ці не? А то мы адны будзем вячэраць. А ты кладзіся на галодны жывот.

– Іду-іду, мая ты залатая клапатлівіца, – чамусьці глыбока ўздыхнуўшы, прамовіў Колік.

Прамовіў такім ласкавым і па-дзіцячы шчырым голасам, што Валя здзіўлена ўзняла бровы, зірнула на мужа і неўразумела крутнула галавой. Колік паспеў заўважыць, як пад вянком чорнай касы пафарбаваных валасоў блiснула ў мочцы вуха залатая завушніца, а задзёрты носік ганарыста падскочыў угару.

Воля Чайкоўская



...мой харошы, мой слабы, мой мілы
не сыходзь і не будзь са мной...

# Зялёная тонкая вечнасць

* * *

я хацела б пераўтварыцца ў журавіну
або у кроплю вады
зліцца з ландшафтам
згубіцца ў лесе
застацца тут назаўжды

я хацела б зрабіцца разгубленай і бездапаможнай
згубіць квіток
пашпарт
забыцца на асцярожнасць

я хацела б развучыцца плакаць
наогул забыць што такое слёзы
зразумець як правільна і не балюча
але не заўжды выходзіць
бо проста інакш не можна

я хацела б зрабіцца ружовай або фіялетавай кветкай
такой якія растуць каля твайго дома
слухаць дзіцячы смех
вымяраць глыбіню дзён будаўнічай рулеткай

я хацела б сыходзіць
але заўжды да цябе вяртацца

размаўляць
бачыць
дакранацца

* * *

пахнуць валасы тваім домам
гэта як пропуск
pass
афіцыйны дазвол застацца
мы жывем вось так паміж маім
і тваім айфонамі
і кожны раз як у апошні раз

часам здаецца што так і лепей
больш вастрыні ў пачуццях
больш змагання з сабой
ніхто з нас з табой для другога не лекар
ніхто не хоча як у Карнэліу Парумбою

колькі яшчэ засталося такой свабоды
дзе яе межы і што там пасля яе
я не магу змагацца супраць сваёй прыроды
я не магу больш глядзець у вочы твае

* * *

я не буду нічога аспрэчваць
вы зялёнае тонкае шкло
вы зялёная тонкая вечнасць
у нас з вамі ўсё прайшло

ўсё мінула, сышлі нават згадкі
бездакорныя, як караблі
у стракатых няўмелых латках
яны ціха так праплылі

пазнікалі за небасхілам
і не ўзышлі над зямлёй

мой харошы, мой слабы, мой мілы
не сыходзь і не будзь са мной

* * *

Бываюць такія дні ачышчальныя,
Калі ўсё становіцца крыху больш зразумелым.
Але не надоўга.
Галоўныя прыкметы такога стану:
Уседараванне,
Слёзы,
Любоў.
Часта яму папярэднічае катарсіс,
Развязка,
Кульмінацыя,
Зачын.

Я хачу ведаць прычыну.
Я хачу ведаць прычыну.
Яны хочуць быць ні пры чым.

* * *

Толькі што
сонца ў прорву нябёсаў садзілася.
Я садзілася табе на калені.
Сонца ўбачыла,
Пазайздросіла.
і таксама да цябе папрасілася.

* * *

*В.*

Кроплі вады падаюць з крана
У салатніцу з тоўстага чорнага шкла.
На кухні расце напруга паміж
Мной і маімі адзінотамі.
Я сёння зноў дахаты позна прыйшла
Адкладаць усё што можна й льга
На потым,
На потым.

Графік мой нявызначаны,
Расхрыстаны, раскіданы па кватэры
Без парадку,
Як вопратка ў халасцяка.
Ганюся за тэмпарытмам,

Паспяваю больш чым патрэбна.
І ўсё роўна
Вяртаюся да сябе,
Да свайго пачуцця
Сораму
І віна.
Белага сухога.
Колькі можна гэтага самападману?
Гэтая глухая мана
Не дае засынаць без турботаў.

Наш сусвет абмежаваны тваёй дадзенасцю.
Гэта як дыстанцыйнае навучанне плаванню,
Але спрацоўвае.
Я плыву да цябе,
Прытанцоўваючы.
Я вучуся трымацца нязмушана
На безыменнай глыбіні
Нашаакіянскай упадзіны.

* * *

*В.*

Крыкма крычу тваё імя, кароль мой.
Птушкай з’яўляюся ў тваіх відзежах.
Рукі трымаю напагатове, каб
Перад табой зняць усю адзежу.

Прывід, фантом, ураган надзеі,
Радасць мая і загадка стагоддзя.
Як апісаць – хто ты ёсць, дзе ты,
Феномен, якога няма ў прыродзе.

Грукаю ў шыбы, прыкусваю вусны,
Ведаю – з гэтага нешта будзе.
Шэптам раскажаш мне ўсё сакрэты,
Схіліш свой голаў мне ціха на грудзі.

* * *

*В.*

Я кахаю пакуль толькі тых,
Хто аддае мне ўсё,
Але ніколі не знаходзіцца побач.
Хто памятае мой кожны дотык,
мой кожны ўздых.
І пакідае пасля сябе радасць і горыч.

У гэтых драўляных сказах –
Уся сутнасць усіх маіх
Былых
Дасягненняў,
Позіркаў,
Вершаў,
Аргазмаў.

Гэта не дні, гэта арыгамі,
Макет,
Схема прыблізнай вайны
Паміж мной
І фантомамі
З гэтай гіпертрафіраванай чайханы
У абстаноўцы
Інтэрактыўных стразаў.

Гэта не я,
Не я.
Я – ляжу на беразе мора
І дачытваю Джойса
Нарэшце
З дваццатай спробы.
Промні сонца лашчаць
Выгін маёй мускулістай спіны,
І юрлівы позірк мужчыны,
Не дазваляе маны,
І прабірае мяне да *нутробаў*.

Анатоль Бароўскі



...Слава Воршы ўжо не горша.

Слаўся, пан Астрожскі!..

# Гетману адданы

***Урывак з рамана "Кузня"***

...Досвітак восьмага дня верасня пратрубіў нячутную абвестку – усё гатова для сечы, Вялікі Гетман Канстанцін!

Мне ўжо трэба было засведчыць: направа ад Гетмана стаяла беларуская конніца. Пасярэдзіне, са стрэльбамі-ручніцамі, у чаканні сечы – пехацінцы. Злева знаходзіліся польскія конныя дружыны.

Пяхоту прыкрывала частка гарматаў. Астатнія свае гарматы Канстанцін Астрожскі прыхаваў для «падарунка» маскоўцам...

Звіняць мячы і дзіды, іржуць коні, устаючы на дыбкі, крычаць воі, махаючы мячамі...

Умее змагацца з ворагам Вялікі Гетман, наперад ведае і прадчувае, як будзе пступаць яго супраціўнік. Вунь два гады назад, у канцы красавіка, на Цярнопальшчыне, пад

вёскай Лапушна, пацярпела паразу войска крымскіх татараў. Злучыліся вялікалітоўскае і польскае войска, і далі бой татарам.

Саюзнікі прывялі на поле бітвы каля шасці тысячаў вояў. Улілося каля дзвюх тысячаў вялікалітоўскага, разам з валынскім рушаннем, чатыры тысячы польскай кавалерыі і адна рота польскай пяхоты разам з дзвюма гарматамі. Камандзіры – Вялікі Гетман літоўскі Канстанцін Астрожскі і Вялікі Гетман кароннага М. Камянецкага. Татараў жа было каля дваццаці тысячаў. Не чакаючы асноўнага пачатку, татары перайшлі ў наступленне. Прамарудзіў Канстанцін, прамарудзіў... Польска-літоўская войска панесла цяжкія страты. У баі ўдзельнічалі Міхаіл Вішнявецкі з сынамі, Ян Радзівіл «Барадаты», Пётра Кміта Сабенскі, асабліва вызначыўся ў тым баі Ян Тарноўскі...

Не засмуціўся Канстанцін Астрожскі паразай, і ў тым жа годзе, набраўшы войска з Літвы і Русі да 25 тысячаў, пад Вішнеўцамі перакопскіх татараў патапіў у крыві. І змагаўся з ім зноў Міхаіл Вішнявецкі з сынамі і князь Андрэй Збаражскі, а татарскі цар Мендлі-Гірэй уцёк з малой дружынай...

Чарговая маскоўска-літоўскай вайна... Каля 20 тысячаў татараў, якія вялі тры малодшыя прадстаўнікі роду Гірэяў, не атрымаўшы дазвол ад хана Менглі-Гірэя, зайшлі далёка ўглыб Рускага ваяводства ў Польшчы. Сталі кошам у ваколіцах Буска і выслалі чамбулы да Перамышля. Убачыўшы пагрозу незалежнасці, Жыгімонт Стары даручае кароннаму гетману М. Камянецкаму з дворнымі харугвамі даць адпор крымскім татарам. На дапамогу паслалі вялікалітоўскія сілы на чале з Канстанцінам Астрожскім.

З Падолля рухаліся старосты Ланцкаронскі і Твароўскі.

Аб'явілі паспалітае рушанне.

Адбылося некалькі сутыкненняў з чамбуламі. Злучанае войска раптоўна выступіла 26 красавіка на вялікі татарскі лагер паблізу Вішняўца. Загінула пяць тысячаў татараў, і саюзнікі ўзялі трафей – дзесяць тысячаў коней, адабралі нарабаванае і, што самае галоўнае, вызвалілі з палону шаснаццаць тысячаў людзей. Казалі потым, што быццам бы загінулі ўсе татарскія вярхоўныя – тры ханы і зяць Менглі-Гірэя...

Антон прачытаў тыя летапісы. Іх пісаў яго папярэднік – дзяк Янка Замановіч. Дазволіў Вялікі Гетман Астрожскі яму пазнаёміцца з тымі летапісамі-запісамі.

Татары тады мелі дваццаць тысячаў войска. Столькі ж мае сёння Канстанцін Астрожскі. Затое ў цара Русі цяпер траха восемдзесят тысячаў. Пра што думае Вялікі Гетман, сустракаючы такую арду, на што спадзяецца?

Але нельга летапісцу сумнявацца ў вайсковай мудрасці Вялікага Гетмана, наадварот, трэба верыць у яго неперамножнасць.

Прачытаў Клімовіч, што пісаў пра князя Канстанціна летапісец:

«Року 1509. Псков князь Московский взял. Князь Констентин на Кропивне реце Москву побил 80 тысечей на день Рожества Пресвятые Богородицы и церковь там казал поставити...»

«Року 1514. Жигимонт кроль Польскій, не малое войско выправивши так з Литвы, як и з Польщи, до Вифлянт послал и оных кус обе зголдовал; и теперь под послешенством кроля Полского суть. – Тогож року великий князь Московитский Смоленск облег и 12 недель добывал, з дел стрелял, которых мел около трех сот; и взял Смоленск. Того же року наши побили Москву на Орши».

Антон ведаў, што маскоўскі вялікі князь Васіль Іаанавіч зажадаў

падпарадкаваць сабе землі Вялікага Княства. Яшчэ да гэтага, у 1505 годзе, падчас падрыхтоўкі да вайны з Сігізмундам цар Васіль Іаанавіч, заручыўшыся падтрымкай нямецкага імператара Максіміліяна, паспеў падысці да Смаленска. У яго было трыста гарматаў. Шэсць тыдняў трымаў аблогу, пасля ўзяў яго прыступам. І ўжо са Смаленска паслаў 80 тысячаў вояў у Вільню. Ён, цар, верыў у несумненную перамогу, таму следам за войскам паслаў вазы з жалезнымі ланцугамі для будучых палонных. Рыхтаваліся грунтоўна. Звер ужо прадчуваў паразу слабога праціўніка, пах крыві п'янка кружыў голаў.

Дачуўшыся пра тое, Сігізмунд прыйшоў у шаленства, асабліва тады, калі яму данеслі, што вораг накіроўваецца на Менск.

– Не бываць таму! – ускіпеў правіцель, нахмурыўся, звёўшы бровы на пераносіцы, галавой пакруціў. – Васілько хоча Менск пакарыць? А д'ябла смажанага ён не жадае атрымаць? Ноччу выступаем!..

Сігізмунд I, кіраўнік Княства, сабраў усе літоўскія войскі, далучыў да іх палякаў, нават тую ж арду перакопскіх татараў угаварыў стаць пад сцягі Княства.

Сабраўшы сваё войска і наёмнае, польскае ды татарскае, паскораным маршам падаўся на Менск. Дайшлі хутка, бо войска было добра накормленае, у баях яшчэ не знясілела, ды і коні як след атрымалі падмацунак. Але ў Менску доўга не забавіліся, адразу на Барысаў пакіравалі, дзе і быў прызначаны агульны збор з рэвізіяй усяго войска.

Сігізмунд не сказаць каб застаўся задаволеным пасля агляду агульнага войска, але трыццаць тысячаў конніцы і тры тысячы пяхоты ўсялялі нейкую надзею.

– На Маскву рушым! У сваім жа гняздзе схопім яго за горла! – прыйшла нечакана рызыкоўная думка да Сігізмунда. – У зародышы яго здушыць трэба. Рыхтавацца да паходу!

Летапісец Антон Клімовіч ведаў пра ўсё тое падрабязна. Пра тое сведчыў летапісец Бельскі, які ў сваіх допісах не займаў нейкі адзін бок, а апісваў праўдзіва і канкрэтна.

Прамовіў загад аб рушанні на Масковію Сігізмунд не ў гарачцы, не ў злосці і крыўдзе на маскоўскага цара. Ім адно кіраваў клопат пра родныя землі, якія не павінны быць аддадзеныя захопнікам.

Неўзабаве ў Барысаў прыбыў пасол папы Джновані Пізо. Адразу ж папрасіў аўдыенцыі ў Сігізмунда. І хаця быў заняты неадкладнымі клопатамі пра рушанне, неахвотна дазволіў паслу пераступіць парог палаткі.

– Мой валадар, прыміце самыя шчырыя словы хвалы вашым добрым клопатам і пажаданні добрага здароўя ад яго светласці Леона X, – схіліўся ў нізкім паклоне пасол, капелюхом махнуўшы каля ног, выпраміўся. – Да вас я прыбыў па хадайніцтву нямецкага імператара Міксіміліяна.

– І што імператар? – уперыўся вачыма ў пасла Сігізмунд.

– Максіміліян звяртаецца да вас з просьбай – пазбегнуць вайны з маскоўскім гасударам. Ёсць на тое прычыны, пра якія пакуль што гаварыць нельга. Але ў пройгрышы вы не будзеце.

Сігізмунд склаў рукі на грудзях, кісла ўсміхнуўся, спытаў:

– А ў выйгрышы? Каму дастанецца выйгрыш – Васільку?

Пасол пасур'ёзнеў, пацiснуў плячыма – пра тое імператар нічога не казаў, а яму самому рабіць высновы не выпадала.

– Так, дарагі Джновані, я ўважліва выслухаў цябе, а цяпер ты паслухай мне. Перадай папу, што я вельмі ўдзячны яму за параду, але, на вялікі жаль, не магу прыняць яе. Бо ведаю добра, хто такі мой вораг. Маскоўскі князь чалавек пыхлівы і ганарлівы, і таму ніхто не паверыць, што ў маёй дзяржаве можа наступіць мір, дзякуючы яго дабрыні, толькі вайной можна яго прымусіць прыйсці да міру. Як ён з намі размаўляе, так і мы з ім. Ён іншых слоў не разумее.

Пасол зноў паціснуў плячыма, незадаволена сціснуў губы. Схіліў галаву, паказваючы, што час аўдыенцыі скончыўся.

Раніцай адслужыў Сігізмунд у касцёле Барысава імшу, доўга маліўся стоячы на каленях. Прасіў у Госпада перамогі над маскоўскім князем.

Прыйшоўшы ў сваю стаўку, аддаў камандзірам аб'яднанага войска:

– Рушым на Маскву! Іншага шляху ў нас няма! Наперад!

Пазней Антон будзе ў Варшаве, будзе чытаць польскія летапісы. Яму цікава было прачытаць, што пісаў летапісец пра тую падзею – выступленне Сігізмунда з Барысава. А прачытаў ён наступнае:

«Войскі рухаліся з незвычайнай радасцю, спявалі песні. Усе былі ўпэўнены, што наперадзе іх чакае перамога, бо над галовамі вояў лёталі зграі гурганоў і каркалі неяк весела і ўзнёсла... Вoi, якія верылі ў прымхі, лічылі гэта прадвеснікам несумненнай перамогі».

Іншыя ў карканні чорных птушак убачылі іншае. Прадказальнікі, гледзячы на зоркі, таксама ўбачылі не тое, што хацеў Сігізмунд. Вагаліся цвярозыя розумы і заркачы, але на паўдарозе да Масквы, калі спынілася войска на чарговы прывал, не вытрымалі, да Сігізмунда падступіліся.

Абступілі яго намеснікі і вайсковыя начальнікі, а гаварыць даручылі самаму мудраму і чалавеку ў гадах, не раз пакрамсанаму варожымі мячамі, Рычарду Войскаму.

– Ты мудры і вялікі, разумны і прадбачлівы, – пачаў сваю прамову Рычард, – але выслухай нас...

Сігізмунд выдаўжыў перад сабою руку, падняў даланю, забараняючы далей гаварыць, прамовіў:

– Не буду слухаць! Бацька з таго свету папярэдзіў мяне, каб не ішоў далей, каб вярнуўся ў Барысаў і адтуль назіраў за ваеннымі дзеяннямі. І кіраваць сечай будзе не такі, як я чалавек, а спрактыкаваны ў баях, сапраўдны Ваяр.

Усе радасна загулі, заўсміхаліся.

– Слава Сігізмунду! Слава! – пачуліся адабральныя воклічы.

– Раніцай, як войска адпачне, вяртаемся на Барысаў.

Пра такое распараджэнне ў хуткім часе даведаўся Васіль Іаанавіч, тут жа загадаў сваім баярам накіраваць войскі пад Барысаў і стаць абозам каля ракі Беразіны.

Двойчы накінуліся ваяры маскоўскага князя на палкі Сігізмунда, ды не па сілах было скарыць аб'яднанае рушанне. Адступілі да Дняпра. Думалі, што пагоніцца за імі Сігізмунд, пачне перапраўляцца па рэчцы, а тут яны і кінуць свае свежыя войскі, каб патапіць вояў у хуткай рацэ.

Было такое жаданне ў кіраўніка Вялікага Княства, ды нешта стрымлівала яго, не пускала наперад, вагаўся, сумняваўся, баючыся зрабіць нешта не так, што потым ужо і не паправіш. Не ведаў, якое прыняць рашэнне.

І ў гэты ж час з'явіўся на светлыя вочы Сігізмунда перабежчык-здраднік маскоўскага князя Міхайла Глінскі, з дапамогай якога перад гэтым мас-

коўцы захапілі Смаленск. Не адпрэчыў яго ад сябе Сігізмунд, наладзіў з ім аўдыенцыю. Міхайла расказаў пра планы і колькасць царовага войска. Усялілася ў сэрца надзея і ўпэўненасць. А потым з'явіўся і каронны князь Ян-Труба-Свярчкоўскі, за ім князь Канстанцін Астрожскі, які не так даўно збег з маскоўскага палону...

Вось тады і зусім пераканаўся Сігізмунд, што яго маруднасць можа прывесці да бяды. І тады толькі пакінуў Барысаў, рушыў да Дняпра...

Усё ведаў летапісец Антон Клімовіч, а цяперашнія дзеі разгортваліся на яго вачах. (...)

Сеча распачалася.

Загрымелі на розныя мелодыі баявыя бубны, турыныя рагі, узнятыя ўгару, трубамі-сурмамі абвясцілі пачатак самай грознай і вялікай бітвы спаміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй.

На атрады Астрожскага, якія стаялі пасярэдзіне ўсяго войска, адразу ж накінуліся маскоўскія ратнікі. Яны вылучылі сярод змагароў Вялікага Гетмана. Ды як не вылучыць яго – у срэбным адзенні, са шчытом на грудзях, у сталёвай касцы з паўлінавым пяром, а ў руцэ булава.

Першая атака маскоўцаў як хутка адбылася, так хутка і захліпнулася.

Так і другая, хаця адбывалася яна трошкі даўжэй...

Можна было падацца, што Канстанцін хаваўся за спінамі сваіх вершнікаў, якія не падпускалі да яго злых ворагаў. Ды нечакана ён сам на сваім даўганогім жарабцы вырваўся са сваіх жа радоў і кінуўся наперад.

Не крычаў, не падаваў голасна каманды, а толькі жэстыкуляваў. Камандзіры глядзелі на яго жэсты і, разумеючы іх сэнс, перадавалі ўжо яго загады.

Некалькі скокаў каня аддзялялі Вялікага Гетмана і коннікаў цара.

– Акружыць! Захапіць у палон! – паказваў на Канстанціна Чалядзін, прадчуваючы блізкую перамогу – паланенне Астрожскага. – Раз быў у палоне, і яшчэ няхай пабудзе.

І сам першы рынуўся ў атаку, пачаў махаць направа і налева мячом.

Бачыў, як, пагардліва гледзячы на яго і ўсміхаючыся, стаяў на адным месцы Вялікі Гетман. Не ўцякаў, хаця бачыў, якая арда насоўваецца на яго і яго войска, не рухаўся з месца.

Ды што гэта – Астрожскі не толькі не думаў адступаць, а, наадварот, ускінуў булаву над галавой і павёў сваю конніцу наперад у рашучы наступ, чым здзівіў і ашаломіў маскоўскага камандзіра.

Воі за камандзірам – у агонь і ў ваду.

"Хопіць аднаго разу мяне паланілі, – падумаў Канстанцін, – другога разу не будзе. Не падарую вам такой радасці".

Коннікі абагналі ўсё ж свайго камандзіра, урэзаліся ў варожыя шыхты, і тады ўжо з усёй апантанасцю і ярасцю накінуліся на праціўніка. Яны працавалі дзідамі і шаблямі, прыкрываючы грудзі залатымі шчытамі з выявай Княства, за спінамі бел-чырвона-белыя сцяжкі.

Нечакана справа падступіліся варожыя вершнікі, паспрабавалі акружыць Канстанціна, ды ён, злаўчыўшыся, апусціў на галовы траіх бліжэйшых сваю булаву, а чацвёртага дзідай праткнуў, быццам авадня надакучлівага.

З-за ўзгорка вынырнула падмацаванне маскоўскім воям, наўскач паткнуліся на сярэднія атрады. І тады нехта з конніцы Астрожскага на расейскі манер спалохана крыкнуў з усёй сілы:

– Ребята! Спасайтесь, кто как может, нам не одолеть московского царя!

Воі спынілі сваіх коней, нацягнулі лейцы, коні сталі на дыбкі, заржалі, бы незадаволеныя былі, што не далі ім магчымасць далей урэзацца ў сечу.

– Назад! Наза-ааад! – крыкнуў той жа чалавек.

І коннікі Вялікага Княства развярнулі коней, па камандзе ўжо самога Гетмана пачалі адыходзіць. Чалядзін не паверыў у такую ўдачу, у такую хуткую перамогу, даў каманду свайму войску дагнаць і знішчыць адступаючых коннікаў. Маскоўская конніца з гігіканнем і радаснымі воклічамі адразу ж кінулася ў пагоню.

– Го-го-го! – чуліся радасныя воклічы. – Бяжыць Літва, так ёй, так! Героі, неперад!

Астрожскі разам са сваімі вершнікамі стараліся як найхутчэй даскакаць да бліжэйшага лесу. Там было выратаванне і – перамога.

Канстанцін скакаў наперадзе. Не спыняючы скакуна, зноў падняў булаву над галавой. І тут яго конніца рэзка раздзялілася на дзве часткі. Адна з іх павярнула ўправа, а другая – у адваротны бок, левы. Знікла конніца, растварылася ў хмызняках і лесе, – маскоўцы разгубіліся, не ведаючы, за кім і ў які бок працягваць пагоню...

Ды тут з зараснікаў і замаскіраванай голлямі пазіцыі ўдарыла нечакана артылерыя, якую прыхаваў і падрыхтаваў для такога выпадку Вялікі Гетман. Гарматы са сваіх ствалоў “выплюнулі” адначасова дзесяткі ядраў. Пярэднія рады契 вояў, разарваныя ядрамі, пападалі на зямлю. Ляцелі ў паветра чырвоныя пырскі, маскоўцы клалілся адзін на аднаго і ўтварылася вялізная гара трупаў...

Другі раз ударылі гарматы, трэці, чацвёрты...

Спачатку маскоўцы, якія скакалі пазаду, нічога не зразумелі, ашаломлена глядзелі на крывавае месіва, якое яшчэ дрыгалася ў канвульсіях, параненыя крычалі і стагналі, прасілі дапамогі... Ачомаўшыся, зразумеўшы, што не перамога іх напаткала, а параза, кінуліся наўцёкі.

А Астрожскі прадбачыў тое, для пагоні за ворагам выдзеліў асобныя палкі. І яны гналі акупантаў болей чым пяць міляў, ужо ў спіну ім кідалі вострыя дзіды і спіцы, а дагнаўшы, секлі без жалю сваіх ворагаў... Гналі б і далей, ды ноч, што насунулася раптоўна, пачала хаваць дарогі і саміх ворагаў. А яны і самі, не бачачы перад сабой дарогі, то незнарок у Дняпро ці Крапіўну траплялі, тапіліся, не могучы выбрацца адтуль, то ў балотную дрыгву ўскоквалі, а то ў глухія лясы ўбіваліся, ды не ведалі, як вырвацца назад з лясных нетрыскаў...

Сама зямля помсціла ім за здзек над сабой і людзьмі...

Летапісец потым запіша, што пад Воршай знайшлі сваю смерць больш як сорак тысячаў захопнікаў.

Дзесяць ваяводаў трапіла ў палон.

На той час Васілько знаходзіўся ў Смаленску.

Дачуўшыся пра такую паразу яго войска, загадаў павесіць на гарадскіх валах усіх тых, хто жадаў вярнуць свой горад у межы Вялікага Княства Літоўскага. Збаяўся, што воі Вялікага Гетмана і да Смаленска дапнуць, адной ночы ўцёк у Маскву. А пра што марыў? Бізунамі прыгнаць войска Княства пад крамлёўскія сцены.

Пасля летапісцаў і пазней даследчыкі будуць сцвярджаць: Аршанская бітва-сеча засталася і застанецца ў гісторыі роднага краю як адна з буйнейшых у Еўропе XVI стагоддзя.

На рэчцы Крапіўне царскія ваяводы пацярпелі паразу, а ўсе гарады, якія былі імі захопленыя, вызвалілі.

А крымскія татары, даведаўшыся пра Перамогу Вялікага Гетмана, некалькі гадоў баяліся ісці вайной на Княства.

А пазней у гонар сваёй перамогі Гетман Канстанцін Астрожскі за свае грошы пабудаваў у сталіцы дзяржавы Вільні праваслаўныя храмы святой Тройцы і святога Мікалая.

Яны стаяць і па сёння. (...)

Дзіўна, але калі Антон Клімовіч прышпорыў каня, той імгненна паскакаў наперад. Заіржэў радасна, што прыйшла і яго пара далучыцца да агульнага руху, галаву ўскінуў. Тое, што ён віхром ляцеў па пазіцыях ратнікаў Княства, было зразумела, Антон бачыў, як змагаліся воі, але калі ён пераскочыў канавы і яміны, апынуўшыся ўжо на тэрыторыі маскоўскіх гарнізонаў, здзіўленню летапісца не было межаў:

"Дык вось чаго цябе назвалі Ветрам! – зразумеў летапісец, радасна аглядаючы панараму сечы. – Ты ж лётаеш хутчэй за вецер, цябе ніхто не дагоніць".

Убачыўшы яго, ды яшчэ без зброі, маскоўскі ваяр узняў ужо меч, каб накінуцца на Антона, ды конь з разгону пераскочыў конніка, узняўшыся над яго галавой, далёка ад яго апусціўся на зямлю. Аказваецца, у каня па баках выраслі крылы, і ён лёгка ўзмахнуў імі, летучы ў паветры.

"Дык ты і лётаць умееш, – радасна адзначыў летапісец, – паспяваеш пабыць на самых цікавых месцах..."

Калі праносіліся паўз расейскія рады, пачуў з боку вояў Астрожскага вокліч "ребята, спасайтесь, не одолеть нам врага!.." Ведаў Антон, то сакрэтны план Канстанціна, ніхто з вояў ніколі не мог у роспачы крыкнуць такія словы, нават пад страхам смерці.

А потым пад Смаленскам апынуліся, каля самай стаўкі цара маскоўскага.

Васілько III сядзеў у задуменні ў сваім царовым перасоўным крэсле з высокай спінкай, чакаў вестуноў з Аршанскай сечы, мусіць, думаў, колькі яшчэ бізуноў нарыхтаваць, каб войска Княства прыгнаць да сценаў Крамля... А потым, убачыўшы, што непадалёк ад яго гарцаваў бялявы конь, танцуючы на адным месцы, а на ім сядзеў невядомы вершнік, без зброі, ды яшчэ усміхаўся, спахмурнеў. За плячыма сумка, за спінай на дрэўку бел-чырвона-белы сцяжок. Ніхто не бачыў летапісца, адзін хіба Васілько, як прывід, узнік перад ім, ды яшчэ з крыламі па баках каня, як бы што прадвяшчаючы нядобрае...

Тады ўжо маскаль нахмурыўся, хацеў накласці на сябе крыж, ды рука анямела, як хто камень да яе прывязаў. І ўстаць, падняцца са свайго трона не мог, прывязаў яго нехта нябачнымі вяроўкамі.

І баяўся, і не баяўся нечаканага вершніка, бо ў таго і палаша не было, і дзіды, якой бы мог праткнуць яго, адно што ўсміхаўся нядобрай пасмешкай, зневажальнай пасмешкай, як стрэлы з лука шпурляў у яго... Васілько і рады быў бы ўцякчы ад позірку невядомца, ды падняцца не мог, хацелася крыкнуць свайму вернаму ахоўніку Валатану, ды ў горле камяк даўкі застраг, і сківіцу нават расшчапіць не мог...

Шмат вёрстаў абскакаў Вецер, шмат чаго ўбачыў на свае вочы летапісец. Потым ужо, зачыніўшыся ў сваёй келлі, усё да драбніц апісваў сваімі атрамантамі.

Былі ў Антона і памочнікі, яны працавалі ўпаасобку, не ўзгадняючы нейкія дэталі і факты з Галоўным Летапісцам. Такі быў загад Канстанціна Астрожскага. Бо кожны павінен апісваць тое, што прыкмеціў, што занатаваў у сваёй памяці – у зрокавай і духоўнай.

Падгледзім разам з вамі, што напісаў Антон у сваіх нататках.

«Пахвала пану Віленскаму, старасту Луцкаму і Брацлаўскаму, маршалку валынскай зямлі, Вялікаму Ваяводу, слаўнаму ды Вялікаразумнаму гетману, Князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму:

У год 7023 (1515), 2 індыкта, месяца жніўня першага дня (1 верасня 1514 года – тут і далей удакладненні мае) вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч (Васіль III Іаанавіч (1479-1533) – вялікі князь маскоўскі (з 1503), сын Івана III Васільевіча Каліты і Софіі Палеолаг. Вёў войны з Вялікім Княствам Літоўскім у 1507-1508 і 1512-1522 гадах, жадаючы скарыць паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі Княства), маючы ненажэрную ўтробу ліхвяра, пераступіўшы дамову і крыжацалаванне, з меншага на большае зло, – падаўся і пачаў здабываць некаторыя гарады, бацькаўшчыну і дзедаву спадчыну вялікага ды слаўнага гаспадара Жыгімонта (Жыгімонт I Стары), караля польскага і вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага ды іншых.

І ўзяў Васіль Іаанавіч вялікі слаўны горад Смаленск, бо няма горшага для чалавека, як прагнуць чужое маёмасці, як ціхмянаму і лагодліваму нялітасціва і нядобра чыніць. Гэты вялікаслаўны кароль Жыгімонт сваё слова, дадзенае князю маскоўскаму, трымаў непарушна і неадступна ўва ўсім, але бачачы яго вераломства і хочучы бараніць сваю бацькаўшчыну, Літоўскую зямлю, узяўшы Бога на дапамогу і сваю праўду чуючы, са сваімі князямі ды панамі і з харобрымі і выдатнымі віцязямі са свайго каралеўскага двара пайшоў супраць Васіля Іванавіча, памяняўшы слова прарочае, што Госпад ганарыстым не спрыяе, а пакорлівым міласць і дапамогу пасылае.

І, прыйшоўшы, стаў у Барысаве на вялікай рацэ Беразіне насупраць свайго непрыяцеля, вялікага князя маскоўскага, і адправіў свайго вялікага ваяводу, слаўнага ды вялікаразумнага гетмана князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага (паходзіў са старажытнага магнацкага роду, што браў свой пачатак яшчэ ад тураўскіх князёў), пана віленскага, старасту луцкага, брацлаўскага ды іншых, маршалка Валынскае зямлі, з некаторымі магнатамі, князямі ды роднымі панамі сваімі і з выдатнымі ды харобрымі воямі літоўскімі і рускімі са свайго двара.

А ў той час прыехалі да вялікага караля Жыгімонта на дапамогу ляшскія паны і дваране славутыя, рыцары Кароны Польскае і ўсе супольны, узяўшы Бога на дапамогу і ўзброіўшыся наказам гаспадара свайго караля Жыгімонта, дзёрзка рушылі супраць вялікага мноства людзей князя маскоўскага. Калі ж тыя, будучы ў той час на друцкіх палях, пачулі пра сілу літоўскую, то адступілі за вялікую раку Дняпро.

Узгадайма слова вялікага Ніфанта, які піша да верных хрысціянаў: “Таямніцу цараву захоўваць належыць”, інакш кажучы: гаспадарову справу патаемную не гожа ўсім раскрываць, але аб учынках і мужнасці добрага ды смелага чалавека гожа ўсім абвяшчаці, каб потым іншыя гэтаму вучыліся і смеласць мелі. Так і ў наш час надарылася нам бачыць такога добрага ды смелага стратылата – князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, найвышэйшага гетмана літоўскага.

Спачатку з Божаю дапамогаю, па загадзе і наказе гаспадара свайго, вялікага караля Жыгімонта, зрабіў неабходную свайму войску падрыхтоўку, па-братэрску любоўна і клапатліва яго аб'яднаў і пашыхтаваў. І як прыйшоў ён, слаўны ды вялікі гетман князь Канстанцін Іванавіч, ды нялёгка будзе перайсці шлях водны, то як багабаязны муж і спраўна ваенны прымчаўся да царквы жыватворчае Тройцы і да вялікага цудадзейцы Хрыстовага святога Міколы і, упаўшы на калені, памаліўся Богу. А прыгадайма ўчынкі і смеласць мужнага Антыёха (слуга Аляксандра Македонскага. Калі Аляксандр перамог індыйскага валадара Пора, прызначыў намеснікам у Індыі), вялікага гетмана цара Аляксандра Македонскага, які войску персідскаму раку Арсінар перайсці загадаў, дзе першы ваяр сквасіўся, а астатні як пасуху перайшоў. Так і князь Канстанцін пярэднім людзям плысці загадаў, а астатнія ўжо як па бродзе перайшлі. І так спешна на вялікім полі Аршанскім насупраць маскоўцаў пашыхтаваліся.

О, вялікія і выдатныя віцязі літоўскія, прыпадабніліся вы сваёю мужнасцю харобраю да македонцаў, справаю і навукаю князя Канстанціна Іванавіча, другога Антыёха, гетмана войска македонскага. І паказаў сябе князь Канстанцін адважным рыцарам і верным слугою свайго гаспадара разам са шматмагутнымі воямі літоўскімі, якія, не шкадуючы сябе, памкнуліся на вялікую сілу варожую, і ўдарылі, і мноства людзей з войска маскоўсага пабілі, і восемдзесят тысячаў усмерцілі, а іншых жывымі ў палон узялі: найвышэйшага ваяводу і гетмана маскоўскага войска князя Міхаіла Іванавіча Булгакава Голіцу, брата ягонага князя Дзімітрыя, Івана Андрэевіча Чалядзіна, князя Івана Дзімітрыевіча Пронскага, Дзімітрыя Васільевіча Кітаева, Данілу Андрэевіча Плешчава, Івана ды Уладзімера Сямёнавічаў, князя Барыса Рамаданаўскага, князя Івана Сямёнавіча Старадубскага, князя Пятра Пуцяцкага, князя Сямёна Янавіча ды іншых, чые імёны тут не ўпісаныя, бо не змесцяцца.

Так сваёй вернаю службаю свайму гаспадару, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс, а самае галоўнае – царкву Божую хрысціянскую і многіх мужчынаў і жанчын ад маскоўскага гвалту абараніў. Тут спраўдзілася слова святога айца Яфрэма: “Моцны знямогся, а здаровы расхвараўся, а радасны заплакаў, а заможны страціў”. Як мне, грэшнаму, бачыцца, цяпер усё тое сталася з вялікім князем маскоўскім Васілём.

Успомнім словы Ісаі, сына Амосавага, што прарочыў пра апошнія дні, азарыўшы духам святым, кажучы так: “За памнажэнне злосці людзей і многія іх няпраўды кроў іхняя пральецца моцным патокам, харобрыя і ганарлівыя ад мечаў загінуць, адзін справядлівы ратнік пагоніць несправядлівых сто, а ад ста пабяжыць тысяча, і целы іх будуць на з'ядзенне звярам, і косці іх на агляд усяму жывому”.

Цяпер жа тым прароцтвам адарыў Бог князя Канстанціна Іванавіча, найвышэйшага гетмана літоўскага, што ягоным кіраўніцтвам ды падрыхтоўкаю войска, яго смелага сэрца і рукі сяганнем – людзей князя маскоўскага пабілі, і целы тых забітых звяры і птушкі ядуць, косткі па зямлі валочачы, а патопленых у водах рыбы клююць.

О, прачэсная мудрая галава, як цябе назваць ды ўсхваліць?! Беднасцю мовы маёй і слабасцю розуму майго не магу дамысліцца, якую славу і пашану ўзнесці справе тваёй чыннасці: мужнасць твая роўная мужнасці цара індыйскага Пора (валадар Індыі), якому многія цары ды князі супрацівіцца не маглі. Ягоныя ж справы і слава твар тваёй велічы па-

казваюць. Гэтак жа міласцю Божаю і шчасцем вялікаслаўнага гаспадара Жыгімонта, караля і вялікага князя, вы справаю рук сваіх такому, моцнаму пану, вялікаму князю маскоўскаму, адпор далі, і з харобрымі рыцарамі, выдатнымі віцязямі, з князямі, ды з панамі, ды з дваранамі гаспадарскімі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, разам з вялікаслаўнымі і шляхотнымі рыцарамі, панамі-палякамі, з усімі тваімі добрымі ды вернымі як адзін памочнікамі паказалі вы мужнасць добрых вояў, і шмат замкаў дзяржаўных ды местаў слаўных Вялікага княства Літоўскага вы супакоілі. За тое ты, вялікаслаўны гетмане, варты вялікага і высокага ўшанавання ад свайго гаспадара. Роўныя вы вялікім харобрым рыцарам горада слаўнага Родаса (горад на аднайменным востраве ў Міжземным моры, блізу паўднёва-заходняга ўзбярэжжа Турцыі; старажытная грэцкая калонія ў Малой Азіі), якія сваёй мужнасцю шмат замкаў хрысціянскіх ад паганскіх рук убаранілі. Вашай мужнаю стойкасцю супраць такога моцнага пана заслужыў ты славу і пашану, гэтаю паслугаю гаспадару свайму, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс. За такі ўчынак варты ты не тое што ў тутэйшых вялікіх гарадах дзяржаўных панаваць, але і самім Божым горадам Ерусалімам валодаць. Моц тваёй мужнасці ад усходу да захаду чутная будзе, ты не аднаму сабе, але і ўсяму княству Літоўскаму вялікасць славы ды мужнасці ўчыніў. Яшчэ дадам пра тваю смеласць і адвагу: прыпадобніўся ты да сына Раваава Авія, што ваяваў з дзесяццю каленамі ізрайлевымі і выбіў у іх за адзін дзень пяцьсот тысячаў самых моцных людзей. І ты ягонае справы спадкаемцам стаў: не за адзін дзень, але за тры гадзіны восемдзесят тысячаў маскоўцаў пабіў. Таксама мужнасцю і харобрасцю падобны ты да Тыграніса (магчыма, Тыгран II Вялікі (95-56 да нашай эры) цар Вялікай Арменіі. Вызначаўся смеласцю і выключнай настойлівасцю ў абароне незалежнасці сваёй краіны ад Рымскай імперыі), цара армянскага, пра якога мудры філосаф Фрол Лівійскі піша: “Прыйшоў Тыграніс, цар армянскі, і біўся з Антыёхам, і перамог войска ягонае, і яго самога з горада выгнаў. Тады ж уцёк Антыёх у Персію”.

Так і ты, галава сумленная і вельмі мудрая, учыніў бітву з вялікім князем маскоўскім Васілём і пабіў ягоных людзей і самога яго з горада Смаленска выгнаў. І вялікі князь Васіль ад цябе ўцёк у Маскоўскую старану, у свае ўсходнія гарады, а з сабою і ўладыку смаленскага Варсанофія звёў з Смаленска ў Маскву. Князь жа Канстанцін, знаходзячыся пад Смаленскам і адтуль вяртаючыся, узяў тыя гарады, што ўжо служылі вялікаму князю маскоўскаму: Мсціслаў, Крычаў, Дуброўну, і загадаў ім па-ранейшаму служыць Вялікаму княству Літоўскаму, а сам падаўся ў Літоўскую зямлю да гаспадара свайго, вялікага караля Жыгімонта.

Пачуўшы, што прыехаў князь Астрожскі з усімі сваімі воямі літоўскімі і рускімі, выдатнымі віцязямі, кароль прыняў іх з вялікаю пашанаю ў сваім сталічным горадзе Вільні 3-га снежня, у дзень святога прарока Сафонія. Няхай будзе гонар і слава на векі вечныя вялікаслаўнаму гаспадару, каралю Жыгімонту Казімеравічу, які адолеў супраціўніка свайго – вялікага князя маскоўскага Васіля, а гетману яго выдатнаму, князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, дай Божа, здароўя і шчасця большага, як цяпер. Пабіў ён вялікую сілу маскоўскую, каб так яму біць моцную рацць татарскую, праліваючы кроў іх басурманскую”...

І раз, і дзесяць, і сто разоў я ўслых перачытваў гэтую паэму, і яна, як малітва, улівалася ў маю душу і сэрца. Гэта была сапраўдная малітва Госпаду, які даруе людзям грахі іх і дорыць сілу слаўную, неператможную. І падумалася: вось каб у школе, некалі, калі нас, вучняў, прымушалі вучыць напамяць бязглуздыя тэксты творцаў, няхай і вялікіх, але чужых для нас, ды здагадаліся нам даць адну-адзіную малітву – паэму пра слаўнага князя Канстанціна Астрожскага, – то было б дастаткова, каб у нашых душах прачнулася пачуццё сваёй годнасці і пачування сябе беларусам.

Тады б ніхто і ніколі не вытравіў бы з нашых душаў чужыя думкі і высновы, мы былі б стойкія і моцныя ў сваёй вытрыманасці і перакананасці, што мы адметныя, мы не прыніжаныя і не загнаныя ў чужое ярмо, мы – вольныя. І мова ў нас адна, беларуская, і на ёй звяртаўся да мужных вояў слаўны Канстанцін, каб зразумелі яго заклік і загад дасканальна і бясстрашна рушылі ў бой супраць маскоўцаў.

Паўтаруся: шмат якіх малітваў мы ўзносім да Бога, але адну з іх – “Пахвалу слаўнаму князю і вялікаму гетману Канстанціну Астрожскаму”, – мы павінны ведаць на памяць, і штодня паўтараць яе ўсё жыццё. Пасля таго, як прачытаем “Ойча наш”... І тады ж увальецца ў нас сіла Божая, і не будзем мы ніколі хістацца, як быльнёг пад ветрам, і не будзе ніколі над намі гаспадара чужога і ненавіснага, стаўшы як быццам нам старэйшым “братам”, які ніколі ім насамрэч і не з’яўляўся, – а будзем даваць жорсткі адпор яму, як некалі даў слаўны ваявода. І ніхто нас ніколі не пераможа, не зняволіць, не адбярэ духоўнае і матэрыяльнае багацце, не паставіць на калені...

– З Богам! – выгукнуў Ваявода. – Наперад да свайго вызвалення!

А песня пра тыя падзеі і па сёння жыве:

Ой, у нядзельку параненька
Ўзышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае парады зазываюць,
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
А ні з поля, а ні з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы:
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў.
Б’юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці;
А як з Воршы уцякалі,
Рэчку невялічку праклiналі:
“Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава тутака прапала;
Бадай высыхала да скончэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету”.
Слава Воршы ўжо не горша.
Слаўся, пан Астрожскі!

Ды не ўсё сказана пра той слаўны час! І праз стагоддзі не ўсё будзе апяяна і расказана, бо кожнае імгненне славай ваеннай ахутана, у ганаровы вянок яны ўплятаюцца, не ўсе і імёны пакуль вядомы. І таму я, які атрымаў званне “Летапісца” ад самога Канстанціна Астрожскага, вымушаны і абавязаны дадаць некалькі старонак да ранейшых, каб не абядніць значнасць і час таго перыяду...

Перад гэтым вымушаны паўтарыцца. Войска Вялікагна княства Літоўскага, як вядома, падпарадкоўвалася вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Жыгімонту Казіміравічу. Складалася ёно з прадстаўнікоў абедзьвюх дзяржаваў.

У паходзе да Воршы і ў самой бітве пад камандаваннем князя Канстанціна Астрожскага прымалі ўдзел каля трохсот тысячаў чалавек. У іх меліся гарматы. Лёгкую конніцу ўзначальваў Юры Мікалаевіч Радзівіл, польскіх нанятых вояў – Януш Свярчоўскі. А Войцэх Сампаліньскі быў за камандзіра ў надворнага каралеўскага войска і аддзела паноў.

Аснову і моц узброеных сілаў Княсіва складала паспалітае рушэнне, якое паклікана было напярэдадні ваеннай кампаніі. Кожны шляхціц, які валодаў зямельным надзелам, абавязаны быў несці ваенную павіннасць.

На той час была выдадзена вядомая акруговая прызыўная грамата Жыгімонта. І яна ўбачыла свет 24 траўня 1514 года. Яна заклікала выступіць у паход на дапамогу Смаленску.

Цікавая грамата, гістарычная! Чытаем: “... были наготову на службу нашу на войну, и держали кони сытыи и зброи чистыи» Вызначаўся і тэрмін, у які павінна прыбыць земскае апалчэнне: “кождый со своим поветом, тогож часу, ничего не мешкаючи на кони восседали и до Менска тягнули, на рок, на день святого Ивана». Грамата скіравана была «до князей, земян, бояр и панов» указаных канкрэтна паветаў.

З абшараў Вялікага княства Літоўскага планавалася сабраць харугвы пералічаных адміністратыўных адзінак –

– Віленскае ваяводства: ваявода Мікалай Мікалаевіч Радзівіл;

– Гарадзенскага і Ковенскага паветаў з Троцкага ваяводства: ваявода і надворны маршалак Рыгор Станіслававіч Осцікавіч:

– Жамойцкай зямлі: стараста Станіслаў Янавіч Гаштольд;

– Валынскай зямлі: маршалак Канстанцін Іванавіч Астрожскі;

– Дарагічынскага і Бельскага паветаў з Падляскага ваяводства: віцебскі і падляскі ваявода Іван Сямёнавіч Сапега;

– Берасцейскага павета: берасцейскі стараста Бры Іванавіч Іллініч;

– Уладзімірскага павета: уладзімірскі стараста Андрэй Аляксандравіч Сангушка;

– Наваградскі павет: ваявода Ян Янавіч Забярэзінскі;

– Камянецкі павет; князь Сямён Чартарыскі;

– Гарадзенскі павет: ваявода Юры Мікалаевіч Радзівіл “Геркулес”;

– Менскі павет;, Пінскае княства: пінскі князь Фёдар Іванавіч Яраславіч;

Ваяры ўсходніх тэрыторый, прыгранічных паветаў, якія не пералічаны, раней за ўсіх, яшчэ да пачатку бітвы, рушылі на абарону.

Яшчэ ў 1502 годзе на сойме, які праходзіў у Наваградку, вялікі князь Аляксандр разам з панамі-радцамі ўстанавіў норму – адзін узброены вершнік з дзесяці службаў – 20-30 сялянскіх двароў. А на Віленскім сойме 1511 года вырашылі, што адзін вершнік павінен выстаўляцца не з дзесяці слажбаў, а з дзесяці “дымоў”.

Адшукаліся дакументы, якія маглі належаць да 1513 года, якія сведчаць, што верагодная колькасць вершнікаў, якіх маглі выставіць гарады Княства. Менск павінен быў паставіць у войска 20 узброеных вершнікаў, Гародня – 20, Берасце – 150, Ліда – 30, а Слонім, Ваўкавыск, Наваградак – па 20.

Дарэчы, пра Ліду. З гэтага горада пайшло на бітву шмат якіх людзей, і ўсе яны праславіліся на палях змаганняў з маскоўскім ворагам. Але адно імя стаіць асобна, нават не асобна, а ў першым радзе. Гэта жалудоцкі дзяржаўны князь Васіль Палубінскі (Палубенскі). Яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня 1514 года (за тыдзень да заканчэння тэрміну збораў войска) жалудоцкі дзяржаўца прыйшоў са сваім поштам колькасцю ў 50 вершнікаў. Да яго аддзела быў далучаны больш чым паўтысячны атрад, і князь Палубінскі са сваімі войскамі адным з першых з’явіўся ў раёне будучага змагання. Згодна перапісу 1528 года ён выстаўляў 43 вершнікі, а гэта амаль супадала з ягоным аддзелам у 50 вершнікаў, якіх ён прывёў перад самай бітвай.

Князі Палубінскія... Жыхары Лідчыны павінны памятаць сваіх слынных прадстаўнікоў таго часу. Яны, князі, валодалі Мажэйкаўскім ключом, і прозвішчы, якія існуюць у гэтым краі, паводле з адной версій, паходзяць ад лідскіх Палубнікаў. Выводзіліся паводле ўласнага радаводу ад Андрэя Альгердавіча, тое ўскосна і пацвярджаецца тым фактам, што бацька гэтага слыннага героя Андрэй Палубінскі пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры побач з кіеўскім князем Уладзімірам Альгердавіч. “Непрызнанага” ці “выпадковага”, няхай сабе і князя, побач з сынам Вялікага князя літоўскага наўрад ці дазволілі б пакласці. Значыць, заслужыў, значыць, “жывата свайго не шкадаваў дзеля сваёй Айчыны”, і пра яго мы павінны ведаць, ведаць і шанаваць, урэшце-рэшт – ганарыцца!

Дык хто ж ён – князь Васіль Андрэевіч Палубінскі? Гады жыцця – нарадзіўся каля 1480, не стала 4-га сакавіка 1551 года. Намеснік уладзімірскі (15015-07), дзяржаўца любашанскі і цяцерынскі (1515-16), дзяржаўца жалудоцкі (1516-35), каняўскі ідубіцкі (1527-29), маршалак гаспадарскі з 1521 года, староста мсціслаўскі і радамаскі з 1535 года. Валодаў маёнткамі Гарадзішча, Яблынь, Глыбокае, Круглае (сёння гарадскі пасёлак Круглае ў Магілёўскай вобласці), Палюбічы і Мажэйкава.

Лёс не лашчыў князя. У лютым 1509 года быў арыштаваны. За што? Зносіўся са “здрадцамі” Глінскімі. І тое падалося падазроным. Разам з ім былі арышітаваны князь Ольбрахт Гаштольд, князь Аляксандр Хадкевіч, стайнік Мартын Храбтовіч.

Толькі ў траўні 1511 быў вызвалены з-пад арышту. Пасля яго і астатнія былі вызвалены і апраўданы. І гэта не наклала адмоўны адбітак на іх сэрцы. Князь Васіль Палубінскі і астатнія, хто быў увязнены, не спазніліся на вялікую бітву з маскоўцамі пад Воршу.

Ну і на заканчэнне як заключэнне. Князь Васіль Палубінскі перажыў свайго сына Льва Васільевіча, якога пахаваў у Кіева-Пячорскай лаўры. Пазней і сам быў там пахаваны. Так што адзначым такі факт: у Лаўры спачывае не толькі Гетман Найвышэйшы ў бітве пад Воршай князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, а і паўтысяцкі ў той жа бітве Васіль Андрэевіч Палубінскі. Вечная ім Слава!

Ну і яшчэ, – Палубінскія – гэта, бадай, адзіны беларускі род, князі трох пакаленняў якога спачываюць у Лаўры...

Мікола Кандратаў



...калі ў краіне свабоды няма,
яе шукаюць у вершах...

# Галасы

* * *

Зірніце навокал – як здорава:
пад сонцам танцуюць дажджы!
Вясёлкі гуляюць над горадам,
чапляюць за сосен крыжы.

Гукаюць нібы за ваколіцу –
шукаць таямніцы працяг.
І хочацца сэрцу, і колецца,
гарэзлівым стаць, як дзіця.

І верыцца сэрцу, і помніцца
усё, што змагло перажыць...
І восені лёгкая конніца
услед за гадамі імчыць.

* * *

Я бачыў смерць –
маланкай прамільгнула
і ўдарыла ў бязлюднае аўто,
нібы на свечку
холадам падзьмула,
ды нехта папрасіў яе:
“Пастой!”

Я не паспеў
спалохацца за сына
маленькага,
што побач быў са мной.
А той, кім кіравала смерць,
загінуў,
уратаваўшы нас
адной цаной.

## *11 КРАСАВІКА 2011 ГОДА*

*А што ты ведаеш пра боль?*
*Боль гэты можа стаць табой.*

Амярцвелае метро
пацярпелага народа.
Апакаліпсны настрой.
Кветкі, свечкі ля ўваходу...

А людзей, якіх не Бог
звёў па два бакі бар’ера,
не з’яднаў, на жаль, і боль,
што насычвае паветра.

* * *

*Людміле – з нагоды персанальнай выставы.*

“Твой колер памаранчавы
сустрэнеш толькі восенню.
А ў іншы час не выглядзіш
тут фарбаў апельсінавых”, –
сказаў бы я ў краіне, дзе
не больш за дзевяць колераў
уладай прызнавалася,
калі не ўлічваць шэрага.

І мастакі ў краіне той
не надта шанаваліся,
бо выглядала выклікам
палотнаў іх шматколернасць.

А колеры прыродныя
культ беднасці аспрэчвалі,
таму людзьмі “крамольная”
прырода гвалтавалася...

Калі ж усё змянілася:
краіны сталі іншымі,
і Беларусь шыпшынаю
з мінулага вярнулася,
то сэрцы чалавечыя
сумневаў не пакінулі
і схільнасці да шэрасці,
хоць прысягнулі колерам.

Зямля чакае Майстра, што
іх зменіць светапогляды.
І мастакі ёсць сведкамі
Яго з’яўлення хуткага.
Пакуль жа песні тут жывуць
і фарбы зачароўваюць,
няхай дапамагае ім
твой колер памаранчавы.

## *ПАВУК*

Павук – такі маленькі ткач,
што тчэ ў цішы наш смех і плач,
што дом наш ніткай павуты
засцерагае ад бяды.

Ён мог бы ў іншыя часы
ткаць залатыя паясы,
калі б разоў у сто падрос.
Ну, а пакуль тчэ нечы лёс.

Нас можа ўратаваць мастак,
як і маленькага Хрыста[1].
Ты скажаш, кроў ён смокча? Чым?
Калі не ведаеш, маўчы!

## *ЗІМАРОДАК*

“У Чыжоўцы жыве зімародак!” –
нас абрадаваць мусяць білборды.

---

[1] Калі служкі Ірада шукалі немаўлят, павук заплёў павутой уваход у пячору, дзе знаходзіўся Ісус, і тыя яе абмінулі.

Так, напэўна, было тут заўсёды,
ды Чыжоўкаю Менск завалодаў.

Гэтай птушцы па сэрцы самота –
паасобку ці разам з сяброўкай –
над вадою ў галлі між лістоты
ці то ў норцы, што ў беразе стромкім.

Мае час для спачынку і мрояў,
як зрывацца з абрываў у бруі.
І паэзія спіць зімародкам,
покуль сонца яе афарбуе.

Колькі моцы ў яго, колькі прагі
для працягу шляхетнага роду!
Ад вясны да асенняй развагі
несупынна снуе зімародак...

Нехта зімы сапраўдныя выкраў:
не ў краіне цяплей – у прыродзе.
Зімародак збіраецца ў вырай –
і ніяк нам зімы не народзіць.

* * *

Калі засынае дзесь вецер між хмар,
адно ловіць сонца ветразь.
Калі ў краіне свабоды няма,
яе шукаюць у вершах.

У тых, над якімі праз час і смерць
ледзь бачна лунаюць німбы.
А кожны яшчэ не створаны верш
імкне зрабіцца верлібрам,

які не прымае законаў старых
для споведзі творчай прыроды,
але, на жаль, без памераў і рыфм
ілюзіяй ёсць свабоды.

* * *

*Ярашу Малішэўскаму*

Мы не прагнем ні славы зямной, ні нірваны,
мы жывём у краіне амаль чвартаванай.

І не можам даць прывіднай велічы дзецям –
мы жывём у краіне з вырваным сэрцам.

Бы народжаныя пад злавеснаю зоркай,
мы жывём у краіне з памяццю сцёртай.

Падсвядома трываем крыўдаў аблогу,
толькі маючы гены, што нам дапамогуць.

* * *

І не раз яшчэ неба заплача
па Асобах, што з намі жылі,
нарадзіўшыся з сэрцам гарачым,
каб адбыцца на гэтай зямлі,

што не здрадзілі Слову і Роду,
нават зведаўшы пекла ці рай,
што гукалі праз краты свабоду,
баранілі зняверaны край.

Што ідуць, як праз міннае поле,
па няроўным і жорсткім жыцці,
пагарджаючы страхам і болем –
колькі здарыцца крокаў прайсці.

Тут не зводзяцца зорныя людзі,
быццам іх незлічоная раць.
Дзякуй Богу, яшчэ ў Беларусі
засталося каму паміраць.

## ЧАЛАВЕК З УСМЕШКАЮ НА ТВАРЫ

*Памяці Ю.М. Сапажкова*

На шляху, якім блукала сэрца,
думкі нараджаючы і мары,
пэўна, мне павінен быў сустрэцца
Чалавек з усмешкаю на твары.

Ён прамовіў словы жорсткай праўды,
быццам ведаў, што не анямею –
быццам свечку запаліў парадай,
і пакінуў кволую надзею...

Час акрэсліў многае і здзейсніў.
Выспела жыцця майго калоссе.
І ясней Нябеснаму Судзейству,
што ўдалося ў ім, што не ўдалося.

Крэсліў час расстанні і абдымкі.
Зноў сустрэўся я, бы з Божым дарам,
з разуменнем Вашым і падтрымкай,
Чалавек з усмешкаю на твары...

Горка сэрцу адчуваць і сумна,
што ніколі да зямнога ўзмежку
Ваш прыязны голас не пачуць мне
і не ўбачыць сонечнай усмешкі.

Знікне ўсё, што мусіла пачацца.
А пакуль спрыяе творчай веры
памяць, што калісьці меў я шчасце
Вамі быць ахрышчаным у вершы.

* * *

*Памяці Зміцера Сідаровіча*

Галасы – каласы пад сярпом Тваім, Божа.
Песня корміць, як хлеб.
І ў ліхія часы нават тым дапаможа,
хто знямеў ці аслеп.

Нават тым, хто не мае душэўнае цноты –
усвядоміць свой род.
А народ, што адно за зямныя даброты,
ну які ён народ?

Галасы застаюцца, як душы зямныя,
што даюцца не ўсім
у дадатак да той, што памкнецца ў вышыні
праз сутонне і дым.

Кожны голас такі нашы лекуе сэрцы
ад знямогі і ран.
Кожны голас такі для жывых застаецца,
як зямны талісман.

* * *

Боль немагчыма прыручыць,
як ні ўлагоджвай, ні няволь.
Цябе не запытае: “Чый?” –
а проста сцісне сэрца боль.

Боль немагчыма зразумець –
калі ён пусціць карані,

іх вырве з сэрца толькі смерць
і пахавае вечны Ніл.

## *ПРАЎДА З ПРЫСМАКАМ МАНЫ*

Над абшарам сноў зямных –
на сучаснікаў няшчасце –
праўда з прысмакам маны
з чорнай хмары пралілася.

І на кожную душу,
абцяжараную целам –
плён атрутнага дажджу,
ад якога вар'яцеюць.

І паўсталі туманы.
Дзень змірыўся з новым станам –
праўда з прысмакам маны
выглядае надта вабна.

А набраўшы моц, яна
(без пятлі і без сякеры),
бы нявіннае ягня,
смокча ўпотай з сэрцаў веру.

Тым, што быццам на кані,
свет сябе дарэмна цешыць –
праўда з прысмакам маны
сёння піша нават вершы,

дзе з іроніяй амаль
набакір шыхтуе словы,
без "класічнага ярма"
лёс люструючы "лайновы".

Мы не звонім у званы
з выпадку Вялікай здрады –
праўда з прысмакам маны
стала эталонам праўды?

## *ГОЛАС*

Змізарнелі думкі і пачуцці,
і спынілі мары свой разбег.
Хоць усё яшчэ нібыта чутны
голас, што з нябёс шаптаў табе,

што ў часы благія быў з табою,
каб ты сам з адчаю не прапаў –
слоў паіў крынічнаю вадою,
ад духоўнай стомы ратаваў.

Ён і ў зорны час дарыў падтрымку,
ахінаў на рэдкім віражы
і ў застольным шумным перапынку
не даваў расплюхацца душы.

Ты яму заўсёдна будзеш вінны –
на крыжы пакут і перамог –
тым, што да апошняе хвіліны
бедных душ не пакідае Бог.

### *ЛЕЎ*

Не кожны і Леў здольны быць каралём
у свеце сучасных варункаў,
дзе без мазалёў не здабыць медалёў,
хай іншага ты гатунку.

Не важна, у чым ён праявіцца ўсё ж,
заззяўшы на пэўнай глебе.
Але, як Льву, цана яму – грош,
калі ён іншых не грэе.

Не ўсякі Леў варты быць каралём,
хай нават ён мае варту –
ні сілай, ні страхам яму, ні рублём
не спраўдзіць сваю вартасць.

Хай нават у кожным банкетным віры
будзе жаданым госцем –
яму не пасуе глядзець, як з гары,
альбо камусьці зайздросціць.

І дай яму Бог не восеньскім днём
спасцігнуць розумам кволым,
што лепей наогул не быць каралём,
чым быць каралём голым.

Адам Глобус



...пяро было чароўным,

але аднаразовым...

# Віленскія казкі

## Браты і сёстры

Яраслаў Вуж вырашыў навучыцца рабіць тэатральныя дэкарацыі і паехаў для гэтага з Вільні ў Мінск. Там ён і закахаўся ў артыстачку з драмтэатра імя Купалы. Вуж і артыстачка былі шчаслівай парай. Яны любіліся ледзь не штодня, ажно пакуль у іх адносіны не палез старэйшы брат артыстачкі Фелікс. Ён пачаў патрабаваць ад Яраслава вяселля. Любіш – жаніся! Вуж паспрабаваў аджартавацца, за гэта Фелікс ударыў дэкаратара малатком па лбе і забіў. У артыстачкі, якая бачыла забойства, здарылася істэрыка. Феліксу давялося абліць яе халоднай вадой з вядра, каб супакоілася. Яна прыйшла ў сябе і дапамагла брату закапаць каханка ў лесе пад Ракавам.

Яраслаў праляжаў там нядоўга, бо ніхто яго не аплакаў як след. Келб выбраўся з-пад зямлі і пайшоў у Вільню. Па дарозе ён заходзіў у чужыя двары і спрабаваў папрасіць жанчын, каб тыя пагаласілі па ім. Ніхто не стаў слухаць нябожчыка: усе ўцякалі ад чалавека, аблепленага сырой

*Заканчэнне. Пачатак у №84.*

і цёмнай зямлёй. Толькі сястра Яраслава Магда Вуж выслухала брата, аплакала яго, пахавала на Росах і пасля гэтага паехала ў Мінск. Там яна знайшла Фелікса і абліла яго сернай кіслатой з галавы да ног.

## Белы промень

Чуў і такую казку... Па белым прамяні дзённага святла душа пакутніка выбралася з чорнага пякельнага полымя ў рай.

## Дубовы кій

Стары Мечыслаў Кужаль, калі напраўду пачаў паміраць, сабраў блізкіх і папрасіў, каб у першую ноч пасля пахавання нехта пайшоў ахоўваць яго свежую магілу. Усе родныя паабяцалі выканаць запавет Мечыслава.

На пышных хаўтурах сваякі моцна панаядаліся і панапіваліся. Валачыся ўночы на могілкі? Каму тое трэба? Што і ад каго тамака ахоўваць? Вянкі ды букеты? Бяздушнае цела? Каму яно патрэбна, акрамя зямлі? Пагаманілі сваякі за сталом і параспаўзаліся па сваіх дамах ды кватэрах. Толькі малодшая дачка Мечыслава Кужаля Рэгіна ўзяла бацькаў дубовы кій і пайшла да свежай, абкладзенай жывымі кветкамі магілы.

У самую густую цемрадзь ночы на могілках з'явіўся белы трапятлівы прывід. Ён наблізіўся да магілы Мечыслава і пачаў хапаць ды раскідваць вянкі з букетамі. Ад шуму, што нарабіў прывід, Рэгіна, якая паспела задрамаць, прачнулася і крыкнула:

– Ты хто? Што табе трэба ад магілы майго бацькі?

– Стары Кужаль здзекаваўся з мяне! Ён усяляк прыніжаў мяне! Мардаваў! Тоўк! Ганіў! Цяпер я прыйшоў, каб адпомсціць...

– Раз бацька цябе ганіў і прыніжаў, значыць, ты заслужыў тыя знявагу і ганьбу! Цяпер пасярод ночы ты вандаліш і шуміш на могілках. Вось я вазьму і разаб'ю цябе дубовым кіем! – дзяўчына ўдарыла па белым прывідзе бацькавым кіем. Ён патрымцеў яшчэ якое імгненне і разваліўся на аскабалкі. З разбітага прывіда на магільны пясок высыпалася цэлая гара залатых манет.

Над бацькавай магілай Рэгіна прасядзела да самай раніцай. Калі развіднела, дзяўчына сабрала золата і вярнулася дамоў, дзе расказала сваякам пра тое, як выканала запавет бацькі і атрымала дадатковую спадчыну на Бернардзінскіх могілках.

## Шэры сом

Хлопчык Ясь Доўгі пайшоў на рыбу і злавіў у Віліі невялічкага шэрага сома. Паланёны сомік загаварыў чалавечай мовай:

– Злітуйся, хлопча! Выпусці мяне ў Вілію! Калі будзе ў цябе якая бяда, я прыплыву і дапамагу. Каб мяне паклікаць, ты зараз адшчыкні ад майго вуса маленечкі кавалак. Калі я спатрэблюся, падыдзі да рэчкі і спалі гэты кавалачак. Попел кінь у Вілію. Я пачую, як ён упадзе на ваду, і адразу з'яўлюся.

Ясь Доўгі не паверыў ніводнаму слову рыбіны, але злітаваўся і адпусціў яе ў родную хвалю. Праўда, кавалачак вуса хлопец адшчыкнуў і пакінуў сабе на ўсялякі выпадак.

Жыццё бяжыць хутка. Праляцела жыццё і ў Яся Доўгага. Ніякай вялікай бяды з ім так і не здарылася. Кавалак вуса, адшчыкнуты ў шэрага сома, праляжаў у яго ажно семдзесят сем гадоў. Стары Ясь вырашыў яго спаліць і паглядзець, ці праўду казала рыбіна. Як толькі попел спаленага вуса ўпаў на ваду, з Віліі паўстаў велізарны шэры сом і запытаў, чым можа дапамагчы.

– Можаш мяне зрабіць маладым? – дзеля жарту сказаў Ясь Доўгі.

– Магу!

– Зрабі!

Шэры сом зрабіў са старога Яся малога хлопчыка. Так Ясь Доўгі пражыў на беразе Віліі не адно, а цэлыя два жыцці, а ўсё таму, што ў адзін важны момант быў літасцівым.

## Жаўтабокая калебаса

На Ратушным пляцы ў маленькай антыкварнай крамцы Алесь Верабей набыў жаўтабокую калебасу. Касавокі крамнік сказаў Вераб'ю, што калебаса чароўная і можа спяваць; толькі ён забыўся, што трэба зрабіць, каб паўднёваамерыканская біклага заспявала. Раней памятаў, а цяпер састарэў і забыўся. Не каб сесці і ўсё запісаць пра жаўтабокую калебасу. Паспадзяваўся на памяць, а яна, нягодніца, і падвяла.

Алесь купляў калебасу выключна для ўпрыгожвання інтэр'ера ў сваім начным бары з назвай "Амазонка". У бары несупынна круціліся песні Боба Марлі, таму спевы жаўтабокай калебасы былі нібыта і непатрэбнымі, але ёсць такая рэч, як цікаўнасць. Алесю Вераб'ю стала цікава пачуць голас калебасы. Ён яе пагладждваў, ён па ёй пастукваў, ён яе трос. Калебаса маўчала. Ён наліваў у яе ваду, віно і ром. Ні гу-гу. Ён яе ўгаворваў, ён ёй пагражаў, ён на яе сварыўся і абяцаў выкінуць на лютаўскі мароз. Калебаса маўчала. Верабей ужо падумаў, што крамнік з Ратушнага пляца пажартаваў. Гандаль – мастацтва падманаў. Чаму не падмануць пакупніка, які сам хоча падмануцца? У выніку Верабей панёс жаўтабокую калебасу, каб паставіць на паліцу з бутэлькамі залатой тэкілы. Каб было больш зручна несці, Алесь засунуў свой вялікі палец у адтуліну калебасы, а яна ўзяла ды заспявала. Яе спеў быў цудоўным, такім спевам мог зачаравацца і сам Боб Марлі.

## Пунсовы вецер

Вітальд Бобрык любіў Хрысціну Сойку. Хрысціна кахала Вітальда. Справа маладая. Закаханыя чакалі свайго прызначанага на верасень вяселля і штовечар прагульваліся па летняй Вільні. У час няспешнай прагулкі ў Нагорным парку на іх наляцеў пунсовы вецер. Ён быў такі жорсткі, што нават апісаць цяжка. Вецер адарваў нос і вуха з тварыка Хрысціны. Адарваў ёй нагу і руку. Паадрыванае пунсовы вецер узняў у неба і параскідаў па розных кутках цёмнага парку.

Вітальд адшукаў вуха і нос каханай. Знайшоў і прыляпіў на месца. Ён адшукаў яе нагу і гэтаксама спрытна прымайстраваў да цела. Руку Хрысціны Сойкі Вітальд знайсці не змог. Ён шукаў яе цэлую ноч, шукаў усю раніцу і наступны дзень. Усе думалі, што Хрысціна з'явіцца на ўласнае вяселле аднарукай. Усе клялі страшнымі праклёнамі пунсовы вецер

і прасілі неба вярнуць нявесце руку. Здарыўся цуд: рука ў Хрысціны адрасла. Яна была крышачку меншай і танчэйшай за папярэднюю, але гэта, калі асабліва не прыглядацца, не кідалася ў вочы. Вяселле ў Бобрыкаў прайшло радасна.

## Зорная птушка

Уліна Зёлка жыла адна. Кожную зіму яна карміла птушак чорнымі і белымі семкамі. Зёлка хварэла, атрымлівала мізэрную пенсію, грошай ёй увесь час не хапала. Аднойчы настаў такі чорны дзень, што ў яе нават не знайшлося капейкі, каб купіць тыя семкі. Сініцы прыляцелі раніцай на падаконне, але пачастункаў не знайшлі. Усе птушкі паляцелі далей, і толькі адна сініца засталася. Яна не паляцела разам з астатнімі, а ўзнялася ў яшчэ цёмнае і поўнае зорак неба. Там яна здзяўбла з густога і сіняга неба некалькі зялёных зорачак і са звычайнай сініцы зрабілася зорнай птушкай. Яна заззяла дыяментамі, смарагдамі і сапфірамі. Сініца вярнулася да хворай Зёлкі і павяла яе па Вільні, завяла ў яўрэйскі квартал, дзе паказала за старой напаўразбуранай дрывотняй закапаную ў зямлю скарбонку з золатам. Знойдзеных манет хапіла на новую кватэру і лячэнне. Уліна цалкам вылечылася, знайшла сабе мужа і пачала працаваць прадаўшчыцай бурштынавых і саламяных упрыгожанняў.

## Палёты на спіне

Тамара Загорская прыйшла да доктара і папрасіла пілюль ад дэпрэсіі. Іх Тамара прасіла не для сябе, а для дачкі Вольгі. Доктар пачаў распытваць пра хваробу. Загорская расказала, што другі тыдзень дачка не ўстае з ложка, ляжыць тварам да сцяны, нічога не есць, толькі п’е падсоленую ваду. Доктар сказаў знерваванай маці, што Вольгу трэба лячыць не пілюлямі, а палётамі на спіне. Загорская не паверыла, што дачка яе зможа лётаць, а тым больш – лётаць на спіне. Доктар узяў Тамару за руку і паказаў, як трэба павольна ўздымацца ў паветра. Рабіць гэта трэба вертыкальна, а потым няспешна класціся на спіну і ляцець у вышыні. “Некалькі колаў над вечаровай жнівеньскай Вільняй – і дэпрэсія скончыцца!” – запэўніў усхваляваную палётам пацыентку вопытны доктар.

Тамара ўгаварыла Вольгу ўзняцца над горадам і, лежачы на спіне, абляцець Вільню тры разы. Калі маці з дачкой, стомленыя палётам, апусціліся на свой балкон, дэпрэсія ў Вольгі сапраўды прапала, нібыта яе і не было.

## Груганы

Жыў у Вільні вядзьмар Шчытамір Коўш. Ён добра чараваў і варажыў на картах, а калі сказаць чыстую праўду – Шчытамір апавядаў даверлівым людзям тое, што яны самі хацелі пачуць. Коўш шчодра абяцаў шчасце, добрую долю і багацце. Нешта з наабяцанага ведзьмаром спраўджвалася, а праз гэта і вядомасць яго расла. Вырасла слава Шчытаміра ажно да таго, што паклікаў яго сам вялікі князь і загадаў за тры дні знайсці скрадзены ў яго куфар золата. Коўш ніколі не спадзяваўся на ласку вялікага князя, таму сабраўся і як мага хутчэй уцёк з Вільні.

Ідучы праз лес, Шчытамір спыніўся адпачыць пад вялікім дубам. На тое дрэва прыляцелі два груганы – усходні груган і заходні. Усходні расказаў заходняму віленскую навіну пра тое, што ў вялікага князя злодзеі скралі куфар. Заходні расказаў усходняму працяг той навіны: злодзеі закапалі золата на беразе Нёмана пад Друскенікамі. Шчытамір вярнуўся ў Вільню, наведаў палац князя і паведаміў пра закапанае каля Нёмана золата. Куфар са скарбам знайшлі. Шчытаміру Каўшу добра заплацілі за службу, але ён усё адно з'ехаў з Вільні, каб лішні раз не спакушаць лёс.

## Залаты ваўкаліс

Стаяў змрочны час, калі ў Вільні на троне сядзеў шэравалосы князь. Жорсткі, бязлітасны, крыважэрны валадар кожную ноч, калі ўсе віленскія брамы мусілі зачыняцца, выпускаў з замкавых сутарэнняў залатога ваўкаліса. Звяруга быў хітры, як ліс, ды моцны і вялікі, як воўк. Залаты ваўкаліс ірваў, грыз і рэзаў усіх, хто не паспеў зачыніцца за брамамі на сваіх падворках і за дзвярыма сваіх дамкоў. Шмат п'яных віленчукоў пазабіваў ваўкаліс. Многа разяватых віленчанак згінула пад лапамі людарэза. Не шкадаваў залаты ваўкаліс і малых дзяцей. Бацькі дзяцей-пакутнікаў спрабавалі злавіць і знішчыць людарэза, але нічога добрага з іх помсты не атрымалася. Звяруга пашкуматаў усіх мсціўцаў на анучы.

Добра, што гора не бывае вечным. Кравец Язэп Мацак прачытаў у адной старажытнай кнізе, што залатога ваўкаліса можа перамагчы асілак у залатой кашулі. Уся Вільня таемна збірала і сабрала золата на кашулю для Язэпа Мацака. Ён пашыў сабе патрэбную вопратку, выйшаў пасярод ночы на віленскую вуліцу, сустрэў ваўкаліса і забіў звяругу. Як толькі Вільня пачула пра перамогу над зверам, людзі павыходзілі з-за сваіх дзвярэй і брам. Яны прыйшлі ў палац і скінулі з трона шэравалосага князя. На вольны трон людзі запрасілі і пасадзілі краўца Язэпа Мацака ў залатой кашулі – і запанавала ў Вільні справядлівасць.

## Чорны Паляўнічы

Чорны Паляўнічы прывалок у Вільню чуму. У тыя старадаўнія часы страшныя хваробы разгульвалі па нашых краях як у сябе дома. Халера, чума, сухоты выкошвалі цэлыя вёскі, мястэчкі і гарады. У той раз чвэрць Вільні вымерла ад чумы, якую Паляўнічы падхапіў у гнілой яміне.

Чорны Паляўнічы блукаў па пушчы, хацеў застрэліць дзіка, каб зімою быў запас мяса. Стаміўся ён, ходзячы. Так стаміўся, што не заўважыў яміну, выкапаную на звера. Уваліўся ў яе. Добра, што яміна была старая і вострыя калы ў ёй пападгнівалі. Чорны Паляўнічы пабіўся і паабдзіраўся, але не загінуў на калах. Выбрацца з пасткі сам ён не змог. Прасядзеў у халоднай гразі цэлую ноч, а раніцай убачыў над краем ямы галаву цікаўнага Зайца. Чорны Паляўнічы звярнуўся да яго за дапамогай. Папрасіў, каб той скінуў у яміну сухое дрэва, па якім можна было б вылезці. Заяц пашкадаваў чалавека, прыкаціў і ўкінуў у яміну сухую яліну. Па ёй Чорны Паляўнічы выбраўся з пасткі.

Каб пагрэцца і абсушыцца, чалавек расклаў вогнішча. Каля вялікага агню згаладалы Паляўнічы забіў і з'еў Зайца. Па дарозе дамоў ён адчуў, што нейкая цяжкая хвароба захоплівае ператомленае цела. Дома на ложку

Чорны Паляўнічы пакрыўся гнойнымі струпамі і сканаў. Ад Паляўнічага чума перакінулася на ягоных сямейнікаў, ад сямейнікаў пайшла па суседзях, ад суседзяў распаўзлася па ўсёй Вільні. Чвэрць гараджан выправілася следам за Чорным Паляўнічым. Усё з-за таго, казалі людзі, што няўдзячны чалавек забіў свайго выратавальніка.

## Шэрае возера

Анэта Крыж з дзяцінства хадзіла ў ягады. Лясы вакол Вільні яна ведала добра, таму заўсёды вярталася дадому з поўным вядром. У той дзень Анэта выправілася ў маліны. Назбірала трохлітровы бітончык і пайшла на дарогу, каб спыніць спадарожную машыну і на ёй вярнуцца ў горад. Сцежка бегла каля Чорнага возера. Анэце захацелася змыць з сябе стому ў цёмнай, як ноч, вадзе. Яна распранулася і зайшла ў возера, памыла сябе знізу, памыла зверху і апаласнула з усіх бакоў.

Да Вільні Анэта Крыж даехала без прыгод, а дома ёй зрабілася кепска, ды так, што думала – памрэ. Доктарка шукала і не знайшла ў жанчыны прыкмет звыклай хваробы, а пачуўшы пра купанне ў Шэрым возеры, параіла пайсці да шаптухі. Анэта наведалася да знахаркі і расказала, як у Шэрым возеры памыла сябе знізу, зверху і з усіх бакоў. Шаптуха загадала жанчыне вярнуцца да возера і папрасіць у яго прабачэння. Перапрошваць возера Анэце Крыж давялося не за тое, што яна памыла сябе знізу, зверху і з усіх бакоў, а за тое, што насікала ў цёмную ваду. Шэрае возера выслухала прабачэнні Анэты, даравала ёй нахабства і адагнала ад яе насланую хваробу.

## Трава вяртання

У Зарэччы некалі жылі паляўнічыя браты Рысі. Сымон – старэйшы, Язэп – малодшы і Віктар – сярэдні. Аднаго разу браты выбраліся на чарговае паляванне і ўсе як адзін забыліся на запалкі і запальнічкі. Сабраліся яны адпачыць у лесе, пагрэцца каля вогнішча, а раскласці агонь няма чым.

Пайшоў Язэп шукаць запалкі. Знайшоў у лесе крывы дамок. Зайшоў у яго і папрасіў у старой гаспадыні пазычыць запалкі або запальнічку. Старая пырснула на Язэпа атрутай. Мужчына сканаў, і людаедка пачала варыць яго ў медным сагане.

Тым часам Віктар выправіўся шукаць брата і агню. Сярэдні брат, як і малодшы, знайшоў дамок. Зайшоў у яго і таксама трапіў у медны саган. Старая ледзь паспела зварыць братоў Рысяў, як у яе дамку з'явіўся Сымон. Ён збіў старую на горкі яблык, прымусіў яе запарыць траву вяртання і абмыць чароўным зваротным узварам целы сваіх малодшых братоў. Старая абмыла братоў, выцерла іх ільнянымі рушнікамі – і мужчыны ажылі. Розгалас пра чарадзейную траву вяртання ў адзін міг абляцеў усю Вільню. Шмат хто хадзіў па тую траву ў лес, але ніхто больш не знайшоў ні крывога дамка старой людаедкі, ні чароўнай травы вяртання.

## Залатыя дранікі

Самая смачная бульба ў нашым кутку зямлі, вядома, у Вільні. Бо паўсюль садзяць бульбу, якую некалі прывезлі з Амерыкі, а пад Вільняй расце бульба, якую ў даўнія часы даставілі з месяца. Здабыла яе князёўна Біруга.

Аднойчы ўначы князёўна сядзела на самай высокай віленскай вежы і пабачыла на месяцы індзейца, які ў гэты час на сваім невялічкім полі капаў бульбу. Бірута распранулася, абмазала цела лятучым бальзамам, села верхам на бярозавае памяло і выправілася ў зорнае неба. Князёўна прыляцела на месяц, дзе пазнаёмілася з маладым чырванаскурым селянінам. Ён пачаставаў яе маладой бульбінай. Біруце так спадабалася падсоленая вараная бульба з маслам і кропам, што яна выпрасіла ў індзейца цэлы мех з клубнямі. Князёўна распытала, як садзіць бульбу і калі яе трэба збіраць. Індзеец навучыў Біруту не толькі садзіць і капаць, ён паказаў ёй, як смажыць з бульбы хрусткія залатыя дранікі. Князёўна вярнулася ў Вільню, дзе загадала сваім сялянам вырошчваць самую смачную бульбу на белым свеце і смажыць з яе залатыя дранікі.

## Сіняя цагліна

Усё найлепшае з таго, што пабудавалася ў старой Вільні, паўстала дзякуючы сіняй цагліне. Вежа Гедыміна, сабор Ганны, універсітэт, званіца каля кафедральнага сабора, яўрэйскі квартал, царква Параскевы і шмат іншых пабудоў маюць сувязь з той чароўнай рэччу. У даўнія часы цагліну падараваў віленскім дойлідам анёл. Ён прынёс з неба на зямлю нябесна-сінюю цагліну, на адным баку якой быў намалёваны залаты леў, а на другім – залаты алень. Анёл сказаў дойлідам, што, перад тым як пачаць нешта будаваць у горадзе, трэба прыйсці позна ўвечары на месца будучай будоўлі і пакласці на зямлю сінюю цагліну. Класці неабходна было менавіта львом да неба. Яна павінна была праляжаць так цэлую ноч. Раніцай трэба было паглядзець уважліва, ці не зрушылася цагліна, ці не перакулілася львом да зямлі, а залатым аленем – да неба. Калі зрушылася ці, крый бог, перакулілася, пачынаць будоўлю ў гэтым месцы было нельга, бо, што ні пабудуй, – стаяць не будзе, разбурыцца само ці нехта зруйнуе. Дойліды паслухаліся анёла. З таго часу ледзь не тысячу гадоў усё самае прыгожае паўставала ў Вільні згодна з прадказаннямі сіняй цагліны. Калі тая ляжала ноч нерухома, будоўля распачыналася, калі перакульвалася ці зрушвалася з месца, будоўля адкладалася.

Падчас апошняй вялікай вайны сіняя цагліна знікла. Кажуць, што ў час, калі Вільня апынулася ў Трэцім рэйху, сіняя цагліна трапіла ў кепскія рукі, ёй завалодаў архітэктар-вар’ят. Ён сашкроб з цагліны залатых ільва і аленя, а замест іх панамалёўваў срэбныя чарапы і свастыкі. Не паспела срэбная фарба высахнуць на чароўнай цагліне, як у Вільню зайшоў д’ябал. Ён наведаўся да вар’ята і забраў сінюю цагліну. Ухапіў і знёс пад зямлю.

## Зялёны яблык і чароўны нож

Віленскі грузчык Адась Русак знайшоў на прывакзальным пляцы чароўны нож. Ім ён мог разрэзаць напалам зялёны яблык так, што потым яго можна было скласці – і ніякага следу ад разрэзаў не заставалася. Зялёны яблык натуральна зрастаўся. Цікава, што жоўтыя і чырвоныя яблыкі, разрэзаныя напалам чароўным нажом, не зрасталіся зусім, яны развальваліся, як ты іх ні складай.

Адась Русак аб’ехаў паўсвету са сваім фокусам пад назвай “Зялёны яблык і чароўны нож”. Ён бы і другую палову свету аб’ехаў, каб не

ржа. У Пакістане чароўны нож раптам пакрыўся рудой іржой і перастаў працаваць, перастаў здзяйсняць дзівосы з яблыкамі. Давялося Адасю Русаку вярнуцца ў родную Вільню і зноў пайсці працаваць грузчыкам на чыгуначным вакзале.

## Шэрая котка

Жыла ў Вільні шэрая котка. Гаспадароў у яе не было. Выглядала яна звычайна. Котка і котка, шэрая і шэрая, звычайная і звычайная. Паводзінамі яна вылучалася. Яны былі пачварныя, жахлівыя. Котка крала на базарах мяса і кілбасы. Яна задзірала малых і вялікіх птушак. Яна пачала загрызаць малых дзяцей. Заскоквала ў дзіцячую каляску і перагрызала немаўляці шыйку. Шэрую котку лавілі і забівалі. Яе секлі на кавалкі. Яе закопвалі жыўцом. Кожнага разу шэрая котка адраджалася, паўставала з мёртвых.

Была ў той шэрай пачварнай коткі чароўная іскра жыцця. Яна хавалася ў якой-небудзь часцінцы злоўленай жывёлы. Залазіла ў валасок ці кіпцік, а потым з яго аднаўлялася ўся як ёсць шэрая котка. Пра іскру жыцця віленчукам расказаў вядзьмар Фама Капуста. Яму і прынеслі ў драцяной клетцы палонную шэрую котку. Срэбнымі абцугамі Фама выцягнуў з коткі блакітна-белую іскру жыцця і пагасіў яе ў воцаце.

## Чорны ордэн

Неяк у Вільні пачалі чэзнуць кветкі. Увечары кветнік быў сакавіты і свежы – вока радаваў, а раніцай на зямлі ляжалі адно пасохлыя пёры травы ды пажоўклыя скручаныя пялёсткі. Усё ішло да таго, што Вільня магла застацца зусім без кветак. Віленчукі захваляваліся. Пільнавалі. Сачылі адзін за адным. Нехта пабачыў цень чорта, які пасыпаў кветнікі чырвонай соллю ды паліваў ацэтонам. Пайшла пагалоска, што трэба з нячысцікам дамовіцца, пакуль ён не звёў усе чыста кветкі. На перамовы выйшаў сам мэр Вільні. Сустрэча адбылася на ганку ратушы. Чорт быў ветлівым і пакляўся не чапаць кветнікі, калі яго ўзнагародзяць ордэнам. Мэр не чакаў такога нахабства, але ордэн чорту паабяцаў.

Праз тры дні на ганку ратушы мэр узнагародзіў чорта Чорным ордэнам, які звычайна давалі герою, што абараняў горад ад ворагаў. Чорны ордэн спадабаўся Чорту. Ён больш не чапаў вазоны і кветнікі, але пачаў зводзіць віленскіх катоў і сабак. Штоноч у Вільні сталі знікаць сотні сабак і катоў. Давялося мэру даваць чорту яшчэ адзін Чорны ордэн, каб не чапаў катоў з сабакамі. Нячысцік спыніў вынішчэнне гаўкалаў і мяўкалаў, але звёў са свету некалькі малых дзяцей. Мэр паабяцаў чорту трэці Чорны ордэн, каб толькі той не чапаў віленскіх дзетак.

Чорт прыйшоў па чарговую ўзнагароду на ганак ратушы, дзе яго і забіў мэр. Бойка была цяжкай. Нячысты рогам прабіў мэру бок і выбіў вока, але той працяў чортава сэрца бліскучым кінжалам. Забітага чорта пасеклі на кавалкі і спалілі ў жалезнай бочцы, каб погань не адрадзілася. Скалечаны мэр памёр ад ран праз тры дні. На пахаванне героя выйшла ўся Вільня. З таго часу Чорным ордэнам больш ніколі нікога не ўзнагароджвалі, пра яго нават стараюцца і не ўспамінаць.

## Залатая свечка

Тодар Тур адсядзеў у турме дзесяць гадоў. Яго абвінавацілі ў забойстве, якога ён не рабіў.

Жонку Тодара ахапіла рэўнасць. Жанчына ажно звар'яцела праз сваю беспадстаўную палымяную рэўнасць. Яна атруцілася, але зрабіла гэта так, што ўсё паказвала на тое, што яе забіў муж. Жанчына нават заплаціла лжывым сведкам, якія казалі на судзе, што на свае вочы бачылі, як Тодар сыпаў у жончын келіх з віном смяротную атруту.

Тур выйшаў з турмы і пайшоў праз летнюю Вільню. Ён ішоў праз свой родны горад доўга, ажно пакуль не пабачыў на беразе рэчкі чорную хату. На яе чорным ганку стаяла прывабная жанчына, прыбраная ў чорную сукенку. Тодар прыпыніўся каля чорнага плота і папрасіў у жанчыны кубак вады. Тая пачаставала Тура з чорнага кубачка смачнай, як свабода, вадой. Тодару так спадабалася вада, што ён вырашыў затрымацца і пагаварыць з жанчынай.

Ён даведаўся, што ў яе памёр муж. Жанчыну, як і яго, спрабавалі абвінаваціць у забойстве, але справа ў судзе развалілася. Следчыя не назбіралі патрэбную для абвінавачвання колькасць доказаў. Жанчына выйшла з суда і вярнулася дамоў. Уночы да яе прыйшоў нябожчык-муж, ён і пераратварыў яе светлую хату ў чорную. Усе рэчы, што ў той момант былі ў хаце, набылі глухі, як смерць, чорны колер. Нябожчык вярнуўся на могілкі, але цяпер кожная рэч, якая пераначуе ў чорнай хаце, робіцца нязменна-чорнай, нават малако і вада чарнеюць. Таму жанчына не пакідае ў хаце на ноч ні ваду, ні малако, ні яйкі...

Тодар Тур паабяцаў жанчыне выгнаць з яе хаты чарнату. Ён застаўся ў хаце на ноч. Тур ведаў, што яму можа дапамагчы залатая свечка. Калі Тодар выйшаў за турэмную браму, яго пераняў начальнік турмы. Ён сказаў:

– Ведаю, ты, браце, змарнаваў у маёй турме дзесяць гадоў маладога жыцця. Ведаю, што цябе абвінавацілі ў забойстве, якога ты не рабіў. Ведаю, што вярнуць табе дзесяць гадоў не змагу. Але я дам табе, браце, залатую свечку. Ты пойдзейш па Вільні і ўбачыш нешта надзвычайнае. Сустрэнеш некага, каму спатрэбіцца дапамога. Тады спыняйся і запальвай залатую свечку. Агонь яе прынясе табе шчасце...

Пасярод ночы Тур запаліў выратавальную залатую свечку. Са свечкай у руцэ Тодар тройчы абышоў чорную хату, і яна з чорнай зрабілася белай. Усе рэчы, на якія падала залацістае святло свечкі, страчвалі чарнату і вярталі свой натуральны колер. Раніцай на беразе рэчкі віленчукі пабачылі на месцы чорнай хаты белую. У той шчаслівай хаце Тодар Тур разам з новай жонкай дажыў да ста гадоў.

## Час махаонаў

Пайшла ў Вільні мода на ўпрыгожванне сцен зашклёнымі скрыначкамі з рознымі матылямі. У сувенірныя крамы панавезлі розных экзатычных матылёў з трапічнай Афрыкі ды бразільскай сельвы. Сінякрылыя і смарагдавыя, рубінавыя і пярэстыя – яны нагадвалі пра вечнае лета і захапляльныя вандроўкі. Мясцовыя падлеткі пачалі лавіць, высушваць і прадаваць тутэйшых матылёў. З тутэйшага добра куплялі паўлінава вока, але найбольшай папулярнасцю карыстаўся жоўта-чорны махаон. Лавіць і

прадаваць махаонаў забаранялася, бо матылька запісалі ў Чырвоную кнігу. Вядома ж, усё забароненае заўсёды і самае салодкае, і самае патрэбнае, і самае дарагое, ліха на яго. Толькі і ахоўнікі прыроды не спалі ў шапку. Яны высачылі чалавека, які прыносіў у крамы зашклёныя скрыначкі з махаонамі. Звалі затрыманага браканьера Апалінар Жмут.

Ахоўнікі прыроды запатрабавалі ад мужчыны неадкладных тлумачэнняў. Ён сказаў, што ў ягоных скрыначках не сапраўдныя махаоны, а намалёваныя алоўкамі на паперы. Ахоўнікі не паверылі Жмуту. Тады той сказаў, што можа на вачах у прысутных намаляваць яшчэ аднаго вялікакрылага махаона. Яму прынеслі паперу і каляровыя алоўкі. Апалінар Жмут намаляваў жоўта-чорнага матылька і пстрыкнуў па ягоным крыле пазногцем. Намаляваны матыль паварушыў крыламі, махнуў імі і ўзняўся ў паветра. Пакуль махаон ляцеў да адчыненага акна, спадар Жмут выйшаў з крамы праз дзверы. Больш ніхто не бачыў у Вільні малявальшчыка жывых матылёў і больш ніхто не прадаваў засушаных махаонаў у зашклёных скрыначках. Так у Вільні прайшла мода на матылёў і скончыўся час махаонаў.

## Залаты сом

Неверагодную гісторыю пра Тасю Келб расказвалі не толькі ў Вільні, але і ў Друскеніках, і ў Вілейцы. Мне падаецца, што больш пераканаўча яна гучала ў Друскеніках, на беразе Нёмана, але гэтым разам я спынюся на віленскім варыянце.

На ўскрайку горада жыла ў невялічкім дамку Тася Келб. Яна трымала коз. Жыла з таго, што прадавала малако і сыр. Жыла бедна, але не гаравала. Сваіх коз Тася пасвіла на беразе рэчкі.

Аднойчы яна стаяла каля самай вады і разглядала арэшнік, што зелянеў пасярод ракі на востраве. “Каб апынуцца мне на востраве і нарваць там вялікіх і салодкіх арэхаў!” – сама сабе сказала Тася і цяжка ўздыхнула. Яна ўздыхнула так цяжка, што яе пачуў залаты сом. Ён падняўся на паверхню вады і прапанаваў Тасі Келб сваю дапамогу: “Я завязу цябе на востраў і вярну на бераг столькі разоў, колькі ты пажадаеш. Такую прыгажуню я згодны катаць на сваёй спіне ўсё жыццё...”

Тася Келб села на спіну залатога сома і пераплыла на востраў. Там набрала цэлы кош салодкіх арэхаў і папрасіла залатую рыбіну перавезці яе на бераг, дзе чакалі ўстрывожаныя козы. Сом перавёз Тасю праз рэчку і прапанаваў выйсці за яго замуж і жыць разам у падводным рачным каралеўстве, дзе ён, залаты сом, з’яўляўся каралём. Тася Келб схітравала: яна паабяцала прывесці на бераг рэчкі сваю старэйшую сястру, прыгажуню Зосю, якая, маўляў, абавязкова пагодзіцца стаць каралевай у падводным каралеўстве.

Сом паверыў жанчыне. Ён тры гады чакаў, пакуль Тася Келб прывядзе на бераг сястру Зосю. Тым часам Тася хадзіла пасвіць сваіх коз на лясныя паляны. Келб зусім забылася пра абяцанне, дадзенае залатому сому. Каб яна помніла пра яго, яна б яшчэ тры гады не хадзіла з козамі на бераг рэчкі. І вось прыгнала Тася Келб свой статак на бераг, дзе некалі сустрэлася з залатой рыбінай. Тут з вады і з’явіўся залаты сом. Ён праглынуў увесь статак і знік пад рачнымі хвалямі. Так залаты сом адпомсціў Тасі Келб за падман. Бедная жанчына праплакала тры дні і тры ночы, а потым прадала дамок і з’ехала на возера Свіцязь, на беразе якога і зараз пасвіць адну белую казу.

## Чырвоная палачка

Юзэфа Чабор вярнулася з гіпермаркета і пачала разбіраць торбу з набыткамі. У ёй было шмат чаго смачнага: шэры хлеб з алівамі, прашута, зялёная салата, запраўленая алеем морква, дробныя памідоркі, бутэлька мінеральнай вады. На сподзе торбы Юзэфа знайшла чырвоную палачку. Яна не купляла яе і не клала ў сумку. “Мабыць, касірка выпадкова ўсунула!” – падумалася Юзэфе. На касах у гіпермаркеце ўвечь час раздаюць нейкія цацкі ды сувеніры. Жанчына пакруціла чырвоную палачку ў руках і выпадкова дакранулася ёю да крыху звялай салаты. Здарылася дзіва: завялыя лісты раптам паразгорталіся і парабіліся пругкімі ды свежымі. “Мабыць, гэтая чырвоная палачка чароўная! – такая здагадка мільганула ў галаве Юзэфы Чабор. – Мабыць, яна зможа вяртаць свежасць не толькі звялай салаце?” Жанчына згадала, што па дарозе з крамы бачыла прысыпанага снегам замерзлага голуба. Яна апранулася, схапіла чырвоную палачку і пабегла шукаць мёртвую птушку. Знайшла. Дакранулася да пакрытага шэранню голуба чырвонай палачкай – і ён ажыў. Птушка абтрэсла з крылаў шэрань, узнялася ў начное неба і там знікла. Узрадаваная Юзэфа па дарозе дамоў зайшла на сметнік, дзе за кантэйнерам ляжаў здохлы сабака. Чырвоная палачка і сабаку ажывіла.

Раніцай Юзэфа Чабор выправілася ў крэматорый, каб яшчэ раз праверыць моц чырвонай палачкі. Сярод падрыхтаваных да крэмацыі людзей жанчына выбрала забітага ў перастрэлцы маладога злодзея. Ёй стала шкада хлопца, бо малады ж зусім, пажыць не паспеў, бо чалавек мусіць мець шанец на выпраўленне. Чырвоная палачка лёгка падняла хлопца з труны. Той моцна перапужаўся, пабачыўшы вакол сябе труны з нябожчыкамі. Ён, як быў у адным летнім касцюмчыку, так і пабег у ім праз засыпаную снегам Вільню.

Пасля крэматорыя Юзэфа Чабор вырашыла выправіцца на неба і ажывіць чырвонай палачкай пагаслую зорку. Жанчыну праводзілі ў падарожжа ўсе сваякі і знаёмыя. Некаторыя нават спрабавалі ўгаварыць Юзэфу застацца, але яна не пагадзілася і пайшла шукаць сваю мёртвую зорку. Мала хто верыць у тое, што Юзэфа Чабор вернецца ў Вільню, але ёсць такія, хто ўсё яшчэ спадзяецца з ёй сустрэцца. Сярод тых, хто спадзяецца, можна знайсці і мяне.

## Шэрае дрэва

Уся Вільня памятала, што аднойчы ў ноч перад Дзядамі чорт звёў з горада сем дзяўчатак. Дзе хто ні шукаў, знайсці іх так і не змаглі. Шмат гадоў прамінула з тых злашчасных Дзядоў, а Вільня ўсё ніяк не магла забыць пра сваіх зведзеных чортам дачушак. Прыватны дэтэктыў Яраслаў Дол вырашыў адшукаць зніклых дзяцей. Ён сабраўся і выправіўся на пошукі.

Ішоў мужчына дзень, ішоў месяц, ішоў год і прыйшоў да шэрага дрэва. Па тым высозным дрэве Яраслаў залез на неба. Там, ходзячы па аблоках, ён пачаў распытваць пра зніклых з Вільні дзяцей. Ніхто з сустрэчных нічога карыснага сказаць не змог. Яраслаў ужо сабраўся вярнуцца на зямлю, калі да яго падышлі жанчыны ў жалобных строях. Яны папрасілі Яраслава Дола пайсці на могліцы, дзе жанчыны пазакопвалі мёртванаро-

джаных немаўлятак. На могліцах яны хавалі не толькі мёртванароджаных, але і ўсіх сваіх нехрышчоных дзетак. Такіх немаўлятак жанчынам было асабліва шкада, таму і папрасілі яны Ярослава Дола выкапаць дзяцей з магіл, ажывіць іх і прывезці ў Вільню, а там сказаць, што і гэтых дзетак некалі звёў з горада бессардэчны чорт. Яраслаў спытаў, як яму вярнуць да жыцця нябожчыкаў. Жанчыны далі мужчыне біклагу жывой вады.

Дол павыкопваў дзяцей з магілак на могліцах і чароўнай вадою паліў іх. Тыя ажылі. Яраслаў завёў усіх у горад і сказаў віленчукам, што гэта дзеці, якіх некалі пазводзіў чорт. Вільня паверыла Яраславу Долу і сабрала сродкі на іх утрыманне.

## Чорная дама

Маладая сям'я – Фларыяна і Лукаш Бараны – шукала сабе дом. У газеце "Наша доля" яны прачыталі абвестку, што ў Зарэччы за касцёлам Святога Барталамея ёсць дом, які гаспадары выставілі на продаж. У канторы, што займалася продажам таго дома, Лукаш і Фларыяна ўзялі ключ. Супрацоўнікі канторы расказалі пра сваю вялікую занятасць рознымі неадкладнымі справамі і з пакупнікамі ў Зарэчча не пайшлі, маўляў, сям'я Бараноў і сама зможа дом паглядзець.

Лукаш і Фларыяна хутка знайшлі і лёгка адчынілі пусты дом. У прасторных і светлых пакоях яны пабачылі чорную даму. Яна скінула з сябе ўсю вопратку і кінулася да Бараноў. З крыкамі Фларыяна і Лукаш павыскоквалі на вуліцу і пабеглі з гары праз Зарэчча ў бок святой Вострай брамы. Каля брамы яны, змораныя і задыханыя, спыніліся і азірнуліся: ці не бяжыць голая дама за імі? Яе нідзе не было.

Лукаш пакінуў жонку каля Вострай брамы і вярнуўся ў Зарэчча, каб зачыніць дом. Баран быў на сто працэнтаў упэўнены, што ніякай голай дамы ён больш не спалохаецца. Чорнай дамы нідзе не было. Лукаш зачыніў пусты дом і вярнуў ключ у кантору. Прадаўцам нерухомасці Баран сказаў, што перадумаў купляць дом у Вільні, бо яны разам з жонкай вырашылі вярнуцца ў бацькоўскі маёнтак пад Навагрудкам. Што тут скажаш?.. Не адзін ён пабойваўся спаткаць на віленскіх вуліцах голую чорную даму.

## Ружовы сад

Шмат хто ў Вільні садзіць і даглядае ружы, але кветкі з Ружовага саду мелі непараўнальна моцны водар і невыказную прывабнасць. Ружовы сад рос за ружовым домам. Даглядалі ружоўнік жанчыны, што жылі ў тым незвычайным доме. Трэба сказаць, што там жылі толькі жанчыны. Дом, як і сад, быў па-сапраўднаму казачным: там было заўсёды светла, як удзень, і цёпла, як улетку. Там заўсёды быў год нулявы, месяц нулявы, тыдзень нулявы і дзень, адпаведна, нулявы. У Ружовым садзе ніхто ніколі не старэў і не змяняўся. Калі нейкая з віленчанак жадала вечнага жыцця, яна ішла ў ружовы дом і даглядала Ружовы сад. Жанчыны з Ружовага саду казалі, што смерць абмінае іх дом. Так яно і было насамрэч, але ў водары Ружовага саду заўсёды прысутнічала выразная нота смерці. Можна нават сказаць, што ружовы дом і Ружовы сад пахлі салодкай смерцю. Так было, пакуль адны жанчыны прыходзілі ў Ружовы сад, а другія сыходзілі з яго. Так было, пакуль апошняя з даглядальніц казачнага ружоўніка не

пакінула ружовы дом. Як толькі яна выйшла з яго, ён пацямнеў, пачарнеў і разбурыўся. Разам з домам знік і чароўны сад. Віленчукі часам згадваюць Ружовы сад і вечнае жыццё ў ім, але не моцна шкадуюць, што ён знік.

## Сінявус і жаночыя душы

Здарылася ўсё гэта ў даўнія напаўгалодныя савецкія часы. Мінай Глыж працаваў шафёрам на хлебазаводзе. Штораніцы Мінай развозіў па крамах боханы чорнага і белыя батоны. Раз, а то і два разы на тыдзень Глыжу даводзілася вазіць свежы хлеб у далёкія вёскі. На доўгіх маршрутах Мінай любіў падабраць на адхоне спадарожніцу, каб павесяліла сваімі расказамі пра жыццё-быццё. Адна такая спадарожніца весяліла Глыжа байкамі пра ненармальны секс. Мінай распаліўся і прапанаваў жанчыне любошчы. Тая спалохалася, пачала адмаўляцца і крычма крычаць. Бабская істэрыка яшчэ больш усхвалявала шафёра. Мінай задушыў бабу, згвалціў нябожчыцу і выкінуў у лесе труп.

Глыжу спадабаўся гвалт. Ён адчуў смак і задушыў у сваім хлебавозе яшчэ шэсць жанчын. Маньяка-душыцеля шукалі сваякі замардаваных жанчын. Гвалтаўніка-некрафіла шукалі міліцыянеры. Яны нават мянушку яму прыдумалі – Сінявус. Кепская была мянушка, бо няпраўдзівая. Ні сініх вусоў, ні сіняй казачнай барады Мінай Глыж не насіў. Ён быў шыракаплечым, шэравокім, заўсёды чыста паголеным бландзінам. Прывабная знешнасць Глыжа не замінала яму маньячыць у віленскім краі.

Невядома, колькі б яшчэ людзей ён задушыў, каб не душы забітых. Яны і спынілі віленскага маньяка Сінявуса. Штоночы ў кватэру Міная Глыжа пачалі прылятаць душы забітых жанчын. Яны ляталі над ложкам забойцы і спявалі. Іх спевы былі такімі пранікнёнымі і ў іх было столькі жальбы, што Мінай Глыж не вытрываў. Ён узяў вяроўку, зрабіў пятлю і задушыўся. Міліцыянеры знайшлі ў кватэры самазабойцы сем жаночых кашалькоў: так раскрылася і закрылася справа з віленскім гвалтаўнікам Сінявусам. Дарэчы, стары хлебавоз, на якім працаваў Мінай Глыж, спісалі, бо ніхто не захацеў садзіцца за яго руль.

## Зялёны кашалёк

Будаўнік Кастусь Грыб хадзіў вакол Вільні. Ён шукаў пясок для будоўлі. У лесе пад адным з пясчаных адхонаў Грыб спыніўся на беразе невялічкага балота. Будаўнік набраў жменю пяску і пачаў перасыпаць яго з далоні на далонь. З балотца вылез чорт і запытаў у будаўніка, чым гэта ён займаецца.

– Збіраюся засыпаць пяском тваё чортава балота! – пажартаваў Грыб.

– Не трэба засыпаць балота! Там жа мае чарцяняткі жывуць. Ты ж не хочаш, каб мае дзеткі зрабіліся бежанцамі?

– Што прапануеш? – запытаўся Кастусь.

– Ёсць у мяне зялёны кашалёк. У ім ніколі не заканчваюцца грошы. Я табе яго падару!

З вялізным зялёным кашальком у руцэ Кастусь Грыб вярнуўся ў Вільню. Будаўнік паверыў, што зараз у яго добра пойдзе жыццё. Ён паверыў, што вялікія грошы дапамогуць рабіць вялікія справы. Грыб памыліўся. Усё купленае на чортавы грошы імгненна псавалася. Усё пабудаванае на

чортавы грошы хутка разбуралася. Усе пазыкі, параздаваныя чортавымі грашыма, ніколі не вярталіся.

Тры гады Кастусь Грыб змарнаваў на заняткі з зялёным кашальком. На чацвёрты год ён вырашыў вярнуць яго гаспадару. Пайшоў у лес, стаў пад пясчаным адхонам на беразе балота і гукнуў чорта. Той з’явіўся, заўсміхаўся і спытаў:

– Няўжо, Кастусь, ты не задаволены зялёным кашальком?

– Так. Я не задаволены тваім падарункам і вяртаю яго!

– Дарагі дружа, я не магу ўзяць назад падарунак. Ён твой на ўсе часы...

– Ведаў, што ты, чарцяка рагатая, адмовішся. Таму я заплачу. Падару табе свой залаты заручальны пярсцёнак, каб ты толькі забраў свой зялёны кашалёк!

Чорту спадабаўся залаты бляск пярсцёнка. Ён забраў зялёны кашалёк і ўпрыгожанне. Калі чорт схаваўся ў балоце, Кастусь Грыб дастаў мабільнік і патэлефанаваў на нумар бомбы, схаванай у зялёным кашальку. Выбух быў такім моцным, што на месцы балота ўтварылася глыбокае возера. Вада ў ім мае прыемнае зялёнае адценне, а таму і стала называцца возера Зялёным. Варта сказаць, што пярсцёнак, на які спакусіўся чорт, быў танным. Кастусь Грыб купіў яго на прывакзальным базары ў старой цыганкі за тры еўра.

## Чорныя жукі

Ліцэіст Люцыян Руды вырашыў стаць пярэваратнем-вампірам. Ён прачуў, што на Лукішках у крывабокім дамку з маленечкай вежай жыве старая вампірка Паўліна. Люцыян пазнаёміўся з жанчынай і пачаў насіць ёй розныя каштоўныя падарункі накшталт скальпеляў, бутэлек для крыві і кубкаў Эсмарха. Старая прымала падарункі, але не спяшалася ператвараць ліцэіста ў крыважэрнага монстра. Руды ўжо стаў думаць, што дарма дорыць Паўліне дарагія рэчы. Тут яна і прапанавала Люцыяну з’есці пячонку яго малодшай сястры Мілавіды. Ліцэіст крыху павагаўся, але пагадзіўся на сваяцкі канібалізм.

Паўліна перавярнула сябе і Люцыяна ў чорных жукоў. Яны паляцелі да Мілавіды, якая салодка спала ў сваім дзіцячым ложку. Чорныя жукі развязалі ў дзяўчынкі пуп і вокамгненна з’елі яе пячонку. Мілавіда памерла. Жукі прыляцелі ў крывабокі дамок і там вярнулі сабе чалавечае аблічча.

За няпоўны месяц чорныя жукі забілі і з’елі ажно шэсць чалавек. Акрамя пячонкі Мілавіды яны з’елі сэрца Люцыянавай маці, высмакталі кроў з ягоных абодвух дзядоў і абедзвюх бабуль. Невядома, колькі яшчэ шкоды нарабілі б у Вільні чорныя жукі, каб не Люцыянаў бацька Фларыян. Ён, як толькі пабачыў чорных жукоў, адразу пазабіваў іх гумавай мухабойкай. Пасля тых страшных здарэнняў Фларыян Руды цяжка хварэў, але выкараскаўся з хваробы, завёў новую сям’ю, доўга жыў і ў ясным розуме адсвяткаваў сваё дзевяностагоддзе.

## Салодкі грыб і ружовая ягада

Казімір Карп узяў сабе за жонку маладзенькую Міраказу. У шлюбную ноч дзяўчына даведалася пра Казіміраву нямогласць. Яна паплакала і паабяцала знайсці лекі для мужа.

Маладая жонка абышла ўсіх віленскіх дактароў, ведзьмакоў і вядзьмарак. Ніхто не ведаў надзейных лекаў ад мужчынскай нямогласці. Нешта раілі, штосьці прапаноўвалі, але нічога не дапамагала. Мíраказа была настойлівай, упартай і зацятай, таму паехала ў Гародню і пачала абход тамтэйшых дактароў. Стары лекар падказаў ёй шукаць салодкі грыб, які вырастае ў месячным святле на гудагайскіх балотах. Міраказа абышла і аблазіла ледзь не ўсе балоты вакол Гудагая. Тройчы яна ледзь не ўтапілася ў чорнай багне. Жанчына ўжо зусім апусціла рукі, калі знайшла салодкі грыб. Ён вярнуў Казіміру Карпу мужчынскую моц.

Праз тры месяцы пара Карпаў высветліла, што адной Казіміравай моцы не дастаткова, каб завесці дзіця. Трэба яшчэ вылечыць Міраказу ад бясплоддзя. Гэтым разам спадар Казімір пачаў абыходзіць дактароў, ведзьмакоў і вядзьмарак. Старая лекарка з Рыгі параіла яму знайсці ружовую ягаду, што выспявае ў лясах пад Краславай. Казімір цэлае лета прашукаў у краслаўскіх лясах патрэбную ягаду. Знайшоў. Яна вярнула Міраказе здольнасць нараджаць. Пара Карпаў так узрадавалася папраўленаму здароўю, што завяла ажно дваццаць сем дзяцей. Гэта была самая вялікая шматдзетная сям'я ва ўсёй Вільні, і ўсе яе любілі і дапамагалі парадамі, рэчамі і грашыма.

## Чырвонае яйка

Стася Кур прахадзіла цяжарнай не сем і не дзевяць месяцаў, а цэлых адзінаццаць. Замест таго, каб нарадзіць дзіця, Стася знесла чырвонае яйка. Неўзабаве з яго вылупіўся чалавечак. Мужа ў Стасі не было. Гадавала сына, названага Дзівасілам, адна. Хлопчык рос разумным і выхаваным. Захапляўся, як і ўсе дзеці, гаджэтамі, але акрамя гэтага страшэнна любіў ляпіць. З рознакаляровага пластыліну ён выляпляў цэлыя гарады з людзьмі, машынамі, дрэвамі і небаскробамі. У сярэдзіне кожнага вылепленага Дзівасілам горада ўзвышалася калона, на якой замацоўвалася чырвонае яйка. Стася пачала цікавіцца, чаму менавіта чырвонае яйка ставіць яе сын на цэнтральных пляцах сваіх гарадоў. Дзівасіл адказаў, што мае адну таямніцу: дзякуючы чырвонаму яйку ён можа вяртаць да жыцця памерлых.

Маці не дала веры словам дзіцяці. Тады Дзівасіл прынёс з гімназіі чучала вераб'я. Ён абліў яго вадою, абмазаў чырвонай глінай так, што атрымалася чырвонае яйка. Яго хлопец кінуў у вогнішча. Калі дровы прагарэлі, Дзівасіл нахіліўся над чырвоным яйкам і падзьмуў на яго. Гліна патрэскалася, яйка развалілася, і з яго вылецеў жывы верабей. Дзівасіл Кур валодаў сакрэтам уваскрашэння птушак, жывёл і людзей, але, акрамя гімназічнага вераб'я, ён больш нікога ніколі не ўваскрашаў.

## Чырвоны мур

Даўно тое здарылася. Зусім даўно. Тады вакол Вільні стаяў высокі чырвоны мур. Былі ў ім брамы, якія зачыняліся ўвечары на цэлую ноч. Раніцай яны адчыняліся, і горад наш прачынаўся, працаваў і весяліўся да самага вечара, ажно пакуль зноў не зачыняліся брамы ў чырвоным муры. У вольную нядзелю віленская швачка Каміля Мех вырашыла пагуляць па лесе і пазбіраць маліны. Ягады тым летам урадзілі. Каміля наабірала цэлае вядро спелых малін. Пакуль гуляла, пакуль збірала, пакуль вярта-

лася – нядзеля і прамінула. Сонца апусцілася і пачало чырванець. Горад пазачыняў брамы.

Каміля ўжо падыходзіла да чырвонага мура, калі пачула, што нехта вялікі яе даганяе. Азірнулася і ад страху выпусціла з рукі цяжкае вядро. Яно гупнулася на дарогу і перакулілася. Пераспелыя ягады высыпаліся ў шэры дарожны пыл... Да Камілі набліжаўся вялізны буры мядзведзь. Швачка не стала яго чакаць, а кінулася бегчы напрасткі да чырвонага мура. Яна і сама потым не змагла добра растлумачыць, чаму паляцела па траве да мура, а не пабегла па дарозе да брамы. Казала, што нібыта пачула голас чырвонага мура, які паклікаў яе: “Бяжы сюды!” Каміля Мех наблізілася да мура і прабегла яго наскрозь. Праляцела, як пралятаюць дымавую заслону. Каміля нават не закашлялася, калі спынілася на цёмнай віленскай вуліцы. Тым часам і мядзведзь паспрабаваў прабегчы праз чырвоны мур, але раскалоў сваю вялізную галаву аб цэглу.

Раніцай Каміля Мех схадзіла па вядро. А мёртвага мядзведзя забралі сабе віленскія брамнікі.

Каб чырвоны мур прапусціў праз сябе каго іншага акрамя Камілі, у Вільні не чулі.

## Сіняе пяро

У старога Радаміра Птаха загінула дачка. Ехала за рулём легкавушкі і не дала рады кіраванню. Дарога ў залеву была слізкай – аўтамабіль і панесла на павароце. Ён зляцеў пад адхон і ўрэзаўся ў тэлеграфны слуп. Дачка Птаха памерла адразу, а зяць яшчэ тыдзень праляжаў у коме перад тым, як выправіцца ў магілу.

У старога Птаха засталася ўнучка Геня. Ён яе любіў больш за ўсіх на белым свеце. Таму і перажываў, калі Геня захварэла. Дзяўчынка тэмпературыла. Яе біў безупынны кашаль. Геню паклалі ў бальніцу. Доктарка сказала Радаміру, што надзеі на папраўку амаль няма.

Стары Птах выйшаў з бальніцы і пайшоў куды вочы павядуць. Так ён выйшаў з Вільні і апынуўся на лясной сцежцы. Радамір ішоў бы і далей, каб не паваленае сухое дрэва, якое загарадзіла дарогу. Гадзіны тры Птах патраціў на тое, каб адсунуць дрэва са сцяжыны. Удзячная сцежка прывяла Птаха да крыніцы. Толькі і з ёй не ўсё было добра. Шмат гадоў крыніцу ніхто не чысціў. Радамір не паленаваўся і пачысціў яе. Прыбраў ламачча і гнілую лістоту. Абклаў крыніцу камянямі. Глянеш – вока парадуецца. Удзячная крыніца параіла Птаху пайсці адпачыць пад маладым дубам, што стаяў пасярод поля. Не паспеў Радамір прылегчы ў цянёчку, як дуб папрасіў крынічнай вады. Стаяла спёка, і дрэва пакутавала ад смагі. Птах не адмовіў дубу і паліў яго. Ад працы стары так стаміўся, што лёг на траву пад цяністым дубам і адразу ж заснуў.

Прачнуўся Радамір пасярод ночы. На дубе сядзелі сінія голуб і галубка. Голуб скардзіўся галубцы, што ўдарыўся крылом аб галіну так, што адно пяро ў яго ледзь трымаецца. Галубка суцяшала яго тым, што згубіць адно пяро нястрашна. Той адказаў, што гэта чароўнае пяро, якое можа адагнаць любую хваробу, узмахнеш ім – і хвароба ўцячэ. Стары Птах толькі падумаў, што добра было б яму атрымаць чароўнае пяро, як дуб захістаў галінамі, нібыта на яго моцны вецер наляцеў. Галубы спалохаліся і ўзняліся ў начное неба, а чароўнае сіняе пяро адарвалася ад галубінага крыла і апусцілася на траву.

Радамір схапіў пяро і пабег у бальніцу ратаваць унучку. Сіняе пяро дапамагло! Потым Радамір Птах спрабаваў тым пяром дапамагчы і іншым хворым людзям, але не змог, бо было пяро чароўным, але ж аднаразовым, як высветлілася.

## Чырвоныя кветкі

Жонка неяк папрасіла свайго Сымона Зыля паліць кветкі на балконе. Муж нават назваў тых раслін не ведаў, называў іх для сябе проста чырвонымі кветкамі. Ён набраў поўную лейку вады і выйшаў на балкон. Пачаў паліваць кветкі. Нахіліўся праз парэнчы. Галава закружылася і зрабілася цяжкай. Ногі, наадварот, сталі лёгкімі-лёгкімі. Зыль перакуліўся праз парэнчы і паляцеў з сёмага паверха на зямлю. Лейка вырвалася з рукі і ляцела асобна ад гаспадара. Яна вырвалася, бо рука Сымона Зыля зрабілася слабай і маленькай. Ён і сам увесь пачаў змяншацца і сціскацца. Калі даляцеў да зямлі, дык быў не большым за звычайнага чорнага мураша. Зменшаны Сымон апусціўся на пялёстак, які крыху раней абляцеў з іх чырвоных кветак. Зыль быў такі лёгкі, што прызямліўся мякка і зусім не пабіўся. Саскочыўшы з пялёстка, мужчына пачаў павялічвацца і хутка вырас да звычайных чалавечых памераў. Жонцы пра выпадковае падзенне Сымон расказваць не стаў. Сказаў толькі, што выпусціў лейку, а яна зусім не пабілася, бо пластмасавая і пустая.

## Белая куля

Данута Салавей вярталася з крамы з важкім кошыкам у руцэ. На дарозе ёй трапіўся чарнавусы мужчынка, які прапанаваў дапамогу. Кош быў такі цяжкі, што Данута нават узрадавалася нечаканай прапанове.

Калі муж Дануты Ціхамір зайшоў у сваю кватэру, дык пабачыў на голай Дануце голага мужчынку з чорнай ад валасоў спінай. Раз'юшаны муж заскочыў на кухню, выцягнуў з-пад буфета сякеру, забег у спальню і паспрабаваў забіць мужчынку. Ціхамір хацеў секануць па валасатай спіне, а сякера замест гэтага перасекла белую шыю Дануты, бо спрытны, не раўнуючы, як малпа, мужчынка паспеў саскочыць з жонкі-здрадніцы і ўскараскацца на шафу. З яе чарнавусы скочыў на Ціхаміра. Ён не проста скочыў, ён заскочыў у яго.

Так у Ціхаміра Салаўя залез сам чорт. І Салавей ператварыўся ў гвалтаўніка і маньяка, які штоночы паляваў на адзінокіх віленчанак, каб згвалтаваць і забіць. Акрамя сваёй Дануты Ціхамір засек яшчэ шэсць жанчын, пакуль яго не высачылі і не застрэлілі белай куляй. Калі адмысловая куля прабіла Ціхаміраў лоб, дык паліцэйскія пабачылі, як з цела мёртвага маньяка вылецеў цень маленькага мужчынкі з вострымі рагамі над вузкім ілбом і доўгім хвастом над худым азадкам.

## Шэры работнік

Гаспадар цацачнай крамы Адам Жур зайшоў у бар, які месціўся на другім паверсе гіпермаркета "Максіма". Там выпіў чарку гарэлкі. Выпіў для сугрэву. На вуліцы сыпаў лютаўскі снег. Мароз хапаў за нос і вушы.

Хацелася цяпла і спакою. Жур моцна стаміўся за працоўны тыдзень. Гарэлка яго ўзбадзёрыла. Потым Адам набыў бутэльку віна, кавалак смажанай рыбы і пластыкавую каробку варанага рысу. Пятнічная вячэра абяцала быць смачнай.

На ганку "Максімы" Адам Жур паспрабаваў выклікаць па тэлефоне таксі. Усе нумары як на злосць былі занятыя. Пятніца, вечар – да таксі не датэлефанавацца. Адам не адчайваўся. Ён набіраў і набіраў розныя нумары, ажно пакуль да яго не падышоў шэры работнік.

– Выклікалі?

– Я таксі спрабую выклікаць... Хіба вы таксіст?

– Я не таксіст. Я шэры работнік. Я магу зрабіць усё, што вы, спадар Жур, пажадаеце. У вас ёсць магчымасць даць мне ажно тры загады. Папярэджу адразу: не магу любіць і забіваць людзей. Усё астатняе – калі ласка!

Адам паглядзеў на свой пакет з віном і рыбай і падумаў, што было б добра павячэраць з прыгожай жанчынай.

– Работнік, а ты можаш стварыць мне жанчыну?

– Няма праблемы. Якую жанчыну вы, пан Адам, хацелі б пабачыць?

– Такую, каб я ў яе закахаўся з першага позірку. Глянуў, на імгненне аслеп ад яе прывабнасці і закахаўся на ўсё жыццё! Можаш?

– Хвілiначку! – шэры работнік зняў скураныя пальчаткі, гучна пляснуў у далоні, і на ганку "Максімы" паўстала аголеная жанчына. Адам Жур глянуў на жанчыну і знямеў. Ад яе ашаламляльнай прывабнасці, у якую імгненна закахаўся. А яшчэ у Адама адняло мову таму, што ў прыгажуні росту было ну ніяк не больш за метр.

– Што ты нарабіў, работнік чортаў? – закрычаў Жур.

– Я зрабіў усё, як і дамаўляліся... Жанчына, прыгажосць, закаханасць...

– Памер!

– Пра памер гутаркі не было. Тут халодна! Мароз, снег, завіруха пачынаецца. Таму я крыху памыліўся з памерам. Будзем перарабляць?

– Вядома, будзем! Толькі спачатку ты апрані яе. Яна ж мерзне.

Шэры работнік пляснуў у далоні, і на прыгажуні з'явілася цудоўная і дарагая вопратка. Футра з чарнабурак выглядала проста шыкоўна. Адам Жур з замілаваннем разглядаў шэдэўр шэрага работніка.

– Як будзем перарабляць жанчыну? – спытаў той.

– Як, як? Зрабі так, каб яна і я мелі аднолькавы рост. Трэба зрабіць так, каб мы былі роўнымі. Каб нам было зручна... Ты разумееш?

– Вядома! Я ўсё разумею і ўсё зраблю так, як вы сказалі! – шэры работнік пляснуў у далоні, выканаў трэці загад і знік. На ганку гіпермаркета "Максіма" засталіся адно Адам Жур і яго каханая. Яны былі аднолькавага росту. Таго росту ў кожным з іх было не больш за дзесяць сантыметраў. Маленечкі Адам і яго маленечкая жанчына крадком вярнуліся ў гіпермаркет і засталіся там жыць.

## Сінявокая Чума

Можа, яно насамрэч так і было?.. А можа, пра тое віленчукі навыдумлялі?.. Хто цяпер ведае?.. Старыя кажуць, што Чума, якая прыйшла ў горад, пазірала на свет сінімі вачыма. Чорныя валасы ў яе мелі металічна-сіняе адценне. Сукенку яна насіла глыбока-сінюю. Нават чаравікі на Чуме былі чорна-сінімі. Такая толькі зірне на чалавека, а той ужо і захоплены

ў палон невылечнай хваробай. Росту ў ёй было метры са тры – волатка, веліканка, асілак. Чума прайшла па Вільні – і горад ахапіла эпідэмія. Яна прыбыла ў горад з Лагойска, а таму моцна стамілася і легла адпачываць на драўлянай вежы Гедыміна.

Пакуль яна спала, тутэйшы дрывасек Добар Драч пачаў раскладаць вогнішчы на віленскіх плошчах. Мужчына казаў, што хвароба страх як баіцца агню. Ён запэўніваў, што калі пару разоў пераскочыш праз вялікае полымя, дык Чума да цябе не прычэпіцца. Віленчукі скакалі праз агонь і так ратаваліся ад жудаснай хваробы. Але гэтага Драчу было замала. Ён вырашыў спаліць саму Сінявокую Чуму. З усіх віленскіх дрывотняў людзі пазвозілі паленне пад Замкавую гару. Пазвозілі, абклалі яе і падпалілі. Ніколі раней Вільня не бычыла такога велізарнага вогнішча. Языкі полымя лізалі зорнае неба. Ахопленая з усіх бакоў непралазным полымем, Сінявокая Чума зараўла на ўвесь свет. Яна спрабавала выбегчы з агню, але не змагла. Чума згарэла разам са старым драўляным замкам. Пасля эпідэміі і пажару віленчукі пабудавалі на гары новы замак з камянёў і чырвонай цэглы.

## Белая душа

У царкве Святой Параскевы Пятніцы працаваў вартаўніком Велямір Хлеб. Чалавек ён быў збольшага станоўчы, але меў адну загану – уночы абкрадаў маленькія крамы. Жонцы Велямір казаў, што цэлую ноч сядзіць у царкве і пільнуе, каб хто не абрабаваў святое месца, а сам тым часам хадзіў красці. Накрадзенае Хлеб хаваў у царкоўных сутарэннях. Калі Велямір днём хадзіў па крамах, дык дамоў вяртаўся праз сутарэнні і тое-сёе прыносіў у хату з нарабаванага.

Жонка пачала непакоіцца, бо Птах браў з сямейнай скарбонкі тры рублі, а пакупак прыносіў ажно на дзесяць ці дваццаць. Жанчына высачыла мужа і ўсё зразумела. Самым нечаканым з таго, што пабачыла жонка, была белая душа мужа. Калі Хлеб выходзіў з царквы Святой Параскевы Пятніцы, каб ісці красці, яго белая душа пакідала цела і заставалася сядзець на падлозе пад абразамі. Душа не ўдзельнічала ў злачынствах. Яна чакала, пакуль бяздушны Велямір вернецца на пост вартаўніка, а тады залятала ў яго цела.

Аднаго разу, пакуль Хлеб абкрадаў гадзіннікавую краму, жонка прыйшла ў царкву, злавіла белую душу і пасадзіла яе ў слоік пад капронавае вечка. Калі Велямір вярнуўся, жанчына зрабіла яму прапанову: яна вяртае мужу душу, а той кідае крадзяжы. Хлеб, стоячы ў царкве на каленях, паабяцаў кінуць зладзейства. Жонка адкрыла слоік і выпусціла белую душу. Тая вярнулася ў цела Хлеба. З той ночы Велямір больш нічога ні ў кога не ўкраў. Хацеў, але ў яго заўсёды хапала моцы стрымлівацца.

## Жоўтая вежа

Чэрці, як і людзі, прыходзяць у Вільню па-рознаму. Адзін пешшу прытупвае, другі на ровары заязджае, трэці на матацыкле закатваецца. Чэрці не грэбуюць машынамі, аўтобусамі і цягнікамі. Найбагацейшыя з іх на самалётах прылятаюць у Вільню. Расказвалі, што нейкія чэрці нават на паветраным шары ляцелі ў наш край, але вецер здзьмуў яго некуды ў бок азёрнай Браслаўшчыны і далей у Латгалію.

Шэрахвосты чорт Ладон прыплыў у Вільню на байдзе. Прыплыў, каб

рабіць добрым віленчукам розныя дробныя паскудствы. Каму шыну ў ровары прапароць, каму ў шыбу камень пусціць, каго п'янага ў лужыну падпіхнуць. Ладон быў латэнтным ніцшэанцам і жыў пад лозунгам: "Падштурхні таго, хто падае ў яміну!" Штурхаў! Біў! Псаваў! Пакуль не злавілі яго паліцэйскія і не пасадзілі ў Жоўтую вежу.

Была некалі ў Вільні Жоўтая вежа з вязніцаю для асабліва небяспечных стварэнняў. Ладон, безумоўна, быў стварэннем, і небяспечным, таму і сядзеў на ланцугу ў гэтай вежы. Ён знаходзіўся за тоўстымі сценамі, але і праз іх прапаўзала ягонае шкодніцтва. Дастаткова было дзіцяці прайсці побач з вежай, як яно пачынала хварэць на сухоты.

Калі дактары вылічылі крыніцу захворванняў, паліцэйскія раззлаваліся. Яны выкапалі глыбокую яміну перад вежай, загналі ў яе Ладона і засыпалі пяском. Чорт спрабаваў выбрацца з-пад зямлі. Тры дні і тры ночы ён стагнаў і плакаў, а потым заціх і здох. Жоўтая вежа яшчэ тры месяцы распаўсюджвала вакол сябе сухоты. Яна і далей магла б выпраменьваць заразу, але вежу разбурылі. Жоўтую цэглу вывезлі з Вільні і ўтапілі ў лясных азёрах Латгаліі. На месцы, дзе высілася Жоўтая вежа, віленчукі пасадзілі дрэўцы і зрабілі акуратны сквер, у якім цэлае лета красуюць кветкі.

## Шэрая качка

На паляванні Мацей Корч падстрэліў шэрую качку. Па дарозе ў Вільню паляўнічы думаў-гадаў, да якой з каханак завезці трафей. Да белакосай Вялеі ці да чарнабровай Чарэі?

Шэрая качка патрапіла на стол да Вялеі. Птушку жанчына патушыла з гароднінай. Мацей з белавалосай каханкай прабавіўся ўсю ноч. Заснуў пад раніцу. Калі ж прачнуўся, то пабачыў побач з сабою не сінявокую Вялею, а вішнёвагубую Чарэю. Мацей вырашыў скарыстаць момант, не ўставаць з ложка і цэлы дзень правесці ў ім з Чарэяй. Пасля салодкіх любошчаў ушчэнт стомлены Корч праспаў цэлую ноч, а прачнуўся ў абдымках светлатварай Вялеі. Тая згатавала сняданак з чорнай горкай кавай ды бутэрбродамі з белым сырам. Корч паснедаў, узяў стрэльбу і паехаў дамоў. Жонцы Мацей сказаў, што дарма біў ногі, бо паляванне атрымалася пустым.

## Залацісты пясок

Кірыл і Раіна пражылі разам доўгае жыццё. Дзяцей у іх не было. Яна працавала швачкай, ён краўцом. Рабілі яны з раніцы да вечара. Працавалі спрытна, за што мелі добры прыбытак і павагу. Увечары пасля вячэры Раіна і Кірыл выходзілі на шпацыр. Яны прагульваліся ўздоўж крынічнай і празрыстай Віліі. Кожную нядзелю Кірыл і Раіна выходзілі па рачным беразе далёка за горад, дзе ладзілі пікнік з вінам ды пірагамі.

Была нядзеля, стаяла лета, і было спякотна. Раіна і Кірыл выйшлі за горад, стаміліся і прыселі на траву каля самай рэчкі. "Нікуды больш не хачу ісці. Добра было б зайсці ў ваду, легчы на пясок і так ляжаць", – сказаў Кірыл. Ён распрануўся, зайшоў у Вілію і лёг на залацісты пясок. Раіна гэтаксама распранулася, зайшла ў ваду і лягла на залацісты пясок. Сляпучае жнівеньскае сонца бачыла, як у крынічнай вадзе хуткаплыннай рэчкі на залацістым пяску старыя Кірыл і Раіна ператварыліся ў звычайных ракаў.

Андрэй Козел



...Нам не хапае Кастусёў
і не стае жывых Купалаў....

# Верш недапісаны лёг на стале...

## *ІСЦІ*

Употай выйсці на сцяжыну.
Не верыць людзям і сабе.
Любіць дачку, кахаць дзяўчыну,
І не захраснуць у мане.

Ісці дарогаю, дзе мгліцца,
Дзе замяняюць ночы дні.
Ісці — ў надзеі нарадзіцца
І жыць надзеяю ісці!

* * *

Гулліва-ціхія правады
майго маўчання

ты просіш абарваць
маімі рэдкімі
словамі-сказамі існавання,
не ведаючы, што разам з імі
адрываюцца часткі
маёй душы...

* * *

Калі я сядзеў на каленях
ля тваіх ног...
Я хацеў толькі
гладзіць шчакою
валасоў тваіх шоўк;
трымаць твае рукі;
у вочы глядзець;
роднага сэрца
адчуўшы біццё,
кранаць твае вусны
сваімі ледзь-ледзь...

* * *

*Ігару Кананові́чу*

Верш недапісаны лёг на стале...
Можа, мне мроіцца? Можа, і не?
Слоў не хапае — узяць — дапісаць.
Лёг я на ложак — не хочацца спаць.
Што мне падкажа апошні радок —
дым тытунёвы, гарбаты глыток?
Дзе ён падзеўся, сакральны матыў?
Можа быць, сёння яго я згубіў?
Вокны з жалеза, сцены — турма:
марыў я марна і верыў дарма.
Што тут паробіш? Натхнення няма!
Слоў не падкажа, канечне, сцяна,
дый не прашэпча ніколі і столь,
іх прадыктуе радасць ці боль.
Зараз пачуццяў якраз не стае —
верш недапісаны лёг на стале...

* * *

Нам не хапае галасоў,
якія б нам грамчэй крычалі
патрэбных сотні родных слоў,
што мы адкінулі, змаўчалі.

Нам не хапае моцных рук
(ці моцы ў іх нам не хапае?),
каб заглушыць няпраўды гук,
які даўно ўжо дакучае.

Нам не хапае сілы ног,
якія б беглі без упыну,
па той дарозе, што збярог
для нас усіх даўно Скарына.

Ды не хапае нам вачэй,
глыбей каб бачыць і наперад.
Нам трэба слых! Пачуць хутчэй
і ўраз спыніць душэўны верад.

Нам не хапае светлых дум,
прыгожых вольных лепшых думак,
каб у галовах струшчыць тлум,
што нам накідалі — пакунак.

Пішу і думаю я зноў —
чаго яшчэ ў нас так мала?
Нам не хапае Кастусёў
і не стае жывых Купалаў.

### *СМУТА*

На чулае сэрца
любімай Айчыны
накінуты лейцы
прыгоннага чыну.

І збітыя рукі
самлелай Айчыны
звязаныя крукам,
без мэты, прычыны.

Крывавыя вусны
гаротнай Айчыны,
больш давяцца лустай,
грызуць без упынку.

Здранцвелыя ногі
адзінай Айчыны —
з наглядам знямогі,
у пашчы ваўчынай.

На думкі і мову
каштоўнай Айчыны
аб’яўлены ловы
найгнюснейшым чынам.

Гісторыю, памяць
ды песні Айчыны
бы крадуць і ганяць,
як цноту дзяўчыны.

Душу анямелую
прыгожага краю
цалую нясмела,
сабой атуляю.

## ***ПАКОЙ***

Я трымаў у руках фотаздымак.
На ім — я у пакоі сваім
Баўлю час у маленстве, дзяцінстве.
О, які быў мой светлы пакой!..

Час прайшоў: ён, канечне, няўмольны.
Я гляджу... А пакой мой такі ж:
Гады мала ў ім што змянілі,
Хіба крышачку ён пацямнеў...

Я жыву ў тым самым пакоі:
Простым родным любімым маім...
Ён здаваўся б, напэўна, і светлым,
Калі б былі жывыя усе...

## *ЗДРАДА*

Лісты бязмежнай худой адзіноты
шапталі, грызлі крывавыя ноты,
ладна гудзелі, прыгожа спявалі!
Гук разлятаўся на мільёны караляў...
Іх мы з табою збіралі...

Дождж маляваў дажджавыя малюнкі,
прывід лунаў, пакідаючы думкі.
“Хто я такі?” — кідаў я у прастору.
Збянтэжаны вецер нёс тыя словы,
цягнучы іх, ды праз вецце, праз кроны.

Гладзіў сумёт тваіх мараў душою.
Колькі мы ўжо не знаёмы з табою?
Ператвараліся ў тузін ўсе лічбы,
той знак пытання зрабіўся як клічнік,
шлях мой апошні — ён стаўся як лішні.

Гронкі жыцця чырвоныя трушчыў,
сок выпускаў, пакідаючы гушчу,
з даўніх падзей, што прынеслі нам мукі,
сэрца ваганне празмерныя грукі...
Рукі ў крыві. Не трымай мае рукі...

# “Экслібрыс”

## *Творы пераможцаў конкурсу маладых літаратараў*

*Сябры журы, у склад якога ўвайшлі **Ала Брадзіхіна, Леанід Галубовіч, Людміла Рублеўская, Ціхан Чарнякевіч ды Ірына Шаўлякова,** абралі пераможцаў штогадовага літаратурнага конкурсу, які ладзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў і сёлета быў прысвечаны крытыцы і літаратуразнаўству.*

*Першае месца атрымаў **Антось Уласенка** з рэцэнзіяй “Faërie Вялікае Літвы” на кнігу Антона Францішка Брыля “Ян Ялмужна”.*

*Другое месца заняў артыкул **Алены Карп** “All you need is love, або Чалавек мусіць быць абнятым” пра кнігу паэзіі Таццяны Светашовай “Разные вещи”.*

*Трэцяе месца падзялілі паміж сабой **Дар’я Латышава** з рэцэнзіяй на кнігу “Возера радасці” Віктара Марціновіча і **Паліна Піткевіч** з рэцэнзіяй на зборнік прозы і паэзіі маладых “Мой дзень пачынаецца”.*

*Віншуем пераможцаў і прапануем вашае ўвазе іх тэксты!*

## <u>Антось УЛАСЕНКА</u>

### Faërie Вялікае Літвы*

***Антон Францішак Брыль. Ян Ялмужна. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 108 с.***

У беларускай літаратуры няма фэнтэзійнае традыцыі. Ёсьць тэксты, якія маглі б стацца фэнтэзі, як “Шляхціц Завальня” Баршчэўскага ці “Ладдзя Роспачы” Караткевіча. Ёсьць тэксты, што пераскочылі цераз традыцыю ў постмадэрнізм, і фэнтэзі ня сталіся — прыкладам, “Здані і пачвары Беларусі” Ахроменкі і Клімковіча ці “Зямля пад крыламі фэнікса” Балахонава. Але традыцыі няма. Зрэшты, няма ў нас ні сваіх артураўскіх мітаў, ані “Мабіногіёна”, ані “Калевалы”. І Еўдакім Раманаў, на жаль, ня ёсьць Эліясам Лёнратам. Стракатая і неаднастайная

* *Аўтарскі правапіс захаваны.*

беларуская міталёгія ў суцэльную карціну ніяк ня лучыцца. Зь яе не атрымаецца “Сільмарыліёну” — хіба што “Аб багох крывіцкіх сказы” Хмары.

Няма ў нас крытыкаў-адмыслоўцаў, якія б ведалі канон і былі здольныя адрозьніць добрае фэнтэзі ад дрэннага. (Адсюль столькі дзіўнаватых водгукаў на кнігу, пра якую йдзецца далей.) У найлепшым выпадку тыя крытыкі чыталі/чулі пра Толкіна і Льюіса, зазвычай жа ўважаюць жанравую прозу за недалітаратуру, якую ацэньваюць паводле расейскамоўных штамповак зь яскравымі вокладкамі. А калі раптам перастрэнуць у аддзеле Вялікае Літаратуры “Little, Big” Кроўлі ці “The Last Unicorn” Бігля, дык папросту не прызнаюць іх за фэнтэзі, нягледзячы на цьверджаньні аўтараў.

Пры ўсім пры тым беларуская літаратура – пра гэта часта кажуць – ёсьць літаратураю нерэалістычнаю. Дый чытачы больш чуйныя за крытыкаў. Іх ня так проста спакусіць моднымі літаратурнымі плынямі ды выкшталцонымі прыёмамі, ім насамперад трэба цікавая гісторыя. Таму чытачы прагнуць беларускага фэнтэзі. Гэта прага да запраўднае літаратуры ў яе клясычным разуменьні. Прага пачуць захапляльны аповед ля вогнішча, даведацца, “што ж было далей?”, паверыць у казку. Прага настолькі моцная, аж чытачы гатовыя праглынуць нават “Сем камянёў” Шэіна — хрысьціянскую казань, замаскаваную пад фэнтэзі. Такога сабе і Льюіс ня мог дазволіць, а беларускія аўтары — могуць.

Здаецца, папулярнасьцю ў нас будуць карыстацца нават беларускамоўныя навэлізацыі клясычных модуляў *Dungeons & Dragons*, накшталт “The Temple of Elemental Evil” і “Tomb of Horrors” Гайгакса. Бо свае фэнтэзійнае традыцыі нямашака, а пачытаць цікавую кніжку ўсё адно хочацца. Сучасная ж беларуская літаратура прапануе нашмат больш тэкстаў, якія чытаць *трэба*, чымся тых, якія чытаць *хочацца*. Ёй не стае фэнтэзійных раманаў, зробленых хай сабе і на замежным матар’яле, але пісаных беларускаю моваю. І гэта вялікая бяда.

Ды на кожнае правіла ёсьць вынятак. Беларускае фэнтэзі “Ян Ялмужна” напісанае якраз у традыцыі. Антон Францішак Брыль з тых аўтараў, што тонка чуюць і разумеюць канон у фэнтэзі. Пра гэта сьведчыў ужо першы ягоны зборнік паэзіі “Ня ўпаў жолуд”, а таксама пераклады “Бэўвульфа” і “Каваля зь Вялікага Вутану”. Гэта ж яшчэ раз пацьвердзіла новая казка аўтара — “Ян Ялмужна”. Казкаю яна пазначаная на тытульным аркушы, і казкаю яна ёсьць — у тым сэнсе, у якім і “Ўладар пярсьцёнкаў” ёсьць літаратурнаю казкаю. І ў той жа час, абодва памянёныя творы фэнтэзі казкамі не зьяўляюцца, бо пазбаўленыя іншасказаў. Яны не расказваюць намёкамі ды эківокамі пра нашую рэчаіснасьць, але ствараюць сваю ўласную, самадастатковую.

Чароўнай атмасфэрай і аповедам на “мяжы ведамых нам палёў” гэтая густоўна аформленая кніжыца на сто старонак нагадвае і “The Ladies of Grace Adieu” Кларк, і некаторыя апавяданьні Дансэйні, і таго самага “Каваля зь Вялікага Вутану” Толкіна, і “Kingdoms of Elfin” Таўнсэнд Ўорнэр. Як і ўсе памянёныя творы, “Ян Ялмужна” па праву можа звацца запраўдным клясычным фэнтэзі, “датолкінаўскім” — такім, якім ён мусіць быць, несапсаваным модай і камэрцыяй.

У гэтай кнізе ёсьць чары, стары замак, зацныя князі і рыцары, таемныя лясныя паны ў сваіх палацах пад каранямі дубоў, сёмы сын і дзіця навальніцы (ды не адзін), карагоды чароўнага народу, мноства таямніцаў, каханьне бязроднага кухара і баярскае дачкі, гульня ў загадкі, фінал, у якім лясны народ адыходзіць ад людзкога сьвету, і многае іншае з таго, што робіць звычайную казку добрай фэнтэзі.

Больш за тое, усё гэта напісана нагэтулькі ладна ды хараша, што да галавы адразу прыходзіць азначэньне “прыгожае пісьменства”. Гэта таксама і проза паэта, у якой кожнае слоўца абгабляванае і прыладжанае да месца, пра што кажа архітэктоніка тэксту: з тысячы спосабаў расказаць даволі простую гісторыю аўтар выбірае далёка ня сама просты — ён разгортвае аповед праз размовы пэрсанажаў.

Прытым ніколі не забываецца, што расказвае гісторыю; не забываецца захапіць і прывабіць чытача. Ад чытача, у сваю чаргу, патрабуецца нямала пільнасьці. Бо гэта проза паэта яшчэ і ў тым сэнсе, што яна поўная мастацкіх тропаў, недагаворак і загадак. Каб напоўніцу насалодзіцца кнігай, чытач мусіць шмат усяго ведаць: палітычную сытуацыю ў ВКЛ напачатку XVI стагодзьдзя, гісторыю роду Гаштаўтаў, біяграфію Паўла Гальшанскага; мусіць уяўляць адрозьненьне клясычнае лаціны ад *Latinum vulgare*, каб ацаніць жарт пра вымаўленьне слова *caelis* у “Ойча наш” (жарт абсалютна толкінаўскі!); мусіць ведаць канон у фэнтэзі, каб накшталт тых крытыкаў не прачытаць “Яна Ялмужну” як просьценькую казачку.

Бо просьценькай яна падаецца адно на першы пагляд. Дзея адбываецца ў мястэчку Геранёны, што на Віленшчыне, у скарынаўскія часы. Ольбрахт Гаштаўт, гаспадар Геранёнскага замку і ўжо тады значная фігура ў Княстве, бярэ ў памагатыя свайму старому кухмайстру Яна, сёмага сына млынара. Праз пэўны час той сам робіцца кухмайстрам. Ды ня простым. Прыцемкамі Ян Ялмужна ходзіць да ўзьлесься і стасуецца зь “дзядзюхнам” з чароўнага народу. Стасункі з *faërie* маюць і Ольбрахт Гаштаўт, і ягоны прыяцель Павал Гальшанскі — пра гэта чытач здагадваецца ці не ад самага пачатку. Але сама “відавочнае” месца ў сюжэце займае каханьне маладых — Яна і Зафійкі, баярскае дачкі. Ды сама відавочнае ня значыць сама галоўнае. І каб пра гэта расказаць, трэба зрабіць адступленьне.

Колькі гадоў таму Нацыянальны мастацкі музэй выдаў прыгожы плякат “Вялікія князі ВКЛ і каралі Рэчы Паспалітай”. Даўспрунг, Міндоўг і ягоны сын Войшалак пазначаныя там у радаводзе як прадстаўнікі “верагоднае дынастыі Палямонаў”. То што ж гэта за верагодная дынастыя?

Існуе вабная легенда пра паходжаньне літоўскіх князёў ад рымлянаў. Паводле яе, рымскі нобіль і сваяк імпэратара Палямон, ратуючыся ад зьверстваў Нэрона, разам са шматлікімі сем'ямі патрыцыяў прыплыў да ўтокі Нёмна ў Балтыйскае мора і паклаў там пачатак дынастыі вялікіх князёў. Упершыню гэтая легенда сустракаецца ў Літоўскіх кроніках у 1520-х гадох. Вось як апісвае летапісец, “адколь узмагліся і пайшлі” вялікія літоўскія князі:

> У той час адно княжа рымскае, Палямон, Нэронаў павінны, забраўшыся з жаною і дзецьмі сваімі і падданымі, за ўсімі скарбы, з каторым было а пяцісот ад шляхты рымскай, такжа з жонамі і дзецьмі, узяўшы з сабою еднага аўстранома, пайшлі ў акрутах морам, шукаючы сабе месца слушнага, дзе бы мелі пасяліціся і мешкаці ў пакою. [...] І так оны нямалы час па мору ходзячы, прыйшлі ў Межыземскае мора і дайшлі ракі Кісага, а тою ракою ў самае мора Акіян (мае быці мора Балтыцкае або Венэдыцкае), а морам Акіянам выйшлі да вусьця ракі ў Карлянскага мора, дзе Нёмэн-рака ў тое мора ўпаўшы (недалёка ад Клойпеды або Ланэла, замку вельмі абароннага прускага), да мора Балтыцкага або Венэдыцкага ўпадае. [...] Ідучы ракою Дубасаю, найшлі над нею горы высокія і дубровы пенкныя, размаітымі абфітасьцямі напоўненыя, і зьверу размаітага раджаю: тураў, зуброў, ласей, еленей, сарн, рысяў, куніц, лісаў, белак, гарнастаеў і іншага раджаю зьверу, такжа ў рыбах вялікую абфітасьць і дзіўных рыб з мора. І пасадзіліся над тымі рэкамі, Нёмнам і Дубасаю, і пачалі ся размнажаць, а тое месца межы тымі рэкамі вельмі ім падабалася, і назвалі тую зямлю Жмоньць, ад размнажэньня.

Легенда гэтая, няхай сабе вабная і рамантычная, зусім неверагодная. У наш час гістарыяграфія ўважае яе папросту за байку і “ілюстрацыю ідэялягічных настрояў у ВКЛ XVI стагодзьдзя”. Зрэшты, у ейнай гістарычнасьці сумняваліся ўжо трыста гадоў таму: Карамзін, прыкладам, называў весткі пра рымскае паходжаньне літоўскіх князёў “казачнымі” і беспадстаўнымі.

Але заўжды й паўсюль ёсьць тыя, што ў легенду хочуць верыць. Дзеля таго легенды і патрэбныя. Тут можна зноўку прыгадаць плякат Нацыянальнага музэя і нават згадкі Палямона ў якасьці продка Гедымінавічаў у некаторых сучасных кнігах. А ў далёкім XVI стагодзьдзі Ольбрахт Гаштаўт, граф на Мураваных Геранёнах і вялікі канцлер літоўскі, быў тым адзіным, хто мог мець дачыненьне да

стварэньня легенды. Гэта даводзіць спадар Латышонак у сваім артыкуле “Палямон. Коды легенды”. І Антон Францішак Брыль, які робіць Ольбрахта Гаштаўта цэнтральным пэрсанажам у сваёй казцы, таксама хоча верыць. А можа, хоча зрабіць для Беларусі-Вялікалітвы тое самае, што Толкін (пачаўшы пісаць “The Book of Lost Tales”) зрабіў для Англіі-Вялікабрытаніі: стварыць міталёгію.

Ольбрахт Гаштаўт не сумняецца, што ёсьць нашчадкам Палямона. У вежы Геранёнскага замку ён мае цэлы пакой, расьпісаны фрэскамі, што апавядаюць пра ўцёкі Палямона з Рыму да Жмудзі. Але адкуль у яго тая пэўнасьць? Яшчэ ў пралогу відаць, што ён ня просты сьмяротны, бо знаёмы са звычкамі ляснога народу. Але калі Ян Ялмужна напрамкі пытаецца пра гэта ў свайго “дзядзюхны”, той адказвае: “Не, і пан твой не з такіх”. Толькі ў перадапошнім разьдзеле Ян здагадваецца задаць слушнае пытаньне, каб пачуць у адказ гісторыю. Тады ж нарэшце робіцца зразумела, ад каго і для каго ён ёсьць ялмужнаю.

Палямон прыплыў да балтыйскага берага зь сямю сынамі. Сёмы, народжаны ў навальніцу, угледзеў сьцяжыну ў лес і, пакуль астатнія займаліся сваімі справамі, пабег па той сьцяжыне, і хутка ўжо танцаваў на паляне ў карагодзе ляснога народу. Натанцаваўшыся ды пакаштаваўшы тамтэйшага пітва, хлопчык выйшаў на ўзьлесьсе і стаў гукаць бацьку. Адгукнуўся ж яму Марцін Гаштаўт, што ехаў тады канём праз лес, і ад тае пары стаў зваць хлопчыка сынам. Ольбрахт Гаштаўт, названы сын Марціна і крэўны сын Палямона, танцаваў з чароўным народам ці не паўтары тысячы гадоў...

Тутсама варта ўзгадаць аўтаравы вершы пра Гінвіла і Сурвілу ды міфалагічныя паэмы пра Раманавых сыноў (Нарымонта, Даўмонта, Гольшу, Гедруса і Трайдзеня) зь першага зборніку, каб пераканацца: Антон Францішак Брыль не жартуе, ён стварае паўнавартасную міталёгію — ня проста набор тэкстаў, а цэласную сыстэму з пэўнымі законамі, дзе паспаліты люд суіснуе з *faërie*. І па чытаньні “Яна Ялмужны” на радавод вялікіх князёў глядзіш ужо іншым вокам, нібы на сьпіс каралёў Нумэнору.

Такое вось сужыцьцё міфалогіяў для Вялікае Брытаніі і Вялікае Літвы.

## Алена КАРП

### All you need is love, або Чалавек мусіць быць абнятым

***Таня Светашёва. Разные вещи. – Минск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; «Пункт адліку») – 68 с.***

Да дэбютных кніг, здараецца, ставіцца лаяльна і нават крыху паблажліва. Непазбежныя спатыканні першых крокаў даруюцца за спадзяванне, што далей – болей. Гэта ў тэорыі. На практыцы гарызонт чытацкіх чаканняў можа жорстка «завальвацца». Можа і ў катастрафічны мінус, але тыя пыльныя зборнічкі, што заканчваюць сваё жыццё на ніжніх паліцах кнігарань, нас мала цікавяць. Яны не робяць літаратурнага працэсу.

Іншы полюс – аўтары, якія выдаюць свае першыя зборнікі, а мы ўжо ведаем іх імёны і няёмчымся называць іх маладымі, бо «малады пісьменнік» – гэта ўсё-такі пра статус, пра іерархію, а не пра ўзрост. Адным словам, не заўсёды першую кнігу хочацца называць дэбютным зборнікам. Але заўсёды ўсцешна, калі такая кніга – спелая, сталая – з’яўляецца. Такія ўжо здараліся ў серыі «Пункт адліку». Адна з апошніх – «Разные вещи» Тані Светашовай. Падаецца, пра яе гаварылі менш, чым яна таго заслугоўвае.

Рэмаркі пра празаізаваную мову паэзіі, непазбежнае абнаўленне паэтыкі і пра тое, што гэта ўрэшце нармальна, здаецца, даўно выглядаюць агульным месцам і рэверансамі ў бок найбольш кансерватыўных чытачоў. Тым не менш, першае,

за што чапляецца вока, – гэта маўленне, манера пісьма Светашовай. З аднаго боку, яна не выпадае з кантэксту рускамоўнай паэзіі Беларусі – не агулам, а той, што яднаецца як мінская школа. З іншага, у яе абсалютна сваё, адрознае пісьмо, уласны спосаб працаваць з тэкстам. Мова такая скупая, нібы за кожнае слова даводзіцца плаціць (зрэшты, хіба не даводзіцца?). Ніякіх упрыгожванняў, выказванне сціслае, скандэнсаванае. Усё лішняе адсякаецца дзеля максімальна дакладнай, яснай мовы, дзеля славутай гармоніі формы і зместу.

«Разные вещи» чытаюцца як кніга пра сталенне, уваходжанне ў дарослае жыццё, дзе «нет справедливости – чёрт с ней», дзе раптоўна аказваецца, што твае дзіцячыя ідэалістычныя імператывы ніхто не імкнецца задаволіць, а карма працуе ў абодва бакі. Ты таксама ў гэтым халодным свеце кагосьці раніш, камусьці вораг. Жорсткай рэчаіснасці пасуе жорсткая мова, мова дарослага чалавека, які зведаў гаркоту, расчараванні, несправядлівасць. Але чым большы, сталейшы ўласны досвед, тым большае паразумення і любові. Тым больш спачування да тых, хто проста тут і цяпер збывае сваю бяду. І ў гэтых дарослых вершах («стишочки все в синяках») вельмі шмат любові і спачування – таго, якое не шкадаванне, а паразуменне і здольнасць працягнуць руку. Чалавек кволы і датклівы («я так прост и могу сломаться»), чалавек маленькі ў вялікім свеце і заслугоўвае спагады.

Канцэнтрацыя любові ў гэтым зборніку падкупляе. (Нават адносіны з горадам выбудоўваюцца праз катэгорыю любові. І здаецца, гэта мінскаму тэксту пашанцавала, і гораду пашанцавала з Таняй Светашовай як «создателем минского мифа»). Роўна як і тое, што транслюемыя гісторыі пра балючы досвед, праз які адбываецца сталенне, перажытыя з яго нагоды эмоцыі – мы можам сабе прысвоіць. Плакалі, знаем. І пра здраду, і пра адзіноту, пра смерць і пра цыклічнасць жыцця. Пра тое, як дарослы абарону трымаеш самастойна; як вучышся абыходзіцца без падтрымкі і не выдаваць сябе. Урэшце – пра бескампрамісную, катастрафічную патрэбу любові.

Калі падумаць, то ўсё гэта вельмі простыя гісторыі і ва ўсіх нечым падобныя. Яны смыляць па начах, але як толькі пачынаеш няўмела пра іх гаварыць, становяцца банальнымі, легкаважнымі, не роўнымі сабе. І лепшае, што магло з імі здарыцца, – гэта лаканічнае і афарыстычнае афармленне Тані Светашовай, адмысловы ракурс, дасціпны і арыгінальны.

У имени
так мало времени,
прежде чем превратиться в отчество,
раствориться в ком-то другом.
А тот, кто теперь по отчеству,
ещё ненадолго останется –
помнить черты лица,
считать поседевшие волосы
и имя отдать
другому...

Адвечная тэма – і сціслае, максімальна насычанае выказванне, якому няма патрэбы ў каментарыях. У прынцыпе так і мусіць працаваць паэзія – знаходзіць словы, якія здзіўляюць, якія не знайшлі да цябе і пасля якіх усе астатнія застаюцца лішнімі.

Паэзія Тані Светашовай становіцца, акрамя іншага, магчымасцю суперажывання, далучанасці да чужога досведу, які робіцца блізкім і зразумелым. І высвятляецца, што гэта тэрапеўтычна, калі пра агульнае вярэдлівае нехта гаворыць без какецтва, калі гэты досвед, якога ніхто насамрэч сабе не хацеў, данесены ў вельмі простым, прамым, аскетычным выказванні. Данесены з максімальнай шчырасцю – ад першай асобы, з першых рук. Ва ўнутраным маналогу няма сэнсу хлусіць.

Маналогі гэтыя збіраюцца ў праўдзівую споведзь трывушчага алавянага салдаціка ў баі за каханне. Натуральна, тут шмат болю. І пры высокім яго градусе, пры вельмі шчыльнай канцэнтрацыі добрым густам выглядае захоўваць дастаткова роўны тон, абыходзіцца без меладрамы. Надрыў не становіцца тэатральным. Жывое застаецца жывым.

Наогул, канцэпцыя зборніка вытрымліваецца вельмі паслядоўна, і тут варта казаць менавіта пра цэласнасць, але ніяк не пра аднастайнасць (а яны, падаецца, заўсёды недзе побач). Бо рэгістры своечасова пераключаюцца, змяняюцца інтанацыі, рытміка. У цэлым тут дэманструецца высакакласная тэхніка, якую можна разбіраць падрабязна і скрупулёзна. Але ад крытычнага тэксту звычайна чакаюць не гэтага, а дакладнага адказу: дык спадабалася ці не.

Што я маю сказаць. Пасля прачытання ўзнікае такі тэрапеўтычны эфект: хочацца абдымаць усіх гэтых персанажаў – вельмі харошых і не вельмі шчаслівых. (Аўтарку як alter ego лірычнай гераіні таксама хочацца абдымаць. Але пра гэта сорамна пісаць: кажуць, у крытыцы нельга пераходзіць на асобы.)

Спадабалася, натуральна.

## Дар'я ЛАТЫШАВА

### Увайсці ў адно «Возера» двойчы

***Віктар Марціновіч. Возера радасці. / Пераклад з рускай Віталя Рыжкова. — Мінск: Кнігазбор, 2016. — 320 с.***

Калі правесці апытанку на вуліцах сталіцы, каб даведацца імя самага вядомага беларускага пісьменніка, то, хутчэй за ўсё, большасць назвала б неразлучных Купалу і Коласа. Магчыма, у тройку лідараў увайшлі б Караткевіч альбо Быкаў. Але калі пытанне звузіць да сучаснай літаратуры, то перамог бы Віктар Марціновіч. Бо хто яшчэ гадзінамі раздае аўтографы ў «Акадэмкнізе» і дадрукоўвае свае кнігі тысячным накладам, бо яны прадаюцца лепш за творы Алексіевіч? Гэта ўсё, безумоўна, добра. Але ці ёсць гэта паказчыкам высокай і якаснай літаратуры? Ці сапраўды «Возера радасці» самая лепшая кніга Віктара Марціновіча, самая глыбокая, самая шчырая?

Любы літаратурны твор лепш чытаць у арыгінале, калі дазваляе ўзровень валодання мовай, на якой ён напісаны. Бо толькі так можна пачуць голас аўтара, а не «агучку» перакладчыка. Але «Возера радасці» мне наўмысна хацелася прачытаць менавіта на беларускай мове, бо ў адным са сваіх інтэрв'ю аўтар сказаў, што Віталь Рыжкоў, які перакладаў раман, надаў твору паэтычнае гучанне. Пры ўсёй павазе да аўтара і перакладчыка, а таксама рэдактара і карэктара, беларускамоўны тэкст атрымаўся вельмі сырым і недапрацаваным. Магчыма, кніга тэрмінова рыхтавалася да друку, таму і прапускаліся не толькі дробныя памылкі друку, але і вельмі недарэчныя пасажы. Тонкай працы са словам і паэтычнасці, пра якія казаў Віктар Марціновіч, таксама не заўважана, праўда, было некалькі момантаў, дзе перакладчык пацешыў самабытнымі беларускімі слоўцамі, накшталт «вяхотка». Агулам пераклад атрымаўся неблагі. Расчараванне было не ад самога тэксту, а хутчэй ад завышаных чаканняў.

Раман чытаецца лёгка, першая частка інтрыгуе і прываблівае, але ўжо на сярэдзіне кнігі можна прадказаць, чым яна скончыцца. Дзеянне твора то манатонна цягнецца, то развіваецца настолькі хутка, што складана не згубіць сюжэтную нітку. Часам даводзіцца вяртацца назад, каб разблытаць гэты клубок думак і развагаў. Некаторыя моманты здаліся настолькі ўтрыраванымі, што рабілася брыдка. Напрыклад, урывак, у якім галоўная гераіня ехала на вакзал на турыстычным двухпавярховым аўтобусе, дзе экскурсаводка несла поўную бязглуздзіцу. Такое

ўражанне, што аўтар сабраў усе стэрэатыпы пра беларусаў, іх адмоўныя рысы, узровень ведаў з гісторыі і нацыянальную свядомаць. Спачатку гэта было смешна, але пісьменнік настолькі ўсё гіпербалізаваў, хай і наўмысна, што стала сорамна не за гераіню кнігі, а за яе аўтара.

Засталося незразумелым, чаму Віктар Марціновіч назваў «Возера радасці» самым шчырым і дарослым раманам з напісаных ім. Пісьменнік зусім не шчыры са сваімі чытачамі, ён, падаецца, нават не вызначыўся, для каго піша. Для непатрабавальнага чытача тут і злабадзённыя праблемы (прымусовае размеркаванне, хлусня з тэлебачання, абыякавасць дзяржавы), і вечная тэма суіснавання алігархаў ды «простага люду», які жыве ў галечы і ад яе ж співаецца, і кантрасты сталічнага жыцця ды выжывання ў глыбінцы. Усё гэта прыпраўлена смачнымі дыялогамі са спрошчанай лексікай, жаргонам і лаянкай (бо трэба «быць прошчэ», каб людзі пацягнуліся). Адным словам, годны сцэнар для расійскага «мыла». Але і скочвацца ў літаратурную папсу таксама ж не хочацца, таму вось і прэтэнзія на элітарнасць — лірычныя адступленні, цытаты класікаў, метафары і інтэртэксты. А ў выніку атрымліваем чарговую вялікую калонку Віктара Марціновіча, толькі з сюжэтам і ад трэцяй асобы. Затое на любую крытыку можна адказваць, што ўсе зразумелі толькі тыя алюзіі, якія аўтар сам прагаварыў у інтэрв'ю. А вось глыбінны сэнс так ніхто і не спасцігнуў.

Калі ацэньваць раман самай каштоўнай валютай маладых чытачоў, то я стаўлю «лайк». «Возера радасці» на галаву вышэй за «Мову» і на дзве за «Сфагнум». Але гэта не тая кніга, якую хочацца перачытаць. Бо пры першай спробе паглыбіцца ў твор драпаеш жывот аб пяшчанае дно, як на балтыйскіх пляжах. Сюжэт просты і наіўны, таму такі блізкі і зразумелы. І хай аўтар сцвярджае, што той, хто чытаў кнігу толькі адзін раз, не чытаў яе ні разу, і што па другім чытанні адкрываецца мноства глыбінных сэнсаў, мне падаецца, што ўсе інтэртэксты ў гэтым выпадку счытваюцца з першага разу. Хоць у гэтае «Возера» і можна ўвайсці двойчы, але ці варта?

## Паліна ПІТКЕВІЧ

### Нырэц па перліны

***Мой дзень пачынаецца. Проза і паэзія маладых. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2015.***

Са старажытнасці вядомая прафесія – нырэц па перліны. Для беларусаў, якія не маюць свайго мора, яна можа ўяўляцца дужа рамантычнай. Між іншым, патрабуе вялікай смеласці і немалых высілкаў. Калісьці "чалавек мора", як яго называлі, апускаўся на глыбіню да дваццаці метраў, часта не маючы на сабе нічога, акрамя набедранай павязкі – талісмана ад акул – і надзеі гэтым разам знайсці жаданую ракавіну з жамчужынай унутры.

Чытач літаратурнага зборніка нечым падобны да нырца па перліны, бо ён рашаецца затрымаць дыханне і з галавой акунуцца ў незнаёмы яму сусвет, поўны слоўных дзівосаў і багаццяў на любы густ. Мэта – знаёмства з новым і пошук. Таму і ўкладальнік зборніка, чалавек мора літаратурнага, які займаецца адборам аўтараў і тэкстаў, ператвараецца на час працы ў такога нырца. Асабліва калі рыхтуе зборнік твораў маладых пісьменнікаў. Звычайна для творцы публікацыя ў ім – пробны каменьчык, што можа як знікнуць бясследна, абыякава заглынуты перанасычанай тэкстамі кніжнай прасторай, так і пусціць на ваду выратавальныя кругі, вынайсці невядомую дагэтуль літаратурную глыбіню. Тады з'яўленне зборніка дасць пачатак нечаму творчаму шляху, як узыход сонца дае пачатак дню.

Зборнік "Мой дзень пачынаецца" выдавецтва "Мастацкая літаратура" склалі руска- і беларускамоўныя творы сарака пяці аўтараў ва ўзросце ад дзевятнаццаці

да трыццаці трох гадоў. Кароткая прадмова памерам у два абзацы і яшчэ больш лаканічная анатацыя ў адзін сказ прапаноўваюць чытачу ўявіць аўтараў у ролі будучых класікаў, бо, падкрэсліваецца, ужо зараз у іх творчасці заўважны патэнцыял, каб "стаць дастойнай заменай лепшых прадстаўнікоў нашай літаратуры". А пакуль вучні класікаў і таленавітыя самародкі практыкуюцца ў прыгожым пісьменстве, вызначаюць для сябе функцыі сучаснага мастацтва і сваё месца ў ім. Зборнік іх творчасці – кластар для прамежкавых вынікаў гэтай нябачнай пошукавай ды шліфавальнай працы. Карысны ён і тым, што пачынаючыя пісьменнікі "жывуць" у зборніку разам, нібы ў студэнцкім інтэрнаце, таму не толькі атрымліваюць магчымасць "сябе паказаць", але і "іншых паглядзець", ацаніць, параўнаць.

Мастацкае афармленне зборніка цалкам адпавядае яго зместу – асобнік выглядае "стыльна, модна, маладзёжна". Кнігу адрознівае сучасны мінімалістычны дызайн. Напрыклад, у назве зборніка на вокладцы літара "о" ў слове "мой" становіцца цэнтрам большай акружнасці, якая можа абазначаць сонечны дыск або кола маладых літаратараў. Каб прачытаць іх імёны на адваротным баку кнігі, даводзіцца павярнуць яе на дзевяноста градусаў і трымаць карэньчыкам уніз. Паводле фармату зборнік нагадвае альманах. Падобны да яго, па-першае, вёрсткай, калі тэкст друкуецца на старонцы ў дзве калонкі, па-другое, вялікай колькасцю аўтараў і разнастайнасцю тэкстаў. Да таго ж, адчуваецца адсутнасць "кропкі", гіпатэтычны працяг, выхад "другога нумара".

Арыентавацца ў зборніку дапамагаюць некалькі падыходаў да яго аналізу. Можна аддзяліць прозу ад паэзіі і разглядаць іх паасобку. Ці "раскідаць" творы па пэўных тэмах і жанрах. Яшчэ варыянт – засяродзіцца на саміх аўтарах, іх прыналежнасці да таго ці іншага пакалення: "старэйшага" (народжаныя ў 1980-я гг.), "малодшага" ("дзеці" 1990-х) або "прамежкавага" (на мяжы адзначаных гадоў).

Дарэчы, заўважана неспецыфічная для зборніка творчасці маладых пісьменнікаў рыса: няма біяграфічных звестак пра іх. Толькі імя, прозвішча і год нараджэння. Тэксты – асноўная для чытача крыніца інфармацыі пра пісьменніка і адзіны крытэрый ацэнкі яго творчасці. Аўтары нібы зраўняныя ў правах. Сімвалічна, што іх імёны і прозвішчы (як і назвы твораў) надрукаваны без загалоўных літар. Чытач не ведае, хто з аўтараў неафіт з першай публікацыяй у кнізе, а хто – пісьменнік з выдадзеным зборнікам паэзіі, прозы ці раманам (а можа, і не адным). Ёсць твор/творы, і яго/іх мастацкая вартасць кіруе сімпатыямі чытача. Так, публікацыя ў дадзеным зборніку для большасці аўтараў не была запаветным "пробным каменьчыкам".

Канечне, у апісаную ідылію можа ўмяшацца эфект пазнавальнасці, асабліва калі чытач знаёмы з літаратурнымі і каляліттаратурнымі тусоўкамі. Хтосьці чытаў прозу Сяргея Календы, аўтара сямі кніг і стваральніка часопіса "Макулатура". Хтосьці бачыў выступленне паэта, музыкі і барда Міхала Бараноўскага. Аматар сучаснага тэатра хутчэй за ўсё пазнае тэатральнага крытыка Алену Мальчэўскую (яшчэ яна аўтар зборніка казак) і з асаблівай цікавасцю прачытае яе апавяданні. Гартаў у кнігарні яго/яе кнігу... сустрэў на імпрэзе... вучымся на адным курсе... ведаю як універсітэцкага выкладчыка... Заўсёды радасна пабачыць знаёмае імя. Не менш радасна адкрыць для сябе новае. Зборнік "Мой дзень пачынаецца" дае такую магчымасць.

Кожны "нырэц" мае шанец адшукаць сваю "жамчужыну" сярод той разнастайнасці – жанравай, тэматычнай, стылявой, – якую прапаноўвае яму зборнік. Звернемся да паэзіі і знойдзем вершы розных форм – ад традыцыйнай сілаба-тонікі да верлібра, таўтаграмы, хайку. Што да тэм, то ў лідарах, безумоўна, каханне (і растанне), а таксама пейзажная лірыка. Разам з тым, у вершах выяўляюць сябе развагі над побытавымі і філасофскімі праблемамі, тэма вайны (вачыма пісьменніц-дзяўчат), малой і вялікай радзімаў, зварот да біблейскіх сюжэтаў і сусветнай культуры ў асэнсаванні рэчаіснасці. Сустракаюцца прыклады ўрбаністычнай паэзіі: прысвячэнні гарадскім

мясцінам і грамадскіму транспарту (метро, трамваям, цягнікам). А вось няпоўны спіс прэзентаваных у зборніку празаічных жанраў: навэлы, калядныя апавяданні, падлеткавая проза, абразкі і зацемкі, казкі для дарослых, творы міфалагічныя з пераходам у навуковую фантастыку... І паэтычныя, і празаічныя тэксты выяўляюць не толькі самааналітычнае паглыбленне аўтара ўнутр свайго "я", тэрапеўтычнае адлюстраванне асабістых пачуццяў і перажыванняў, але і пільную ўвагу да праяў навакольнага свету, простых рэчаў, жыцця звычайных людзей.

Зборнік прозы і паэзіі маладых "Мой дзень пачынаецца" варты таго, каб затрымаць дыханне і здзейсніць сваё падарожжа ў пошуках "жамчужыны" – гэта можа быць арыгінальная метафара, каштоўная думка, цэлы твор ці творчасць аўтара. Хутчэй за ўсё пашчасціць здабыць і не адну "жамчужыну". А пакуль вось вам адразу дзве.

Першая – фрагмент зацемкі "Страшэнная таямніца" Яўгена Мартыновіча пра пісьменніцкую "кухню": "Пішаш паміж працай і сям'ёй, паміж абавязкам і вольным часам: у метро прозу, у трамваях паэзію... Пішаш саромеючыся свайго пісання (а што, калі гэта будзе надрукавана?). «А вось насамрэч. А калі гэта будзе надрукавана!»"

Другая – заключныя радкі верша "Prah" ("парог" па-чэшску) Алеся Емяльянава, што могуць стацца добрым эпіграфам да зборніка і ўяўным калектыўным выказваннем яго маладых аўтараў:

і ўсім вядома
што чакае наперадзе
але мы яшчэ
на парозе

**Коратка пра аўтараў:**



**Алена Карп**. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, магістратуру, аспірантуру Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Друкавалася ў часопісе "Дзеяслоў", газеце "Літаратура і мастацтва", альманаху "Беларускае літаратуразнаўства" і інш. Нарадзілася ў 1987 годзе ў Карэлічах. Жыве ў Мінску.



**Дар'я Латышава**. Выпускніца Інстытута журналістыкі БДУ, працавала літаратурным аглядальнікам у газеце "Літаратура і мастацтва". Фіналістка конкурсу маладых літаратараў "Экслібрыс" (2012), выпускніца першага і другога набору Школы маладога пісьменніка (2013-2014; 2014-2015). Нарадзілася ў 1994 годзе ў вёсцы Ордаць Магілёўскай вобласці.



**Паліна Піткевіч**. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Цяпер вучыцца там жа ў магістратуры. Нарадзілася ў 1994 годзе ў Мінску, дзе і жыве.



**Антось Уласенка.** Скончыў Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (факультэт "Культурная спадчына і турызм"). Мае ступень бакалаўра. Гэтая публікацыя ў "Дзеяслове" – ягоны дэбют як крытыка. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Менску. Жыве ў Маладэчне.

Вольга Гапеева



...што вы тут – рэвалюцыю рыхтуеце

ці грошы на нешта збіраеце?..

# Там

## *П’еса ў чатырох дзеях*

**Дзейныя асобы:**

Ж а н ч ы н а №1 – дагледжаная жанчына (з нафарбаванымі вуснамі, валасы ўкладзеныя), 75 гадоў.

Ж а н ч ы н а №2 – маладая жанчына, апранутая ў стылі “кэжуал”.

Б р у д н а я ж а н ч ы н а – жанчына сярэдняга веку, апранутая звычайна.

К а м п а з і т а р к а – жанчына недзе пад 40, апранутая ў фрак з гальштукам-матыльком.

Б у ф е т ч ы ц а – жанчына недзе 20–30 год, апранутая ў форму буфетчыцы, з фартушком і каптурком на галаве.

А д м і н і с т р а т а р – мужчына, 30–40 год, апрануты ў кашулю і камізэльку.

П р а в а д н і ц а – жанчына сярэдняга веку ў форме праваднiцы.

Дзеянне адбываецца ў цягніку.

## ДЗЕЯ I

Плацкартнае купэ са столікам пасярэдзіне.

### Сцэна 1

Ж а н ч ы н а №1. А ў мяне муж падводнік.

Ж а н ч ы н а №2. Вайсковец, значыцца, дысцыпліна ў вас паўсюль дома, пэўна?

Ж а н ч ы н а №1. Чаму вайсковец?

Ж а н ч ы н а №2. Ну падводнік, вы ж самі сказалі.

Ж а н ч ы н а №1. І што? Падводнік – гэта значыцца працуе пад вадой. Ён у мяне – падводны бібліятэкар. Там ведаеце колькі кніжак, о-го-го, вы нават уявіць не можаце. (*Бачыць здзіўленне і збянтэжанасць на твары Жанчыны №2.*) Ага, так, а як вы думалі гэтыя падводныя штукі апускаюцца на дно? Цяжар кніжак, толькі так. Набіраюць поўныя трумы гэтых кніжак, каб ужо хутчэй на сваё дно апусціцца, а потым зноў жа, ведаеце, чым там займацца, на дне гэтым? А з кніжкамі адразу двух зайцоў застрэліш, чытай-неперачытай, і карысна, і пазнавальна, ведаеце. Ну, а што раней, раней кансервы бралі, але гэта ж зусім не справа. Што там тыя кансервы, туды-сюды, і з'еў усе, і што рабіць? Няма чаго рабіць, трэба на паверхню ўздымацца, тым больш, што ўсё адно субмарына ўжо апусцела, палягчэла без кансерваў і сама ўздымаецца, трэба новых набіраць, вось, так што раней не выгодна было, а цяпер, пакуль тыя кніжкі ўсе перачытаеш, і вось увялі спецыяльную адзінку – падводны бібліятэкар.

Ж а н ч ы н а №2. А як жа яны потым уздымаюцца, што яны з тымі кніжкамі робяць? Іх жа не з'ясі?

Ж а н ч ы н а №1. Хм. Ну, не ведаю, я вось усё гэта кепска тлумачу, вось не ўмею гэтыя рэчы тлумачыць, думаю, дораць рыбам ці спальваюць.

Зацямненне, і ў святле ліхтара бачым тоўстага мужчыну ў штанах на шлейках, які праходзіць перад жанчынамі.

### Сцэна 2

Ж а н ч ы н а №1. Вось яшчэ раскажу вам апошняе, жонка майго брата – з Малдовы, ох і як мы туды паехалі ў тую вёсачку, дзе яна расла, там жа зямля ў іх чорная, во-во, як ваш заплечнік, ну гэта там, дзе ўзарана. А там, дзе дарогі, ну там, дзе ходзіш, дык там гліна, так-так. Гліна. І вось, разумееце, калі дождж, то пад нагамі робіцца месіва, і нам давалі такія адмысловыя боты, мы ў іх ішлі, да канца вёскі, а потым пакідалі ў апошнім доме.

Ж а н ч ы н а №2. Ну так, гліна

Ж а н ч ы н а №1. Але потым сонца вызірне – і ўсё зноўку цвёрдзенькае, падсыхае. А вы былі ў Малдове? А бачылі іхнія вяселлі?

Ж а н ч ы н а №2. Не-а, не была.

Ж а н ч ы н а №1. Вой, гэта я вам скажу, уражанняў на ўсё жыццё. Вось я на ўсё жыццё запомніла. Мы калі тады прыехалі з маёй гэтай цешчай, цьфу, якой цешчай, ну – як яна называецца, швагеркай, братавай сястрой, дык у той вёсцы вяселле было. І яны не тое што ў нас, там усю вёску запрашаюць, і калі прыехаў хто – таксама запрашаюць. І не пайсці – гэта ж няможна. Пакрыўдзяцца. І хоць краіна, ну, беднаватая, і сяляне

гэтыя таксама – але ўсё адно, усіх запрашаюць і гуляюць. Дык там во ведаеце, такія даўжэзныя чатыры сталы, ну можа, як наш вагон цэлы, і вось стаяць такія сталы, і людзей там сядзіць. І не тое што ў нас. Не сядзеш дзесь у куточку ціхенька, абавязкова падыдуць, нейкія песні, і сама ўжо падключаешся. А як выносяць гэтыя стравы – з танцамі, з песнямі, гэй, гэй (*паказвае рукамі, быццам нясе талеркі і прытанцоўвае*).

Пачынае гучаць этнічная музыка, людзі ў строях з элементамі фольку выносяць нейкія стравы, праходзяць нявеста і жаніх пад ручку, ствараецца ўражанне ўрачыстасці і гармідару.

Ж а н ч ы н а №1 (*спрабуючы перакрычаць гэтую музыку*). І кожную страву так, уяўляеце?

Ж а н ч ы н а № 2. Нічога сабе.

Ж а н ч ы н а №1. І нам, як прыезджым, дык самае лепшае, самае прыгожае. А падарункі як уручаюць. Ведаеце, гэта не тое, што ў нас, пастануць, там дзесь, ціхенька аддадуць, і ўсё. Нееее, тут зноўку кожны падарунак урачыста падносяць і расказваюць пра яго, і танчаць з ім.

Ж а н ч ы н а №2. А вы што падарылі?

Ж а н ч ы н а №1. Ну, што мы падорым? Мы ж прыехалі, не ведалі. Ну, грошы, канечне. Дык нават гэтыя грошы, яны ўзялі і давай паказваць усім, давай танчыць з імі і гэй-гэй.

Вох, ураджанняў, вох. (*Людзі з вяселлем паціху сыходзяць, на сцэне зноўку робіцца ціха*).

Чуецца больш гучна грукат цягніка, праходзіць нейкая жанчына ў пярэстым ці ярка-ружовым адзенні.

Ж а н ч ы н а №1. А яшчэ там у іх кабана білі, і сказалі нам – ідзіце дапамажыце. Мы прыходзім туды і давай дапамагаць. (*Дастае з валізкі нешта незразумелае – быццам панчошкі, дае ў рукі Жанчыне №2.)* Ну ведаеце, кішкі.

Ж а н ч ы н а №2. А, кішкі (*разглядае панчоху*), пханая пальцам кілбаса?

Ж а н ч ы н а №1. Ага, так-так. Дык вось, я ведаю як рабіць. Дык вось, мы там у той хаце чысцім-чысцім гэтыя кішкі (*бярэ скрабок і пачынае з панчохай рабіць рухі як быццам ачышчае кішкі, быццам саскрабае штосьці з панчохі*).

Ж а н ч ы н а №2. Ага, ага (*і спрабуе паўтараць за Жанчынай №1*).

Ж а н ч ы н а №1. І я ведаеце што заўважыла, вось я вам раскажу зараз. Чышчу я гэтую кішку і думаю, штосьці не так, штосьці іншае, а яна – зусім не смярдзіць. Ну, вось нічым. І я тады спыталася ў брацiхі – кажу, слухай, а чаму гэта вашыя кішкі не пахнуць. А яна мне кажа – ты бачыла, чым яны сваю свінню кармілі, калі мы праходзілі двор суседні? А там кукуруза і зерне. А ў нас што?

Ж а н ч ы н а №2. Ага, а ў нас што?

Ж а н ч ы н а №1. Бульбы навараць, потым туды, ну гэта, ну што – ну камбікорм – вось і гэта там усё ў кішках гніе і таму такі смурод, а тут – кукуруза і зерне, нішто не гніе, і таму кішачкі такія ўсе чысценькія і без паху (*выцірае быццам пот з ілба – стамілася чысціць панчоху-кішку*).

Зацямненне, і ў святле ліхтара бачым таго ж тоўстага мужчыну ў штанах на шлейках, які праходзіць перад жанчынамі.

## Сцэна 3

Ж а н ч ы н а №1. Тата мой вучыўся ў ветэрынарным інстытуце.

Ж а н ч ы н а №2. Дык ваш тата ветэрынар?

Ж а н ч ы н а №1. Так, калі там білі якое парася, дык прыносілі яму на сведчанне, каб выпісаў, што парсюк быў здаровы.

Ж а н ч ы н а №2. Ага, ну такі пост-ветэрынар.

Ж а н ч ы н а №1. Ну так, там два тыпы ветэрынара: хто пры жыцці нешта глядзіць, лекуе, і хто ўжо потым на сведчанні мяса. А пасля вайны словаў столькі развялося, ну і мы думалі, якія з іх нашыя, а якія польскія, лічылі, глядзелі. Была я неяк на танцах, жанчынкі там ля мяжы размаўлялі як па-польску, ну яны думалі, што па-польску, а потым туды прыехалі салдаты на вучэнні з Польшчы і прыйшлі ў клуб, і смяяліся з гэтых жанчын, як яны размаўлялі. Ну, таму што яны не па-польску размаўлялі, а яны думалі, што па-польску. І такія яны прыгожыя былі, тыя салдаты. І адзін мяне запрасіў танчыць, а танцы ж пасля вайны ўсе парныя былі ў нас. А яны прыехалі і з новымі ўжо нейкімі, калі па адным танчыш, нязвыкла нам было. А потым ён мне кажа, той, што запрасіў танчыць, паехалі з намі катацца. Я думаю, трэба мне гэтая радасць, завязуць, а потым кінуць дзе яшчэ. А на наступны дзень яны, гэты салдат і камандзір, паехалі кудысьці на машыне, урэзаліся ў бярозу, і ён памёр. Вось так бывае, заўтра ўжо павінен быў дома быць, а тут бяроза гэтая, і загінуў. Гэтыя ж вайскоўцы носяцца, хуткасць, а па няроўных дарогах дык і зусім, вось і ўсё.

Жанчына №1 дастае з кайстры бутэлечку, на якой напісана “святая вада”, адкаркоўвае і робіць глыток.

Ж а н ч ы н а №1. Вось вадзічка, ну тут ужо не тая, што першапачаткова была. Тую я ўжо выпіла. Гэта я ў царкву хаджу адну. Царква – новая царква – там сядзіш, глядзіш гэта ўсё, слухаеш, як у тэатры, ведаеце, а не ў царкве. І вось там вадзічку даюць, якую прывозяць з Іерусаліма.

Ж а н ч ы н а №2. А ваду яны раздаюць ці прадаюць?

Ж а н ч ы н а №1. (*Паўза.*) Раздаюць, раздаюць. Дык я такую бутэлечку вязу сваёй прыяцельцы. Яна верыць, у царкву ходзіць, але вось расказвала мне, што іхні поп там урэдны. Яна прыйшла аднойчы, і потым, ведаеце, ён ходзіць асвячае ўсіх, і дае крыж пацалаваць, і вось падыходзіць да маёй гэтай прыяцелькі і крыж гэтак прыбірае ад яе (*робіць рукой адпаведны рух*), і кажа, трэба ў царкву часцей хадзіць, каб заслужыць права крыж цалаваць.

Ж а н ч ы н а №2. Вы што? Так і сказаў?

Ж а н ч ы н а №1. Так і сказаў, уяўляеце? Ну, мая сяброўка пасля гэтага і не ходзіць туды.

Ж а н ч ы н а №2. Ну так, тады ёй будзе вельмі прыемна атрымаць такі падарунак, бутэльку вады.

Ж а н ч ы н а №1. Так-так, ёй будзе прыемна.

Ж а н ч ы н а №2. Пайду папрашу гарбаты, пап’ю ўжо чагось.

Зацямненне.

## ДЗЕЯ II

Вагон-рэстаран у тым жа цягніку. За сталом сядзяць Жанчына №2, Кампазітарка, Брудная жанчына.

Б р у д н а я  ж а н ч ы н а. Яны ўсе сказалі, што я брудная, і таму кожныя сем хвілін я мыюся, мыюся, а людзі ўсё адно называюць мяне бруднай. Я гляджуся ў люстэрка і не бачу гэты бруд, таму што гэта такі спецыяльны бруд, “брудус вербалікус”, ён нябачны воку ў люстэрка, але ўсе ўсё адно ведаюць, што ён на табе. Ад яго немагчыма адмыцца, але я веру, што калі вось так, як я, кожныя сем хвілін кожны дзень усё жыццё мыцца, то можа здарыцца цуд, і бруд гэты сыдзе, ён зразумее, што я – добрая і чыстая, што я заслугоўваю называцца чыстай.

Да століка падыходзіць Буфетчыца.

Б у ф е т ч ы ц а. Будзеце штось браць?
К а м п а з і т а р к а. Можна мне ваш голас і салату з капусткай?
Б у ф е т ч ы ц а. Капусту тую, што прыбралі з поля 25 верасня ці 10 верасня?
К а м п а з і т а р к а. Нават не ведаю, а вы што параіце?
Б у ф е т ч ы ц а. Бярыце любую.
К а м п а з і т а р к а. Добра, тады нясіце, што прынясеце. А потым далучайцеся да нас.
Б у ф е т ч ы ц а. А што ў вас такое, каб далучацца?
К а м п а з і т а р к а. У нас тут сустрэча ананімных жанчынаў.
Б у ф е т ч ы ц а. І што вы тут – рэвалюцыю рыхтуеце ці грошы на нешта збіраеце?
К а м п а з і т а р к а. Не, даражэнькая, гэта такі спосаб псіхалагічнай дапамогі, калі ніхто не разумее нашых праблемаў, апроч такіх жа небарак, як мы самі.
Б у ф е т ч ы ц а. А, зразумела, не, дзякуй, я ўжо хаджу на сустрэчы ананімных буфетчыц. Хтось яшчэ будзе што замаўляць?

Усе маўчаць.

К а м п а з і т а р к а (*услед да Буфетчыцы*). Ну глядзі, калі перадумаеш, мы тут.
Б р у д н а я  ж а н ч ы н а. Калі ты нарадзілася дзяўчынкай, ты абавязкова станеш бруднай. Гэта толькі пытанне часу.
Ж а н ч ы н а  №2. А як жа іншыя жанчыны? Яны ж таксама цябе вінавацяць, а самі што?
Б р у д н а я  ж а н ч ы н а. Тыя жанчыны заслужылі часовае прабачэнне ў Патрыярха, які кіруе брудусам вербалікусам. Яны прыслугоўваюць яму, падтрымліваюць сярод людзей ягоны аўтарытэт, нясуць патрыярхатную чысціню да кожнага сэрца. Яны чытаюць спецыяльныя малітвы, нясуць святое патрыярхатнае слова ў масы, выхоўваюць дзяцей у боязі перад брудусам вербалікусам. Яны ведаюць, што хоць іхні бруд і меншы за іншых, але ён усё адно нязмыўны, нязмыўны ніколі да канца. Калі яны – прыбліжаныя – не адважваюцца спадзявацца, на што ж спадзявацца мне? Мне ніколі не дасягнуць іх узроўню чысціні.
К а м п а з і т а р к а. Я напісала тры санаты, пяцьдзясят тры эцюды,

нават дзве оперы, маю кучу дыпломаў, абараніла дысертацыю па тэорыі гармоніі, і што? Гэта нікому не трэба, усе пытаюцца толькі пра нейкіх дзяцей і мужа. Хто гэта такія? Чаму я павінна іх мець?

Ж а н ч ы н а №2. Так-так, мадальнасць павіннасці тут проста абуральная.

К а м п а з і т а р к а. Мне адна ўчора сказала, ты не цягні, замужжа – гэта такая рэч, проста трэба скокнуць туды і ўсё. Дык я думаю – гэта што, басейн такі ці студня? Мне здаецца, што пакуль у мяне не з'явіцца дыплёму аб замужжы, мяне так і не будуць успрымаць усур'ёз. Я ж ведаю, што кажуць пра такіх, як я. Пачынаюць шкадаваць, збіраюцца ў чародкі на вуліцы і давай галасіць свае песні жалобныя па маёй самоце і адшчапенстве (*паказвае, як гэта робяць, кажа нараспеў наступныя словы*) "аёй-аёй, на каго ж ты нас пакі-іі-нула, а мууууж твой ча-каа-е, а дзеткі твае сум-уу-юць".

Ж а н ч ы н а №2. Баюся, нават з мужам яны цябе не прапусцяць далей за дзіцячыя песенькі. У нас жа адзін аркестр, а кампазітараў хапае, ім свае опусы трэба ўладкоўваць. Вось ты напісала хоць адну п'есу, прысвечаную дырыжору?

Кампазітарка адмоўна матляе галавой.

Ж а н ч ы н а №2. А хвалебную оду кіраўніку аркестра?

Кампазітарка Адмоўна матляе галавой.

Ж а н ч ы н а №2. Ну, мая даражэнькая, засунь усе свае дыпломы і эцюды ў с...аку. Яны ніколі не будуць цябе граць, з мужам ці без.

Б у ф е т ч ы ц а (*вяртаецца і ставіць талерку перад Кампазітаркай)*. Ваша капуста з маім голасам.

Пакуль кампазітарка калупае і есць салату, Буфетчыца ўвесь час нешта мурлыча, нібыта гэта сапраўды была б салата з ейным голасам.

Б у ф е т ч ы ц а. Ла-ла-ла-ла-ла...

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. А чаму б вам не зрабіць свой уласны аркестр?

К а м п а з і т а р к а. Вы што, гэта ж шалёныя грошы. Ды і хто пойдзе да мяне ў аркестр.

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Я б пайшла. Але так, я не ў лік, канечне, бо я брудная, а ў вас жа прыстойнае мерапрыемства. Ну вось вы (*паказвае на Буфетчыцу*), вы б пайшлі ў аркестр?

Б у ф е т ч ы ц а (*быццам папярхнулася*). Што? Хто? Я?

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Так-так, вы. Як падаваць тут свой голас з салатай, дык можа лепш у сапраўдны аркестр?

Б у ф е т ч ы ц а (*разгублена*). Я? У аркестр? Вы жартуеце?

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Ну чаму жартуеце? (*Звяртаецца да Кампазітаркі.*) Як вам ейны голас? Узялі б да сябе ў аркестр?

К а м п а з і т а р к а (*даядаючы салату, выціраючы сурвэткай вусны*). Хм, хм, у прынцыпе так, голас такі насычаны, незляжалы, думаю, добра пойдзе з язычковымі. Але ж у мяне няма аркестра.

Б у ф е т ч ы ц а. Ну вось, што вы мне галаву дурыце, няма аркестра.

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Пачакайце, гэта пакуль няма, а вось праз хвіліну будзе. І што тады? Пойдзеце?

Ж а н ч ы н а №2 (*да Бруднай жанчыны*). Вох, як цікава вы абышлі ўмоўны лад. Аркестру няма, вакансій няма, усё гіпатэтычна, і ніводнага “калі б”. Фантастычна. Пра гэта варта напісаць артыкул.

Б у ф е т ч ы ц а. Дык я не зразумела, ёсць месца ў аркестры ці няма аркестра?

Ж а н ч ы н а №2. Месца ў аркестры ёсць, аркестра няма. Думайце самі, даражэнькая, а яшчэ кажуць, што лінгвістыка – нікому не патрэбная навука, а тут аказваецца, жыццёвырашальная, можна сказаць. Вы зараз знаходзіцеся ў самым цэнтры моўнай гульні. Хто ж пераможа, вы ці мова? Давайце, думайце, не здавайцеся, толькі ўявіце, на заўтра па ўсіх каналах, на ўсіх сайтах і ва ўсіх газетах будзе пярэсціць загаловак “Жанчына перамагла мову”, няўжо вы не хочаце славы? Трасца з ёй са славай, нагадвае нейкае імя варожага агента. Няўжо вы не хочаце змяніць жыццё мільёнаў прыгнечаных і абяздоленых? (*Жанчына №2 увайшла ў запал, ужо трасе Буфетчыцу за плечы, дамагаючыся ад яе адказу.*)

Б у ф е т ч ы ц а (*ледзь не плача*). Я не ведаю.

Пасля гэтых словаў пачынае гудзець сірэна.

У с е (*спужана*). Што гэта? Што гэта?

Г о л а с (*аднекуль зверху, прамаўленне павольнае, дакладнае, як зачытванне інструкцый*). У выпадку, калі пакупнік задаў якое-небудзь пытанне, ні ў якім разе нельга адказваць: “Не ведаю”, “Я ў гэтым не разумею” і гэтак далей. Калі вы на самой справе не кампетэнтны ў дадзеным пытанні, неабходна паклікаць адміністратара.

З’яўляецца мужчына-Адміністратар.

А д м і н і с т р а т а р. Так-так-так, я гляджу, ты зусім забылася на сваю службовую інструкцыю.

Б у ф е т ч ы ц а. Вы што, не, я ўсё памятаю, вось-вось, паслухайце. Службовыя абавязкі: Веданне асноўных нор этыкету.

А д м і н і с т р а т а р. Норм.

Б у ф е т ч ы ц а. Норм, норм этыкету. Веданне стандартаў абслугоўвання і маню ўстановы.

А д м і н і с т р а т а р. Меню.

Б у ф е т ч ы ц а. Меню, меню. Выпраменьваць цяпло і жаданне дапамагчы зрабіць вечар у рэстарацыі незабыўным і ўсялякімі хітрыкамі схіліць наведвальнікаў да паўторнага наведвання. Павінна паважліва і ветліва размаўляць з гасцямі, дапамагаць у выбары траваў.

А д м і н і с т р а т а р. Страваў.

Б у ф е т ч ы ц а. Страваў, страваў, утульнага месца, вырашаць хутка любыя спрэчныя сітуацыі.

Усе, апроч Адміністратара, у захапленні пляскаюць у ладкі.

А д м і н і с т р а т а р. А як жа тваё “я не ведаю”? Усе гэта чулі. Нам давядзецца выразаць твой голас і прадаць яго на аўкцыёне. Яго набудзе якісь тлусты мільянер і будзе забаўляцца з ім як захоча, будзе прымушаць яго казаць розныя гнюсныя словы, будзе трымаць яго на ланцугу і паліваць воцатам, калі ён не будзе слухацца. А ты сама адправішся ў гета.

Б у ф е т ч ы ц а. Не-не, толькі не гета.

У с е. Што яшчэ за гета?

Б у ф е т ч ы ц а. Гета “Маўклівых жанчын”.

У с е (*закрываючы рот, жахаючыся*). А-а-ах!

Б у ф е т ч ы ц а. Туды ссылаюць усіх буфетчыц, што пазбавіліся голасу. Яны працуюць там без адпачынку, без ежы і сну, яны рухаюць вялізнае кола, якое прыводзіць мясцовую электрастанцыю ў дзеянне, але ніхто не ведае пра іх, усе думаюць, што гэта робаты, а гэта мы.

У с е. Звальняйся, звальняйся, пакуль не позна.

Б у ф е т ч ы ц а. Як жа я буду жыць?

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Аркестр, цяпер у нас будзе свой аркестр.

К а м п а з і т а р к а. Вы думаеце? Але ж у мяне няма грошай.

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. На першы час хопіць, будзем бясплатна граць, а там пачнем і зарабляць.

К а м п а з і т а р к а. Ну добра, можа сапраўды час стварыць нешта сваё. А вы на чым граеце?

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. У мяне скончаны клас па варгану і па шапаценню бярозавага лісця.

К а м п а з і т а р к а. Язычковыя. Выдатна! Бярэм. Мы вас бяром!

Б р у д н а я ж а н ч ы н а. Няўжо? А як жа мой бруд?

К а м п а з і т а р к а. Мне начхаць на ваш, як вы там кажаце, бруд. Гэта нейкі перажытак, я яго не бачу і бачыць не хачу. Галоўнае, што ў вас ёсць адчуванне рытму.

Б р у д н а я ж а н ч ы н а (*абдымае Кампазітарку, потым да Буфетчыцы*). Ну што, вы з намі?

Б у ф е т ч ы ц а. Так, напэўна.

А д м і н і с т р а т а р. Калі яна сыходзіць, то і мне трэба. Бярыце тады мяне адміністратарам да сябе ў ваш аркестр.

Усе абдымаюцца. Зацямненне.

## ДЗЕЯ III

Плацкартнае купэ з першай дзеі. Там цяпер сядзяць Жанчына №1 і Буфетчыца.

Б у ф е т ч ы ц а. А я некалі таксама працавала ў цягніку. Буфетчыцай. Вох, і даўно ж гэта было. Як у мінулым жыцці. Хаця, здаецца, вось зусім нядаўна. А потым аднойчы ў наш вагон-рэстаран прыйшла кампанія, і яны сталі мне абяцаць залатыя горы, што я стану знакамітай, што мой голас будзе ў аркестры. А ў іх нават і аркестра свайго не было. Так, адны словы. Затлумілі мне галаву. Прымусілі кінуць працу, аплочваемую, з сацпакетам, эх, а я маладая была, дурная, паслухалася іх і звольнілася.

Жанчына №1 слухае, але не спачувае. Паказваецца Адміністратар.

А д м і н і с т р а т а р. Што ты тут робіш? У нас выступ праз дваццаць хвілін у восьмым купэ, а ты не апранутая.

Б у ф е т ч ы ц а. Ну вось, каму гэта трэба? Будзе сядзець адна бабулька якаясь, і што? Вось і ўся слава. Навошта я пагадзілася. Можа, мастацтва – гэта не маё. Лепш заставалася б я буфетчыцай. Хадзіла б, разносіла б салаты, супы, можа нават дэсерты.

А д м і н і с т р а т а р. Перастань, нікому ўвогуле нічога не патрэбна.

Навошта пра гэта думаць? Тым больш, табе грэх скардзіцца, ты вунь хоць чагосьці дасягнула. А я? Як быў адміністратарам, так і застаўся. Пэўна, так і памру. Пайшлі (*цягне яе за руку прэч з купэ*).

Б у ф е т ч ы ц а. Ды іду, іду. (*Выпіхвае Адміністратара з купэ, а сама звяртаецца да Жанчыны №1.*) Я пакіну тут сваю торбу з рэчамі, а то яна вялікая, не змяшчаецца пад маім месцам.

Ж а н ч ы н а №1. Ну я не ведаю, гэта ж месца чужое. Можа, чалавек не захоча.

Б у ф е т ч ы ц а. Ага, дзякуй, дзякуй. Я хутка вярнуся (*запіхвае вялізную валізку пад месца насупраць Жанчыны №1, дзе пакуль нікога няма, і выбягае*).

Зацямненне, і ў святле ліхтара бачым тоўстага мужчыну ў штанах на шлейках, які праходзіць перад жанчынай. Потым з'яўляецца звычайнае асвятленне і заходзіць Жанчына №2.

Ж а н ч ы н а №1. Тут, пакуль вас не было, суседка торбу сваю пакінула.

Ж а н ч ы н а №2. Ага, так, і што?

Ж а н ч ы н а №1. Ну што-што? Яна ж замінаць вам будзе. Паглядзіце, сядайце, адчуваеце? Нават не апускаецца да канца сядушка.

Ж а н ч ы н а №2 (*спрабуе сесці, адчувае нейкую нязручнасць*). Так, сапраўды, падымаецца.

Ж а н ч ы н а №1. Даставайце яе адтуль. А то ж яшчэ прыдуць мытнікі, будуць вас падымаць, а там чужыя рэчы.

Ж а н ч ы н а №2. Ну, так. А дзе яна, тая жанчына? Можа, я пачакаю, а як яна вернецца, скажу, хай сама вымае сваю торбу.

Ж а н ч ы н а №1. Справа ваша. Раней у нас в'етнамцы з такімі торбамі бегалі. Процьма іх было тады, яны тэхніку прадавалі на талоны, недзе набіралі гэтых талонаў, выменьвалі тэхніку, ага, і я сабе так пыласос набыла, добры быў такі, магутны, цягнуў добра. Іх на мяжы зловяць і назад адсылаюць, а яны пашпарт возьмуць іншага і зноў едуць. Усе падобныя. Усе на адзін твар. А нас як называюць – даўганосыя. Бо ў іх вось паглядзіш, у профіль, дык носа таго і не бачна, такія шчочкі круглыя і нос гэты – як і няма яго. А ў нас жа вось бачныя насы. І мы для іх усе на адзін твар.

Ж а н ч ы н а №2. Ну так, ну так.

Ж а н ч ы н а №1. І ведаеце, раней у дамах былі такія сутарэнні, можна было трымаць там каморачку такую і захоўваць розныя слоікі з саленнямі. І вось аднойчы мой муж заходзіць туды, патрэніравацца чарговым разам перад працай, чым не апусканне на глыбіню, а там гэтая в'етнамка, і яна яму і кажа – "я, ты, дваццаць пяць". Вывучыла, ведаеце, *я, ты, дваццаць пяць.* Вось, зарабляла як магла, а муж кажа ёй: "а ну пайшла адсюль". На той час гэта грошы былі, гэта палова заробку, можна сказаць.

Вяртаецца Буфетчыца.

Ж а н ч ы н а №1. Вось яна, вярнулася, кажыце.

Ж а н ч ы н а №2. Выбачайце, а вы не маглі б прыбраць сваю торбу?

Б у ф е т ч ы ц а. Калі яна вам замінае, то добра, прыбяру (*пачынае выцягваць*).

Б у ф е т ч ы ц а (*звяртаецца да Жанчыны №2*). А вы не маглі б узяць дзве сукенкі?

Ж а н ч ы н а №2. Што? Прабачце, вы пра што?

Б у ф е т ч ы ц а. Ну, сукенкі, дзве, у мяне якраз вашага памеру ёсць. Ну, вазьміце калі ласка, мяжу пройдзем, я ў вас іх забяру.

Ж а н ч ы н а №2. Я не ведаю, ну....

Б у ф е т ч ы ц а. Калі ласка, я ж бачу, вы – добрая, дапамажыце мне, калі ласка, ніхто не хоча браць, ніхто не хоча дапамагаць. Ну, што вам з таго? Проста дзве сукенкі, вашага памеру, пакладзеце, ніхто і пытацца не будзе.

Ж а н ч ы н а №2. Ну... Добра, давайце.

Б у ф е т ч ы ц а. Дзякуй вам вялікі, дзякуй (*пачынае корпацца ў сумцы, дастае два пакеты з сукенкамі і аддае Жанчыне №2).*

Б у ф е т ч ы ц а (*звяртаючыся да Жанчыны №1).* Ну а вы, можа ўзялі б жакецік?

Ж а н ч ы н а №1. Я ж вам сказала – не.

Б у ф е т ч ы ц а. Ну што, ну чаму не? Вунь павесілі б яго тут на кручок, быццам ваш.

Ж а н ч ы н а №1. Жанчына, я вам ужо сказала, што я не буду браць. Я сама вязу тое-сёе. І калі мяне пачнуць праз ваш жакецік шманаць – мне гэта трэба? Я не збіраюся падстаўляцца. Гэта ўсё вельмі сур'ёзна. Навошта мне гэтыя праблемы.

Б у ф е т ч ы ц а. Ну, якія праблемы, ну вось ён проста павісіць, вашага памеру. Ну, дапамажыце мне, калі ласка.

Ж а н ч ы н а №1. Нават не прасіце, не.

Буфетчыца пачынае перапакоўваць рэчы ў кайстры, адтуль вывальваюцца мужчынскія боты, пачкі калготак, нейкія іншыя рэчы. Яна падымаецца і ідзе ў суседняе купэ, мы чуем толькі галасы.

Б у ф е т ч ы ц а. Прабачце, вы не маглі б узяць боты, вашага памеру... калі ласка, дапамажыце... (*У адказ нейкае бурчанне, а потым галасы патанаюць у шуме колаў цягніка.*)

Праз пару хвілін Буфетчыца вяртаецца ў сваё купэ да Жанчыны №1 і №2. Сядае і цяжка ўздыхае.

Б у ф е т ч ы ц а. Ну вось што за людзі, ніхто не хоча дапамагчы.

З'яўляецца Адміністратар.

А д м і н і с т р а т а р. Што ты робіш? Збірайся давай, нас чакаюць у купэйным вагоне.

Б у ф е т ч ы ц а. Навошта? Яны возьмуць штось з маіх рэчаў?

А д м і н і с т р а т а р. Якіх рэчаў (*здзіўлена паглядае на торбы, правярае, што там у іх*)? Што гэта? Адкуль? Куды?

Б у ф е т ч ы ц а. Прыехалі... Гэта мая праца, падпрацоўка, вашымі канцэртамі сыты не будзеш. Жыць мне ж трэба на нешта. Вось цягаю рэчы туды-сюды, купляю-прадаю-зноў купляю.

А д м і н і с т р а т а р. Ой, рабі што хочаш у вольны ад асноўнай працы час, але цяпер у цябе выступ – збірайся. Я вельмі выгодна дамовіўся, там едзе чалавек з галоўнага аркестра, калі ты яму спадабаешся, яны возьмуць цябе ў свой аркестр.

Б у ф е т ч ы ц а. Ты штоооо? Не можа быць... Няўжо, няўжо дачакалася, няўжо я буду спяваць у аркестры.

Адміністратар. Чаму?

Буфетчыца. Ну, ты ж сказаў, калі я спадабаюся, яны мяне возьмуць.

Адміністратар. Так, возьмуць у свой буфет. (*Паўза.*) Буфетчыцай. Ты толькі ўяві – будзеш падаваць салаты музыкам з галоўнага аркестра. Гэта ж такая пашана, такая кар'ера: ад буфетчыцы ў цягніку да буфетчыцы галоўнага аркестра. А ты што падумала?

Буфетчыца (*расчаравана*). Ды не, нічога.

Буфетчыца і Адміністратар сыходзяць.

Па вагоне праходзіць Праваднiца.

Праваднiца. Хутка станцыя, хто выходзіць, падрыхтуйцеся. Хутка станцыя, рыхтуемся да выхаду, станцыя, хто на выхад, не пакідайце сваіх рэчаў...

Жанчына №1. Пайду прайдуся пакуль (*сыходзіць*).

З'яўляюцца Брудная жанчына, Кампазітарка, Буфетчыца. Брудная жанчына абдымаецца з усімі.

Брудная жанчына. Да пабачэння, было прыемна з вамі ўсімі пазнаёміцца, я вельмі радая, што сустрэлася з вамі. Да пабачэння.

*Сыходзіць, астатнія (Кампазітарка, Буфетчыца і Жанчына №2) прыпадаюць да акна, махаюць і праз нейкі час пачынаюць спяваць (па чарзе і разам):*

Што гэта за гул? Што за шум?

Глядзіце, каменне.

Адкуль столькі камення?

Ляціць яно хутка і падае долу.

Дождж з камянёў, метэарытны дождж. Што за дзіва прыроды?

Не, не прыроды. Падаюць камяні не з неба, а з рук чалавечых.

Сотні і тысячы рук, малых і дарослых, кідаюць, і стомы няма ў кіданні гэтым.

Можа яна ўсё ж здолее, ператрывае, выцерпіць, вынесе, пачакае, зубы сціснуўшы, вочы заплюшчыўшы, вытрывае?

Але няма чаго сціскаць, белыя зубы ляжаць у жоўтым пяску сярод камянёў,

і што заплюшчыць, калі камяні цяпер замест правага вока і вока левага.

Некалі светлыя валасы цяпер ад крыві пачарнелі.

І скура быццам абрэзкі агаляе чырвоную плоць.

Сціхла.

Шэрыя камяні больш не варушацца.

Вяртаецца Жанчына №1. Усе адварочваюцца ад акна, цягнік рушыць далей, усе ў шокавым стане.

Жанчына №2. А яна адзіная, хто верыла ў нас....

Усе замаўкаюць.

Жанчына №1. Чаго вы тут паселі? Што такія змрочныя?

Кампазітарка. Там, там....

Жанчына №1. Ну што?

Б у ф е т ч ы ц а. Там забілі.

Ж а н ч ы н а №1. Каго забілі?

К а м п а з і т а р к а. Яе, яна ж зусім і не брудная была, адкуль толькі ўзяла гэтае глупства.

Ж а н ч ы н а №2. За што? Чаму яна?

Ж а н ч ы н а №1. Што вы прыдумляеце, нікога там не забілі.

Б у ф е т ч ы ц а. Вы не бачылі.

Ж а н ч ы н а №1. Можа і яна каго забіла? Адкуль вы ведаеце?

Ж а н ч ы н а №2. Вы што такое кажаце?

Ж а н ч ы н а №1. А што? Што я кажу? Панавыдумляюць абы-чаго, а потым не ведаеш, дзе праўда, а дзе што.

К а м п а з і т а р к а. Што выдумляюць? Гэта трагедыя, трагедыя чалавечага жыцця, як можна так рэагаваць на чыюсь трагедыю?

Ж а н ч ы н а №1. Вой, трагедыя, усе так робяць і з усімі такое здараецца. Давайце ўжо класціся спаць.

Усе, апроч Жанчыны №1, у шокавым стане, але яны паціху пачынаюць хадзіць туды-сюды, браць пасцельную бялізну, разрываць цэлафан, у якую яна запакаваная, і засцілаюць свае ложкі-палічкі. Толькі Кампазітарка стаіць пасярод сцэны ў ступары. Тут яна чуе Голас (калі пачынае казаць Голас, усе астатнія персанажы заміраюць на сцэне ў тых позах, на якіх іх заспеў Голас.)

Г о л а с *(зверху)*. Я ведаю, пра што гэта табе нагадала.

К а м п а з і т а р к а. Што? (*Яна азіраецца на каляжанак, але бачыць, што яны застыглі ў позах)*. Хто гэта?

Г о л а с. Яна адказала табе амаль тое ж самае, слова ў слова. Так?

К а м п а з і т а р к а. Я не разумею, пра што вы кажаце, хто гэта?

Г о л а с. Ты ўсё разумееш і ўсё памятаеш, проста яна вельмі нагадала табе яе.

К а м п а з і т а р к а. Я не хачу гэтага слухаць, (*крычыць быццам да Правадніцы*) вымкніце радыё, колькі можна, адурэеш з гэтым радыё.

Г о л а с. Ну, каб такое яшчэ і па радыё перадавалі. Ты што? Пра такое нікому не кажуць.

К а м п а з і т а р к а. Пра што, пра такое? Я не разумею.

Г о л а с. А я табе нагадаю. Табе ўсяго чатыры гады, а тая брудная рука лезе да цябе туды, намацвае там тваю мяккую, гладкую скуру, і дзеля чагось застаецца там. І табе здаецца, што тая рука засталася там назаўсёды. І распавесці неяк няёмка, бо як жа скажаш кепскае пра чалавека з сям’і. І ты не кажаш. Не таму, што баішся, што табе не паверацьо, а таму, што табе сорамна за гэтага чалавека і давядзецца цяпер казаць кепскія, такія страшна-кепскія рэчы пра, здавалася б, не чужога чалавека, абвінавачваць яго, але аднойчы ты адважваешся і распавядаеш той, якой давяраеш, бо толькі ёй тады ты магла даверыцца, бо ні на хвілінку не сумнявалася ў падтрымцы, і што тая жудасць, якая з табой адывалася, нарэшце скончыцца.

Кампазітарка падае на калені і закрывае твар далонямі.

Г о л а с (*працягвае*). Але яна не паверыла. Перавяла ўсё ў жарт і яшчэ і абвінаваціла цябе ў тым, што ты – такая ж самая і таксама лазіш па чужых майтках. Тады тваё жыццё спынілася, спынілася на нейкую хвіліну, якая вырашыла ўсё далейшае тваё існаванне, спынілася, каб знявечыцца і

скалечыцца, і знявечаным і скалечаным пацягнуцца далей. Але цяпер ужо нікому, дакладна нікому нельга пра гэта казаць. Чуеш? Проста забудзься, уяві, што гэтага не было.

К а м п а з і т а р к а (*не вытрымліваючы, крычыць*): Але гэта было-оооооо, было, было-о-о-о...

Моцны грукат цягніка глушыць ейны голас.

Зацямненне.

Калі загараецца святло, на сцэне – перакуленае вядро, і побач з ім пантофля кампазітаркі, зверху – пустая адрэзаная вяроўка. Прыходзіць Праведніца са швабрай і пачынае мыць, звяртаючыся да гледачоў быццам яны пасажыры цягніка.

П р а в а д н і ц а. Так, праходзьце, чаго тут стаіце, няма тут на што глядзець, праходзьце, усё ўжо скончылася, адмучыўся чалавек.

Зацямненне.

## ДЗЕЯ IV

### Сцэна 1

Купэ Жанчыны №1 і Жанчыны №2.

Ж а н ч ы н а №1. Вось столькі год пражыла і што? Ніякіх уражанняў. Шэрае жыццё: школа, дзеці, дом, каровы, свінні, куры. Як нехта сказаў: жыццё пражыў, як у бутэльку пёрнуў.

Ж а н ч ы н а №2. Можа, гэта асаблівасці псіхікі? Вось адзін чалавек пабачыць вясёлку і думае: *ух ты, як прыгожа*, а другі падумае: *ну і што, звычайная вясёлка*. Дык вось, можа, гэта вы той другі чалавек?

Ж а н ч ы н а №1. Так. Нічога мяне не здзіўляе, напэўна, таму што я – таўстаскурая.

Ж а н ч ы н а №2. Слон.

Ж а н ч ы н а №1. Ага, слон (*усміхаецца*).

Ж а н ч ы н а №2. А можа гэта прыйшло з часам, развілося пад уздзеяннем знешніх фактараў? У дзяцінстве можа ўсё было не так?

Ж а н ч ы н а №1. Вой, памятаю, гулялі мы ў хованкі, я накрылася хусткай, легла пад куст і заснула. Брат прыходзіць дадому, пытаецца ў мамы, дзе я, думаў, што я ўжо дома, а я там пад кустом спала. А калі мяне ў яслі аддалі, дык я адтуль збегла, а там дарога была разбітая, а я ў ботах была і загразла там, і нейкі дзядзька мяне выцягнуў, а адзін боцік там застаўся. Ну, і потым боцікаў не было, і мяне ў школу не аддавалі, дык пакуль можна было, цёпла пакуль было, я басанож хадзіла. Сама прыйшла ў школу, а мне сказалі, трэба метрыкі, каб мяне ўзяць. Я пайшла дадому, залезла ў куфар, ведала, дзе тыя метрыкі ляжалі, і занесла ў школу. А потым школа згарэла і мае метрыкі з ёй.

Ж а н ч ы н а №2. Вы не пакрыўдзіліся, што я вас сланом назвала?

Ж а н ч ы н а №1. А я не крыўджуся і не зайздрошчу. Ай, нейкая я беспрынцыпная.

Прыходзіць Праваднікца, прысаджваецца на ўскраек паліцы.

П р а в а д н і ц а. Пасяджу тут з вамі трошачкі. Адпачну (*паўза*). Адмучыўся чалавек. Ммм-так, жывеш сабе, жывеш, а потым такое.

Жанчына №1 і №2 моўчкі спачуваюць, мармычуць: “так, так, бывае”.

П р а в а д н і ц а. Нейкі нешчаслівы цягнік. (*Падумаўшы.*) Ці можа гэта мая змена такая нешчаслівая? (*Яшчэ падумаўшы.*) А можа гэта я сама?..

Ж а н ч ы н а №1. Перастаньце.

П р а в а д н і ц а. А вы чулі, што з нашай Буфетчыцай сталася?

Ж а н ч ы н а №1. Не, з якой?

Ж а н ч ы н а №2. З той, што тут у вас працавала?

П р а в а д н і ц а. Так, так, салаты тут разносіла. А потым жа яе ўладкавалі ў галоўны аркестр, у буфет іхні. Тут мужчына адзін ехаў, з аркестра, ну і паабяцаў ёй усяго. Пакуль ён тут ехаў, усё разглядаў, смакаваў ейны голас, а яна ўжо, бедная, і не ведала, як яму дагадзіць. Ну, быццам узялі яе. І быццам яна ўжо і працаваць там пачала, але неяк ці то салату пераблытала, ці то з голасам нешта сталася, карацей, саслалі яе ўсё ж такі ў тое трыклятае Гета буфетчыц.

Ж а н ч ы н а №2. Не можа быць, як жа так?

Ж а н ч ы н а №1. Вось дзе лёс.

П р а в а д н і ц а. І не кажыце, злы рок проста нейкі. Ну, і ў тым гета яна, вядома ж, доўга не працягнула, там жа ўмовы не на выжыванне, канцлагер – проста дом адпачынку ў параўнанні з гэтым гета. Карацей, не вытрымала яна, памерла.

Жанчыны №1 і №2 цяжка ўздыхаюць і хітаюць галовамі. Праваднiца падымаецца, бярэ вядро са швабрай і выходзіць.

П р а в а д н і ц а. Хутка ўжо вашая станцыя. Рыхтуйцеся да выхаду.

Зацямненне.

## Сцэна 2

На сцэне Адміністратар перад люстэркам, размаўляе быццам з сабой, быццам з публікай, быццам з люстэркам. Прычэсваецца, расчэсвае вусы, пшыкаецца парфумай, прыхарошваецца.

А д м і н і с т р а т а р. Жанчына ў любым выпадку шукае спажывецкай любаты, раскошы. Ёсць, канечне, жанчыны, якія адстойваюць сябе эгацэнтрычна ў мастацтве – магу назваць пару прыкладаў, але за ўсім гэтым будзе стаяць баба, такая пяшчотная, як чарназём пасля дажджу. Вось колькі я бачыў, усе – усе яны прыходзілі ў буфет і нешта з’ядалі. Усе яны думаюць пра матэрыяльнае. Не, не, я не хачу крыўдзіць, проста гэта іх прырода. Прырода жанчыны – клапаціцца пра іншых, – так-так, гэта не я прыдумаў, гэта нават па тэлевізіі кажуць. Таму вось буфетчыца, прыбіральшчыца, нянечка, медсястра – гэта і ёсць сапраўдныя заняткі для сапраўдных жанчын. Яны ПА ПРЫРОДЗЕ ім суджаныя, а не таму, што мужчыны не хочуць рабіць гэтую брудную, нізкааплатную, нікім не паважаную, бесперспектыўную працу.

Адміністратар дастае з кішэні мятлік, пачынае яго завязваць вакол шыі.

А д м і н і с т р а т а р. Вось усе гэтыя жанчыны тут у цягніку, думаеце што, якая іх галоўная мэта? Ну? Ну? Смялей? Яны тут быццам нейкія пытанні вырашаюць, быццам размаўляюць адна з адной, а на самой справе кожная з іх спіць і бачыць, як бы гэта атрымаць доступ да майго цела, фізічнага і сацыяльнага. Так-так, а што ж вы думалі? Нават вунь тая кампазітарка пазіцыянавала сябе голай скалой, аб якую разбіваецца пена мужчынскіх галоў, а гэтым яна толькі больш падкрэслівала сваё жаданне атрымліваць мужчынскую ўвагу. І гэта цудоўна.

Заходзіць праваднiца.

П р а в а д н і ц а. Мужчына, вы збіраецеся выходзіць? Канцавая станцыя.

А д м і н і с т р а т а р. Ужо? А як жа, дзе ж яны? Сышлі без мяне?

П р а в а д н і ц а. Усе ўжо даўно пакінулі цягнік, вы адзін затрымліваеце нас.

А д м і н і с т р а т а р. Ааа, я зразумеў, пэўна, яны рыхтуюць мне сюрпрыз. Вой, мабыць, стаяць там і ўжо ледзь не б'юцца за права мяне правесці дадому, а потым накарміць свежым супчыкам з фрыкадэлькамі. А Вы? Вырашылі мяне тут падкараўуліць? А-а-а-а, каварны план *(пачынае мітусіцца, бегаць па вагоне)*, а можа гэта і не канцавая станцыя, можа гэты Вы так ад канкурэнтак пазбаўляецеся, можа яны ўжо ляжаць усе ў канаве якой з перарэзанымі горламі, га?

П р а в а д н і ц а. Мужчына, я зараз выклічу патруль, будзеце іх пужаць сваёй хворай фантазіяй. Давайце, забірайце свае рэчы і на выхад.

А д м і н і с т р а т а р. Ага, ага, зараз-зараз *(корпаецца ў торбе, потым нечакана выхоплівае адтуль нож і забівае ім праваднiцу са спіны. Праваднiца абмякае і падае на падлогу)*.

А д м і н і с т р а т а р. Ну вось і ўсё. Цяпер галоўным героем буду я.

Зацямненне.



Леанід Філатаў



...Лепш натоўп нам не цвяліць,
З масай трэба ў згодзе быць:
Дэспатызм цяпер не ў модзе,
Дэмакратыя руліць...

# Пра Хвядоса-стралка, здатнага дзецюка

***Казка для тэатра на матывы расейскага фальклору***

***Скамарох-весялун***

Верце ці не верце, а жыў на белым свеце стралок Хвядос – сама хвацкасць ды маладосць. Выглядаў Хвядоска не брыдка й не боска: ні румяны, ні бледны, ні багаты, ні бедны, ні ў псоце, ні ў злоце – звычайны, дый годзе. Абавязкі стралковы – рыбалка ды ловы. Цару дзічына, Хвядос – малайчына. У цара гасцей – што ў рыбе касцей. Адзін з Швецыі, другі з Грэцыі, трэці з Гавай – і ўсім есці давай! Таму амараў, сяму кальмараў, каму сардзін – а здабытчык адзін! Ледзь на дзень узялося, гукаюць Хвядоса: кліча прыганяты ў царскія палаты! Цар – сам апенька, мазгоў жменька, але злосці ў цара аднекуль – гара. Глядзіць на Хведара, як пятніца на сераду. Ад страху ў Хведара пот з-пад швэдара, грукат у чэрапе, буркат у чэраве – тут, што называецца, казка й пачынаецца...

*Пераклад з расейскай мовы Макса ШЧУРА.*

***Цар***

Тут пасол ад англічан
На расол да нас прымчаў,
А карміць яго няма чым,
Хлеба й костак апрача.

Выпраўляйся, братка, ў гай,
Ды яства нам нацягай –
Хоць глушца, хоць курапатку –
Нам без розніцы, бадай.

А як не – не вінаваць:
Я цябе павінен сцяць.
Тут дзяржаўнае пытанне –
Цяміш, што хачу сказаць?

***Хвядос***

Я ж яшчэ не страціў клёк,
Каб такога не прасёк!
Не абораю хлеб крою,
Разумею твой намёк.

Быць або не быць... вайне –
Вызначаць выключна мне:
Не здабуду курапаткі –
Край навала паглыне!

Каб ангельскага пасла
Лютасць нашча не ўзяла,
Галавы не пашкадую:
Будуць стравы да стала!

***Скамарох-весялун***

Загад цароў – цвярдзейшы ад сухароў. Пашле па мядзведзіцу – пойдзеш па мядзведзіцу, бо трэба, куды ж Хвядоска падзенецца! Або ўпалюй звера – або паля ці сякера. Абышоў ён абшар у сто лясоў, сто імшар, а ўсё дарма – здабычы няма! Стома бярэ, ноч на двара. Знайшоў, не знайшоў – а трэба дамоў. Раптам бачыць – птушка, галубка-вуркатушка, сядзіць, не хаваецца, ружжа не лякаецца...

***Хвядос***

Што за кляты дзень такі –
Звер джгануў на ўсе бакі...
Дык падстрэлю вунь галубку:
Пачастунак хоць які!

Дый, агулам беручы,
Ад глушца яе, лічы,
На талерцы не адрозніш,
Як з падліўкай запячы!

***Галубка***

Не чапай мяне, стралок,
Бо не велькі будзе толк –
Мной падушкі не напхаеш,
Не напоўніш казанок.

Для заморскіх для дваран
Лепш цялушка ці баран,
А ўва мне – якое мяса?
Так, не мяса – смех курам!

***Хвядос***

Ці то пах падзьмуў п'янкі,
Ці юраць лесавікі,
Ці ўвушшу ў мяне, крый божа,
Вывіх здарыўся які?

Ці то сёння заранёў
Цар парадак новы ўвёў:
Гаварыць па-людску птушкам,
Не ўжываць птушыных моў?

***Галубка***

Не рабі бяды, Хвядос –
Лепш дамоў мяне б занёс.
Як парог мы пераступім –
Свой спаткаеш шчасны лёс.

Буду праць і цыраваць,
Крыўды буду даравань,
Гатаваць, блашчыц выводзіць
І на скрыпцы шчыраваць!..

***Хвядос***

Дзіўна – што за нелады?..
Ат, жыві – такой бяды!..
Гайда ў торбу: дома скемім,
Хто, навошта і куды!

***Скамарох-весялун***

Прынёс Хвядос пярнатку ў сваю, значыць, хатку. Сядзіць скрушны, галаву ўгнуўшы. Падставай маркоты – сур'ёзныя турботы. Не выйшлі ловы – Хвядоса ў ковы, цар не жартуе, насмерць закатуе. Сядзіць Хвядос панылы, рыхтуецца да магілы. Згадаў пра птушку, лясную вуркатушку. Глядзіць – а каля грубкі замест галубкі стаіць гожая дзяўчына, гонкая, бы асіна!..

***Марыся***

Хвесь, вітаю!.. Ты ды я –
Мы цяпер адна сям'я.
Не журыся! Я – Марыся,
Жонка верная твая.

Што ж ты, дружа, – анямеў?
Скамянеў – ні бе, ні ме...
Ці ж каптур або сукенка
Непрыгожыя на мне?

***Хвядос***

На цябе, мой галубок,
Я б глядзець бясконца мог,
Толькі не наканавана
Нам пабрацца, трасца ў бок!..

Быў я сёння на зары
Пры царовым пры двары,
І задаў мне цар заданне:
Так і так, глушца прыпры!

Хай дзічыне й не пара –
Не вярэдзіць лепш цара.
Згода, думаю, здабуду,
Дзякуй хоць, што не зубра.
Прабадзяўся я ўвесь дзень,
А здабычы – хоць бы цень:
Аніводнай людскай птушкі,
Дробязь нейкая і дрэнь!..

Так што зараз жанішку
Не да скокаў на лужку.
Цар сказаў:
"Глушца не знойдзеш –
Заўтра голаў адсяку!"

А ці ж буду я такім
Запатрабаваны кім?
Палягае ўвесь мой цымус
Толькі ў розуме маім!..

***Марыся***

Ат, да сэрца не бяры –
Будзе ежа пры двары!
Ціт Кузьміцкі й Хрол Фаміцкі –
Мне на вочы, раз-два-тры!

*(Марыся пляскае ў ладкі –*
*з'яўляюцца два дужыя малойцы.)*

Як уцямілі ў чым брак –
То парупцеся, раз так!

***Малойцы***

Не турбуйся, гаспадыня,
Досвед маем, як-ніяк!..

***Скамарох-весялун***

А цар ды дыпламат за стол селі акурат. Цароўна з нянькай – тут жа, па сняданку тужаць. Усе чакаюць ад Хведара пачастунку наеднага. Патрэбны для гавэнды добры стол бяседны! А на стале пуста: морква ды капуста, пятрушка ды кмін – не пір, смех адзін. Госць пазяхае, батфортам віхае, у абрусе дзюрачкі прапіхае. Цар сам не заўважае, як Хвесю пагражае й матку ягоную зневажае. Тут, бы з неба – каравай хлеба, ікра, балык, тушаны індык, сцярляджая юшка, флякі з цялушкі, і такой во смачнішчы – найменняў да тышчы! Пры гэткай бяседзе – як не быць гавэндзе!

***Цар***

Нас цікавіць пазарэз
Навуковы ваш прагрэс:
Як у вас там бручку сеюць –
Са шкарлупінай ці без?..

***Пасол***

Ес!

***Цар***

Нас цікавіць пазарэз
Стрававальны ваш працэс:
Як у вас там п’юць какаву –
З сухарынаю ці без?..

***Пасол***

Ес!

***Цар***

Нас цікавіць пазарэз
І такі яшчэ замес:
Як у вас там ходзяць бабы –
Ці то ў майтках, ці то без?

***Пасол***

Ес!

***Нянька***

Памаўчаў бы пры гасцях,
Ці ўжо розумам зачах?
У цябе ж пра баб выключна
Кожнай гутаркі працяг!

***Цар***

Зноў ты ў тую ж дзьмеш сурму?
Змоўч, ці пойдзеш у турму!
Я ж у палітычных мэтах
Галаву дуру яму!

Дзеўцы год пайшоў які,
А лядачая, як кій!
Вось і мкнуся я зававіць
Амбасадара ў зяцькі!

Каб уцяміў ён намёк,
Не пакрыўдзіўся й не ўцёк,
Трэба тонка падыходзіць –
Несур’ёзна і здалёк.

***Нянька***

Ды за гэткага пасла
Я б і тое не пайшла!
Так і зіркае, падлюка,
Дзе б што стырыць са стала!

Ён табе ўсё “ес” ды “ес”,
А тым часам есць ды есць.
Адвярніся – скарб дзяржаўны
Праглыне імгненна ўвесь!

***Цар***

Рот зашый і не брашы,
Ці з палацу прэч чашы!
Праз цябе ўжо паўцякалі
Ад мяне ўсе аташы!

Кагадзе быў шпанскі гранд –
Гэткі моднік, гэткі хрант,
Па брыльянце ў кожным вуху –
Чым табе не варыянт?

Ты ж прыклала сілы ўсе,
Каб на цвік гішпанец сеў –
Ён ад злосці палітычнай
Ледзь тады не акасеў!..

***Нянька***

Помню, дзе ж там!.. Гэты гранд
Жор усё, што акупант:
З галавою ўлез у місу,
Аж заляскаў тлушчам бант!

З’есць усё, што не дасі,
А спытаеш – “сі” ды “сі”
Паўтарае, як той попка,
І ўмінае івасі!

***Цар***

Я за гэткі падыход
Твой згнаю паганы род!
Я з табою не жартую,
А зусім наадварот!

Вунь, нямецкі феадал
Сотні іншых фору б даў,
Дык табе ж яго карцела
Падбухторыць на скандал.

Як, скажы, яму ў карэц
Дохлы трапіўся тхарэц?
Ты ж сапраўдная злачынка,
Гэта ж можна адурэць!..

***Нянька***

Твой нямецкі феадал
Ежу трушчыў, што вандал!
Ён і ў зграі крумкачынай
Спёр бы, а не галадаў.

Фанабэра – “я-а” ды “я-а”,
Сам жа горшы ад звяр’я!
Дай салому – з’есць салому,
Бо чужая, не свая!..

***Цар***

Ну, шпіёнка, вось вазьму
Й запратору – у турму!
Наагул, я дзядзька добры,
Ды мяжа ёсць усяму.

Вось скажы мне ў пары слоў,
Дзе б я мужа ёй знайшоў?
Ты ж сама, дурніца, бачыш –
Кот наплакаў жаніхоў!

Каб іх тут стаяла рать,
Льга было б перабіраць.
А як не – хапай любога:
Воўку ў зубы не глядзяць!..

***Цароўна***

Калі ты расейскі цар,
То ў Расеі і ўладар,
А ў мой лёс не сунь ты носа
І пра шлюб мазгоў не пар!

Поўны дом тых аташоў –
Пад крысом і то б знайшоў.
У мяне ад іх парфумы
Прыступ ледзь не надышоў!..

***Цар***

Горка рэдзька, ды ядуць,
Кепска замуж – ды ідуць.
Ды яшчэ ў пытаннях гандлю
Трэба татку падмагнуць.

Я пад гэты гаманок
Лес ім сплаўлю ды пянёк.
Ухваляе ўся грамадскасць –
Толькі ты мне папярок!..

***Цароўна***

Колькі б ты сабе ні роў,
Я кажу табе ізноў:
Самастойная асоба
Мае права на любоў!

У замужнія жанкі,
Можа, я пайшла б такі, –
Калі б твой стралок Хвядоска
Папрасіў маёй рукі!..

***Цар***

Цыц, дурніца, не пярэч!
Цесту месца там, дзе печ!
Ты сальфэджу давучыла?
Ну й пайшла ў святліцу прэч!

А нахабніка стралка
Я аднаджу, шэльмака:
Бізуноў яму прапішуць –
Дасць з палацу драпака!..

***Скамарох-весялун***

Збіраць для цара навіны
быў генерал павінны. Барадою замаскіруецца – і ў горад кіруецца. Вынюхвае, дзе вядуцца ўсякія іншадумцы. Падслухвае, што чуваць дзе – мо, гавораць аб здрадзе? Дзе што пачуе – у нататнічак занатуе. А роўна а сёмай – у царовай прыёмнай.

***Цар***

Што сумуеш, камандзёр?
Вушы ў карты хтось надзёр,

Ці мо бражкай абапіўся,
Ці дапёк цябе адзёр?

Ці ўжо служба дастае,
Ці салдатаў не стае,
Ці ў тваёй гармаце руля
Працаваць перастае?

Дакладай усё, як ё,
Пра няшчасцейка сваё –
Мушу ведаць падрабязна:
Хто, чаму, нашто й чыё!..

***Генерал***

Быў я ў Хвеські паглядзець
Кагадзе, як ён жывець,
Ды стральчыху як пабачыў –
З ганку ўпаў і ўзняўся ледзь.

Тры дні запар – не брашу! –
Шаблі нават не нашу.
Гэтак мройнасць разабрала,
Што вось-вось аддам душу!

Нават грэшны меў парыў –
Ледзьве вершык не стварыў!
Лекар кажа, ад кахання
У мяне душэўны зрыў!..

***Цар***

Я ўдавец, а гэты цмок
Першым жонку прывалок?!
Мне ў палац прывезці кралю
Без усякіх адвалок!

А стралка на раз-два-тры
Змесці прэч з зямной кары,
Каб ён болей не надумаў
Аціраціца пры двары!

***Генерал***

Кралю мог бы я ўмыкнуць,
Ды народ знахабнеў – жудзь!
Ім скажы, чыя ідэя, –
У труху цябе сцяруць!

Дзёрзкі стаў цяпер народ,
Не кладзі ім пальца ў рот, –
Мы Хвядоса не шануем,
А народ – наадварот!

***Цар***

Ты ў нас гэткі грамацей
Штосуботу ці часцей?
Ці табе ўсё, як міністру,
Патлумачыць папрасцей?

Каб прэтэнзій у людзей
Не было да нашых дзей,
Дзей выключна па закону,
Гэта значыць – тайна дзей!

Ну а я, чаго ўжо там,
Не пакрыўджу – ордэн дам!
Тут жа выкаваць да заўтра
Загадаю кавалям!..

***Скамарох-весялун***

Цэлы дзень ваяр моршчыў потны твар. Вынаходзіў спосаб – як так пазбыцца Хвядоса б? Хацеў думкай бліснуць – ды ўсе думкі кіснуць. Тут пашчасціла яму згадаць пра куму – Бабу Югу, касцяную нагу. Схаджу да яе, хай рады дае!.. А тая сярод дубровы збірае зёлкі, не дровы, атрутны напой прыдумляе новы. Як убачыла генерала – усе гербарыі пагубляла. Так тужыла ў глушы па сваяцкай душы!..

***Баба Юга***

Ты чаго як нежывы?
Што не лезе з галавы?
Ці то швед ля Пецярбургу,
Ці то турак ля Масквы?

Вунь, кары з асіны з'еж –
І да часу аджывеш:
Я прыроду прапаную,
А не хімію табе ж!

Ведай, што ў кары асін
Ёсць карысны вітамін, –

Ад яго шчэ з генералаў
Не загнуўся ні адзін!

***Генерал***

Ды не хворы я, Юга!..
Лепш вавёрак расшугай –
Ёсць сур'ёзная размова,
То хадзем глыбей у гай.

У стралках адзін хлапец
Зух такі, што апупець!..
Я павінен так залатвіць,
Каб настаў яму капец!

Калі голаў кат ссячэ –
Пагалоска дапячэ...
Будзь ласкавая, парай мне,
Знішчыць як яго яшчэ?

***Баба Юга***

Баба дзеду варажы:
Кляты ў пяты, тры крыжы,
Карта віна, дамавіна –
Пра стралка мне адкажы!

Раз хапае спрыту ў ім
Ваяваць з царом самім,
Хай да заўтра вам здабудзе
Шыты золатам кілім.

А на ім Расеі каб
Быў відаць буйны маштаб.
Як кіліму ён не знойдзе –
Дык на ім віна была б.

***Генерал***

Во дык бабка! Во дзе ас!
Мне б мазгоў тваіх заквас!
Хоць вымай цябе са ступы –
І міністаркай да нас!

На цара крыўдуе фрыц,
Можа кашу заварыць –
Дык табе і ў партызанах
Я б даверыў спіну крыць!

За дабро плачу дабром:
Хоч – куніцай, хоч – бабром,
А як не – магу манетай,
Золатам ці серабром!..

***Баба Юга***

Годзе, крыўды не чыні –
Грошай не вымай ані!
Я ж табе не дзеля грошай,
Я ж ад чыстай дабрыні.

Ты, як што – адразу ў гай
Па падмогу прыбягай.
Не звяры ж мы тут, у лесе,
Нам прыдацца – толькі дай!..

***Скамарох-весялун***

Кліча цар стралка, здатнага дзецюка. Яшчэ задання не дадзена, а ўжо злуе, як гадзіна. Рукамі сукае, нагамі брыкае, выкаціў бельмы – маўляў, страшны ён вельмі! Такі ўжо порсткі, каб пазбыцца Хвядоскі – ажно ў целе яму ломіць косткі!..

***Цар***

Да відна здабудзь кілім
З вышываннем залатым!..
Дзеля гонару дзяржавы
Ахвяруй сабой усім!

І каб быў відаць на ім,
Як на мапе, Трэці Рым –
Ні халеры я не бачу
На бальконмчыку сваім!

А не знойдзеш – дык наўпрост
Шлю да ката на памост:
Ён на золку на галоўку
Твой падправіць лішні рост.

***Скамарох-весялун***

Прыйшоў Хвядос дамоў, пазбаўлены слоў. Сеў у куточку, глядзіць на бэльку-папярочку, па

буйной слязе ў кожным ясным вочку. Жонка есці кліча, а ён крывіць аблічча – нічога не хоча, хмурыцца-скавыча...

***Марыся***

Ну чаго ты губы дзьмеш?
Не ясі зусім, не п'еш...
Ці халоднае не выйшла,
Ці не ўдаўся мой кулеш?

***Хвядос***

Еж, не еж – усё дарма...
Цар лютуе, як чума!
Далібог, суду на злыдня
Аніякага няма!

Здабывай, крычыць, кілім
З вышываннем залатым!
Сто лясоў і сто азёраў
Каб відаць было на ім!..

***Марыся***

Ат, да сэрца не бяры –
Хай лютуе чорт стары!
Ціт Кузьміцкі й Хрол Фаміцкі –
Мне на вочы, раз-два-тры!

*(Марыся пляскае ў ладкі – з'яўляюцца два дужыя малойцы.)*

Як уцямілі ў чым брак –
То парупцеся, раз так.

***Малойцы***

Не турбуйся, гаспадыня,
Досвед маем, як-ніяк.

***Скамарох-весялун***

І вось Хвядос зранку ў цара на ганку. Гэтым разам – з кілімам разам. Стаіць, усміхаецца, варты не пужаецца. Здзівіўся цар – ледзь пракаўтнуў кавіяр. Як сабака, злуе, ды выгляду не падае. Рады нечувана – толькі ўдавана!..

***Хвядос***

Ты прасіў сабе кілім –
Вось, лічы яго сваім.
Ён з дамоўленым малюнкам,
З аздабленнем дарагім.

І ўсе вотчыны твае
Там відаць да аднае!
Гэта жончына работа,
Падарунак ад яе!..

***Цар***

Во дзе зух! Што скажаш – дуж!
Колькім ты ж кабетам муж?
Разам слуцкія ткачыхі
Не даліся б аднаму ж!

Жонку маеш не з дурніц,
Ды з адной тут скутку – ніц!
Іх дывізія быць мусіць,
Каб падобнае ўчыніць!..

***Хвядос***

Ці не ў радасць мой кілім?
Ці не той узор на ім?
Ну, то я яго пад паху –
Забіраю, дый па ўсім!

Гандлярам яго прадам –
Хай вязуць у Амстэрдам.
Тут нікому не патрэбны –
Мо, ацэніць хтосьці там!..

***Цар***

От сюды б гарадавых
Чатырох ці пяцярых –
Тыя б пугай адвучылі
Кпіць цябе з людзёў старых!

Ды шаную я правы,
Як закону вартавы, –
На табе шастак на пляшку
І прастуй, пакуль жывы!..

***Скамарох-весялун***

Кліча цар генерала, штыр яму ў забрала! Тварам цар – што

бурак, чырванню набрак, а калі ён пунсовы, то да гвалту гатовы. Дае раз па храпе, без лішніх драпін – ды міма вока яшчэ не трапіў. У гэтым генерала жыццё пераканала: ад пачатку казкі не здымае павязкі!..

***Цар***

Ну, дык як, стары казак?
Спудлаваў крыху няўзнак?
Толькі той няўзнак пацягне
На гадкоў пятак-шастак!

Ты плячысты, балазе,
Ды без розуму ў балдзе.
Вось яго і падсілкуеш
На турэмнай баландзе!..

***Генерал***

Я гатовы ў кайданы –
Ды не змыю тым віны.
Што мне гэтая навука,
Раз такі я ўжо дурны!

Лепей з шабляй на кані
Ў гушчу бітвы пагані,
А прыдворныя інтрыжкі –
Бог ад іх абарані!

***Цар***

Ты лухты мне, вашамось,
У запале не гундось.
Ты без шаблі так прыдумай,
Каб скапыціўся Хвядос!

Ну а тым, што абалдуй –
Апраўдацца не спрабуй:
Лыч начышчу ўласнаручна,
Так што потым не крыўдуй!..

***Скамарох-весялун***

Значыць, наш камандзёр дарма рукі цёр: не выйшла адразу нанесці Хвесю паразу. Бядуе, нязгрэба – зноў думаць трэба! Ды што тая напруга, як з думкамі туга. Меркаваў, рахаваў – толькі час змарнаваў. Як ні намагайся – хай лепш ратуе Югася! Гайда ў бок пералеску шукаць управу на Хвеську!..

***Баба Юга***

Што ты зноў, з якіх прычын
Засмучоны кім ці чым?
Хто – гішпанцы ці хранцузы
Паўстаюць на збройны чын?

Выпі з плесні кісялю!
Піў хоць раз? То дай налю!
З ім забудзеш ты адразу
Мітуслівую зямлю.

Можа, не найлепшы смак –
Здыме дрыжыкі, аднак.
Заўтра будзеш ты як волат,
Калі толькі не мярцвяк!..

***Генерал***

Я ізноў стралка наконт!
Не пазбыцца з ім турбот!
Праз яго я й безжыццёвы,
Быццам нейкі нацюрморт.

Хітры жук! Бяда з такім...
Нос уцёр вакол усім!
Колькі ты ні варажыла,
А здабыў ён той кілім!

Знешне клёкам не іскрыць,
А галоўкаю мудрыць!
Дык чаруй цяпер сур'ёзна,
З пачуццём, тваю ядрыць!..

***Баба Юга***

Баба дзеду варажы:
Кляты ў пяты, тры крыжы,
Карта віна, дамавіна –
Пра стралка мне адкажы!

Так!.. Эге!.. Угу!.. Ого!..
Мы маглі б паслаць яго
Па аленя з парай зыркіх,
Цалкам з золата рагоў!..

Хай хоць цэлы пройдзе свет –
А не знойдзе, прайдзісвет,
Бо няма іх у прыродзе –
Гарантую як эксперт!..

***Скамарох-весялун***

Кліча цар стралка, здатнага дзецюка. Не паспеў наш хлапец з адным адпацець, а ў цара-ліхадзея новая ідэя. Цар поўны ідэй, а Хвядоска – пацей! Словам, жытка Хвядосава – нічога зайздроснага!..

***Цар***

Скінь ляноту, скінь хандру й
Неадкладна прэч вандруй!
Дзеля гонару дзяржавы
Мне аленя прычаруй!

Як слуга, дык паслужы –
Руш за нашы рубяжы,
Каб алень залатарогі
Быў тут зранку з-за мяжы.

І каб мне ніякіх "не",
А каб вынік хуткі мне,
А то кат табе пакажа,
Як мячом ён файна тне!..

***Скамарох-весялун***

Прыйшоў дамоў Хвядос, возграў поўны нос. Сеў перад лучынай, гаруе, бедачына. Жонка-чараўніца хоча прытуліцца – а для яго й не існуе быццам! Сядзіць, плача ён – от, доля жабрачая!

***Марыся***

Што ты зноў як брат сычу?
Што за смутак уваччу?
Дасалю давай салянку,
Ці мо шніцаль дапярчу...

***Хвядос***

Ды які ўжо тут абед!
Цар замучыў, аглаед!
Заўтра зранку зноў пакліча –
Адурэў дарэшты дзед!

Што за шкоднікі цары!
Руш, імчы – ды хоць памры,
Каб алень залатарогі
Быў ягоны на зары!

***Марыся***

Ат, да сэрца не бяры –
Не адны ў жыцці цары!
Ціт Кузьміцкі й Хрол Фаміцкі –
Мне на вочы, раз-два-тры!

*(Марыся пляскае ў ладкі –
з'яўляюцца два дужыя малойцы.)*

Як уцямілі ў чым брак –
То парупцеся, раз так!

***Малойцы***

Не турбуйся, гаспадыня,
Досвед маем, як-ніяк.

***Скамарох-весялун***

Зноў Хвядос зранку ў цара на ганку. Гэтым разам – з аленем разам. Цара-нягодніка ўзяла з гневу коліка. Задушыў бы гада – ды з выгляду рады. Сядзіць, пазяхае – лютасць хавае!..

***Хвядос***

Зачакаўся? Дык чалом!
Глянь на двор, калі не ў лом.
Замаўляў сабе аленя –
Вунь алень твой, пад вакном!

І заўваж, што той алень –
Як падсвечнік ці агмень!
Ад рагоў яго й без лямпы
Ўночы светла, нібы ўдзень!..

***Цар***

Тых аленяў напавер
Не пазычаць Тула й Цвер.

Найбліжэй хіба ў Багдадзе
Ў трох асобніках той звер!

Дык прыкіньма наўздагад:
Дзе Масква, а дзе Багдад?
Ці мо ты за ноч матнуўся
Да Багдаду – і назад?

***Хвядос***

Восем змен на кожны дзень!
Не такі табе й алень?
Сам жа ўчора з тым аленем
Даставаў, як авадзень!..

Ну, раз ты такі магнат,
То вярну яго ў Багдад.
Вось узрадуецца хтосьці,
Чый цяпер там халіфат!

***Цар***

Дагаворысся, Хвядос!
Каб башку ў руках не знёс!
Я твае без выключэння
Бачу намінкі наскрозь!

Ды за службу пры двары,
Згода, чорт цябе бяры!
Вось табе шастак на пляшку –
І гадуйся – да пары!..

***Скамарох-весялун***

Клічуць генерала ў палац – як след не далі паспаць! Генерал мітусіцца, шукае нагавіцы, прадчувае, што клічуць не на паляндвіцу! Цар сядзіць на троне, пацірае скроні. Чорны ад гневу, як неба ў залеву!..

***Цар***

Як ты ні напружваў клёк,
А Хвядоска з пасткі ўцёк!
Па табе ўжо склалі, дружа,
Ахвіцыйны нэкралёг.

Ды вагаемся пакуль,
Як забіць цябе без куль:
Агаломшыць кандэлябрам
Ці з мура штурхнуць, як куль?..

***Генерал***

Даў я пудла, гаспадар!
Вось клінок – вазьмі і ўдар!
Толькі болей тым Хвядосам
Мне мазгі не шкіпінар!

Што дурны – не вінаваць,
Бо мая стыхія – раць!
Мне б на штурм кагосьці весці
Ці ў атаку падымаць!..

***Цар***

От з мячом дык ты баец!
Ды не хочаш разумець:
Галаву каб сцяць Хвядосу –
Галаву патрэбна мець!

А праявіш той жа спрыт,
Што даўно ўжо мне абрыд –
Сам прыладжу пад сякеру,
І тады прашу без крыўд!..

***Скамарох-весялун***

Зноў наш афэлак палез у думак куфэрак. Ды куфэрак той адвеку ззяў пустатой. Меркаваў, рахаваў – толькі час змарнаваў. Свіснуў выжлаў зграю – і ў гушчу гаю! Убачыла Юга генерала – джгнула да самага Ўрала. Там ачомалася бабуся і падумала: «Лепш вярнуся!..»

***Баба Юга***

Зноў ты нешта не ў сабе!
Вунь і ваўка на губе!
Ой, змарнуеш ты здароўе
Ў палітычнай барацьбе!..

Пакаштуй заечы гной –
Во дзе сродак, брат ты мой!
Мёд яго пераўзыходзіць,
Мабыць, толькі смакатой!

Праўда, горла ён дзярэ,
Хто-ніхто з яго і мрэ,
Але хто115 пeратрывае –
Тых і старасць не бярэ!..

***Генерал***

Ты мне, бабця, не круці!
Ты павінна шлях знайсці,
Як паставіць крыж нарэшце
На Хвядосавым жыцці!

Адшукаў Хвядос таго,
Рогі з золата ў каго!
Бо твае Хвядосу чары
Ўсе да месца аднаго!

Дык мазгі сабе прадзьмі
І сама сябе зацьмі!
Бо Хвядос хітрун, як бачыш,
Не апошні між людзьмі!..

***Баба Юга***

На бягу падцяць нагу
Я майстрыца, наагул,
Але сёння ад заклёнаў
Я бяру сабе адгул.

Колюць ныркі, ные скронь,
У грудзях пячэ агонь...
Каб яшчэ энцэфаліту
Не схапіла, божа бронь!..

Ой, не жыць мне! Боль такі,
Што ажно хрусцяць храсткі!
Калі так, то я сыходжу
На бальнічны напраcткі!

***Генерал***

Захварэла? Той бяды!
Вунь, рапуху з’еж тады.
У прыроды ад хваробы
Шмат лячэбнае брыды.

І каб больш ніякіх спроб
Прыдумляць сабе хвароб!
Лепш напруж сваю падлючасць
І стралка нарэшце ўгроб!

А пачнеш мазгі дурыць –
Шаблю выцягну, ядрыць!
Ты хаця мне і сяброўка,
А парадак мусіць быць!..

***Баба Юга***

Баба дзеду варажы:
Кляты ў пяты, тры крыжы,
Карта віна, дамавіна –
Пра стралка мне адкажы!
Хай ён розум прыкладзе
Й вам на вочы прывядзе
Штось-Чаго-Ў-Суцэльным-
Свеце-
Наагул-Няма-Нідзе!

Ну, капцы табе, Хвядос!
Вось цяпер дык папандос!
Да падобнага іспыту
Ты мазгамі не дарос!..

***Скамарох-весялун***

Кліча цар стралка, здатнага дзяцюка, зноў каб даць даручэнне дзяржаўнага значэння. Але гэта ўжо здзек, прашу прабачэння! А між тым наш аповед – толькі на палове!..

***Цар***

Мне здабудзь як найбарздзей
Штось-Чаго-Няма-Нідзе!
Занатуй мо лепей назву,
А то памяць падвядзе!

Паспяшайся да відна,
А як не – табе труна,
Бо карахтар твой паскудны
Даўся ў знакі мне здаўна!

Так што мне не дзьмі тут губ,
А чашы, ці будзеш труп,
Бо дзяржаўнае пытанне
Тут пастаўлена на руб!

***Скамарох-весялун***

Прыйшоў дамоў Хвесь – як смерць, бледны ўвесь! Цэлы белы,

тварам знямелы. Сеў пры вакне, з вачэй смугу не зміргне. Туліцца Марыся, а ён – адчапіся!.. Не да забавы, як скон неўзабаве!..

***Марыся***

Прызнавайся ўжо, Хвядос,
Што ты злосны, як барбос?
У салаце па-міланску
Мала труфеляў, нябось?..

***Хвядос***

Я, Марысечка, твой стол
Паважаю на ўсе сто,
Толькі больш каго не будзе
Частаваць табе яством!

Што рабіць? Хавацца дзе?..
Хто параіць у бядзе?
Загадаў мне цар дастачыць
Штось-Чаго-Няма-Нідзе!..

***Марыся***

Ат, да сэрца не бяры –
Ёсць надзейныя сябры!
Ціт Кузьміцкі, Хрол Фаміцкі –
Мне на вочы, раз-два-тры!

*(Марыся пляскае ў ладкі – з'яўляюцца два дужыя малойцы.)*

Як уцямілі ў чым брак –
То парупцеся, раз так!

*Паўза.*

***Малойцы***

Не гнявіся, гаспадыня,
Не парупімся ніяк.

Схемку ці рысунак каб,
То работа ўжо ішла б,
А без плану тое штосьці
Адшукаць яшчэ патрап!

Як знайсці, мяркуй сама,
Штось, чаго нідзе няма?
Як няма такога ў свеце,
То й шукаць яго дарма!..

***Марыся***

Не крыўдуй, каханы муж,
Тут з мяне не велькі куш!
Сам у шлях тады збірайся
Ды за свет няблізкі руш!

Блуду ў свеце не чыні,
Дбай аб цела чысціні.
Ад какотак ды ад плётак
Бог цябе там барані.

Пазбягай дурных трывог,
Пазбягай крывых дарог,
Клапаціся пра здароўе,
Еж смятану ды тварог!..

***Хвядос***

Ты ўжо не перажывай –
Дам я рады, веры дай!
Волю царскую здаволю –
І вярнуся ў родны край.

Без мяне тут не марней,
Фікус палівай часцей!
Вунь красёнкі, балалайка –
З імі будзе весялей!

А палезе хто ў пакой,
Каб парушыць твой спакой –
Мне вучыць цябе не трэба:
Вунь, патэльня пад рукой!..

***Скамарох-весялун***

Сышоў Хвядоска ў паход заморскі. Як дайшло тое да генерала – у мазгах дурата зайграла! Панесла барана да цара з відна, дакладаць яму, што стралку – труна. Паспеў і дзірку прадзерці пад ордэн, каб яго чэрці!..

***Цар***

Дакладай усё спаўна,
Што ў цябе за навіна!

Лепей горкая, ды праўда,
Чым салодкая мана!

Ды як будзе навіна
Абы-што – твая віна:
Пасаджу гадкоў на дзесяць
Я такога вестуна!..

***Генерал***

Дакладаю: з бліскам дня
Хвеська якары падняў!
Бог пазбавіў нас нарэшце
Крывасмока-авадня!

Хай шукае, баламут,
За мяжой сабе капут!
Больш нам не наканавана
Лыч ягоны ўбачыць тут!..

***Цар***

Нянька, гэй! Хадзі сюды!
Зноў хачу быць малады!
Валасы мне з цемя вырві,
Што ссівелі за гады.

А астатнія тады
Расчашы накшталт грады.
І з грабеньчыкам ашчадней,
У мяне там не сады!..

***Нянька***

Расчашы! Вядома! Дзе ж,
Як застаўся голы плеш!
Можа, лепш на кожны волас
Свой дакумант завядзеш?

І нашто ў твае гады
Зноў жаніцца? Ад балды?
Ты ж, без крыўды, як мужчына
Ні сюды і ні туды!..

***Цар***

Валасы, без валасоў –
Ажанюся й будзь здароў!
Шах персідскі з тым жа плешам
Сорак жонак вунь завёў!

Я ж дык сарака царыц
Не збіраюся кадрыць!
Дык няўжо ў інтымным сэнсе
І адной мне не пакрыць?..

***Нянька***

Шаху сіл не пазычаць –
Мае жарсць ён і пастаць.
А цябе, цвыркун ты дохлы,
З-пад кароны не відаць!

Ты ж ужо як старажыл
Болей ста гадоў пражыў!
Так што сіл не разбазарвай,
Лепш здароўе беражы!..

***Цар***

Старажыл, не старажыл –
Кроў яшчэ не выйшла з жыл!
Кажуць, корацца каханню
Без узроставай мяжы!

Значыць, што ты ні кажы,
А і я магу ў мужы!
Раз няма мяжы каханню,
То й на мне няма іржы!

***Нянька***

Ой, падобныя мужы –
Што бяскрыўдныя вужы:
Мітусяцца, ды не ўкусяць,
Хоць да іншага бяжы!..

На чужую ты запаў?
Здатнасць выяві й запал!
Толькі дбай, каб з тым запалам
Далакоп не закапаў!..

***Цар (Генералу)***

Ну а ты, сабе наўме,
Што стаіш – ні бе, ні ме?
Ці не бачыш, як паганяць
Гаспадарству рэнаме?

Нянька ў рог мяне тут гне –
Гэты толькі рукі мне!

Ты ж мяністар абароны –
То й абарані мяне!..

***Генерал***

Хай вярзе! Не слухай баб!
Ім абы зняславіць каб!
Ты ў каханні – чысты волат,
Дуб! Ці нават – баабаб!

Горды профіль, цвёрды крок,
Ззаду – шах, даю зарок!
Мо з вушэй карону толькі,
Каб не вісла, ссунь набок!..

***Цар (Няньцы)***

Вось міністр – дзяржаве друг!
Праўду выклаў з першых рук!
А ў мазгах яго не кішкі,
Не глядзі, што ён дундук!

Праз цябе ж праблемы ўсім –
Сорам мне й гасцям маім...
Сам не ведаю, да нас ты
Скуль прысланая і кім?

Перастань чыніць разбой,
А наважысся – засвой:
Будзе ў нас яшчэ размова
Нежартоўная з табой!..

***Скамарох-весялун***

Едзе цар да Марысі – запрашаць у царыцы. Сядзіць у рыдване напарфумаваны, за царом гайдукі – напудраныя парыкі, за імі куфэрак, поўны ўсякіх цукерак. Усё як след, без лухты – едзе цар у сваты!..

***Цар***

З царскай волі Хвеська твой
Знік без ведама кудой!
Карацей, я так залатвіў,
Каб разліўся ён вадой.

Каб аднэй не мучыць плоць –
Замуж за мяне выходзь!
Ну а што? Мужык я ладны,
Прытулю, сагрэю хоць...

***Марыся***

Не паспеў яшчэ Хвядос
З хаты высунуць свой нос,
Як зляцеліся вароны
Да Хвядоса на пакос!..

***Цар***

Ты, дзяўчына, не дурэй!
Як даюць – бяры скарэй!
У цябе ж не кожны вечар
Царскі поезд ля дзвярэй!..

Так што гутарцы канец:
Час збірацца пад вянец.
Нашатырны спірт панюхай,
Каб ад шчасця не здурнець!

***Марыся***

Лепш зірну на каляндар,
Ці ўжо едзе гаспадар.
Іншай, дружа, што без мужа,
Лепш схадзі мазгі папар!

***Цар***

Едзе, дзе ж! Лічы, што тут!
Ды не вернецца той чмут!
Ён дзе-небудзь у Ганконгу
Есць з кім-небудзь там
грыб-фрут!

Ну мазгі хаця б напруж:
Дзе сама, а дзе твой муж?
Як няма цяпер Хвядоса –
То маёй не стаць чаму ж?

***Марыся***

Хоць сячы мяне мячом,
Пугай бі ці таўкачом,
А ў жыцці мяне царыцай
Не відаць тваім вачом!

***Цар***

Ох, Марыська, быць бядзе:
Да яе канфлікт ідзе.
Мне прывезлі тут з Парыжу
Гільятыну кагадзе!

У святле яе нажа
Будзь маёю зараз жа!
У мяне ж таксама нервы!
Усяму свая мяжа!

***Марыся***

Ды пайшоў ты ўрэшце прэч!
Прычапіўся, быццам клешч!
Увалю табе патэльняй –
Потым костак не збярэш!

***Цар***

Гэй вы там, што на двары, –
У палон яе бяры!
Гэта што яшчэ за мода –
Посудам па ўладары!

Пакаштуеш смак турмы –
Сціхнуць у мазгох шумы.
Як ты, дзеўка, ні натурся –
Шлюб мы возьмем да зімы!..

***Марыся***

Каб злавіць мяне, даўбас,
Малавата сіл у вас!
То да будучай сустрэчы,
Напішы мне іншы раз!..

*(Марыся ператвараецца ў галубку ды ляціць прэч.)*

***Скамарох-весялун***

Хвядосава дарога трывала год без малога. Шмат з'еў ён хурмы, шмат халвы – а свайго не выпускаў з галавы! Дзіваў у свеце – няма куды дзеці, ды патрэбнага дзіва знайсці немажліва. Пераймаецца хлопец: што, як часу не хопіць? Пастанавіў без гістэрыкі: паплыву да Амерыкі! Плыве наш мараход бязмежных вод пасярод, наперадзе захад, а ззаду ўсход. Тут на марахода ўзлавалася прырода. Было ўсё як трэба – і раптам бура з неба! Карабель – хрусь! – і разбіўся ўдрузг!.. Сонца бліснулі промні, Хвядос апрытомнеў: ляжыць на хвалі, рукі-ногі не адпалі. Бачыць – астравок, тырчыць, як паплавок. Дапяў да берагу, думаў – трапіў у Амерыку! З мапаю зверыўся – не, на іншым ён беразе! Востраў Буян! От, чортаў акіян! Можа, мапа ўвяла ў зман? Сядзіць Хвядос, *і*кае, аглядае месца нязвыклае...

***Хвядос***

Колькі я на бзік цароў
Ні наведаў астравоў,
Не было такога месца,
Скуль карцела б так дамоў.

Што за край! З нуды б усох:
Спрэс каменне, спрэс пясок...
Вока нават не пацешаць
Ні рачулка, ні лясок!

Ды каб тут крыху яды,
Не было б яшчэ бяды.
Каб знайшлася лебяда, дык
Пажаваў бы й лебяды!..

***Голас***

Хто ахвочы да яды –
Папрашу таго сюды!
У мяне яды як гразі,
У мяне яе пуды!

Вось, напрыклад, калачы, –
Ледзь патрапіў дапячы, –
Вось з індычкі смажанінка,
Вось кампоцік з алычы!

Вось каўбасы, вось сыры,
Вось паўцэнтнэра ікры,
Вось карыбскія амары,
Вось данскія асятры!..

*(З'яўляюцца сталы з прысмакамі.)*

***Хвядос***

Гэта што за дзіўны цуд?
Гэта хто гаворыць тут?
Пасярод нябёс і мора
Не схаваешся ж у кут!

Выбачайце, вашамосць,
Пакажыцеся, як ёсць!
Не па-людску, каб самотны
Частаваўся ежай госць!

Тут на выспе, бачыць бог,
Сумаваць лягчэй удвох –
Перакінемся дзе ў дурня,
Дзе віна асушым рог!..

***Голас***

Пакажыся! Хай бы мне
Паказаў хто сам мяне!
«Ці няма мяне, ці ёсць я?»,
Часам думка прамільгне!..

Маю клопат – будзь здароў!
Ежа ёсць – няма зубоў,
Ёсць тытунь – няма чым нюхаць,
Зэдлік ёсць – няма клубоў!

Так за тысячу гадоў
Задзяўбло – не знойдзеш слоў!
Засіліўся б – ды не маю
Нават шыйных пазванкоў!

***Хвядос***

Во сустрэча! Задарма,
Як на сподку атрымаў
Штось-Чаго-Ў-Суцэльным-Свеце-
Наагул-Нідзе-Няма!

Чым у роспачы й нудзе
Тут за днём праседжваць дзень,
Можа, сплавайма ў Расею,
Штось-Чаго-Няма-Нідзе?..

Асвяжыся, павандруй,
З белым светам пасябруй!
Што за жытка без прыгодаў?
Жудка нейкая, даруй!..

***Голас***

Супраць гэткіх перспектыў
Я не буду і не быў!
Я б да пчол палез у вулей –
Толькі каб у каляктыў!

Загадаеш – хоць руду
Буду рыць, калі знайду!
Без пітва й без ежы буду
Пад тваю скакаць дуду!

Я да кожнай працы зух,
Траплю ў замак і ў катух,
Калі трэба, дык здабуду
Спрэжку падкаваных мух!..

***Хвядос***

Мухі, блохі, вош ці бздзюль –
З іх мне будзе скутку нуль,
Бо на спрэжцы тых кузурак
Я не выплыву адсюль!

Лепш здабудзь мне флот ці струг,
Плыт ці ратавальны круг,
Раз такі таленавіты
Ты ў падобных штуках друг!

Каб а пятай, раніцой,
Быць на моры, брат ты мой,
Бо ў Расеі нас, мяркую,
Зачакаліся з табой!..

***Скамарох-весялун***

А цар між тым не марнуе часу – прымае амбасадара племені папуасаў. Усе апрача гэтага басмача ў Парыжы-Лонданы далі стракача! Цар скача конікам перад ідалапаклоннікам: вось табе дочухна, бяры яе й кончана! Значыць, блага ўсё сапраўды, раз дайшло да такой бяды! Блага, ды яшчэ не задужа – абы дачка не засталася без мужа!..

***Цар***

Добры дзень, вясёлы час!
Рады бачыць вас у нас!
Вэры гуд, салям алейкум,
Бона сэра, вас іст дас!

Ваш узрост? Папа, мама?..
Жонка ёсць альбо няма?
Раскажыце нашай фройляйн
Між вачыма чатырма!

***Нянька***

Красамоўствам, чорт стары,
Голаў іншаму дуры!
Твой пасол саскочыў з пальмы,
Выбачай, таму дні тры!

Хай надзеў бы ён, гізун,
Хоць якую драбязу –
Бо за выняткам караляў
Ён жа голы, як бізун!

***Цар***

Ты шпіёнка, бачыць бог!
Каб табе язык адсох!
Ты ж ужо мне ўсіх чужынцаў
Заштурхала за парог!

Я чакаю іх гады,
А яна – гаў-гаў з буды!
За каго ж цароўну нашу
Замуж я аддам тады?

***Нянька***

Ды ў яго ж – пагляд лася,
Скура ў плямінах уся,
Бы зязюлінае яйка,
Нос з кальцом – ну парася!..

Нават я, як ні круці,
З ім не легла б у жыцці!
Дык няўжо ж дзяўчыне нашай
Замуж за яго ісці?..

***Цар***

Падштурхне абставін ціск –
З прыску зробіцца прыіск!
Дый дзяўчо з такім лычом – не
Хараства апошні піск!

Ёй падыдзе ўжо з гарбом,
І рабы, і нават гном,
Бо, як бачыш, і рабыя
Не штурмуюць дом гуртом!..

***Нянька***

Так, ды ў іх з народных рыс –
Есці ўсё, не толькі рыс!
Прыгадай з тапазу вазу:
Зжор, паганец, і ні лыс!

Запрасіў бы хоць біткі,
Асятра ці грузд які –
Дык жарэ ж усё, што бачыць:
Парцаляну ды цвікі!

***Цар***

Што ні просіць – гэта госць!
Штабялямі ўсё паднось!
Мы ж цвікоў ды парцаляны
Маем прыгаршчы, нябось!

Хоча вазу – божа, сыць!
Дай, чым просіць, закусіць.
Як наесца, мо й цароўну
Паспрабуе спакусіць!..

***Нянька***

Дай атруту аташу –
З’есць за мілую душу!
Можа, ён не небяспечны,
Ды сачы за ім, прашу!

І скажы яму: «Зяцёк,
Есці – еж, ды дай зарок,
Што ў запале не закусіш
І цароўнай незнарок!»

***Цароўна***

З ім на баль ці карнавал?
Поўны нонсэнс! Чысты шал!
Ён і так зусім нягеглы,
Дык яшчэ і канібал!

Ды няхай мяне, басяк,
Азалоціць – а ніяк
Да яго мяне не ўзбудзіць
Гэты афрадызіяк!

***Цар***

Лепш пасла б ты ў кабінет
Запрасіла тэт-на-тэт.
Перацерпіш – пакахаеш!
Ён благіх не мае мэт.

Як разгледзіць людаед
Ужывую твой партрэт,
Назаўжды да людаедства
Страціць колішні імпэт!..

***Цароўна***

Ты ўжо ный сабе ці не –
Выбіраць урэшце мне!
Чым быць жонкай людаеда –
Лепей курчыцца ў труне!

Іншы лёс, калі б Хвядос
Прапазіцыю прынёс –
Вось найлепшы з кандыдатаў,
Во дзе муж дзявочых кроз!..

***Цар***

Што ты ўсё, як какаду,
Пра яго ў адну дуду!
Іншых клопатаў не маеш?
Дык табе я іх знайду!

Паміж намі, твой стралок
Есць на дне марскім пясок,
А паколькі ён тапелец,
То яму не да жанок!..

***Цароўна***

Ну, раз так – тады байкот:
Ежы браць не буду ў рот!
Атрымай, татусю, помсту –
Палітычны аперкот!

Не схачу глытаць ікры,
Як звычайна, па вядры,
І на глебе пахудзення
Акалею раз-два-тры!

***Цар***

Тут куды ні трап пляўком –
Між міністраў, сваякоў
Спрэс навокал вальнадумцы,
Сабатажнікі вакол!

Ну й жыццё! Бяда зусім!
Спачування ані ў кім!
Лесніком мо ўладкавацца
Дзе ў глухім бары якім?..

***Скамарох-весялун***

Год мінуў, пачаўся другі – вярнуўся Хвядос на родныя берагі. Дахаты прыйшоў, а хаты й не знайшоў – адзін каркас, ды вакол папас. А пад карнізам камочкам шызым стулілася птушка – галубка-вуркатушка...

***Хвядос***

Ну, каханая, давай,
Мужаньку на стол збірай!
Каравай хутчэй з жароўні
Найрумянейшы вымай!

Налівай наедны боршч
Ды крыху мяне патоўшч,
Бо з гароднiны заморскай
Мне зусім не да любошч!

Не відаць яе нідзе –
Толькі ў коміне гудзе...
Падазронае маўчанне:
Мабыць, сведчыць аб бядзе!

*(Галубка ператвараецца ў Марысю.)*

***Марыся***

Ну, з вяртаннем, мужанёк!
Доўга ж ехаў ты здалёк!
Ці забыўся пра Марысю,
Што прапаў на цэлы рок?

Там, напэўна, за мяжой,
Шмат забаваў – дык няўжо й
Жонцы здрадзіў ты каханай
З прыгажуняю чужой?

***Хвядос***

Я пабачыў цэлы свет –
Жазэфін і Генрыет,

Ды няма табе ў замежжы
Роўных гожасцю кабет!

А што марна край чужы
Я наведваў – не кажы:
Здолеў я цару прывезці,
Што хацеў ён, з-за мяжы!..

***Марыся***

А каб ведаў ты, хлапец,
Хто паслаў цябе карпець,
Дык зусім бы й не падумаў
З хаты ехаць, здзек цярпець!

Ты адплыў – а ён, ліхі,
Лезці стаў у жаніхі,
Кажа: будзь маёй царыцай!
Збрыдзеў горай ад блыхі!

***Хвядос***

Ды няўжо! Во ліхадзей!
Вось і вер табе ў людзей,
Барані мундзіру гонар,
За манархію заўзей!..

Добра ж! Я тады яму
Патлумачу, што й чаму!
Размалюю гада цалкам
Усяго пад хахламу!..

Каб ніхто й ніколі зноў
Люд не меў за бараноў!
Што губляць мне, акрамя
Толькі ўласных кайданоў?!

***Скамарох-весялун***

Узлаваўся Хвесь, склікаў люд ці не ўвесь. Той вырашыў Хвеську падтрымаць па-суседску. Хрол узяў кол, Язэп узяў цэп, Супрун узяў калун. Павёў іх Хведка да цара ў адведкі. Насустрач ім генерал, каб яго воўк задраў! Падскочыў бокам, пазіркаў вокам, правёў агляд – і да цара на даклад!..

***Генерал***

Там сабраўся ля варот
Гэты... як яго... народ!
Выглядае, што пачаўся
Сацыяльны закалот!

Гэта Хвеська-баламут
Без прычын бянтэжыць люд –
Падбухторвае грамадскасць
Нас з табой аддаць пад суд!..

***Цар***

Ну а ты з якіх хвароб
Іх стрымаць не робіш спроб?
Я ж цябе таму й трымаю,
Каб па шыі не адгроб!

Як паслужыш мне цяпер,
Дык пасля дажджу ў чацвер
Дам медаль пазачарговы –
Будзеш поўны кавалер!

***Генерал***

От, нішто сабе ўмалот!
Мне хапае ўзнагарод!
Вунь, шэсць штук ужо й на спіне –
Я як елка ў Новы год!

Сунімаць чарговы раз
Шчыры гнеў народных мас
Для мяне няма карысці:
Сам за зло трымай адказ!..

***Скамарох-весялун***

Недарэка з недарэкаў – а як закукарэкаў! Злуецца цар, – ды паспрабуй, удар! Іншы стаў час, не даруюць абраз! Выйшаў цар з палаца, воўкам зірк – а на пляцы ўся чыста краіна паспела сабрацца!

***Цар***

Гэта ж, вашу маць іці,
Хто такое дапусціў?
Мы ж не Хранцыя якая,
Каб цара скідаць ісці!

Хто тут просіцца ў Нарым –
Хай выходзіць па адным!
Там мы вам бунтоўны розум
Вокамгненна праяснім!

***Хвядос***

Што да розуму, дык ён
Светлы ў нас з нядаўніх дзён!
Нам цяпер між незабудкай
І лайном кантраст відзён!

Ты нашто паслаў мяне
Ў іншаземнае турне?
Спадзяваўся, што Марыся
Жанішка не адштурхне?..

***Цар***

Гэта скуль жа ты, галган,
Шкодных думак нацягаў,
Што вось так людзёў прыстойных
Проста ўзяў ды абылгаў?

Па паходжанні, узваж,
Мне яна раўня хіба ж?..
Вось і шлі вас у замежны,
Называецца, вояж!..

***Хвядос***

Ты не надта тут крычы –
Мы тут не на калачы!
А выпендрывацца будзеш –
Атрымаеш па лычы!

Пра твае злачынствы йдзе
Слава невядома дзе!
Ты не проста ў твар мне плюнуў,
А ў душу ўсёй грамадзе!..

***Цар***

Гэта, Хведар, зноў хлусня:
Мой народ – мая радня.
А пра ўласнае сямейства
Цар клапоціцца штодня!..

Зранку мажу бутэрброд,
А ў мазгах: а як народ?
Ні ікра не лезе ў горла,
Ні кампот не льецца ў рот.

Стану ўночы ля вакна –
Спаць не здольны да відна,
За ўсю Русь пераживаю:
Як там маецца яна?

Генерал – вось бандзюган,
Амарал і інтрыган!
Каб не ён, мой царскі гонар
Быў бы чысты – без заган!

Чуеш, злыдзень?! Дзе там ён?
Выйдзі вон з людскіх калён!
Адарваць з цябе медаль бы,
Ды па храпе медалём!

***Генерал***

Што вы, людцы!.. Я ж за вас
Столькі пацярпеў параз!..
Вока страціў! Ці ж пайду я
Супраць волі нашых мас?..

Апраўдаю. Адкажу.
Адрыдаю. Адсяджу.
Болей я не пригняты
Й прыганятым не служу!..

А віна ўся – на Юзе!
Во сапраўдны вораг дзе!
Нават цмок, як дробны шкоднік,
Не супернік ёй, казе!

Гэй, Югася! Дзе ты ёсць?
Стала сорамна? Выходзь!
Асабіста не стрываю,
Прапіхну клінком наскрозь!..

***Баба Юга***

Я – народны забабон.
Вось пасведчанне й купон.
Я магу адсюль хоць зараз
Знікнуць ветру наўздагон!

За спякоту й за пургу
Ўсе клянуць мяне, Югу!

А я шкодная не болей
За рамонак з мурагу!

Выпадкова, незнарок
Не туды зрабіла крок –
Але ж я дачка прыроды,
Хай з дурных яе дачок!

Лепш сабак павесце ўсіх
На паплечнікаў маіх:
Я нячысцік, ды сумленнем
Я чысцейшая за іх!..

***Хвядос***

Ну вы й подлае кубло!
Аж дыханне заняло!
Кожны валіць на другога –
Сам жа чысты, быццам шкло!

Хоць увогуле мужык
Помсціць надта не прывык,
Толькі зараз суд над вамі
Я ўчыню без закавык!

***Цар***

Пашкадуй мяне, стралок!
Я – мярзотнік! Крывасмок!
Я сашлю сябе ў Варонеж,
Я сашлю сябе ў Таржок!..

Толькі не на Салаўкі –
Я ўжо юны не такі.
Сцерагуся, што адкіну,
Не даехаўшы, канькі!

***Генерал***

Прызнаю свой злы намер.
Глыбіню. Ступень. Памер.
І прашу туды адправіць,
Дзе вайна ідзе цяпер.

А не йдзе – дык лёс любы
Я стрываю без жальбы.
Хоць у Крым на адпачынак –
Толькі ў ліпені абы!

***Баба Юга***

А куды ж мяне-ўдаву?
Мо на поўдзень, у Хіву?
Я і так ужо ў глыбінцы
Найглыбейшае жыву!..

Каб душы паправіць стан,
Сама тое – Татарстан!
Там лячэбных зёлак столькі!
Паспрабуй іх тут дастань...

***Хвядос***

Мы пасадзім вас, бадай,
У балею – і гудбай!
Дастаткова вам балеі –
Не ладдзю ж вам падавай!

Хай нясе вас акіян
Аж на востраў на Буян!
А каб вы там не здзічэлі –
Вось стары вам мой баян.

З-за маіх умелых рук
Ён не здольны выдаць гук,
Ды ў адсутнасці культуры
Будзе добры вам сябрук!

***Цароўна***

Што датычыцца цара –
Хай плыве. Даўно пара!
У яго свае праблемы,
Мне яны да ліхтара!

Пакараў яго сам бог
За падступнасць і падлог!
Гэта ён, пракляты вупар,
Раз'ядноўваў нас, як мог!

Болей дзьмуць не будзе губ
Узурпатар, душагуб!
Вось цяпер мы можам смела
Заключыць з табою шлюб!..

***Хвядос***

Не, з Марысяй у тандэм
Мы нікога не бярэм.

Ты пайдзі да халастога
На прадмет інтымных тэм!..

***Нянька***

Ты здурэў? Мазгоў няма?
Рыбка ж ловіцца сама!
Мо, не ўсім такое шчасце
Выпадае задарма!

Ці ты лічыш, што ў яе
Кавалераў не стае?
Ад цябе паводле хваткі
З іх ніхто не адстае!

У нястрымным пачуцці
Моляць за сябе пайсці!
Канкурэнцыя такая –
Хоць ты дустам іх труці!

Раніцой прымчалі ўраз
Турак, швед і грэк да нас –
Атрымалі ўсе з парогу
Дулю з макам у адказ!

А якісь стралок-жабрак
Фанабэрыяй набрак!
Пад вянец цягні цароўну,
Калі розуму не брак!..

***Хвядос***

Што я – турак вам ці грэк?
Я – сямейны чалавек.
З жонкай любаю, Марысяй,
Я дажыць хацеў бы век!

***Цароўна***

Адмаўляеш даме ў твар
У здзяйсненні даўніх мар?
Але ж я цароўна ўсё-ткі,
І мой бацька ўсё-ткі цар!

Не дасі, чаго прашу –
Вырак смерці падпішу!
Напаследак папрацуе
Кат за мілую душу!

***Нянька***

Не юрыся лепей ты!
Наш каток даў лататы.
Татку скінулі – ён тут жа
За сякеру – і ў кусты!

Лепш натоўп нам не цвяліць,
З масай трэба ў згодзе быць:
Дэспатызм цяпер не ў модзе,
Дэмакратыя руліць.

Так што едзь ты лепш, мамзель,
Куды-небудзь у Брусель,
Раз ужо, перапрашаю,
Тут такая карусель!

Выбачай ты ёй, Хвядос:
Прачытала кніжак стос,
І ў яе ад гэтых кніжак
Стаўся ў думках перакос.

Абчыталася Дзюма –
Зладу з ёй цяпер няма!
Хай крыху павар'яцее
Ды ўтаймуецца сама!..

***Хвядос***

Ты, цароўна, не бядуй,
Злосці ў сэрцы не гадуй.
Што кахання ў нас не выйшла –
На мяне ты не крыўдуй.

Але ж я, само сабой,
Маю доўг перад табой,
І сам-насам не пакіну
Дзеўку з ейнаю журбой!

Я між Тулай і Таржком
Край прамацаю цішком,
Нат на дне марскім шукацьму,
А звяду вас з жанішком!

***Цароўна***

Згода!.. Толькі ў жанішкі
Пойдзе не абы-які!

Я хачу такога мужа,
Каб былі вы блізнюкі!

Хай ён будзе хоць кравец,
Лекар, пекар ці шавец –
Толькі копію Хвядоскі
Я хачу за мужа мецьǃ..

***Хвядос***

Што ж, паводле ўяў тваіх
Недзе мусіць быць жаніх,
Ды ў Расеі, мне здаецца,
Мала знойдзецца такіх.

А каб з розумам маім –
То такіх няма зусім.
Мабыць, гэта й без мяне ты
Зразумела перад тым.

Толькі ўзяўся – не кажы,
Што не дуж, дапамажы.
Што ж, здабуду я, цароўна,
Блізнюка табе ў мужы!

Ну, стары і малады –
Вымі храпу з барады!
Зараз будзе тут гулянка,
Не памінкі й не Дзяды!

Досыць кіснуць у нудзе!
Хай лепш песня загудзе!
Гэй, з'явіся мне на вочы
ШтосьЧагоНямаНідзе!

***Голас***

Ды я тут, непадалёк –
Быў ля ганачку прылёг
І чакаў, пакуль ты скончыш
З грамадою дыялёг!..

***Хвядос***

Пакаштуе хай народ,
Чым багаты твой гарод!
Людзі гэткіх страваў, мабыць,
У жыцці не бралі ў рот!

Прапануй ім пахлаву,
Самаркандскую халву,
І турэцкую хвісташку,
І персідскую айву!

Каб быў пір на добры лад,
Шакалад стаў, мармелад,
І грудзінку па-жмудзінску,
І вугорскі сэрвілат!

Сыр швайцарскі падавай –
Хоць ён з дзірак, ды няхай!
Пагалоска пра бяседу
Каб пайшла за свету край!

Ну а як папросіць хто
Бражкі грамаў нейкіх сто –
Хай крыху ўжо вып'юць сёння!..
Дзякуй богу, ёсць за што!..

***Скамарох-весялун***

Быў і я на той бяседзе – спраўджваў, колькі ў мяне ўлезе. Карусь еў гусь, Мялет еў рулет, Юстын еў галантын. А Хвядоска-стралок еў салёны гурок. Як даеў яго хлапец – тут і казцы канец! А што быў сказ абы-які – дык гэта казачнік такі. От злавіць яго б цяпер, налажыць яму ў каўнер! Ды залішніх шмат турбот – казачнік дурны ж, як бот! А як чуў я ад дзядоў, на дурных няма судоў!..

Кастусь Цвірка



...любую прамову ці справаздачны даклад Максім Танк заўсёды прамаўляў з узнёсласцю, нават рытмічна. Бо жыў паэзіяй...

# Човен майго часу

***З новай кнігі***

## МІКОЛА АЎРАМЧЫК

Міколу Аўрамчыка я назваў бы сваім літаратурным настаўнікам. Калі яшчэ вучыўся ў Старых Дарогах у школе, пасылаў яму ў "Маладосць" як рэдактару паэзіі свае вершы, на якія ён даваў кароткія, але вельмі "дарэчныя" адказы.

Потым я сустрэўся з ім у рэдакцыі часопіса. Статны, падцягнуты – такім упершыню я ўбачыў Міколу Аўрамчыка ў 1950-х гадах. Такім жа застаўся ён і цяпер, у 2015 годзе, калі яму мінула 95. Толькі добра ўжо аздобіў Мікалай Якаўлевіч свае шчокі і падбароддзе белай, як снег, і тапырыстай шчацінай. Глянеш – лунь лунем.

Мікола Аўрамчык – для мяне адзін з тых паэтаў, вершы якога хочацца чытаць і перачытваць. Я не магу нават адназначна сказаць, чаму. Мусіць, іх гранічнай шчырасцю, сардэчнай цеплынёй, адкрытай спавядальнасцю. У іх – нічога выдуманага, тым больш мудрагелістага. Усё – пра пeражытае самім сабой.

А перажыць Міколу Аўрамчыку выпала нямала. І найболей – у вайну. "Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі

на нашу краіну, – успамінае ён у аўтабіяграфіі, – застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс". Там жа пачуў ён і аглушальныя выбухі бомбаў, што скідвалі на Мінск нямецкія самалёты.

Як і сябры-аднакурснікі, Мікола Аўрамчык змушаны быў пакінуць сталіцу і разам з натоўпамі ўцекачоў падацца на ўсход. Каб недзе там прызвацца ў войска.

І вот ён, недавучаны студэнт Мінскага педінстытута, вясковы хлопец з Бабруйшчыны, які зусім нядаўна захапляўся незвычанымі прыгодамі герояў з бабуліных казак, – ужо салдат Чырвонай арміі, што ўзялася стрымліваць шалёны вал фашысцкага нашэсця. Па слядах падзей пісаліся на прывалах і радкі вершаў:

З-за клапот цяпер забыты казкі,
Зараз нам зусім не да прыгод...
На галовах – баявыя каскі,
Кліча ўдаль няведамы паход.

З горкім палыном шляхі-дарогі
Ды калючы стэпавы кавыль...
Горка ў горле, абшарпаны ногі,
Гэта ўжо не казка, гэта – быль.

Франтавыя дарогі, баявыя сутычкі з ворагам. З вялікім душэўным болем бачылі байцы зруйнаваныя вёскі, папялішчы хат, забітых жанчын і дзяцей. І гэты боль не мог не адбівацца ў вершах маладога байца-паэта:

Расхрыстаныя насцеж вокны, брамы,
Пакрыўджаныя хаты і двары
З паўзмроку паўставалі перад намі,
Калі мы вёску бралі на зары...

Засеў чужынец у апошняй хаце.
Я не заўважыў, не адчуў тады,
Што ў гэты час якраз у аўтамаце
Апаражніўся ад патронаў дыск.

Здалося мне, што гэта тая хата,
Якую ведаў я даўным даўно...
Каб маё сэрца стаць магло гранатай,
Шпурнуў бы яго зараз праз акно.

Пасля кароткіх артылерыйскіх курсаў у Маскве Міколу Аўрамчыка накіравалі ў 242 гвардзейскі мінамётны дывізіён ("кацюш"), які адразу ж быў кінуты на Волхаўскі фронт, насустрач ворагу. Мікалай Якаўлевіч расказваў мне, які жах наводзіла на гітлераўцаў гэтая грозная, нечуваная дагэтуль зброя. Яе агнём выпальвалася ўсё жывое, ад лесу асталіся толькі чорныя аскабалкі. Калі пачыналі біць "кацюшы", байцы, што вялі з іх агонь, кідаліся вобзем, у любыя яміны, затыкаючы вушы. Грукат ад пуску "кацюш" усчынаўся такі, нібы гэта была нейкая д'ябальская малацьба ў мноства агнявых цапоў, якая, як пісаў сам паэт у вершы "Кацюша", "духі з чужынцаў выбівала, іх душы веяла ад цел".

"Кацюшы" – была сакрэтная савецкая зброя. Каб яна не пападала ў рукі ворага, пры самай малой небяспецы кожную з гэтых ракетных установак тут жа загадвалася ўзарваць.

Так зрабілі і з той, да якой быў прыстаўлены Мікола Аўрамчык. Бо немцы прарвалі савецкую абарону. Армія, якой камандаваў вядомы генерал Уласаў, апынулася ў акружэнні разам з прыдадзеным да яе дывізіёнам "кацюш", дзе служыў Мікола Аўрамчык. Усе "ўласаўцы" трапілі ў нямецкі палон. А з імі і яшчэ дзве арміі.

Лагер для палонных немцы зрабілі на ўскраіне Ноўгарада, які быў імі захоплены. Многія месяцы давялося марнавацца там за калючым дротам Міколу Аўрамчыку, у холадзе і голадзе, з усёй арміяй ваеннапалонных.

Адсюль немцы завезлі яго ў Германію, у каменнавугальныя шахты Рура. Пра бясконцыя гады свайго прымусовага шахцёрства так коратка згадвае ён у аўтабіяграфіі: "Кожны дзень на дасвецці з лагера канваіры прыганялі вялікую калону палонных, абвітую гірляндамі шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, ў падзямеллі кайлом білі штайгеры і іх памочнікі.

Ад стандартнага рацыёну – невялічкай пайкі хлеба-сурагату і двух літраў незапраўленай баланды са шпінату або сушанай бручкі – мы ледзьве перастаўлялі ногі. Кожны месяц з лагера вывозілі трыццаць-сорак хворых туберкулёзам".

Пра сваё нявольніцкае шахцёрства Мікола Аўрамчык спавядаўся і ў вершах, якія нейкім чынам умудраўся запісваць на шматках паперы ці проста ў памяць, калі пасля змены завальваўся на нары спаць. Які быў настрой у нявольнікаў-шахцёраў Рура, відаць з радкоў гэтага верша:

Сёння побач на нарах
Памёр мой сусед.
Больш не будзе ён трызніць у сне.
Зараз я на чарзе...
Можа, заўтра чуць свет
Звалакуць з гэтых нар і мяне...

Родны край захлынуўся ў крыві і агні,
А я гіну бязмэтна ў чужой старане...
Маці, покуль не позна,
Хоць ты загляні,
Хоць у сне ты наведай мяне...

У другім вершы – "Думы ў капальні", таксама напісаным на нарах, аўтар расказвае, як гінулі і калечыліся ў шахтах нявольнікі ад каменных глыб, што вельмі часта адвальваліся ад сцен. Але ва ўсіх была адна мара:

Вырвацца б з глыбокае капальні
Хоць бязногаму, але жывому,
І па сцежках, па дарогах дальніх
На радзіму дапаўзці дадому.

Толькі за два тыдні да канца вайны Міколу Аўрамчыка, нарэшце, вызвалілі англічане – нашы саюзнікі.

Ды нядоўга цешыўся былы палонны чырвонаармеец свабодай. Савецкія ўлады, якія ўсіх сваіх ваеннапалонных залічвалі ў здраднікі, закінулі Міколу Аўрамчыка ў сваё, эсэсэраўскае, не намнога лепшае пекла – у шахцёрскі Данбас. З палону ў палон. Пра гэта ён так пісаў у вершы "Хоць я не дзяк...":

За тое,
Што ў нацысцкім Рэйху мы
У лагеры каналі, ў падзямеллі,
Чакаў нас дома баль у час чумы
І пасля лазні горкае пахмелле.

Мікалай Якаўлевіч цікава расказаў мне, як везлі з Германіі былых ваеннапалонных чырвонаармейцаў, а цяпер савецкіх нявольнікаў. Везлі таварняком, у вагонах-цялятніках. За расчыненымі (адсунутымі) вагоннымі дзвярыма праплывалі перад вачамі спярша нямецкія, а потым польскія гарады. Нарэшце на вакзальным

будынку кінулася ў вочы шыльда: "Брэст" – цягнік пайшоў па Беларусі. Кобрын, Бяроза, Івацэвічы... і вось – Бабруйск, Аўрамчыкаў абласны цэнтр. За ім будзе паўстанак "Плёсы". Гэта ж там ужо і яго вёска. Ясна, дамоў яго ніхто не пусціць. Як жа паведаміць маці, што ён жывы і здаровы, што ён ужо недалёка ад дому? Яна ж амаль чатыры гады не атрымоўвала ад яго аніякай весткі. Не саскочыш жа з поезда – адразу зловяць і запраторацць куды трэба. І прыдумаў, як пра сябе паведаміць. Напісаў маці на лістку паперы кароценькае пісьмо, абкруціў ім загадзя адшуканы невялікі камень і, калі цягнік праходзіў паўз родны паўстанак, кінуў яго дзяўчыне, што трымала сігнальны сцяжок пры чыгуначнай будцы. А дзяўчынай гэтай была, як аказалася, не хто іншая, як яго Паліна! Тая, да якой Мікола Аўрамчык заляцаўся да вайны і якая потым стала ягонай жонкай. Гэта была хоць і імгненная, але вельмі хвалюючая сустрэча.

У Данбасе Мікола Аўрамчык прабыў не вельмі доўга. Вярнуцца дадому памагло яму тое, што перад вайной ён закончыў тры курсы педінстытута. Пасля вайны ў школах не ставала настаўнікаў, і іх усюды вышуквалі. Знайшлі ў Данбасе і Міколу Аўрамчыка. Вярнуўшы дадому, у Мінск, яму далі магчымасць давучыцца, толькі цяпер – ва ўніверсітэце. Вучобу ў БДУ ён закончыў паспяхова. Толькі пайшоў ужо не па педагагічнай, а па журналісцкай лініі, стаўшы супрацоўнікам маладзёжнай газеты "Чырвоная змена". Ну, і пісаў вершы, якія публікаваў у розных перыядычных выданнях. У 1953 годзе яго прызначылі рэдактарам паэзіі толькі што створанага часопіса "Маладосць", дзе ён дабыў да самай пенсіі.

У 2015 годзе, да 95-й гадавіны Міколы Аўрамчыка мы выдалі ў серыі "Беларускі кнігазбор" кнігу яго выбраных твораў. Рыхтуючы яе да друку, я некалькі разоў пад'язджаў да Міколы Якаўлевіча на кватэру па вуліцы Казлова. Мы разам меркавалі, што ўключыць у том. Раздзел "Паэзія" ён скампанаваў у асноўным сам. Што ж да "Прозы", то тут трэба было падумаць.

Я прапаноўваў уключыць у кнігу абодва яго празаічныя творы – раман "У падзямеллі" і аповесць "Палон". Але Мікола Якаўлевіч "Палон" сюды даваць не захацеў. Хоць твор гэты быў надрукаваны ў часопісе "Маладосць" і выходзіў у свой час асобнай кнігай, але ў маскоўскім часопісе "Октябрь" у перакладзе на рускую мову яго друкаваць не дазволілі. Бо палічылі, што ён "няправільна" паказвае фашысцкі лагер для ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Не такім жорсткім, як пра гэта расказвалі іншыя аўтары. Спасылаліся на адзін з самых "яскравых" прыкладаў з аповесці. Калі двум палонным удалося ўцячы з лагера, то яны, не знайшоўшы ў ваколіцах Ноўгарада якога-небудзь прыстанку, вярнуліся – нечуваны выпадак! – назад у "родны" лагер, на баланду, якой не знайшлі на волі. Але ж гэты факт, як і ўсе іншыя, аўтар не прыдумаў: апісаў тое, што было ў сапраўднасці.

Я пераканаў Міколу Якаўлевіча, што гэты твор па-свойму цікавы і яго варта паказаць чытачу. Але калі ўмясціць яго ў аднатомнік, то трэба было б апусціць не менш важны раздзел – "Успаміны". А рабіць гэтага аўтар не захацеў. Давялося абмежавацца ў раздзеле "Проза" толькі яго раманам.

Мне ж бачыліся гэтыя рэчы пад адной вокладкай. Я параіў Міколу Якаўлевічу падрыхтаваць асобна да друку яго дылогію пад агульнай назвай "Палон" (першым паставіць сам "Палон", а за ім – "У падзямеллі") і пашукаць спосаб яе выдаць. Тут, ведама ж, трэба парупіцца ўжо яго тром дочкам.

Пры сустрэчы Мікола Якаўлевіч расказаў мне, што меркаваў напісаць яшчэ трэцюю кнігу пра перажытае. Ужо пра яго вызваленне з палону англічанамі, пра тое, што ўбачыў і пачуў ён у Германіі ў першыя месяцы пасля разгрому фашыстаў, і пра адпраўку яго ў Данбас, з няволі ў няволю. Ён нават пачаў ужо яе пісаць. І назву прыдумаў – "Прасвятленне". Гэта была б трылогія. Ды жыццёвыя мітрэнгі перашкодзілі Міколу Аўрамчыку здзейсніць задуманае.

– Ну а каб цяпер памаленьку ўсё ж пісаць гэты трэці раман, Мікола Якаўлевіч? – папытаўся я асцярожна.

У адказ Мікола Аўрамчык толькі засмяяўся. Ну ясна: якое можа быць пісанне на 97 годзе жыцця, за тры гады да стагоддзя?

*27.02. 2016*

## ВАСІЛЬ ВІТКА

Гэта была прыемная неспадзяванка: мяне, вучня Старадарожскай сярэдняй школы, аўтара не так ужо і многіх вершыкаў у нашай раёнцы, выклікалі ў Бабруйск на абласную нараду маладых пісьменнікаў. У вузкаватай зале для пасяджэнняў газеты "Камуніст" ("органа Бабруйскага абкама КП Беларусі") сабралася такіх "пісьменнікаў" чалавек дваццаць.

З чаканнем нечага незвычайнага паселі на збітыя ў рады "жорсткія" рыплівыя крэслы. Маю гордасць (як жа, і я залічаны ў "пісьменнікі", хай і "пачынаючыя") добра астуджваў халадок трывогі: што ж тут скажуць пра мае вучнёўскія "спробы пяра"?

І вось з бакавых дзвярэй увайшлі і сталі перад намі за сталом на невысокай сцэне двое – рэдактар "Камуніста" і прыезджы з Мінска. Рэдактар як гаспадар адразу ж адрэкамендаваў госця – строга апранутага, з сур'ёзным выразам твару чалавека. Гэта быў прызнаны паэт і галоўны рэдактар рэспубліканскай газеты "Літаратура і мастацтва" Васіль Вітка. Даручыўшы яму весці нараду, рэдактар пакінуў сцэну.

"Пісьменнікі" па чарзе чыталі нешта сваё і абмяркоўвалі прачытанае. Васіль Вітка падахвочваў усіх выказвацца. Рабіў нейкія заўвагі і сам. Калі, вельмі хвалюючыся, пачытаў і я свае "творы", ён адразу ж папрасіў падаць яму мой сшытачак з вершамі. Ні ў кога іншага з нашай кампаніі ён не прасіў іхніх твораў. Чаму так? Чым зацікавілі яго якраз мае вершы? Я і сёння гэтага не ведаю. У канцы нарады, пагартаўшы мой сшытачак, ён падазваў мяне і сказаў перапісаць адзін з упадабаных ім вершаў і прысласць у "ЛіМ" на яго імя, паабяцаўшы надрукаваць. О, надрукавацца ў такой паважнай сталічнай газеце – гэта ж такая была б радасць!

Паслаўшы той верш ( цяпер нават назвы яго не прыпомню), я ў дні прыходу газеты спяшаўся ў нашу райбібліятэку, каб барзджэй убачыць свой надрукаваны твор. Ды колькі ні праглядваў "ЛіМаў", яго там не знайшоў. Значна пазней я даведаўся, што той верш "зарэзаў" Навум Кіслік, які рабіў тады ў рэдакцыі газеты. Мусіць, мой твор не дайшоў да галоўнага рэдактара. Ці ён проста аддаў яго на "водкуп" літработніку?

Як бы там ні было, сваёй увагай да маіх вучнёўскіх вершаў Васіль Вітка вельмі падахвоціў мяне пісаць і далей.

Другім разам – ужо значна пазней – ён добра падняў мой дух у аглядзе творчасці маладых літаратараў, апублікаваным у другім нумары часопіса "Полымя" за 1960 год пад загалоўкам "Творчы пашпарт пісьменніка". Да "паэтычных удач" апошняга часу Васіль Вітка побач з кніжкай Рыгора Барадуліна "Маладзік над стэпам" залічыў і мой зборнік вершаў "Такія сэрцы ў нас". У сваім артыкуле ён зазначаў: "У адрозненне ад Барадуліна, моцнага яркай вобразнай дакладнасцю, Цвірка больш схільны да сілабічнага абагульнення, да паэтычнага афарызма". І дадаваў: "Добрыя і адна і другая якасці. А было б яшчэ лепш, каб кожны малады паэт, удасканальваючы свой талент, адточваў усе яго грані". У гэтым жа аглядзе як лепшы прыклад удалых лірычных твораў Васіль Вітка цалкам прывёў і мой верш "Лодачкі".

У сваю чаргу і я быў рады з часам "быць карысным" майму літаратурнаму настаўніку.

Першы раз – у публікацыі яго твораў на старонках часопіса "Полымя", калі я ўзначальваў там аддзел паэзіі. Ён прынёс мне вялікую падборку вершаў для дзяцей. Пад агульным загалоўкам "Дзеці і мова". Я палічыў, што і для дарослых маюць цікавасць гэтыя вершы, і яны былі апублікаваны ў кастрычніцкім нумары за 1993 год. Цімох Васільевіч быў вельмі ўдзячны мне за гэтую публікацыю. Ён завітаў да мяне ў "Полымя", і мы доўга гутарылі з ім. Пра літаратуру, пра ўсё. Ён паскардзіўся мне, што калі пакінуў сваё рэдактарства ў часопісе "Вясёлка", яго перасталі друкаваць нават у выдавецтве "Юнацтва".

Другім разам, калі надарылася магчымасць, я з радасцю ўзяўся – на жаль, ужо не пры жыцці паэта – рыхтаваць разам з Тамарай Тарасавай аднатомнік яго выбраных твораў у серыі "Беларускі кнігазбор".

Што ж з усёй творчасці Васіля Віткі нам трэба было ўзяць для такой прадстаўнічай кнігі? Гэтае пытанне заўсёды ўстае перада мной, калі рыхтую чарговы том серыі. Там жа павінна быць усё самае значнае, самае характэрнае для пісьменніка.

Пачынаю з "выніковай" кнігі Васіля Віткі "Паверка", выдадзенай у 1961 годзе да яго 50-гадовага юбілею. Змешчаныя там вершы разачаравалі. Былі яны пра "шчаслівыя песні", пра "славу нашага ўраджаю", што "паплыла ў свет чырвонымі абозамі", пра "гулкія вежы Крамля" ды пра "сковыт" капіталістаў – "ворагаў нашага шчасця". Што тут скажаш: пісаліся гэтыя вершы – гляджу на даты пад імі – з 1928 па 1959 год, у самы той час, калі паэты павінны былі наступаць "на горло собственной песни» (У. Маякоўскі ). У вершы "Паверка", які і даў назву зборніку, Васіль Вітка з гордасцю (і наўрад ці ўдаванаю) заяўляў: "Мы... запаветныя думы звяраем з Масквою", а сэрцы – "з сэрцам партыі".

І ўсё ж праз абавязковы ідэалагічны жалезабетон прабівалася на свет і жывое, сапраўднае. Прыкладам, верш "Хлеб". Светлы ўспамін пра дзяцінства, пра тое, як маці мясіла ў дзежцы цеста, як яно, падыходзячы, "стагнаць пачынала сярдзіта, нібы мядзведзь у аблаве", як потым у печ, "у вясёлае падарожжа ехаў наш хлеб на лапаце".

Спадыспаду высланы лістам дубовым,
Духмяным пасыпаны кменам,
Вяртаўся ён з печы, як сонца, ружовы
І доўга свяціў на стале нам.

Так, Васіль Вітка – найперш паэт, і паэт не абы-які. Я сказаў бы, паэт-язычнік, які не ў аблоках лунае, а цвёрда ідзе па зямлі, адухаўляючы, робячы паэзіяй усё, на чым запыніцца яго пільнае, неабыякавае вока. З "чырвонастволай гонкаю сасной" ён вітаецца, "як даўнішні знаёмы", надоўга спыняецца перад "арэшынай у завушніцах", якая раптам вяртае яму далёкую вясну:

І зараз помню
Да драбніцы
Світання промні
Ў завушніцах,

Гаркавы водар
Балігалову,
Што і праз годы
Займае мову...

"Зямля" ў Васіля Віткі не абстрактная зямля-планета, а зусім канкрэтная на ёй мясціна. Гэта – спеўная, з шырокімі палявымі разлогамі родная Случчына, дзе ў простай сялянскай хаце вёскі Еўлічы ён нарадзіўся і рос, дзе хадзіла яго юнацтва.

Мы са Случы ўсе – сакуны,
Завомса сакунамі.
Спрадвеку хлеб наш сакаўны
І мова сакаўная...

Здавён адзін на аднаго
Мы не глядзелі скосо
І хоць пабачылі ўсяго –
Усё пераўжылосо...

Яшчэ ў калысцы спіць сысун,
А толькі абазваўса,
І ўжо ён выліты сакун,
Увесь у бацьку ўдаўса...

“І сам удаўса я такі” – прызнаецца ў новым вершы Васіль Вітка, падкрэсліваючы сваю знітаванасць, злітнасць з роднай зямлёй, з яго “малой радзімай”, дзе ўзяў крылы для высокага палёту:

Тут між балотнага куп’я
Ўзлятала песня кнігаўкай.
Зрасталася душа мая
З маёю лепшай кнігаю.

У ёй – імёны, адрасы,
У ёй – мае случане,
Жывых – жывыя галасы
І тых, што замаўчалі.

Падчас і я ў трубу трублю,
На скрыпачцы пілую,
Што, мілую, цябе люблю,
Зямлю сваю – малую.

А ты жыццё прайшла са мной,
У свет вялікі клікала.
Ніколі без цябе, малой,
Не знаў бы я вялікае...

Усё, што з маленства адбілася ў памяці і запала ў душу, усе фарбы і пахі роднай зямлі, чарадзейныя гукі яе старажытнай мовы перанёс паэт у радкі сваіх вершаў і паэм. Адтуль, з дарог і сцежак бацькоўскага краю, прыйшлі такія з іх, як “Шарая гадзіна” (“Пеўневым барвовым грабянцом запалаў лясок на даляглядзе...), “На выгодзе” (“Падлеткам за чужою чарадой я выхадзіў выжары і пагоркі...”), “Жураwель” (“Здавён вартуе ён сяло, высока выцягнуўшы шыю...”), “Першае наіўнае каханне” (“Мне валошкай вышыла матуля з беленага кужалю кашулю...”), “Верасы” (“Што гэта: казка а ці сон, ці лесу галасы? Смычкоў суладны унісон з размаху, наўкасы ўдарыў і вясёлы дождж за хмаркаю ўслед пабег, як хлопчык, басанож у ясны мілы свет...”).

З жывога жыцця ўзяў Васіль Вітка і гэтую нечаканую (і нечапаную, здаецца) тэму – як у вёсцы рыхтавалі ў “апошні шлях” памерлага. Уражлівыя дзіцячыя вочы (а хавалі паэтавага дзеда) ухапілі, нічога не прапусціўшы, усе падрабязнасці таго невясёлага рытуалу. Запомнілася яму, як “ляжаў на лаве дзед”.

І нібы на якое свята
Ці на кірмаш ён ехаць меў –
Уся яго збірала хата,
А ён збірацца не хацеў.

Як бы на ўсё махнуў рукою
І, падтуліўшы бараду,
Прасіў: пакіньце у спакоі,
Я з гэтай лавы не сыду.

А ўжо ваду нагрэлі ў печы,
Пад пахі дзеда узялі,
Над цэбрам шаравалі плечы
І доўга цёрлі мазалі

Каструбаватых тых далоняў,
Што перагладзілі наўкруг
Чужыя выцерабы, блоні,
І дворны цэп, і цяжкі плуг.

Сарочку белую надзелі
І зноў – на покуць галавой,
І сталі плакаць, як умелі...

Калі ідэалагічныя абцугі, якія доўгія гады трымалі савецкую літаратуру ў вузкіх рамках сацрэалізму, пачалі аслабляцца, на ўсю моц разгарнуўся і прыродны талент Васіля Віткі. Усё, што ляжала на душы, што яго турбавала і трывожыла, адкрыта, без аглядкі на каго б там ні было пераносіў ён на паперу ў паэтычных радках сваіх твораў. Расла і строгая патрабавальнасць да ўсяго, што выходзіла ў яго з-пад пяра.

Верш "Дарагія стрэлкі". Яму, паэту, якому "грукнула паўвеку", сябры, каб помніў, што "йдзе не ўгору, а з гары", падаравалі залаты гадзіннік. І паэт зразумеў іх намёк:

Не мае права выйсці мелкім
Цяпер ні слова з-пад пяра:
Час лічаць дарагія стрэлкі –
За розум брацца, брат, пара.

І трэба аддаць належнае Васілю Вітку: у яго творах новай пары мы не знойдзем нічога "мелкага", прахаднога. З самым важным, з усім набалелым ідзе ён да чытача.

А творчасць ягоную па-ранейшаму жывіла, як таго Антэя, родная зямля, яго любая Случчына, з якой ён не парываў ніколі:

Будзеш ты усюды не разлучаны
З першымі ўспамінамі жыцця,
З ціхаю тугой па роднай Случчыне,
З шолахам альховага лісця,

З тою прыдарожнаю алешынай,
Што ў зацішшы пры шашы шуміць.
Хіба ёсць на свеце шчасце лепшае,
Як пад небам бацькаўшчыны жыць?..

Туды, у бацькоўскі край, паэт заўсёды ляцеў, як на крылах:

Дадому еду – і здалёк,
Нібы палотны белячы,
Бяжыць бярозавы гаёк,
Дарогу сцелюць Еўлічы.

Адсюль, са сваіх Еўліч і ваколіц, у 1959 – 1960-х гадах Васіль Вітка прынёс у нашу літаратуру і праўдзівыя перліны прозы – проста цудоўныя апавяданні, якія, помню, так прыемна ўразілі тады чытача і якія даволі высока ацаніла крытыка. "Трывога ў Ельнічах", "Познія палыны", "Гуляшчы хлеб", "Баравіцкія музыкі", "Вікторыя" – гэтыя невялікія памерам творы больш і глыбей расказалі пра наш народ, чым іншыя раманы ці эпапеі.

Нельга не парадавацца, як натуральна і хораша вядзе ў іх гаворку аўтар, якая краса яго жывой народнай мовы, мовы Случчыны. Вось, прыкладам, пачатак апавядання “Гуляшчы хлеб”: “Урвіцель, дык ён жа адразу і відзён па ўсіх яго выхілках, хоць і пнецца паказаць сябе: што-та я! Такога пазнаеш, як бы ён ні рызыдаваў, ні лез сляпіцаю ў вочы. З ім лепш не заводзься, не чапай. Хай яго сарочка не чапае. Ён настыраецца, а ты маўчы. І калі не хочаш цвяліць, то лепш гавары яму ў руку. Але ж і патачкі не давай, не папускайся, каб ва ўсім быў яго верх, бо няма ладу, да чаго ён можа дайсці з вялікае прапыхі”.

У “кнігазбораўскі” том мы ўпершыню ўключылі ўсю прозу Васіля Віткі (апроч хіба чыста дзіцячых апавяданняў), яго вельмі яркія ўспаміны, публіцыстычныя артыкулы і актуальныя па сёння развагі пра літаратуру і літаратараў.

А як было нам абмінуць яшчэ паэтычныя творы дзеда Васіля для дзяцей? Яго ж як дзіцячага пісьменніка высока ацанілі ў шырокім свеце, узнагародзіўшы міжнародным ганаровым дыпломам імя Ганса Хрысціяна Андэрсэна з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс дацкага казачніка. Старонкі нашага тома толькі ўпрыгожылі яго вершаваныя казкі “Вавёрчына гора” і “Буслінае лета”, якія прыемна перачытваць не толькі дзецям.

Васіль Вітка – адзін са слаўнай кагорты выдатных мастакоў слова, якіх дала нашай беларускай літаратуры жытнёва-ільняная Случчына.

*2013*

## МАКСІМ ТАНК

Не зусім звычайнае адбылося ў мяне з Максімам Танкам знаёмства.

Бліскотнымі сонечнымі днямі веснавых канікул я, школьнік-дзесяцікласнік, першы раз прыехаў у Мінск, каб разведаць, куды пасля школы паступіць вучыцца далей. Ну, ведама ж, не мог не прыхапіць з сабой заадно і свае вучнёўскія вершы – з надзеяй іх надрукаваць.

Чамусьці наважыў падацца з імі не куды-небудзь, а ў самы галоўны літаратурны часопіс – у “Полымя”.

Яго рэдакцыю я знайшоў у Доме друку – чатырохпавярховым прастакутніку бруднавата-жоўтага колеру на праспекце імя Сталіна насупраць Акадэміі навук.

У ладным пакоі, куды не без хвалявання я адчыніў дзверы, згрудзіліся ў правым баку і пра нешта ажыўлена гаманілі рэдакцыйныя работнікі. Занятыя гамонкай, яны і не зважалі на мяне. Я нясмела таптаўся каля дзвярэй. Тады ад стала, што стаяў, як цяпер помню, з левага боку каля акна, падняў ад сваіх папер галаву і скіраваў на мяне вочы сярэдніх гадоў мужчына.

– Што ў цябе, хлопец?

– Вершы прынёс.

– Вершы? – Ён паглядзеў на сваіх супольнікаў, якія якраз пра нешта спрачаліся, хацеў штосьці ім сказаць, ды не стаў перапыняць іхнай гамонкі і зноў перавёў вочы на мяне. – Ну то давай іх сюды.

Я паднёс яму свой вучнёўскі, у клетачку сшытак з вершамі. Мужчына паклаў яго перад сабой на стол і, сказаўшы мне сесці, узяўся чытаць мае крамзолі. Затаіўшы дыханне, я глядзеў, як ён, перагортваючы лісточкі майго сшытка, нешта там чыркаў ручкай. Скончыўшы чытаць, ён выйшаў з-за стала і павярнуўся да сваіх гаманлівых таварышаў:

– Паслухайце, як піша школьнік!

І пачаў чытаць мой верш пра карціну, на якую вясковы мастак

Нанёс усё, што сэрцу міла,
Дарогу, золата жытоў

І нават песню, што застыла
Ў адкрытых вуснах землякоў.

Відаць, мужчыну вельмі спадабалася тое, што мой мастак змог намаляваць на карціне нават песню. І калі яшчэ хто заходзіў сюды з суседняга рэдакцыйнага пакоя, ён і яму з нейкай незвычайнай узнёсласцю дэкламаваў мой верш “Карціна” , а, можа, і другі – “Вясну” (пра тое, як гракі прынеслі на крылах вясну і апусцілі на палі).

Напрыканцы гэты добры чалавек сказаў мне:

– Два твае вершы – “Карціна” і “Вясна” будуць надрукаваны. У пятым нумары.

Узрадаваны гэтым, я папытаўся ў яго:

– А з кім я размаўляю?

– Я – галоўны рэдактар “Полымя”.

Я аслупянеў: дык гэта ж са мной валаводзіўся сам Максім Танк, якога мы вывучаем у школе!

Развітваючыся, я ўсё ж асмеліўся папытаць у яго, куды мне лепш пайсці пасля школы вучыцца.

– Усе паэты ідуць у БДУ – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, – адказаў ён.

Неўзабаве я гэтак і зрабіў. Так што Максім Танк, можна сказаць, падказаў мне і дарогу ў жыццё.

Вершы ж мае, як ён і абяцаў, і праўда былі надрукаваныя ў пятым, майскім нумары часопіса “Полымя” за 1953 год. Якая гэта была радасць для школьніка! Публікацыя тая вельмі акрыліла мяне і прыдала ўпэўненасці ў выбранай дарозе.

У студэнцкія і пасьлястудэнцкія гады я яшчэ не адзін раз прыносіў вершы ў “Полымя”, дзе даўгавата працаваў Максім Танк. Але я ніколі і падумаць не мог, што калі-небудзь мы памяняемся ролямі. Тым не менш гэта сталася. У 1984 годзе мяне ўзялі на працу ў рэдакцыю часопіса “Полымя” – на пасаду рэдактара аддзела паэзіі. Максім Танк тады пакінуў ужо рэдакцыю часопіса, узначаліўшы Саюз пісьменнікаў Беларусі. Так што цяпер ужо ён прыносіў да мяне свае вершы, і я з прыемнасцю рыхтаваў іх да друку.

Звычайна Максім Танк прыходзіў з імі ў рэдакцыю так, каб мы паспелі іх здаць у вераснёўскі нумар: гэтымі вершамі ён як бы адзначаў дзень свайго нараджэння (нарадзіўся ён 17 верасня 1912 года).

Усе мы, “палымянцы”, рады былі вітаць Максіма Танка ў сябе. Заходзячы ў рэдакцыю (цяпер яна мясцілася ўжо на вуліцы Захарава, каля плошчы Перамогі), ён садзіўся на крэсле пры сцяне, даставаў (здаецца, з кішэні пінжака) стос сваіх вершаў і перад тым, як аддаваць іх мне, чытаў адзін за адным усім, хто быў у рэдакцыі. Мы з цікавасцю слухалі новыя творы нашага паважанага паэта. І шчыра ўхвалялі іх. Не маглі не ўхваляць, бо ў яго я не бачыў нейкіх “прахадных”, тым болей слабых вершаў. У кожным з іх была нейкая свая цікавая думка, свае вельмі жыццёвыя вобразы.

Калі я потым уважліва перачытваў іх і нешта патрабавалася ўдакладніць, нешта (а такое было вельмі рэдка) паправіць у ягоных вершах, я прыходзіў да Яўгена Іванавіча ў Саюз пісьменнікаў (у Доме літаратара), або, дамовіўшыся, прыязджаў да яго дадому на вуліцу Кульман, у зялёны выгінасты шматпавярховік, празваны людзьмі “далярам”, дзе ён жыў удваіх з жонкай, якую ласкава называў Любашай. Вельмі прыемныя былі гэта для мяне сустрэчы. Гаспадар цікава расказваў пра нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі, пра яго дзеячоў, прыкладам, пра Радаслава Астроўскага, якога ацэньваў вельмі негатыўна.

Назаўсёды застанецца ў мяне ў памяці і наведанне Максіма Танка ў дзень яго 80-годдзя. Павіншаваць народнага паэта з юбілеем ад часопіса “Полымя” мы прыйшлі ўтрох: галоўны рэдактар Сяргей Законнікаў, рэдактар аддзела крытыкі Анатоль Клышка і я, рэдактар аддзела паэзіі. Мы сядзелі за асобна накрытым сталом з гаспадаром хаты і гаманілі. Яўген Іванавіч быў у добрым гуморы і проста сыпаў

сваімі дасціпнымі жартамі і нават анекдотамі, якіх ведаў безліч, у тым ліку даволі "салёных". Звычайна анекдоты ў маёй памяці чамусьці не застаюцца. Запомніўся з той мужчынскай бяседы толькі адзін. Па-мойму, рэдкі. Прывяду яго для "каларыту". "Пажонднае" застолле. Галантны кавалер, што сядзеў з вялікасвецкай дамай, у разгар бяседы прыпадняўся і, папрасіўшы прабачэння, сказаў: "Схаджу паглядзець на зоркі". Калі вярнуўся і сеў на сваё месца, даме якраз паднеслі шклянку чаю. Кавалер тут жа ўзяў з вазачкі кавалачак цукру і кінуў ёй у шклянку. "Пан хадзіў глядзець на зоркі і ўзяў рукой цукар...", – выказала яму заўвагу дама. "А я, – адразу ж знайшоўся кавалер, – глядзеў на зоркі левай рукой".

Недарэмна ж у свой час кіраўнік СССР Мікіта Хрушчоў, калі выправіўся ў Амерыку на сесію ААН, у чарговым застоллі, агледзеўшы ўсю кампанію, запытаўся: "А дзе ж той вясёлы беларус?" І "той вясёлы беларус" Максім Танк, якога, ведама ж, не без пажадання генсека ўключылі ў лік "суправаджаючых", ізноў смяшыў усё прадстаўнічае застолле. Ну а цяпер Яўген Іванавіч нас частаваў сваімі досціпамі. Пэўне ж, тымі, што і Хрушчова.

Апошні раз я прыходзіў да Максіма Танка "здымаць пытанні", здаецца, гады праз два. Ён быў ужо ўдаўцом. Знешне Яўген Іванавіч выглядаў здаровым. Ды, мусіць, толькі знешне. Бо, седзячы за шырокім двухтумбавым сталом, выцягнуў з аднаго яго боку і паказаў мне шуфляду, цалкам запоўненую лекамі, за ёю, з другога боку, яшчэ адну, таксама забітую ўсякімі таблеткамі, парашкамі ды бутэлечкамі.

– Пара мядзведзю ў бярлогу, – неяк зусім спакойна, як пра нешта звычайнае, сказаў ён, засоўваючы назад у стол тыя шуфляды.

І праўда, зусім хутка Максіма Танка не стала. Пахаваць яго адвезлі, як ён і завяшчаў, у Нарачанскі край, у родную Пількаўшчыну. Да бацькоў.

Як каштоўную рэліквію зберагаю я падараваную мне яго, здаецца, апошнюю кнігу вершаў – "Мой каўчэг", выдадзеную ў 1994 годзе. Ён прынёс яе мне ў рэдакцыю "Полымя" з такім надпісам: "Дарагому Кастусю Цвірку на добры ўспамін аб незабыўных сяброўскіх і творчых сустрэчах. Ад усяго сэрца. Максім Танк. Мінск, 27. VII. 1994". (...)

У сваёй творчасці Максім Танк стараўся не выходзіць за рамкі афіцыйнай ідэалогіі, хоць і не быў яе трубадурам. Спакойна выгаварваў усё, што было на душы. І крытыкаваць ("біць") яго асабліва не было за што. Толькі адной публікацыяй выклікаў ён на сябе агонь афіцыйнай (зрэшты, іншай у савецкія часы і быць не магло) крытыкі. Шуму было тады вельмі многа ў прэсе. А ўсё толькі за пераклад Максімам Танкам верша прызнанага ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюры "Любі Украіну". Як жа ж – любіць сваю Украіну (ці Беларусь), а не нашу савецкую радзіму СССР? Ды гэта ж – самы сапраўдны нацыяналізм! А з ім, з нацыяналізмам, з усякай нацдэмаўшчынай вялася тады бязлітасная вайна.

"Лета к суровой прозе клонят" – гэтыя пушкінскія словы не пра Танка. І паважныя гады не схілілі яго да прозы, калі не лічыць дзённікавых запісаў. Да самага апошняга ўздыху ён быў верны сваёй паэтычнай музе, і яго прыхільнікі заўсёды чакалі новых кніг паэта, якія выходзілі адна за адной з невялікімі перапынкамі. Прытым прываблівалі яны чытача нават сваімі назвамі, якія ўмеў знаходзіць Максім Танк, арыгінальнымі, не збітымі, яркімі – "На камні, жалезе і золаце", "След бліскавіцы", "Мой хлеб надзённы", "Глыток вады", "Дарога, закалыханая жытам", "Паслухайце, вясна ідзе", "Мой каўчэг".

Чытаць паэзію Максіма Танка – гэта наталенне смагі. Вельмі люба было некалі і слухаць Яўгена Іванавіча з трыбуны на самых розных форумах, найбольш у Саюзе пісьменнікаў, якім ён доўгі час кіраваў. Не толькі вершы, але і любую прамову ці справаздачны даклад ён заўсёды прамаўляў з узнёсласцю, нават рытмічна. Бо жыў паэзіяй.

*2015, 2016*

Станіслаў Рудовіч



...паводле Бядулі, валадарства бальшавікоў – гэта бесшабашны разгул страшнай ведзьмы Сваволі...

# “Устань, пакрыўджаны народ!”

## *Палітычная публіцыстыка Змітрака Бядулі 1917 – 1920 гг.*

Перыяд рэвалюцыйных катаклізмаў і самаахвярных спроб адбудовы беларускай дзяржаўнасці (1917 – 1920 гг.) у біяграфіі Змітрака Бядулі ўсё яшчэ выглядае “белай плямай”. Пісьменнік займаў у тыя гады ярка выяўленую вольналюбівую, дэмакратычную, а, значыць, антыбальшавіцкую пазіцыю. Зразумела, што савецкія даследчыкі яго жыцця і творчасці не мелі магчымасці адкрыта яе характарызаваць. Таксама не маглі ў зборах твораў З. Бядулі савецкага часу быць надрукаванымі яго шматлікія публіцыстычныя артыкулы рэвалюцыйнай пары. І да сённяшняга дня багатая публіцыстычная спадчына пісьменніка 1917 – 1920 гг. не сабрана, не сістэматызавана і застаецца амаль невядомай сучаснаму чытачу. Толькі асобныя артыкулы Бядулі адзначанага перыяду былі змешчаны ў зборніку яго выбраных твораў, выдадзеным у 2006 г. у серыі “Беларускі кнігазбор”. Яшчэ раней, у 2001 г., літаратуразнаўца З. Мельнікава на падставе сваіх знаходак у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ўвяла ў сучасны літаратурны ўжытак шэраг публіцыстычных артыкулаў пісьменніка 1917 –

1920 гг.[1] Усё гэта, аднак, ахоплівае толькі частку публіцыстычнай спадчыны З. Бядулі.

Прапануючы чытачам “Дзеяслова” яшчэ адну невялікую падборку палітычнай публіцыстыкі З. Бядулі перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, спынімся на некаторых малавядомых эпізодах яго біяграфіі, якія дадаюць новыя штрыхі да характарыстыкі яго грамадска-палітычнай пазіцыі ў той час.


*Змітрок БЯДУЛЯ.*

Як і большасць тагачасных інтэлігентаў прагрэсіўных перакананняў, З. Бядуля з энтузіязмам сустрэў падзенне ў лютым – сакавіку 1917 г. расійскага царызму. Лютаўская рэвалюцыя не толькі змяла ненавісны аўтарытарны рэжым самаўладдзя, але і адмысловым актам сцвердзіла нацыянальнае раўнапраўе, у тым ліку выбавіла ад дыскрымінацыі родны пісьменніку габрэйскі народ. Новыя перспектывы адкрываліся ў ходзе рэвалюцыі і перад беларусамі, справе нацыянальнага адраджэння якіх ахвяраваў З. Бядуля свой літаратурны талент і грамадзянскі тэмперамент.

Праўда, як засведчыла ва ўспамінах Зоська Верас, Бядуля не вызначаўся вялікай актыўнасцю ў грамадскіх справах, падчас розных публічных акцый ён стараўся заставацца ў цяні[2]. Найважнейшым сваім рэсурсам, магутным інструментам уздзеяння на навакольны свет З. Бядуля лічыў не тыя ці іншыя ўчынкі, а пісьменніцкае слова. Ён быў найперш майстрам слова, мысляром, вестуном.

І ўсё ж, думаецца, не варта ўспрымаць меркаванне З. Верас аб грамадзянскай пасіўнасці Бядулі занадта літаральна. Яго тэксты, якія дайшлі да нашых дзён, сведчаць аб добрай абазнанасці аўтара ў тагачасных грамадска-палітычных рэаліях і наяўнасці выразнай грамадзянскай пазіцыі, што было б немагчыма, калі б ён заставаўся толькі кабінетным творцам.

З. Бядуля належаў да мінскага кола беларускіх адраджэнцаў, якое гуртавалася спачатку вакол мясцовага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, затым – вакол Беларускага нацыянальнага камітэта, выбранага ў сакавіку 1917 г. з’ездам беларускіх нацыянальных арганізацый. Аб дачыненні пісьменніка да дзейнасці БНК сведчыў, у прыватнасці, напісаны ім вялікі нарыс (каля 30 стар. рукапісу) пад назвай “З’езд сялян. (Мае ўражанні)” – пра скліканы Беларускім камітэтам у красавіку 1917 г. у Мінску краёвы сялянскі з’езд. З дакладнасцю відавочцы аўтар перадаваў атмасферу з’езда, ход абмеркавання вынесеных на яго пытанняў, цытаваў прынятыя з’ездам рэзалюцыі. Пісьменнік выяўляе шчырае спачуванне беларускаму сялянству ў яго праблемах і клопатах, найперш у пытанні аб зямлі, але поруч з гэтым адзначае, што будучыня вёскі – не толькі ў сацыяльна-эканамічных пераўтварэннях, але і ва ўздыме культуры селяніна, узрастанні яго нацыянальнай самасвядомасці, бо толькі дзякуючы гэтаму беларусы змогуць заняць годнае месца ў сям’і народаў.*

* Рукапіс (аўтограф) З. Бядулі “З’езд сялян. Мае ўражанні” захоўваўся ў аддзеле гісторыі тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. На вялікі жаль, бясцэнная рэліквія класіка беларускай літаратуры і каштоўная гістарычная крыніца незваротна страчана. Аўтар гэтых радкоў яшчэ ў 1980-х гадах, калі амаль недаступнай была памнажальная тэхніка, скапіраваў названы дакумент З. Бядулі ад рукі, але не ўвесь – бо не дапускаў і думкі, што ў акадэмічным інстытуце гуманітарнага профілю магчымыя такія адносіны да культурнай спадчыны.

З пачаткам выдання ў маі 1917 г. Беларускім нацыянальным камітэтам газеты “Вольная Беларусь” З. Бядуля становіцца сталым аўтарам перыёдыка. Ключавая ідэя, якая чырвонай ніткай праходзіць праз яго публікацыі гэтага часу, – аб неабходнасці пашырэння нацыянальнай самасвядомасці, фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. З. Бядуля быў прадстаўніком той генерацыі беларускіх адраджэнцаў, якія следам за Ф. Багушэвічам лічылі найважнейшым элементам нацыянальнай ідэнтычнасці родную мову, традыцыйную этнічную культуру. У першым нумары “Вольнай Беларусі” за 28 мая 1917 г. ён змяшчае своеасаблівы маніфест-памятку свядомага беларуса “Дзесяць прыказанняў для памяці”, дзе ўсхвалявана пераконвае суайчыннікаў размаўляць, маліцца Богу, навучаць дзяцей, развіваць свой розум на беларускай мове – “роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх”. Родная мова з’яўляецца фундаментам самабытнай нацыянальнай культуры – таго скарбу, памнажэннем якога беларусы змогуць узняць сябе на больш высокі гістарычны ўзровень і зрабіць свой непаўторны ўнёсак у суквецце культуры агульначалавечай[3].

Улетку 1917 г. мы бачым З. Бядулю сярод групы беларускіх інтэлігентаў (Я. Сушынскі, А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Ф. Стульба), якія зрабілі спробу заснаваць новую нацыянальную партыю – Беларускую народную партыю сацыялістаў. У адрозненне ад дамінуючай у адраджэнцкім руху Беларускай сацыялістычнай грамады, якая ў сваёй аграрнай праграме зусім выключала прыватную ўласнасць на зямлю (што адштурхоўвала ад беларускай справы заможных людзей), БНПС абвясціла аб дапушчальнасці сялянскай зямельнай уласнасці, а таксама аб магчымасці адчужэння часткі памешчыцкіх зямель за выкуп, а не толькі шляхам бязвыплатнай канфіскацыі[4]. Як адзін з заснавальнікаў БНПС, З. Бядуля, безумоўна, падзяляў такі погляд на аграрную рэформу, а, магчыма, быў і сааўтарам адпаведных праграмных палажэнняў. БНПС, заявіўшы пра сябе некалькімі грамадскімі акцыямі, не здолела, аднак, выйсці з арганізацыйнай стадыі развіцця і да пачатку 1918 г. знікла з палітычнай арэны; на гэтым спынілася і “партыйная кар’ера” З. Бядулі.

Тым часам дэмакратычная эйфарыя першых месяцаў рэвалюцыі саступала месца расчараванням і трывозе. Працягваючы ўдзел Расіі ў Першай сусветнай вайне, Часовы ўрад не змог ажыццявіць наспелыя рэформы, што вяло да росту рэвалюцыйнай нецярплівасці і сацыяльных антаганізмаў. Спрытна скарыстаўшыся сітуацыяй, уладу ў кастрычніку 1917 г. захапіла бальшавіцкая партыя. Разгарнулася стыхійная дэмабілізацыя расійскіх войск, скопішчы якіх размяшчаліся і на тэрыторыі Беларусі. Змучаныя шматгадовай вайной, паўгалодныя, салдаты самавольна пакідалі фронт і ўзброенымі натоўпамі разыходзіліся па прылеглых тэрыторыях, займаючыся грабежніцтвам і тэрарызуючы мясцовае насельніцтва. Адзінай абаронай ад гэтай навалы і ад падзелу Беларусі паміж іншымі дзяржавамі магло стаць толькі ўласнае войска. Дзеля яго арганізацыі восенню 1917 г. была заснавана Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада ў Мінску і сетка беларускіх вайсковых арганізацый ва ўсёй расійскай арміі. З. Бядуля рашуча падтрымлівае намаганні па стварэнню нацыянальных узброеных сіл. Ён звяртаецца з гарачым заклікам да беларусаў, мабілізаваных у свой час на франты Першай сусветнай вайны, фарміраваць нацыянальныя палкі і вяртацца на Бацькаўшчыну, каб бараніць яе “ад загібелі”. (“Пара бараніцца”; снежань 1917 г.). Ад гэтага моманту пісьменнік неаднаразова будзе выступаць за стварэнне беларускай арміі як найважнейшага атрыбута нацыянальнай дзяржаўнасці, гаранта будучай незалежнасці Беларусі.

Этапнай падзеяй на шляху беларусаў да ўласнай дзяржаўнасці стаў Усебеларускі з’езд, скліканы ў Мінску ў снежні 1917 г. Каля дзвюх тысяч дэлегатаў рэпрэзентавалі ўсё тагачаснае беларускае грамадства. Не кожнаму вядома, што сярод дэлегатаў з’езда быў і пісьменнік З. Бядуля. Пра гэта сведчаць два яго матэрыялы, змешчаныя ў газеце

“Вольная Беларусь” за 15 снежня 1917 г.: карэспандэнцыя “Каля Усебеларускага з’езду”[5] і артыкул “Свята на Беларусі. (Адчыненне Усебеларускага з’езду)”[6]. У гэтых тэкстах прыведзена падрабязнае і дакладнае (што пацвярджаецца іншымі крыніцамі) апісанне цырымоніі адкрыцця з’езду 7 снежня 1917 г., перадаецца ўзнёслая атмасфера гэтай неардынарнай падзеі, знешні выгляд дэлегатаў і г.д. Скліканне з’езду ва ўспрыманні З. Бядулі – гэта абуджэнне беларускага народа-волата ад шматвяковага сну, выбаўленне яго з-пад духоўнай няволі – асіміляцыі, пачатак будаўніцтва беларусамі свайго ўласнага нацыянальнага жытла. Пісьменнік ускладаў на з’езд вялікія надзеі, але ім не суджана было збыцца: усенародны беларускі форум быў разагнаны ўзброенымі салдатамі па загаду Савета народных камісараў Заходняй вобласці і фронту.

Сілавы разгон Усебеларускага з’езду, як і іншыя гвалтоўныя акцыі бальшавікоў у першыя тыдні і месяцы іх панавання, пісьменнік успрыняў з глыбокім засмучэннем і гневам. У вершы “Плач Волі” (датаваны 30 снежня 1917 г.) Бядуля расцэньвае безразважную згоду народа на ўсталяванне бальшавіцкай дыктатуры як здраду ідэалам Волі, выпакутаванай многімі пакаленнямі змагароў, як праяву народнай цемнаты і недальнабачнай грамадзянскай абыякавасці[7]. У тыя ж дні (31 снежня 1917 г.) ён друкуе вострую сатыру на бальшавіцкую палітыку – кароткі фельетон “Перад новым годам”. Бальшавікі (яны фігуруюць пад мянушкай “бэкі” – ад скарачэння “б-кі”) выведзены ў творы як служкі князя пекла – Люцыпара. “Бэкі” задушылі свабоду слова і друку. Прыкрываючыся лозунгам “самавызначэння нацый”, яны арыштоўваюць Рады і з’езды цэлых народаў, рэкамі разліваюць кроў па вуліцах. Пісьменнік абвінавачвае бальшавікоў у гвалце падчас выбараў ва Усерасійскі Устаноўчы сход, фальсіфікацыі на сваю карысць вынікаў галасавання, выкрывае іх намеры разагнаць выбранае народам прадстаўніцтва. Паводле З. Бядулі, валадарства бальшавікоў – гэта бесшабашны разгул страшнай ведзьмы Сваволі, вобраз якой увасабляе ўладнае самадурства, тыранію і выступае антыподам у чарговы раз палоненай, закутай у ланцугі Волі.

Як бачым, пісьменнік не хаваецца ад суровай рэчаіснасці ў сферу “чыстага мастацтва”, не замыкаецца ў эстэтычных праблемах, а адкрыта і смела выказваецца на злабадзённыя і вострыя тэмы.

Будучы прыхільнікам нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння Беларусі, З. Бядуля не мог не вітаць абвяшчэння ў сакавіку 1918 г. – пасля ўцёкаў бальшавікоў ад наступаючых германцаў – Беларускай Народнай Рэспублікі. Гістарычнае значэнне акта незалежнасці 25 сакавіка 1918 г. бачылася пісьменніку ў тым, што ён даваў падставы для перагляду замацаванага Берасцейскім мірным дагаворам падзелу Беларусі паміж некалькімі дзяржавамі і мусіў у далейшым ускладніць рэалізацыю прэтэнзій суседніх краін на беларускую тэрыторыю[8]. У вершы “Беларуская зямля” (надрукаваны ў маі 1918 г.) З. Бядуля ў алегарычнай форме заклікае беларусаў падтрымаць крокі сваіх лідараў па адбудаванні нацыянальнай дзяржаўнасці, стаць руплівымі гаспадарамі ва ўласнай краіне:

Сыноў гукае, кліча сход
Маць-Беларуская зямля:
– Устань, пакрыўджаны народ,
Ідзі на родныя паля!..[9]

Разам з тым рэакцыя З. Бядулі на абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі выглядала некалькі стрыманай. Гэта магло тлумачыцца тым, што ля вытокаў БНР стаялі дзеячы Беларускай сацыялістычнай грамады і іншых левых партый, якія ўтварыліся пасля распаду БСГ. А Бядуля, як паказана вышэй, прытрымліваўся больш памяркоўных поглядаў. Таму, верагодна, ён злёгку дыстанцыраваўся ад дзейнасці кіруючых структур БНР – Рады і Народнага Сакратарыяту. Затое

пісьменнік актыўна супрацоўнічаў у 1918 г. з газетай “Беларускі шлях” – фактычным органам Мінскага беларускага прадстаўніцтва (Беларускага народнага прадстаўніцтва) на чале з Раманам Скірмунтам, якое гуртавала беларускія групы больш правай арыентацыі і пазіцыяніравала сябе як мяккую апазіцыю леваму цэнтру ў асобе органаў БНР. Тым не менш абодва цэнтры аб’ядноўвала агульная стратэгічная мэта – дасягненне рэальнай незалежнасці Беларусі. Гэта дазволіла чальцам Мінскага беларускага прадстаўніцтва ўвайсці ў красавіку 1918 г. у склад Рады БНР, а Р. Скірмунту – у ліпені ўзначаліць Народны Сакратарыят Беларусі. Як і Скірмунт, З. Бядуля лічыў неабходным фарміраванне ўрада БНР на кааліцыйнай аснове. У сваіх артыкулах у “Беларускім шляху” за 20 і 21 чэрвеня 1918 г. (“Звязь з правінцыяй”, “Творчая праца”) публіцыст даводзіў, што дзейнасць цэнтральнага органа дзяржавы толькі тады дасягае поспеху, калі ён складаецца з “прадстаўнікоў розных станаў народу”, калі гэтыя выбраныя людзі “кааліцыйна працуюць”, захопленыя “шчырым закаханнем” да сваёй Бацькаўшчыны.

Беларуская Народная Рэспубліка, не атрымаўшы знешняга прызнання і дастатковай падтрымкі “знізу”, не змагла адстаяць сваю незалежнасць. У канцы 1918 – пачатку 1919 гг. тэрыторыя БНР была занята Чырвонай арміяй.

Ацэньваючы палітыку бальшавікоў падчас іх паўторнага гаспадарання ў Беларусі скрозь прызму іх адносін да беларускага адраджэння, З. Бядуля не стрымліваў эмоцый. Публіцыст сурова кляйміў “бальшавіцкіх жандармаў” за знявагу нацыянальных пачуццяў беларускага народа, за рэпрэсіі супраць адраджэнцаў, рабаванні і здзек з беларускіх сялян, удушэнне асяродкаў нацыянальнай культуры і г.д. “Пад маскай бальшавізму, – рабіў выснову пісьменнік, – тварылася на нашай зямлі вялікарасійская справа”[10].

Улетку 1919 г. пад націскам войск Ю. Пілсудскага Чырвоная армія адыйшла за р. Бярэзіну, і большая частка Беларусі апынулася пад польскай акупацыяй. Канчатковай мэтай новых уладаў, безумоўна, з’яўлялася далучэнне ў той ці іншай форме беларускіх земляў да Польшчы. Але палякі ў сваёй палітыцы на “крэсах” карысталіся ўсё ж больш гнуткімі метадамі, дапускалі шэраг тактычных саступак у беларускім пытанні. У гэтых умовах пэўная частка беларускай інтэлігенцыі лічыла немэтазгодным ісці на адкрытую канфрантацыю з акупацыйнымі ўладамі і намагалася выкарыстаць існуючыя, хоць і абмежаваныя, магчымасці для правядзення культурна-асветнай працы сярод насельніцтва.

Такую пазіцыю займаў і З. Бядуля. У 1919 – 1920 гг. ён актыўна публікуецца на старонках газет “Беларуская думка”, “Звон”, “Беларускае жыццё”, “Беларусь”, дзе змяшчае цэлую серыю публіцыстычных артыкулаў на злабадзённыя тэмы. Найважнейшай сярод іх застаецца тэма асветніцтва народа, нарошчвання культурнага патэнцыялу беларускай нацыі. Публіцыст звяртаецца да розных катэгорый адукаванай часткі насельніцтва Беларусі (настаўнікаў[11], студэнцтва[12], габрэйскай супольнасці Беларусі[13]) з гарачымі заклікамі накіраваць свае веды і энергію на службу Бацькаўшчыне.

Восенню 1919 г. беларускія нацыянальныя колы былі ўстрывожаны намерамі польскага кіраўніцтва правесці на “крэсах” плебісцыт (усенароднае галасаванне) па пытанню аб далучэнні беларускіх зямель да Польшчы. З. Бядуля адгукнуўся на гэта артыкулам “Права дужага” (кастрычнік 1919 г.). У ім публіцыст наглядна паказвае каварнасць такой формы “народнага волевыяўлення”. Пры ўсёй знешняй дэмакратычнасці плебісцыт пакідае арганізатарам вялікія магчымасці для маніпулявання народнай воляй. Беларускі народ, які цягам стагоддзяў знаходзіўся ў паняволеным стане, зведаў паланізацыю і русіфікацыю, за гады рэвалюцыі перажыў разруху і голад, – не падрыхтаваны да выказвання сваіх сапраўдных інтарэсаў. “Наш селянін, – канстатуе аўтар, – не адпавядае за падачу свайго голасу, як непаўналетні. Голас селяніна можна купіць за кавалак сала і фунт солі

– гэта ўсім вядома". Таму спачатку, – заключае З. Бядуля, – "нам трэба ўтварыць сваё войска, без усялякіх перашкод тварыць сваю культурную працу, асвядоміць народ, адкрыць яму вочы, а потым, папраўдзе, як вольны з вольным, як роўны з роўным, як дужы з дужым, можна будзе прыступіць да розных плебісцытаў"[14].

Тым часам 22 кастрычніка 1919 г. Ю. Пілсудскі, каб стварыць бачнасць падтрымкі Польшчай дзяржаватворчых імкненняў беларусаў, выдаў дэкрэт аб дазволе фарміравання ў складзе польскага войска беларускіх узброеных адзінак і зацвердзіў дзеля гэтай мэты спецыяльны орган – Беларускую вайсковую камісію. Такі паказны крок выклікаў у часткі беларускай грамадскасці пэўны аптымізм. Чарговы, як здавалася, шанец нараджэння беларускай узброенай сілы ненадоўга захапіў і З. Бядулю. Пры гэтым ён бачыў прызначэнне будучага войска не толькі ў абароне краю, але і ў нацыянальным выхаванні народа. У артыкуле "Нацыянальнае асведамленне" (снежань 1919 г.) пісьменнік разглядае беларускае войска як найвышэйшую праяву нацыянальнага адраджэння. Разам з беларускім войскам з'явіцца масавая нацыянальная свядомасць. Тое, што не дакончылі пры сіле духоўнай, – абвяшчае пісьменнік, – зробіць сіла фізічная – Беларускае войска: "Што пачало беларускае слова, павінен рабіць далей беларускі меч"[15].

Імкнучыся ў меру сваіх сіл спрыяць фарміраванню беларускага войска і яго нацыянальнаму выхаванню, З. Бядуля піша шэраг паэтычных твораў у жанры "жаўнерскай песні", а таксама складае памятку "Дзесяць прыказанняў для беларускага жаўнера". Апошняе з гэтых "прыказанняў" гучыць так: "Кожны беларускі ваяка, ад звычайнага радавога да генерала, павінен памятаць, што ён – *абаронца незалежнай Беларусі*, адзін з найлепшых грамадзян роднай зямлі і займае самае пачэснае месца ў грамадзянстве"[16].

Між тым польскія ўлады, дэманстратыўна дазволіўшы фарміраванне беларускіх частак, на справе не жадалі стварэння ўзброеных адзінак, якія б надалі беларускай дзяржаўнасці рэальную сілу, таму фактычна тармазілі гэту справу. У ліпені 1920 г., пры эвакуацыі польскіх войск з Мінска ў сувязі з наступленнем Чырвонай арміі, БВК фактычна распалася. Разам з гэтым развеяліся надзеі на фарміраванне нацыянальнага войска, а значыць – і на пабудову паўнавартаснай беларускай дзяржавы.

Чарговае ўсталяванне летам 1920 г. ва ўсходняй частцы Беларусі савецкай улады – гэтым разам на многія дзесяцігоддзі – прымусіла З. Бядулю радыкальна "змяніць вехі". У жыцці таленавітага майстра слова пачаўся змрочны перыяд, які В. Каваленка трапна назваў самаразбурэннем, калі "сацыяльныя змены, катастрафічныя зрухі ў жыцці краіны ў многім скалечылі яго творчы лёс, зрабілі яго адэптам сістэмы, якую пісьменнік доўгі час не мог прыняць па сацыяльных і этычных меркаваннях. У гэтым віна і трагедыя Бядулі, ад якіх ён пакутаваў, як пакутавалі тады ўсе мыслячыя людзі"[17]. Але гэта ўжо іншая гісторыя...

На заканчэнне адзначым, што палітычная публіцыстыка З. Бядулі 1917 – 1920 гг. – не толькі яркая старонка яго творчай біяграфіі, але і важкі здабытак беларускай грамадска-палітычнай думкі ў цэлым. І сёння, калі беларусы маюць, нарэшце, рэальную магчымасць самастойна ўладкоўваць сваё жыццё ва ўласнай дзяржаве, важна не растраціць марна ні адной крупінкі гістарычнага вопыту, рупліва сабранага нашымі выдатнымі папярэднікамі.

## Змітрок БЯДУЛЯ

### Пара бараніцца

Шалёны віхор паўстання разрастаецца і расшыраецца. Яго дзікае полымя ахоплівае сваімі буйнымі хвалямі ўсё большыя масы людзей. Пайшоў буяніць і разгуліваць звер. Той звер, каторы ў звычайным часе сядзіць глыбока захаваны

ў чалавечай душы, а ў часе смут і сваволля зрываецца з ланцугоў сумлення, сораму і страху.

Рабуюць і паляць маёнткі, мястэчкі і вёскі. Абдзіраюць адзін другога. Рэжуць, б'юць, нішчаць здабыткі людскія, і – ратунку няма. Гэты шалёны віхор разгульвае цяпер у нашым краі. Гурт дзікіх людзей-ваўкоў, уходзячы ад фронту, рыскае па нашай зямлі і нішчыць, глуміць усё на пуці сваім, астаўляючы за сабою плач, стогны, голад, холад і руіны.

Што далей будзе, што нас чакае пад вясну, пасля гэтых рабункаў, – страшна падумаць. Голад давядзе людзей да таго, што брат на брата пойдзе, сын на бацьку рынецца, у літэрным значэнні гэтых слоў.

Нібы цёмная лавіна атруты, гэта пугачоўшчына шырэй і шырэй абхоплівае наш абяздолены край і прэтварае яго ў адны папялішчы.

Чужынцы абгрызуць нас. А як ужо тут нічога не астанецца, чым пажывіцца, пойдуць адгэтуль кожны да сваёй хаты, далёка ад фронту, у свой ціхі, спакойны і цёплы кут. А мы астанемся без нічога.

Як змагацца з гэтым? Як ратаваць сваё дабро, здабытае дзесяткамі гадоў крывавай працы?

Ад расійскай уласці чакаць ратунку няма чаго. Як тыя лялечкі батлеечныя, паказваецца яна з адных дзвярэй і выходзіць праз другія, і рознаколерныя фігуркі штохвіліну мяняюцца і нічым памагчы не могуць. Як тыя госці да хворай цёткі, прыходзяць яны, паківаюць галовамі ў знак свайго бяссілля і ... выходзяць.

А шалёны віхор бушуе, разгульвае вольна, нахальна і разводзіць свае гідасці направа і налева.

Браты, беларусы! ні ад кога мы дапамогі чакаць не можам, а толькі самі павінны сябе бараніць – бараніць сваіх дзяцей і старых ад галоднай смерці, ад пэўнай разрухі.

Мы самі за сябе павінны стаяць! Дык вось дзеля гэтага самага Беларуская Вайсковая Рада ў Мінску арганізуе беларускае войска, фарміруе беларускія палкі, каб абараніць свой край, сваіх бацькоў і дзяцей, сваё дабро.

Воіны-беларусы, змучаныя, абяздоленыя за ўвесь час вялікай вайны! На вас ляжыць вялікі абавязак, самы законны і справядлівы абавязак кожнага чалавека – бараніць самаго сябе.

Каб вы мелі да каго і да чаго вярнуцца пасля вайны, каб цёмныя сілы не зруйнавалі дашчэнту вашу бацькаўшчыну-Беларусь, запісвайцеся цяперака ў беларускае войска!

Дзе б вы ні былі, на ўсіх франтах, вымагайцеся, каб вас фарміравалі ў аддзельныя часці і напраўлялі ў свой край да родных межаў. Бараніце сябе ад бясстыдных, цёмных людзей-звяроў!

Гэтыя подлыя трусы-скоты пабаяцца аднаго вашага з'яўлення, і вам не прыйдзецца ўжываць сілы.

Запісвайцеся ў беларускае войска і бараніце свой родны край ад загібелі!

***З. Бядуля***

Вольная Беларусь. 1917. № 33. 8 снежня.

## Перад новым годам

*Кароткі фельетон*

Канцылярыя ў пекле. Ляскаюць шчоты. Скрыпяць пер'і. Чарцюгі рыюцца ў розных пузатых кнігах. Дапісваюць і адпісваюць. Адпісваюць і дапісваюць.

Пад загадам самога князя пекла Люцыпара яны робяць падрахункі сваім дзеям за 1917 год і рыхтуюць праекты на 1918 год.

Але раптам, у самым разгары работы, убягаець лёкай чорт Азазэль і кажа, што сама пані Сваволя прыйшла з дакладам.

– Просімо, просімо! – прыемным басам, па-джэнтльменску кажа Люцыпар, – з ахвотаю паслухаем таварыша Сваволю. Мы чакаемо.

І Люцыпар галантна пакруціў хвастом.

Увайшла і пакланілася страшная ведзьма Сваволя. Гарбатая, з доўгім сінім носам, з чырвонымі вачыма, з доўгімі касцістымі рукамі, з пазурамі вострымі на пальцах, уся ў гідкіх анучах – яна не вельмі вабіла вока. Самы заядлы Бэк і то словам “буржуйка” не адважыўся б яе сароміць.

Але ў пекле яна была самай зычлівай цёткай-кумою.

– Не бойцеся, не палохайцеся, – кажа яна гідкім, замагільным голасам, – я сваю справу ўладзіла так, як і лепей не трэба. Няма ўжо Волі на свеце! Яна сядзіць у мяне, як сучка, на ланцугу. Рот анучамі заткнуты, каб і не піскнула нават. Я, Сваволя, паную цяпер, як і панавала даўней.

– Брава, таварыш, брава! – крычаць чэрці з усіх бакоў на розныя галасы, на розныя лады.

– Калі Воля пачала рухацца, – кажа далей Сваволя, – я троху занепакоілася. Яна, Воля, вырвалася неўспадзеўкі з маіх ланцугоў і задумала парадкі рабіць. Але я хутка яе цапнула ў свае лапы, і ўся яе справа пайшла шурам-бурам. І я заварыла людзям такую кашу, што выйшла цэлае Вавілонскае стоўпатварэнне. Я пачала пампаваць натоўпы людзей рознымі ідэямі. Людзі не могуць іх пераварыць і пачынаюць рыгаць імі направа і налева, як тыя свінні перакормленыя.

Пры гэтых словах чэрці лопаюцца, апладзіруючы, і высоўваюць доўгія языкі з змяінымі джаламі.

– Я напускаю далей зялёнага змія, – кажа далей Сваволя хрыплым голасам, – людзі напіваюцца і паміраюць пры бочках, топяцца ў гарэлцы, грабуюць, паляць усё і забіваюць брат брата. Чуць угледзяць чалавека не п’янога, спакойнага, у чыстых, людскіх вопратках – адразу мая гарачая хэўра крычыць на яго “буржуй!” і раздзірае яго на кавалкі.

Чэрці круцяць хвастамі і глушаць пекла воплескамі.

– Я людзям паказала, што такое Воля. І яны цяпер – звар’яцелыя, непрытомныя, дзікія – тузгаюць адзін аднаго, пытлююць, аж люба глядзець!

Чэрці радасна падкідваюць Сваволю на тры вярсты ў гору. Люцыпар з ёю цалуецца і пытае:

– А каго ты там, таварыш, пакуль што на сваім месцы аставіла?

– Хі-хі-хі! – кажа Сваволя, – Бэкаў!

– А чым яны сябе зарэкамендавалі? – зацікавіўся Люцыпар.

– Усім, тав[арыш] Глаўкапекл, усім! – кажа Сваволя. – Лічы па пальцах: няволя слова, няволя друку, “самавызначэнне народаў”. Хі-хі, “вызначаюць” украінцаў і беларусаў; і арыштоўваюць цэлыя Рады, з’езды цэлых народаў і рэкамі разліваюць кроў па вуліцах. І льецца людская кроў разам з гарэлкай, хі-хі! Іхняе пекла лепшае за тваё, таварыш Глаўкапекл!

– Яны, – кажа далей Сваволя, – уціскалі народ раней і цяпер. Яны штыкамі правялі свабоднае галасаванне ва Устаноўчы сойм і рознымі фальшамі і гвалтаваннем праводзілі свае бэкаўскія спіскі. А калі ўсё ж такі аказаліся выбранымі народам і іншыя людзі, дык яны стараюцца разганяць Устаноўчы сойм, хі-хі! Яны руйнуюць гарады, паляць вёскі і нішчаць усё багацце сваім дэкрэтамі.

– Хай жывуць бэкаўскія дэкрэты! – гаркнула ўсё пекла.

Раптам уляцеў лёкай Азазэль з радыётэлеграмай і дае Люцыпару. Люцыпар чытае:

“Ад Глаўкаверха да Глаўкапекла!

На Украіне льецца кроў. Разганяюць прыкладамі і штыхамі беларускія сялянскія з’езды. Мае п’яныя Крывашэіны паказваюць добрым людзям Волю ў астрогах. Троцкі мае выдаць дэкрэт аб новых гільятынах для людскіх галоў”.

Чэрці выюць і рагочуць з радасці, а Люцыпар дыктуе свайму сакратару радыётэлеграму:

“Ад Глаўкапекла – Глаўкаверху.

Дзякую за шчырую службу. Вы – Бэкі – мае найлепшыя таварышы! Абманваеце народ не горш за быўшага самадзержца Мікалая II”.

***З. Бядуля.***

Вольная Беларусь. 1917. № 36. 31 снежня.

## Звязь з правінцыяй

“Калі гара не ідзець да Магамета, то Магамет ідзець да гары”. Калі з прычын браку пошты і нармальнага жалезнадарожнага руху члены Рады БНР не маглі ўладзіць пастаяннай звязі з правінцыяй (з мястэчкамі і вёскамі), то з правінцыі пачалі яўляцца ў Раду з усіх куткоў Беларусі “хадакі”: з Магілёўшчыны, Віцебшчыны, Гомельшчыны, Палесся, Вілейскага павету і розных мейсц. Зусюль прывозяць пастановы аб прызнанні ўласці Народнага сакратарыяту і просьбы наладзіць жыццё. Народ інстынктыўна чуе патрэбу мець звязь з той уласцю, якая выйшла з яго сям’і, – як працяг беларускіх дзеяў Усебеларускага з’езда, на якім было прадстаўнікоў з розных куткоў Беларусі болей 1500 чалавек.

Пасля бальшавіцкага віхорнага наваднення, калі сялянскае жыццё цяпер болей-меней убіраецца ў свае звычайныя рамкі, наступае перыяд адбудавання краю. Гэта самае адбудаванне вымагае напружання арганізаваных сіл па ўсёй нашай зямлі пад кіраўніцтвам цэнтра – Рады БНР.

На першую чаргу працы гэтага наладжвання жыцця відочна чакае беларускі народ ад Рады БНР. Як пачнецца гэта неадкладная работа адбудавання побач з культурнай працай па часці нацыянальных школ і эканамічных прагрэсіўных спраў, тады давер’е беларускага народу да свайго цэнтральнага органа яшчэ болей павялічыцца, і праца пойдзе шпарка і пладавіта.

Гэты пачатак звязі з правінцыяй трэба як-кольвек развіваць у шырокія размеры, трэба знаёміць вялікія масы беларускага народу з нашай нацыянальнай ідэяй, з ідэяй незалежнасці Беларускай дзяржавы, каторая кіруець да паляпшэння дабрабыту па ўсяму краю ў цэлым. Па ўсіх паветах, валасцёх і вёсках трэба, каб на чале стаялі людзі, асвядомленыя болей-меней у беларускіх справах, каторыя спынялі б шкодную работу тых антыбеларускіх агітатараў, якія стараюцца і па сягонняшні дзень шкодзіць беларускаму адраджэнню як мага і чым мага.

І тады толькі, як гэта ўсё будзе наладжана, – цэнтральны орган беларускай дзяржаўнасці зробіцца тым жыватворным цэнтрам, ад якога пойдуць карысныя праменні да ўсяго беларускага народу.

***З. Б.***

Беларускі шлях. 1918. № 71. 20 чэрвеня.

## Творчая праца

Цэнтральны дзяржаўны орган у краю толькі тады адпавядае свайму назначэнню, калі творчую працу яго відаць па ўсяму краю, калі ўвесь народ усюды бачыць карысныя плады гэтай працы. Гэтакая творчая праца выяўляецца толькі тады, калі цэнтральны орган зложаны з прадстаўнікоў розных станаў народу, калі гэтыя выбраныя людзі кааліцыйна працуюць, захопленыя шчырым закаханнем да сваёй Бацькаўшчыны, калі ў іх мэта адна – ва ўсіх праявах сваёй працы служыць на карысць роднаму народу, на паляпшэнне яго долі-дабрабыту.

Не будзем тут рабіць падрахунку працы Рады БНР за ўвесь час акупацыі краю германскімі войскамі да гэтага часу. Няма спрэчкі, што паводлуг магчымасці зроблена шмат, і распланіроўка на далейшую работу намечана досыць шырокая.

Перш-наперш цяпер ідзець падгатоўка для беларускіх школ па ўсяму краю. Асветная камісія працуе вельмі старанна над уладжаннем школьных падручнікаў – ад пачатковых да поўнага курсу сярэдніх школ. Матэрыялы ўжо рыхтуюцца да друку. Што тычыцца беларускага універсітэту, то тут справа ідзець болей туга, але мы пэўны, што і гэта ў хуткім часе наладзіцца.

Потым, па часці гандлёвых зносін з другімі дзяржавамі зроблены добры крок уперад. Паміж Беларуссю і Украінай уладжана targовая палата. Працуюць у гэтым кірунку і аб стварэнні таргоvых зносін Беларусі і з другімі суседнімі дзяржавамі і г.д.

Далей, звязь з правінцыяй таксама ідзець добра, назначаюцца намеснікі Сакратарыяту па розных правінцыяльных местах Беларусі, якія працуюць паводлуг інструкцыі Рады БНР.

Гэтыя ўсе работы яшчэ лепей пойдуць пасля стварэння новага габінету, што дапаручана пану Раману Скірмунту, прыезда з Украіны якога чакаюць гэтымі днямі.

Але вось мы павінны напомніць, што трэба як найхутчэй, не чакаючы, каб Рада БНР паслала сваіх наместнікаў у Оршу, Маскву і другія цэнтры і этапныя пункты, дзе скоплены масы ўцекачоў-беларусаў, якія знаходзяцца там без жаднай апекі пры старанні іх як-кольвек вырвацца з чужыні на родныя папялішчы. Гэта рэч не церпіць ніякіх адкладаў.

***З. Б.***

Беларускі шлях. 1918. № 72. 21 чэрвеня.

## Сучасная вайна і адраджэнне пад'ярэмных народаў у Расіі

Ужо некалькі дзесяткаў гадоў як пад'ярэмныя народы Расіі пачалі змагацца з асіміляцыяй і свядома выяўляць сваё нацыянальнае "я", сваю самабытнасць.

У гэтым кірунку ім сістэматычна перашкаджалі з двух старон: крайне правыя (імперыялісты) і крайне левыя (інтэрнацыяналісты).

– Моц дзяржавы існуе ў цесным і гвалтоўна дысцыплінаваным злучэнні ўсіх народнасцяў, насяляючых імперыю. Дзеля гэтага трэба як найболей звузіць рамкі іх асабістых праяў у якой бы сабе ні было прадуктыўнасці – як культурнай, таксама і эканамічнай. Усё павінна выходзіць з-пад агульнаімперскай маркі.

Гэтак гаварылі імперыялісты.

– Чым меней будзе лік народаў на зямлі, тым бліжэй будзем стаяць да ўсясветнага сацыялізму, і гэтым самым падбліжыцца да жыцця ідэя інтэрнацыяналізму, жыццёвы дабрабыт усіх народаў.

Гэтак гаварылі сацыялісты-інтэрнацыяналісты.

Вось на гэтым пункце крайне праціўныя ў поглядах партыі дзіўна сходзіліся і сходзяцца, разам шкодзячы ў працяг некалькі дзесяткаў гадоў якой бы сабе ні было рвучайся выяўляць у розных формах сваю індывідуальнасць нацыі.

Гэтыя пад'ярэмныя нацыі ў Расіі дзеляцца на славянскія (як украінцы, беларусы, палякі), дзе культуры з пануючай велікарускай нацыяй блізкія і часам нават перамешаныя, і неславянскія (каўказскія народы, крымскія, сібірскія, Фінляндыя, Ліфляндыя, жыды, літвіны і інш.), дзе мовы, культуры і гістарычныя традыцыі вельмі розняцца.

Дзякуючы розным простым (як забароненне школ, друку і г.д.) і пабочным (як розныя эканамічныя забароны і рэпрэсіі, непрыняцце ў розныя дзяржаўныя ўстановы і др. тэндэнцыі "да нярускіх") націскам ад асіміляцыі пацярпелі ўсе народнасці Расіі.

Большы працэнт, разумеецца, у гэтым кірунку падае на вялікарускіх "сваякоў", як Беларусь, Украіну і Польшчу, да каторых расійскі ўрад з тэндэнцыі "крэўнасці" заўсёды адносіўся болей строга як да другіх нацый, дзеля найхутчэйшага зліяння "в русском море".

Разумеецца, што гэтыя жыццёвыя варункі пад такім сістэматычным напорам расійскага, праз меру стараннага, патрыятызму мелі свой уплыў на вышэй памянёныя нацыі. У кожнай вытварыліся дзве партыі – "за" і "проціў" расійскай асіміляцыі. Партыі гэтыя вялі пастаянную барацьбу паміж сабою. Нацыяналісты называлі асімілятараў здрайцамі свайго народу, рабамі чужой волі. Асісімілятары называлі нацыяналістаў адсталымі ад агульначалавечых сацыяльных ідэй шавіністамі.

Але жыццёвая праўда была за лепшымі прадстаўнікамі кожнай з такіх нацый, у каторых нацыяналізм быў не шавіністычна-чарнасоценны, але ідэёвы, дзе выяўленне індывідуальнасці і асобнасці кожнай нацыі лічылася адным з найпатрэбнейшых здабыткаў агульнага чалавецтва, які не толькі не шкодзіць, але, наадварот, памагае сацыяльным ідэям усяго свету.

Гэтая самая чыстая нацыянальная ідэя ярка і значна выбухнула за час цяперашняй вялікай вайны.

Сучасная вайна знамянуе сабою іменна адраджэнне пад'ярэмных малых народнасцей. Воляй лёсу вышла так, што гэтая вайна шмат ім памагла ў напрамку самаістнасці.

Па ўсёй быўшай Расійскай імперыі мы бачым выступленні на арэну дзяржаўнага, незалежнага ад Расіі жыцця кожнага з вышэйпамянёных народаў.

Праўда, пасля перавароту ў Расіі сацыяльныя гуртоўшчыкі розных народаў пад ярлык адзінай вялікай махіны стараліся шкодзіць адраджэнцам галовы свае падняць. Пачынаючы ад Керэнскага і канчаючы бальшавікамі, шмат крыві лілося дзеля гэтага, але жыццё ідзець сваім пуцём, і наперакор розным тормазам малыя народнасці адбудоўваюцца, праца ў іх кіпіць як пасля пажару. Да пачатковай работы далучаюцца розныя палітычныя, эканамічныя і культурныя сілы, і творыцца новае жыццё.

І вось, адраджэнне народнасцей Расіі – самыя лепшыя трафеі сучаснай вялікай вайны.

***Я – р.***

Беларускі шлях. 1918. № 86. 10 ліпеня.

## Да нашага настаўніцтва

У вашых руках знаходзіцца вялікі скарб, будучына нашага народа – дзеці і моладзь. У вашай змозе – стварыць з нашага новага пакалення праўдзівых сыноў сваёй Бацькаўшчыны, каторыя будуць адданы ўсёй душою роднай зямлі, роднаму Народу.

Ад самага пачатку беларускага адраджэння нашыя настаўнікі стаялі на першым месцы, як нашы слаўныя паэты і пісьменнікі Якуб Колас, Я. Лёсік і інш.

Цяперака ў нас ужо ёсць беларускіх школ шмат па ўсяму краю, ёсць вучыцельскія семінарыі, беларускія педагагічныя курсы, беларускія гімназіі і г.д.

Свядомых беларускіх настаўнікаў можна лічыць у нас ужо соткамі.

Свядомых беларускіх вучняў можна лічыць у нас ужо тысячамі.

Але гэтага мала.

Розныя настаўніцкія з'езды ў нашым краі паказалі нам, што мы маем яшчэ сярод тутэйшых настаўнікаў шмат ворагаў нашай роднай мовы і беларускай справы наогул.

Праціўнікі беларускай мовы сярод настаўнікаў – гэтат тыя элементы, якіх паслаў сюды расійскі ўрад як вялікарасійскіх чыноўнікаў з мэтай русіфікацыі; або тая няўдзячная частка беларусаў, якія пад уплывам расійскай культуры адракліся ўсяго роднага і пайшлі наймітамі служыць "матушке" Маскве.

Першым скажам: Ідзіце сабе ў Маскву, бо вы нам чужыя, і мы маема ад вас адну шкоду.

Апошнім скажам: Вярніцеся назад, да роднай глебы, не саромцеся сваёй маці Беларусі, або таксама ідзіце ў Маскву, няхай вас прыгорнець да сябе ваша мачыха.

За апошні час бальшавіцкага панавання на Беларусі беларуская справа была амаль задушана. Яшчэ з большай бессаромнасцю за быўшых самадзяржаўных чыноўнікаў бальшавіцкія жандармы здзекаваліся над нацыянальнымі пачуццямі беларускага народу. Нашыя лепшыя людзі былі абвешчаны “вне закона”. Шмат з іх гнілі ў бальшавіцкіх турмах. Шмат з іх пакутуюць у савецкай няволі па сягонняшні дзень.

Пад маскай бальшавізму тварылася на нашай зямлі вялікарасійская справа. Працавалі яны ў гэтым кірунку зусім адкрыта, і з заняццем Менску ўвосень 1918 г.* яны закрылі нават і тыя ўстановы і часопісы беларускія (бальшавіцкія), якія існавалі ў Маскве і Петраградзе, як Беларускі камісарыят, газэты “Дзянніца” і “Чырвоны шлях”**. Было гэткае гвалтоўнае ганенне на беларусаў, што нават беларускіх бальшавікоў яны ў турмы саджалі. Аб разгоне Усебеларускага з’езду ў Менску мы ўжо гаварыць не будзем.

Бальшавікі так абрыдлі нашым беларускім сялянам сваімі рабаваннямі і рознымі здзекамі, што па вёсках былі б рады, каб хоць і нэгры прыйшлі іх ратаваць і даць ім мажлівасць спакойна працаваць.

Цяпер, калі бальшавікі выгнаны з часткі нашага краю, пачынаецца зноў праца беларуская. Уся культурная праца, бадай, у руках настаўніцтва.

Клічама вас да працы!

Хто забыўся сваёй роднай мовы, хай вучыцца! Ёсць у нас граматыка і розныя школьныя падручнікі. Няхай ніхто з вас не думае, што калі хто ўмеець казаць па-беларуску “як”, “гэта”, дык ужо ведае беларускую мову. Не! трэба вучыцца, а не гаварыць або пісаць нейкім жаргонам і думаць, што гэта па-беларуску. Беларуская мова вымагае такой адукацыі, як усе эўрапейскія мовы.

Трэба вучыцца самім і вучыць другіх. Трэба закладваць па ўсіх вёсках, па ўсіх куткох зямелькі нашай беларускія школы. Трэба змагацца з тымі расійскімі і польскімі агітатарамі, якія стараюцца шкодзіць нам у гэтай справе.

Яўчэ раз паўтараю, што трэба працаваць, ды яшчэ як! Трэба вясці за сабою народ у лепшую светлую будучыну!

***З. Бядуля.***

Звон. 1919. № 8. 10 верасня.

## Да жыдоўства

Шмат гадоў, як вы жывеце на Беларусі поплеч з нашым народам. На нашай зямлі расцвітала ваша нацыянальная і эканамічная культура.

Месты і мястэчкі нашага краю парабіліся цэнтрамі, стварыўшы праз доўгія гады ажыўлены гандаль.

Наш селянін-хлебароб меў з вамі пастаянную стычнасць.

Гістарычны лёс стварыў паміж жыдоўскім і беларускім грамадзянствам такія абаюдна-злучныя ўмовы жыцця, без якіх нельга было абыйсціся.

Розныя непаразуменні паміж намі часам выяўляліся з прычын жалезных [л]анцугоў самадзяржаўнага расійскага ўраду, каторы душыў як жыдоў, так і беларусаў.

Ад расійскай чорнай сотні цярпелі і вы, і мы.

Самае глаўнае цярпенне беларускага народу пад маскоўскімі ўрадамі – як

---

* Мінск быў заняты Чырвонай арміяй 10 снежня 1918 г. – *С. Р.*

** Друкаваны орган Беларускага аддзела Камісарыята па справах нацыянальнасцей Саюза камун Паўночнай вобласці “Чырвоны шлях” (Петраград, 1918) з’яўляўся часопісам, а не газетай. – *С. Р.*

самадзяржаўным, так і бальшавіцкім – гэта здзекі над нашай нацыянальнай душой, сістэматычнае нішчэнне беларускай самабытнасці, культуры і г.д.

Наш край русіфікаваўся расійскім чыноўніцтвам, а пад яго напорам – і вамі.

Мы жыдоўскаму грамадзянству гэта ў віну ставіць не будзем – у гэтым вінавата сама гісторыя.

Але цяпер, у час нашага культурнага адраджэння, мы звяртаемся да вас.

Цікаўцеся болей сваім суседам – беларускім народам. Звярнеце і вы ўвагу на яго культуру і адраджэнне.

Лічэцеся не толькі [з] грубай сілай каго бы то ні было, а ідзіце насустрач нашаму сялянскаму руху.

Цяпер, калі ў нас пачынае тварыцца новае жыццё, мы хочам працаваць у згодзе з усімі народнасцямі Беларусі – у тым ліку і з жыдоўскім грамадзянствам.

Клічамо вас да працы як сусед – суседа, як роўны – роўнага.

***Я – р.***
Звон. 1919. № 20. 8 кастрычніка.

## Права дужага

Цяпер чуецца ўсюды слова “плебісцыт”. Нібы сам народ дае свой голас, выяўляе свае жаданні, пад кім ён хоча жыць. Але плебісцыт дае ў большасці мала карысці, і слабы народ пасля плебісцыту застаецца пры ранейшым разбітым карыце.

Плебісцыт – гэта выдумка асаблівая, каторая хоча адмыць запэцканыя рукі дужага вельмі хітра.

Звычайная рэч, што на плебісцыт згаджаецца дужы толькі тады, калі грунт ужо для гэтага падгатаваны, дзе ён і фізічна, і культурна перамагае ўжо. Тут ужо ніякае гістарычнае права не памагае – дужы, пануючы народ праводзіць плебісцыт так, як ён хоча, а зверху ўсё паказана, нібы па-справядліваму зроблена: свабоднае, патаемнае і г.д. галасаванне.

Калі цяпер праз плебісцыт захочаце даведацца, за каго стаіць сталіца Украіны – Кіеў, дык пэўне, што большасць галасоў будзе процiў украінцаў.

Пад расійскай самадзяржаўнай уладай палякі не маглі правесці праз выбары ў Гасуд[арственную] думу ў сэрцы Польшчы, у Варшаве, сваіх пажаданых людзей. Дзеля гэтай самай прычыны плебісцыт нежаданы для палякаў на Узгорнім Шлёнску*. Плебісцыт непажаданы для французаў у Эльзас-Латарынгіі – чыста французская зямля, але пад нямецкім уплывам ужо шмат гадоў.

Пры выбарах у Гасуд[арственную] думу па Меншчыне і Віленшчыне расійскаму ўраду заўсёды ўдавалася праводзіць у дэпутаты чарнасоценцаў, як Замыслоўскі, Шыманскі і ім падобныя.

Гэтакіх прыкладаў можна знайсці шмат. Справядлівы плебісцыт можа быць толькі тады, калі і фізічныя і культурныя сілы народ[а]ў роўныя: толькі тады гістарычнае і нацыянальнае права, як натуральнае, возьме верх, толькі тады праўдзівы гаспадар гае зямлі будзе мець магчымасць развіваць сваю нацыянальную культуру і выявіць свай сапраўдны голас.

З гэтага відаць, што можа даць нам, беларусам, плебісцыт пры цяперашніх абставінах, калі наш народ соткі гадоў быў пад уплывам дзвюх культур: расійскай і польскай, аглушаны за апошнія два гады рэвалюцыі featured рознымі разрухамі і голадам. Дзеля сваёй культурнай непадгатаванасці наш народ не можа выказаць свайго нацыянальнага “я”. Выходзіць зусім натуральна, што наш селянін не адпавядае за падачу свайго голасу, як непаўналетні. Голас селяніна можна купіць за кавалак сала і фунт солі – гэта ўсім вядома. Цяперашні плебісцыт можа быць толькі

* Узгорні Шлёнск (*польск.* Górny Śląsk) – Верхняя Сілезія. – *С. Р.*

новым здзекам над нашым хлебаробам. Гэтакім чынам дужыя людзі толькі выкарыстаюць цемнату беларускага сялянства, як ужо карыстаюцца ў Віленшчыне і Гродзеншчыне, дзе людзі даюць свае подпісы, не ведаючы на што, толькі дзеля таго, што ксёндз загадвае. А потым з'яўляюцца пісьменныя* дакументы аб тым, што беларускае сялянства жадае прылучыцца без жадных варункаў...

Ні пад Керэнскім, ні пад немцамі, ні пад бальшавікамі і ні цяпер мы не мелі і не маем яшчэ магчымасці выявіць свае волі – усюды мы сустракаліся з дужэйшымі за нас.

Раней нам трэба ўтварыць сваё войска, без усялякіх перашкод тварыць сваю культурную працу, асвядоміць народ, адкрыць яму вочы, а потым, папрўдзе, як вольны з вольным, як роўны з роўным, як дужы з дужым, можна будзе прыступіць да розных плебісцытаў. Тады толькі можна спадзявацца на справядлівасць, калі знікне права дужага, а без гэтага ўсе прыгожыя словы астануцца толькі прыгожымі словамі, і ад імя нашага народу будуць гаварыць дужыя.

***З. Бядуля.***

Беларусь. 1919. № 7 (34). 28 кастрычніка.

---

[1] Мельнікава З.П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. Брэст, 2001.

[2] Верас З. Я помню ўсё: Успаміны, лісты. Гародня – Wrocław, 2013. – С. 34.

[3] Я – р. Дзесяць прыказанняў для памяці // Вольная Беларусь. 1917. № 1. 28 мая; перадрук (з некаторымі змяненнямі) гл.: Мельнікава З. П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. С. 119 – 120.

[4] Минский голос. 1917. № 2433. 21 мая; Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы. F 21 – 2229. Арк. 6.

[5] Частковы перадрук гл.: Мельнікава З.П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. – С. 125 – 126.

[6] Перадрук (з некаторымі змяненнямі) гл.: Мельнікава З.П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. – С. 127 – 128.

[7] Ясакар. Плач Волі // Вольная Беларусь. 1918. № 8. 10 (25) сакавіка; скарочаны перадрук гл.: Мельнікава З.П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. Брэст, 2001. – С. 122 – 123.

[8] Я – р. Наша зямля // Беларускі шлях. 1918. № 69. 18 чэрвеня.

[9] Ясакар. Беларуская зямля // Беларускі шлях. 1918. № 49. 24 мая; поўны перадрук гл.: Мельнікава З. П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. Брэст, 2001. – С. 124.

[10] Бядуля З. Да нашага настаўніцтва // Звон. 1919. № 8. 10 верасня.

[11] Бядуля З. Да нашага настаўніцтва // Звон. 1919. № 8. 10 верасня; Бядуля З. У дзень зачынення беларускіх курсаў // Беларусь. 1919. № 30 (57). 25 лістапада.

[12] Бядуля З. Да беларускага студэнцтва // Беларусь. 1919. № 26 (53). 19 лістапада; перадрук гл.: Мельнікава З.П. "На горне душы...": Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя. Брэст, 2001. С. 139 – 140; Бядуля З. Выбраныя творы. Мн., 2006. – С. 410 – 411.

[13] Бядуля З. Жыды на Беларусі: Бытавыя штрыхі. Мн., 1918; перадрук гл.: Бядуля З. Выбраныя творы. Мн., 2006. – С. 399 – 409; Я – р. Да жыдоўства // Звон. 1919. № 20. 8 кастрычніка.

[14] Бядуля З. Права дужага // Беларусь. 1919. № 7 (34). 28 кастрычніка.

[15] Бядуля З. Нацыянальнае асведамленне // Беларусь. 1919. № 36 (63). 2 снежня; перадрук гл.: Бядуля З. Выбраныя творы. Мн., 2006. С. 415 – 417.

[16] Бядуля З. Дзесяць прыказанняў для беларускага жаўнера // Падарунак беларускаму жаўнеру: Выданне Беларускай вайсковай камісіі. Мн, 1920. – С. 5.

[17] Каваленка В. Самаразбурэнне, ці Скамечаны лёс // Маладосць. 1995. № 10. – С. 251.

---

* Тут маецца на ўвазе: пісьмовыя. – *С. Р.*

Васіль Дэбіш



…будзь вечнай, блаславёная Богам зямля,

дзе нарадзіліся і выраслі сыны твае!..

# Тры дні на радзіме паэта

***Штрыхі да творчага партрэта Алеся Каско***

## Пралог

Знаёмства нашае адбылося яшчэ ў далёкім 1987 годзе, калі пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры (цяпер універсітэт) мы з братам Анатолем былі накіраваныя ў Брэст: я – загадчыкам клуба брэсцкага мясакамбіната, брат – дырэктарам Дома культуры завода бытавой хіміі. Сустрэліся на літаратурным пасяджэнні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Нам з братам было па 25 гадоў, мы ўжо друкаваліся ў часопісе "Маладосць", тыднёвіку "ЛіМ" і лічылі сябе амаль што геніямі. Вось чаму тады, на першай сустрэчы, калі Алесь Каско пачаў разбіваць нашыя "геніяльныя" вершы ўшчэнт, я хоць і знайшоў у сабе сілы прамаўчаць, але падумаў: "Які жорсткі чалавек!" На хвілю нашыя позіркі перастрэліся. Падалося, што гэта я злавіў яго, сфатаграфаваў, аднак – то ён мяне падлавіў...

Падумалася: "Ён, нібыта рэнтген, бачыць мяне наскрозь". Нават калі сядзеў і маўчаў, здавалася, што гаварыў пра ўсё поглядам,

маўчаннем. Даруй, даражэнькі Алесь, за мае паспешлівыя высновы. Калі мы пазнаёміліся бліжэй і пасябравалі, сталі праводзіць больш часу разам, я зразумеў, што за той вонкавай суровасцю жыве любоў да чалавека, паэзіі, роднай мовы, дабрыня, шчырасць; толькі сапраўдны сябра можа сказаць праўду ў вочы, якой бы жорсткай яна ні была.



*Алесь КАСКО.*

Сёлета ў Алеся Канстанцінавіча чарговы юбілей – 65-годдзе. Праўленне абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў даручыла мне напісаць пра юбіляра. Доўга не думаючы, я згадзіўся. Зрэшты, хто лепш ведае Алеся, як не я з братам. Намерыўся пісаць ужо. І сумеўся. А ці так ужо шмат я ведаю пра яго? Нават на яго радзіме ні разу не быў. Тады і ўзнікла ў мяне неадольнае жаданне наведаць родныя мясціны паэта, празаіка, перакладчыка, эсэіста і нарысіста, нязменнага рэдактара, майго сябра Алеся Каско, – пабываць на Ганцаўшчыне, славутай зямлі, якая падаравала Беларусі народных казачнікаў і такіх вядомых творцаў, як Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, Віктар Гардзей, Уладзімір Марук, Іван Лагвіновіч, Алесь Кажадуб, Анатоль Трафімчык, была прытулкам і крыніцай натхнення для Якуба Коласа і Аляксандра Сержпутоўскага, Васіля Праскурава і Міколы Купрэева.

Перагаварылі з Алесем Паплаўскім, Сяргеем Амельчуком і дамовіліся: кідаем усе справы, якія, мабыць, ніколі не закончацца, і ў зручны час кіруем у Чудзін, родную вёску Каско. “Едзем, – падтрымлівае нас Алесь. – Незвычайны куток”. Выезд прыкінулі на 12 траўня, на той веснавы час, калі ўсё ў прыродзе поўніцца жыццём і апантана раскашуе ў квецені.

## Дзень першы

Дзень, як на заказ, ціхі і сонечны. Сустрэліся на чыгуначным вакзале Брэста. Запакаваліся грунтоўна: у кожнага заплечнік з адзеннем і ежай, у руках фотаапараты. Электрычка Брэст – Баранавічы. Набылі квіткі і селі ў чацвёрты вагон, пасярэдзіне цягніка, у якім дамовіліся сустрэцца з Каско. Алесь падсеў у Жабінцы. “Ледзь паспеў, – задыханы, скардзіцца ён. – Сусед, які падахвоціўся падвезці, спазніўся, давялося бегма бегчы напрасткі, праз парк, стадыён...”

На вакзале ў Баранавічах нас чакаў з машынай Алесеў аднавясковец, паэт-святар Яўген Сергіеня, ён знарок прыехаў з Гомеля. Завіталі спачатку ва ўніверсітэт, выступілі перад студэнтамі. У гэтай параўнальна новай навучальнай установе трэці год вучыцца на філфаку выпускніца Чудзінскай сярэдняй школы Юля Герасіменя. Была адзінаццацікласніцаю, калі Алесь Каско прачытаў яе вершы, накіраваў іх (разам з творамі яшчэ некалькіх юных аўтараў) у абласную газету, суправадзіў цёплаю прадмоваю. Спадзяваўся на рост таленту. Але – дарма. Вось і на сустрэчу ва ўніверсітэце Юля не прыйшла. Як засведчылі выкладчыкі, вершаў больш не

піша. І гэта не першая, на жаль, асечка. У сваім цяперашнім горадзе, Жабінцы, дзе кіруе раённым літаб'яднаннем, Алесь літаральна выгадаваў паэтку-ліцэістку, падрыхтаваў і, дзякуючы берасцейскім сябрам, выдаў яе першы зборнічак. Сам У. Някляеў ацаніў яго, праз рэдактара-выдаўца Мікалая Аляксандрава перадаў аўтарцы ўласную кніжку з вельмі прыхільным надпісам. Ды паэтычная гісторыя на тым і скончылася: дзяўчынка, што падавала надзеі, захапілася зусім не літаратураю і зусім не беларускаю моваю... Занялася тым, што выгадней, перспектыўней, што не вымагае ісці насуперак ветру.

Вучні ў яго ёсць і цяпер. Вунь адзін з іх сядзіць побач з ім, за рулём. Не без ягонага ўплыву Яўген Сергіеня ўзяўся за пяро яшчэ ў школьныя гады, не без ягонай дапамогі выдаў ужо некалькі кніжак, не без ягонага, старэйшага сябра, блаславення ўступіў у Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сёння ён ужо сталы паэт!

Мінулі Сіняўку і збочылі ў вёску Востраў, якую ў сваіх вершах уславіў рамантычны пясняр ганцавіцкай зямлі Міхась Рудкоўскі.

Наведалі магілу, што знаходзіцца на прыгорку, недалёка ад вёскі. Пастаялі каля зграбнага валуна-помніка з барэльефам паэта (скульптар Аляксей Паўлючук) і ягоным радком: "Не вечны чалавек, яго ж памкненні – вечныя". Надпіс падказалі скульптару У. Калеснік і А. Каско. Алесь узначальваў на той час абласное аддзяленне і, як ніхто іншы, дбаў пра памяць земляка. Не толькі з абавязку, а і з глыбокай павагі. "У любові да Палесся, ва ўзнёслай яго паэтызацыі Рудкоўскі знайшоў сябе і не дазволіў стаць поруч з сабою, бадай, нікому з немалога шэрагу палескіх песняроў", – не першы раз выказвае ўстойлівую думку паэт-чудзінец.

Могілкі сустрэлі нас не жалобай, а звонкім птушыным пошчакам.

Недзе недалёка закувала зязюля. "Ану, скажы, колькі мне яшчэ жыць на гэтым свеце?" Зазюля пракукавала шэсць разоў. Алесь нявесела ўсміхнуўся і раптам стаў цытаваць свой верш "Могліцы":

Ці мала тут
маіх сяброў паснула.
Стаю адзін,
зусім не абаронены.
– Ку-ку...
Ты пагадай жа мне, зязюля!
Ды: – Ка-а-р!
Ды: – Ка-а-р! –
заплакала варона.

Толькі закончыў чытаць, як у гаі раз і другі пракрычала варона. Калі мы прыехалі, не было і блізка ніякіх варон. І раптам...

– Ух, ты! – выдыхнуў Паплаўскі, – гэта ты, Алесь, яе наклікаў. А можа, гэта душа Міхася нам адазвалася?

"Містыка. І не вер цяпер у прыкметы", – падумаў я. Усцешыўся, калі добрая прыкмета ўзяла верх: зязюля закувала зноў.



*Хата, дзе правёў дзяцінства і юнацтва А. КАСКО.*

Вырашылі не вяртацца з Вострава на шашу, а напрасткі, няўезджанай дарогаю завітаць у вёску Малыя Круговічы, дзе нарадзіўся і доўгі час жыў паэт і празаік Віктар Гардзей, і ў гонар якога за заслугі перад аднавяскоўцамі, якім прысвяціў не адзін дзясятак сваіх твораў, адна з вуліц названая яго імем – адзінага ў Беларусі пры жыцці. Доўгую маляўнічую вуліцу праехалі з канца ў канец і назад, спрабавалі ўявіць на ёй земляка, аднак не напаткалі аніводнай душы наогул. Сумесна склалі экспромт:



*З гаспадыняй школьнага музея Галінай МАРОЗ.*

Куды заехаў? Дзе я?
На вуліцы Гардзея.
А дзе мая надзея
яго стрэць, дабрадзея?..

Рыфму з “ліхадзея” на “дабрадзея” памяняў, вядома ж, Алесь Каско. Яны сябруюць з вельмі даўніх часоў: Віктар паспрыяў Алесеваму дэбюту ў друку – у 1968 годзе змясціў у ганцавіцкай раёнцы ягоны школьны верш “Пралескі”.

– Справа не толькі ўва мне, – згадвае былы дэбютант, калі выпраўляемся ў далейшы шлях. – Больш нідзе і ніколі я не сустрэў раёншчыка, які б так падтрымліваў пачаткоўцаў. Уявіце літстаронку “Савецкага Палесся” тых часоў. Уверсе – прыгожымі, кідкімі літарамі: знаёмцеся: член літаратурнага аб’яднання “Рунь”, і яшчэ выразней – імя і прозвішча. Пад “шапкаю” – вялікі, ледзь не на чвэрць газетнай паласы, фотапартрэт аўтара, а далей два-тры ягоныя вершыкі. Зрэшты, з запамінальнымі радкамі, бо гэта Віктар, дзе менш, дзе больш прыкладваў спрактыкаваную руку. З тагачасных пачаткоўцаў засталіся ў літаратуры нямногія, Уладзімір Марук ды я, але ж перспектыва адкрывалася для ўсіх...

– А калі твае вершы з’явіліся ў рэспубліканскім друку? – цікавімся.

– Здаецца, у 1970-м. На маіх студэнцкіх вакацыях у Чудзін прыехаў былы школьны завуч Мікола Купрэеў. Гасцяваў у нас. Што я пішу, ён ужо ведаў з абласнога друку. Папрасіў вершы. Адабраў тры-чатыры і зрабіў прыпіску да іх Міколу Федзюковічу ў “Чырвоную змену”. Неўзабаве яны былі надрукаваныя, дарэчы, разам з вершамі яшчэ аднаго купрэеўскага вучня Анатоля Шушко.

З Гардзеевай вёскі да Чудзіна вёрст дваццаць. Абапал шашы – густыя лясы, у большасці сваёй высачэзныя сосны і яліны – кашлатыя, звонкія, гулкія. Велічны цёмна-зялёны калідор. І раптам справа – шырокая прагаліна, бетонная адгалінаванне да царквы. Карункавае збудаванне сярод лесу. Залаты купал цягнецца ў неба, зліваецца з ім.

Любуемся! Боскія мясціны. Тут крыніцы, валуны, дрэвы ды, пэўна, і самі людзі пазначаны нябёсамі. На дарозе між Будчай і Дзяніскавічамі ў Ізбійскім бары цудатворны камень са слядамі Багародзіцы. З’явіўся нечакана пасля вайны. І пацягнуліся людзі да гэтай незвычайнай мясціны: па адным, сем’ямі, нават цэлымі вёскамі са сваімі праблемамі, клопатамі, хваробамі – па дапамогу і божае дабраславенне.

Яшчэ раз збочваем з асноўнай дарогі перад апошняю паваротказ на Чудзін за два з паловаю кіламетры да вёскі. Мясціна тут таксама памятная і носіць назву Людвікова (Людзвікоў па-тутэйшаму) – ад імя пана Людвіка, якому калісьці, хай сабе і нядоўга, належаў маёнтак Чудзін. Назва захавалася і ў 1920-1930 гадах, калі тут размясціліся кашары Корпуса памежнай аховы Рэчы Паспалітай, паколькі дзяржаўная мяжа праходзіла непадалёку. Ад былога вайсковага гарадка засталіся старадрэвіны, рэшткі падмуркаў, сцены каменнай будыніны, дарэшты разбурыць якую не ўдалося пасля вайны нават сапёрам.

Чудзін з ваколіцамі і цяпер знаходзіцца на межах, толькі адміністрацыйных, – Ганцавіцкага, Клецкага, Салігорскага і Лунінецкага раёнаў, нездарма за Польшчаю галоўным будынкам вёскі была карчма, што стаяла на развілцы дарог ва ўсе чатыры бакі. Вось толькі добрых дарог не было, скрозь – грэблі. Адна з іх – акурат пад коламі нашай машыны, даўно заасфальтаваная. Колішні студэнт Каско не раз мераў яе, ужо пясчаную, але вечна разбітую, пехатою, каб сесці ў бліжэйшай вёсцы Будча на аўтобус.

Апошні адрэзак дарогі прыкоўвае нашыя позіркі. Злева – лугі з палоскай ракі Лань, справа – хмызнякі і бясконцае доўгае балота з журавінным дзяржзаказнікам, што цягнецца ажно да Лунінеччыны. Інтрыгу ўзмацняюць Алесь з Яўгенам Сергіенем. Навакольныя балоты і лясы, кажуць яны, партызанскія (у аднаго бацька, у другога дзед партызанілі). Знаходзілі прытулак у іх не толькі савецкія народныя помснікі (“помснікі”, дарэчы, Алесева слова, замест “мсціўцы”). Яшчэ нямала часу пасля вайны ва ўрочышчы Солаўе, на востраве-грудзе, таўбаваліся бульбашоўцы, раз-пораз выходзілі адтуль дзеля расправы з сельсаветчыкамі. У архіўных дакументах пра пасляваенны бандытызм значацца і яны...

– Не на ноч бы пра гэта распавядаць, – жартуе Сяргей Амяльчук.

Звечарэла, калі дабраліся да Чудзіна і радавога гнязда Каско на другім канцы вёскі. Белая цагляная хата хоць і парудзела, пасівела ад часу, але яшчэ моцна трымаецца, нібыта дрэва каранямі, уросшы падмуркам у зямлю, падмуркам, які гаспадар, Кастусь Рыгоравіч, і сам Алесь, яшчэ падлеткам, старанна ўкладвалі пры яе ўзвядзенні з камянёў старога фарпосту, што да 1939 года размяжоўваў Польшчу і СССР. Саду на ўзараным пляцы ўжо няма, за выключэннем чарэшні ўпрытык з хатаю ды дзвюх ігрушын на ўзмежках. Захаваўся састарэлы, абабіты дошкамі і бляхай калодзеж, які вянчае страла, накіраваная ў неба. Непадалёку ад хаты – шэраг гаспадарчых пабудоў, таксама даўніх, але крытых новым шыферам. Парадак і ў хаце, балазе сюды часта наязджае Алесеў пляменнік, мінчук, штогод летуе тут, а ў ягоную адсутнасць наглядаюць за сядзібаю стрыечны брат Анатоль з жонкаю Любай, што жывуць побач. Тры пакоі і кухня ўражваюць чысцінёй. На відным месцы, насупраць уваходу ў першы пакой, – бацькаў фотапартрэт і графічны партрэт маці, Аксені Васільеўны, удала намаляваны вугалем брэсцкім мастаком Сяргеем Казаком, які шмат



*Ля памятнага знаку-валуна на хутары Сержпутоўскіх: А. Папалаўскі, В. Дэбіш, А. Каско, Я. Сергіеня.*

гадоў назад гасцяваў тут. Матчын твар ветлы і крыху ўсмешлівы, вочы ледзь-ледзь скіраваны да акна, яны свецяцца ў вечаровых промнях. Як там у Алеся Каско?

Зноў я дома, дома, дома,
і спакой, і цішыня,
і матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна...



*Кнігі Алеся КАСКО.*

Падрыхтавалі сабе начлежныя куткі і гуртам пасядзелі за кухонным сталом. Пакуль перакусвалі, Алесь жвава распавядаў, як прыхільна да ягонага чытання кніг і пісання вершаў ставіліся бацькі. У кожны прыезд давалі заседжвацца ў асобным пакоі хоць з рання да цёмначы. Іншы раз бацька прачыняў дзверы і асцярожна пытаўся: “Мо адарвесса ўжэ? Памочнік у масцярской трэба”. Разам абрэзвалі брусы, габлявалі дошкі. Ды неўзабаве бацька забіраў інструменты: “Ат, ідзі сабе! Ты зноў пра вершы думаеш”.

На самым захадзе сонца мы прайшліся невялікім кавалкам вёскі. “І тут ужо ніхто не жыве, і тут...” – сумна канстатаваў Алесь. Павесялеў каля дома-палаца побач з непрыкметнай для вока поштаю: “Трывала асеў хлопец! Кажуць, ён надзея вёскі”. Надзеяй быў і малады бацька з дзіцём на руках па другі бок вуліцы. А яшчэ настрою паддаваў нам бэз. Паўсюль, амаль у кожным двары, літаральна ўзвышаліся шыкоўныя кусты ружовых і белых галінак. Яны квітнелі, наліваліся фарбамі, свяціліся, бы казачныя лямпы, прыгожылі прастору і будзілі згадкі пра маладосць. Падумалася: усё тут яшчэ жывое, сапраўднае...

Дома чыталі вершы і гутарылі пра паэзію. Прагаварылі да позняй ночы. Леглі спаць недзе а першай гадзіне. Мне не спалася. Усю ноч заліваліся салаўі. Выходзіў колькі разоў на двор і слухаў.

## Дзень другі

Прачнуўся рана. Дзень браўся пахмурны, але цёплы, парны. Алесь ужо не спаў, сядзеў на ганку і курыў. “Не спіцца нешта, – сказаў, – успомніліся мама, бацька, брат Толя. Хачу схадзіць да іх на могілкі, яны недалёка”. Я падахвоціўся ісці з ім. Ён вынес з каморы дзве пары гумовікаў, адну з іх працягнуў мне: абуй, росна, а на могілкі нам ісці праз поле.

Поле ў нізіне, на колішніх балотах, куды, як і ў канавы, вясновая паводка Лані прыносіла шмат рыбы. А могліцы на пагорку за дарогаю. Новыя. Старыя, мо ў некалькі пластоў, ляжаць цяпер у цэнтры вёскі, каля Юр’еўскай царквы другой паловы XIX стагоддзя. Алесевых продкаў, сваякоў і проста добрых знаёмцаў многа і там, і ўжо тут. Памятаю яго радкі з “Палескага трыпціха”:

У кожнай вёсцы
дзве ёсць вёскі:
адна чакае ў госці,
другая – на пагосце...

Пасля магіл бацькоў і брата наведалі яшчэ з дзясятак. “Другая вёска” разрастаецца шпарка, прычым не толькі ад няўхільнага людскога старэння, а і ад хваробаў. У тым ліку цяжкіх: чарнобыльская зона зусім побач, лучыцца аднымі і тымі ж лясамі ды балотамі.

– Бадай, кожная магіла блізкая ўсім вяскоўцам,– спыняецца на выхадзе і вымае цыгарэты паэт. – Жыцці, лёсы пераплеценыя. Свежы прыклад табе. У папярэдні свой прыезд я быў на пахаванні Сады (Аляксандра, у нас процьма варыянтаў гэтага імя, каб нікога ні з кім не блытаць). Як было не пайсці развітацца? Ён сябар майго бацькі, яго маці і жонка сябравалі з маёю маці, ад дзеда Андрэя, ягонага бацькі, я запісваў казкі, з сынам Хведзем вечна сапернічаў у футболе. Такія цесныя звязкі паміж многімі родамі, нават калі без шлюбавання. І што я заўважыў у стасунках сённяшніх аднавяскоўцаў: чым большыя страты, тым людзі больш згуртаваныя, дабрэйшыя адзін да аднаго.

– Дык дай Бог ім трымацца, а нашчадкам усё менш цурацца іх! – Бяру Алеся за рукаў: – Хадзем?

– Ну, не ўсе ж цураюцца, успомні дом-палац, учарашняга бацьку з дзіцем...

Сняданак, кароткія зборы, і нашая прыезджая сябрына кіруецца на дзве загадзя замоўленыя сустрэчы. Спачатку – у сельсавеце, дзе нам рупіць адзінае пытанне: ці ёсць у вёскі хоць якая перспектыва? Старшыня сельвыканкама Анатоль Кіцік сустрэў нас прыязна.

– Добры дзень! – прывітаўся. – Пытанне і для мяне гарачае, а раней дык проста апякала. Яшчэ гадоў дзесяць назад вёска памірала на вачах, людзі заставаліся без працы, ездзілі на заробкі ў Расію, моладзь пакідала родны куток. Зараз абставіны трошкі змяніліся на лепшае. У Чудзіне, дзякуючы землякам, братам-прадпрымальнікам Захарчэням (вы дом іх бачылі), дзейнічае будаўнічае прадпрыемства “ВОТПЛЭЙС”, паўсотні чалавек атрымала працу. У вёсцы пасяліліся дзве сям’і з Украіны, купілі хаты. Адкрыўся цэнтр рэабілітацыі “Маці супраць наркотыкаў”. Не так даўно вёску пераназвалі ў аграгарадок, праўленне ў Будчы, сельсавет у Чудзіне.

Шчырая размова са старшынёй адгукнулася ўдзячнасцю ў нас, нетутэйшых, і яшчэ больш абнадзеіла Алеся Каско, гэта мы лёгка адчулі. Ён застаўся задаволены і тым, што галава сельсавета не зрабіў акцэнту на слове “аграгарадок”. На Захадзе, прыгадваў свае замежныя паездкі Алесь, вёска застаецца вёскаю, хоць і пабудовамі, і камунальнымі ды іншымі зручнасцямі, і агульнай культураю яна ў дзесяць разоў бліжэйшая да гарадскога тыпу, чым любая з нашых. “Зрэшты, новае найменне наўрад ці прыжывецца, яго з гэтай гра- , гар- нават вымавіць няпроста. Вы чулі, каб хто-небудзь з вяскоўцаў казаў: жыву ў аграгарадку?”

Нас чакалі ў школе, і туды мы прыйшлі задоўга да выступлення, каб пабываць спярша ў гісторыка-краязнаўчым кутку. Статус кутка ўжо не адпавядае ягонаму зместу і колькасці экспанатаў. Гэта сапраўдны музей, багаты і з густам аформлены, у чым заслуга ўсіх вучняў і настаўнікаў, найперш загадчыцы Галіны Мікалаеўны Мароз ды яе мужа Ігара Уладзіміравіча, гісторыкаў, якія з маладосці параднілiся з Чудзінам.

Вёска вядомая з 1637 года, прынамсі, упершыню згадваецца пад гэтай датай у акце на валоданне зямлёй. Належала з палямі, сенажацямі ды лясамі князям Радзівілам. Чаму ў яе такая дзіўная назва? Этымалагічны слоўнік выводзіць яе ад балтыйскага племені чудзь, польскія крыніцы ад прозвішча ці мянушкі “Чудак”, самі вяскоўцы, не без гонару, ад слова “цуд”.

Гісторыя багатая і складаная, таму вымагае далейшых пошукаў. “Свой шлях у сёння з волі пачыналі продкі”, – піша Алесь Каско на аснове падання пра сялянскі бунт. У старажытнасці вёска як быццам знаходзілася ў яшчэ глыбейшых нетрах Палесся, нашмат ніжэй па Лані. Падчас бунту сяляне спалілі хаты, панскую

сядзібу, разбурылі царкву (засталося дасюль урочышча Цэрквішчэ) і падзяліліся на дзве часткі: адны ўцяклі ў сённяшнія мясціны, другія падаліся аж ва Украіну, заснавалі паселішча пад такой самай назваю.

Чым дакладна ўзбагаціў паэт і пісьменнік памяць нашчадкаў ды музей – гэта ўваскрашэннем падзеяў апошняй вайны ў нарысе "Праўда і крыўда памяці. Дзве трагедыі адной вёскі", які не без цяжкасці прабіваў у друк. Першай палове нарыса ні ўлада, ні газета раёна не пярэчылі: 22 ліпеня 1941-га карнікі і паліцаі закатавалі і закапалі паўжывымі дзевяць калгасных і савецкіх актывістаў (у іх ліку Алесевага дзеда Рыгора і прадзеда Яўгена Сергіені Сямёна). Другою ж паловаю праўдзівага твора, які грунтуецца на ўспамінах сведкаў, абурыліся: што, маўляў, партызаны дзейнічалі, як эсэсаўцы?! Аповеды вяскоўцаў акурат пацвярджалі: так, амаль што, бо 14 кастрычніка 1942 года народныя помснікі ў злосці праз тое, што чудзінскія паліцаі паспяхова разбегліся ў самым пачатку акцыі, забілі чатырох і пакалечылі дваіх ні ў чым не вінаватых людзей, у дадатак спалілі дзве трэці вёскі. І ўсё гэта доўгі час замоўчвалася або прыкрывалася няпраўдай, як быццам маной можна выхаваць патрыятызм і чалавекалюбнасць.

Гонар за вёску, родны край, народ сённяшняму пакаленню чудзінцаў ёсць з чаго чэрпаць у музеі. З расповедаў пра мужнасць сапраўдных партызанаў і франтавікоў, з маральна здаровых традыцый, звычаяў і абрадаў, з узораў казак і песняў, ткацтва, вышыўкі, разьбярства, з калекцый баявых і працоўных узнагарод... Нас не адарваць было ад экспанатаў, пакуль гаспадыня музея не нагадала пра літаратурную сустрэчу.

Вучні прымалі даверліва, зацікаўлена; падобныя сустрэчы ў іхняй школе даволі частыя, бо знакаміты паэт-зямляк звычайна прыязджае на радзіму не адзін. Гасцямі ў розныя гады тут былі Уладзімір Касько (як навуковец ён у школе госць нярэдкі), Алесь Разанаў, Мікола Пракаповіч, Васіль Сахарчук, Аляксей Галаскок, мой брат Анатоль, іншыя. Не было паэта з гітараю, дык вось паявіўся і такі, Алесь Паплаўскі, якога найдаўжэй не адпускалі са сцэны.

Шануюць у школе памяць фальклярыста і энтографа Аляксандра Сержпутоўскага, каму вёска абавязана сваёй вядомасцю як самабытны куток, паэта і празаіка Міколы Купрэева, былога настаўніка, каму гэты куток быў крыніцаю натхнення да канца жыцця. Не забываюць тут, зразумела, пра сучасных творцаў, ураджэнцаў Чудзіна. Два з іх выступалі чарговы раз, паэтка Ірына Дарафейчук прыязджала аднойчы, гадоў дзесяць назад, а паэт і публіцыст Эдуард Дубянецкі вядомы з друку і музейных звестак.

Адным штрыхом – пра выступленне галоўнага героя маіх нататкаў Алеся Каско. Ён, вядовец сустрэчы, грунтоўна гаварыў пра гасцей і зусім коратка, справаздачна, пра сябе. Заканчвае паэму ў трыялетах "Кайданковая повязь" – пра лучнасць з Чудзінам, у якой, ён упэўнены, пасля сёлетняй пабыўкі пабольшае аптымістычнага настрою: "Знайдуся ў мове, чый пачатак – тут, дзе сум і роспач гояцца любоўю, дзе не самотна быць самім сабою..."

Другая палова дня прайшла ў паездках. Зрабілі вялікі круг раўнінамі і пагоркамі, гаямі і дубровамі, вёскамі і былымі хутарамі вакол Чудзіна.

Пабывалі ў лесе каля прыземістага, пасівелага Кургана памяці закатаваным у першы месяц вайны мірным жыхарам. Курган насыпаўся талакою, цэлаю вёскаю, ад старога да малога. Мінула некалькі гадоў, і раптам жалобную пліту з імёнамі ахвяраў тадышнія сельсаветчыкі замянілі пафаснай, з надпісам "Вечная память и слава павшим в боях за Ролину!" Якія баі, якія героі?! Але яна і цяпер на Кургане, колькі ні даводзіў А. Каско, аўтар нарыса пра чудзінскія трагедыі, што толькі праўдзівая памяць ёсць святасць. Гэтая тэма прасочваецца ў яго паэме, між іншым.

Яўсееўскі востраў. Любімая мясціна з дзіцячых гадоў Алеся Канстанцінавіча. Побач – рака Лань. "Груд сярод паплаву. Дуброва над процьмаю неверагодных

дзікіх кветак", – піша Каско ў сваім "Чудзінскім дзённіку". І сапраўды – дзівосная мясціна. Уся, нібыта батанічны сад. Спускаемся адсюль на бераг Лані. Рака цяпер зарасла асакой, чаротам, звужэла. А калісьці была шырокай, вірлівай, пра гэта сведчаць старыцы. Ды як ні ламалі, ні круцілі яе меліяратары, Лань знайшла сабе жыццё ў самай нізіне. Яна, спаконвечная, нарадзілася ў нетрах палескай зямлі, каб цяпер, затаіўшы сваё дыханне, амаль ціхмяна ляжаць перад падарожнікамі...

За ракою, па дарозе праз мост – урочышча Шарпутоўшчына, ад прозвішча Сержпутоўскіх. Тут стаяў іхні хутар, дзе прайшло маленства і юнацтва выдатнага энтографа і фальклaрыста А.К. Сержпутоўскага (1864-1940). Сюды бацькі прывезлі яго маленькім хлопчыкам, і гэтыя мясціны ён палюбіў як родныя. Спачатку даследчыкам-аматарам, потым супрацоўнікам Рускага музея ў Пецярбургу ён аб'ездзіў усё Палессе, але завітваў сюды кожнага разу, і ніводная вёска ў ягоных працах не ўпамінаецца так часта, як Чудзін, аб'ект усебаковага вывучэння і крыніца вуснай народнай творчасці, асабліва казак. Хараство і багацце тутэйшага дыялекту грунтоўна, як дасведчаны і захоплены філолаг, раскрыў у "Граматычным нарысе беларускай гаворкі вёскі Чудзін Слуцкага павета Мінскай губерні" (1911).

"...Замкнёны лад жыцця садзейнічаў той акалічнасці, што тут, больш чым у іншых месцах, захаваліся характэрныя рысы народнай гаворкі, старажытныя звычаі, павер'і і ўсе асаблівасці несамавітага жыцця палешука-беларуса, які моцна трымаецца ўсяго дзедаўскага і вельмі туга ўспрымае навізну" (з прадмовы А. Сержпутоўскага да згаданага нарыса).

Цікава, ці ўсведамлялі самі вяскоўцы, якім багаццем яны валодаюць? "Яны жылі ім непасрэдна, натуральна, штодзень і наўрад ці прыдавалі асаблівае значэнне збіральніцкай і даследчыцкай працы Сержпутоўскага, – пачаў разважаць А. Каско, справакаваны гэтым пытаннем. – Зразумела, паважалі адукаванага чалавека, але шмат хто і дзівіўся яму, калі той заходзіў у двары, запыняў людзей і на вуліцы, і на сенажаці, і ў чоўне на рацэ, распытваў іх. Гаваркіх у нас хапала! Так сказаў мне, ужо літаратару тады, стогадовы Іван Будчанін. Ён добра памятаў "інтэлегента з барадкаю", які спыняўся звычайна ў лесніка Данілы Куляша, аднаго з самых таленавітых чудзінскіх казачнікаў. Паказаў месца, дзе стаяла вялікая леснікова хата: частка яе была адведзена пад школку".

У Алесевы школьныя, 1960-я, гады імя Сержпутоўскага амаль што забылі. Хутара Шарпутоўшчына ўжо не было. Настаўнікі ў Чудзіне былі пераважна прыезджыя, краязнаўчая работа, апрача ваенна-патрыятычнай, не вялася. Дзеці вывучалі на ўроках славутую народную казку "Пану навука", а што яна паходзіць з іхняй вёскі, ад селяніна Дудара, не ведалі, бо і настаўнікі, мусіць, не ведалі ці проста не звярнулі ўвагі. "Мне давялося адкрываць і постаць Сержпутоўскага, і зробленае ім самому – у студэнцтве, у час кароткага настаўнічання ў роднай школе і падчас працы журналістам, – дзеліцца ўспамінамі А. Каско. – Зрабіў тэлевізійны, газетны нарысы, запісаў і надрукаваў казкі 80-гадовай Матруны Савені, апошняй, бадай, тутэйшай апавядальніцы, не менш здольнай, лічу, за тых, каго напаткаў Аляксандр Казіміравіч".



*Ля Кургана памяці.*

У 1970-х гадах у Шарпутоўшчыне Алесь

заспеў сімвалічны дуб – з зялёнай, угору, і сухой, да долу ўніз, галінамі. Мы ў гэты дзень пераканаліся, што зялёная галіна ўзяла сваё. На ўскрайку ўрочышча ўстаноўлены валун з памятнаю шыльдаю, у в. Пярэвалакі – так першапачаткова называўся і хутар Сержпутоўскага – ёсць вуліца яго імя. Па ёй мы таксама прайшліся, пагаманілі з кабетамі, большасць з якіх тут ужо як дачніцы; імя славутага вучонага для іх зусім не чужое. А ў Чудзіне пра яго распавядае школьны музей, у вёсцы яму прысвячаюцца раённыя фальклорныя святы, вучні ўдзельнічаюць у інсцэніроўках казак, запісаных ім.

Сучасным дзецям, канечне, не перажыць тых вечароў, якія перажыў Алесь Каско. “...Дзе ж ты, малое-запечнае, заснеш – вызіраеш з-за коміна, слухаеш не наслухаешся! Радуешся, што ў тваёй хаце збіраюцца, хоць і цесна, хоць і дым ад самакрутак лямпу заслепвае ды вочы выядае. Шчымлівы халадок у грудзях ад жаночых песень, дрыжыкі па скуры ад мужчынскіх расповедаў пра неймаверныя страхоцці ды цуды...” (з ягонага нарыса “Край казачнікаў”).

Дарогаю назад Алесь згадваў свае любімыя казкі, некаторыя пераказваў, а мне карцела хутчэй прыехаць, разгаварыць сябра пра ягоную ўласную творчасць і яе вытокі, уплывы – ёсць жа яшчэ ў нас вечар, ноч, палова заўтрашняга дня, дый настрой у паэта, здаецца, зараз адпаведны, не прамаргаць бы!

## Дзень трэці

Учарашняя вячэра была развітальная, з гасцямі-вяскоўцамі, было нямала тлуму, і ўсё ж, хоць і ўрыўкамі, пытанні я задаваў і тады, і пасля, у глухую ноч, або, як Алесь пажартаваў па-чудзінску, у “самую глупасць”. Склаў усё разам, і атрымалася такая вось гутарка.

*– Алесь, ты не аднойчы казаў, дый пісаў, што сапраўднае тваё прозвішча Казка. Гэта на самай справе так?*

– Я даўно ўжо не ва ўзросце фантазёра. І не такі наіўны, каб паверыць аднаму з этымалагічных слоўнікаў, які даводзіць мне, што Каско – ад слоў “каса”, “касіць”. Ты ж бачыў сам дакумент сямнаццатага стагоддзя, там – Казка. Такое прозвішча насіў, няйнакш, увесь наш род. Потым узяліся за справу пісарчукі, дый асаблівасці мовы, гаворкі – аглушэнне зычнага, зваротная форма назоўніка – зрабілі ўплыў. У царкоўнай метрыцы я Казко (з націскам на першым складзе), а ва Украіне, як і ўся наша сям’я, якую бацька вазіў па лёгкі хлеб, стаў Каско, на іхні манер. Пра гэта я даведаўся пазнавата, калі дэбютаваў кніжкаю, таму нічога не стаў мяняць: хіба пачаў бы праз тое лепш пісаць? Аднак, бясспрэчна, у сапраўдным прозвішчы ёсць рамантычнае адценне, асабліва яго адчуваеш, калі Чудзін называюць вёскаю казачнікаў.

*– Стыхія, цэлая паводка вуснай народнай творчасці твайго краю – ці не яна прыбіла да цябе гусінае пяро?*

– Былі тры крыніцы, у якіх я выкупаўся, перш чым зарыфмаваў радкі: прырода, фальклор, кніга. Дзвюх першых быў літаральна часцінкаю. Сосны раслі на вуліцы, алешнік, лазняк, журавіннік – адразу за гародам, далей – цёмныя ваўчыныя гушчары. З усходам сонца вёска поўнілася не толькі птушынымі галасамі, а звонкай людской гаманой, перасыпанай жартамі, прымаўкамі, прыказкамі, часам слоўцамі не для дзіцячых вушэй. Песні раз-пораз абуджаліся цэлы дзень, бо жанчыны спявалі і за працаю, а ўвечары мужчыны сыходзіліся з рознымі байкамі ды паказкамі. Што да кніг, дык зачытваўся імі з пяці гадоў, балазе тры сястры былі школьніцы.

*– Першы верш, як памятаю з тваёй аўтабіяграфіі, ты напісаў на ўроку беларускай мовы ў шостым класе.*

– Дала штуршок настаўніца творчым заданнем для класа: напішыце кожны пра свайго сябра, можна – вершам. Гэтага “можна” мне было дастаткова, каб склаўся вершык у духу народных дзіцячых пацешак, якія палюбіў змалку, ад маці.

У Японіі, наколькі ведаю, дасюль ёсць аматарскія школы напісання хоку, танка, іншых сціслых формаў верша. Гэта павышае калі не стваральніцкую культуру, дык культуру ўспрымання паэзіі. У нашых школах важна не перапыняць вучнёўскіх творчых практыкаванняў, як гэта робіць, між іншым, чудзінская настаўніца беларускай мовы і літаратуры Іна Аляксандраўна Валодзька. І мае, пераканаўся, неблагія вынікі ў выяўленні здольных дзяцей.

*– У Чудзіне нарадзіліся чатыры паэты: Алесь Каско, Ірына Дарафейчук, Эдуард Дубянецкі, Яўген Сергіеня. Проста так сталася ці ў гэтым ёсць нейкая заканамернасць?*

– Для такіх самабытных вёсак, як наша або Сялец на Бярозаўшчыне – адтуль паэт Разанаў, празаік Супрунчук, драматург Арахоўскі, – не выключаецца другое: адбываецца натуральны счэп творчага ланцужка. Адносна ланцужка чудзінскага хачу паправіць цябе: у ім не чатыры паэты – значна больш; нашымі папярэднікамі былі казачнікі, чые творы прасякнутыя сапраўднай паэзіяй – глыбокай, па-мастацку вобразнай, з упарадкаванай рытмікай і часам рыфмоўкай.

Услухайся, як гучыць адна з казак Матруны Савені: «Памёр бацька маладзенькі дый пакінуў дзетачак маленькіх. А маці маладая – сабе новага бацьку шукае. Дзетак бабка даглядае. Прыйшла бабка ў хату, а ў хаце есці небагата. Сядзяць дзеткі на печы ў куточку. Дала ім хлеба па кусочку і паліўкі ў чарапочку". І гэтак далей. Трапна, балюча, надзённа. Мне бывае прыкра, калі на фальклор сёння глядзяць як на нешта аджылае або прымітыўнае, не вартае ўвагі. Скажам, наш сучасны пісьменнік ганарыцца, што ўвёў у айчынную літаратуру сусветны матыў кахання прыгажуні і пачвары, пры гэтым абапіраўся на замежныя ўзоры. Ды ён проста праігнараваў нацыянальны фальклор, не пашукаў аналагаў! Няхай бы заглыбіўся ў казку "Любошчы" Рэдкага (карані яго, дарэчы, таксама чудзінскія) ды тое-сёе пачарпнуў бы адтуль: славуты матыў там гучыць на поўную моц і цудоўна раскрыты.

*– Як ты пачуваешся ў роднай вёсцы як вядомы, ці знакаміты, паэт, пісьменнік?*

– Збольшага адчуў сябе такім аднойчы, у юнацтве, калі прачытаў і тут, і ў брэсцкім пединстытуце верш з уражаннямі ад першых студэнцкіх канікулаў. Мяне выклікалі на "біс", нечуваны выпадак для паэта! На жаль, ён быў адзіны на ўсё астатняе маё жыццё.

А калі ўсур'ёз, ёсць у мяне тут чытачы, ёсць, добра ведаю. Але вяскоўцаў цікавіць найбольш палітыка, бо лічаць мяне "вечным апазіцыянерам", як, мушу згадаць, лічылі майго бацьку, былога кандыдата ў КПСС, здадзенага братамі-партыйцамі ў каталажку, затым ва ўральскія лагеры. Гаварыць на падобныя тэмы звычайна адмаўляюся, кажу – я не такі "падкаваны", як вы, пяццю-шасцю каналамі Беларускага тэлебачання, і спрачацца з вамі мне цяжка ... Бачыш, зноў не атрымліваецца ўсур'ёз?

*– Мо сур'ёзней скажаш пра свой апошні твор з чудзінскімі вытокамі? Маю на ўвазе паэму "Кайданковая повязь". Чаму менавіта – "кайданковая"?*

– Гэта, бадай, завяршальная рэч пра мае карані, пра маіх дарагіх аднавяскоўцаў. Сонечным, без аніякіх плямін было ўспрыманне і радзімы з малой літары, і Радзімы з вялікай у дзяцінстве і юнацтве. З гадамі повязь з перажытым больш цесная, таму болей шорсткая. Бачыш многае па-іншаму. Жахнуўся, калі задумаўся, што самае яркае ўражанне маленства – самае балючае: старшыня калгаса на сытым жарабцы гуляе бізуном па спінах маці, яе сяброўак-даярак за тое, што сарвалі па гурочку, у тым ліку дзеля мяне, са збуцвелых градак непадалёку ад праўлення. Нямала іншых калізій засталося нераставаральным асадкам на душы: бясхлеб'е, падаткавая абдзіралаўка, хлусня ў школе, а таксама ў клубе, перад якім да гэтага часу ліпее бетонны ленінскі бюст. Не пакідае трывога за будучыню вёскі. О, як хочацца, каб яна жыла доўга-доўга! Багацела матэрыяльна і духоўна, шанавала праўдзівую памяць, даражыла пракаветнаю моваю, не давала моднаму, дачаснаму

адцясняць вечнае. Нарэшце сама форма маёй паэмы – “кайданковая”, у трыялетах, якія мусіў расхістваць і абнаўляць, бо яны сапраўды сціскалі рукі, што кайданкі. Ну, вось і ўсё. Рэч пакуль што друкавалася асобнымі трыялетамі, не прайшла апрабавання чытачом, дык не заслугоўвае падрабязнай гаворкі...

Развіднела. Я зайшоў у пакой. Алесь сядзеў на лаве, сашчапіўшы рукі пад сталом. Вось ён, разумны, зараз закрыты, усяго за тры метры ад мяне, ля вакна, за крок ад жывой музыкі прыроды і, мусіць, распраўляецца з сабой.

– Штоаразу прыязджаю як апошні раз, – скардзіцца ён. Доўга я не заўважаў яго душэўнага заняпаду, ягоную прычыну, пакуль даведаўся, што яму зрабілі аперацыю. Падумалася сёння: няўжо Алесь канчаткова прыняў выклік смерці і цяпер вядзе гульню з ёю, як вядзе гульню шахматыст – партыю без часу, у якой не можа быць нічыёй?..

Ён выйшаў пакурыць, а я спыніўся перад вакном, за якім раскінулася ўзаранае пад бульбу поле. Уявілася: так стаяў тут Алесь, калі яшчэ быў яблыневы сад. Стаяў і пісаў верш – мудры і мужны:

Падаюць яблыкі. Яблыкапад:
сіла зямлі пакідае мой сад.
Скочваннем звілістым ці стрымгалоў
яблык за яблыкам – з голля далоў.
Горкі, падгнілы або сакаўны –
паданак падае ў пыл, палыны...

Атарапеласцю – смутак двара:
яблыкам падаць яшчэ не пара;
ім налівацца было б самы раз –
не ля варот яшчэ яблычны спас.
Гнуцца галіны ў суседніх садах,
моцны, крамяны, мядовы там пах,
рала з антонамі цяжкімі прут
гордым атлантам трымае. А тут
падаюць яблыкі. Яблыкапад
губіць адзіны радзінны мой сад.

Вось-вось пачне шорстка падаць лісцё,
ліст абляціць – і застыне жыццё
не на зіму, ды і не на гады:
саду майму не вярнуцца сюды,
як не вярнуліся продкі мае...
Сад мой бязлюдны, час наш настае.

Голля, бы рук, не заломвае сад,
свеціць з паўзмроку ягоны пагляд
зрэнкамі яблык з-пад веяў-лісця:
жаль у ім ёсць, ды няма страхацця.
Зведаў пад бурамі ён, што і ў дрэў –
час толькі свой, хоць знянацку заспеў,
дык і сыходзіць (і я разам з ім)
яблык за яблыкам – крокам глухім.
Ціхі, без лямanту яблыкапад...
Дзякуй за еднасць, мой спадчынны сад.

Калі пакідалі Чудзін, зноў свяціла яркае сонца. У бязвоблачным бязмежным небе панавала адно непарушнае белае ззянне, што не азмрочваецца нічым. Падумалася: якое шчасце жыць на гэтай зямлі, суровай і прыгожай. Будзь вечнай, бласлаўлёная Богам зямля, дзе нарадзіліся і выраслі сыны твае!



Васіль Дранько-Майсюк



...Барыс Сачанка быў парадаксальны.
А гэта значыць цікавы...

# Пякельная рэчаіснасць Барыса Сачанкі

*Ці ўважліва мы чытаем сваіх пісьменнікаў? Ды і ўвогуле – ці любім іх чытаць? Пра многіх вядомых творцаў маем пэўнае меркаванне, але збольшага грунтуецца яно на аснове плётак, чутак, школьнага выкладання, а не на тым, што гэтыя пісьменнікі стварылі.*

*Барыс Сачанка, якому сёлета споўнілася б 80 гадоў, яркі прыклад таго, наколькі бывае шкодным падобнае павярхоўнае стаўленне.*

*Хто ён? Пісьменнік-рэаліст, аўтар вядомых раманаў і аповесцяў, асветнік, чые асноўныя дасягненні звязаныя з прапагандай беларускай эміграцыі, а таксама з тым, што дзякуючы яго легендарнаму кнігазбору многія рэдкія беларускія выданні атрымалі новае факсімільнае жыццё?*

*Прынамсі, многія думаюць, што ён перш за ўсё асветнік.*

*Але ці толькі ў гэтым значнасць Барыса Сачанкі?*

## 1.

Ён напісаў трылогію “Вялікі Лес” (1976-82 гг.) і, каб яшчэ больш падкрэсліць яе манументальнасць, з першай фразы пачаў па-біблейску эпахальна: “Калісьці, тысячы, а можа, і мільёны гадоў таму назад, тут было мора. (...) Вада ды яшчэ неба...” У апавяданні ж “На беразе Ісլачы” (1987 г.) ад імя празаіка Арсеня Захаравіча выказваўся пра эпапеі так: “Гігантаманія карлікаў... Мяне аж калоціць, калі бачу ў канцы публікацыі “працяг будзе”... Гэты вадамёт даўно трэба заткнуць, каб не пладзіў мутных лужын...”

Усё сваё жыццё збіраў матэрыялы пра творчасць беларускіх эмігрантаў, дзякуючы яму многія ў Беларусі даведаліся, што ёсць такія пісьменнікі, як Наталля Арсеннева, Алесь Салавей, Масей Сяднёў. Гэта не замінала яму выказвацца і пасавецку катэгарычна: “...за мяжою ёсць і тыя, хто добраахвотна пакінуў Радзіму, ненавідзіць наш лад, змагаўся і змагаецца з намі (...), паклёпнічае...”

Ён не прымаў калабаранцтва: “Супрацоўніцтва з акупантамі, якія б яны ні былі, гэта не той шлях, на якім здабываюцца свабода і незалежнасць...” Але быў прыхільнікам нацыянальнай сімволікі, нягледзячы на тое, што яна была пры акупацыі: “Так, “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваліся ў час вайны калабарантамі. Але тое ж здарылася з нацыянальнымі сімваламі і ў Францыі, Венгрыі, Балгарыі... І ўсё ж народы не выракліся іх”.

Ізноў жа парадокс – любіў нашую гістарычную сімволіку, але выказваўся супраць тарашкевіцы: “Чаму трэба вяртацца да Тарашкевіча, а не да мовы Актаў і Статута Вялікага Княства Літоўскага? (...) Што мінула, таго не вернеш. Двойчы ўвайсці ў тую самую ваду нікому яшчэ не ўдавалася”.

Дазваляў сабе рэзкія выказванні пра пісьменнікаў старэйшага пакалення Пятра Глебку і Кандрата Крапіву, але і сам крыўдаваў на моладзь: “...Сёй-той жа з маладых літаратараў ужо цяпер лічыць, што ён “узяў Бога за бараду”, яму няма чаго вучыцца ў старэйшых, што ён і так геній... (...) абвінавачванні ў літаратуры, якія высоўваюць у сваіх артыкулах А. Сідарэвіч, Л. Дранько-Майсюк, М. Шаляговіч, часам больш дзіўныя...”

Смяяўся з графаманаў, якія не адчувалі слова, не валодалі стылем, у той жа час прызнаваўся: “У мяне ж часта не хапала цярплівасці папрацаваць яшчэ і яшчэ над сваім творам (...). Недахопы (...) я бачыў пасля, калі яны былі ўжо надрукаваны (...). Даводзілася ўмешвацца рэдактарам. А ўмяшанне (...) цэнзарскага алоўка ніколі не паляпшае твор”.

Барыс Сачанка быў парадаксальны. А гэта значыць цікавы.

## 2.

Ён не баяўся пісаць пра свае страхі, не баяўся прызнацца ў сваім недаверы да рэчаіснасці. У гэтым быў вельмі шчыры, і, безумоўна, унікальны. Ні ў зацятасуровых герояў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, ні ў псіхадэлічных персанажаў Івана Чыгрынава, ні ў супермэнах Уладзіміра Караткевіча ды Івана Шамякіна, ні ў непрыкаяных герояў Міхася Стральцова мы не ўбачым той ступені чыста дзіцячага недаверу і страху перад навакольным светам, якое ёсць у няўпэўненых і такіх кранальных персанажах Барыса Сачанкі.

Даволі часта героямі яго твораў выступаюць пісьменнікі. У названым ужо апавяданні “На беразе Іслачы” Алесь Захаравіч, чые “самыя першыя празаічныя творы выклікалі надзіва аднадушнае захапленне”, затым убачыў, “што многія яго равеснікі, ды і набагата маладзейшыя таварышы вырваліся наперад, напісалі творы куды лепшыя за тыя, што пісаў ён сам”. Герой разважае: “Чаму?.. Здаецца ж, і майстэрства асталося тое самае, нават быццам вырасла, і патрэбны тон, давер да чытача таксама ж... А таго, ранейшага, захаплення яго творамі ні ў чытачоў, ні ў крытыкаў не было”.


*На Першым з’ездзе Таварыства беларускай мовы.*

У аповесці “Не на той вуліцы” (1974 г.) гэтая тэма завострана з яшчэ большай сілай. Малады празаік Адам, які перажывае духоўны крызіс, з невытлумачальнай упартасцю даследуе творчасць памерлага графамана Язэпа Тарасюка.

“Не на той вуліцы” – гэта амаль мункаўскі крык пісьменніцкай душы. Героі жывуць у цалкам варожым для літаратуры свеце. Пісаць немагчыма, бо ўвесь творчы час з’ядае рэдактарская работа, жыццёвая неўладкаванасць, спрэчкі з жонкай (як у Адама). Загадчык прозы, былы сталінскі вязень, Пятро Шчарбачэня марыць вырвацца на такую жаданую пенсію: “Хоць выпішуся... А то жыццё канчаецца... а планы мае так і астаюцца планамі. Мітушуся, бегаю, раблю чортведама што і за каго... З сённяшняга дня раблю толькі сваё...”, але калі ён апынаецца на пенсіі, то прызнаецца: “...не наеўся, то і не наліжашся. Стамляюся хутка, няма той свежасці ўспрымання... Напішу старонку, перачытаю і падзяру...” Гранічнае адчуванне безнадзейнасці і марныя спробы вырвацца з яе – асноўны матыў твора. Сачанка малюе жахлівы свет, дзе ўсё падпарадкавана аднаму – смерці. Тут паміраюць надзеі літаратурна спраўдзіцца, правальваецца пад лёд і гіне сын Адама, памірае Тарасюк, гіне стары Менск (эпізоды руйнавання Нямігі).

У гэтым творы Сачанка паказаў новага героя. Яго Язэп Тарасюк – гратэскнаагрэсіўная пасрэднасць. Ён у глыбіні душы пакутуе ад таго па-сапраўднаму моташнага пачуцця, што ты не патрэбны, нават самому сабе. Тарасюк страшны чалавек: ён даводзіць сваімі бясконцымі эпапеямі ледзьве не да інфарктаў рэдактараў; у 30-я гады пісаў даносы; забараніў сваёй вернай жонцы мець дзяцей. І вось такога персанажа, дзякуючы Барысу Сачанку, мы, як ні дзіўна, пачынаем шкадаваць. Бо Тарасюк у далёкім юнацтве меў каханую, якая кінула яго, калі той пачаў займацца літаратурай. З кранальнай апантанасцю героя Сервантэса Тарасюк усё сваё жыццё даказвае сваёй першай і адзінай каханай, што ён можа стаць яе вартым. Усе яго эпапеі ствараюцца дзеля марнай спробы здзівіць яе, напісаўшы хаця б адзін добры радок. Бо калі гэты радок напішацца – Тарасюк упэўнены! – каханая вернецца.

Але цуд не адбываецца, і беднаму эпапейшчыку нічога не застаецца, як памерці.

Шкадаванне вонкава непрыемных і грубых герояў, уменне паказаць іх падзіцячы неабароненымі – адметнасць твораў Сачанкі.

У апавяданні “Белая мыш” (1989 г.) былы оперны спявак, на манер персанажаў Чарлза Букоўскі, уцякае ў радасць алкагольнага забыцця, бо менавіта тады да яго прыходзіць... белая мышка: “я гладзіў яе, і проста на маіх вачах мыш перакідвалася ў Люсю... (...) не спяшаючыся, паволі, быццам з неахвотаю, распраналася, і я бачыў яе дзявочыя стаячыя грудзі, чорны кучаравы мысок ніжэй жывата, стройныя, прыгожыя ногі (...) я хацеў як мага хутчэй убачыць зноў белую мыш, сустрэцца з Люсяю...”

Герой звальняецца з тэатра, жэніцца, заводзіць дзяцей, здраджвае жонцы, крыўдзіць выпадковую каханку, але ўсё гэта робіць механічна, як быццам у нейкім сне, не ўсур’ёз. Жаданая рэальнасць для яго – гэта спатканні з мышкай. Як і Тарасюка, яго акружаюць жанчыны, якія хочуць з ім быць, але сапраўднае кахан-

не недасяжнае. Галоўны персанаж, па-сутнасці, не алкаголік: гарэлка – прыкрая неабходнасць, умова, каб спаткацца з каханай. Калі ж у канцы апавядання, па волі пісьменніка, герой пачынае жыць разам з Люсяй, то шчасце гэтае нядоўгае: неўзабаве каханая памірае, і тады нічога не застаецца, як зноў пачаць піць: "...бо не магу без Люсі, хачу яе бачыць, быць з ёю, не раставацца ніколі. О, гэта цудны момант!.. З'яўляецца белая мыш, я пачынаю яе гладзіць, і... Ажывае, усміхаецца, глядзіць на мяне трохі сумнымі, але разам з тым і радаснымі вачыма Люся... Хутчэй, хутчэй бы той момант, зноў быць нам разам!.."

Барыс Сачанка не верыць, што ў нашай рэальнасці можна быць шчаслівым у творчасці, у сям'і, у пазашлюбным каханні. Ты можаш напісаць тоны раманаў, а пасля акажацца (і, што самае жахлівае, ты сам гэтае зразумееш!) твая пісаніна нічога не вартая. Можаш кахаць, але сапраўднае каханне цябе знішчыць. Нездарма адзін з персанажаў яго ранняга твора "Баравое рэха" (1964 г.) калі даведаўся, што жанчына, пра якую ён марыць, гатовая была дзеля яго кінуць мужа і пачаць новае жыццё, – уцякае ад свайго шчасця як ад нечага па-сапраўднаму страшнага.

Каханне і смерць для Барыса Сачанкі тоесныя моманты. Нават калі табе пашанцавала і ты не кахаеш – усё роўна жаданага спакою не займееш. Сама рэчаіснасць цісне цябе, не дае разгарнуцца.

Жыць тут больш небяспечна, чым на якой-небудзь планеце, поўнай арахнідаў з фільма Паўля Верховена "Зорны дэсант".

У аповесці 1974 года "Запіскі Занядбайлы" (дзе найбольш ярка выявілася захапленне пісьменніка творамі Альбера Камю і Франца Кафкі) галоўны герой – няспраўджаны філосаф, журналіст, гандляр кнігамі – хаваецца ад гэтага свету на гарышчы нейкай хаты, піша пра сваё непрытульнае жыццё, пасля чаго знікае, літаральна раствараецца ў паветры. Усе спробы яго адшукаць марныя. Нешматлікія анёлы-ахоўнікі Занядбайлы (Маці, Дзед, які гадаваў яго пасля вайны, дырэктар школы-інтэрната) даволі хутка гінуць, а на іх месца прыходзяць па-кафкіянску страшныя вобразы-маскі: сляпыя жабрачкі, выхавацелі, якія жадаюць смерці дзецям, журналісты-алкаголікі, распусныя жонкі пракурораў і г.д. Супрацьстаяць гэтаму немагчыма, можна толькі адно – колькі хапае сілы прыстасоўвацца, імітаваць тое, што і ты аніяк не вылучаешся. Прытым, самае цікавае, Занядбайла дасягнуў нават пэўнага поспеху – стаў удалым падпольным кніжным камерсантам, але якое можа быць шчасце, калі паўтаруся, сама атручаная рэчаіснасць цісне цябе, як таго кафкіянскага жука і не дае па-сапраўднаму разгарнуцца.

У апавяданні "Трэцяе вока" (1988 г.) герой стараецца па-філасофску спакойна ўспрымаць свет, у якім жыве. У гэтага персанажа "...на пераноссі (...) невялікая выпукласць, нібыта гузачок. Гэта (...) трэцяе вока..." Ён бачыць мінулае, будучае, на любой адлегласці можа назіраць за тым, хто яго цікавіць. Герой спрабуе штонебудзь змяніць да лепшага, хоць і ведае пра немагчымасць падобных памкненняў, бо, як вядома, адзін анёл, які трапіў у пекла, раем яго не зробіць. У канцы апавядання гучыць крык адчаю: "...я пачынаю зайздросціць тым, хто менш усяго ведае (...), калі раней мне хацелася ўсіх і ўсё папраўляць ці хоць бы папярэджваць (...), дык цяпер не хочацца... Усё адно нічога не зменіш (...) Я раблю, што трэба рабіць (...), але (...) без ахвоты, як бы пад прымусам. (...) Вінавата ва ўсім маё трэцяе вока... Бачыць, ведаць – і нічога не змяніць... О, гэта страшна!"

Няма нічога дзіўнага, што ў гэтым пякельным свеце абсалютна свабодна сябе адчуваюць, відаць што, толькі тыя, хто прадаў сваю душу д'яблу, ды і то да таго часу, пакуль служка Люцыпара не з'явіцца да іх па разлік. Барыс Сачанка напісаў цэлую серыю апавяданняў, дзе да яго герояў прыходзяць чэрці. Найбольш цікавыя – "Карчоўнік" (1986 г.) і "Чорт з Суматры" (1989 г.).

Пісьменнік быў адным з першых у нашай літаратуры, хто ўвеў у рэалістычную тканіну твораў казачны вобраз чорта. Асабліва нечакана гэта выглядае ў "Карчоўніку". Хлопчык Пятро, прыхінуўшыся да карча, хаваецца ад немца ў балоце. Холад, страх,

класічная беларуская вёска, немцы, якія робяць аблаву на людзей... Маленькага героя ў любы момант могуць знайсці і расстраляць – проста быкаўскі па сваім драматызме пачатак. І раптам: “...адбылося неверагоднае, цуд нейкі, дый годзе. З-пад вываратня выпаўзла нешта жывое. Рыжае, вёрткае, рухавае. З востранькай, як у мышкі, пыскай, жвавымі, хітрымі вочкамі, загнутымі касцістымі рожкамі, вілястым куртатым хвосцікам... І – худое-худое...” Чорт ратуе хлопчыка і за гэта купляе яго душу. На працягу ўсяго твора Сачанка апісвае, як нашаму герою, цяпер ужо Пятру Пятровічу, пашанцавала: лепшая жонка, лепшая праца, акіян грошай, усеагульная павага, яркія навуковыя адкрыцці ў матэматыцы. Герой настолькі захоплены поспехам, што нават забывае пра сваё пагадненне з чортам. Прыўзнята-мажорны тон аповесці змяняецца па-сапраўднаму драматычнай фінальнай сцэнай, калі д’ябал вярнуўся забраць душу: “...Чорт мяняў свае аблічча, з маленькага, худзенькага, кволенькага рабіўся раптам быццам арангутанг – з амаль метровымі лапішчамі, вострымі зубамі-ікламі (...), пырскаючы слінаю, кідаўся, наступаў на Пятра Пятровіча...” Пасля смерці героя ўсё ім зробленае згарэла, сям’я загінула ў аўтамабільнай катастрофе, а ягоныя навуковыя адкрыцці былі прызнаныя несапраўднымі.

Як бачым, і тут Сачанка вяртаецца да сваёй любімай думкі – што б ті не зрабіў, чаго б ні дасягнуў, рыхтуйся – ўсё гэта ператворыцца адно толькі ў попел. Трагедыя Пятра Пятровіча ды іншых падобных герояў з твораў пісьменніка нават не ў тым, што яны прадалі свае душы. Самае страшнае ў іншым – яны забылі аб гэтым. Яны шчыра ўпэўненыя, што дасягнулі ўсяго самі.

*Будзь гатовы да горшага* – змрочна сцвярджае Барыс Сачанка. Хто ведае, можа, ён сам баяўся, што ягоны творчы і матэрыяльны поспех гэта не толькі вынік таленту і ўласнай вялікай працавітасці? Нездарма ж у аснове “Карчоўніка” ляжыць рэальны факт з жыцця пісьменніка. Маленькі Сачанка таксама хаваўся ад немцаў. Хлопчыка заўважылі і маглі застрэліць, каб не ўмяшалася маці.

“Чорт з Суматры” – адзін з найбольш лёгкіх ды іранічных твораў пісьменніка. Галоўны герой (сам Барыс Сачанка) сустракае ў галандскім гатэлі інданезійскага чорта, які вельмі хоча, каб яго забралі ў Беларусь. Д’ябал запэўнівае, што разам яны будуць непераможнымі. Герой уцякае з гасцініцы, пакінуўшы нават усе свае рэчы. Фінал, нягледзячы на вонкавую лёгкасць апавядання, застаецца трывожны – з таго часу пісьменнік губляе сон і прыслухоўваецца: ці не з’явіўся ў яго мінскай кватэры чорт з Суматры? Ці атрымалася пазбавіцца ад д’ябла? Дакладнага адказу аўтар не дае.

## 3.

Калі ўважліва чытаеш Барыса Сачанку, то заўважаеш, наколькі яго творчасць адметная. Ён меў сваю тэму, стварыў у нашай літаратуры свой настрой і свой свет. Уладзімір Караткевіч хаваўся ад рэальнасці ў выдуманай ім Гісторыі Беларусі; Міхась Стральцоў глядзеў на рэчаіснасць з меланхольнай надзеяй – у яго творах (як напрыклад у аповесці “Свет Іванавіч – былы донжуан”) часам здараліся цуды і героі здабывалі сабе шчасце. Для Сачанкі, у адрозненне ад многіх іншых беларускіх пісьменнікаў, рэчаіснасць – пякельная. Ніхто да яго ў нашай літаратуры не сцвярджаў гэта з такой перакананасцю.

У адным з самых паэтычных твораў Сачанкі “Тыя” (1984 г.) маладая, замучаная шэрым жыццём бібліятэкарка прыходзіць па начах у парк, дзе сядзіць на лаўцы і глядзіць на зоркі. Яна спадзяецца, што рана ці позна з’явіцца касмічны карабель, які забярэ яе на іншую планету.

Магчыма, пра гэта марыў і сам пісьменнік.

Свой артыкул я пачаў з рытарычнага пытання: ці ўважліва мы чытаем сваіх пісьменнікаў?..

А чытаць трэба. Наша непрачытаная і, як вынік таго, неперачытаная літаратура можа неверагодна здзівіць. Яскравы прыклад таму – проза Барыса Сачанкі.

*Жнівень-верасень, 2016 г.*

Васіль Жуковіч



...радзіма не можа быць ні малой,
ні вялікай, яна адна, адзіная...

# Міколавы святыні

## 1. Пра шахматы, мову, радзіму

Пра тое, што ў Барысаве жыве знакаміты шахматны кампазітар, майстар спорту Мікола Іванавіч Бельчыкаў, мне распавёў пісьменнік Вадзім Жылко. Было гэта дзесяць гадоў таму.

Мне закарцела пазнаёміцца з такім цудоўным творцам, тым больш што шахматы ў шэрагу маіх захапленняў займаюць не апошняе месца.

Спярша было завочнае знаёмства, ліставанне. З цягам часу мы з ім склалі і апублікавалі не адну двуххадоўку-мініятуру (нечакана для мяне, бо дагэтуль не было аніводнае калектыўнае кампазіцыі – складаў і публікаваў толькі самастойныя). А Мікола Іванавіч найбольш праславіўся якраз у складанні двуххадовак – у 2000-м годзе ён стаў пераможцам шостага каманднага першынства свету ў раздзеле двуххадовых задач.

Пра нашую эпізадычную супольную творчасць я ўзгадваю не так з гонарам, як з удзячнасцю: прафесіянал узяў аматара на буксір!..

“Камунікабельны” – падумалася мне пра майстра, калі ўве-

даў, што ў ліку сотняў чыста ўласных кампазіцый на яго рахунку набіраюцца дзясяткі складзеных з іншымі аўтарамі і што кнігу “Паэзія шахмат Беларусі” (2004) стварыў сумесна з Віктарам Волчакам, гэтаксама адораным шахматным праблемістам. Зрэшты, ягоную камунікабельнасць, гранічную шчырасць я ўсё больш адчуваў у шчодрасці яго лістоў. Размашыстым таропкім почыркам мой завочны сумоўца займаў тры-чатыры старонкі, а іншы раз і пяць-шэсць.

Мяне не магло не ўражваць, як спадар Мікола цікава закранае любую тэму нашае, так бы мовіць, эпісталярнае гамонкі. Мне даспадобы прыйшлася яго нават відавочная кансерватыўнасць у пытаннях тэхнічнага прагрэсу: “Асабіста я адношуся да сучасных дасягненняў неяк генетычна (!) з насцярогай”. Пісьмовая гаворка ў нас ішла ў жніўні 2015 году пра мабільныя тэлефоны, і ён працягваў: “Несумненна, для тых, хто займаецца, напрыклад, бізнесам, аператыўная сувязь патрэбная. Але часта ўсё даходзіць да смешнага...” Не аднойчы ён, едучы ў электрычцы, назіраў, як дзяўчына праз кожныя дзесяць-пятнаццаць хвілінаў тэлефанавала бацькам і дакладвала, на якой яна станцыі... “Уся мая істота супрацьстаіць сучасным усюдыісным “сэрвісам” – прачытаў я ў тым жа лісце.

Тады я ўжо ведаў: праслаўлены майстар мае цудоўны кампутар, з дапамогай якога правярае дасланыя яму кампазіцыі, ці няма ў іх пабочных рашэнняў. Паведамляў мне ён таксама пра спадарожнікавую антэну, якая забяспечвае якасныя перадачы па тэлевізіі. Натуральна, падумалася, чаму чалавек траціць сродкі на сучасныя тэхнічныя дасягненні, да якіх ставіцца з насцярогаю? Нібы адчуваючы маё пытанне, Мікола Іванавіч піша: “Сотавы тэлефон, спадарожнікавая антэна і кампутар мне дасталіся ў падарунак. Напэўна, сам бы я і дагэтуль не набыў гэта, і справа не ў грашах”. Разумею. Мне гэтаксама падаравалі і кампутар, і мабільнік.

Чым далей ішло нашае ліставанне, тым большай была сімпатыя да славутага творцы. “Дзякуючы Вам хоць трохі пішу па-беларуску, – так Мікола Бельчыкаў завяршаў адзін з сваіх лістоў. – Слухаю радыё “Свабода”, гляджу “Белсат”. На жаль, размаўляю па-беларуску вельмі дрэнна – няма практыкі”. Ён узгадвае, што яго аднавяскоўцы даволі чыста размаўлялі роднай моваю, усіх дзяцей вучылі толькі па-беларуску, і шкадуе, што яму ў Жлобіне з 1954 году давялося вучыцца па-руску. Ведаю: абсалютная большасць нашых шахматных кампазітараў – рускамоўныя і іх гэтая акалічнасць, падобна, не бянтэжыць, не хвалюе, таму нацыянальная арыентацыя, глыбінная інтэлігентнасць Бельчыкава мяне асабліва прыемна ўразілі і ўзрушылі. Як толькі я зразумеў, што яго цікавіць мая літаратурная творчасць, натуральна, пачаў дасылаць яму свае свежыя выданні з аўтографамі. І неўзабаве зразумеў, што ў асобе Міколы Бельчыкава займеў чытача не проста ўважлівага і ўдумлівага, а яшчэ і таленавітага. Аднойчы ён прапанаваў мне выступіць у друку з роздумам, у якім бы я зрабіў параўнанне творчасці ў шахматах і ў паэзіі, пры гэтым адлюстраваць свае адчуванні, што мяне вельмі зацікавіла. А перачытаўшы адзін з маіх зборнікаў, адкрыўся мне яшчэ адной рысаю кемлівага чалавека, у якога ў душы ёсць эстэтычны і мастацкі компас, што дазваляе добра арыентавацца, ацэньваючы кожны канкрэтны твор і кнігу. “Цалкам згодны з думкай “Не завіце радзіму малой...”, – перадаў ён сваё меркаванне ў лісце за восьмага студзеня 2015 года. – Радзіма не можа быць ні малой, ні вялікай, яна адна, адзіная”.

Мне такое выказванне прыйшлося, як кажуць, мёдам па сэрцу. Успомніў адразу ўсіх, салідарных са мною, а мо лепш сказаць – з кім салідарны я: мясціну, дзе нарадзіўся чалавек, бязглузда называць *малою радзімай*, бо такая мясціна для яго – не што іншае як святыня, якую ніяк не выпадае аднесці да шэрагу памераў. Успомніў многіх, а назаву хоць бы некалькі такіх асобаў. Мяне здавён радуе, што доктар філалогіі Аляксей Рагуля, ураджэнец Наваградчыны, і прафесар Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэту Тамара Нуждзіна цягам доўгіх гадоў унушаюць студэнтам, па сутнасці, тое, што й выказаў некалі я і настойліва паўтараю ў сваіх кнігах:

Малая радзіма? Правал паміж слоў,
Хоць нехта у сплаў іх паверыў,
Назваў недарэчна святыню малой,
Аднёс яе ў шэраг памераў...
Існуе малы пералесак, лясок,
Паляна малая і поле.
А край, дзе ступіў ты найпершы свой крок,

Малым не бывае ніколі!
Бывае малая трава і лаза,
Крыніцы вузенькае ложа.
А край, дзе ты першае слова сказаў,
Малым быць ніколі не можа!
Радзіма... У ёй да сканчэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае малая любоў,
Святыні малой не бывае.

Пісьменнік Алесь Барскі, які нарадзіўся і вырас у вёсцы Бандары (Беласточчына), знаны вучоны і выкладчык Варшаўскага ўніверсітэту, сцвярджае: “Радзіма, якую называюць малою, для мяне – самая вялікая”. Адчуваю ў ягоным задзірыстым выразе і пратэст супраць даволі распаўсюджанае бязглуздзіцы: “малая радзіма”.

## 2. Цудадзейнасць вады

“У апошнія гады я часта звяртаюся да дзяцінства, да сваёй памяці, – распавёў Мікола Бельчыкаў у лісце за 24-25 жніўня 2015 года. – Кожны год наведваю месца свайго нараджэння – вёску Шапарня, там адчуваю выключную каштоўнасць і патрэбу гэтай мясціны і сувязь часу.”

Усё гэта натуральна. Ніякага тут дзіва дзіўнага няма. У кожнага нармальнага чалавека рана ці позна абуджаюцца падобныя пачуцці. Але ў распачатай гісторыі дзіва ўсё ж будзе. “Там цяпер ужо нічога няма, толькі старая груша і студня”, – працягвае пісьмовую гамонку шаноўны сумоўца.

З радзімы ён, як правіла, улетку, прывозіць у Барысаў два-тры літры вады і п’е па глытку, па два. “Вада гэтая стаіць у лядоўні месяцамі, як святая. Вада мае памяць, адчувае адносіны да яе. Таму і карысць яна дае найвялікшую, калі мы дзякуем ёй за нашае жыццё. Вось і я дзякую сваёй шапарнянскай вадзе: яе пілі мае продкі, піла маці, калі мяне насіла пад сэрцам. Усё ў маім маленстве звязана з гэтай вадой”.

Мікола Бельчыкаў ведае пра “Блакітную крыніцу” пад Слаўгарадам, вада якой, як сведчаць газетныя публікацыі, багатая кальцыем і ўтрымлівае вокіс срэбра і круглы год захоўвае аднолькавую тэмпературу – чатыры-пяць градусаў цяпла, тую крыніцу, якая не пацярпела нават ад радыяцыі. Яе наведваюць тысячы турыстаў і паломнікаў. А ён там не быў, бо лічыць не менш цудадзейнай сваю шапарнянскую ваду. І яшчэ мяркуе, што й на Хрышчэнне вада робіцца гаючаю дзякуючы добрым адносінам да яе, а “царква, малітвы, срэбныя крыжы граюць дадатковую ролю, яны толькі накіроўваюць нас у патрэбныя паводзіны і ў тонус”.

У беларусаў ёсць нямала песняў, у якіх апяваецца крыніца, крынічанька. Гэта, вядома ж, не выпадкова!

У свой час казаў мне Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, што яму з роднае Лагойшчыны прывозяць родзічы крынічную ваду і што яна дапамагае падтрымліваць здароўе. Ён выпіваў яе па шклянцы штораніцы. Варта дадаць: пражыў Ніл Сымонавіч амаль 85 гадоў.

На маёй радзіме – у Забалацці (Камянеччына), побач з хутарам, таксама струменіла крыніца. Над ёю цёплымі днямі я любіў нахіліцца, каб зачарпнуць срабрыстай

прахалоды. Пазней, калі закінула жыццё ў гарады, я набіраў тут у пляшачку вады сабе ў дарогу... Але калгасна-саўгасная сістэма маю крыніцу спаганіла, знявечыла і дабіла, зрабіўшы вадапой для буйной рагатай жывёлы... Тая ж сістэма прайшлася бульдозерам па вянку дрэваў, у якім стаяла некалі хата. Міколу Бельчыкаву, дзякаваць Богу, пашанцавала: захавалася не толькі студня, а й груша, якую ў 1947-м годзе ў гонар яго нараджэння пасадзіў ягоны дзядуля Мірон.

"Мая грушка-равесніца ўжо старая, палова галля ўжо засохла, але яна ўсё яшчэ плодзіць, – усцешаны, чытаў я чарговы Міколаў ліст. – Напэўна, мы абое адчуваем падтрымку адно аднаго".

## 3. Дзядуля Мірон, ігруша і разбураны храм

Мы з Міколам Іванавічам нарэшце спаткаліся. Увосень 2015 году ён завітаў у сталіцу на міжнародны конкурс рашальнікаў шахматных задач, які ладзіўся ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі... Прывёз ладныя кіпы шахматнай літаратуры, каб падараваць рэдкасныя асобнікі ўсім, у чыіх вачах блісне агеньчык радасці ад убачаных скарбаў, ім назапашаных.

"Які прыгожы чалавек!" – галоўнае і незабыўнае ўражанне ад той сустрэчы. Зрэшты, як мне шанцавала заўважаць, людзі, прыгожыя душою, абавязкова і вонкава гожыя. Мікола Бельчыкаў – рослы, з прыязнаю ўсмешкаю і здаровым колерам твару; на галаве – багата пасівелых валасоў. Ён ветлівы і сціплы. Між іншага, я даўно прыйшоў да высновы: таленавітыя людзі, як правіла, сціплыя.

Так сталася, што ў дзень нашага вочнага знаёмства я спяшаўся на турнір, таму пагаманіць удалося малавата. Але пра тое, што мяне найбольш тады цікавіла, мы пагутарылі. А зацікавіў мяне, канечне, Міколаў дзядуля Мірон. Мой шаноўны сумоўца распавёў, а пасля і даслаў такія грунтоўныя ўспаміны пра адметнага чалавека, яго сям'ю, што магла б атрымацца аповесць. Я ж узяў самае яскравае і цікавае для мяне з яго жыццёвага шляху, чым спяшаюся падзяліцца з чытачамі.

Мірон Фёдаравіч Раманчыкаў умеў чытаць і пісаць, што для беларускіх сялянаў таго часу было з'яваю рэдкай. Чытаў жа ён не абы-што, а Евангелле – кнігу, якая стала ў яго настольнаю. Ды лёс не песціў адукаванага верніка. У 1914-м годзе яго забралі на Першую сусветную вайну. Дома засталася жонка Варвара з маленькаю дачкою Настачкай і пяцігадовым Нічыпарам. Мірон трапіў у палон. Аж да 1918 году працаваў у баўэраў, добра вывучыў нямецкую мову, што вельмі спатрэбілася яму пазней...

У дваццатыя гады займаўся гаспадаркай у агульнай сям'і Раманчыкавых, якая хутка расла: старэйшы Міронаў брат Ігнат меў ужо сямёра дзяцей, яшчэ дзве дачкі нарадзіліся ў Мірона, адной з іх, Лідзіі, было наканавана стаць матуляю Міколы Бельчыкава.

Праца на зямлі Раманчыкавым давала плён. Браты шмат гадавалі коней, кароў, авечак, мелі сад, лясок, сажалку. Каб добра апрацоўваць і паляпшаць глебу, яны паступова набывалі тэхніку. Так жылі многія сяляне, суседзі, сябры, родзічы. Раённыя цэнтры Жлобін, Рагачоў сяляне забяспечвалі хлебам, мясам, жытам, кажухамі, іншымі неабходнымі таварамі. Але пачалася калектывізацыя, і на руплівых гаспадароў абрынуліся ганенні, актывізаваліся пошукі "ворагаў народа". Мірон цудам пазбег рэпрэсій. Нехта са Жлобіна папярэдзіў: хутка па яго прыедуць, ён у "плане"... Гаспадар мігам сабраўся і з'ехаў на захад Беларусі.

Меў ён залатыя рукі. Выдатны цясляр, разам з сябрам Прохарам абрабляў лес і ўзводзіў зрубы як у вёсках, так і ў горадзе, добра зарабляў, што ратавала сям'ю ў той час, калі ў калгасе за цяжкую працу нічога не плацілі. А цяслярыў сельскі волат аж да сямідзесяці сямі гадоў, склаў не адзін тузін хатаў. Успамінае Мікола Бельчыкаў:

– Дзесьці напачатку пяцідзесятых гадоў, калі мы з дзедам ішлі па Жлобіне, ён гаварыў: “Глядзі, унучак, – вось гэты дом я будаваў, і той, што з-за яго выглядвае, і вунь той, крайні, на супрацьлеглым баку вуліцы”...

У суровым 1941-м на вайну яго не ўзялі (бралі толькі да пяцідзесяці гадоў). Немцы яго і сямейнікаў выселілі, а добрую хату выкарысталі пад свае мэты. А ў 1942-м годзе яны знайшлі ў жыце стрэльбу. Сагналі ўсю вёску, наставілі кулямёты. За мяркуемую сувязь вёскі з партызанамі збіраліся ўчыніць расправу. Але выйшаў Мірон і пагутарыў па-нямецку з кіраўніком карнікаў. Гэта так уразіла афіцэра, што ён адразу ўсіх адпусціў дадому.

Што казаў Мірон таму афіцэру, не вядома: сведкаў няма. Адно бясспрэчна: дзед скарыў ворага. Можа, заваражыў яго добрым валоданнем мовы ці сваёй прыродняю мудрасцю. А мо пераканаў нейкімі незвычайнымі фактамі пра сваіх землякоў, пра Шапарню ці проста растлумачыў, што стрэльба ў жыце – яшчэ не факт сувязі вёскі з партызанамі. Як бы ні было, тая перамога аднаго селяніна над атрадам узброеных да зубоў карнікаў падобная на моцнае гіпнатычнае ўздзеянне.

Аднаго разу Мікола Бельчыкаў заўважыў: “Мірон, мабыць, валодаў нейкай магіяй”. Ён пры гэтым распавёў пра ўнікальны факт: калі кароў і коней на пашы джалілі гадзюкі, ад чаго жывёлы хварэлі-пакутавалі, то людзі па дапамогу ішлі не да ветэрынара, а якраз да Мірона, чые вочы, рукі і словы тварылі цуды – жывёле адразу рабілася лепей.

Сам ён меў выдатны фізічны стан, магутны імунітэт, нічым не хварэў, да апошніх дзён у яго захоўваліся ўсе зубы. Яшчэ валодаў ён моцным голасам. Кожную нядзелю хадзіў у суседнюю вёску Кірава (да 1939 году – Святое), дзе спяваў у царкоўным хоры. Дарэчы, там, у Свята-Пакроўскім храме, Мірон павянчаўся з любаю Варварай. Пазней у той царкве хрысціліся і вянчаліся Іван Бельчыкаў і Ліда Раманчыкава, там жа ахрышчаны і іх сын Мікалай.

Мікола Іванавіч свята захоўвае рэліквію – абраз Міколы Цудатворца, якім бласлаўляліся на шлюб і Мірон з Варварай, і маці з бацькам. Гэта – сямейны рарытэт; іконе больш як сто гадоў.

Сумуе ён па Свята-Пакроўскім храме, які выстаяў не адну вайну, але быў разбураны ў часе разгулу хрушчоўскага бязбожжа. Драматычным стаўся 1964-ы год. Калі каманда зверху прыйшла мясцовым кіраўнікам-атэістам зруйнаваць святыню, яны не марудзілі – да царквы пачалі падцягваць бульдозер, трактар, іншую тэхніку. Замінала супрацьстаянне сотняў вернікаў, гатовых класціся пад гусеніцы і колы, каб толькі суняць вераломства. Аднак глухою халоднаю ноччу напрыканцы кастрычніка 1964 году храм разбурылі. Надоўга змоўклі званы, якія суцяшалі і ядналі людзей.

Спадар Мікола прыслаў мне рэпрадукцыю фотаздымка царквы, зробленага П. Я. Кірычэнкам незадоўга да яе знішчэння. Храм вельмі прыгожы і прасторны, а пабудаваны быў без адзінага цвіка ў пачатку ХХ стагоддзя.

## Уздзеянне роднай зямлі

Пасля нашай сустрэчы ў Мінску, я атрымаў ад Міколы Бельчыкава ліст. Яму тады пайшоў шэсцьдзясят дзявяты год, і ён дапоўніў ранейшы ўспамін пра дзядулю Мірона, пра тое, які ён быў у далёкім 1954-м годзе, калі споўнілася шэсцьдзясят дзевяць гадоў. “Дзед быў тады яшчэ “ого-ого”! – засведчыў Мікола Іванавіч. – Моцны, будаваў хаты, глядзеў гаспадарку, касіў”. Мне асабліва спадабалася ў лісце тое, што гаворыцца далей: “І гэта цяпер для мяне выдатны станоўчы прыклад і наказ – унук павінен быць у гэтым жа ўзросце не горшы. Такое адчуванне, разуменне мяне натхняе, дае розум, сілы надалей”.

***

У вышэй згаданым лісце Мікола Іванавіч расказаў таксама пра дабрадзейнае на яго ўздзеянне Шапарні (як ён кажа, кропкі нараджэння). Неяк гадоў восем таму, як звычайна ўлетку, наведаў ён куточак, дзе нарадзіўся і рос. У прыўзнятым настроі прыхапіў з сабою паўлітра якаснага віна. “Я ніколі гэта не рабіў раней і не раблю зараз, – як бы апраўдваючыся, прызнаецца бывалы чалавек і дадае: – там трэба быць абсалютна чыстым!” А тады ён даволі хутка выпіў цэлую пляшку. “І самае цікавае – амаль ніякай рэакцыі! – працягвае мой сумоўца і разважае пра сапраўдны цуд: магутная доза адрэналіну, якая ўлілася ў кроў ад спаткання з радзімаю, нейтралізавала алкаголь!” А я сказаў бы, што менавіта адрэналін прыдаў і бадзёрасці, а не толькі нейтралізаваў лішнія градусы ўжытага напою, бо пасля той выпіўкі Мікола Бельчыкаў даволі лёгка прайшоў сем вёрст.

Міжволі ўзгадваецца штосьці высокае, чыстае і вечнае, тое, да чаго вяртаюся пасля гамонак з бліскучым шахматным кампазітарам, мудрым і сардэчным чалавекам. Чамусьці ўспамінаецца, хоць лепш сказаць – не забываецца ўнікальнае апавяданне выбітнага нашага Андрэя Федарэнкі “Пеля” – гісторыя пра тое, як зусім нечакана і самым дзівосным чынам роднае балота выратавала юнака ад катастрофы... Твор гэты лёгка знайсці ў яго кнізе “Смута” (1994).

Я назваў сучаснага празаіка, якога, можна не сумнявацца, выхавала класіка. Колькі пакаленняў не стамляецца чытаць і перачытваць геніяльную “Новую зямлю” Якуба Коласа і паўтараць пры нагодзе: *Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!* Не менш хвалюе і радуе філасофія Адама Міцкевіча: *Litwo! Ojczyzno moja! ty jestes jak zdrowie*... Вядома, вядома, аб тым, як трэба цаніць здароўе, той толькі ведае, хто яго страціў...

А вось яшчэ незавядаючае суквецце думкі і пачуцця – у Афанасія Фёта (так, так – не ў Фета, а ў Фёта, бо ён – чыстакроўны немец, аднак жа чароўны расійскі лірык!):

Так долго скитаться наскуча
Над ширью полей и морей,
На родину тянется туча,
Чтоб только поплакать над ней!

Я ўсцешаны: столькі светлых думак і пачуццяў, радасных і шчымлівых успамінаў выклакалі інтэлектуальныя кантакты з Міколам Бельчыкавым!

***

Цяпер я не здзіўлюся, калі знаны майстар распавядзе мне аднойчы пра тое, як родны кут, сказаць больш дакладна – калодзеж, з цудадзейнаю вадою, і старэнькая ігруша на сядзібе ягонага дзяцінства дапамаглі яму за непрацяглы час наведання Шапарні скласці задачу, над якою безвынікова біўся цягам некалькіх месяцаў, а то і гадоў. Я ўжо нават чакаю такую навіну.

*Ліпень, жнівень – 5 верасня 2016*



Аляксандр Тамковіч



...беларускія кнігі праз нас бачныя для ўсёй Швецыі...

# Готланд – далёкі і блізкі

***Гутарка з Аленай Пастэрнак***

*Мне пашанцавала. Алене Пастэрнак, кіраўнічцы Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў на выспе Готланд (Швецыя), з Саюза беларускіх пісьменнікаў па электроннай пошце "скінулі" маё фота, і яна, нягледзячы на пачатак штогадовага адпачынку, асабіста сустрэла абсалютна незнаёмага беларускага журналіста проста ў аэрапорце горада Вісбю. Зрабіць так можа толькі чалавек з надзвычай добрай душой.*

*Праз пэўны час я даведаўся, што Алена – унучка (па лініі брата) знакамітага Нобелеўскага лаўрэата, а калі яе адпачынак скончыўся, адбылася гэтая размова.*

***Аляксандр Тамковіч: Прапаную пачаць са знаёмства, з таго, што пішуць у даведніках "Хто ёсць хто"?***

***Алена Пастэрнак:*** На мой погляд, больш лагічна "кропкай адліку" ўзяць не сямейную гісторыю, а маю дзейнасць у Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў (Baltic Centre for Writers and Translators). Я ўжо трэці дырэктар, хаця непасрэднай

работай Цэнтра пачала займацца значна раней, дапамагала яму з самага стварэння. У большасці гэта былі літаратурныя пераклады. А потым Гуніла Форсэн, якая тады тут была галоўнай, прапанавала стаць асістэнтам дырэктара на сталай аснове.

Па адукацыі я філолаг. У той час жыла і працавала ў Стакгольме, аднак часта прыязджала на Готланд выкладаць у мясцовым універсітэце рускую мову і літаратуру, уводзіны ў рускую літаратуру, розныя курсы перакладаў. Стварэнне Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў (БЦПП) паводле прынцыпу добра знаёмых савецкім людзям Дамоў творчасці прыцягнула да Готланда значную ўвагу. Усё тут імкліва пачало развівацца. У тым ліку і ўніверсітэт.

Выспа мне вельмі падабалася, таму на пераезд пагадзілася адразу. Было гэта напрыканцы 1999 года. Потым кароткі час Цэнтр узначальвала Герда Хелена Ліндског, а затым зноў я.




*Алена ПАСТЭРНАК ля будынка Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў*

***– Ну а далей будзе звычайнае для такіх выпадкаў пытанне: як усё пачыналася?***

– Дом, дзе зараз месціцца будынак Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, быў пабудаваны ў 1822 годзе так званым “Таварыствам сяброў купання”. Як і многія закрытыя аб’яднанні тых часоў, яно складалася выключна з мужчынаў. Тады падобныя ўтварэнні былі вельмі распаўсюджанымі. Адмыслова падкрэсліваю, што “Таварыства сяброў купання” створана і існуе па наш дзень толькі ў Вісбю. Нічога падобнага больш у свеце няма нідзе.

У пазамінулым стагоддзі была вельмі папулярнай “Шведская гімнастыка”, якую заснаваў вядомы тэрапеўт і навуковец Пер Хенрык Лінг, чый сын Ялмар прыдумаў знакамітую “шведскую сценку”. Сутнасць “Шведскай гімнастыкі” ў тым, што сёння называюць здаровым ладам жыцця і яднаннем з прыродай.

У выспы Готланд (горад Вісбю – сталіца) адрозны ад мацерыковай Швецыі клімат. Звычайна тут на 5-6 градусаў цяплей. Гэта і стала асновай аб’яднання для купання, якое, як высветлілася, яшчэ і карыснае для здароўя.

Такім чынам, “Бацькі горада” ўтварылі “Таварыства сяброў купання”. Акрамя купання і гімнастыкі яны займаліся яшчэ і філантропіяй. Гэта былі людзі надзвычай багатыя. Менавіта яны заснавалі невялікі батанічны сад нашага горада. Дарэчы, тэрыторыя, дзе ён і месціцца, належыць ім і сёння. І мясцовы банк таксама іхні.

Купаюцца гэтыя людзі і цяпер. Кожны год, 9 ліпеня, збіраюцца на беразе Балтыйскага мора ў купальных касцюмах, вядомых па экранізацыі знакамітага твора англійскага пісьменніка Джэрома К. Джэрома “Трое ў лодцы...”. Прымаюць водныя працэдуры, а потым п’юць херас.

У любое надвор’е...

Аднак вернемся да гісторыі.

У XIX стагоддзі ў Амерыцы, Англіі, Францыі і па ўсёй Еўропе набірала абароты створаная Эндру Бэлам і Джозефам Ланкастэрам вельмі модная і прагрэсіўная сістэма адукацыі, калі старэйшыя і больш дасведчаныя вучні дапамагалі настаўнікам вучыць вучняў малодшага ўзросту.



*Готландскі краявід. Фота Уладзіміра Сіўчыкава.*

Лідарам Вісбю хацелася не адставаць ад усяго новага, перадавога, і пабудаваны імі дом адразу стаў школай для хлопчыкаў з бедных сем'яў. Тут яны разам з настаўнікамі жылі і вучыліся.

На памятнай шыльдзе ля ўваходу першым напісана прозвішча сябра таварыства Цімаці Сегердаля, які непасрэдна і фундаваў будаўніцтва. Потым у будынку месцілася школа навігацыі, а затым майстэрня, дзе шылі ветразі для караблёў.

У 1960 годзе былі пабудаваныя яшчэ два будынкі, а гэты дом перарабілі ў інтэрнат. Тут жылі толькі хлопчыкі. Дзяўчаты былі ў новым будынку. Там цяпер месціцца арганізацыя, якая займаецца бежанцамі. Нам засталіся толькі два будынкі. Гэты дом, у якім мы знаходзімся цяпер, і дом, дзе зараз месціцца бібліятэка, залы для работы, адпачынку і кухня, якая раней была агульнай сталовай. Цікава, што ў маленькім пакоі нашага офіса некалі месцілася ахмістрыня.

Жылі вучні па даволі суровых правілах. Не скажу, што існаваў “каменданцкі час”, але было шмат забаронаў, накіраваных на тое, каб дзяўчаткі і хлопчыкі не толькі менш кантактавалі паміж сабой, але і з наваколлем.

Бывала, некаторыя не вытрымлівалі такога строгага жыцця і збягалі, альбо бацькі здымалі для іх жытло ў прыватным парадку, бо тут звычайна жылі дзеці з сельскай мясцовасці, то бок тыя, хто прыязджаў у Вісбю з вёсак.

Вучыліся яны ў другім месцы, цяпер там школа для дзяцей з першага па шосты клас.

Што датычыцца сучасных функцый нашага будынка, то ўсё пачалося ў 1992 годзе. Версій шмат, але самая прыгожая каранямі ў 1989 годзе, калі рухнуў берлінскі мур і пачаліся цесныя кантакты паміж людзьмі антаганістычных дагэтуль палітычных сістэм.

На той час старшынёй шведскага саюза пісьменнікаў быў паэт Петэр Готман, які, акрамя літаратурнай дзейнасці, актыўна займаўся і грамадска-палітычнай.

Як вядома, збольшага творчыя людзі заўсёды жывуць не толькі літаратурай. Тое, што адбываецца вакол, іх цікавіць перш за ўсё, таму цалкам зразумела, чаму менавіта пісьменнікі так актыўна падтрымалі перабудову міжнародных і чалавечых адносінаў.

У лютым 1992 года цеплаход “Канстанцін Сіманаў”, які ў васьмідзесятыя гады хадзіў па маршруце Ленінград-Стакгольм, па ініцыятыве мясцовых пісьменнікаў і асабістай прапанове тагачаснага ленінградскага (першага абранага дэмакратычна) мэра Анатоля Сабчака выправіўся ў спецыяльны круіз па Балтыйскім моры. Грошы на гэта выдзеліла кіраўніцтва Швецыі. Нашая краіна заўсёды зацікаўленая ў тым, каб іграць у рэгіёне адну з самых важных роляў. Ва ўсіх сферах. У тым ліку і ў культуры.

На борце “Канстанціна Сіманава” было сабрана каля чатырох соцень пісьменнікаў з розных краін Балтыкі. Адной з цяжкасцей была мова іх камунікацый. Руская мова асацыявалася (у першую чаргу ў постсавецкіх краінах і постсацыялістычных са “спадчынай” Савецкага Саюза), а ангельскую многія не ведалі, але гэты моўна-гістарычна-ідэалагічны бар'ер у рэшце рэшт быў пераадолены.



Дорогие Гунилла и Лена,
Вы сотворили дом, у которого есть – Сердце.
Спасибо за радость работы в нём – у моря и камня, где становишься чист, как ребёнок. Спасибо за радость искренней дружбы и помощи.
Спасибо за всё то, что теперь для меня имеет имя – Baltic Centre, Gotland.
Светлана Алексиевич
28.IX.94г.

*Аўтограф Святланы Алексіевіч у гасцявой кнізе Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў. Фота Уладзіміра Сіўчыкава.*

Падарожжа цягнулася два з паловай тыдні. Пісьменнікі наведалі амаль усе буйныя порты Балтыйскага мора. Недзе праходзілі сустрэчы з кіраўніцтвам, недзе літаратурныя чытанні, недзе семінары, канферэнцыі і г.д. Там і нарадзілася думка пра неабходнасць стварэння месца, дзе потым можна будзе зноў камунікаваць.

Шмат каму тады здавалася, што адкрываецца новы свет, але далёка не ўсё было проста і без праблем. У вартасці новага праекту шмат каго трэба было персанальна пераканаць. Усе разумелі, што ад гэтага павінен быць вынік, аднак ніхто тады не ведаў, якім ён будзе на самой справе.

Зразумела, што для любога пачынання патрэбныя сродкі, і, наколькі я ведаю, у нямецкага горада Любек былі на гэты конт пэўныя амбіцыі, але лёс аддаў перавагу шведскай выспе Готланд.

Цікава, што першапачаткова наведванне нашай выспы не было запланавана ўвогуле, але шведскія пісьменнікі на гэтым настаялі.

Калі не памыляюся, Вісбю яны наведалі нават раней за Стакгольм, а скончылася ўсё ў Хельсінкі.

Сустрэў іх тут новы губернатар. Малады, жонка працавала бібліятэкарам. Яны літаральна абагаўлялі літаратуру і культуру. Менавіта губернатар тады адказваў за рэгіянальнае развіццё.

Усе 400 пісьменнікаў былі прынятыя, што называецца, “па першым разрадзе”. Спецыяльна для гасцей было распрацавана некалькі варыянтаў знаёмства з выспай. Напрыклад, па жаданні яны маглі наведаць месца, дзе Андрэй Таркоўскі ў 1986 годзе здымаў свой апошні фільм “Ахвярапрынашэнне”. Дарэчы, некалькі месяцаў таму споўнілася трыццаць год гэтай падзеі, і мы ладзілі адпаведную імпрэзу.

Таркоўскі хацеў знайсці для здымкаў такое месца, якое не пазнае ніхто, і спачатку абраў суседнюю выспу Форэ, але там была вельмі мілітарызаваная зона, у якую ўезд іншаземцаў быў забаронены. Потым абмежаванні знялі, і на гэтай выспе да самай смерці жыў знакаміты шведскі рэжысёр Інгмар Бергман.

Падчас “халоднай вайны” Готланд і выспы вакол яго былі суцэльнай вайсковай базай, бо з ваеннага пункту гледжання гэта вельмі зручны плацдарм, які размешчаны амаль пасярэдзіне Балтыйскага мора. Тады ў нас вайсковая служба была абавязковай для ўсіх мужчынаў, таму цяпер я даволі часта сустракаю тых, хто служыў менавіта тут.

Да слова, Готланд вельмі спадабаўся і пісьменнікам. Тэрытарыяльна ён належыць Швецыі, але тут не толькі свой мікраклімат – у чалавека ўзнікае пачуццё незвычайнай свабоды. Магчыма таму, што ў розныя часы выспа была не толькі шведскай, але і дацкай, расейскай, сталіцай піратаў, належала Тэўтонскаму ордэну і нават з’яўлялася “свабоднай рэспублікай”. Пэўна, недзе ў калектыўнай памяці гэта і мае свой адбітак.

Ды і сам Вісбю вельмі цяжка назваць шведскім горадам. Хутчэй за ўсё гэта нешта напалову нямецкае, сярэднявечнае. Тут захавалася вельмі шмат чаго ўнікальнага перш за ўсё таму, што горад быў надзвычай бедным і знаходзіўся на абсалютнай перыферыі грамадска-гандлёвага жыцця.

Так, падчас панавання так званага “шведскага сацыялізму”, шалёныя праекты ўсё зруйнаваць былі і тут, але, дзякуй Богу, не атрымалася. Усё захавалася так, як

і было некалькі стагоддзяў таму: тая ж крапасная сцяна пабудаваная не супраць гармат. Яна абараняла толькі ад катапультаў.

А вось таму ж Стакгольму моцна не пашанцавала. У цэнтры зруйнавалі ўсе будынкі мяжы XIX і XX стагоддзяў... Такая ж карціна ў большасці буйных шведскіх гарадоў... Цяпер – плачуць, а тады плач іншых нават чуць не хацелі...

Готланд літаральна зачараваў пісьменнікаў розных краін. Многія з іх выказваліся, каб нейкім чынам было працягнута тое, што нарадзілася на цеплаходзе "Канстанцін Сіманаў".

Калі падарожжа было скончанае, Петэр Готман і яго аднадумцы сфармулявалі сутнасць новай ідэі. У архівах той дакумент знайсці няцяжка і сёння. Калі ён быў гатовы, яго накіравалі ў Камітэт па культуры. Гэтая грамадская арганізацыя цесна супрацоўнічае з адпаведным міністэрствам, і дакумент хутка трапіў на стол тагачаснага міністра культуры Швецыі Біргід Фрэкебуг. У кіроўным альянсе яна прадстаўляла маленькую партыю правацэнтрысцкага кшталту.

Ідэя там таксама вельмі спадабалася і неўзабаве была прадстаўлена на канферэнцыі міністраў культуры балтыйскіх і паўночных краін, а шведскі парламент (у нас называецца рыксдаг) вылучыў неабходнае фінансаванне. Супраць была толькі адна партыя, якую ўсе лічаць расісцкай.

Так 13 траўня 1993 года ва ўрачыстай абстаноўцы (прыехала шмат пісьменнікаў і палітычных дзеячаў) узнік Балтыйскі цэнтр пісьменнікаў і перакладчыкаў. Структура цалкам незалежная ад дзяржавы. Кіруецца яна невялікім праўленнем, дзе большасць не чыноўнікаў, а пісьменнікаў. У склад гэтага праўлення (абнаўляецца кожныя два гады) сёння ўваходзіць і беларуска Юля Цімафеева. На мой погляд, гэта вельмі слушна, бо яна прадстаўляе маладое пакаленне.

У сярэднім за год у нашым цэнтры працуюць літаратары з 30-35 краін, усяго ж з 1993 года тут пабывалі творцы амаль з шасцідзесяці краінаў свету.

***– А калі сюды пачалі ездзіць беларусы?***

– Амаль з самага пачатку існавання Цэнтра. Першымі беларускімі пісьменнікамі (каго я памятаю) былі Святлана Алексіевіч і Васіль Быкаў. Потым яны тут працавалі па некалькі разоў. Збольшага гэта было яшчэ да таго, як разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў Шведскі саюз пісьменнікаў і наш Цэнтр пачалі ладзіць сумесны праект, які працягваецца ўжо пяць год і дазваляе тут прымаць чатырох вашых пісьменнікаў у год.

Дарэчы, па-за межамі гэтага праекта з Беларусі таксама прыязджаюць пісьменнікі і перакладчыкі. Рознымі шляхамі. Тыя ж Някляеў альбо Арлоў, напрыклад.

Са Святланай Алексіевіч мы сустракаліся шмат разоў (не толькі тут) і сталі добрымі сябрамі.

Шмат гадоў таму, напрыклад, у шведскім дзяржаўным тэатры, які арыентаваны на маладых гледачоў, паставілі "Чарнобыльскую малітву", і больш за паўгода яе паказвалі па ўсёй Швецыі. Я працавала над часткай драматургіі гэтай п'есы і даволі цесна кантактавала са Святланай. Не толькі адносна тэксту. У нас было шмат розных планаў, прыдумак. Многія з іх ажыццявіліся.

Тэатр запрашаў на прэм'еру "Чарнобыльскай малітвы", але Святлана прыехаць не магла і мы трапілі толькі на апошні спектакль. Адбыўся ён у царкве (здаецца, дазвол на гэта быў атрыманы ў 40 цэрквах з 70-ці) невялікага горада Трэлеборг, што паблізу Мальмё. Разам з акцёрамі мы некалькі дзён жылі ў адным з мясцовых гатэляў. Было надзвычай цікава дакрануцца да сакрэтаў іх прафесіі, паглядзець на неардынарныя рэжысёрскія рашэнні.

Менавіта там я пазнаёмілася з кіраўніком гэтага тэатра Монікай Спарге, якая праз некалькі гадоў пераехала на Готланд і стала мастацкім кіраўніком і дырэктарам тэатра, які месціцца на нашай выспе.

Хачу падкрэсліць, што гэта было задоўга да таго, як Святлана Алексіевіч стала Нобелеўскай лаўрэаткай...

А што датычыцца Васіля Быкава, то ў нас нават захаваліся яго малюнкі, якія зробленыя ім у Вісбю. А падчас знаходжання тут, ён, калі не памылюся, перакладаў на рускую мову сваё сюррэалістычнае апавяданне "Труба".

Праз некаторы час я наведала Быкава ў Хельсінкі. На жаль, гэта была апошняя наша сустрэча...

***– Спадарыня Алена, а колькі пісьменнікаў Цэнтр можа прыняць за год?***

– Каля дзвюх сотняў чалавек. І гэта пры тым, што адначасова тут можа працаваць толькі максімум 13 творцаў.

Бывае, усё ажыццяўляецца ў межах нейкіх нашых асабістых праектаў. Бывае, падтрымка адбываецца ў краінах, адкуль да нас едуць госці. Бывае, фінансавага складніка ўвогуле няма, бо галоўнае, для чаго сюды прыязджаюць людзі – працаваць.

У нашай бібліятэцы – некалькі тысяч кніг. І гэта пры тым, што тут знаходзіцца далёка не ўсё, што трапляе ў Цэнтр. Ёсць сярод іх і тыя, што пісаліся ў Вісбю.

***– Не вельмі люблю слова "іншыя", таму не буду пытацца пра канкрэтныя персаналіі і пацікаўлюся толькі лічбай. Колькі за гады існавання Цэнтра тут пабывала беларускіх пісьменнікаў?***

– Каля сарака чалавек. Плюс дзесяць перакладчыкаў у мінулым годзе.

***– У вашай бібліятэцы ёсць беларуская паліца. Як яна ўзнікла?***

– Некаторыя кнігі прывезлі сюды самі пісьменнікі, а збор твораў Васіля Быкава нам прэзентаваў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Паўтаруся, што беларускія пісьменнікі і перакладчыкі тут працавалі заўсёды.

Першапачаткова ў нас не было спецыяльнай беларускай паліцы. Былі толькі асобныя кнігі, якія стаялі сярод іншых, бо наша бібліятэка пабудаваная па прынцыпе Балтыйскай бібліятэкі, то бок у першую чаргу складаецца з твораў пісьменнікаў розных краін Балтыкі, якія былі напісаныя на мовах гэтага рэгіёна – шведскай, дацкай, нарвежскай, фінскай, латышскай, літоўскай, эстонскай, рускай і г.д. Усе астатнія былі сабраныя ў раздзеле "іншыя мовы". У тым ліку і беларускія. Потым для іх зрабілі асобную паліцу.

У нас няма магчымасці купляць кнігі. Большасць з іх у нас – падарункі, а таксама кнігі, якія нарадзіліся альбо стваралiся тут. Іх прывозілі самі пісьменнікі і перакладчыкі, або перасылалі іх выдавецтвы. Пэўная логіка ў гэтым ёсць, бо ўмоўна кожная кніга як бы належыць нашаму Цэнтру. Гэта як дзіця, якое вярнулася дамоў...

Пачыналася ж бібліятэка з вялікага польскага кнігазбору, які нам прэзентавала польская амбасада ў Швецыі, а амаль увесь дацкі раздзел складае асабістая бібліятэка аднаго дацкага пісьменніка, які працаваў у Цэнтры. Ён яе таксама прэзентаваў.

У той жа час у нас няма месца, каб размясціць тут усе кнігі, таму мы даволі часта абмяркоўваем, для чаго створана гэтая бібліятэка, якія функцыі, яна выконвае.

У Швецыі існуе сістэма "Ліберыс" (па такім жа прынцыпе, напрыклад, працуе бібліятэка Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі). Мы ў яе ўваходзім і перыядычна адчуваем сваю ўнікальнасць, бо ў Цэнтры знаходзіцца шмат кніг, якіх няма ў Швецыі. Фізічна гэты каталог кіруецца з Каралеўскай бібліятэкі, якая знаходзіцца ў Стакгольме. Даволі часта мы атрымліваем заяўкі (праз інтэрнэт) з просьбай прыслаць неабходную рэч.

Такім чынам беларускія кнігі праз нас бачныя для ўсёй Швецыі.

І не толькі кнігі.

У Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў шмат розных функцый. Мы адкрываем літаратурнаму свету новыя імёны, ладзім розныя культурныя і асветніцкія праграмы БЦПП у пэўным сэнсе – мы інфармацыйны шлюз сучаснай літаратуры.

Вера Лойка



…а можа,

гэта быў сон…

# Шведскія канікулы

Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, то Швецыя безумоўна – з аэрапорта Арланда. І пачатак гэты можа мець розны настрой, мяне, да прыкладу, у першую гадзіну знаходжання на шведскай зямлі наведвала думка – і чаго гэта мне не сядзелася дома, што я тут згубіла? Нічога не згубіла, гэта чыстая праўда, а вось калі б пабаялася такой цудоўнай прыгоды – паехаць на тры тыдні ў краіну, мовы якой не ведаю, ды мала за тое, яшчэ і ўсюдыіснай ангельскай таксама, ды з перасадкай у адным з найбуйнейшых аэрапортаў свету – то пэўна шмат бы чаго не знайшла. Але пра знаходкі пазней. Пакуль што я прыляцела ў стакгольмскі аэрапорт Арланда самалётам "Белавія", дзе бортправадніцы размаўляюць па-беларуску і па-ангельску і ўсё цудоўна. Вось толькі ёсць нейкае прадчуванне, што далей праблемы будуць. І чакаць яны не прымушаюць.

Аэрапорт Арланда – вялізны лабірынт, запоўнены людзьмі розных рас і нацыянальнасцяў, якія ўсе як адзін – так мне падалося – акрамя роднай ведаюць ангельскую мову. Да іх паслуг усё – аб'явы, табло, указальнікі, служба даведкі (я яе не бачыла, але ведаю, што ёсць такая), шматлікія супрацоўнікі.

Рускай мовы тут не разумее ніхто, апроч эмігрантаў з постсавецкіх рэспублік, што працуюць у службах аэрапорта, але як ты іх знойдзеш? Некаторыя службоўцы хоць на мігах спрабуюць разабрацца, што мне трэба і чым яны могуць дапамагчы, і дапамагаюць, дзякуй ім. Але ж пакуль я дабяруся з пашпартнага кантролю ў тэрмінале № 5, куды я прыляцела, у тэрмінал № 4, адкуль адпраўляецца самалёт авіякампаніі SAS у Вісбю, мне трэба прайсці мо з кіламетр. На гэтым шляху прыйдзецца атрымаць багаж, памяняць грошы, аўтаматычна (!) зарэгістраваць свой электронны білет, ізноў здаць багаж, прайсці асабісты кантроль і нарэшце знайсці выхад на пасадку...

І вось тут ёсць адзін момант, пра які, нягледзячы на яго казытлівасць, я ўсё ж хачу сказаць. Без высноваў. За стойкамі сядзяць і стаяць служачыя аэрапорта розных нацыянальнасцяў. Шведы і... не шведы, і нават не еўрапейцы, а так званыя мігранты з краінаў трэцяга свету. Іх тут шмат. Здаецца, людзі прайшлі цяжкі шлях са сваіх часам небяспечных для жыцця краінаў да гэтай вось багатай, добраўпарадкаванай, рэспектабельнай Швецыі, што з'яўляецца марай мільёнаў абяздоленых у свеце. І ў іх усё атрымалася, яны маюць добрую працу і напэўна шмат яшчэ што. Ну хто ж як не яны прасякнуцца спачуваннем да разгубленага падарожніка, прычым жанчыны, у якой ужо слёзы на вачах паказаліся? Дык вось жа не. Яны нават не спрабуюць зразумець, проста адмахваюцца – не ведаю, маўляў. Адна мулатка, праўда, паглядзела на мой білет і паказала напрамак. У выніку я праменька прытопала ў тэрмінал № 3, які да майго падарожжа ніякага дачынення не меў, а з поўкіламетра шляху дадаў. І добра яшчэ, што часу да рэйса ў мяне было дастаткова, а то ў выніку гэтай "прагулкі" магла б і на самалёт спазніцца. Ды і асабісты дагляд прыйшлося праходзіць паўторна, бо вярнулася я якраз туды, адкуль зайшла. Па коле.

Адзін службовец грэбліва скрывіўся, пачуўшы рускую мову. Жэст яго дакладна паказваў, што дапамогі чакаць дарма. І як яму патлумачыць, што я ўвогуле з Беларусі, якая не захоплівала Крым, не збівала малайзійскі Боінг, не ваюе ў Сірыі і нават у Палтаўскай бітве не ўдзельнічала? Праўда, пасля гэтага я памяняла парадак заціснутых у руках дакументаў – пашпарт паклала вокладкай уверх, каб відаць быў надпіс "Republic of Belarus" і наогул тое, што пашпарціна ў мяне не "краснокожая". Было страшна, сорамна і... хацелася дадому.

І вось калі я, ужо амаль у слязах, апусцілася ў пластыкавае крэсла побач з немаладой шведскай сужэнскай парай, усё цудоўным чынам перамянілася. Не, мая суседка не ведала рускай мовы, але яна таксама ляцела ў Вісбю. І за яе спінай быў досвед не змагання за від на жыхарства ў багатай краіне, не – за яе спінай быў досвед жыцця на сваёй зямлі, у сваёй краіне, побач са сваімі суседзямі, адпаведна сваёй культуры... А гэтая культура прадугледжвае гонар за Швецыю і павагу да іншых краінаў. Паглядзеўшы на вокладку майго пашпарта, жанчына плаўна правяла ў паветры рукой, нібы хвалю намалявала і радасна сказала: "О, Беларусь! Лён, лён, лён..." Я потым паглядзела ў слоўніку – па-шведску лён – *lin*. Можна сказаць, што ў самалёт яна мяне прывяла за руку. А ў аэрапорце Вісбю мы абняліся на развітанне і гэту сустрэчу я буду памятаць усё жыццё.

Выснова з маіх аэрапортаўскіх прыгод можа быць толькі адна – англійскую мову трэба вучыць. Апроч таго, што яе няведанне стварае шмат праблем, яшчэ і сорамна. І не толькі за сябе – за краіну.

Але вось я ўжо ў самалёце і ён ляціць над морам. Я не разумею мовы бортправадніц, ды і не замарочваюся гэтым – інструкцыі па бяспецы я сёння ўжо выслухала па-беларуску, а выбраць з двух прапанаваных напояў – чай ці кава – нескладана. Ды і лёту да вострава Готланд 45 хвілінаў і мы ўжо прызямляемся. Пасля Арланда мне ўжо нічога не страшна. У мяне ёсць напісаны на паперы адрас Балтыйскага дома, а таксісты – яны і ў Швецыі таксісты. На рабочым

стале ноутбука намаляваны падрабязны план – пад якім гаршком з кветкамі мяне чакае ключ ад пакоя. Ды план не спатрэбіўся, мяне сустрэла Лена – гаспадыня Балтыйскага дома і ўсе трывогі засталіся ззаду, бо я ўжо была не адна.

У горад мы паехалі не кароткім шляхам, а па беразе мора. Апошні раз я бачыла мора на пачатку васьмідзесятых. Цэлае жыццё прайшло. Я іншая, свет іншы, а мора... хіба можна яго ідэнтыфікаваць. Яно вечнае і пераменлівае. І зачароўвае з першай хвіліны. Калі Лена спыніла машыну на беразе – сонца садзілася за далягляд і ад яго наўпрост да нас бегла вогненная сцежка. Чамусьці менавіта "за мора" сонца хаваецца імкліва, так што не паспяваеш знайсці ў сумцы фотаапарат. О невылечная нашая прага ўсё задакументаваць! Я то паспела, але ж ніякі здымак не можа перадаць чароўнасці гэтага моманту. Яго не захаваеш ні ў фотаальбоме, ні ў кампутары. Толькі ў сэрцы.

А потым мы праехалі вароты ў крэпасной сцяне, што атачае стары горад. Сцяна мае працягласць усяго 3,5 кіламетра, таму тут усё побач. Заблукаць немагчыма. З любой кропкі ўбачыш лютэранскую царкву, якая аказваецца проста перад маім акном. А за вежамі царквы відаць мора, таму што дом стаіць на скале і позірк дасягае той рысы, што падзяляе неба і мора. Або злучае.

З горадам я буду знаёміцца заўтра, сёння – з домам. Уласна кажучы, іх два. У адным жылыя пакоі, у другім – бібліятэка, кіназала, кухня, пральня, сауна – усё, што трэба і нават больш. У самым маленькім пакоі працуюць Лена і Патрык – нашыя гаспадары. Ключ ад майго пакоя адчыняе ўсе дзверы – і ў абодва домікі і нават у смеццевыя скрынкі побач з уваходам. Тут раздзельны збор смецця – у адну скрыню скідваецца так званы кампост – адкіды ежы ў адмысловых пакетах, у другую астатняе. Ні паху, ні бруду, ды і самога смецця не відаць, яно падае ўніз па схіле, а дзе прызямляецца – не відно. На кухні ўсё, што можа спатрэбіцца самай спрактыкаванай і патрабавальнай гаспадыні ў колькасці, якая нашмат пераўзыходзіць патрэбу. Нарэшце навучуся карыстацца пасудамыйкай. Дагэтуль у мяне з ёй кантакту не было. Добра, што не прыхапіла з дому тэрмас – іх тут каля дзясятка, на ўсіх хопіць. У кожнага свая паліца ў халадзільніку, свой кантэйнер для прадуктаў.

У мяне ў чамадане ёсць патрончык з ніткамі і голкамі, як напэўна ў кожнай жанчыны, але на століку тых нітак вялікая каробка – усіх магчымым колераў. Ну нічога, патрончык мой багаж не абцяжарыў, ён маленькі, а вось рэчаў можна было б напакаваць і меней, бо ёсць пральныя машыны і машына-сушылка. Тут прадугледжана практычна ўсё. Граеш на гітары? Ёсць гітара. На фартэп'яна? Таксама ёсць. Падабаецца снедаць, піць чай-каву на свежым паветры? З кухні можна выйсці да абсаджанага кветкамі белага століка і такіх жа крэслаў. Там жа стаяць некалькі веласіпедаў – самы папулярны транспарт у Вісбю. Пакуль вы госць у гэтым доме, у ваш пакой ніхто не заходзіць. Калі трэба прыбраць – пыласос недалёка. Памяняць пасцельную бялізну таксама можна самому, калі вы палічыце гэта патрэбным. У жылым доміку ёсць яшчэ адна маленькая кухня з халадзільнікам, посудам і электрачайнікам. Чаго яшчэ чалавеку жадаць – я не ведаю. Адпачывай, працуй і ні аб чым не клапаціся – усё прадумана. Але ж у жыцці так не бывае.

Аказваецца – бывае. Спала я моцна, нягледзячы на тое, што гадзіннік на царкоўнай вежы біў кожныя трыццаць хвілін. Калі не даймае бяссонне – ноч праходзіць хутка-хутка. І вось наступіла мая першая шведская раніца. Здавалася б – у першую чаргу варта ісці да мора, але першая мая прагулка была нерамантычнай – я пайшла шукаць прадуктовую краму. На мора ў мяне наперадзе часу хапала, але ж сняданкі-абеды-вячэры павінны быць і ў Швецыі. У Балтыйскім доме кожны займаецца сваім правіянтам сам. І гэта цудоўна, бо ты не звязаны ніякім раскладам і можаш паесці ў любы час дня і ночы. Патрэбная крама знай-

шлася хутка, праз якіх пяць хвілінаў і знаходзілася яна на галоўнай плошчы старога горада. Убачыўшы мяне на парозе, касірка здалёк выгукнула “хэй!” і памахала рукой. “Хэй” па шведску значыць “прывітанне”. Вітаюцца тут паўсюль, куды б ты ні зайшоў. Можна проста выпадкова сустрэцца з чалавекам позіркам на вуліцы і гэтага дастаткова для прывітання. Павага да асобы ў шведаў нешта накшталт нацыянальнай ідэі. Калі ў касу збіраецца невялікая чарга, то стаяць у ёй пакупнікі будуць на адлегласці не менш як метр адно ад другога, каб крый Божа, не парушыць нічыёй асабістай прасторы і не закрануць сваім кошыкам. Камер захоўвання ў крамах няма, у гандлёвую залу заходзіш з усімі сваімі валізамі і ніхто ў іх не заглядвае ні на ўваходзе, ні на выхадзе. Не трэба і казаць, што няма ніякіх спрэчак, ніхто не спрабуе пралезці без чаргі. Ды хіба гэта чэргі? Касіры абслугоўваюць хутка, бо з дробяззю валэндацца не трэба – самая дробная манета гэта крона. Манеты апускаюцца ў шчыліну касавага апарата, адтуль жа ў латок выпадае рэшта. Касір прымае-выдае толькі купюры. Існуюць і касы самаабслугоўвання, дзе аплата адбываецца картачкай, і карыстаюцца імі нават школьнікі.

Прадукты, якія заўтра ўжо будуць не зусім свежымі, асабліва хлеб і разнастайныя булачкі, бліжэй да вечара ўцаняюцца ў два-тры разы. Гэтак жа за бясцэнак можна купіць фрукты, якія пакуль што маюць абсалютна таварны выгляд, але могуць страціць яго заўтра. Рабіць пакупкі ў шведскай краме лёгка і прыемна. І няведанне мовы тут не перашкаджае – ёсць малюнкі, ёсць празрыстая ўпакоўка, ды ў рэшце рэшт жаночай інтуіцыі таксама ніхто не адмяняў. Дапазна ў Вісбю працуюць толькі прадуктовыя крамы, усе астатнія – такія як сувеніры, адзеннеабутак, кнігі – зачыняюцца ў 16 гадзін і іх супрацоўнікі прысвячаюць вольны час сабе і сям’і – ну ў каго што ёсць. Некаторыя  шведскія кампаніі ўвялі ў сябе 6-гадзінны рабочы дзень. Матыў такі: захаваць канцэнтрацыю і працаздольнасць на працягу 8 гадзін – амаль немагчыма для большасці людзей. Таму работнікі змушаны рабіць паузы, іх час выкарыстоўваецца неэфектыўна. Аказалася, што за 6 гадзін супрацоўнікі паспяваюць зрабіць не менш, чым зрабілі б за 8.  У іх застаецца больш энергіі і часу для асабістага жыцця, яны адчуваюць сябе больш паспяховымі і шчаслівымі. Для шведскіх працадаўцаў гэта аказваецца важна. “Дзяржава для народа”, – добры слоган, хто спрачаецца. У шведаў гэта і на справе рэалізоўваецца.

Вуліцы Вісбю – гэта тэма асобная. Па іх можна хадзіць бясконца. Ну, па-першае, нават у мокрае надвор’е ногі не замочыш, бо вуліцы брукаваныя і сцёкі добрыя. На маіх вачах брыгада літоўскіх хлопцаў пракладала на суседніх Балтыйскаму дому вуліцах кабельны інтэрнет. Яны акуратна падымалі камяні брукаванкі, капалі траншэю, клалі кабель і да вечара “рабілі як было”. Брук ляжаў на месцы, чыста падмецены і ніякіх нязручнасцяў ад іх працы ніхто не адчуваў. Турыстычны сезон ужо мінуў, але ў пятніцу-суботу некалькі груп з гідам абавязкова сустрэнеш у цэнтры. Белы карабель з надпісам “Готланд”, што павольна праплывае некалькі разоў на дзень паўз маё акно, злучае востраў са Стакгольмам, ён і прывозіць турыстаў. Іх у асноўным можна сустрэць у цэнтры, каля царквы, на “сувенірных” вулічках. Калі ж гуляць “куды ногі прывядуць”, а дакладней – вочы, можна зайсці ў такія бязлюдныя завулачкі, дзе і чалавека не сустрэнеш. Але пачуцця страху не ўзнікае, бо Вісбю вельмі пазітыўны горад. За ўвесь час, што я знаходзілася там, ні разу не чула крыку, сваркі, спрэчкі, не бачыла злых, незадаволеных твараў. Напэўна, не апошнюю ролю адыгрывае  тое, што там не гучыць расейскі мат, які ў нас не чуецца хіба што з дзіцячых калясак.

У Вісбю даўней было некалькі вялікіх цэркваў. Востраў быў багаты, тут жыло шмат купцоў, стаяла некалькі кляштараў. Але крызісы былі заўсёды і горад збяднеў, яго сталі пакідаць купцы і манахі. Утрымліваць усе цэрквы было дорага, яны пастунова разбураліся з-за недахопу якаснага догляду і гараджане прынялі

рашэнне сканцэнтравацца вакол адной царквы, якая лепей захавалася, а астатнія пакінуць на волю лёсу. Лёс пазбавіў іх у асноўным дахаў, а моцныя каменныя сцены вытрымалі. Вось і на галоўнай плошчы стаіць былая царква святой Кацярыны. Хоць даху і вокнаў у яе няма, язык не паварочваецца назваць гэта збудаванне руінамі. Будынак закансерваваны (як і ўсе астатнія), падтрымліваецца ў добрым стане і працэс разбурэння даўно і надзейна спынены. На дзень адчыняецца ўваход, турысты могуць заходзіць унутр, аглядаць, рабіць фотаздымкі. Гэтыя цэрквы ніколі не будуць адноўлены, але і ніколі не будуць знесены.

Шведы наогул нічога не разбураюць і не зносяць. Прынамсі на Готландзе. На высокай скале з выдатным відам на мора за гарадской сцяной захавалася са старых часоў нават шыбеніца. Я недарма адзначыла выдатны від, бо наведаўшы гэты помнік даўніны проста фізічна адчула жах і роспач тых, каго прыводзілі сюды для выканання прысуду – аура ў гэтага “помніка” яшчэ тая. А краявід бязлітасна падкрэсліваў прыгажосць свету, які няшчасныя павінны былі праз якія хвіліны пакінуць. А пэўна ж былі сярод іх і невінаватыя, несправядліва асуджаныя. Яны былі ва ўсе часы, як ёсць і цяпер. І вось дзіва, разбуральна папрацаваўшы над цудоўнымі цэрквамі, час злітаваўся з гэтых трох каменных слупоў, абнесеных нізенькай мураванай агароджай, прыбраўшы толькі драўляныя перакладзіны. Напэўна, яны павінны служыць напамінам і перасцеражэннем наступным пакаленням.

І добра служаць, бо смяротнае пакаранне ў Швецыі заканадаўча не існуе з 1921 года. А апошні швед пакараны смерцю яшчэ ў 1910 годзе. У 1920-м памёр дзяржаўны кат і лічыцца, што паколькі не знайшлося ахвотных заняць гэтую пасаду, праз год Швецыя адмяніла смяротнае пакаранне. Тут ёсць над чым задумацца – у краіне не знайшлося чалавека, які б пагадзіўся выконваць абавязкі ката! І напэўна ж аплата была не самай нізкай. Але нізкай была справа і таму шведы не спакусіліся. А ўлады пайшлі насустрач гэтым настроям і адмянілі само пакаранне. І напэўна, ніякіх рэферэндумаў не праводзілася і подпісы не збіраліся. Не ведаю, як гэта адмена паўплывала на стан злачыннасці ў краіне, але ведаю, што ў Вісбю адчуваеш сябе бяспечна ў любы час і ў любым месцы. Нават уявіць цяжка, што там можа быць нейкая злачыннасць. Звычка шведаў ні ўдзень ні ўначы не занавешваць сваіх вокнаў, сведчыць аб тым жа.

А вось „слуп ганьбы” на маленькай плошчы каля старой пажарнай каманды захаваўся, нягледзячы на сваю драўлянасць. Праўда, цяпер яго маскіруюць пасаджаныя навокал дрэвы, але інфармацыйная таблічка тлумачыць прызначэнне і гісторыю слупа. Дарэчы, каля шыбеніцы я такой таблічкі не бачыла. Там і так усё ясна.

Гуляць бязмэтна па вулічках Вісбю – цудоўны занятак. Ты нікуды не спяшаешся, цябе ніхто не чакае, ты нічога не павінен рабіць, апроч таго, што самому хочацца. Ці будзе яшчэ ў жыцці такі цудоўны вольны час? Хочацца неяк захаваць і забраць з сабой дадому гэтыя казачныя сярэднявечныя  домікі, гэтыя ружы, што абляпілі сцены, вырасшы з вузкай палоскі зямлі паміж домам і брукаванкай, і куст спелых малінаў над нізенькай агароджай, і шыпшыну каля царквы, абсыпаную спелымі ягадамі і яркімі кветкамі... Канец верасня, а тут усё квітнее. Праляцеўшы амаль тысячу кіламетраў на поўнач, я нібыта зноў трапіла ў лета. Готланд недарма лічыцца самым цёплым месцам у Швецыі – недзе паблізу цячэ Гальфстрым.

Але цеплыня тут не толькі прыродная – найперш яна пульсуе ў чалавечых стасунках. Тут могуць прывітацца з незнаёмцам проста выпадкова сустрэўшыся позіркам. Спачатку мяне гэта бянтэжыла, потым я прывыкла, а цяпер мне гэтага вельмі не хапае.

Няведанне моваў – сур’ёзны бар’ер для зносінаў паміж людзьмі. Але нельга сказаць, што ён непераадольны. Мае суседкі – тры фінкі і тры немкі – паміж

сабой размаўляюць па-ангельску. Немка Саскія ведае польскую мову, якую я разумею, а яна ў сваю чаргу збольшага разумее маю беларускую. Немка Юдзіт мае невялікі слоўны запас рускай мовы, прыкладна такі ж, як я нямецкай. А яшчэ ж ёсць перакладчык ГУГЛа, а на кніжных паліцах разнастайныя слоўнікі. Такім чынам мы ўсё ж знаходзім паразуменне.

І вось аднойчы ў аб'яве, прыціснутай магнітам да дзвярэй халадзільніка, сярод незразумелага англійскага тэксту я сустракаю назву вострава Фаро. Лічбы – аднолькавыя ва ўсіх мовах – падказваюць мне, што 20 верасня а дзесятай гадзіне раніцы туды мае адбыцца паездка. Пазней пры дапамозе ўсіх вышэйпералічаных сродкаў я высвятляю, што фінка Енні бярэ напракат машыну, бо іншым чынам на Фаро аніяк не дабярэшся, і ёсць яшчэ два вольныя месцы, якія з задавальненем "браніруем" мы з Юдзіт.

Востраў Фаро – блакітная мара маёй дачкі, бо тут жыў, памёр і пахаваны яе любімы рэжысёр Інгмар Бергман. Праводзячы мяне на самалёт, яна строга наказвала абавязкова пабываць на востраве і прывезці ёй адтуль каменьчык. Да парома едзем кіламетраў 50 на поўнач Готланда. Паром бясплатны як для аўто, так і для пешаходаў і плыве ўсяго 10 хвілінаў. Іншага шляху на Фаро няма. У перакладзе са шведскай мовы Фаро азначае "авечы востраў". Ён куды меншы за Готланд і жыве там усяго з паўтысячы чалавек. Там няма пошты, бальніцы, банка, крамаў, апроч адзінай прадуктовай. Ёсць нейкія кавярні, але адчыненай аказваецца толькі адна пад назвай "Альбатрос". Назва абяцае нешта адмыслова шведскае, з рыбы, але ў меню толькі бліны з грэчневай мукі пад назвай "Элвіс Прэслі" ды "Ліз Тэйлар", да таго ж яшчэ і падгарэлыя. Нясмачна, няўтульна – і гэта першае і, дзякуй Богу, адзінае расчараванне ад наведвання вострава. Няўтульна там, што кавярня ўся звонку задэкаравана металаломам. Стары іржавы аўтамабіль, кшталту таго, на якім ездзіў Элвіс, мноства іржавых халадзільнікаў, швейных машын і розных іншых металічных агрэгатаў гадоў 50-х мінулага стагоддзя. Неяк не стасуецца авечы востраў, "Альбатрос", грэчневыя бліны і Элвіс Прэслі. Чакалі мы іншага.

А востраў зачароўвае з першых хвілінаў. Усяго 50 кіламетраў на поўнач ад Вісбю, а ўжо адчуваецца суровая прырода, стрыманая флора, малаабжытасць. Відаць, гэты востраў Гальфстрым не абагравае. Хаця ў невялікім пасёлку ўтульна і прыгожа. Маляўнічыя домікі, кветкі, вялізныя аранжавыя гарбузы – нібы прывітанне з радзімы. Каля дарогі драўляныя столікі з лаўкамі – калі ласка, можна ладзіць пікнік. На кожным століку гаршчок з кактусамі. Бездакорная чысціня. Насупраць – могілкі, царква. На гэтых могілках пахаваны Інгмар Бергман. Яго магіла зусім сціплая. Замест помніка неапрацаваны камень, на якім выбіты імёны Бергмана і яго жонкі і даты іх нараджэння і смерці. Пару кусцікаў жывых кветак – і гэта ўсё. Тут не прынята класці на магілы вянкі і букеты. Няма і такіх папулярных у нас штучных кветак. Шведы, як мне падаецца, нават не ведаюць, што гэта такое. Калі ж хто хоча адзначыць сваё наведванне – калі ласка, у царкве ляжыць кніга, дзе можна запісаць свае думкі і ўражанні. Усе іншыя магілы такія ж сціплыя. Няма ніякіх насыпаў – роўны дзірван, невысокая пліта, кусцік жывых кветак каля яе. Што тычыцца агароджаў, столікаў, лавак, скульптураў, фотаздымкаў – нічога гэтага няма.

Сціпла выглядае і сядзіба Бергмана на беразе мора. Уласна, з-за агароджы ды сасновых галінаў яна ледзьве відаць, але тое, што бачна, не ўражвае раскошай. Тут Інгмар Бергман правёў апошнія 12 гадоў жыцця, пасля смерці жонкі. Яна памерла і была пахавана ў Стакгольме і толькі пасля смерці знакамітага мужа яе прах быў перавезены на Фаро, і цяпер яны назаўжды разам. Больш спакойнага месца ўявіць немагчыма і дзіву даешся, чаму ў нас так любяць прэстыжныя могілкі ды велічныя помнікі. Пасмяротны лёс чалавека ад гэтага ніяк не залежыць.

Востраў Фаро цудоўны не таму, што на ім жыў Інгмар Бергман. Я думаю, што наадварот – Бергман жыў на Фаро, таму што гэта цудоўны востраў. Яго краявіды можна ўбачыць у фільмах рэжысёра, знятых задоўга да таго, як ён там пасяліўся. Вярнуўшыся з падарожжа, мы ўключылі дыск з фільмам Бергмана “Жарсць” 1969 г. і пазнавалі ў ім тыя месцы, дзе нядаўна былі.

Фаро недарма называецца авечым востравам. Авечкі там паўсюль, а вось людзей мы за цэлы дзень убачылі не больш як пяць чалавек. Мала што са старых часоў змянілася ў вонкавым выглядзе вострава, за выключэннем чалавечага жытла. Агароджы складзеныя з плоскіх камянёў – без кроплі раствору. Такім жа чынам складзены сцены хлевушкоў пад стрэхамі з сухой травы – аналагамі нашых саламяных. Драўляныя агароджы таксама зроблены незвычайна – без цвікоў, дошкі і жэрдкі адмысловым спосабам звязаны паміж сабой. Старыя ветракі, якіх шмат на востраве, ды рыбацкія хаціны на беразе мора дапаўняюць карціну падарожжа ў часе.

Але ёсць на Фаро такія мясціны, дзе з’яўляецца адчуванне, што ты нейкім дзіўным чынам перамясціўся не ў мінулыя часы, але на іншую планету. І прычына таму – раукары. Да паездкі я нават слова такога не ведала. І нічога дзіўнага, бо раукары ёсць толькі на Фаро, Готландзе і яшчэ некалькіх астравах Балтыйскага мора. Раукары – гэта вапнавыя ўтварэнні ў выглядзе калонаў, што з’явіліся ў выніку эрозіі падчас ледніковага перыяду каля 400 мільёнаў гадоў таму. Яны ўражваюць сваёй велічынёй, веліччу і формамі, якія часам нагадваюць нейкіх фантастычных жывёлаў, або казачных волатаў. Азірнуўшыся вакол разумееш, што за гэтыя часы чалавек ніяк не ўмешваўся ў існаванне раукараў. Сёння яны выглядаюць так жа, як і мільёны гадоў таму. Нават аўтары неўміручага твора “Тут быў Вася” сюды не дабраліся. Раукарам, трэба сказаць, пашанцавала з месцам з’яўлення. Здарся калісьці тая эрозія на нашых землях, маглі б і не дастаяць некранутымі да XXI стагоддзя. Сумны лёс аўтавакзала “Маскоўскі” і першай мінскай электрастанцыі падказваюць менавіта такі варыянт. Шведы ж шануюць і зберагаюць усё, ну і маюць адпаведна гэтаму.

Паездка на Фаро натхніла нас на далейшае падарожжа, якое мы ўчынілі праз тыдзень. Цяпер ужо немка Анна ўзяла ў пракаце машыну і мы адправіліся знаёміцца з востравам Готланд, бо Вісбю – гэта толькі маленечкая яго частка. Канчатковай нашай мэтай было месца, дзе Андрэй Таркоўскі здымаў свой апошні фільм “Ахвярапрынашэнне”. Мабыць, на гэтых ціхіх і спакойных астравах з традыцыйным ладам жыцця здымкі фільмаў былі самымі цікавымі падзеямі цягам апошняй сотні гадоў, таму гэтыя месцы нават пазначаны на турыстычнай карце.

Але спачатку мы паехалі ў шведскі лес. Не, не так – спачатку мы паехалі ў готландскі лес. Я не была ў мацерыковай Швецыі, але чамусьці мне здаецца, што Готланд ад яе неяк павінен адрозніваца. Геаграфічная адасобленасць, гістарычныя ўмовы не могуць не паўплываць на лад жыцця, звычкі, архітэктуру, ды нават мову. Размаўляюць жа ў нас на Палессі на сваім адмысловым дыялекце, а гэты рэгіён зусім не на востраве знаходзіцца. Але разважаць пра мову не ў маёй кампетэнцыі, я вярнуся да лесу. Не скажу, што ён дагледжаны і прыбраны, о не, ён натуральны на 100 адсоткаў. Мноства паваленых і проста сухіх дрэваў утвараюць карціну такой запаведнай глушэчы, што нават трывожна робіцца – а ці выберамся мы адсюль? Але ж у гэтай натуральнай глушэчы відаць плён чалавечых рук. Нехта пастараўся зрабіць так, каб госці гэтага куточка вострава маглі лёгка ўзабрацца на скалу па зручнай металічнай лесвіцы з парэнчамі, каб яны агледзелі наваколле з высачэннай – метраў на 50 – вышкі, гэта ў каго хопіць духу туды ўскараскацца. У мяне не хапіла. У рэшце рэшт, каля маленькай стаянкі для аўтамабіляў ёсць не толькі столік і лаўкі для пікніка, але і прыбіральня з асобнай кабінай для калясачнікаў, з туалетнай паперай і – раз у лесе няма вадаправоду – з антыбактэрыяль-

най вадкасцю для рук. Прабачце за такія падрабязнасці, але я думаю, што чым менш мы будзем сарамліва маўчаць пра гэтыя бытавыя выгоды і рабіць выгляд, нібыта нам гэта не патрэбна, тым хутчэй яны стануць звыклымі і абавязковымі і ў нашай краіне. А то цяпер тое, што маюць шведы ў глухім лесе, нам у цэнтры сталіцы днём з агнём шукаць трэба. Калі раздумацца, увага да чалавечых патрэбаў, гэта павага да чалавека. І каб зразумець гэта, не абавязкова ехаць у шведскі лес. Дарэчы, амаль на кожным рагу вуліц у Вісбю стаіць указальнік – у якім баку бліжэйшы туалет і на гэтым указальніку абавязкова намалявана інвалідная каляска. Усе яны, дарэчы, бясплатныя.

Калі б мы ў гэты дзень пабывалі толькі ў лесе, паглядзелі на востраў са скалы, з вышкі, палазілі па пячорах, паспрабавалі безвынікова прачытаць нейкі надпіс на вялікім камяні, датаваны 1927 годам, ды проста – надыхаліся найсвяжэйшым паветрам – сасновы лес на востраве сярод Балтыйскага мора без прамысловых прадпрыемстваў, дзень можна было б лічыць удалым. Але ён толькі пачынаўся і на Готландзе яшчэ заставалася шмат куточкаў, не ахопленых нашай увагай. І мы выправіліся на бераг мора. З гэтага берага было ўжо блізка і да дому. Пра тое, што за морам радзіма, нагадваў стары дот, вузкая шчыліна-байніца якога глядзела ў бок былога СССР. Калісьці, у часы халоднай вайны, такія доты абляможвалі ўвесь усходні бераг. Шведы рыхтаваліся абараняцца. Увогуле Швецыя нейтральная краіна, якая прынцыпова не далучаецца ні да якіх ваенных блокаў і альянсаў ужо гадоў 200. Апошні раз шведы прымалі ўдзел у антынапалеонаўскай кааліцыі. З тых часоў – ні-ні. Нікому не пагражаюць, не дэманструюць сілу, ніхто іх не баіцца – і цудоўна сябе адчуваюць. Нешта мне падказвае, што такой рэчы як ваенныя парады, шведы таксама не паважаюць. Ну не могуць яны так марнаваць грошы, бо адкуль бы тады ўзяўся ў Швецыі самы высокі ў Еўропе і адзін з самых высокіх у свеце ўзровень жыцця. Дзяржава накіроўвае вялікія сумы на сацыяльную падтрымку сваіх грамадзян: на дапамогу па беспрацоўю, дапамогу на дзяцей, на ахову здароўя і адукацыю.

Нам пра гэта застаецца толькі марыць, ды вось бяда – беларусы і марыць пра такое жыццё не жадаюць. “Нам і гэтак добра”, – як кажуць старэйшыя вяскоўцы, і гэта, на жаль, стала ўжо амаль нацыянальнай ідэяй. Вось толькі тое “гэтак” выглядае ўсё бядней і бядней. Увогуле мы надзіва нецікаўная і недаверлівая нацыя. Такія высновы я раблю назіраючы за добра знаёмымі мне людзьмі, што ні ў якую не жадаюць хаця б адным вокам паглядзець на іншае жыццё. А яно сапраўды іншае, варта ад’ехаць некалькі соцен кіламетраў ад роднай сталіцы. “Ды што я там новага ўбачу”, “А мне нецікава”, “Усюды аднолькава”... Калі хто і выбіраецца ў замежжа, дык абавязкова на марскія пляжы, што таксама ёсць праява нашай нацыянальнай ляноты – перамясціцца са зручнай канапы на такі ж зручны шэзлонг. З усіх іншых формаў бытаўладкавання нам мілей за ўсё адна – “усё ўключана”.

Гаспадары рыбнага рэстарана, дзе мы вырашылі паабедаць, Элвісам Прэслі не захапляліся і абед быў па-сапраўднаму шведскі і па-сапраўднаму смачны. За шырокімі вокнамі пляскалася мора, у якім яшчэ ўчора, а можа і сёння раніцай наш абед плаваў. Было так добра і ўтульна, што мы налілі сабе яшчэ кавы і пасядзелі даўжэй. У шведскіх рэстаранах можна пасля абеду піць каву або гарбату колькі хочаш, нічога не даплачваючы.

А да старога маяка, каля якога Андрэй Таркоўскі здымаў “Ахвярапрынашэнне”, мы дабраліся, калі ўжо шарэла і нібыта адразу пагрузіліся ў атмасферу фільма. Хто яго ведае, прыедзь мы туды сонечным ліпеньскім ранкам, можа нічога такога не адчулі б, проста палюбаваліся яшчэ адным прыгожым краявідам. Але быў асенні вечар, з мора дзьмуў пранізлівы штармавы вецер, а на дарозе, па якой мы ішлі ад стаянкі да маяка, расселіся вялікія чорныя птушкі. Яны нібыта не хацелі прапус-

каць нас туды, дзе дагэтуль прабывае дух майстра, што здымаў тут свой апошні фільм і ведаў пра сваю смяротную хваробу. Гэта адчувалася амаль на фізічным узроўні. Цямнела і мы спяшаліся вярнуцца да машыны. На паўдарозе шлях нам зноў засланілі тыя ж чорныя птушкі. Цяпер яны ўжо не хацелі адпускаць нас. І ў гэты момант уключыўся маяк. Ён міргаў у імкліва цямнеючай прасторы, нібыта адмысловымі знакамі трансліраваў у свет пасланне – ад каго, каму – невядома. Але нейкім містычным чынам, нібы верш на музыку, клалася на гэтыя сігналы малітва галоўнага героя “Ахвярапрынашэння”, якой фільм заканчваецца:

«Усім, хто ў гэтае імгненне страчвае надзею на будучыню, на жыццё, на магчымасць трымацца Тваіх запаветаў, тым, хто ў роспачы і адчувае блізкі канец, баіцца не за сябе, але за блізкіх сваіх, тым, каго ніхто апроч Цябе не зможа абараніць, бо вайна апошняя, жахлівая, пасля яе не будзе ні пераможцаў, ні пераможаных, ні гарадоў, ні вёсак, ні травы, ні дрэваў, ні

вады ў калодзежах, ні птушак у небе, Божа, дапамажы нам..»

Напэўна кожная па-свойму, але нешта такое адчувалі і мае спадарожніцы, бо ўсе прыціхлі і задумаліся. А можа, проста стаміліся.

Потым мы выехалі за межы гэтай містычнай зоны, і ў святле фар вакол машыны заскакалі зайцы. Яны перабягалі шашу, кідаючыся пад самыя колы, так што прыходзілася рэзка тармазіць, беглі ўздоўж дарогі, амаль абганяючы машыну... Я ніколі не бачыла адразу столькі зайцаў. І ўсё было так падобна на сон.

А можа, гэта і быў сон?

Усё, што мае пачатак, мае і свой канец. Нават жыццё. Што ўжо казаць пра адпачынак, ён пралятае імгненна, і вось ужо трэба развітвацца з горадам, які за гэты час стаў нібыта і не чужым. Напярэдадні ад’езду я вырашыла абысці тыя месцы, што асабліва ўпадабала – без аніякага плану, куды ногі прывядуць. Ногі правялі мяне па ўсім старым горадзе. І я згадзілася са сваімі нагамі – выбраць сапраўды немагчыма, усе куточкі і вулічкі ў Вісбю цудоўныя і непаўторныя. Надвор’е было хмурае, з неба дзьмуў штармавы вецер. Ну што ж, – падумала я, – такое надвор’е робіць лягчэйшым развітанне. А потым успомніла, што надвор’е хутка выправіцца, а мяне тут ужо не будзе. І гэта было сапраўды сумна. Як і павінна быць пры развітанні.

Леанід Галубовіч



...адвячорак –
гэта яшчэ не вечар...

# “А восень яшчэ маладая...”

## *Рэцэнзія на кнігу Хрысціны Лялько*

***Хрысціна Лялько. Адвячорак. – Мінск: PRO CHRISTO, 2016. – 220.***

*Схіляюся над вершам*
*як над калыскай*
*і дзякую Богу*
*за цуд нараджэння.*
ксёндз Вацлаў БУРЫЛА

Перачытаў сваю рэцэнзію на папярэдні зборнік вершаў і перакладаў Хрысціны Лялько дзесяцігадовай даўнасці – і зразумеў, што сёння пра яе новую кніжку я ўжо так лёгка і асацыятыўна не напішу... Не той узрост, не тое вычуванне, не тыя эмоцыі... Адно спадзяванне на магчымую мудрасць (іранізую)...

Зрэшты, мне падсабляе тое, што ў выдадзеную да юбілею кніжку “Адвячорак” (2016) увайшлі і лепшыя творы з папярэдняй, “На далонях любові” (2006, абедзве ў выдавецтве “Про Хрысто”)... Як піша ў кароценькім уступе ці звароце да

чытачоў сама Х. Лялько: *"У гэтай кнізе няма датаў пад вершамі. Напісаныя ў сямнаццаць і ў трыццаць, у сорак гадоў і значна пазней, усе яны – споведзь маёй душы. А хіба ў душы ёсць узрост?"*




Хоць пры гэтым варта дадаць, што ў чалавечай душы ўсё ж назапашваецца вопыт пражытага – і важкасць надзённага плёну, і грахоўная тужлівасць сумлення, і бяссонная шчымлівасць сумненняў... Пры ўсім, паэт – натура адзінокая (ці самотна-зачыненая), а калі да ўсяго гэта яшчэ і жанчына, то лёгкага бязвоблачнага выраку чакаць дарма...

Аднак што да самога выдання. Кніжка выбранай паэзіі Х. Лялько выдадзена і аздоблена з густам (аддадзім належнае тэхнічнаму і мастацкаму рэдактару А. Глекаву). У ёй, нераўнуючы як у дагледжанай хаце, светла і прасторна. Відочна яе адмысловая архітэктурная пабудова і ўнутраны дызайн. Ёсць свае, умоўна кажучы, фасады, аркі, франтоны... На вокладцы і ва ўнутраным афармленні выкарыстаны акварэлі В. Гардзіёнак-Кірэевай. І ўсё гэта па-мастацку прыведзена да адзінай паэтычнай гармоніі.

Назва кніжкі, хоць і сутонная, але разняволена-ўтомная, як у вясковага чалавека пасля спрацаванага дня, калі можна абветрыць потны твар прыцененай свежасцю, расслаблена сеўшы на ганку вачмі да барвовага захаду сонца, прымружыцца і даць волю памяці і пачуццям...

*"Адвячорак – гэта яшчэ не вечар"*, – такім вершам адкрывае кнігу паэтка, як бы апраўдваючы і пашыраючы тлумачэнне яе назвы і папярэджваючы недаўменныя чытацкія пытанні наконт ранняга *захаду* жыцця... Але аўтар спакойна даводзіць метафарычнасць часу адносна ўласна дажытага:

Час затрымаўся ў маім садзе.
Заблытаўся ў старым пакурчаным голлі.
Зваліўся апошнімі яблыкамі
на скалелыя грудзі зямлі.
Залёг пад апалым лісцем,
чакае, пакуль прылятуць сюды
мітуслівыя сойкі і пачнуць дзяўбсці –
хвіліна за хвілінаю, яблык за яблыкам...

Яе час (у тым ліку і творчы) не сыходзіць, ён проста *"затрымаўся"*, і сойкам яшчэ досыць яблыкаў у яе жніўным садзе... Маё тлумачэнне, вядома, больш метафізічнае, чым філасофскае, як тое па-майстэрску выказана аўтарам.

І ўсё ж храналагічная неўпарадкаванасць вершаў у кніжцы трохі збівае рэцэнзента з пратаптанай сцежкі творчага шляху паэткі... Ці не таму, што жыццё так паэткай і задумвалася, менавіта такога яго хацелася і такім яно мроілася, аднак жа лёс выбудаваў яго па сваіх боскіх лекалах. І вось цяпер аўтар вяртаецца (хаця б у творчых выяўленнях) да свайго першаснага пожаду і помыслаў. І сапраўды, з якой чыстай і пранізлівай ноты гучала ўверцюра жыцця:

Так музыка народзіцца ў душы
і загучыць у словах і душы.
У думках пра цябе, ў маім маўчанні,
у дзіўных снах, што адлятуць уранні.
На промнях сонца запішу я ноты
сваёй высокай, светлай адзіноты.

Х. Лялько большую частку жыцця фізічна пражыла ў Мінску, але ўвесь свой душэўна-духоўны час адгавела на сваім хутары пры вёсцы Хадзюкі, што на Лідчыне... Там яе ўсё і там яна ўся... Як я пісаў ужо аднойчы: *“Прырода ўвогуле была ёй ад нараджэння своеасаблівай духоўнай брамай –* ***уваходам у Новы Запавет”***. Гэта больш, чым малая радзіма, прывязанасць і нават любоў, гэта – вызначанасць. Там – першыя крокі, гукі, словы, пяшчота, крыўда, парасткі веры і ўсходы любові... Там па сёння чакаюць яе хата, мама, цётка, верны сабака Мурза, каты, півоні, луг, бярозавы гай... Яны чакаюць, а яна ўжо не ўсіх іх застае па прыездзе... Першай сышла мама...

Без яе тут мінаюць зімы і вёсны –
цяпер мама ў вечнасці тчэ свае кросны.
Рыхтуючы мне там пасаг адмысловы –
малітваў сваіх залатую аснову.

Менавіта гэтая страта для любога чалавека найбольш істотная і балючая, гэта (мяркую па сабе) як асірачэнне ўласнай душы. Маці перадала ёй з крывёю долю сваёй жаночай існасці і выхавала ў ёй свядомасную чысціню чалавечых узаемаадносін. Было ў іх жыцці шмат цяжкасцяў, хваляванняў, горычы, але вера ў боскую справядлівасць і літасцівасць заўсёды пакідала надзею на заўтрашні дзень. Хто чытаў мастацкую прозу Х. Лялько, той ведае, якім высокім духам кармілася яе душа і яе літаратурны талент... Як піша Х. Лялько, для яе *“верш – гэта заўсёды маленькі цуд і свята нараджэння, незвычайная Божая ласка, а часам – усмешка Пана Бога, за якую я Яму асабліва ўдзячна і якою хачу падзяліцца”*. На першы погляд, няма адчаю і трагедыйнай інтанацыі ў радках, якія я працытую ніжэй, але ёсць пераасэнсаванне страты і зразуменне сутнасці чалавечага існавання пад Небам на зямлі:

Раней кожны пражыты дзень
набліжаў нашае расстанне.
Цяпер кожны пражыты дзень
набліжае нашу сустрэчу.

Па ўсім відаць, творчае натхненне часцей за ўсё прыходзіць да паэткі падчас яе паўнакроўнага збліжэння з тым родным, што прыняло яе з лона маці, азнаёміла са светам і вывела за межы свайго прыцягнення – за небасхіл бацькаўшчыны...

Паэзія Хрысціны Лялько – як вера і наканаванне (яе Бог жыве ў Белагрудзе, у касцёле, каля якога пахаванае цела яе маці). Туды – імкне і там – замірае ў мілаце і малітоўнай міласэрнасці яе душа...

Наведваючы крэўныя месцы, пераніцоўваюцца-перапісваюцца начыста даўнія чарнавікі памяці. Узнаўляюцца прызабытыя, паўстаюць абноўленыя ці адроджаныя мясціны, двары, вёскі, твары і вобразы людзей...

Паеду ў Ліду па вершы
і набяру іх цэлую кайстру...
..................................................
Стварыўшы ўсё з... нічога.

Вось верш, як кажуць, на пустым месцы, але апошні яго радок, ці не нагадвае вам, шаноўны чытач, не такую ўжо і аддаленую асацыяцыю з біблейскім стварэннем свету? На першы погляд, вельмі просценькая метафара, амаль празаізм, але *зазірнуўшы* ў падтэкст, мы сутыкаемся з глыбокім (глабальным) паэтычным светаадчуваннем аўтара. Гэта як у грыбах у лесе – адзін набярэ кош баравікоў, а другі – зеленаватай сыраежкай абыдзецца... Ужо няёмка нават спасылацца на зацяганае паўсюль класічнае ахматаўскае “смецце, з якога растуць вершы”... Але гэта сапраўды так. У таленавітых паэтаў. Бо, як піша яшчэ ў адным сваім вершы Хрысціна Лялько:

Час – лесаруб майстравіты:
абсякае галіны, агаляе ствол –
самую сутнасць –
пазбаўляе магчымасці “шумець”,
пакідае маўчанне.

І вось у гэтым “маўчанні” – усё “абсечанае”... Тое, з чаго складаецца чалавечы лёс і тое, праз **што** ён нам даецца Звыш. І хоць наша асабістае жыццё цяжка вызначальнае, але скіраванасць яго вызначае наша памкненне да высокага альбо да нізкага, да святога альбо да грэшнага. Праз усе вершы Х. Лялько, можна сказаць нават праз усю яе творчасць, праходзіць гэтая няўвідная, аднак адчувальная мяжа магчымасці і жадання, за якой дзеі дабра і любові акрэслены ад дзей злога і ненавіснага. На вельмі простых і ненадуманых сюжэтах і ўчынках паэтка паказвае нам складанасць таго ці іншага выбару – святла ці змроку. І безумоўна, у кніжцы шмат рэлігійных і біблейскіх пасылаў і ненавязлівых трактаванняў. Хрыстова вера неадступная за подумкамі і паэтычнымі азарэннямі Хрысціны. І гэтае паўсюднае адчуванне пабожнага духоўнага стану (нібы паху ладана ў людным святочным Храме) узвышае кожную думку, надае кожнай метафары аўтара магію палёту і таямнічасці. Узвышанасць і прыземленасць паэзіі залежыць ад таго, якімі словамі яна выяўлена – паднебнымі ці паднябеннымі (вымоўнымі ці невыказнымі, высокімі ці нізкімі)... Каб асягнуць высокія словы, трэба іх вымаліць – у прамым і ў пераносным сэнсе: у храме веры і ў сутарэннях цемры. Нярэдка такі творчы натхнёны стан прыводзіць паэтку да глыбокіх філасофскіх высноў:

Паўстане сад. І голле з небыцця
працягне ў анямелую самоту.
І ўладна лісце запытае: хто ты,
што так пакутна прагнеш забыцця?
..................................................
О, немата забітае глушы...
Якая сіла верне нас да веры,
каб уваскрос не толькі на паперы
радзінны сад знявечанай душы.

Паэт, як чалавек, – істота слабая, а чалавек, як паэт, – неадужны духам... І Хрысціна, пэўна, у жаночай немачы схільная да слёз на адзіноце, але ў свеце трымае вочы сухімі і бачыць, як праз туман, адзіную сваю праўду – прапушчаную праз веру, любоў і спагаду...

Мова вачэй даўно перайшла мяжу,
якую баяцца пераадолець словы. –
Невыказнасць пачуццяў.

Уражвае сваёй цнатлівай нерушнасцю і аголенай усхваляванасцю невялікі цыкл вершаў на тэму кахання, асабліва “Шапэн. Туга. І адзінота...”, “Прысвячэнне”, “Буду кахаць цябе моўчкі...”, “А скрыпка ведала пра ўсё...” ды некаторыя іншыя.

Так, у асноўным вершам Х. Лялько характэрныя няспешлівай разважлівасцю, мудрай стрыманасцю, класічнай выверанасцю стылю (няма *дагонкі* за моднымі плынямі ды рознымі авангарднымі -ізмамі, ні пустога дзявочага шчабятання, ні паказнога інтэлекту)... Яна ў сваёй немітуслівай, размеранай творчасці не падладжваецца пад чытацкія, надуманыя ілжэ-мастацкія кірункі ды адчувальныя літаратурныя павевы. У здаровай адпрыроднай натуры Х. Лялько адчуваецца духоўная выхаванасць і начытанасць ды ўнутраная грунтоўная праца над уласнай асобай... Эмоцыі і пачуцці прадукуюцца ў вершах у залежнасці ад іх быційнай (вонкавай) ці жыццёвай (унутранай) запатрабаванасці... Паэтка не хавае сваёй сутнасці, як іголку ў яйку, а вобразна акрэслівае яе ў прыцененай патаемнасці, са спадзевам на чытацкую разгадку...

А я не магу даймецца, чаму
так неадступна думаю:
па якім жэсце Цябе распазнаю
пры нашай чарговай сустрэчы?..
Можа, якраз па гэтым нечаканым пытанні
пра мае, яшчэ ненапісаныя вершы.

Так піша яна, гэтак думае і на тое спадзяецца (а мо прадчувае).

І кніга на тым (на вершах Х. Лялько) не заканчваецца. Яе працягвае прыцягальны далягляд перакладаў паэткі. Адразу скажу, што ўсе творы належаць выбітным польскім паэтам-ксяндзам (а цяпер ужо ў нейкай меры і перакладчыцы). Выбар, трэба сказаць, адмысловы. І хоць рэлігійна-хрысціянская тэматыка пераважае, у гэтых кароткіх вершах закранаецца вельмі тонкі і дакліўы зрэз чалавечых пачуццяў, духоўнага досведу і інтуітыўных прадчуванняў. Таемства веры і празарэнне розуму прыводзяць чалавека да гармоніі зямнога жыцця і паднебнага духаўратавання... Зрэшты, кажучы словамі вядомага паэта Яна Твардоўскага, “пішацца крыху не так як жывецца”... Найбольш уразілі мяне вершы ксяндза Вацлава Бурылы:

Пытаеш
якім будзе канец свету
проста ў чалавеку
згасне любоў

Мне падаецца, што ў дадзеным выпадку і паэт і перакладчык знайшліся адзін у адным і сталі тоеснымі ў сваім мастацкім выяўленні. Хрысціна Лялько ўмее быць сабой і быць у сабе, а яе талент дазваляе ёй не толькі адкрываць сябе для іншых, але і самой быць адкрытай для другіх. Напрошваецца на цытаванне яшчэ адзін верш В. Бурылы:

Зямля круціцца вакол сонца
толькі чалавек
увесь час круціцца
вакол сябе

Апроч упомненых аўтараў, у кніжцы нямала запамінальных вершаў Чэслава Мілаша, Караля Вайтылы (папы Яна Паўла II), Юліяна Тувіма, Эвы Скаржыньскай, Марэка Тытко, Лешака Мачульскага, Рамана Таболы, Уршулі Пенткі, ксяндзоў Яна Соханя, Ежы Шыміка, сястры Альмы Аліцыі Пахуты. Думаю, што нашаму чытачу варта пазнаёміцца з духоўнай паэзіяй нашых суседзяў і братоў па веры.

Агулам уражанне ад кніжкі, а можам казаць, і ад усяго творчага набытку паэткі Хрысціны Лялько вельмі станоўчае. Набытае жыццёвым і літаратурным вопытам майстэрства і ўзрошчаны карпатлівай духоўнай працай талент прынеслі заўважны і адмысловы плён. Краем вуха начуты, што восенню мае выйсці такая ж кніжка яе выбранай прозы. Што ж, тады з’явіцца нагода паразважаць і пра цэльны ўнёсак выдатнай пісьменніцы, паэткі і перакладчыцы ў скарбонку нашай сучаснай нацыянальнай літаратуры. А пакуль хацелася б закончыць свой водгук на кніжку “Адвячорак” Хрысціны Лялько радкамі заключнага верша гэтага выдання “Малітва аб апошняй гадзіне” (напісанага паводле С. Аверынцава):

Калі ўсё праміне, што мне снілася,
хвалявала, жыло, не давала спакою,
калі сорам нябыту аголіцца, –
пустэчу маю запоўні Сабою.

Самакрытычна? Нават занадта. Але ж, ведаючы абгаворанае тут, па чалавечы годна.



# Перадусім Беларсь

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***



**Рыгор Барадулін. Дзённікі і запісы Выпуск 3. 1979_1982. Укл., прадм., Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн.3). – 340 с.**

У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны: Людзі Беларусі” пабачыў свет трэці выпуск дзённікаў і запісаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Нататкі, якія склалі кнігу, былі створаныя ў 1979-1982 гадах.

Трэці выпуск паказвае Рыгора Барадуліна ў вельмі напружаны для яго час, калі ён шмат працаваў над вершамі, артыкуламі, перакладамі, рэдагаваў і рэцэнзаваў новыя кнігі ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, вёў перапіску з аўтарамі з усяго свету, быў пастаянным чальцом пісьменніцкіх дэлегацыяў, вядоўцам і ўдзельнікам сотняў літаратурных вечарынаў, канферэнцый і з’ездаў. За гэтыя чатыры гады Рыгор Іванавіч не толькі шмат падарожнічаў па Беларусі, але і наведаў амаль усе рэспублікі Савецкага Саюза, пабываў у працяглых паездках на Кубу, у Балгарыю, Італію, Чэхаславакію, двойчы пабываў на Далёкім Усходзе. Акрамя падарожных уражанняў, а таксама працоўных і побытавых зацемак, кнігу дапаўняюць эпіграмы і вершы, якія нідзе раней не друкаваліся.

Істотным дадаткам да тома з’яўляюцца рэдкія фотаматэрыялы з архіву сям’і паэта: здымкі, малюнкі, копіі рукапісаў.




**Мікола Гіль. Неадступнасць: зімовыя васьмірадкоўі. — Мінск: Кнігазбор, 2016. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 86). — 120 с.**

У кнігу вядомага беларускага празаіка Міколы Гіля ўвайшлі... вершы, напісаныя ў апошнія гады (яны вядомыя чытачам «Дзеяслова») і ў далёкія — 70-я мінулага стагоддзя. Лірычныя і філасофскія радкі — развагі пра сучаснасць і сучаснікаў з вышыні пражытых гадоў. Як адзначыла ў рэцэнзіі на кнігу Марына Весялуха: «*вершы Міколы Гіля — цалкам традыцыйныя для беларускай паэзіі. Строгі памер, рыфма. І так — страфа за страфой, верш за вершам. Сумна? Не. Пэўная аднастайнасць, але — зусім не хіба кнігі. Гэта пазнака таго, што аўтар умее сказаць сваё слова, выказваючы павагу да творцаў-папярэднікаў, ён здольны выказаць уласную думку і не пакрыўдзіць тых, хто побач*».

**Алесь Разанаў. Галасы тое, што ёсць, шукаюць. Пункціры / Rasanau Ales. Die Stimmen suchen, was ist. Punktirungen. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 504 с.**




У выдавецтве "Логвінаў" выйшла кніга-білінгва пункціраў Алеся Разанава "Галасы тое, што ёсць, шукаюць". У выданне ўвайшло каля тысячы (!) тэкстаў гэтага эксперыментальнага жанру, напісаных у прамежку 1966-2014 гг. па-беларуску, у перакладах на нямецкую мову, а таксама пункціры, напісаныя Алесем Сцяпанавічам ад пачатку па-нямецку.

*Пункціры – акупункціры: у звычайным яны распазнаюць істотнае і, сабраныя разам, уяўляюць мазаіку эпасу.*

**Эва Суса. Снежны чалавек у Мінску. Пер. са швед. Дзмітрыя Плакса. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 13). – 36 с.**




Беларускія дзеткі і іх бацькі ўжо знаёмыя са Снежным чалавекам, а гэтым разам ён завітаў у Мінск! Гэтая кніга ўнікальная, бо найперш пабачыла свет менавіта ў беларускім перакладзе ў серыі для дзяцей "Каляровы ровар" Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. У кнізе вядомай шведскай пісьменніцы казачны свет перакрыжоўваецца з паўсядзённасцю, і нават ля плошчы Перамогі, у цэнтры беларускай сталіцы, можна сустрэць сапраўднага Снежнага чалавека!

Ранейшае беларускае выданне Эвы Сусы было аформлена французскім мастаком Бенжамэнам Шо. На мастацкае аздабленне новай казкі быў абвешчаны конкурс, на які прыйшлі заяўкі ад маладых мастакоў як з Беларусі, так і з-за яе межаў. У выніку кампетэнтным журы была абраная Кацярына Дубовік — беларуская мастачка, якая жыве ў Амстэрдаме.

**Перадусім Беларусь. Згадваючы Бураўкіна: гутаркі, успаміны, эсэ, дзённікі, прысвячэнні / укладанне Сяргея Шапрана. — Смаленск: Інбелкульт, 2016. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 83). – 560 с.**




Гутаркі, успаміны, эсэ, дзённікі, прысвячэнні. Укладальнікам выступіў Сяргей Шапран, зборнік выйшаў у Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Шчырая ўдзячнасць за неацэнную дапамогу ў падрыхтоўцы выдання Юліі Якаўлеўне Бураўкінай, удаве паэта.

На вокладцы кнігі змешчаны зварот Генадзя Мікалаевіча: «*Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: беражы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і не дарабілі яе сыны лепшыя. І спадзявацца, што ўсе мы – і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, – усе мы вечныя. Вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове*».

# ЗМЕСТ часопіса “Дзеяслоў” №1-6 (80-85) за 2016 год

***Эпісталярый***



***Дзённікі. Запісы. Згадкі***



***Эсэ***



***Жыццяпіс***



***Дослед. Кантэкст. Прачытанне***



***Словы***



***Мастацтва***



***Практыкум***



***Гісторыя***



***Кнігапіс. Крытыка***

# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Бароўскі Анатоль** – празаік. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя М. Жызнеўскага (2015). Аўтар кніг «Надзейная змена», «Трасніца», «Мікалай Пушкар», «Каліна пад акном», «Воляй абраны» і інш. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі на Мазыршчыне. Жыве ў Гомелі.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст, журналіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісіцка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці», кніг перакладаў С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хэмінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** — паэтка, празаік, перакладчыца, драматург. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2010), прэміі імя Янкі Маўра (2013). Аўтарка кніг «Рэканструкцыя неба», «Няголены ранак», «Метад муараваых крэсак», «Прысак і пожня», «Сумны суп» і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Васіль** – драматург, актор, эсэіст. Творы друкаваліся ў газеце «Літаратурная Беларусь», часопісах «Дзеяслоў», «Тэксты», «Верасень». На сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра імя М. Горкага ідзе спектакль, пастаўлены па яго п'есе «Пясняр», прысвечаны Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дэбіш Васіль** — паэт. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі», «Лісты да Марыі», «Праз дождж». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна на Гарадзеншчыне. Жыве ў Берасці.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Крылатыя сябры», «Мелодыя сьвятла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Заслонаў Раман** – мастак. Удзельнічае ў мастацкіх выставах з 1980 года. Працуе ў станковым жывапісу ў жанрах гістарычнай карціны, пейзажа, партрэта. Працы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Траццякоўскай галерэі ў Маскве, фондах Міністэрства культуры Расіі, у шматлікіх прыватных калекцыях розных краін. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Францыі.

**Зэкаў Анатоль** – паэт, празаік. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі (2009). Аўтар кніг вершаў «Боль сумлення», «Аварыя сумлення», «Зона кахання», «Лісты да цыбе», «Чарнобыльскі вецер», «Промнік позірку твайго», прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул», «Генеральскі нумар», сатыры і гумару «Дуэль», «Па самую плешку» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Патапаўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Казакоў Валерый** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі «Философия звука», публіцыстыкі «Разбитое зеркало Карабаха», «Саморазрушение», прозы «Асфальт и тени», «Записки колониального чиновника», «Халоп яснавяльможнага дэмакрата», «Цень Гобліна», «Абібокі» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе на станцыі Рэста на Магілёўшчыне. Жыве ў Маскве.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічыах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кандратаў Мікола** – паэт. Аўтар кніг вершаў «Возера Рудакова», «Вершы і зоркі», «Кроплі дажджу». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Козел Андрэй** – паэт. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Творы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», газеце «ЛіМ», пераклады ў газеце «Рэспубліка». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў пасёлку Новагарадзейскі на Нясвіжчыне. Жыве ў Нясвіжы.

**Лойка (Галубовіч) Вера** – празаік. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум. Працавала на «Беларусьфільме», Беларускім радыё. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіку «ЛіМ» і ў часопісе «Наша вера». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Батурынка Смалявіцкага раёна. Жыве ў Мінску.

**Рудовіч Станіслаў** – гісторык. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Аўтар манаграфіі «Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г.» (2001), адзін з аўтараў і рэдактараў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» ў 6 т. (1993-2003), «Гісторыі Беларусі» ў 6 т. (2000-2011), іншых калектыўных выданняў. Аўтар больш чым 100 артыкулаў. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Волма Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці.

**Слінка Віктар** — паэт. Лаўрэат прэміі «Гліняны вялес» (2001). Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Тамковіч Аляксандр** – публіцыст. Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча. Аўтар кніг «Судьбы», «Женщины», «Асобы», «Будзіцелі», «Лёсы», «Без палітыкі», «Супраць плыні» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Ашмянах. Жыве ў Мінску.

**Філатаў Леанід** – паэт, актор, публіцыст. Народны артыст Расіі. Аўтар кніг «Про Федота-стрельца, удалого молодца», «Сукины дети», «У-Фактория», «Нет худа без добра», «Прямая речь» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Казані. Памёр у 2003 годзе.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Чайкоўская Вольга** – паэтка. Аўтарка кнігі вершаў «ЛУПЫ», «Эратычны алфавіт». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат прэміі імя Е. Гедройца (2016). Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Ранні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы», «Завяршыць гештальт» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.